# ЯКУБ КОЛАС

## ЗБОР ТВОРАЎ

### У СЯМІ ТАМАХ



*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

# ЯКУБ КОЛАС

## ЗБОР ТВОРАЎ

## Том 5

### У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ
### У ГЛЫБІ ПАЛЕССЯ
### НА РОСТАНЯХ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

# I

— А, гэта ты, бабка! Ну, прысядзь, пагаворым трохі!

— Я пастаю, панічок... У вас так ціха, я думала, што вы ўжо спіцё, а вы ўсё з гэтай кніжкай, — сказала, прысаджваючыся, бабка. — Прабачайце, панічок: я прышла запытацца ў вас, — ці баліць яшчэ ў вас галава, ці перастала?

— Перастала, бабка, перастала! — сказаў малады настаўнік, звярнуўшы ўвагу на сваю галаву і як-бы прыслухаўшыся да яе. — Забыўся нават, што яна і балела!

— Ну, панічок мой родны, як сабе хочаце: хочаце верце, хочаце не верце, а я вам, яй-богу, шаптала!

— Ты і мне шаптала? — здзівіўся настаўнік, — калі-ж гэта ты ўмудрылася пашаптаць? Я нават і не прымеціў.

— Вот вы тут сядзелі, чыталі, а я з кухні праз дзверы шаптала... Не гневайцеся: яй-богу шаптала!

Высокая, сухарлявая кабеціна чарнявага воласу — яна была тут старожкаю — прышла ў незвычайны рух, вочы яе ажывіліся, а на твары адзначылася нутраное перакананне ў сіле сваёй здольнасці.

— Напэўна гэта ты мне памагла, бабка, — сказаў настаўнік, усміхнуўшыся.

— Ой, панічыку, вы ўсё смяецеся, не даеце веры. Не верыце ніяк мне, старой!

— О, не, бабка: веру, веру! Аб тваім знахарстве ўсюды кажуць: у Хатынічах, у Малкавічах, у Ганцэвічах, — усюды!

— Г-э-э-э, панічок: з-пад самага Пінску прыходзяць і прыязджаюць да старое Мар'і, — з гордасцю прамовіла бабка.

— І як гэта ты, бабка, шаптаць навучылася?

— Навучылася, панічыку, навучылася!

— А хто цябе навучыў?

— Ой, панічок, вы ўсё хочаце ведаць!

— А што-ж, бабка: навучыўся-б, і да мяне хадзілі-б людзі, і я памагаў-бы ім.

— Не можна гэта, панічыку!

— Чаму не можна? Хіба грэх?

— Не можна!

— Мусіць, бабка, ты з нячыстай сілай знаешся?

— Бог з вамі, панічок! Што вы сказалі процiў ночы?! Няхай бог крые! І не ўспамінайце вы яе!.. Ва імя айца і сына і святога духа!

Старая паляшучка, знахарка Мар'я, набожна перахрысцілася, падняўшы вочы на абраз.

— А што-ж яна мне зробіць, гэта нячыстая сіла? Я не баюся яе, бо яе, бабка, наогул няма.

— Гэ, панічыку, вы яшчэ маладзенькі, мала на свеце жылі.

— Ну, а вось ты, бабка, дзякаваць богу, трошкі пажыла-такі, а скажы-ж ты мне, ці бачыла ты хоць раз нячыстую сілу?

— Не кожнага, панічок, яна налучае, — ухілілася старая ад простага адказу.

— А я табе, бабка, скажу, каго яна налучае. Наколькі я ведаю, яна найбольш прывязваецца да п'яных цёмных людзей і то ўночы.

Старожка з гэтым не згадзілася і паківала галавой. А настаўнік, яшчэ зусім малады хлопец, які нядаўна прыехаў у першую сваю школку ў глухой палескай вёсцы, чуць-чуць усміхнуўся сам сабе, пэўны ў тым, што старая няіменна раскажа пра здарэнне з нячыстай сілай. Яму вельмі падабалася такая гутарка з гэтымі простымі людзьмі, якія яшчэ так мала адышліся ад часоў першапачатковай людской культуры.

— Я вам, панічок, не буду многа казаць, бо вы ўсёроўна не верыце, хоць можа і верыце часам, але кажаце, што не верыце. Але калі не верыце мне, то паслухайце, няхай вам раскажа мой Міхалка. Вы-ж ведаеце майго Міхалку? А калі яму не паверыце, то спытайце людзей. Міхалка тады дзецюком яшчэ быў. Ішоў ён з Сяльца. І ноч была не цёмная. Ведаеце, можа, Сяльцо, недалёка ад нашай вёскі, вярста — не болей? Гэта — выселкі з нашае-ж вёскі, двароў дзесяць. Ён і жонку ўзяў адтуль. Дык вось, панічыку, быў ён там — на вячоркі туды хадзіў, покі не жаніўся. На поўдарозе між Сяльцом і вёскай старая карчма стаіць, якраз напроціў могілак. Там невялічкае балотца ёсць, і рэчачка адтуль зачынаецца, малюсенечкая, і злучаецца з другой рэчкай, што ў нас Целяшовым Дубам завецца. І вось, як толькі мінуў ён карчму, дык на яго штось і накінулася — і не звер, і не чалавек. Так проста і налятае на яго. Хоча злавіць яго — не зловіць: нешта голае і слізкае, ні шэрсці, ні адзежы. Адкіне яго рукою, а яно зноў, а яно зноў. І вось, не паверыце, панічыку, парваў на ім новую світку да самага каўняра. Змогся бедны хлопец і ў непрытомнасці ў хату ўвайшоў. Скажаце, п'яны быў, дык зроду-ж не п'е Міхалка, у рот гарэлкі не бярэ. І праляжаў ён пасля гэтага ў гарачцы тры месяцы, насілу на ногі падняўся.

Лабановіч — так называўся малады настаўнік — слухаў гэта апавяданне з вялікай цікавасцю. Спярша яму было крыху смешна, але па меры таго, як сама сказанніца ўсё больш і больш захоплівалася таемнасцю гэтага здарэння, другая думка зацікавіла маладога хлопца, іменна — непасрэдная і цвёрдая вера людзей у праўду ўсяго гэтага цёмнага спляцення, у аснове якога ляжыць нядобрая сіла. Мільёны і болей гадоў жыва гэта вера, пачаткі якой загублены ў цёмным віры прошласці, і да гэтага часу людскі розум не патрапіў вызваліцца з аблады гэтага чмучэння... «Цікава!.. Трэба будзе калі падумаць над гэтым», — зазначыў сам сабе настаўнік. Але, як бачна, была ў яго яшчэ і другая думка, і ён, нечакана для сябе самога, спытаўся:

— Бабка! а твой Міхалка мог-бы і памерці з гэтага?

— Гэ, панічыку мілы! чуць-чуць не памёр! Насілу, насілу адхаялі!

— І падумаць толькі: з якога глупства можа памерці чалавек! — прамовіў малады настаўнік, скарэй да сябе самога, і задумаўся. Галава яго крыху схілілася наўскось, цёмныя вочы, у якіх часта адбівалася нейкая затоеная думка, пазіралі, не міргаючы, у кут пакоіка, але нічога не бачылі: яны як-бы пазіралі на тую думку, якая цяпер заварушылася ў яго розуме. Старая бабка звярнула на гэта ўвагу і з нейкім страхам і цікавасцю пазірала на свайго «паніча».

— А што вы, панічыку, так задумаліся?

Лабановіч ускінуў на яе вочы і засмяяўся.

— А ведаеш, бабка, хочаш, я скажу табе, што ты цяпер думаеш?

Бабка здзівілася яшчэ болей, а настаўнік, не чакаючы яе адказу, прамовіў:

— Ты, бабка, пазірала на мяне і думала: «Калі гэты паніч яшчэ не з'ехаў з глузду, то з'едзе».

Старожка пазірала яму ў вочы, моцна здзіўленая, а Лабановіч, прыдаўшы важны выраз твару, сказаў:

— Ты, бабка, не думай таго: не адна ты знахарка. Я, можа, яшчэ выдатнейшы знахар за цябе.

— А што-ж, панічыку, усё можа быць,—як-бы з нейкай пакрыўджанасцю адказала бабка.

— Ты плюнь, бабка, на гэта, бо ўсё гэта — глупства, а лепш вось што: скажы ты мне, бабка, чаго мы на свеце жывем?

Бабка не ведала, які тон ёй узяць, каб патрапіць у тахту, і сказала:

— Го, панічок: што вы так усё пытаецеся?.. Гляджу я на вас і дзіўлюся: сядзіць сабе, як той манашак, і ўсё ў гэтыя кніжкі пазірае. Паглядзелі-б трохі і годзе. А то калі ні прыдзеш, вы ўсё ў кнігі глядзіце. Хіба можна так пільна і доўга пазіраць у іх? — І, памаўчаўшы, дадала: — Сушаць яны і болей нічога.

— Дык ты, бабка, не ведаеш, чаго мы на свеце жывем?

— Не, панічок: не ведаю! Каб вы запыталіся ў дрэва, чаму яно расце, дык хіба-ж бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць вам. Жывем, покі жывецца, бо жывым у зямлю не палезеш, а прыдзе смерць, тады пахаваюць.

— Так, бабка: ты кажаш праўду. Не ведаем мы, чаго на свеце жывем.

— А навошта, панічыку, і ведаць? Жыве чалавек і жыве, пакуль бог яму прызначае. А прыдзе час яму памерці — памрэ.

— А дрэнна, бабка, што трэба ўміраць!

— Што вы, панічыку, усё пра смерць гаворыце. Дзіўны вы, панічок, яй-богу! Вось той паніч, што быў перад вамі, бывала пойдзе куды: ці да пана падлоўчага, або да Курыльчука на будку. Там паненка была, ой, прыгожая паненка! Яе цяпер дома няма, а вось прыедзе, дык пабачыце самі!

— А хіба-ж тут паненкі ёсць? — зацікавіўся Лабановіч.

— О, панічыку, чаму-ж няма!

Бабка пачала пералічаць і расхвальваць паненак. Перш-на-перш у валаснога пісара іх цэлых чатыры. Праўда, воласць адгэтуль за пятнаццаць вёрст. Але ёсць паненкі і бліжэй: за сем вёрст дачка каморніка. Усе панічы ў гэтай акрузе закаханы ў яе. Ёсць яшчэ паненка на хутары за тры вярсты.

— Навошта вам лепей, панічок: у пана падлоўчага дочкі ёсць. Адна яшчэ зусім маладзенькая, а другая старшая. Яна ўжо пыталася: «Ну, як твой, бабка, паніч?»

— А ты што ёй сказала?

— Ой, кажу, паніч! харошы паніч!

— А хіба-ж я харошы?

— Чаму-ж не харошы!

— Ну, а хто з паненак самая лепшая?

— Усе харошыя. Як для мяне, дык усе харошыя.

— Ці не думаеш, бабка, ты жаніць мяне?

— Самі, панічок, жэніцеся... А да пана падлоўчага вам трэба зайсці. Бывала, той паніч як вечар — дык там. А вы ўсё сядзіце над гэтымі кнігамі. А яны сушаць чалавека.

— А ты, бабка, пашапчы мне, каб я ад іх адвярнуўся.

Старая колькі хвілін пазірала на настаўніка, а потым засмяялася доўгім-доўгім смехам.

— От, паніч: вы ўсё шуткуеце!

Бабка ўстала, пазяхнула і зірнула ў акно. А там ляжала цёмная-цёмная лістападаўская ноч.

— Толькі ў пана падлоўчага яшчэ вокны свецяцца, — зазначыла бабка.

— Пасядзі яшчэ трохі.

— Не, паночак, позна.

І бабка паволі павярнулася ў сваю кухню на печ.

## II

Старожка ўжо злёгку пахрапвала ў кухні на печы, а Лабановіч усё яшчэ не лажыўся. На стале гарэла лямпа пад светлым абажурам і ляжала разгорнутая кніга, якую чытаў Лабановіч. На гэты раз чытанне штось не ладзілася, і Лабановіч часта адрываўся ад кнігі, пахаджваў па пакоі і думаў. Новае месца, новыя людзі і тая работа ў школе, якую трэба было распачынаць на гэтых днях і да якой ён так доўга падгатоўваўся, — усё гэта займала яго думкі, і яму было лёгка і добра, бо так многа новага і цікавага спадзяваўся ён спаткаць на першай сваёй дарозе незалежнай грамадзянскай працы.

Яму па душы быў і гэты глухі куток Палесся, аб якім яшчэ дома так многа цікавага наслухаўся ад аднаго старога аб'ездчыка, і гэты народ з яго асобнай моваю і звычаямі, так непадобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх вышаў Лабановіч; гэты непачаты край старажытнасці, якая на кожным кроку кідалася яму ў вочы і затрымлівала на сабе яго ўвагу, і гэты выгляд самой мясцовасці, агульнага тону якой не мог яшчэ ўлавіць Лабановіч, але ў якой таксама было многа цікавага і, на яго погляд, павабнага.

Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго адносін да другіх людзей бясконца размаіты, аканчальна не выяўлены і ніколі не могуць стаць аканчальнымі. А прырода! Колькі вялікага здавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачыма кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе многалучныя напісы — хіба-ж гэта не ёсць шчасце?

Адно толькі шкада, што наша жыццё несузмерна малое для таго, каб начытацца гэтай кнігай. З такімі думкамі Лабановіч прыпыніўся каля акна. З двара пазірала цёмная, чорная ноч. Неба, абложанае нізкімі хмарамі, здавалася, цяжэй навісала над аголенай зямлёй. Непраглядны мрок і сыры туман спляліся густа-густа і як-бы глынулі гэту закінутую між балот і лесу невялічкую вёску.

— Якая цемень! — жахнуўся малады настаўнік. Яму было прыемна пачуваць, што ён цяпер у гэтым цёплым і прытульным пакоіку, дзе прыветна і так многазначна гарыць лямпа пад белым абажурам, дзе ўсё так ціха і спакойна і ніштo не перабівае яго думак. І тут-жа паспагадаў ён і тым падарожным, якім так ці іначай прыходзіцца ехаць або ісці ў гэты глухі час ночы па цёмных і гразкіх дарогах, праз брады і грэблі сярод лясоў і балот. Лабановіч зноў падышоў да стала і ўзяўся за кнігу. Але думкі яго так разышліся, што ён мусіў закрыць кнігу ды зноў стаў хадзіць па пакоіку і думаць.

Заўтра трэба будзе заказаць старасце фурманку і паехаць да воласці забраць школьныя прыналежнасці; трэба пазнаёміцца там з настаўнікам і параіцца з ім наконт розных пытанняў, звязаных са школай; трэба таксама зайсці і да бацюшкі і запрасіць яго прыехаць сюды адслужыць малебен перад адчыненнем заняткаў у школцы. Так, гэта трэба зрабіць, бо ўжо даўно час брацца за навучанне дзяцей. Праўда, яго назначылі сюды позна. Але адкладаць работу няма сэнсу, бо не здолее выпаўніць праграмы.

Гадзіннік на сцяне рабіў сваю работу. Аднатонна і размерна гойдаўся маятнік у сваёй шклянай каморцы, як-бы вельмі здаволены сваёй працай, што і пацвярджаў кароткім «так-так!», «так-так!». Перад тым, як адбіць гадзіны, гадзіннік колькі хвілін трашчаў, скрыпеў, як калодзежны журавель на марозе, і пасля такой прадмовы званіў прыемным металічным звонам.

— А ўжо і позна, — зазначыў сабе Лабановіч. Гадзіннік прабіў поўнач. Настаўнік перанёс лямпу ў другі, яшчэ меншы, пакоік, дзе стаяў яго просценькі дзерваны ложак, палажыўся ў пасцелю і, лежачы, чытаў:

«Зорныя светы і іх насельнікі». Шырокі малюнак

недасяжных светаў раскрываўся перад вачыма маладога настаўніка ва ўсёй сваёй таемнасці і бязмежнасці. І подлуг таго, як мысль усё больш захоплівалася гэтым чароўным малюнкам і гэтымі незлічонымі светамі, раскіданымі сярод бяздонных багнаў, такіх страшных, такіх павабных, — зямля і чалавек, пагардлівы гаспадар яе, рабіліся ўсё меней і меней значнымі, нікчэмнымі. Гэта бязмежнасць зацірала зямлю, і яна гублялася ў ёй, як малюсенечкая пылінка. А якім малазначным, незаметным з'яўляўся чалавек, яго клопат, яго штодзённыя драбніцы жыцця! Новыя думкі і настроі ахінулі маладога настаўніка. Але гэтыя думкі ўмомант разляцеліся, як вераб'і, калі ў іх вясёлы гурток паляціць каменьчык, кінуты рукою якога-небудзь падшывальца-жэўжыка; страшны і непрыемны вобраз смерці бліснуў сярод гэтых думак маладога настаўніка і разагнаў іх. На адзін момант жыццё ў ім як-бы спынілася. Па яго целе прабегла дрыготка, бо гэты вобраз смерці вынік зусім неспадзявана.

— Я памру! — падумаў малады настаўнік: — будзе такі час, калі я стану нежывым трупам!

На кароткі міг ён як-бы адлучыўся ад сябе самога і зірнуў на сябе збоку, як староннi, другі чалавек, і жыва ўявіў сабе той момант, калі ён будзе нерухомым трупам.

— Фу! як гэта прыкра і непрыемна! — падумаў Лабановіч. — А горай за ўсё гэта тое, што перад смерцю мы бяспомачны і слабы і не маем спосабу адхіліць яе ад сябе або хоць аддаліць час яе прыходу. Ад яе не адмолішся, ад яе не адкупішся нічым. Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што я памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцця, падлягаю смерці, бо ўсё на свеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцця, ужо мае ў сабе адзнакі і пячаць смерці. І людзі звыкліся з гэтым, і нікому нават і ў галаву не прыходзіць выказаць свой пратэст праціў смерці і весці з ёю змаганне, як-бы ўжо даўно-даўно ўмовіліся прызнаць над сабою яе ўладу, лічыць гэту ўладу справядліваю і законнаю. А яна, гэта смерць, кожны дзень ходзіць вакол, кожны час, кожную хвіліну нішчыць і маладзенькія і старыя формы жыцця. І мы не звярачаем на гэта ўвагі, і толькі тады яна робіць моцнае ўражанне, калі ўмірае хто блізкі або калі navaліцца мор і людзі пачынаюць уміраць агулам. Тады чала-

века ахоплівае жах, і ён губляе галаву. І вось што цікава. Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызціся за гэта і кусацца зубамі; там-жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе пад абух.

— Цьфу! якая гэта агіднасць! — думаў далей малады настаўнік: — жывеш, строіш планы, чагось шукаеш, чагось дабіваешся, спадзяешся, а прыдзе час — і ты будзеш труп, гніль, спажытак чарвей.

Гэтыя думкі парушалі спакой Лабановіча і пакінулі пачуванне нейкага нездаволення і непрыемнасці.

Ён звярцеў папяросу, стараючыся не думаць зусім аб смерці, закурыў, каб перабіць прыкрыя думкі. Гэта яму крыху і ўдалося, бо Лабановіч быў хлопец крэпкі, быў моцна зросшыся з зямлёю і жыццём, любіў гэта жыццё, на парозе якога ён стаяў і росквіт якога для яго толькі што зачынаўся.

— Чаму я стаў думаць пра смерць? Скуль узялася гэта думка? — запытаў сябе Лабановіч і пачаў дашуквацца той сувязі, якая павінна быць паміж думкаю аб смерці і тымі думкамі, якія так ці іначай былі прычынаю пазнейшай думкі. Прыпомніўшы ўвесь ход сваіх мысляў, настаўнік ніяк не мог знайсці гэтай сувязі, і гэта акалічнасць яго крыху здзівіла і зацікавіла.

— Я чагось не ўзяў пад увагу, нейкі вобраз ці думка проста знікла з памяці і ад таго факт гэты мне здаецца крыху незразумелым і дзіўным, хоць, наогул сказаўшы, на свеце нічога дзіўнага няма.

А гадзіннік на сцяне несупынна вёў сваю справу: размерна ківаўся хадун-маятнік і кожны свой крок зазначаў кароткім «так-так!» — усё так-жа скрыпеў перад тым, як прабіць, і ў свой час званіў меладычным звонам.

Лабановіч патушыў лямпу.

Цемень і ціш напоўнілі маленькі пакойчык. З двара ў акно пазірала чорная ноч і завешанае густымі хмарамі-валокнамі цёмнае неба. Было ціха і глуха. Праз некалькі хвілін каля дзвярэй у кухню скрабнула мышка. Як відаць, яна знайшла дзесь скарыначку хлеба і барабаніла ёй аб падлогу.

Лабановіч стараўся заснуць, але яму штось не спалася.

Як толькі заплюшчыў ён вочы, перад ім, як жывы, усплыў малюнак дарогі, якою ён ехаў ад станцыі: нескончоныя балоты і цэлыя стады стажкоў на іх, грэблі, брады, старыя хвоі, што горда падвышалі свае макушы над лесам, і наогул увесь гэты краявід, поўны свайго асобнага хараства і невыразнай цікавасці... «Калі хворы чалавек пачынае думаць аб вялікай дарозе, то гэта ёсць адзначэнне, прымета таго, што гэты чалавек не ачуняе», — прыпомнілася невядома калі і дзе і кім выказаная думка.

— Усё гэта — глупства, — падумаў настаўнік і павярнуўся на другі бок.

### III

У нядзельку раненька, чуць толькі заграла чырвань на ўсходзе, Лабановіч сядзеў ужо на сене ў драбінах і выязджаў з вёскі. Невялічкая вёска ў адну вуліцу выглядала непрыветна і непрытульна. На ўсім ляжала пячаць нядбаласці і нейкай недаробленасці, як-бы тутэйшыя гаспадары будавалі яе на скорую руку і ўсё рабілі да часу і яшчэ не ўправіліся даць ёй той лад і парадак, якім, наогул, адзначаецца беларуская вёска. Вуліца была роўная і шырокая. Амаль што не каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвенняў і гнілі, але нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць проці свае хаты, каб льга было прайсці праз балота, у якім тапілася гэта вуліца. А гразь была густая, чорная, як дзёгаць, размешаная паляшуцкімі лапцямі, быдлячымі і конскімі нагамі. Але палешукі звыкліся і зжыліся з гэтай граззю і не зварачалі на яе ўвагі. Хаты былі больш новыя, пабудаваныя з тоўстага і гладкага лесу. У раскладзе гаспадарскіх будынін на двары таксама не было пэўнага парадку і сістэмы, а ўсё было навалена, як папала.

Адным словам жыхарства гэтай вёскі выяўляла сабою праўдзівых дзяцей лесу, якія як-бы зусім яшчэ нядаўна асталяваліся тут і толькі што пераходзілі ад аднае формы жыцця да другой. Усе яны былі заўзятыя паляўнічыя, захопліваліся адным толькі выглядам стрэльбы і былі выдатнымі стральцамі. Сялян другіх вёсак, якія жылі больш пры палях, яны называлі палянамі і гэтым самым як-бы

адрознівалі іх ад сябе, жыхароў лесу. А лесу і балот тут быў непачаты край. Сама вёска стаяла на невялічкай палянцы сярод лесу і хмызнякоў, і Лабановіч усе гэтыя дні чуў сябе як-бы чымся звязаным, як-бы на ім была надзета цесная адзежына, бо густыя сцены лесу адусюль націскаліся на гэту вёску, насядалі з пагрозай, як-бы яна намервалася на парушэнне яго законных правоў. Край гэтай палянкі прарэзваўся чыгункай. Дарога ішла каля самай вёскі, захватваючы нават адзін канец вуліцы. Зараз-жа за пераездам пачынаўся лес.

Нізкае сонца пачынала прарazацца скрозь макушы лесу. Неба праяснялася, падыхаў усходні вецер; лёгкі марозік чуць-чуць зацягаў лужынкі тонкай плёнкай лёду. Вісеўшы ўсе гэтыя дні туман развеяўся, усюды пасвятлела і павесялела. Нават гэты пануры лес крыху праясніўся і меў больш прыветны выгляд.

— Го, падмарожваць пачало!—весела прамовіў паляшук Сцяпан Рылка і саскочыў з драбінак, выламаў лазіну і хвасянуў ёй свайго худога, але даволі шпаркага коніка.

— Эх, і лесу-ж у вас многа! — сказаў настаўнік, каб разгаварыцца з палешуком і пазнаёміцца з ім бліжай.

— О, лесу ў нас многа! — пацвердзіў паляшук і павярнуў твар да настаўніка.

— Гэта вось цяпер, як правялі тут чыгунку, яго пачалі звадзіць, а даўней лес зусім не такі быў. І звяр'я было многа. Каля нашай вёскі мядзведзі вадзіліся. Яшчэ бацька нашага старасты, ведаеш можа? — стары Грыгор, даўнейшага закалу чалавек! — жывога медзвядзёнка з лесу прынёс, ад мядзведзіцы адабраў!

— Як-жа гэта ён?

— А бог яго ведае. Смелы. Дый здаровы, як дуб. Дарма што яму цяпер семдзесят год, а як забушуе часам у хаце Раман, яго сын, староста наш, то стары, бывае, не вытрымае, возьме яго на рукі, як хлапчанё, і зараз-жа ўціхамірыць, хоць Раман і не ўломак. Вось як! І адвезлі таго медзвядзёнка графу Патоцкаму. Пазваленне далі Грыгору паляваць у графскіх лясах, яшчэ і пораху і шроту выдалі.

— А цяпер мядзведзяў тут няма?

— Не, няма: перавяліся. Туды далей, пад Татарку, сышлі, дзе месца глушэй і лесу болей, і дзе меней загля-

дае вока людское... Забараняць пачалі па лесе з стрэльбаю хадзіць, леснікоў паставілі, законы строгія пайшлі. Але і лес нішчыцца, і звер зводзіцца.

— А я чуў, што тут яшчэ многа звярыны?

— Ёсць, праўда, але хіба столькі, як даўней? Бабры тут калісь вадзіліся. Яшчэ і цяпер дзе-ні-дзе можна бачыць сляды іх будынін... На ўсё пайшоў звод,—з нейкай маркотай заключыў паляшук і змоўк, аб чымсі задумаўшыся.

— Так, дзядзька Сцяпан: жыццё не стаіць на месцы, і ўсё на свеце мяняецца. Вось у вас чыгунку правялі, заработкаў прыбавілася, гандаль шпарчэй пайшоў, новыя людзі з'явіліся. Яшчэ тры гады таму назад у вас і школкі не было, цяпер пабудавалі школу, вашы дзеці вучыцца будуць, граматнымі стануць, будуць кнігі, журналы чытаць, навучацца, як лепей каля зямлі хадзіць, каб карысці з яе болей было, бо ўсё-ж паляпшэнне ў жыцці ад навукі ідзе. Нябось і вы, дзядзька Сцяпан, маеце дзетак, якіх трэба ў школцы вучыць?

— Ёсць Іван і Пятрук, самыя шкаляры, — уздыхнуў паляшук. У яго адказе настаўнік пачуў нотку нездавальнення, што яго хлопцам прыходзіцца ў школу ісці.

Настаўнік з цікавасцю назіраў за палешуком. Яму падабалася яго паляшуцкая вопратка: чорная выцвіўшая суконная світка, пашытая да стану, шырокі ў чырвоныя палоскі даматканы пояс і шапка-кучомка свайго вырабу. Доўгія, як у папа, цёмнарусыя валасы, светлашэрыя вочы, сярэдні рост, шырокія плечы, павольнасць руху і нейкая сур'ёзнасць выразу твару як не трэба лепей стасаваліся з агульным выглядам малюнкаў палескай прыроды.

Дарога ўвесь час ішла лесам. Лес зрэдку разрываўся невялічкімі палянкамі, на каторых часамі рунела жыта, а на краях там-сям пападаліся старадрэвіны-хвоі, пышна разросшыяся на прасторы, або развіслыя таўшчэразныя дубы, як заможныя старасвецкія гаспадары; на гэтых дубах палешукі-бортнікі рабілі цэлыя пчольнікі, зацягнуўшы туды каля дзесятка вуллёў. Палянкі зноў змяняліся лесам, то стройным баравым, то нізкім балотным. Высокія тонкія бярозы мяшаліся з шэрымі ствaламі хвоі і прыдавалі характар маркоты і засмучэння ўсяму малюнку. Лес зноў расступаўся, даючы месца бясконца вялікім балотам. Балоты цягнуліся далёка-далёка між лесу і заты-

каліся лесам, чуць-чуць чарнеючы роўнай палоскай на далёкім небасхіле. Цэлае мора высокай парыжэлай травы засталося зімаваць тут, бо сюды не зойдзе ні гавяда, ні чалавек з касой. Незлічоныя купіны, нізкарослыя хвойкі на іх, пачарнелыя карчагі даўно адмёршых дзеравяк раслі і гнілі тут спрадвеку. Сярод гэтых купін бліскучымі стужкамі павіваліся часамі палоскі вады, чыстыя, гладкія, як шліфованае шкло. Невядома, з якіх часоў стаялі над імі засохшыя адломкі старых спарахнелых алешын, як свечкі, і маркотна глядзелі ў неба. Ад гэтых балот патыхала нейкім невыразным смуткам, ціхім жалем веяла ад гэтых аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж такі жыццё стварала свае асобныя формы і, не гледзячы на ўсё ўбоства, мела сваю павабнасць і хараство, свой твар, поўны тужлівага задумення. Але гэтыя малюнкі тамілі вочы і засмучалі сэрца, і мімаволі стараешся знайсці нешта такое, на чым можна было-б адпачыць і заспакоіцца.

Пазіраючы на гэтыя балоты-пустэлі, Лабановіч часамі пачуваў у сэрцы нейкую адарванасць ад жыцця і свету, як-бы гэты свет сышоўся тут клінам, і нейкая туга па тым, з чым ён разлучаўся, пачынала забіраць яго душу.

«Што пачувае, аб чым думае гэты дзядзька Сцяпан? Як адбіваюцца на ім вобразы глухога Палесся і які след пакідаюць яны ў ім?» — думаў настаўнік, і яму хацелася хоць на момант стацца тым самым палешуком, што сядзеў радам з ім, каб зірнуць яго вачыма і зразумець увесь нутраны свет яго істоты, яго надзеі, яго жаданні.

Балоты кончыліся; дарога пашыбавалася на горку, калёсы мякка пакаціліся па жоўценькаму пясочку, і лес прыняў звычайны свой выгляд. Вярсты праз дзве лес з аднаго боку дарогі зноў разарваўся вясёлаю палянкаю, агібаючы яе прыгожымі заваротками. На гэтай палянцы, на поўвярсце ад дарогі, раскінулась чыясь пасада, як сярэдняй рукі фальварак, са ўсімі прыстройкамі, садам і прасторным дваром.

— Чыя гэта пасада? Хто жыве тут? — запытаў настаўнік.

— Гэта? А тут пан каморнік жыве. Завітанкамі пасада называецца. Адгэтуль якраз палавіна да воласці, — адказаў Рылка.

«А, гэта і ёсць той каморнік, у чыю дачку ўсе тутэйшыя кавалеры закахаліся. Дык вось дзе жыве яна, гэта красуня!»

Лабановіч прыпомніў размову са сваёй старожкай і, зацікаўлены, глянуў яшчэ раз на гэту пасаду. Паслушнае і ўслужлівае ўяўленне ўжо рысавала яму вобраз дзяўчыны, гэту чыстую і прыгожую краску, узгадаваную ў глухіх палескіх барах. Лабановіч ніколі, нават у думках, не пазваляў сабе зняважыць дзяўчыну. Адно слова «дзяўчына» выклікала ў душы яго чысты і прыгожы вобраз, на які можна пазіраць і любавацца толькі здалёк. І цяпер ён прыпомніў два ці тры здарэнні ў сваім жыцці, калі гэтыя вобразы глыбока западалі ў яго сэрца, але ён і намёкамі не сказаў ім пра гэта. А раз у дачку пана каморніка ўсе закаханы, то яна, без спрэчкі, ёсць верх харастве. Яшчэ не бачачы яе, настаўнік пачуваў, што яна ўжо мае над ім нейкую ўладу. Яму хацелася хоць паглядзець на яе, і праз усю астатнюю дарогу ён думаў аб дачцы каморніка, ён ужо сустракаўся з ёй, зацікавіў яе і бадай што не ўсіх кавалераў яе засланіў сабою.

## IV

Апошні раз расступіўся лес, і перад вачыма настаўніка раскрылася шырокая, круглая палянка, вясёлая і прыветная. Лабановіч уздыхнуў лягчэй, як-бы з яго плеч зваліўся нейкі цяжар, бо дарога, траская і караністая, і лес усё-ж такі дакучылі яму. Тым прыемней зірнулі стрэхі людскіх будынін і коміны хат, з якіх яшчэ дзе-ні-дзе курыўся сіняваты дымок.

Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў адну лінію, і толькі каля цэркаўкі на ўзгорку яна скупавалася гушчэй і шырэй. Злева, пры канцы вёскі, стаяў дом валаснога праўлення з двума высокімі чырвонымі комінамі над пачарнелым дахам. Напроціў, на другі бок вуліцы, выглядала школа з белымі аконніцамі і двума ці трыма развіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску, крыху на водшыбе, маркотна тулілася старэнькая драўляная цэркаўка. Цяпер яна стаяла адзінокая, закінутая, забытая, і толькі богабаязны падарожны, праходзячы каля яе, пры-

пыняўся і хрысціўся, набожна схіліўшы галаву. Па адзін і па другі бок вёскі стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раскінуўшы свае крыллі. Адны з іх былі ў жывым руху, весела падымалі і апускалі свае крыллі, а другія стаялі моўчкі, нерухліва і мелі такі выгляд, як-бы яны крэпка чымся здзіўлены і пыталіся: «А чаму-ж мы стаім без работы?»

Праехаўшы невялічкую грэбельку, калёсы пакаціліся па шырокай вуліцы. Народ расходзіўся з цэрквы. Старыя палешукі, сустракаючыся, пачціва кланяліся, а чародкі маладых дзяўчат-паляшучак і праворных маладзіц, убраных, як макавыя кветкі ў агародзе, падштурхвалі адна другую, перамігваліся і кідалі смяшлівыя погляды ў бок маладога настаўніка, які першы раз з'явіўся тут.

Пад'ехаўшы да школы, Лабановіч выскачыў з драбінак і ўзышоў на ганак. Дзверы былі замкнуты. Лабановіч пастукаў. У глыбі кватэры зараз-жа грукнула крэсла, і пачуліся крокі. Дзверы адчыніліся.

— Выбачайце. Дома настаўнік?

— Вот я. Заходзьце, калі ласка.

Лабановіч пайшоў за гаспадаром, нязграбна ступаючы занямеўшымі нагамі.

— Пазвольце пазнаёміцца: ваш калега і сусед — Лабановіч, — назваў сябе госць.

— Саханюк, тутэйшы педагог. Будзьце ласкавы, знімайце паліто, сядайце.

Госць і гаспадар селі каля стала.

— Вы — новы і ў нашых краях першы раз?

— Новаспечаны і ў вашых трушчобах маю гонар быць першы раз, — сказаў з усмехам Лабановіч.

— Ну, як падабаецца вам ваша месца?

— Лепшага месца я і не чакаў: ціхае, глухое. Нішто не пашкодзіць весці працу, — прамовіў Лабановіч.

Саханюк звонка засмяяўся.

— Ах вы, ідэалісты, ідэалісты. Ці надоўга хваціць вам гэтага ідэалізму?.. І тым не меней першы раз бачу чалавека, што так высока ставіць глуш ды яшчэ такую, як ваша.

— У вас тут, выбачайце, большая глуш.

— Як так? — здзівіўся Саханюк. — У нас — воласць,

грамадзянства: бацюшка, пісар, фельчар,ураднік, псаломшчык і так збоку людзі часцей даведваюцца.

— І пэўне з Завітанак сюды хтось завітае, — жартліва ў тон гаспадару прамовіў Лабановіч і кінуў на яго бачлівы погляд.

Гаспадар крыху замяшаўся, бо і ён таксама меў ласае вока на дачку пана каморніка, адразу сцяміўшы, куды цаляе яго сусед.

— А вы хіба былі ў Завітанках? — спытаў Саханюк.

— О, не, — прамовіў Лабановіч, — я лічу, што ў завітанскай чараўніцы і так вялікі штат кавалераў, і мая там прысутнасць ніколечкі не павялічыць яе вагі.

— Калі ў вас, калега, такі погляд на рэчы, — сказаў павесялеўшы Саханюк, — скажу вам: не будзеце і вы мець вагі ў тутэйшых паненак.

— А мне ўсёроўна... Урэшце-ж, ці не памыляецеся вы тут, калега? Але гэта — між іншым. Я хацеў-бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашым грамадзянствам, бо трэба-ж, як кажуць, аддаць кесарава кесараві, і калі-б вы былі ласкавы пайсці са мною да пісара, таксама і да бацюшкі, а можа і яшчэ да каго, калі ўжо гэтага вымагае падатак вашага грамадзянства, то я быў-бы вам вельмі падзячан. Гэта было-б і скарэй і прасцей, бо мне яшчэ ніколі не даводзілася выступаць у ролі візітанта.

— А вы чаго-ж так спяшаецеся? Разумеецца, я з вамі пайду, тым болей, што і мне трэба зайсці да таго, другога, але адаслалі-б вы сваю падводу дамоў, а самі тут паначавалі-б.

— Не, калега. Я яшчэ да работы не прыступаў у школе. Вы, нябось, многа ўжо паспелі, і я не даганю вас за ўсю зіму. Мне хацелася-б і павучыцца ў вас сяму-таму, бо вы ўжо набілі, як кажуць, руку і маеце практыку.

Дзверы з другога пакоіка адчыніліся, і на парозе паказалася ўжо немаладая кабеціна. Гэта была старожка. Яна перш уважліва паглядзела на незнаёмага настаўніка, а потым сказала свайму настаўніку паляшуцкай гаворкай.

— Да вас, панычу, там маладыцы прышлы—лыст написаць хочуць.

— А сала прынеслі?

— Ны відаю, панычыку.

— Выбачайце, — сказаў Саханюк да госця: — я пайду адпраўлю гэтых маладзіц.

І Саханюк накіраваўся ў кухню, а старожка Матрона, яшчэ раз аглядзеўшы госця, таксама пайшла да кухні. Ясна, хтось даў ёй наказ, як можна лепей разглядзець Лабановіча, каб навесці аб ім сталыя спраўкі. І, як відаць, наказ гэты быў дан не так здалёку, бо, счакаўшы мінуты дзве, Матрона матнулася праз вуліцу, маючы кірунак да кватэры пісара.

Астаўшыся адзін, Лабановіч акінуў вокам пакоік свайго калегі. Кватэра гэта была многа лепшая ад яго кватэры. Было відаць, што Саханюк жыў някепска, прасядзеўшы ў гэтай школе гадоў пяць. І наогул, Саханюк быў больш практык, чалавек матэрыялістычнага складу. Нейкім чынам умудрыўся ён за гэтыя пяць год, атрымліваючы дваццаць рублёў пенсіі на месяц, сабраць капітал у пяць-шэсць соцень і меў сваю гаспадарку. «Жылаваты чалавек ты, браце! — падумаў Лабановіч: — нават за напісанне ліста не саромеешся браць сала». На століку ляжалі школьныя журналы. Разглядзеўшы іх, Лабановіч прышоў да заключэння, што яго калега не так далёка адышоўся з вучнямі, і пераканаўся, што ў асобе Саханюка ён не будзе мець для сябе настаўніка, і тут-жа зазначыў, што супольнага між імі вельмі мала і што блізкімі сябрамі яны ніколі не будуць.

— Ну, цяпер я вольны, можам ісці, — сказаў увайшоўшы Саханюк і падышоў да люстэрка, паглядзеўся, падправіў рыжаватыя вусы, правёў рукой па шчаках, ці добра пабрыты, і прычапіў больш франтаваты гальштук. Саханюк быў хлопец сухарлявы, досыць высокага росту, меў даволі прыгожы твар, але мала выразныя, жаўтаватакарыя вочы яго крыху псавалі. Таксама была ў яго яшчэ адна загана, загана вымаўлення: ён не мог сказаць чыста «р», а нейк скрадаваў яго і казаў «й».

— Ты, Мат'ёна, калі я не п'іду, то астаў абед на вячэю. Настаўнікі вышлі.

— Куды-ж наўперад пойдзем?

— А давайце пачнем па парадку, каб нікому не было крыўдна, — адказаў Лабановіч.

Зрабіўшы колькі крокаў, Лабановіч і Саханюк узышлі на ганак валаснога праўлення.

— Зойдзем да канцылярыі, — сказаў Лабановіч: — заадно трэба ўзяць паперы і ўсе вучэбныя прылады.

Настаўнікі пераступілі парог і апынуліся на зборнай. Зборная была прасторная, як абора. На процілежным яе канцы, на ўзвышшы, адгароджаным балясамі, стаяў вялізны стол, абіты зялёным сукном, а за сталом, на шырокім крэсле засядаў сам пісар. Гэта быў ужо стары чалавек, з шырокай барадой, напалавіну сівою. Міна яго была незвычайна важная. Пазіраў ён крыху прыжмурыўшыся, як-бы ён толькі што занюхаў табакі і збіраўся чхнуць. Не гледзячы на тое, што ў канцылярыі было цёпла, пісар сядзеў у валёнках, бо меў у нагах раматус, і на твары яго адбіваліся адзнакі хваравітасці і сляды калісь вясёлага жыцця і п'янства, у якім пісар не меў сабе роўных у воласці. З гарэлкай ён ніколі не разлучаўся. Сядзіць у канцылярыі, а ў шафе сярод «гражданских и уголовных дел» стаяла бутэлька з «царскімі слязьмі», як называлі тады гарэлку, да каторай часта прыкладаўся Пятро Восіпавіч і ў часы сваіх заняткаў у воласці. Праўда, такіх часоў у яго было не так-та многа, і ён прыходзіў сюды ў выпадках рэдкіх і важных; усю-ж работу па воласці вёў яго памочнік, Дубейка, які ўжо лічыўся кандыдатам на пісарскую пасаду. З гэтай прычыны Дубейка нёс сябе высока, насіў манішку і манкеты і лічыў сябе найпершым кавалерам; старанна прычэсаныя валасы і частае зазіранне ў люстэрка сведчылі аб тым, што і ў яго сэрцы засела завітанская паненка.

## V

— Дазвольце пазнаёміць, — сказаў Саханюк, падводзячы калегу да пісара, — цельшынскі настаўнік.

— А! — прамовіў пісар, акінуўшы Лабановіча прыжмураным поглядам, і падаў яму руку.

— Прасвяшчаць, значыць, прыехалі? — спытаў пісар, каб хоць што-небудзь сказаць, і яшчэ раз азірнуў Лабановіча.

— Ну, ну, справа патрэбная, — важна прамовіў пісар, пасля чаго перастаў цікавіцца Лабановічам, як чалавек

практычны, які з першага погляду адгадаў, што для пісарскага дома карысць ад новага настаўніка невялікая.

Затое-ж Дубейка выказаў многа ўвагі і адзнакаў шляхетнага тону, знаёмячыся з Лабановічам.

— О! — казаў ён: — нашага палку прыбывае. Вельмі прыемна, калі інтэлігенцыі павялічваецца. — Але разам з гэтым Дубейка запытаўся: — А гэта ўжываеце?

Адначасна з запытаннем ён ускінуў галаву і пстрыкнуў пальцам па скіўіцы.

Лабановіч здзіўлена глянуў на Дубейку. Гэта запытанне для яго было зусім нечакана, і ён не ведаў, што адказаць на яго.

— Ну, разумеецца, не так, што-б з ног скідацца, — паправіўся памочнік: — а ў кампаніі, пасля таго, як пулечку сыграеш або стукалку, прапусціць чарачку, другую. Іграеце ў карцішкі?

— Не, не іграю.

Дубейка ў сваю чаргу здзівіўся, і ўся выраза яго твару як-бы казала: «Які-ж ты пасля гэтага інтэлігент?».

— Ну, нічога, — заспакоіў Дубейка: — пажывіцё, навучыцеся. Толькі часцей да нас даведвайцеся, бо ў вас там глуш, чалавека не ўбачыш і, апрача падлоўчага, і зайсці там не да кага.

— Э, гэта не бяда, — адказаў Лабановіч, — людзі ўсюды ёсць. Чым не людзі тыя-ж самыя палешукі? Хіба да іх не можна зайсці? Я лічу, што сярод іх можна вельмі прыемна прабавіць вольную часіну, і там можна напаткаць не толькі цікавае, але і разумнае, чаго ніколі не знойдзеш ні за чаркаю, ні за пулькаю.

— Не разумею вас, — адказаў Дубейка. — Што цікавае можна знайсці сярод палешукоў? Калі можна там напаткаць што-небудзь цікавае, дык хіба толькі маладзіцу-салдатку. — Пры гэтым Дубейка выразна зірнуў на Саханюка і засмяяўся.

— Калега — манах. Ён любіць глуш і адзіноцтва і хоча жыць пустэльнікам.

— Ведаем мы гэтых пустэльнікаў, — зноў падмігнуў Дубейка: — у ціхай вадзе чэрці водзяцца.

Першыя ўражанні знаёмства не спадабаліся маладому настаўніку, і ён, папрасіўшы выдаць пасылкі для яго школы, развітаўся з новымі знаёмымі.

Вышаўшы са зборнай, Лабановіч накіраваўся да дзвярэй, каб выйсці на вуліцу, але Саханюк затрымаў яго.

— Не, калега: трэба пазнаёміцца з пісаранкамі, бо калі не зойдзеце да іх, то гэта будзе такая крыўда, якая вам ніколі не даруецца ні ў гэтым жыцці, ні на тым свеце.

Сказаўшы гэта, Саханюк узяў пад руку Лабановіча і павёў яго ў кватэру пісара.

Прасторная і светлая зала была ўбрана чысценька і акуратна на мяшчанскі лад. Сталы і столікі былі заслаены чыстымі настольнікамі і настольнічкамі. Крэслы стаялі ў парадку. На сценах віселі розныя малюнкі ў прыгожых асадках. Па кутках залы стаялі круглыя столікі пад белым кружавам: на століках ляжалі альбомы для фатаграфій. На вокнах і пад ваконнем стаялі вазоны розных гатункаў. Адным словам, на ўсім быў відзен адбітак дзявочага прызору і акуратнасці.

Маня, старшая дачка пісара, ужо не маладая дзяўчына, гадоў за дваццаць пяць, па ўсяму відаць было, падгатавалася спаткаць настаўнікаў. Яна надала свайму твару тую міну, той выраз, які люстэрка падказала ёй, як на самыя лепшыя і найбольш ідучыя да яе, нявінна сядзела за сталом, як-бы нічога не ведаючы, і разглядала «Ніву». Яна была чорная, як цыганка, даволі прыгожая з твару; але разам з гэтым было на ім і нешта такое, што рабіла яго сярдзітым, злым. Напэўна доўгае чаканне свайго суджанага, якога дзесь затрымалі чэрці, мела на гэта свой уплыў. Саханюк галантна падвёў свайго калегу да пісаранкі.

— Лабановіч, цельшынскі педагог.

— Вельмі прыемна, — сказала Марыя Пятроўна: — сядайце, калі ласка!

Лабановічу паказалася, што яна чымся ўгневана. «Ці не Саханюком, які шукае свайго шчасця не тут, блізка, а дзесь за сем вёрст, што яна з ім крыху неласкава?» — падумаў сам сабе Лабановіч.

— Ну, як вам падабаецца наша мясцовасць? — спытала пісаранка.

— А нічога. Месца вельмі добрае, і мне наогул падабаецца Палессе.

— А вось Андрэю Мікалаевічу яно падабаецца мала.

— Не скажэце гэта, — адказаў Саханюк: — каб гэта была праўда, то пяць год я не выседзеў-бы тут.

— Калісь падабалася, — сказала Маня і чуць-чуць уздыхнула.

Увайшла сярэдняя дачка, Саша, зусім непадобная да сястры. Яна была шчаслівейшая ад яе, бо мела жаніха ў асобе тутэйшага ўрадніка. Зараз-жа за ёю ўвайшла і трэцяя сястра, Ніна. Самая малодшая, Ольга, вучылася ў горадзе, і яе цяпер не было дома.

Лабановіч чуўся не па сабе ў кампаніі дзяўчат і не трапляў падтрымаць з імі гутаркі. Ён толькі адказваў на іх пытанні, адказваў сур'ёзна, што не падабаецца паненкам такога стану, якія звыклі, каб іх забаўлялі, жартавалі з імі і малолі гарох і кашу, абы было смешна.

— А вы спяваеце? — спытала яго Саша.

— Не. Спяваю няважна, — адказаў Лабановіч, і ў вачах яго бліснуў чуць заметны смех, — за практычную лекцыю па спевах у семінарыі наш Костка ледзьве тры з мінусам паставіў.

— Якая костка? — здзівілася старшая пісаранка.

— Выбачайце, не якая костка, а які Костка, — паправіў яе Лабановіч.

— Гэта ў нас быў такі настаўнік у семінарыі, які выкладаў спевы і меў прозвішча Костка.

— Не, — сказала Саша: — я не пра такія спевы пытаюся. Вы маглі даць няўдалую лекцыю, але гэта не можа пашкодзіць вам самім спяваць, ну, напрыклад, раманс.

— Крый мяне божа! — засмяяўся Лабановіч: — каб я яшчэ рамансы спяваў. І сам не спяваю, і не люблю, калі хто іх спявае. Другое дзела паслухаць добры хор.

Такім адказам Лабановіч прыпыніў усякія запытанні ў гэтым кірунку.

Змоўклі паненкі, маўчаў і ён.

Размова павялася між паненкамі і Саханюком аб справах другога зместу, аб іх знаёмых, адным словам, пачалося пераліванне з пустога ў парожняе.

Некаторы час Лабановіч слухаў, а потым падняўся, папрасіў прабачэння і стаў прашчацца.

Яго не затрымлівалі, хоць з далікатнасці папрасілі заходзіць да іх.

«Дудкі, — казаў сам сабе Лабановіч, выходзячы ад паненак: — не скора я тут буду».

Разам з ім вышаў і Саханюк.

— Ну, як вам, калега, спадабаліся паненкі?

— Ну, што-ж? Дзяўчаты, як дзяўчаты. А вось што я не спадабаўся ім, дык гэта ясна.

— Чаму вы так думаеце?

— Тут і думаць няма чаго. Перш-на-перш, не сказаў кампліменту і не ўмею казаць іх. Можа-б і прыдумаў, але не асмельваюся вымавіць, далей, не пахваліў нічога з іх работы, не заспяваў рамансу і наогул нічога не патрапіў сказаць ім у тон.

І ён не памыляўся.

Як толькі настаўнікі сышлі з ганку, першая Саша сказала:

— Ну і мяшок! як для Цельшына, дык лепшага і не падбярэш.

— Зусім неачэсаны: так і відаць, семінарыст, гатовы кашлянуць і зацягнуць: «Благаславі, душэ мая, госпада» — аклікнулася і Маня.

Настаўнікі тымчасам ішлі да бацюшкі. Дарогаю Саханюк паказваў, дзе хто жыве і чым хто выдацен. Вось у гэтым дворыку жыве фельчар Гарошка, удавец, сышоўся з адною паляшучкаю і сам апаляшучыўся. Сын яго, Максім, вучыўся ва ўсіх школах Пінска, але ні аднае не скончыў, а з апошняе, з духоўнага вучылішча, проста ўцёк. Цяпер ён сядзіць на бацькавай шыі. Уцёк-жа ён з тае прычыны, што ў гэтых школах не вучаць нічога такому, што адпавядала-б яго шырокай натуры, якая найшла здавальненне ў гарэлцы, картах і іншых забаўках вясковага лабатраса. Цяпер ён накіроўваецца на дзяка або на памочніка валаснога пісара. Але пакі што гэта толькі добрыя намеры.

Бацюшка, яшчэ малады, крыху хваравіты, нікуды не ходзіць, але любіць, калі да яго заходзяць. Матушка была раней настаўніцай, кабета вясёлая і добрая, вельмі любіць пагуляць у стукалку.

Вось гэты дом з садам, першы ад цэрквы, і ёсць пасада бацюшкі.

Так незаметна настаўнікі дайшлі да веснічак бацюшкавага двара.

## VI

— Міласці просім, міласці просім, — прамовіў айцец Кірыл і борздымі крокамі патрусіў да дзвярэй на спатканне гасцям і стаў памагаць ім раздзявацца; сам першы паздароўкаўся з Лабановічам, папрасіў настаўнікаў садзіцца, сам падстаўляў ім крэслы і наогул выказаў вельмі многа прыветнасці і ўвагі, нават радасці і дабраты.

А. Кірыл быў чалавек яшчэ малады, нізенькі, шчупленькі, худзенькі, з рэдзенькаю цёмнаю бародкаю і жывымі, крыху неспакойнымі цёмнашэрымі вачамі. Адбітак нейкай мукі адзначаўся на яго худым твары. Гаварыў а. Кірыл громка і борзда, часта смяяўся ад душы громкім смехам, але радасці, гэтай галоўнай уласцівасці здаровага смеху, у ім не чулася. І варта было хоць на мінуту яму сціхнуць, каб зараз-жа цень смутку лёг на яго твары.

— Даўно-ж вы прыехалі ў Цельшына? — запытаў Лабановіча а. Кірыл.

— А ўжо скора тыдзень будзе, а. Кірыл.

— Што, не думалі, нябось, папасці ў такую глуш? — зноў запытаў а. Кірыл і громка засмяяўся.

— А вы ведаеце, а. Кірыл, — сказаў Саханюк: — калега знаходзіць, што ў нас тут большая глуш, чым Цельшына.

— І праўду кажа, чыстую праўду, — праканана прамовіў а. Кірыл: — тут у нас такая яма, такая, выбачайце, памыйніца, што другой такой і на свеце няма.

— Калі я казаў, што ў вас, калега, большая глуш, то я меў на ўвазе, што вы жывіцё далей ад чыгункі. Якая-б ні была сама па сабе глуш, але калі ты чуеш гудок паравоза, шум вагонных колаў і бачыш гэтыя роўныя або прыгожа закругленыя палоскі жалеза на шпалах, то не так тужліва адчуваеш адарванасць ад людзей

і культуры, бо чыгунка з'яўляецца як-бы жывым вобразам непарванай сувязі з людзьмі.

— Калі-ж вы думаеце пачынаць работу ў школе?

— А вось я і хачу прасіць вас, а. Кірыл, прыехаць на гэтых днях у маю школу на малебен. Так-бы з аўторка і пачаў.

— Не спяшайцеся, — махнуў рукою а. Кірыл. — Вы думаеце, яны, гэта быдлё, зразумеюць, што вы для іх будзеце старацца, вучыць іх? Вы не ведаеце мужыка: зрабі яму дабро — ён адплаціць табе самай чорнай непадзячнасцю. Мужык — гультай, злодзей, п'яніца. Толькі і глядзіць, як абадраць цябе, абмануць, ашукаць. Ніякай веры няма яму. Ён гатоў цябе утапіць, прадаць за чарку гарэлкі. Іх трэба ўзяць — во!

А. Кірыл згарнуў кулакі і патрос імі, паказваючы гэтым, як трэба трымаць мужыка.

Лабановіч ніяк не спадзяваўся, каб а. Кірыл мог да такой меры не любіць мужыка, і наогул, каб у такім маленькім папку магло змяшчацца столькі нянавісці.

— Вы паспрабуйце купіць у мужыка кусок хлеба ці шклянку малака. Што, ён прадасць вам? Ніколі. Гандляру прадасць, вам — ні за якія грошы!

Лабановіч нецярпліва чакаў, калі скончыць выліваць сваю злосць а. Кірыл, каб заступіцца за мужыка, бо Лабановіч быў пакрыўджан, як мужыцкі сын. Ці даўно яму самаму, калі вучыўся ён у семінарыі, крычалі мешчанчукі:

— Лямец! лямец! на якой бярозе ты лапці павесіў?

— Розгамі яго трэба сеч!—скончыў а. Кірыл і гнеўна бліснуў вачыма.

— Я не магу згадзіцца з тым, што сказалі вы, а. Кірыл. Нават і тады, калі гэта ўсё было-б праўда, — пачаў Лабановіч, — то і тады-б не можна судзіць так мужыка. Вы кажаце — мужык скарэй прадасць гандляру, чым пану, бо пад паняцце «пан» у мужыка часта падыходзіць кожан, хто носіць цэшку або чорнае паліто. Зразумела. Гандляра ён ведае, з гандляром ён жыве; часам і лае яго і ў морду яму плюе. На мужыка прывыклі пазіраць, як на пчалу або на якую машыну, якая павінна ўсё вырабляць, усім даваць і яшчэ пры гэтым казаць і кланяцца: «Дзякую, што берыцё». І ўсе так ці інача бяруць ад мужыка:

бяруць сілаю, бяруць хітрыкамі, бяруць ашуканствам. А мужыку многа далі? Паважаюць мужыка? Хто вінават, што мужык неачэсан, што мужык цёмен і жыве па-свінску. У святым пісанні напісана: «Якою мераю мерыце вы, такою адмерыцца і вам».

А. Кірыл слухаў, апусціўшы вочы, і стукаў пальцамі па сталу.

— Вы яшчэ мала ведаеце мужыка, — спакойна адказаў а. Кірыл: — што-б вы мне ні казалі, я буду цвярдзіць сваё: мала білі мужыка!

— Вы зусім не тое гаворыце, што думаеце. Проста вы за нешта ўгневаліся на мужыка, — сказаў Лабановіч, смеючыся.

Саханюк маўчаў.

— А вы ведаеце, — прамовіў урэшце ён: — нашых тутэйшых сялян ніхто нідзе начаваць не пускае.

— Хто не пускае?

— Другія мужыкі.

— Ды што-ж? Не спрачаюся, вашы мужыкі могуць быць і дрэннымі, але з гэтага не следуе, што і ўсе мужыкі нікуды нягодныя. Тая-ж самая паншчына, аб якой шкадуе а. Кірыл, псавала іх, бо, як пацвярджаюць факты, былі такія паны, што гналі сваіх мужыкоў і падбівалі іх на кражу ў сваіх суседзяў-паноў.

На гэтым месцы гутаркі ўвайшла матушка.

На яе твары была прыветная ўсмешка.

Паздароўкалася, села і, звярнуўшыся да Лабановіча, запытала:

— Былі ў пісара?.. Ну, як вы знаходзіце пісаранак?

— Прызнацца, я і не разгледзеў іх, бо мы вельмі мала былі там.

— А праўда, Саша — харошанькая?

А. Кірыл паморшчыўся і махнуў рукою.

А Лабановіч адказаў:

— Нічога сабе дзяўчына.

— Вось бачыце, шкада толькі, што вы ад нас далёка, а то-б зачасцілі за Алеськаю?

— А хіба тут няма каму гэтай справай заняцца? Вось мой калега, напрыклад?

Саханюк і бацюшка засмяяліся.

— Не, я ўжо зусім страціў там ласку, дзякаваць богу.

А. Кірыл засмяяўся яшчэ грамчэй.

— Наш настаўнік кажа: «Не на таго прасцяка напалі!» — сказаў ён.

— Апрача таго, я чуў, што ў яе жаніх ёсць ужо.

— Ці мала на свеце дурняў? — зноў дадаў а. Кірыл.

І матушка вяла сваё.

— Ну, то што? Хіба жаніхам свіней не падкладаюць?

— Гэта было-б не па-хрысціянску.

— За тое-ж бы па-кавалерску.

— З паліцыяй мець дзела небяспечна, — зазначыў а. Кірыл.

— Глуш там у вас, вучыцелька!

— Усе вы, панове, у глушы жывіцё, а глушы баіцеся. І ў глушы людзі жывуць. Мне, матушка, нават падабаецца такая глуш.

— Праўда, у пана падлоўчага дочкі падрастаюць, — гнула матушка сваю лінію, — і кажуць, старшая вельмі прыгожая, зусім ужо паненкаю выглядзіць.

— Не ведаю: не быў у іх.

— Што гэта вы так мала паненкамі цікавіцеся?... О, хітруеце вы, вучыцелька!

— Ёсць тут цікавіцца чым, — зноў буркнуў а. Кірыл.

Матушка ўстала, узяла папяросы, сама закурыла і гасцей патрактавала. А. Кірыл не курыў, але набіваць папяросы любіў, і цяпер ён узяўся за гэту работу.

У пакой увайшла служанка — паляшучка, крэпкая чырвонашчокая дзяўчына.

— Да вас, бацюшка, Апанас Каваль прышоў; просіць хворую прычасціць.

— Хто ў яго хворы?

— Жонка.

— Скажы, зараз іду, — сказаў а. Кірыл.

— Я скора вярнуся — тут блізка, а вы, калі ласка, пачакайце мяне, — звярнуўся ён да гасцей.

А. Кірыл надзеў цёплую расу, узяў крыж і ўсе патрэбныя рэчы і вышаў.

— Эх, папоўская служба! — уздыхнула матушка: — нават і адпачыць няма калі. А ён слабы, хворы, ногі чуць цягае. Народ у нас, вучыцелька, грубы, дзікі. Вось вашы, вучыцелька (слова «вучыцелька» матушка вы-

водзіла ласкальна ад «вучыцель»), цельшынцы зусім другія людзі. А нашых вам ніхто не пахваліць. Вы ведаеце такое здарэнне? А. Кірыл — гэта ўжо будзе гады два таму назад — быў на сенакосе. Распусціў сена, сушыць. А едзе адзін наш — ёсць тут такі грубіян — проста па бацюшкаву сену! А. Кірыл і кажа, падышоўшы: «Ці табе, кажа, дарогі няма, ці не можаш аб'ехаць, што ты па сене з канём топчашся?» А той, нічога не кажучы, схапіў бацьку за валасы і давай церабіць! Прыходзіць мой бацюшка; як глянула-ж на яго — аж у яго каўтунікі павырываны! Так і лезуць, так і лезуць!

Матушка апавядала гэта проста, нават з нейкім гумарам.

— Народ наш, трэба сказаць праўду, грубы, дзікі. Аднаго толькі ўрадніка і баяцца, аднаго яго і паважаюць.

— А хто ўжо лепш можа дагадзіць ім, як не а. Кірыл? — зноў кажа матушка: — і зямлю ім аддаў, і сенакос, і лякарствы ім дае, і добрым словам памагае. Ніколі ні ў чым ім не адмаўляе.

Праз поўгадзіны вярнуўся а. Кірыл, утомлены і хмурны.

— Ну, як-жа іх, гадаў, не лаяць? — у гневе прамовіў а. Кірыл: — чорт ведае, чым кормяць хворую, і гаворыш ім, прыказваеш, не — сваё робяць!.. А гразь!.. Свінні, свінні!

Крыху супакоіўшыся, а. Кірыл сказаў да матушкі ціха:

— Зашлі ты ёй праз Параску чаго.

— А ўсё-такі, а. Кірыл, вы многа лепшы за тых, хто пра народ гаворыць высокія словы.

А. Кірыл махнуў рукою.

— Вось што, другі: будзем абедаць.

## VII

Дзярвяная сцяна аддзяляла кватэру Лабановіча ад школьнае залы, і каб папасці туды, то трэба было толькі адчыніць нізкаватыя дзверы. Як толькі разднела і чуць узышло сонца, пачалі збірацца вучні.

Кожны іх крок, кожны рух і вымаўленае слова чуліся ў кватэры настаўніка.

Яшчэ ўчора прайшоўся стараста Раман Круглы па вёсцы, заказваючы сялянам пасылаць у школу дзяцей. То таму, то другому, спаткаўшыся па вуліцы, гаварыў ён:

— Пасылайце заўтра дзяцей у школу! — Пры гэтым стараста рабіў сур'ёзную міну і, наогул, меў начальніцкі выгляд. Яго чырвоны кажух з шырокім, як засланка, каўняром паказваўся ў розных месцах вуліцы. Калі патрэбныя старасце асобы тут не сустракаліся, то ён падыходзіў да акна, стукаў пальцамі ў шыбы:

— Гэй, Кандрат! Падыдзі-тка сюды! — Калі Кандрата не было ў хаце, то стараста падзываў Алену або Параску і таксама строга казаў: — Пасылайце заўтра дзяцей у школу!

Выпаўніўшы свой абавязак, Раман зайшоў да школы.

— Дома паныч? — ціха запытаў Раман старожку.

— Дома, стараста, дома! — крыху нараспеў прамовіла бабка.

Лабановіч чуў гэту размову.

— Заходзьце, стараста, заходзьце!

Стараста разоў два затрубіў носам. Дзверы ад кухні скрыпнулі. Адна палавіна іх адчынілася, а другая затраслася ад націску шырокага пляча старасты.

Ступіўшы крокі два, Раман перайшоў увесь пакоік-спальню і паказаўся на парозе другога. Кожны яго крок адбіваўся на падлозе мокраю плямаю, а на велізарных лапцішчах ён нёс столькі гразі, што добраму гаспадару і на сахор не выбраць.

— Ну, як маецеся, стараста?

— Хвала богу; паныч як здароў?

— Вось што, стараста: не называйце вы мяне панічом, бо я не паніч і бацька мой такі-ж самы мужык, як і вы.

Лабановіч папрасіў старасту прысесці на канапу, бо кволае крэсла, якіх тут было ўсяго толькі два, наўрад ці вытрымала-б звязістую і дзябёлую фігуру старасты.

Стараста, па звычаю ўсіх палешукоў, меў доўгія светлыя валасы. Рыжая бародка, вузкая і выгінастая, і крыху пахмурны погляд спадлоб'я рабілі старасту падобным да званковага караля. Звярнуўшы ўвагу на яго

здаравецкі склад, на шырокую расхлістаную грудзіну, на якой яшчэ значыліся сляды летняга загару і адбіткі вятроў, Лабановіч мімаволі ўспомніў яго бацьку Рыгора, які, як зазначыў Сцяпан Рылка, браў старасту на рукі, як хлапчанё. «Крэпкі народ, хоць і жыве ў балотах», — падумаў Лабановіч.

— Дык ужо, панічок, вучыцімеце?

— Так, староста, трэба пачынаць.

— Ну, я ўжо заказаў, каб пасылалі хлопцаў у школу.

— Чаму-ж толькі хлопцаў? Трэба, каб і дзяўчаткі хадзілі.

— Дзе яны пойдуць? — махнуў рукою староста: — скажы ім пра школу, дык будуць смяяцца: вельмі дзіўным ім гэта пакажацца. Хоць-бы хлапчукі ўсе пайшлі.

Лабановіч, наколькі мог, тлумачыў старасце, што і дзяўчаткам таксама вучыцца трэба, і даводзіў, скуль гэта патрэба вынікае.

Староста слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і толькі згаджаўся.

— Гэта так, панічок...

— Гэта вы справядліва кажаце.

— А вядома так.

— Што праўда, то праўда.

Але настаўнік бачыў па твары старасты, што ўсе аргументы зусім не пераконвалі яго ў тым, што дзяўчатам трэба навука.

Што навука трэба мужчынам (а навуку староста разумеў, як уменне чытаць, пісанне-ж — ліха яго бяры: без яго можна абыйсціся лягчэй), староста не спрачаўся.

Справа службы вымагала таго, каб быць у валасці. А з валасці надаюць яму цэлую кучу розных папер і загадаў. То трэба было павесткі на суд даставіць па прыналежнасці, то нядоімку сыскаць з каго, то лісты перадаць.

У гэтых выпадках у старасты быў асобны парадак. Ён клаў павесткі з павесткамі, лісты з лістамі, нядоімкі з нядоімкамі. І тут галаве яго прыходзілася папрацаваць нямала. Ён распытваў у валасці, каму павесткі, і тут-жа складаў іх у такім парадку, у якім іх трэба перадаць, беручы пад увагу адлегласць. Скажам, павестка для Мікіты Цялушкі, які жыў з гэтага боку вуліцы. Яго

павестка клалася першаю, а за ёю ішла другая, трэцяя і так далей. Пасля гэтага стараста запамінаў тых асоб, дзеля якіх павесткі прызначаліся. Таксама і нядоімкі. На лісты быў другі парадак. Перш усяго іх было нямнога, і канверты былі розныя па колеру і па велічыні. Вось гэта ў сінім канверце трэба аддаць Гаўрыле Жалезнаму, у белым — Язэпу Нырку, а гэта памятае і засаленае — удаве Тэклі... Ну, калі і пераблытаеш іх, то не такая ўжо бяда: самі разбяруць, калі будуць чытаць паклоны. Гэта ўжо скарэй бабы патрапяць. Забраўшы ўсе паперы, стараста колькі мінут стаяў і разважаў, як-бы сам сабе здаваў экзамен. Па гэтым можна было сорак разоў аклікаць яго ці страляць у колькі кроках ад яго — усёроўна нічога не чуў тады стараста. Здаўшы экзамен, Раман весялеў, з твару сходзіла тая напружанасць, у якой часта адзначалася пакута, і ўжо звычайным чалавекам ішоў, куды яму было трэба. А калі ў яго памяці гублялася якая-небудзь шрубка, стараста раптоўна спыняўся сярод вуліцы, пазіраў на паперы, пазіраў доўга і напружана, пры гэтым ён пакручваў галавою і часта страчваў надзею адшукаць гэтую згубленую шрубку. Тады ён зноў вандраваў у валасць і нёс на сваім твары выяўны смутак.

Дзіцячыя галасы гучнелі і мацнелі, і дужэй даносіліся да кватэры настаўніка. Лабановіч пачуваў нейкае лёгкае хваляванне: у гэты дзень твар у твар спаткаецца ён з тымі дзецьмі, якія даручаюцца яму і маральны адказ за якіх ён павінен узяць на сябе. Розныя мыслі аб школе займалі Лабановіча і раней. Цяпер яны захапілі яго яшчэ з большай сілай. Выпаўненне аднае школьнае праграмы яго не здавальняла, і сваё галоўнае назначэнне, як настаўніка, Лабановіч вызначаў так: абудзіць у вучнях і выклікаць да дзеяння крытычны розум, каб да кожнай з'явы і факта яны падыходзілі з пытаннямі — як выніклі? у чым іх прычыны? і, наогул, каб да ўсяго падыходзілі свядома. У гэтым абуджэнні крытычнае думкі Лабановіч бачыў пачаткі таго вялікага соцыяльнага зруху, які павінен пралажыць прасторную дарогу да новых формаў жыцця. Бо калі чалавек пачне разважаць, дашуквацца прычын таго стану, у якім ён знаходзіцца, то ён напэўна не пагодзіцца з сваёй доляй і будзе старацца, каб ад-

ваяваць сабе лепшае месца на свеце. І калі ў чалавека раскрыюцца вочы, то ён сам сабе выбера дарогу і сам за сябе будзе несці адказ. Навязваць-жа людзям сваю волю, вымагаць ад іх, каб яны рабілі іменна так, а не іначай, мы не маем права, бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся? Гэтым і тлумачыцца той факт, што павадыры, якія захаплівалі жарам свайго перакакання людскі натоўп і вялі яго за сабою, — вялі толькі да тае граніцы, ад якой пачыналіся розныя перашкоды. Натоўп не разумеў гэтых перашкод, адалець іх у яго не было ахвоты. На гэтым пункце вынікалі непаразуменні. Павадыр з гарчэчаю ў сэрцы казаў: «О, сляпы, нікчэмны натоўп, стада жывёлін!» А натоўп крычаў: «Ты — ашуканец! Пабіць цябе каменнямі!».

Ужо колькі разоў паглядаў настаўнік на гадзіннік, думаючы, ці не пара яму ў школку.

Праўда, сёння толькі пачатак, толькі збор дзятвы, і ён покі што азнаёміцца з імі і зробіць запіс у журнал. Усё-ж такі на сэрцы будзе спакайней: будуць зроблены хоць сталыя крокі да работы.

А дзеці, крыху асвойтаўшыся, пачыналі гусці смялей і весялей. Часамі чулася іх беганка па скамейках, смех і крыкі. Некаторыя ціхенечка падыходзілі да дзвярэй кватэры настаўніка і з найвялікшаю цікавасцю заглядалі ў іх шчылінкі. Таксама забягалі яны і ў кухню пад патрэбаю напіцца вады. Яны баязліва тапталіся, азіраліся, а некаторыя паціху пыталі ў бабкі:

— А што, бабка, ён сярдзіты?

І калі Лабановіч паказаўся ў кухні, то яны, як мышы, заглездзеўшы ката, кінуліся наўцёкі.

Старожка залілася вясёлым доўгім смехам: яе вельмі насмяшылі дзеці і іх страх перад настаўнікам. Яна перасказала, як распытвалі пра яго вучні, паціраючы свае вушы, як-бы раней пагадзіўшыся з тым, што іх будуць круціць.

У школьнай зале вучняў было дзесяткі два. Як толькі паказаўся там Лабановіч, яны завілі з усіх канцоў школы і цясней збіліся ў гурт, як спалоханыя авечкі, і ўжо адтуль пазіралі на свайго настаўніка, як на якое дзіва. Значна большая частка іх былі новыя. Усе яны былі абуты ў лапці, насілі, як і старыя палешукі, суконныя

світкі-катанкі, чорныя або светлыя. Грудзіны іх, як і ў іх бацькоў, былі расхлістаны.

Настаўнік павітаўся з імі, прычым адказ на прывітанне далі колькі хлопчыкаў, якія ўжо вучыліся ў школцы.

— Што-ж вас так мала? — спытаў іх Лабановіч.

— Яшчэ прыдуць, — адказаў адзін з старэйшых.

— Заўтра будзе й болей, — дадаў другі.

— А вы, дзеткі, яшчэ першы раз прышлі да школкі? — мякка прамовіў настаўнік да малышоў.

Тыя спусцілі вочы, і толькі адзін, самы храбры, прамовіў кароткае:

— Але.

## VIII

Пагаварыўшы з вучнямі і крыху разагнаўшы іх страх, Лабановіч прынёс журнал і стаў запісваць дзяцей. Дзеці смялей падыходзілі да свайго настаўніка і давалі адказы на яго пытанні. Пры гэтым часта выяўлялася прастэча і непасрэднасць дзіцячай істоты, якая вельмі развясельвала настаўніка і ўсю школу, выклікаючы цэлыя выбухі смеху.

— Скажы-ж ты, галубок, — звярнуўся Лабановіч да аднаго хлопчыка, які падышоў запісвацца: — як ты завешся?

Хлопчык маўчаў і пазіраў на настаўніка сваімі яснымі вочкамі. Відавочна, у гэтым запытанні яму пачулася штось падазронае: ці няма тут якое хітрасці, каб не падшукацца часамі?

Гэта запытанне, з яго пагляду, было зусім нецікавае і непатрэбнае: хто-ж не ведае, як ён завецца?

Але настаўнік не адступаўся і зноў запытаў, як яго зваць.

— Або ты не ведаеш? — у сваю чаргу спытаў хлопчык.

— Не, не ведаю, бо каб ведаў, то не пытаўся-б.

— Ну, як-жа? Іван, ды і ўсё! — прамовіў громка хлопчык з адцяненнем лёгкай усерджанасці.

— А цябе як зваць? — спытаў настаўнік другога хлопчыка.

— Лар'ён, — весела адказаў той.

— А як завецца твой айцец?

— Кандрат.

— А як тваё прозвішча?

Хлопчык закрыў рукамі твар і пачаў смяяцца.

— Чаго-ж ты, Лар'ён, смяешся?

— Не знаю, што казаты.

А адзін палешучок, які ўвесь час сядзеў моўчкі, запытаў настаўніка:

— Чаму ты ўсё пытаеш, як мы завемося?

Малады настаўнік стараўся, наколькі мог, бліжэй падыйсці да дзіцячай душы, заслужыць іх веру, іх часта грубаватыя выхадкі ці звароты непасрэдна да яго ён прапускаў між вушэй, ведаючы той грубы асяродак, з якога яны вышлі, і маючы на ўвазе, што з часам усё гэта згладзіцца незаметна, само сабою, пад уплывам школьнага парадку і ладу, які будзе залежыць, галоўным чынам, ад яго самога. Усе іх памылкі ў гэтым сэнсе ён стараўся справіць і адзначыць так, каб не пакрыўдзіць і не зразіць чулае дзіцячае сэрца.

Першыя крокі былі зроблены. Дзеці разварушыліся, павесялелі і вышлі з таго стану замкнення, у якім яны яшчэ так нядаўна заставаліся. Лабановіч, крыху пагутарыўшы з імі, пусціў іх на пераменку. А гэтым часам пад'ехаў і айцец Кірыл. Зайшлі ў пакоік настаўніка, пагутарылі пра сёе-тое, покі пазбіраліся дзеці. А. Кірыл зараз-жа сабраўся і разам з настаўнікам пайшоў у школу. Там ён, не затрымліваючы дзяцей, адправіў кароткі малебен, сказаў невялічкае казанне дзецям, у якім ён клікаў іх да навукі, да паслушэнства і, пажадаўшы ім здароўя і разумення, даў пацалаваць крыж і акрапіў іх святой вадою.

Пасля малебену настаўнік сказаў вучням перадаць сваім таварышам, каб заўтра яны ўсе прыходзілі ў школу, і пусціў іх дадому.

З вясёлым шумам і крыкам выбеглі дзеці на вуліцу, напаўняючы яе звонкімі галасамі, і рассыпаліся па хатах. На сваім уласным вопыце пачулі яны, што школа і на-

стаўнік далёка не так страшны, як гэта складалася ў іх галаве.

А. Кірыл адмовіўся астацца выпіць чаю на дарогу, бо дзень кароткі, а дарога паганая. На развітанні папрасіў ён Лабановіча выкладаць закон божы замест яго, бо яму далёка ездзіць сюды, і дзеці не будуць ведаць закону божага.

— А наконт... пенсіі мы пагодзімся, падзелім яе без крыўды.

Настаўнік згадзіўся.

— Прыязджайце да нас, будзем вельмі рады, — сказаў а. Кірыл, ужо седзячы на каламажцы, і пакінуў школу.

Лабановіч астаўся адзін. У яго пакоіку стала так ціха, што ён мімаволі звярнуў на гэта ўвагу. І была нейкая маркота ў гэтай цішы, якую пачуў ён тут першы раз. Яго пацягнула на свежае паветра, на волю. Тут ён прыпомніў, што сын самага блізкага суседа яго, пана падлоўчага, які мае хадзіць вучыцца, не прышоў. І не прышоў ён напэўна з тае прычыны, што пан падлоўчы не лічыў шляхетным пасылаць сына, не пабачыўшыся і не перагаварыўшы аб гэтым з настаўнікам, бо ён тут чалавек новы, незнаёмы; сам-жа пан падлоўчы не належаў да тутэйшага грамадзянства, патрэбы якога абслугоўвала гэта школа.

Пасля абеду Лабановіч сабраўся прайсціся. Ён вышаў на двор. На вуліцы было столькі гразі, што перайсці яе ў настаўніка нехапіла адвагі, і ён павярнуў на поле, дзе стаялі два ветракі, і зараз-жа вышаў на вузкую сцежку і пайшоў ёю. Сцежачка вяла на чыгунку. Гэта было адзінае месца, дзе можна было хадзіць, не баючыся гразі. Узышоўшы на чыгунку, настаўнік прыпыніўся, як-бы разважаючы, у які канец накіравацца. Вакол было ціха. Далёка беглі ўздоўж дарогі высокія тэлеграфныя слупы з белымі гугачкамі і роўна нацягнутым дротам. Ветру не было, а дрот бесперастанку гуў прыемным звонам, ціхім, аднатонным і жалобным, як казка гэтых панурых лясоў і балот Палесся. У бок раз'езду чыгунка, пралёгшы спачатку раўнюсенечкаю сценкаю, праз вярсту рабіла залом і гублялася дзесь у лесе. У працілежным баку характар гэтай роўнядзі захоўваўся на далёкай адлегласці,

і чуць-чуць чырванеўся з боку каля яе дамок трэцяй будкі. З таго боку чуць значна пасоўвалася чалавечая постаць. І трудна было прымеціць, куды яна ідзе: сюды ці ў другі бок. Гэтая малюсенькая фігурка адна, здавалася, ажыўляла гэты пануры і ціхі краявід, дзе ўсё як-бы знікла або прытаілася.

— Пайду на спатканне гэтай фігурцы, — рашыў Лабановіч і пайшоў.

Фігурка была так далёка, што мела выгляд тоненькага маленькага калочка. Яна ішла сюды, але трудна было адгадаць, хто гэта быў: мужчына ці кабета. Адлегласць між Лабановічам і фігуркаю змяншалася.

Мінуўшы яшчэ колькі слупоў, Лабановіч мог пазнаць, што гэта была кабета. Зазначыўшы гэта сабе, Лабановіч перастаў ёй цікавіцца і стаў цяпер разглядаць лес і балоты побач дарогі, мосцікі, рачулкі і ўсё, што больш-менш кідалася ў вочы. Лабановіч зусім забыўся аб тым, што яго перш так зацікавіла, звярнуў на гэта ўвагу толькі тады, калі між ім і тым, хто ішоў яму на спатканне, была адлегласць толькі ў два слупы. Цяпер ён заўважыў, што гэта была якаясь асоба, не належаўшая да сялянскіх кабет. Гэта была высокая, стройная дзяўчына, вельмі добра, нават з густам адзетая.

Дзяўчына здалёк колькі разоў бачліва акідвала поглядам незнаёмага маладога хлапца, а падышоўшы бліжэй, апусціла вочы. Лабановіч таксама не лічыў далікатным разглядаць яе. Але як толькі яны параўняліся, то зірнулі друг на дружку, і погляды іх спаткаліся; незнаёмая дзяўчына, як-бы спалохаўшыся, борздзенька апусціла свае чорныя, як смоль, вочы, а Лабановіч, зблізку ўбачыўшы яе твар і гэтыя бліскучыя прадаўгаватыя вочы, злёгку здрыгануўся: дзяўчына гэта была незвычайна прыгожая. Прайшоўшы крокі тры-чатыры, Лабановіч азірнуўся, каб яшчэ раз глянуць на яе. Тое самае зрабіла і зацікавіўшая яго дзяўчына. Яна, мусіць, не спадзявалася выдаць сябе такім чынам, і з губ яе сама сабою збегла прыемная і павабная ўсмешка, пасля чаго дзяўчына пайшла шпарчэй і ўжо не аглядалася.

А Лабановіч, як прычараваны, стаяў колькі хвілін і ўсё пазіраў на яе. Яму было прыемна, і нейкая радасць разлівалася ў крыві. Ён пайшоў далей, думаючы аб гэтай

незнаёмай дзяўчыне. Яе чорныя вочы, белы твар і гэта чароўная ўсмешка так і стаялі перад ім, як намаляваныя. «Хто-ж бы гэта была такая?» — пытаў ён сябе. Гэта, напэўна, з будкі тая дзяўчына, аб якой казала яму бабка. Відаць, яна ішла ў вёску да крамніка, каб купіць чаго. Яму трэба было, думаў ён, пазнаёміцца з ёю і правесці яе да вёскі, і ён пачынаў наракаць на сябе за сваю нясмеласць. Другі на яго месцы знайшоў-бы дваццаць зачэпак, каб звярнуцца да яе далікатна і проста і такім чынам пазнаёміцца, проціў чаго яна, напэўна, нічога не мела-б.

Узвесіўшы ўсё за і проціў, Лабановіч прышоў да пераканання, што ён зрабіў добра, не зачапіўшы дзяўчыны. А вось, калі зноў ён спаткае яе калі-небудзь, як сёння, адзін на адзін, то тады няйменна павітаецца з ёю, бо яны ўжо як-бы крыху знаёмыя. Дайшоўшы да трэцяе будкі, Лабановіч вярнуўся назад у надзеі, што ён зноў спаткаецца з ёю дзе-небудзь на дарозе. Ён прайшоў адну будку і другую, мінуў ужо і пераезд свайго сяла, але дзяўчыны нідзе не спаткаў. Ці не пайшла яна на раз'езд, сабраўшыся куды-небудзь паехаць? А можа яна зусім не тутэйшая і больш ніколі не з'явіцца тут? Але ў яго душы надоўга застанецца гэты прыгожы вобраз дзявочае красы. Лабановічу стала чагось шкада, як-бы ад яго нешта адарвалася і знікла.

У лесе і ў палях пачынала цямнець, і шэры асенні вечар борзда апускаўся на зямлю; разам з ім і нейкі смутак лажыўся на гэтыя пацямнелыя далі. Уся мясцовасць змяніла свой выгляд, як-бы замкнулася ў сабе самой, аддаўшыся выключна сваім думкам і свайму настрою, а ўсё другое для яе стала чужым і нецікавым.

Лабановіч дайшоў да сцежачкі каля ветракоў і пайшоў у сваю школу.

## IX

Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гродзеншчыны і паходзіў, як ён казаў сам, з старога дваранскага роду. Тутэйшае жыхарства лічыла яго палякам, сам-жа пан падлоўчы з гэтым не згаджаўся.

«Я — ліцвін», — з нейкаю гордасцю зазначаў пан пад-

лоўчы, і сваю належнасць да ліцвіноў ён даводзіў, паміж іншым, і тым фактам, што яго прозвішча мела канчатак на «іч», тады як чыста польскія прозвішчы канчаюцца на «скі»: Жулаўскі, Дамброўскі, Галонскі. Даведаўшыся, што новы настаўнік мае прозвішча «Лабановіч», пан падлоўчы пры спатканні з ім заметна выказаў адзнакі здавальнення, як гэта бывае тады, калі нам на чужыне прыходзіцца спаткацца з сваім земляком.

— То і пан — ліцвін! — весела сказаў ён маладому настаўніку і пастукаў яго па плячы. Сваё ліцвінства ён падкрэсліваў і падчыркваў пры кожным зручным выпадку:

— Мы, ліцвіны, любім піць гладка!

Лабановічу ў гэтых выпадках ён таксама казаў, калі ў яго чарцы заставалася недапітая гарэлка.

— А яшчэ ліцвін!.. Ну, які-ж ты пасля гэтага ліцвін! — казаў пан падлоўчы і з дакорам пазіраў у вочы Лабановічу: — не псуй ты мне, братка, кампаніі!

Калі-ж гэты аргумент не памагаў, то пан падлоўчы прыводзіў другі.

— Ты лепш, браток, падашукай маю жонку, але не ашуквай мяне за чаркаю гарэлкі.

І трэці аргумент, самы моцны і ўжо самы апошні, быў такі:

— Пі! пі, кажу, бо дальбог вылью за каўнер.

Гаварыў пан падлоўчы найбольш добраю беларускаю моваю. І трэба адзначыць, што пан падлоўчы ні ў якім разе не быў п'яніца, ён проста любіў выпіць «з добрымі людзьмі», а сам адзін і чаркі не выпіваў. Але і ў кампаніі «добрых людзей» ніколі не перабіраў меры. У яго была тут пэўная граніца, якой ён ніколі не пераступаў і за межы якой яго не можна было вывесці ніякімі сіламі. Што-ж тычыцца яго ліцвіналюбства, то яно яшчэ выяўлялася і ў тым, што ён вельмі любіў літоўскія калдуны. І гэтых калдуноў, як запэўняў пан падлоўчы, ён з'еў раз сто сорак штук.

— Разумеецца, пры гарэлцы, — дадаваў пры гэтым пан падлоўчы.

Першы раз Лабановіч зайшоў да пана падлоўчага вечарам таго-ж самага дня, калі хадзіў ён гуляць на чыгунку.

Пан падлоўчы спаткаў суседа-настаўніка прыветна і павёў яго ў чыстую палавіну свайго дома, дзе ён звычайна прымаў сваіх гасцей. Пакой быў прасторны, чысты, акуратна выбелены. Каля аднае сцяны стаяла канапа і вялікі просты стол каля яе, засланы белым настольнікам. На невялічкім століку недалёка ад канапы стаяла скрыначка, музычны струмант, якую пан падлоўчы і пускаў у работу, каб забавіць гасцей. Апроч яшчэ аднае канапкі каля другой сцяны і колькі простых крэсел, у пакоі гэтым больш не было нічога, і ён рабіў уражанне досыць пустога пакоя.

— Сядайце, паночку, — папрасіў пан падлоўчы госця і патрактаваў яго моцнаю папяросаю.

Гаспадар і госць разгаварыліся, прычым пан падлоўчы быў першы чалавек тут, ад якога Лабановіч пачуў добрае слова наконт гэтага месца, якое мела той вялікі козыр, што ляжала каля чыгункі. Прайшоўшыся колькі разоў па пакоі, пан падлоўчы гукнуў, абярнуўшыся да другое палавіны дома:

— Габрынька!

— Зараз, татка! — адгукнуўся ў глыбі дома звонкі дзявочы галасок. Следам за гэтым пачуліся лёгкія і частыя крокі, і ў пакой увайшла малодшая дачка пана падлоўчага. Такімі-ж борздымі крокамі падышла яна і да госця, працягнула яму сваю яшчэ дзіцячую руку, зрабіўшы прысяданне, якое Лабановіч бачыў першы раз. Ён нават спалохаўся: яму здалося, што гэта маленькая паненачка прысела ад таго, што ён наўмысля наступіў ёй на нагу.

— Чэсю! — зноў гукнуў пан падлоўчы.

Крыху счакаўшы, скробаючы ботамі, у пакой увайшоў меншы сын пана падлоўчага, хлопчык гадоў дзевяці, даволі пахмурнага выгляду і з вялікаю кучараваю галавою і прыгожым тварам. Паздароўкаўшыся з настаўнікам, Чэсь моўчкі сеў каля кахлянае печы і адтуль, як ваўчок, прыглядаўся да настаўніка.

Папрасіўшы прабачэння, пан падлоўчы адлучыўся, пакінуўшы Лабановіча з дачкою і сынам.

Панна Габрыня, смуглая, строгая і сур'ёзная дзяўчынка-падростак, звярнулася да Лабановіча з прыветнаю ўсмешкаю:

— Пан любіць музыку?

— Вельмі люблю, — прамовіў Лабановіч.

Габрыня падышла да музычнай скрыначкі, выбрала металічны кружок з нотамі, прыладзіла яго да скрыначкі, завяла яе і пусціла.

Мяккія, ласкавыя зыкі стройным сугалоссем паліліся па пакоі, напаўняючы яго прыемным звонам, і навявалі якіясь добрыя, ціхія чары. Нейкія няясныя вобразы ўсплывалі самі сабою, аб чымсі казалі і клікалі невядома куды, а на сэрцы аставалася пачуванне ўтраты чагось далёкага, чаго ўжо не вернеш ніколі і аб чым можна толькі ўспамінаць. Усе-ж драбязгі жыцця, увесь будзённы клопат, гэты мут душы, усё гэта знікала, адступала перад чарамі хараства. Скуль-жа гэты смутак? Аб чым ён? Ці не ёсць гэта тое няяснае адчуванне хараства жыцця, якое так бязжаласна, так груба папіхаецца нагамі, таго хараства, што падымае чалавека над гэтым балотам людское суяты?

Мінут праз колькі вярнуўся пан падлоўчы, а потым прышла і яго жонка. Пані падлоўчая — ужо другая яго жонка — была кабета ціхая, забітая, бо пан падлоўчы, як даведаўся Лабановіч потым, у сям'і быў чалавек жорсткі.

Габрыня зараз-жа вышла і праз колькі хвілін вярнулася з сястрой, стройнаю чарнявaю дзяўчынаю, гадоў шаснаццаці, з тонкімі прыгожа абрысованымі бровамі. Выраза яе цёмных круглых вачэй часта мянялася: то ў іх іскрыўся вясёлы смех і нахіл да жартлівасці, то адбівалася нейкае засмучэнне і тая сталасць, што рабіла ўражанне дзяўчыны, якая многа перадумала і перажыла.

Размову вялі галоўным чынам пан падлоўчы з настаўнікам, а ўсе іншыя слухалі і толькі зрэдку ўстаўлялі сваё слова. Было заметна, што прысутнасць пана падлоўчага стрымоўвала іх, прымушала трымацца нейкіх граніц, якія з'яўляліся вынікам практыкі сумеснага жыцця.

Пан падлоўчы вельмі ўспагадна ўспамінаў настаўніка, якога змяніў Лабановіч.

— Што мне падабаецца ў пана Турсевіча, дык гэта тое, што ён умеў паставіць сябе ў кожным коле грамадства і меў свой асабісты гонар, — сказаў пан падлоўчы.

— Турсевіч гэта — мой настаўнік і мой зямляк, прынамсі, аднае воласці. Я лічу яго адным з выдатнейшых настаўнікаў і працаўнікоў. Ён не толькі вядзе добра справу ў школе, але і многа працуе над самім сабою; чалавек многа чытаў і многа думаў. Гэта адзін з тых маіх сяброў, якіх я вельмі шаную і паважаю.

— Як-жа, паночку, ён быў панскім настаўнікам? Здаецца, розніца ў вашых гадах не такая вялікая? — запытаўся пан падлоўчы.

— Ён старэйшы ад мяне гадоў на чатыры, і калі ён скончыў першую школку, то я яшчэ пачынаў толькі вучыцца. Ён цэлую зіму быў маім дарэктарам, маім і маіх братоў.

— А, хіба што так.

— Дык пан добра знае пана Турсевіча? — спытала пані падлоўчая: — ах, які гэта быў рэдкі чалавек! — дадала пані падлоўчая і зірнула на мужа, як-бы хочучы прачытаць на яго твары, ці добра яна сказала.

— Пан Турсевіч у школе быў строгі, — адгукнуўся малы Чэсь з-пад кахлянае печы.

Пан падлоўчы павярнуў галаву ў бок сына і, смеючыся, прамовіў:

— А што-ж з вамі іначай зробіш? Дай вам волю, дык вы і школу павернеце, і толку з вас ніякага не будзе.

Паненкі засмяяліся.

— Я, вось, буду прасіць пана настаўніка, каб цябе часцей на калені ставіць ды яшчэ грэчкі падсыпаць.

— У пана настаўніка і грэчкі няма, — сказала Ядвіся і ўскінула на настаўніка свае вясёлыя смяшлівыя вочы.

Лабановіч зірнуў на яе. «Слаўная дзяўчынка», — падумаў ён.

— Ну, то я прышлю, цэлую асміну прышлю, — сказаў пан падлоўчы.

— Чэсь будзе такі добры ў мяне вучань, што да грэчкі ў нас не дойдзе. Праўда, Чэсю?

Сёстры зноў засмяяліся.

Чэся яны знали лепей і, як відаць, схіляліся да погляду таткі наконта грэчкі для Чэся.

Чэсь-жа ўгнуў галаву, не зусім пэўны ў тым, што справа без грэчкі можа для яго абыйсціся.

— Ну, як там гарбата? — спытаў пан падлоўчы жонку.

Пані падлоўчая зараз-жа ўстала, кіўнула Габрыні і вышла разам з ёю.

Стол заслалі, прынеслі талеркі з вяндлінаю, якую так добра ўмеюць прыгатаўляць і падаваць у панскіх дамах на Беларусі, і селі піць чай. Лабановіч пачуваўся тут добра і вольна і ўвесь час вёў размову то з гаспадарамі, то з паненкамі. Пан падлоўчы, выпіўшы шклянку, устаў, папрасіў прабачэння, што не можа больш заставацца, што ён мусіць ехаць па службе, і вышаў.

Пасля гэтага паненкі пачулі сябе вальней. Яны смяяліся, жартавалі, распытвалі настаўніка аб усім: ці быў ён у воласці, з кім там пазнаёміўся і як каго знаходзіць.

— А вы не знаеце панны Марыны? — запытала настаўніка Ядвіся.

— А хто яна такая? — спытаў Лабановіч.

— А тут на будцы ёсць адна панна.

— Я сёння спаткаў адну вельмі прыгожую дзяўчынку якраз на чыгунцы. Можа гэта і ёсць панна Марына?

— Так, гэта яна, — прамовіла Ядвіся, распытаўшыся, як яна выглядае.

Паненкі на развітанне колькі разоў напаміналі Лабановічу, каб ён часцей заходзіў да іх.

## X

Якраз за дзень да ўводзін прасвятое багародзіцы, якое прыпадае 21 лістапада, у вёсцы Цельшына паўстала вельмі важнае пытанне аб тым, калі святкаваць гэта свята: сёння ці заўтра? І паўстала гэта пытанне, як заўсёды і ўсе важныя пытанні, выпадкова.

Старая Лукашыха Аўгеня прышла да свае суседкі Югасі пазычыць падсітак прасеяць мукі. Прышла яна якраз у той час, калі трэба ўжо тушыць у хаце агонь. Аўгеня зразу-ж звярнула ўвагу, што ў хаце яе суседкі былі ўсе адзнакі свята: прасніцы вынесены вон, мужчы-

ны не ўсе яшчэ былі абуты, а сама Югася падбівала цеста на аладкі і печы не падпальвала.

— Што-ж гэта ў вас, дзеўка, як-бы свята?

У Цельшыне быў такі звычай, што адна старая жанчына, зварачаючыся да другой, казала ёй «дзеўка».

— А хіба-ж не свята? — прамовіла Югася і зірнула на суседку.

— Як свята? Што ты, дзеўка, гаворыш?!

— А так што свята! — цвёрда і пэўна адказала Югася.

— Ах, божачка мілы! А я-ж думала, што заўтра! — ускінула рукамі Аўгеня: — Лукаш мой даўно пайшоў у клуню малаціць грэчку!.. І сама я ўсю раніцу прала!.. А-а як-жа я гэта думала, што свята заўтра? Ах, матачкі мае родныя!

Аўгеня борздзенька павярнулася і вышла з хаты, нават і падсітка забылася пазычыць. Вышаўшы на вуліцу, яна на мінутку прыпынілася, а потым раптоўна кінулася да Нупрэя Бабка.

— Што я прышла ў вас спытаць: сёння свята ці заўтра? — запытала Аўгеня і кінула вачыма па хаце.

Нупрэй зусім яшчэ не падымаўся, ляжаў спіною на печы і грэўся, як кот, падкурчыўшы ногі, бо яны былі доўгія і, не гледзячы на прасторную печ, не маглі на ёй, як мае быць, змясціцца.

— А пэўне сёння,—адказаў ён з печы. Праўда, яго голас вялікага аўтарытэту нідзе наогул не меў, а ў пытаннях свята тым болей, бо Нупрэй Бабок нічога не меў проці таго, каб святкаваць і будныя дні. Але і Маланння, жонка яго, таксама пасведчыла, што свята сёння.

— Ах, матухны, — зноў пляснула рукамі Аўгеня: — усе людзі святкуюць, адна я, як тая дурная калатоўка, соваюся: ні свята, ні спакою не бачу. — І Аўгеня чуць не бягом вымелася з хаты і пабегла дамоў, але надта знаёмае ёй тухканне ў Міколкі Стукача адразу затрымала яе на месцы: калі сёння свята, дык чаму-ж у Стукача таўкуць ячмень? Не думаючы доўга, Аўгеня кінулася да Стукачовых.

Першае, што ўбачыла яна там, была ступа і дзве маладзіцы, нявесткі дзеда Стукача: маладзіцы стаялі адна

напроціў другой з таўкачамі і заложна таўклі куццю. Міколка Стукач, лысы дзед з сівою бародкаю, падплятаў лапаць. Бабка Стукачыха прала кудзель. Грук таўкачоў глуха аддаваўся па хаце, і пасля кожнага стуку штось бразгацела на паліцы, дзе стаялі міскі з лыжкамі.

Здзіўленая Аўгеня спынілася на парозе.

— А хіба-ж сёння не свята? — спытала яна.

— Якое свята? — сярдзіта зірнуў на яе дзед Міколка.

— Вось, скажэце, мае мілыя: як-бы хто туману напусціў, — прамовіла Аўгеня, збітая з тропу: — адны святкуюць, другія кажуць, што свята няма.

— Хто святкуе? — запытала бабка Тацяна.

— Я і сама думала, што свята павінна быць заўтра, аж прыходжу да Рамковых — святкуюць, Югася аладкі падбівае; зайшла да Бабковых — і там святкуюць. Прыходжу да вас, — у вас тут будны дзень. Каму-ж верыць?

— А можа і сёння свята, — ужо другім тонам разважае дзед Стукач. Маладзіцы прыпынілі сваю работу. Адна абаперлася на таўкач, не вымаючы яго з ступы, а другая трымала таўкач у руцэ. Яны таксама задумаліся над пытаннем аб свяце.

— Уводзіны святкуюць на восьмай нядзелі ад Пакроў, — вылічала бабка Тацяна: — колькі-ж гэта нядзель ад Пакроў?

— Ну, якраз восьмая нядзеля і пайшла, — сказала Аўгеня.

— Мабыць, свята такі сёння, — пасля развагі прамовіў дзед Стукач, кінуўшы на зямлю лапаць, і пачухаў галаву ніжэй лысіны.

— Матка! а калі гэта да нас Шпак з будкі прыходзіў? — спытала адна маладзіца сваю свякроў, бабку Тацяну: — тады казалі, што да гэтага свята засталося адзінаццаць дзён.

Дзед Стукач, бабка Тацяна, нявесткі і старшы сын Стукача, Апанас, пачалі вылічаць, калі ў іх быў Шпак з будкі. Выходзіла, што адзінаццаць дзён якраз прайшло. Бабка Тацяна вынесла сваю прасніцу, маладзіца Мар'яна сказала, што куцця ўжо стаўклася; стоўчаны ячмень

выбралі, а ступу выкацілі вон у сені: раз свята, дык свята.

Аўгеня пайшла дадому, пэўная ў тым, што сёння свята. Не заходзячы ў хату, яна пайшла да Лукаша ў клуню і накрычала на яго, што ён не святкуе і яе збіў і ўвёў у грэх.

— Ты-ж паслухай, стары пень: ці малоціць хто?

Югасю, у сваю чаргу, занепакоіла старая Лукашыха: а можа і праўда, што заўтра свята?

Накінуўшы кажух, яна пайшла да свае кумы Насты. Наста цвёрда вяла падлік святам і строга сачыла за квадрамі месяца.

— Я ўжо чула, што некаторыя збіраюцца святкаваць сёння, але свята, я напэўна ведаю, заўтра. Піліпавы хлопцы ўжо даўно паехалі ў лес з сякерамі.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як па ўсёй вёсцы і было толькі гутаркі, што пра свята, пры гэтым ясна адзначыліся два станы: святочны і будны. Кожны стан меў вельмі паважных прадстаўнікоў свайго кірунку, якія ніякім чынам не маглі дайсці да згоды, бо кожная рука мела вельмі моцныя аргументы, на якіх засноўваліся іх пазіцыі наконт свята.

Самы рух пачаўся тады, як ужо пачынала ўсходзіць сонца. На працягу ўсяе вуліцы то там, то сям стаялі кучкі палешукоў і паляшучак, дзе меншыя, дзе большыя, і ў кожнай кучцы ішла спрэчка аб свяце. Усе цельшынскія законнікі і законніцы сышліся тут і горача судзілі погляды супраціўнага стану. Мікіта Тарпак, вылажыўшы ўсе свае аргументы за заўтрашні дзень і ніколечкі не зрушыўшы станоўкасці поглядаў сваіх супярэчнікаў, плюнуў, сярдзіта павярнуўся і пайшоў да свайго двара. Яго рашучая хада і выраза твару ясна казалі за тое, што ён надумаўся зрабіць нешта такое, што павінна даць моцнае ўражанне і прынізіць тых, хто быў не згодзен з ім у пытаннях аб свяце. Ён выцягнуў нарады, палажыў на іх дошкі і стаў навальваць гной, хоць вывозіць яго цяпер ён ніколі не меў на ўвазе. Наклаўшы воз гною, ён запрог каня, выехаў на вуліцу і важна паехаў уздоўж усяе вуліцы, высока паставіўшы сахор. Пад'ехаўшы да тае кучкі народа, дзе ён нядаўна вёў дарэмную спрэчку, Мікіта пры-

пыніўся і стаў папраўляць хамут, не зварачаючы ні на каго ўвагі, усёроўна як-бы гэта была яго звычайная работа. Як толькі Мікіта павярнуў з вуліцы ў поле, то зараз-жа з таго боку, адкуль ён выехаў, каля студні, пачуліся два жаночыя крыклівыя галасы. Галасы ўсё мацнелі і набіралі болей злосці. Гэта лаялася Аўдоля Латачыха з жонкаю Мікіты, Акуляю. Яны даўно ўжо былі не ў ладах, цяпер-жа гэта свята было толькі зачэпкаю для таго, каб даць волю языкам. Латачыха сыпала словы, як гарох. Мусіць, не раз практыкавалася яна ў сваіх мыслях у гэтай лаянцы. Здавалася, яна толькі адчыніла рот, а словы самі, як гарох з мяшка, сыпаліся і сыпаліся. Акуля не паддавалася. Жанкі крычалі то па чарзе, то адначасна. Палаяўшыся з поўгадзіны каля студні, яны разышліся: адна пайшла ў адзін канец вуліцы, другая — у другі, бо ім збрыдла лаяцца, і гэта не давала жаданых вынікаў. І, каб дапячы адна другой, яны пайшлі па вёсцы выстаўляць адна другую перад людзьмі. Тут мелася на ўвазе, галоўным чынам, вастрэй падцяць свайго ворага.

— Ах ты, чортава шлюндра! Пайшла па вуліцы зубамі званіць, языком мянціць, каб ён табе высах ды выпетраў, — крычала Акуля. — Ідзі, ідзі, так вось і паверанць табе, брахусе. Думаеш, не ведаюць людзі, як ты да Міхалкі ў клуню бегала, га? Ведаюць людзі, за што цябе Крупеніч з раз'езду гарэлкаю частуе, каб цябе лейцамі частавалі... Ведаюць, не думай таго!.. Ты думаеш, не ведаюць, як ты з дарожным майстрам ночы гуляеш, як ты ў яго дзесяць рублёў падчапіла!.. Капач ты з-пад цёмнае хмары, хлеба замясіць не ўмееш, хаты ніколі, як людзі, не падмяцеш, каб табе вочы замяло!

Аўдоля, у сваю чаргу, ідучы ў другі канец вуліцы, вяла сваё казанне; і тая і другая зрэдку прыслухваліся адна да другой і, такім чынам, адна другую скарыстоўвалі ў сваіх казаннях.

— На мяне людзі глядзяць, бо я харошая, а на цябе і сабакі пазіраць не хочуць. Зайздросна табе?.. А ты забылася, як цябе бабка Тацяна на сваім двары злавіла! Чаго-ж ты хадзіла туды? Чужых курэй сачыць? А гарбузы з гарода ў Рамковых хто цягаў, каб з цябе

кішкі павыцягалі? А хто, калі не твой Мікіта, у дзеда Андрэя баранінку краў? Гэтага, можа, не ведаюць людзі, дык няхай-жа ведаюць...

Палешукі стаялі, як строгія і справядлівыя суддзі, але сур'ёзныя твары іх часта рабіліся вясёлымі, і дружныя покаты смеху напаўнялі вуліцу, пры гэтым палешукі, як па камандзе, адкідвалі назад галовы і выпучвалі жываты. Але гэта было толькі ў тых выпадках, калі хто-небудзь з кабет, пераступіўшы ўсякія граніцы жаночага ўшанавання, адпускалі што-небудзь вельмі жыццёвае і сакавітае.

І ўсё-ж такі вёска не прышла да згоды. Адны святкавалі сёння, другія — заўтра. А некаторыя, каб не ашукацца, святкавалі два дні.

Гэта няяснае пытанне аб свяце адбілася і на школе. Лабановіч, прышоўшы ў школу, заўважыў, што палова вучняў не прышла.

— Чаму-ж вас так мала прышло?

Дзеці перадалі гісторыю спрэчкі аб свяце, а разам з тым і прычыну адсутнасці вучняў.

## XI

Работа ў школе наладзілася.

Малады настаўнік укладаў у яе сваю душу і сэрца. Кароткія зімнія дні праходзілі незаметна, іх нехапала на тое, каб як след правесці работу. Як толькі добра развіднялася і была магчымасць весці лекцыі, Лабановіч ішоў у школу, размеркаваўшы сваю работу між чатырох куп школы.

Многа патрабавалася ўмення на тое, каб кожная купа была занята і не сядзела без работы. Многа трэба было энергіі і старання, каб кожная купа была зацікаўлена ў сваёй рабоце і ўвесь час трымаць школу на вышыні таго ці іншага настрою. Удзень школа распушчалася на паўтары гадзіны для абеду. Пасля абеду лекцыі зноў ішлі да самага вечара, покі не цямнела. Часта са старэйшымі вучнямі лекцыі вяліся і вечарамі пры лямпе. Скончыўшы дзень, настаўнік яшчэ доўга сядзеў над

сшыткамі сваіх вучняў і папраўляў іх. Маладых сіл было многа; здавалася, ніколі не вычарпаеш іх, і расходаваліся яны так, як расходуе з восені заможны, але мала мяркоўны і непрактычны гаспадар багаты збор ад свае нівы.

Але ў сваёй рабоце чэрпаў малады настаўнік і поўную чару высокага здавальнення, пазіраючы, як дзеці набіраліся знання, лёгка асільвалі тое, што яшчэ ўчора здавалася ім незразумелым і трудным. Больш разбітных і здольных сваіх вучняў любіў ён той любасцю, якая можа быць толькі ў настаўніка да сваіх выхаванцаў. І нейкая ўцеха брала маладога настаўніка, гледзячы на гэтых маленькіх змыслых палешучкоў. Ім і дазвалялася шмат болей таго, чаго не павінны былі рабіць звычайныя вучні, бо ў Лабановіча ў школе быў строгі парадак. Хоць гэта патуранне было і шкодна з педагагічнага боку, і Лабановіч гэта ведаў, але падолець гэту сваю слабасць ён не мог ніякім чынам. З другога боку, трэба сказаць, што ад гэтых лепшых вучняў і вымагалася болей. Скончыўшы дзень у школе і перагледзеўшы работы вучняў, Лабановіч часта падводзіў падрахункі дню; пры гэтым разважаў ён і аб тым, як трэба абыйсці тыя пахібы і памылкі, без якіх так трудна бывае ўхінуцца ў школе маладому, мала вопытнаму настаўніку. Усе тыя спосабы, якія так гладка і проста напісаны ў методыках, часта зусім не падыходзілі і не адпавядалі ўмовам школы, трэба было тут-жа выдумляць іх самому. А колькі часу прыходзілася траціць на тое, каб дастасаваць мову дзяцей да кніжнае мовы! І колькі смешных і непажаданых выпадкаў вынікае на грунце гэтага непаразумення ў школе, дзе мова мацеры зневажаецца і забіваецца!

Часамі настаўніку здавалася, што яго школа адстае, што дасягнутыя вынікі нязначныя, і што, наогул, ён няважны настаўнік. Трэба ўжыць тут штосьці новае, трэба аджывіць школу, бо спосабы яго заняткаў у школе так замацаваны, што яны напэўна перасталі быць цікавымі для дзяцей. У такія мінуты настрой яго спадаў, яму рабілася не па сабе.

«Трэба будзе даведацца да Турсевіча і пабачыць, як ён вядзе сваю справу», — падумаў Лабановіч і цвёрда рашыў у першае-ж свята паехаць да свайго старога

настаўніка. Ён абдумаў маршрут. Праўда, маршрут гэты просты: пайсці на раз'езд, як-небудзь сесці на таварны цягнік і паехаць. Ад станцыі яго сябар жыў за вярсты дзве, а язды поўстанцыі. Калі-ж не ўдасца паехаць машынай, то ў яго — маладыя ногі, да хады прывычныя. Развязаўшы пытанне такім чынам, Лабановіч заспакоіўся і хацеў засесці за кнігу.

Якраз увайшла бабка.

— А што, панічыку: чай піць будзеце?

— Чай? — спытаў настаўнік і заспяваў:

Чай, чай,
Прымячай,
Куды чайкі ляцяць!

Бабка падперла рукамі шчокі і пачала смяяцца.

— Смешны вы, панічок, яй-богу!.. Ах, няхай вы здаровенькі былі!

— А ведаеш, бабка, што я надумаўся?

— Бог вас ведае, панічок.

— У гэту нядзельку, бабка... ці там нікога няма? — ціха і таемна кіўнуў настаўнік у бок кухні.

— Няма, панічыку! — ціха адказала бабка, нарыхтаваўшыся пачуць нешта вельмі цікавае.

— Дык нават, бабка, не ў нядзельку, а ў суботу нанач надумаўся я паехаць у госці да таго паніча!

— А я-ж, панічок, думала, што вы скажаце пра другое, — сказала, смеючыся, бабка: — чаму-ж, панічок, не паехаць? Вядома, збярэцеся...

Дзверы ў кухню стукнулі, і туды хтось увайшоў.

— Гэта, мусіць, бабка, да цябе хтось лячыцца прышоў.

Бабка борздзенька павярнулася і ў дзвярах спаткалася з Чэсем.

— Татка прасіў, каб вы зайшлі да нас, — прамовіў Чэсь Лабановічу.

— Добра, Чэсь: я зараз прыду. У вас там, можа, хто ёсць?

— Пан Сухавараў з раз'езду.

— Ах, Чэсь! Як-жа гэта ты такую штуку мне ў школе ўдраў? — прыпомніў Лабановіч адну дур свайго вучня, якая выявілася ў тым, што Чэсь, седзячы на лекцыі сла-

вянскай мовы, скруціў паперку ў трубачку і засунуў яе ў вуха Кандрату Кругламу.

Чэсь апусціў галаву ў знак свае віны і стаяў панурыўшыся.

— Не рабі ты, брат, так ніколі.

Чэсь вышаў. Крыху счакаўшы, вышаў і Лабановіч.

За сталом на крэсле ў пакоі пана падлоўчага сядзеў памочнік начальніка раз'езду, пан Сухавараў, нежанаты, яшчэ малады хлопец, адзеты ў парадны мундзір; ён падкручваў свае чорныя вусікі. На канапе проціў яго сядзела панна Ядвіся. Яна была ў прыгожай чырвонай кофтачцы, якая вельмі ішла да яе твару, а чорныя і пышныя валасы яе былі перахвачаны чырвонай стужкай. Панна Ядвіся выглядала вельмі цікаваю і прыгожаю дзяўчынаю. Цёмныя вочы яе з доўгімі мігаўкамі як-бы рассыпалі праменні. Яна была вясёлая і ў добрым настроі.

Лабановіч падышоў да яе і паздароўкаўся. Панна Ядвіся пазнаёміла яго з памочнікам і запыталася:

— Што гэта вас не відаць?

— А я, бачыце, крыху закапаўся ў школе...

— Уяўляю сабе, якая гэта непрыемнасць сядзець увесь дзень з гэтай вясковай дзятвой. Нанясуць лапцямі гразі, дух цяжкі, — прамовіў Сухавараў.

— Пан Лабановіч закахаўся ў сваю школу, — сказала Ядвіся.

— А можа ў вас, панна Ядвіга? — запытаў памочнік і ўскінуў на яе свае алавяныя вочы.

Відаць было, што памочнік хацеў завалодаць адзін увагаю панны Ядвісі, а настаўніка адцерці. Ён лічыў сябе вельмі цікавым кавалерам, з якім такому настаўніку змагацца ніякім чынам немагчыма.

— О, не! У пана Лабановіча ёсць больш шчаслівейшая ад мяне.

Адзін момант яна памаўчала, як-бы вельмі засмучаная, але з яе вачэй так і сыпаліся іскры смеху.

— Пан Лабановіч аддаў сэрца сваёй бабцы!

Сказала і залілася самым вясёлым сардэчным смехам. Таксама смяяліся і малая Габрынька, і Сухавараў. Смяяўся і пан падлоўчы, у гэты момант прышоўшы да гасцей.

А Ядвіся яшчэ дадала:

— Сядуць з бабкаю каля стала і варкуюць да самай поўначы.

«Аднак-жа ты ахвотніца смяяцца», — падумаў сам сабе настаўнік і таксама адказаў жартліва.

— Ну, што-ж? Палюбіць маладую і прыгожую кожны патрапіць, а вось закахацца ў старую, гэта ўжо рэч іншая.

— Так, так, — сказаў Сухавараў: — на гэта трэба мець асобны талент.

— У пана Лабановіча і ёсць гэты асобны талент, — прамовіла Ядвіся.

— Што гэта, паночку, яна да вас прычапілася? — спытаў пан падлоўчы.

— Не ведаю, — адказаў Лабановіч. — На свеце, пане суседзе, бывае так, што хто каго любіць, той таго і чубіць.

— Ха-ха-ха! — засмяяўся пан падлоўчы: — што, Ядвіська, дастала?

А Ядвіся, як і нібыта таго, спакойна, нават сур'ёзна запыталася:

— А хіба-ж ужо бабка чубіла вас, пане настаўніку?

— Брава! брава! — запляскаў у ладкі памочнік, а пан падлоўчы громка засмяяўся.

— Дык вас, пане настаўніку, бабка чубіць? — спытаў ён, не перастаючы смяяцца.

За гэтым агульным смехам Лабановічу не ўдалося нічога адказаць, і верх заставаўся за паннаю Ядвісяю.

Размова пайшла па другому кірунку, і гаварыў болей памочнік. Гаварыў ён гладка і востра і часта выклікаў вясёлы смех сярод сваіх слухачоў і слухачак. Панна Ядвіся часта кідала на яго свае цёмныя выразныя вочы з-пад тонкіх дужак броваў. Лабановіч маўчаў. У яго было такое пачуццё, як-бы ён быў тут зняважан і пакрыўджан. А пан Сухавараў вельмі зацікавіў Ядвісю Вільняю і тэатрам, сам ён крыху спяваў, але толькі пад гітару. Другі раз абяцаўся ён прыйсці з гітарай, бо панна Ядвіся яго вельмі прасіла. За ўвесь гэты час яна ні разу не глянула на свайго суседа — Лабановіча.

— А ты, Ядвіська, калі ласка, заспявай, — звярнуўся пан падлоўчы да дачкі.

— Пан Сухавараў смяяцца будзе, — прамовіла Ядвіся, апусціўшы вочы, а потым ускінуўшы іх на памочніка.

— Што вы? Што вы? — усхапіўся Сухавараў, просячы яе заспяваць.

Ядвіся адышлася далей у куток каля кахлянай печы і заспявала:

Чы я ў полі не калінаю была?

Голас у яе быў малады, свежы, сакавіты. Спявала яна з такім праўдзівым пачуццём, што рабіла вельмі добрае і прыемнае ўражанне.

Лабановіч слухаў тэтыя спевы, і нейкая жаласць ахоплівала яго. Яму хацелася падыйсці да гэтай дзяўчынкі і запытаць яе:

— Скажыце, якое гора ў вас на сэрцы?

Сухавараў многа і доўга хваліў панну Ядвісю, а яна стаяла, апусціўшы вочы, і, здаецца, чакала пачуць слова ад Лабановіча. Настаўнік сумыслу не сказаў нічога.

Развітваючыся пасля вячэры, панна Ядвіся была сур'ёзна і не папрасіла суседа заходзіць да іх вечарамі.

## XII

Лабановіч пачуў, што на душы ў яго штось неспакойна. У чым выяўляўся гэты неспакой, ён і сам не мог вызначыць. Не было цяпер і той цэласці і яснасці, з якой жыў ён тут у першыя дні свайго прыезду. То тое, то другое пачынала забіваць душу, адцягаць і раскідаць яго ўвагу, і ён як-бы падзяляўся на асобныя часткі, якія не мелі цеснай сувязі адна з другою. Нейкае нездавальненне псавала яго добры настрой.

Лабановіч доўга хадзіў па пакоіку, намячаючы больш-менш сталы і пэўны лад свайго жыцця. Трэба глыбей увайсці ў сябе самога і заняцца чым-небудзь болей важным і сур'ёзным, не траціць час на такое глупства, як сядзець па вечарах у кампаніі такіх асоб, як Сухавараў, які нават нічога добрага не бачыць у яго

школьнай рабоце. Сухавараў яму не спадабаўся. «Хлюст» — назваў яго ў думках настаўнік, уявіўшы сабе яго вобраз, яго ласыя вочы, якімі ён аглядаў панну Ядвісю, яго крыху звіслую губу. «Гроша няма за душою». Настаўнік доўга хадзіў па пакоіку, і цень яго, подлуг таго, як зблізкаўся ён з лямпаю або адыходзіўся ад яе, то падаўжаўся, то карчавеў, а ў стыках сцяны і столі борздзенька пераломліваўся і забягаў на столь. Колькі разоў мімаволі вочы яго ўзнімаліся на вокны пана падлоўчага. Яшчэ думаў настаўнік і аб панне Ядвісі.

Можа і Сухаварава не ўспадабаў ён за тое, што яна аддавала відочную перавагу яму... Э, глупства! перапыніў настаўнік свае думкі. Трэба абавязкова паехаць да сябра і крыху праветрыцца і скінуць той фуз, які ўжо патрошку пачынаў набірацца ў ім.

Але задуманы план паездкі яму прышлося адлажыць. На другі-ж дзень да яго зайшоў арцельны стараста Бабініч, пазнаёміўся з ім і вельмі прасіў да сябе ў госці на чацвертую будку. Стараста Бабініч меўся паслаць у школу да Лабановіча сваіх дзяцей — сына і дачку. А вучні з чыгункі былі платныя, складалі, такім чынам, даход настаўніку. Пенсія настаўнікам была надта малая, і кожны вучань збоку быў значнай дапамогай у іх скарбавых справах. Ніякія довады Лабановіча за тое, што ён мусіць паехаць да сябра, Бабініч не браў пад увагу.

— Паспееце пабыць і ў сябра. Пабудзеце ў мяне, а вечарам і да сябра паедзеце, тым болей, што святаў назбіралася многа.

Бабініч належаў да тых людзей, якія не так-та лёгка адступаюцца ад сваіх планаў, і ён да таго часу не пакінуў Лабановіча, пакуль не ўзяў з яго слова быць у гасцях.

Як толькі Бабініч вышаў, у пакоік увайшла старожка.

— Напэўна, панічыку, арцельны ў госці запрашаў? — спытала яна.

— А скуль ты, бабка, гэта ведаеш?

— А як-жа, панічок: ён будзе сваіх дзяцей да вас аддаваць. Мне жонка яго ўжо казала аб гэтым. А ста-

раста такі чалавек, што любіць аддзякаваць. І пачастуе, і заплаціць.

Бабка ведала ўсіх будачнікаў па адзін і па другі бок раз'езду і вельмі раіла пагасцяваць у Бабініча.

— Вельмі добрыя людзі, — казала яна.

— Што-ж? Нічога не зробіш, бабка: трэба папакутаваць — пайду.

— Якая-ж гэта пакута? От, паніч! І вып'еце, і закусіце.

— А ты, бабка, любіш выпіць?

— А хто-ж яго не любіць, панічыку? Калі трапляецца, то чаму-ж не выпіць?

У першы святы дзянёк вышаў настаўнік на знаёмую яму сцежку, каля двух ветракоў, і пайшоў на чыгунку. Гэта сцежачка і гэта месца вельмі падабаліся Лабановічу, і хоць ён даваў кругу, ідучы па сцежцы каля ветракоў, але часу ў яго было многа, а спяшацца яму некуды было. На чыгунцы ён затрымаўся. Яму хацелася пайсці ў бок раз'езду, ісці доўга-доўга па гэтых шпалах між развіслых шырокіх лазовых кустоў, хмызняку і лесу. Было зусім ціха. Распагодзілася. Нізка стаяла асенняе сонца, і нейкаю маркотаю патыхала ад усяго гэтага цеснага краявіду і ад гэтае вёсачкі, закінутай між балот і лясоў. Каротка і адрывіста раўнуў паравоз на раз'ездзе, і ціхенька здрыгануліся рэйкі, і нейкі лёгкі, ледзьве чутны шолах прабег па іх, як-бы яны аб чымсі перамаўляліся між сабою.

І зараз-жа на заломе выбухнуў велізарны клуб белаватага дыму; за ім выкідаліся другія клубкі, і следам за гэтым паказаўся паравоз кур'ерскага цягніка. Клубчасты, кучаравы хвост дыму ўсё падаўжаўся, шырыўся і, здавалася, нерухома застыў у марозным паветры, тады як галава яго ўсё выцягалася як-бы з свайго ўласнага цела. Было штось велізарнае, магутнае і захопліваючае ў гэтым імкненні цягніка, і мімаволі хацелася схіліць галаву прад геніем чалавечага розуму, атрымаўшага верх над бясконцымі адлегласцямі. Цягнік праімчаўся, як змей, абдаўшы віхрам пылу і дыму настаўніка, адсякаючы кожную мінуту цэлую вярсту. Лабановіч зрушыў з месца і пайшоў у той бок, куды паляцеў і за-

раз-жа знік магутны цягнік. Настаўнік ішоў на чацвертую будку да Бабініча. За другою будкаю пачынаўся высокі бор, і месца было больш высокае і вясёлае. Настаўнік падышоў да таго месца, дзе ён спаткаўся з незнаёмаю дзяўчынаю. Ён часта думаў аб ёй, але ні ў кога не пытаўся пра яе, бо людзі ў такіх выпадках заўсёды схільны ахаяць і кінуць хоць маленькі камячок гразі на тое, што для яго было святым і недатыкальным. Толькі з паннаю Ядвісяю, і то толькі між іншым, была аб ёй гутарка. Сёння ён напэўна як-небудзь даведаецца аб ёй. А можа яна будзе таксама ў гасцях? А можа гэта зусім не тая дзяўчына? Ідучы каля трэцяе будкі, дзе жыў Курульчук, Лабановіч азірнуў яе бачлівым поглядам, але там было ціха і нікога не відаць. Другая будка, чацвертая ад сяла, была не больш, як за поўвярсты ад трэцяе.

— Калі ласка! калі ласка! — спаткаў стараста настаўніка на ганачку свае будкі і павёў яго да пакоіка.

У пакоіку яго спаткала гаспадыня, нізкая жанчына. Па яе фігуры адразу трудна было вызначыць, што перамагае ў ёй: таўшчыня ці вышыня. Маленькая з надворку, будка ў сярэдзіне была досыць памясцоўная. У ёй была кухня, праходны пакойчык і яшчэ два пакойчыкі, шмат прастарнейшыя, светлыя і чыстыя. Гасцей тут было чалавек з восем: тры мужчыны і кабеты. З боку камода каля аконца сядзела тая самая дзяўчына, з якою спаткаўся Лабановіч, гуляючы па чыгунцы. Вітаючыся з гасцямі, настаўнік, убачыўшы панну Марыну, — бо гэта была яна, — мімаволі спыніўся на адзін момант перад ёю: гэты незвычайна прыгожы твар як-бы прычараваў яго. Разгледзеўшы панну Марыну зблізку, Лабановіч знайшоў, што такой слаўнай дзяўчыны ён яшчэ ні разу не бачыў. Цёмныя чыстыя вочы, крыху як-бы чымся засмучоныя, пазіралі так панадна і з такою дабратою, што ад іх погляду рабілася лёгка на сэрцы! На высокі белы лоб навісалі чорныя-чорныя валасы і дадавалі яе твару яшчэ больш хараства. Тонкія замкнёныя вусны рабілі яе твар разам з тым і крыху строгім і сур'ёзным.

— Здаецца, гэта з вамі спаткаўся я тады? — спытаў Лабановіч, павітаўшыся з дзяўчынаю.

Панна Марына ўсміхнулася.

— Так, гэта я ішла тады ў вашу вёску.

— Ну, і моладзь! — сказаў Бабініч: — як скора патрапляюць яны сустракацца! — Бабініч, відаць, успеў ужо хваціць колькі чарак, бо язык яго, наогул распушчаны, не ведаў стрымання і пачынаў плявузгаць такія рэчы, ад якіх было сорамна не толькі паненкам і кабетам, але часта і мужчыны апускалі вочы або хадзілі ад смеху. Бабініч у гэтым сэнсе быў вядомы дзівак і ніякім чынам не мог абыйсціся без таго, каб не ляпнуць чаго пры кабетах. І гэты талент Бабініча асабліва вызначаўся тады, калі ён добра выпіваў.

Праз колькі мінут Бабініч і яго жонка-кадушка прасілі за стол гасцей. На стале было многа закускі, а яшчэ больш гарэлкі. Гаспадыня прасіла гасцей вельмі далікатна, а гаспадар проста пхаў іх з пагрозамі даць каленам, калі хто не надта шпарка займаў за сталом месца.

— А ты чаго стаіш і топчашся, як таўкач той у ступе? — накінуўся ён на будачніка Лобука.

— Садзіся, Лобук, садзіся! — смяяўся высокі, відны сабою, шырокаплечы Курульчук, швагра панны Марыны.

Госці жыва паселі за стол.

Акінуўшы вокам кампанію і тую гарэлку, якая стаяла на стале, Лабановіч цвёрда пастанавіў гарэлкі не піць, бо нейкае прадчуванне засцярогі падказвала яму ад гарэлкі ўстрымацца. І вось, калі першая чарка дайшла да яго, то ён падзякаваў гаспадару і перадаў яе сваёй суседцы, жонцы вакзальнага жандара. На твары Бабініча намалявалася незвычайнае здзіўленне.

— Хіба-ж вы не п'еце? — панізіўшы чуць не да шэпту голас, прамовіў стараста.

— Не п'ю, — салгаў настаўнік.

— Ні аднюсенькае чарачкі?

— Ніяк не п'ю.

— Госпадзі божа, твая воля! Як-жа гэта можа быць, каб чалавек не піў? Ну, што-ж мне з вамі рабіць?

— Ой, пане настаўніку, у нас не можна, каб гарэлкі не піць, — засмуцілася і гаспадыня. Вы хоць трошачкі, а выпіце.

— Не, не! — загулі і кабеты: — як-та не выпіць? —

Настаўнік стаяў на сваім і не паддаваўся ні на якія довады.

— Панна Марына! папрасіце вы: можа на вашу просьбу госць зверне ўвагу, — звярнулася да дзяўчыны жандарыха, чырвонашчокая, дабрадушная жанчына.

Панна Марына ўсміхнулася і паказала свае белыя, як калядны снег, зубы.

— А нашто-ж прынявольваць чалавека? — сказала яна і зірнула на настаўніка.

— Вялікае вам дзякуй! — пакланіўся ёй Лабановіч.

— Эх, панна Марына, панна Марына! — з дакорам паківала галавою жандарыха і выпіла чарку гарэлкі. Пасля гэтай замешкі чарка ўжо не ведала спакою. Курульчук праз поўгадзіны зачаў сваю песню, адзіную з тых, якую ён ведаў і якую спяваў, дайшоўшы да пэўнага стопня.

Быў сабе з тапорыкам пан Ян.

Кабеты таксама разрумяніліся, як тыя пірагі пад вялікдзень у добрае гаспадыні. Бабініч зусім асалавеў, вочы яго пажаўцелі і варочаліся, як тачыла ў руках няздольнага каваля. Яго плявузгота ўжо не рабіла вялікага ўражання: да яе ўжо прыслухаліся і прыцярпеліся, і яна як-бы атрымала тут правы грамадзянскія. На гэта, відаць, звярнуў увагу і сам Бабініч, бо ў яго плявузгоце пачаўся пералом: з кожным разам забіраўся ён усё далей і далей. Ужо колькі разоў закрывала яму рот жонка і сама рагатала. Падгуляўшыя кабеты заспявалі якуюсь песню, а Бабініч закрычаў на ўвесь пакоік, вымагаючы ўвагі. Кабеты змоўклі, слухаючы, што скажа ён.

Бабініч адпусціў такія словы аб іх спяванні, што і прывычныя жанкі паўскакалі з месца. Панна Марына даўно кудысь схавалася, а сястра яе, жонка Курульчука, угневалася і сказала:

— Не, кумок: не пайду я больш да вас.

— Ну, не буду, не буду, — давячыся дымам махоркі, смехам і кашлем прамовіў Бабініч: — не буду, няхай вас халера падушыць!

Лабановічу ўрэшце абрыдла гэта п'яная гульня і гэта гразь развязанага языка. Яго толькі вельмі здзівіла,

як магла быць у такой кампаніі панна Марына. Яму было стыдна і за сябе, і за яе. Устаць і пайсці, што ён ужо колькі разоў памыкаўся зрабіць, ён не рашыўся, не хочучы пакрыўдзіць гаспадара і гасцей. Ён мусіў дасядзець да вечара, покі Бабініч не ўстаў, хістаючыся, і не знік за дзвярамі надоўга. Разам з Курульчукамі і паннай Марынай вышаў ён ад Бабініча.

Курульчукі і панна Марына прасілі яго быць з імі знаёмымі і заходзіць да іх.

## XIII

— А вас, панічыку, пыталася паненка, — далажыла бабка настаўніку, як толькі ён вярнуўся з гасцей. — Дзе-ж, кажа, бабка, твой паніч?

— Пайшоў, кажу, паненачка, кудысь на чыгунку.

— А я, кажа, хацела папрасіць кніг у паніча.

— Добра, бабка, кніг я выберу.

Лабановіч пакапаўся ў сваіх кнігах і адабраў дзве: томік дробных апавяданняў Караленкі і невялічкае апавяданне Сельмы Лагерлёф «Легенда аднаго дома».

Лабановічу хацелася перадаць іх самому, і панна Ядвіся, як дагадваўся настаўнік, напэўна хацела, каб ён сам прынёс іх. Кнігі тут былі толькі, як зачэпка. Лабановіч крыху зафанабэрыўся.

«Не, не пайду!» — зазначыў ён сам сабе.

— Вось, бабка, кнігі, занясі іх, калі ласка, паненцы.

— Добра, панічок.

Бабка крыху пастаяла, як-бы штось разважаючы, але нічога не сказала і вышла.

Лабановіч, сказаць праўду, гневаўся на панну Ядвісю — пасля таго вечара, калі быў у пана падлоўчага Сухавараў, і ён рашыў не паказвацца там. Апрача таго, вобраз другой дзяўчыны яго моцна зацікавіў і таксама крыху засланяў сабою панну Ядвісю.

І само сабою напрашалася параўнанне гэтых двух дзяўчын. Панна Марына, без спрэчкі, мела перавагу над Ядвісяю ў характве, але разам з гэтым Марына ўступала Ядвісі ў рознастайнасці праяўлення жыцця. Марына

была ціхая, сталая дзяўчына і напэўна вельмі добрая душа, але гэта была простая дзяўчына, і, адлучыўшы ад яе хараство, гэту дзявочую вывеску, ад яе засталося-б мала, тады як Ядвіся была натура больш многалучная, больш жывая, якая яшчэ не выявілася і не сфармавалася ў пэўны характар.

Лабановіч усміхнуўся сам сабе: яму прыпомнілася казка пра асла. Галодны асёл папаў між двух стагоў. Ён спыніўся і пачаў развяжаць, да якога стага яму накіравацца. Развяжаў да таго часу, покі не выпрастаў ногі.

А ў канцы Лабановіч вывеў такое заключэнне, што гэтыя дзве дзяўчыны захаваюць яго ад таго, каб закахацца ў каго з іх, і яму стала весела.

— Занесла, панічыку, вашы кнігі. Паненка дзякавала вам. А чаму, кажа, паніч не прышоў? — сказала, вярнуўшыся, бабка.

Па праўдзе сказаць, настаўніку хацелася пабачыць панну Ядвісю, тым болей, што пасля таго, як быў там Сухавараў, ён з ёю не сустракаўся. І як ні хітрыў ён сам з сабою, як ні тлумачыў гэты факт, але аднаго не мог ён пабароць у сябе — не думаць аб панне Ядвісі. І што-б ён ні рабіў, аб чым-бы ён ні думаў, не-не дый устане перад ім панна Ядвіся. І чым бліжэй быў ён да яе, тым большая ўлада гэтай дзяўчыны адчувалася над ім. Калі ён быў у гасцях і бачыў перад сабою другую дзяўчыну, ён ні разу не ўспомніў аб сваёй суседцы. А цяпер, як-бы ў помсту за гэта, вобраз панны Ядвісі стаяў неадступна ў яго вачах, дражніў яго, кудысь зваў і смяяўся. А вокны ў пакоі пана падлоўчага свяцілі прынадным блескам. Цяпер там напэўна была панна Ядвіся з сястрою, бо пан падлоўчы цэлымі днямі не быў дома, а ездзіў прымаць сена ад палешукоў для графа Патоцкага; паненкі напэўна разглядалі, а можа чыталі яго кнігі. Увесь абрыс хаты пана падлоўчага выглядаў так, як-бы хацеў сказаць настаўніку.

«Хлусіш! ты ўсё-ж такі да мяне прыдзеш».

— Што за насланне! — прамовіў сам сабе Лабановіч: — або ў мяне няма сілы ўзяць сябе на паваддок?..

Яловыя шышкі! Сказаў сёння: гарэлкі піць не буду, і не піў. А сказаў не пайду да Ядвісі, значыцца і быць так!

Настаўнік зняў са сцяны скрыпку, настроіў струны і пачаў вадзіць па іх смыкам. Граў ён зусім слаба, але ўзяўся за скрыпку, каб разагнаць думкі. Ён нават імкнуўся выявіць у скрыпцы свой настрой, але з гэтага нічога не вышла, і скрыпка, як зазначыў сабе сам музыка, раўла, як галодная жывёліна, загледзеўшы свайго гаспадара. Ён кінуў скрыпку на стол, звярцеў папяросу і, момант падумаўшы, адзеўся, узяў палку і пайшоў.

У кухні каля грубкі стаяла бабка, а на зэдліку пры стале сядзела яе прыяцелька Наста.

— А куды-ж гэта вы, панічок? — запыталася бабка.

— Пайду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў, — сур'ёзна адказаў Лабановіч і вышаў на двор.

Ужо даўно звечарэла, але ў хатах усюды свяціліся агні. Настаўнік вышаў на вуліцу.

У адным канцы сяла, у бок пераезду, спявалі вясковыя дзяўчаты, і водгулле іх аднатоннай песні, адбіваючыся дзесь каля чыгункі, даносілася сюды цэлымі хвалямі мяккіх жалобных зыкаў. Простыя няштучныя матывы, крыху змякчаныя адлегласцю, хвалявалі маладога настаўніка, як нейкі няясны прываб, і разам з гэтым паглыблялі яго смутны настрой. Цёмны абрыс лесу, што стаяў недалёка за вёскай, глядзеў пахмурна і як-бы казаў: «Не слухай ты гэтых песень: у іх твая атрута. Уцякай ты адгэтуль — тут усё пранята атрутаю сэрца». Але настаўнік стаяў і слухаў дзявочыя песні.

«Чаму яны такія жалобныя? Чаму ў іх мала матываў, так мала, што трудна сказаць, аб чым спяваюць дзяўчаты: аб смутку ці радасці, бо калі толькі ні пачуеш іх спевы, яны заўсёды невясёлыя? Ці не гэта аднатоннасць тутэйшага краявіду, гэтыя доўгія, бясконцыя дарогі між лясоў і балот адбілі на іх свае пячаткі?»

У колькі кроках ад Лабановіча, вынырнуўшы з цемнаты, без шуму, як цень, выступіла жаночая постаць. Параўняўшыся з агарожай школы, яна прытрымала свой крок, пайшла павальней, прыглядаючыся на вокны кватэры настаўніка. Вокны свяціліся: выходзячы з кватэры,

настаўнік забыўся патушыць лямпу. Угледзеўшы настаўніка ці толькі дагадваючыся аб тым, што гэта ён, жанчына прыбавіла крок, чуць падаючыся ў бок настаўніка. Цёмная, незнаёмая постаць яе, крыху адышоўшыся, павярнула назад і накіравалася да настаўніка.

— Вам, мусіць, нявесела аднаму? — спытала яна ціха глыбокім маладым голасам, у якім чуўся нейкі прывабны смех.

Лабановіч пачуў, што галава яго закружылася, якбы ад хмелю, а ў крыві і па ўсяму целу як-бы прабеглі іскры. Ён крыху быў ужо папярэджан і ведаў, што па глухіх вёсках Палесся, у звязку з так званаю «культураю», сустракаліся такія маладзіцы, якія набіваліся самі на сваю кампанію. Цэлы віхор розных пачуванняў пранёсся ў маладым хлопцу. Але ён перамог сябе і груба адказаў:

— Ці не думаеш ты, што мне было-б весела з табою?

Маладзіца, відаць, не чакала такога адказу. Яе жаночае самалюбства было моцна абражана гэтым грубым адказам і балюча ўшчымлена. Але яна не паказала гэтага.

— Ха-ха-ха! — засмяялася яна спакусным смехам: — хіба-ж вы святы або калека?

І ўжо другім тонам, з відочнай зняважай дадала:

— Вы можа думаеце, што я ішла дзеля таго, каб вас развясельваць?

Лабановіч, раз стаўшы на пэўны грунт і пачуўшы сябе таксама ўколатым, ужо не мог змяніць тон і лінію кіравання і ў нейкай злосці, трасучыся, сказаў:

— Няма чаго тут табе паказваць зубы, бо я іх усёроўна не бачу і бачыць не хачу.

Лабановіч чуў, што ён гатоў падскочыць да гэтай спакусніцы, каб пагнаць яе ў шыю. Таксама не ручаўся ён і за іншы вынік, і, каб быць далей ад спакусы і захаваць чыстым сваё імя, як настаўніка, ён борздымі крокамі пайшоў праз вуліцу, накіроўваючыся ў той бок, дзе была старая карчма, якраз па дарозе ў сяльцо. Маладзіца хіхікнула яму ўслед, і да яго вуха даляцелі словы.

— Гэта мужчына: ад бабы ўцёк... Неданосак! Стоптаны лапаць!

Настаўнік ішоў і троссяя, як у хвэбры, бо ўся гэта праява яго дужа ўсхвалявала. Чуць толькі ўлеглося ў ім гэта абурэнне, ён пачынаў каяцца ў сваёй грубасці з гэтай незнаёмай жанчынай. Хіба яна вінавата, што яе зрабілі такою розныя прахвосты, пацяробкі культуры? Хіба не можна было-б ухінуцца ад яе больш далікатным спосабам, растлумачыўшы ёй усю гразь і ўвесь бруд гэтага лёгкага заработку? Цяпер яна смяецца з яго і не сціскаецца ў розных мянушках па яго адрасу. І мае права, бо гэта права дала ёй яго грубасць. Ну, што-ж? На другі раз трэба быць больш уважлівым да чалавека, хто-б ён ні быў.

Так разважаючы дайшоў ён да карчмы. Карчма была пабудавана яшчэ ў даўнейшыя часы, тады, калі аб манапольках нікому не снілася. Цяпер гэта карчма дажывала разам са сваім гаспадаром, старым Абрамам, апошнія дні, бо не было патрэбы адбудаваць карчму і некаму было заступіць месца старога шынкара: сыноў Абрам не меў, а дочкі павыходзілі замуж.

Лабановіч кожны раз, праходзячы тут, мімаволі звярчваў увагу на гэта месца і на гэту заняпалую карчму з пакрыўленымі сценамі і пагнутым дахам. І тое, і другое, як не можна лепей, стасавалася адно з другім. Месца было глухое і пустое, і кожны раз яно выклікала ў настаўніка адно і тое пачуванне і пакідала ў ім адно і тое ўражанне. З чаго яно складалася і якая была яго істота, выявіць і вызначыць было вельмі трудна, але ў яго палажэнні было штось варожае, непрыветнае і смутнае па свайму характару. Цікава і тое, што ніхто з сялян не будаваўся тут, не гледзячы на ўсе выгады гэтай мясціны. Старая карчма, заснаваўшыся тут, і яе гаспадар як-бы адной нагой ступалі ўжо на край магілы, бо род старога шынкара відочна ішоў на выміранне. А гэта, разам усё ўзятае, хіліла думку настаўніка да заключэння, што на свеце ёсць нейкія розныя пачаткі жыцця. Адны з гэтых пачаткаў вызначаюцца ў бясконцых формах жывых арганізмаў, а другія выяўляюцца ў так званай нежывой прыродзе. Але покі яны не асочаны і не даведзены, як мае быць, яны і не змяшчаюцца ў нашым розуме, яны жывуць у нашых пачуваннях. Па-

чуванне-ж ёсць папярэднік розуму ў доследах і вызначэннях істоты рэчаў.

Мінуўшы старую карчму, Лабановіч прыпомніў сваю фразу, якая зляцела з яго языка, калі ён выходзіў з кухні: «Іду, бабка, лавіць таго чорта, што твайго Міхалку напалохаў». Якраз гэта і было тое месца, дзе, па словах бабкі, Міхалку налучыла тое здарэнне, пасля якога Міхалка чуць не памёр. Паставіўшы ўсё гэта ў звязак з тым фактам, што ён прышоў іменна сюды, не маючы гэтага ў мыслях, Лабановіч здзівіўся і зацікавіўся.

«Куды-ж я іду і чаго іду?» — спытаў ён сябе і спыніўся, азірнуўшыся вакол. Было ціха, глуха і пуста, і толькі ў адной карчме быў відзен агонь. Лабановіч мімаволі пачуў нейкае страхаццё. Яму прыпомнілася апавяданне бабкі пра здарэнне з яе Міхалкам. Разумеецца, гэта ўсё глупства. Міхалку мог напалохаць які-небудзь дзяцюк, помсцячыся за дзяўчыну, да якой хадзіў Міхалка. Але цікава, наогул, скуль бяруцца гэтыя страхі? Вось ён, настаўнік, не мае веры, што ёсць нейкая таемная варожая сіла, існуючая незалежна ад чалавека, але ён чуе ўплыў на сабе нейкага страху. Калі ён прыдзе сюды ўдзень, то гэтага ўплыву не будзе. Уся справа ў тым, што і другая ноч закрывае сваім змрокам яшчэ многа пытанняў, якія стаяць у звязку з псіхічнымі праяўленнямі чалавечага жыцця, і ў гэтым сэнсе навука зрабіла яшчэ мала. Не гледзячы на ўсе гэтыя разважанні, Лабановіч чуў, што яму страшна, што яму бракуе сілы павесці змаганне з гэтым страхам. «Пакліч да сябе нячыстую сілу» — казала яму нейкая думка, але настаўнік прыкінуўся, што не чуе голасу гэтай думкі і разам з гэтым пачуваў яшчэ большы жуд. «Калі ў цябе нехапае на гэта смеласці, то прыслухайся: ты штось пачуеш», — прывязалася да яго гэта думка. «Ну, што-ж? — прамовіў сабе Лабановіч: — і буду слухаць!» І ён унікліва стаў прыслухоўвацца. Тая-ж самая ціш, тая-ж глушыня. «Чэрці! чэрці! пакажыцеся!» — ціхенька паклікаў ён чартоў і зноў стаў прыслухоўвацца. Усё было ціха, ніхто не аклікаўся, ніхто не паказваўся. Нервы настаўніка былі моцна напружаны, і ён чуў, што калі сасгупіць з нейкага пункту, на якім ён чуць-чуць трымаўся, то ён

пападзе ў поўную абладу страхаў і пусціцца ўцякаць з гэтага месца. Ён павярнуў назад да карчмы і пайшоў, прыбаўляючы кроку. Каля карчмы ён затрымаўся, падумаў і павярнуў да старога Абрама. Там ён прысеў, папрасіў сабе бутэльку піва і, крыху супакоіўшыся, пайшоў у сваю школу.

## XIV

На пераддзенні Міколы сабраўся Лабановіч да свайго сябра Турсевіча і пайшоў на раз'езд. Дзяжурыў якраз Сухавараў. Ён запэўніў настаўніка, што праз поўгадзіны будзе таварны цягнік, з якім і можна будзе паехаць. Сухавараў распытаўся, як здароўе панны Ядвісі, як жыве сам настаўнік, як часта бачыцца ён з паненкамі. І тутжа пахваліўся, як гэтымі днямі залучыў ён да сябе адну маладзіцу. Лабановіч прыпомніў сваё не вельмі даўнае спатканне на вуліцы з незнаёмай жанчынай, і яму стала непрыемна слухаць усю гэтую брудную споведзь.

— Выбачайце, — спыніў яго Лабановіч: — нашто вы ўсё выкладаеце?

— А хіба вы не любіце слухаць такія рэчы?

— А што-ж тут можа быць цікавага?

— Чаму? — спытаў Сухавараў і зірнуў на настаўніка сваімі шэрымі блудлівымі вачыма з выяўным насмяханнем. Настаўнік у сваю чаргу паглядзеў яму ў вочы. Не падабаўся яму гэты твар самаздаволенага самца і гэтыя адвіслыя мокрыя губы з паднятымі ўгару чорнымі вусікамі.

— Як вам сказаць?.. Гадасць усё гэта, і пахваляцца гэтым чалавеку інтэлігентнаму ніяк не прыстала.

— Эх, вы: сарамяжлівая дзяўчына! — прамовіў Сухавараў крыху зняважліва.

Тым часам падыходзіў таварны цягнік. Сухавараў і настаўнік вышлі на платформу. Прыпыніўшы цягнік, Сухавараў пасадзіў настаўніка ў цяплушку і развітаўся з ім. Лабановіч пачуў сябе лёгка, сядзеў і разважаў аб тым, як спаткае ён свайго сябра. Як толькі цягнік прышоў на станцыю, Лабановіч борздзенька выскачыў з

цяплушкі, на ўсякі выпадак забег на станцыю, бо магло стацца так, што яго сябра мог быць на станцыі. Але там яго не было, і Лабановіч пайшоў да вёскі па чыгунцы. Вечар быў цёмны і ціхі. Побач чыгункі стаяў высокі стары лес, таемны, пануры і важны. На станцыі шумеў паравоз таварнага цягніка, шумеў ціха і роўна, як-бы баючыся парушыць спакой гэтага лесу. Абложанае бялявымі хмарамі, неба, здавалася, ніжэй навісла над зямлёй, і пышныя сняжынкі спакойна падалі на гэты высокі лес і дарогу. І было штосьці незвычайна прыемнае ў гэтым руху белых і чысцюткіх пушынак, і так далікатна лажыліся яны на зямлю, на шапку настаўніка. Чулае вуха, здавалася, само прыслухоўвалася да іх ціхусенечкага шолаху, як-бы хацела ўцяміць мілую гутарку. Лабановіч ішоў борзда. Яму было лёгка, проста хацелася бегчы, ганяцца за гэтымі белымі пушынкамі, як-бы яны былі жывымі, або ён сам быў яшчэ дзіця.

З правага боку дарогі лес кончыўся. Лабановіч ішоў і ўзіраўся ў гэту цьму, каб не прамінуць гасцінца, бо дзесь тут ён павінен перасеч чыгунку. А во гэты шлях, вось гэтыя старыя бярозы-прысады! На гэтым гасцінцы, у вярсце ад чыгункі, стаяла хата казённага лесніка Лукаша. У гэтай хаце памяшчалася школа, дзе жыў і вучыў дзяцей Турсевіч.

Лабановіч борзда прайшоў гэту вярсту, здалёк убачыўшы сіняваты блеск у акне свайго сябра. Каля самае кватэры ён прыпыніўся. Акно з боку вуліцы было завешана просценькаю занавескаю. Турсевіч хадзіў па пакоіку і меў такі выгляд, як-бы ён сам сабе пераказваў лекцыю. Лабановіч ціхенька падышоў да акенца і пастукаў пальцам па шыбе і схаваўся.

Турсевіч адхіліў занавесачку і, засланіўшы рукамі блеск лямпы, стаў узірацца. Нікога няма.

Як толькі ён адышоўся, Лабановіч зноў таемна пастукаў у шкло і борздзенька адскочыў.

Турсевіч рашуча падышоў да акна і громка запытаў:

— Хто там?

Лабановіч не аклікаўся.

— Што за чорт? — пачуў Лабановіч нібы сярдзіты голас сябра.

Счакаўшы яшчэ з мінуту, Лабановіч зноў пастукаў.

Турсевіч сярдзіта сарваўся з месца і накіраваўся да дзвярэй. Лабановіч схаваўся за тоўстую бярозу.

Турсевіч прыадчыніў дзверы, чуць прасунуў галаву і стаў пазіраць. Нідзе нікога няма.

Як толькі ён зачыніў дзверы і запёр іх на засаўку, Лабановіч — скок на ганак!

— Хто? — запытаў Турсевіч, не адчыняючы дзвярэй.

— Не скажу! — адказаў Лабановіч.

— Ах ты, мядзведзь цельшынскі! — крыкнуў радасна Турсевіч і з шумам адчыніў дзверы. — Ну, ідзі, ідзі, брат... Ах ты, фрукт гэтакі! — весела прамовіў ён і расчыніў насцеж дзверы ў сваю кватэру, каб было відна госцю.

Турсевіч крыху адышоўся ад дзвярэй і нарыхтаваўся спаткаць сябра, якому ён быў вельмі рад. Бойкія шэрыя вочы яго так і ўпіліся ў сябра; з іх так і сыпаліся іскры смеху, і разам з тым у іх адбівалася жывая мысль і нейкая станоўкасць і ўпарства.

Лабановіч прыпыніўся каля дзвярэй.

Момант сябры азіралі адзін аднаго, а твары іх свяціліся вясёлым смехам.

— Няхай не падзе на цябе цень бярозы, пад якою сядзеў грэк! — важна і ўзвышальна прамовіў Лабановіч.

— Ды не апынешся ты ў палажэнні сабакі, які сядзіць на плоце! — адказаў гаспадар.

Перакінуўшыся жартлівымі прывітаннямі, сябры абняліся і сардэчна пацалаваліся.

Турсевіч прышоў у нейкі рух і ўзбуджэнне, трос сябра за плечы, громка смяяўся.

— Ну, і малайчына! Яй-богу, маладзец... Я, па праўдзе сказаць, і думаў, што ты павінен праведаць мяне... Ну, сядай!

Турсевіч сабраў са стала кнігі, акуратна зложыў іх і палажыў на палічку. У яго кватэры быў самы строгі парадак і чыстата. Уся кватэра яго складалася з аднае клятушкі, сялянскае хаты, але ён умеў надаць ёй нейкую прытульнасць. Прыводзячы ўсё ў парадак, Турсевіч увесь час вёў размову, закідаў сябра пытаннямі, хапаўся, гаварыў і за сябе, і за сябра.

— Ну, вось што, Лабуня: зараз закамандую гаспадыні самавар: будзем сядзець, будзем піць чай і гаварыць. Люблю я, ведаеш, гэтак з прыяцелем за чаем пасядзець!.. Эх, што-ж я? Стой, брат! — спыніў Турсевіч самога сябе: — мы наўперад закусім. У мяне, брат, вельмі слаўнае сала ёсць... Ну, ведаеш, чула душа, што ты прыедзеш: быў на станцыі і сала купіў. Чакай-жа, брат. У нас ёсць зусім другая музыка!

— Такія разумныя рэчы не кожнае вуха пачуе, — адказаў Лабановіч: — адным словам, галава твая міністэрская!.. І дазволь мне, вялікі пустэльніча і мой настаўніча, сказаць мне колькі слоў на гэты выпадак?

— Валяй!

Лабановіч падняўся, састроіў важную міну і пачаў:

Люблю я слухаць шум ад таркі —
Дзяруць картофлю на бліны;
У печы піск люблю ад скваркі —
Прынадна пахнуць мне яны.
Няхай злуе айцец духоўны,
Няхай суліць мне пекла ён, —
Люблю я больш, як звон царкоўны,
Скаварады аб прыпек звон.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў Турсевіч: — ах ты, богахульнік! Гэта толькі ў Цельшыне і можна дадумацца да гэтага:

Люблю я больш, як звон царкоўны,
Скаварады аб прыпек звон!

— Лоўка, яй-богу, лоўка!.. Ну, я зараз!

Турсевіч выбег у сенцы, адтуль да гаспадыні з загадам прыгатаваць вячэру.

Ён зараз-жа вярнуўся.

— А ведаеш, Лабанок, — таемна прамовіў Турсевіч, панізіўшы голас: — можа-б ты выпіў чарку?

— Мілы ты мой друг! Мала таго, што галава твая міністэрская, дык ты яшчэ і чараўнік, адным словам — кудзеснік! — натхнёна прамовіў Лабановіч: — чаму-ж не выпіў-бы, як кажа мая бабка?

— Дык, кажаш, добра было-б выпіць? — спытаў з нейкаю сур'ёзнасцю Турсевіч.

— А які-ж дурань асмеліцца сказаць, што нядобра?

— Дык няма-ж, братка!

Твар Лабановіча крыху выцягнуўся.

— Ха-ха-ха! — аж прысеў Турсевіч ад смеху, потым усхапіўся, не перастаючы смяяцца і паказваючы на сябра пальцам.

— Абязвечыў ты мяне гэтым, — прамовіў Лабановіч, спаўшы з настрою.

— На тое-ж я кудзеснік, — не пераставаў смяяцца Турсевіч.

Ён падышоў да шафіка, пакапаўся ў ім і важна выцягнуў адтуль поўбутэльку.

— Не журыся, брат! — сказаў ён і патрос поўбутэлькай.

Покі смажыліся скваркі, Турсевіч падгатаваў стол да вячэры.

— Што, можа твая бабка патрапіць так зрабіць? — спытаў Турсевіч сябра, як толькі Лукашыха прынесла вячэру.

— Затое-ж мая бабка шаптаць умее.

— Шаптаць-то яна ўмее, але капусты зварыць не патрапіць. Ведаю тваю бабку.

Сябры селі за стол.

Выпілі па чарцы.

— Ну, закусвай, брат!

Увесь час ішла самая вясёлая, самая жывая бяседа. Гаварыў, галоўным чынам, Турсевіч. У яго была тонкая назіральнасць, і ніводная рыска, тыповая драбніца не хавалася ад яго вока. Апрача гэтага, у яго была здольнасць намаляваць і жыва прадставіць таго ці іншага персанажа.

Яго вельмі насмяшыла адно здарэнне на чыгунцы, і аб гэтым здарэнні апавядаў ён цяпер Лабановічу.

Справа датыкалася аднаго кантроля. Кантроль быў вельмі адданы служака. Захацелася яму злавіць аднаго старасту на чыгунцы. А староста, трэба сказаць, быў парадашны жулік: прыпісаў лішніх рабочых, каб іх плату палажыць сабе ў кішэню. Налятае гэты кантроль. Старасты пры рабочых не было — дзесь у будцы сядзеў. Пералічыў рабочых і хацеў зняцэўку на старасту наля-

цэць, каб праверыць яго кніжку. Але выпадкова была тут дачка старасты. Дзяўчынка пусцілася ў будку бацьку папярэдзіць, а каб кантроль не дагадаўся, яна бокам дарогі пабегла. Кантролю тут і цюкнула. Ён за дзяўчынаю! Бяжыць уперадзе дзяўчына, узняўшы падол, а за ёю, як ганчак за зайцам, кантроль чэша. І дабеглі яны да будкі праве адначасна.

— Паказвай запісную кніжку! — загрымеў кантроль да старасты і ніяк духу перавесці не можа. —Я аддам цябе пад суд! — насеўся кантроль.

— Я на вас падам у суд, — спакойна адказаў стараста: — бо вы ганяліся за маёю дачкою, хацелі яе згвалціць.

Кантроль вырачыў вочы, як-бы яго даўбешкаю агрэлі.

— І пабачым, каму ад гэтага будзе болей нясмачна, — казаў усё так-жа спакойна стараста: — я дзесяць сведак пастаўлю, і кожны пацвердзіць, чаго вы за дзяўчынаю ганяліся.

## XV

Сябры скарысталі вясёлы свой настрой для розных смешных успамінкаў і далі волю нестрыманаму смеху.

— У нас сёння дзень не прапаў дарма, бо ў гэты дзень мы многа смяяліся, — зазначыў Лабановіч, — Ніцшэ вуснамі свайго Заратустры казаў:

«Той дзень, калі вы не смяецеся, прападае для вас».

— У такім разе ў нас, брат, многа прападае дзён, — ужо сур'ёзна адказаў Турсевіч. — Бывала, увосень сядзіш адзін гэты доўгі вечар. За акно зірнеш — цемень. Дождж. А кроплі ўсё плюскацяць і плюскацяць над капяжом, як-бы там плача хто. І нейкія асобныя думкі пачынаюць валодаць табою. Замець, дружа: іменна асобныя думкі. Яны выходзяць як-бы не з твайго мозгу, а табе іх насылае нехта, каго няма, але прысутнасць яго як-бы адчуваецца. І вось, ваб'юцца ў галаву такія думкі, і, бог ведае, аб чым яны не гамоняць табе! А вось, як гэтыя бярозы каля хаты пачнуць шумець!.. Ведаеш, брат: чалавек, скажам, прывыкае да жывёлы. Гаспадару часта шкада разлучыцца з канём ці з кароўкаю, або з

сабакам не затым, што яны для яго карысны, а проста па прывычцы. Але можна прывыкнуць не толькі да жывёлы, а і да дрэва, як я, напрыклад, прывык да гэтых двух старых бяроз, што стаяць на шляху каля хаты. І вось кажу, калі зашумяць яны сваімі голымі вецця мі, то я чую ад іх нейкую жаласць. Мне здаецца, што яны чагось смуткуюць і аб чымсі скардзяцца, і што яны таксама нешта пачуваюць, іменна пачуваюць. І ў такія вечары ўжо не засмяешся... І многа ў нас такіх вечароў!

Апошнія словы Турсевіч прамовіў у нейкім засмучэнні.

Лабановіч уважліва слухаў сябра і зацікавіўся ім: з гэтага боку, з боку такой тонкай чуласці і лёгкага містыцызму, ён бачыў яго першы раз, лічачы яго чалавекам пераважна рэалістычнага складу.

— Тваю думку аб бярозах я хацеў-бы пашырыць і паглыбіць. Я хачу запытаць цябе — ці думаў ты калі-небудзь над тым, або проста — ці кідаўся табе ў вочы той факт, што прырода вакол нас... я не ведаю, як выказаць маю думку, ну, што ў яе ёсць нейкае сваё свядомае жыццё? Якое яно, я не ведаю. Мажа гэта, як у мяне, напрыклад, ёсць перажытак дзяцінства. Але і цяпер я ніяк не магу вызваліцца ад гэтага пачуцця, што прырода мае нейкае сваё свядомае жыццё. Ёсць такія мясціны, і іх я знаходжу ўсюды, дзе я не бываю, да якіх мяне не горне, я не магу з імі зжыцца, прывыкнуць да іх. Я зварачаў увагу на тое, што ёсць такія мясціны, дзе птушкі не хочуць гняздзіцца і спяваць і стараюцца абмінаць іх.

— Ёсць, брат, штось такое, — сказаў Турсевіч.

— І вось, брат, як пачнеш на адзіноце думаць, то чорт ведае, да чаго дадумаешся. Накруціш свае нервы так, што пачынае цябе жуд пашыбаць. І ўсе гэтыя таямніцы, можа, гэта не больш і не менш, як вынікі гэтых туга накручаных струн-нерваў.

— Мы прывыклі, дружа, — мякка сказаў Турсевіч, — адбаярвацца агульнымі выразамі там, дзе наш розум не можа адалець, пераступіць нейкія парожкі, якія адгароджваюць ад яго тое, чаго мы не ведаем. І ў адных выпадках мы кажам: «Гэта — нервы». У другіх: «Аб гэтым ужо і закон так кажа, значыцца, тут трэба спыніць

свой розум»; або — «гэта злучэнне акалічнасцяў», «пад такою планетаю радзіўся» і многа другой чапухі. І часта які-небудзь незразумелы факт мы тлумачым яшчэ больш незразумелымі злучэннямі слоў і думаем, што сказалі нешта надта разумнае, а другія згаджаюцца з гэтым і здавальняюцца. А між тым усе гэтыя сляпыя агульныя выразы вельмі шкадлівы, бо яны звязваюць унікліваю думку чалавека, заспакойваюць і закалыхваюць яе, як закалыхваюць крыклівае дзіця, і не даюць ёй ходу там, дзе трэба разгарнуць сваю дзейнасць, каб дашукацца прычыны. І такім чынам, праз сям'ю, а потым і праз школу, наш розум прывучаецца пасіўна ўспрыймаць такія з'явы, якія далёка не даследжаны і не растлумачаны. Дзяцей часта асякаюць старэйшыя ў сям'і, яны прыстаюць з запытаннямі, то вельмі наіўнымі, то часамі занадта замыславатымі. А несвядомыя настаўнікі ў школах таксама забіваюць у вучнях усё тое, што не ўкладаецца ў асадках падручнікаў або выходзіць за межы знаўства саміх педагогаў. А гэта, усё разам узятае, вядзе да таго, што мы падпадаем пад абладу слоў і не маем волі для пратэсту проці гвалтоўнасці над нашым розумам.

Лабановіч слухаў сябра, згаджаўся з ім, як-бы Турсевіч выказваў яго ўласныя думкі. Разам з гэтым і нейкае засмучэнне закрадалася яму ў душу.

— Ведаеш, брат, — сказаў ён: — вельмі добра хоць зрэдку сустракацца з жывым чалавекам, пагаманіць, адвесці душу. А то жывеш у гэтай глушы, дзе жывога слова не пачуеш, жывеш адзін. І думкі розныя бываюць; мігатнуцца ў тваёй галаве, як цень на зямлі ад лёгкай хмаркі, і забудуцца, як-бы асуджаныя на зніштажэнне. А гэты дробны клопат штодзённага жыцця, нецікавага, часта пустога і нікчэмнага, прыніжае цябе, выціскае з цябе ўсё больш вартоўнае. І вось цяпер, як я крыху адышоўся ад свайго Цельшына і зірнуў на яго збоку, то гэта глуш, што цікавіла мяне спярша, пачынае здавацца мне варожаю і наводзіць на мяне нейкае засмучэнне, як-бы я ў ёй або яна ў мне чуем непрыяцеля. Чым болей я жыву там, тым больш пачуваю, што затрымацца там на доўгі час у мяне няхопіць сіл.

Лабановіч замоўк і задумаўся. Вочы яго сталі не-

рухлівымі і пазіралі ў нейкі адзін пункт. Перад ім устаў вобраз панны Ядвісі.

«Не, брат: не ведаеш ты, чым мне міла гэта глуш, ды я табе пра гэта не скажу», — сам сабе думаў Лабановіч. Турсевіч, залажыўшы за спіну рукі, хадзіў ад сцяны да сцяны і таксама аб чымсьці думаў.

— Так, брат, там цяжка. Па сабе ведаю, якая там глуш, — прамовіў Турсевіч. — Вось ты вазьмі: якія-небудзь дваццаць вёрст раздзяляе нашы месцы, а якая розніца! Тут зусім другое: не той выгляд прыроды. Мы заўтра пройдземся, паглядзім... Ніяк, брат, не можна раўняць Случчыны з Піншчынаю. І дзеці ў школе не тыя. У іх больш сардэчнасці, больш, ведаеш, гэтай чалавечнасці, а твае палешукі — проста звяркі.

Далёка за поўнач сядзелі сябры. Многа ўсякіх пытанняў было паднята і абгаворана імі. Усё, што думалася на адзіноце, што так ці іначай займала і цікавіла іх, усё гэта выявілася цяпер і давала многа матэрыялу для іх гаворкі. Але нехапала і гэтай доўгай ночы, каб абгаварыць усё.

— Скажы ты мне, братка Алесь, — пытаў сябра Лабановіч, ужо лежачы з ім у пасцелі: — для чаго чалавек на свеце жыве? З некаторага часу мяне цікавіць гэта пытанне. Аб гэтым пытаў я нават і сваю бабку.

— Ну, для чаго-ж жыве?.. А чорт яго ведае, для чаго ён жыве, — прамовіў Турсевіч.

Сябры громка засмяяліся.

— Тут ужо, брат, нейкая філасофія. І я думаю, што для немца, напрыклад, такое запытанне і ў галаву не прыдзе.

— Чаму?

— А таму, што немец — чалавек практычны. Вырашэнне-ж гэтага пытання не дае ніякага практычнага рэзультату.

— Значыцца, немец не ведае, чаго ён на свеце жыве? — запытаў Лабановіч.

— Ну, каб такі кілбаснік ды не ведаў, чаго ён жыве!

Сябры зноў засмяяліся.

— Чалавек жыве дзеля дабра, для служэння праўдзе, каб ствараць нейкія вартасці жыцця і каб быць карысным для другіх, — сказаў Турсевіч.

— Гэта, брат, ён так павінен жыць. Але мы бачым, што жывуць людзі зусім не па гэтаму правілу, і пляваць яны хочуць на дабро, або на нейкую там карыснасць. А справа тут стаіць зусім проста, і ў гэтым сэнсе ёсць толькі адна мерка, якая падыйдзе да кожнага: жыве чалавек для таго, каб у гэтым жыцці як можна болей вывудзіць карыснага і прыемнага для сябе.

— Пастой, брат, ты, здаецца, нясеш нейкую «ерась». Што-ж, па-твойму, вывуджвае які-небудзь праўдзівы хрысціянін, што адрокся ад зямлі з усімі яе дарамі і дабротамі, і ідзе ад людзей, каб заставацца на адзіноце з богам? Як прыложыш ты да яго сваю мерку?

— О, гэтыя хрысціяне — народ вельмі змыслы, і да іх яшчэ дакладней прыстае гэта мерка. Яны, бачыш, маюць вельмі шпаркі разгон і шырока расчыненую губу. Іх не здавальняе зямля і наогул гэты свет (хоць і зямлёю яны таксама не грэбуюць). Ім давай рай, вечнае збавенне і бясконцае ўжыванне радасці і добрабыту. А на сваё жыццё на зямлі яны пазіраюць, як на спосаб латвей дастасавацца да гэтага банкету на тым свеце.

— Ты занадта агаліў гэты сэнс жыцця, — сказаў Турсевіч: — і тым самым зневажаеш і чалавека. Ёсць людзі, што жывуць ідэямі агульнага дабра. За свае ідэі яны ідуць у астрогі, на высылкі; за гэтыя ідэі іх крыжавалі, давалі атруту, палілі на кастрах. Тут ёсць нешта большае, чым асабістая выгада і вывуджванне карысці для сябе. І няможна выводзіць з аднаго прынцыпу дзейнасць якога-небудзь жуліка і дзейнасць чалавека, што працуе ўсё жыццё для другіх.

— Гэта толькі здаецца так на першы погляд, — стаяў на сваім Лабановіч, — а гэты прынцып адзін для ўсіх. Справа толькі ў тым, якія ўжываць спосабы, якімі дарогамі ісці і як разумець гэты прынцып. Але каго ты ні возьмеш: ці то будзе вучоны, які вышуквае новыя законы жыцця і пракладае да яго новыя дарогі, ці то будзе які-небудзь выдумшчык — Эдысон, ці паэт, ці мастак-маляр, ці прапаведнік новага вучэння, ці самазрокшыся дзеяч, вечны служка выключна для другіх, — усе яны выходзяць з таго-ж самага прынцыпу. Не трэба толькі змешваць мэту з тымі дарогамі, якімі гэтыя мэты дасягаюцца.

— А ўсё-ж такі я з табою не згаджаюся, — адказаў Турсевіч.

— А калі-ж у спрэчках згаджаюцца? Згодзішся, калі аб гэтым добра падумаеш. А цяпер давай хіба спаць, бо, здаецца, пачало ўжо развідняцца.

## XVI

Шырокі гасцінец з двума радамі старых бяроз збягаў з горкі раўнюсенечкаю сценкаю кудысь на захад, і чым далей, тым гусцей здаваліся гэтыя развіслыя тоўстыя бярозы, усё болей і болей зніжаліся яны, а потым зліваліся ў адзін шнур і замыкаліся сабою самымі, як-бы яны ўпіраліся ў лес і хаваліся за лінію небасхілу.

Ёсць штось незвычайна прыгожае ў гэтых прывольных старасвецкіх шляхах Беларусі. Шырока і размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў, злучаючы паветы, губерні і цэлыя краіны. Колькі хараства і чароўнага прывабу ў сініх іх далях! Колькі новых малюнкаў, свежых матываў і таемных здарэнняў абяцаюць яны вачам і сэрцу падарожнага! З якой незвычайнай сілай парываюць яны да сябе і як моцна дакранаюцца да струн тваё душы! Якая-ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабнімных родных шляхоў і якую ўладу маюць яны над табою, неспакойны, вечна заклапочаны падарожны? Ці не гэта, нікім нявыказаная казка іх, якая складалася доўгімі вякамі і запісвалася агнявымі літарамі людское крыўды ў сэрцах мільёнаў падарожных, што ішлі і ехалі па гэтых шляхах і думалі свае думкі? Ці не ён, гэты летапіс часоў, так глыбока западае ў тваю душу, каб адбіцца ў ёй, знайсці свой пэўны вобраз і форму і грознаю маланкаю жахнуць гэту цёмную ноч няволі, што звісла над краем? А можа гэта таемная і страшная бясконцасць блукання па свеце, дзе трудна вызначыць пачатак і канец, сімваламі якіх з'яўляюцца гэтыя шляхі, авявае душу тваю невыразным хваляваннем і кліча яе зліцца з бяскрайнасцю зямлі? Ці то — няясны адбітак вечнага нездавальнення людскога, таемны пакліч да шукання другіх формаў жыцця, несвядомае імкненне да лепшае долі? Ці то —

парыванне душы разбіць нейкія граніцы і вырвацца на бязмежныя прасторы яшчэ нідзе неіснуючай волі?

Эх, шляхі, родныя шляхі! Хто перакажа нам вашы казкі, разгадае думкі, назбіраныя і напісаныя часамі на гэтых камлях тваіх прысад?

— Зірні, ты зірні: якое гэта прыгоства! — казаў Турсевіч сябру, паказваючы з ганку сваёй кватэры на роўны шлях і на ўвесь малюнак, што раскрываўся перад імі: — які разгон, які прастор! Які вясёлы тон малюнку і колькі ў ім featурнастайнасці! А вось гэтыя бярозы каля маёй хаты: паглядзі, якія яны слаўныя!

— Я аднаго не разумею, — сказаў Лабановіч, любоўна агледзеўшы ўвесь краявід: — у нас столькі прыгоства, столькі багацця формаў і фарбаў, і край наш вялікі і разнастайны, а мы не бачым, не хочам гэтага бачыць. Аб нашым краі злажыўся погляд, як аб краі бедным, заняпалым. І нідзе ты ў падручніках па геаграфіі не знойдзеш больш-менш сталага апісання Беларусі. Што такое наша Беларусь? А гэта, бачыш, заходняя акраіна Расіі. Чым яна слаўна? Нічым. Вось балоты там ёсць, ды яшчэ на ўвесь свет вядомая хвароба — каўтун. І мы з гэтым лёгкадумна згаджаемся, мы ўсё гэта прымаем на веру, бо, як ты сказаў праўду, над намі пануе шаблон, шаблон пустых слоў, пустыя выразы, чужыя формы думак і чужы змест іх. Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго! — слова «стыдаемся» Лабановіч прамовіў з націскам, пры гэтым выраза яго твару змянілася, а ў вачах загарэўся агеньчык нейкай злосці. У ім абудзіўся цяпер, скарэй інстынктыўна, чым свядома, пратэст процiў зневажання і прыгнечання нацыянальных правоў народа, і ён, як сын гэтага народа, з якім ён чуў цесную сувязь, стаў на абарону гэтых правоў.

— Кожны народ мае свой гонар. Ангелец перад усім светам горда зазначае: я — ангелец! Тое самае скажа француз, немец, аўстрыяк, расіец і іншы прадстаўнік другой нацыі. А мы, беларусы, не адважваемся прызнацца ў тым, што мы — беларусы. Бо на галаву беларускага народа, як вядома, многа выліта памыяў, уся істота яго прыніжана, і мова яго асмеяна, у яго няма імя, няма твару. А з гэтага вынікае тое, што беларус-інтэлігент

адмяжоўваецца не толькі ад свайго народа, але і ад бацькоў сваіх. Мы ведаем адно такое здарэнне з адным нашым знаёмым настаўнікам, да якога прыехала з дому матка. У яго былі госці. Ён пры гасцях не пасмеў прызнаць свае мацеры.

— Ідзі ты, кажа, кабетка, на кухню: там цябе накормяць.

— Гэта — свінства! — адклікнуўся Турсевіч і плюнуў з нейкаю агідаю. — Баяўся мужыком паказацца і выявіў сваё поўнае хамства.

Сябры некаторы час ішлі між прысад, а потым звярнулі на дарожку, гладка ўезджаную сялянскімі санямі, і пайшлі ў бок чыгункі.

— Я хачу паказаць табе даўнейшыя могілкі, — сказаў Турсевіч і павёў сябра ў невялічкі лясок на ўзгорку недалёка ад дарогі.

Дзе-ні-дзе на гэтых могілках тырчэлі астаткі крыжоў, панура звіслых над зямлёю, і невялічкія гарбкі, закрытыя снегам. Між высокіх дрэў стаяла дзярвяная каплічка з пабітымі вокнамі. Каплічка, здавалася, чуцьчуць ліпела і гатова была кожную мінуту разваліцца. Дзярвяны дашок яе прагніў і зіяў чорнымі дзіркамі. Ухапіўшыся за выступ падаконніка, Лабановіч зазірнуў у сярэдзіну каплічкі. З палотнішчаў старых абразоў на яго глянулі строгія, хоць і выцвіўшыя, твары святых. У сярэдзіне каплічка мела яшчэ досыць свежы выгляд, але ўсё ў ёй было пахмурным і страшным, і самі сцены, здавалася, сурова пыталі:

— Чаго табе трэба тут, пустацікавец? Якое ты маеш права парушаць спакой гэтае святыні?

Каплічка была пабудавана ў асобым стылі і мела арыгінальны выгляд. Яшчэ і цяпер па глухіх кутках Случчыны, напэўна, захаваліся такія каплічкі.

— Каб я ўмеў маляваць, — сказаў Лабановіч, — я перанёс-бы яе на паперу.

— Цікавая каплічка, — згадзіўся і Турсевіч. — Вось я і прывёў цябе сюды, каб паказаць яе табе. І ведаеш, якое было тут нядаўна здарэнне. Адзін тутэйшы абываталь з шляхты быў на паляванні. Сабака выгнаў ліса. Ліс схаваўся пад алтар гэтае каплічкі. Паляўнічы пачаў

тут капацца і забіў гэтага ліска. Аб гэтым даведаўся бацюшка, падаў на суд за абразу святыні. Адным словам, завязалася цэлая громкая справа.

— А ведаеш, і мне не шкада, што гэтага паляўнічага на суд падалі, — адказаў Лабановіч: — разумеецца, справа тут не ходзіць аб абразе, але сам па сабе гэты выпадак моцна скрабае сэрца: бедны звярок думаў знайсці сабе тут ратунак.

Сябры моўчкі ішлі з могілак. Відаць было, што кожнага паасобку займалі свае думкі. Лабановіч чуў нейкае засмучэнне і неспакой. Яго штось не здавальняла і кудысь цягнула. Можа часткаю магла быць тут прычынаю і тая акалічнасць, што, як яму здавалася, Турсевіч лепей вёў сваю школьную працу, і наогул яго школа рабіла ўражанне больш прадуктыўнай школы. А можа тут таксама мела значэнне іх скорая разлука, бо цяпер яны ішлі на станцыю, адкуль ён мусіць паехаць у сваю глуш.

— Што, брат, прыціх? — запытаў яго Турсевіч: — чаго зажурыўся?

— Не заўсёды-ж і вясёлым быць, — адказаў Лабановіч: — ведаеш, брат, як пабачыў я тваю школу, твае заняткі, то мая школа ў параўнанні з тваёю нікуды не гадзіцца.

— Ха-ха-ха! — засмяяўся Турсевіч. — Ніколі твая школа не будзе адставаць, раз ты ёю так моцна цікавішся і прымаеш блізка да сэрца. Гэта ў цябе яшчэ з непрывычкі, з першага года. А я пераконан, што твая школа шмат лепш стаіць за многія тут школы.

— Што я табе хацеў сказаць, — прамовіў Лабановіч: — давай вясною, як скончацца нашы заняткі ў школах, пойдзем паходзім па Беларусі, азнаёмімся з ёю бліжэй. А свае назіранні запішам, збярэм багаты матэрыял. Прыцягнем яшчэ ў сваю кампанію якога-небудзь фатографа, знімкаў цікавых наробім... Апрача смеху... Гэты план, разумеецца, распрацаваць трэба. Я толькі думку падаю.

— А што ты думаеш? Гэта было-б цікава. Аб гэтым, брат, трэба падумаць сур'ёзна, яй-права!

— Ты ведаеш, — з жарам падхапіў Лабановіч, пачуўшы падтрыманне сябра, — гэта была-б цікавейшая

рэч! Мы-б абышлі шмат школ, бліжэй пазнаёміліся-б з настаўніцтвам, абудзілі-б цікавасць да свайго краю. А самае важнае — мы раскатурхалі-б соннае балота нашага настаўніцтва, бо жыць так, як жывем мы, адарваныя адзін ад аднаго, жыць без жывой ідэі, ведаць адну толькі цесную школу і траціць час на карты і папойкі, што звычайна робіць наш брат, так жыць не можна, бо для гэтага трэба наўперад задушыць у сабе голас сумлення, голас доўгу перад народам.

— Вучыцца нам, брат, яшчэ трэба многа, — зазначыў Турсевіч. — Я, напрыклад, думаю ў інстытут падавацца.

— І я чую, што трэба вучыцца, але сэрца маё ніяк не ляжыць да інстытута. Бо што такое інстытут? Гэта тая-ж самая казарма-семінарыя, розніца толькі ў тым, што інстытут канчаткова заб'е ўсё яшчэ больш-менш жывое ў нашай душы, чаго не забіла семінарыя, і з настаўніка зробіць сухога кашчэя-чыноўніка.

Лабановіч у глыбі душы пачуў нейкую непрыязнь да сябра, бо, як яму паказалася, Турсевіч штось задумаў, і яго погляды нязгодны з тымі поглядамі, у якіх, як увесь час лічыў Лабановіч, яны згаджаюцца.

І ўжо да самае станцыі сябры ішлі моўчкі, замкнёныя ў сабе самых.

Развіталіся яны сардэчна.

— Не забывай-жа мяне, — сказаў на развітанне Турсевіч.

— Цяпер, брат, твая чарга даведацца свайго старога месца і старога прыяцеля, — адказаў Лабановіч.

## XVII

— Ну як-жа вам, панічок, гасцілася? — пытала бабка Лабановіча.

— Ой, бабка, добра гасцілася! «Было што піты і есты, але прынукі ны было», — адказаў настаўнік на паляшуцкі лад.

— У мяне, панічок, капуста ад абеду засталася, можа вы хлебанулі-б крыху?

— Не, бабка, есці я не хачу.

— То, мусіць, вас той паніч добра частаваў?

— А як-жа, бабка! Дзякаваць богу, пачаставаў на славу.

— Ну, то і добра, панічок!

Да бабкі хтось прышоў. Яна зараз-жа вышла ў кухню, а Лабановіч сеў пераглядаць вучнёўскія сшыткі. Перагледзеўшы, палажыў іх на месца і колькі разоў прайшоўся па пакоіку. Усе гэтыя часы ён чуў, што яму як-бы чагось не стае. Чаго? Рэч вядомая: яму трэба пабачыць панну Ядвісю. Не: гэта не так. Яму проста хочацца пабачыць яе. Якая-ж тут патрэба? Хіба ён мае сказаць ёй што?.. А чаму-ж і не мае? Ці-ж гэта не была-б праўда, каб ён прышоў і сказаў да яе: «Я прышоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне, як вясна; хачу пачуць твой смех, бо ён, як промень сонца, асвятляе мне душу. Я прышоў да цябе, бо к табе прывяло мяне сэрца».

«Не, дудкі, брат, ты гэтага не пасмееш сказаць ёй. Так можа сказаць Сухавараў, бо ў яго словы не ад сэрца, і ні да чаго яны не абавязваюць яго», — думаў Лабановіч.

«Чым меней думаць, тым лепей. Проста захацеў пайсці і пайду».

Мінуту ці дзве счакаўшы, Лабановіч хутка перакінуўся на двор пана падлоўчага цераз невысокі плот, які адгараджваў двор школы ад двара падлоўчага, і пастукаў у дзверы. Ніхто не ішоў адчыняць. Або не пачулі стуку, або не было дома.

Ён пастукаў мацней.

Зараз-жа пачуліся чыесь крокі.

Дзверы бразнулі і адчыніліся.

— Ёсць хто дома? — спытаў настаўнік служанку пана падлоўчага.

— Пан з паняю паехалі ў Х., дома паненкі і Чэсь.

— Проша, проша! — падбегла Габрынька і папрасіла Лабановіча заходзіць далей.

Маленькая, жвавая смуглянка, здавалася, была вельмі рада госцю. Жывыя і бойкія вочкі яе так і свяціліся радасцю.

— Калі ласка, проша да пакоя!

Габрынька ўзяла лямпу і павяла госця ў прасторны пакой.

— Сядайце, калі ласка.

— Я, можа, не ў час зайшоў да вас і пашкодзіў вам у рабоце? — запытаўся Лабановіч.

— Барані божа! Якая-ж у нас работа?.. Вы так рэдка да нас заходзіце...

— Што маю права часамі і спыніць вашу работу, асабліва, калі яна непрыемна?

— Работы, пане настаўніку, ніколі не пераробіш.

— Гэта праўда.

— Ці не можна ведаць, якая праўда? — вясёлым, маладым голасам прамовіла панна Ядвіся, падыходзячы да настаўніка. — Добры вечар, пане Лабановіч!

Ядвіся падала руку і ўскінула на настаўніка свае чыстыя цёмныя вочы і затрымала на ім свой погляд, як-бы штось чытаючы на яго твары.

— Што-ж гэта вас не відаць нідзе? — прамовіла яна: — і да нас не заходзіце.

— Каб я да вас часта заходзіў, то я, напэўна, не замеціў-бы, як вы пахарашэлі, — смеючыся, адказаў Лабановіч.

Панна Ядвіся на міг апусціла вочы.

— Цяпер я вас разумею, — сказала яна: — вы чакалі, покі я не пахарашэю, бо такую, якою вы бачылі мяне першыя разы, вам непрыемна было бачыць? Праўда?

— А панна Габрыня за гэты час пастарэла, — не адказваючы на пытанне панны Ядвісі, сказаў Лабановіч.

— Ну, што гэта вы! як-бы раней намовіліся, — запратэставала маленькая Габрынька: — і татка называе мяне старэнькаю, і вы тое самае кажаце.

— А вы мне не адказалі, — стаяла на сваім Ядвіся: — я ад вас не адступлюся, покі вы не адкажаце мне.

— Ну, то ў такім разе я ніколі не адкажу вам, бо мне вельмі будзе цяжка, калі вы адступіцеся ад мяне.

Панна Ядвіся прыкінулася ўсерджанай і нецярпліва тупнула.

— З вамі ніяк не можна да праўды дайсці. А вось-жа я адступлюся: хачу паглядзець, як вам будзе цяжка.

Панна Ядвіся адышлася і села на канапу.

Лабановіч адышоўся ў цёмны куток пакоя.

— Куды-ж вы схаваліся? — спыталася Габрынька.

— Я не хачу, каб ваша сястра бачыла, як мне цяжка.

Паненкі заліліся вясёлым смехам.

Панна Ядвіся зняла з лямпы абажур і падышла да Лабановіча.

— Пакажыце, як вам цяжка?

— А цяпер мне зусім лёгка! — смяяўся Лабановіч.

— У вас сем пятніц на тыдні! — сказала Ядвіся і папрасіла яго бліжэй да лямпы.

Настаўнік і паненкі селі каля стала.

— Дзе-ж вы былі і каго вы бачылі за гэты час, покі мы тут старэлі і харашэлі? — не вытрымала панна Ядвіся, каб не засмяяцца.

Лабановіч пазіраў на яе вясёлы і дапраўды пахарашэўшы твар, на гэтыя тонкія, прыгожа скругленыя бровы, яму было прыемна ў кампаніі гэтых двух мілых дзяўчатак.

— Перш-на-перш прашу прабачэння, што не перадаў вам паклонаў ад Сухаварава і Турсевіча.

— Ну, як жыве пан Турсевіч?

— А чаму вы наўперад не запыталіся, як жыве Сухавараў? — запытаў Лабановіч і бачліва паглядзеў на Ядвісю.

Ядвіся і Габрыня пераглянуліся, усміхнуўшыся. Як відаць, у іх была гутарка аб Сухавараву, і яны знайшлі ў ім нешта такое, з чаго яны смяяліся.

— Вы не чулі, як пан Сухавараў грае на гітары? — спытала Габрыня, не вытрымала і залілася смехам. Ядвіся стрымлівалася, колькі разоў паглядаючы на настаўніка. А потым і яна засмяялася, ды такім заразлівым смехам, што і Лабановіч смяяўся, гледзячы на іх; нават і малы Чэсь, які ўвесь час моўчкі сядзеў каля печы, мусіў смяяцца.

— Калі дазволіце, я скажу прычыну вашага смеху.

Сёстры адразу перасталі смяяцца.

— Ну, скажыце! — разам прамовілі яны.

— У вас была гутарка аб Сухавараве. Вы зацікавіліся — які выгляд мелі-б губы пана Сухаварава ў той час, калі-б ён граў на гітары і сам ёй падпяваў-бы.

Ядвіся апусціла галаву. Зірнуўшы на Габрыньку, яна не магла стрымацца ад смеху і дала яму поўную волю.

Лабановіч дагадаўся, што правільна зразумеў прычыну іх смеху.

— Што, праўда?

— Вы не аматар адгадваць, — адказала Ядвіся: — усё гэта вы самі выдумалі.

— Панна Габрыня напэўна скажа праўду.

Габрыня зірнула на Лабановіча, потым на Ядвісю. Дзяўчаты зноў засмяяліся.

— Вы праўдзівы ці не? — нечакана запытала настаўніка Ядвіся.

— Чаму вы так пытаецеся? — здзівіўся крыху Лабановіч, пазіраючы ёй у вочы.

— Проста, мне цікава ведаць.

— Як-бы я вам ні адказаў, то ўсёроўна вы мне не паверыце.

— А чаму вы думаеце, што я вам не паверу?

— Каб вы мне паверылі, то, я думаю, вы не пыталіся-б у мяне аб праўдзівасці.

— Але вы не ведаеце, ці веру я вам, ці не: не ведаеце, ці лічу вас праўдзівым. Мне проста хочацца ад вас саміх пачуць, як вы думаеце пра сябе.

— Значыць, вы самі аба мне ўжо думалі? —усміхнуўшыся запытаў настаўнік.

Ядвіся крыху замяшалася, і чуць заметны румянец выступіў на яе шчочках.

— Калі вы спатыкаеце чалавека, то вы не можаце аб ім не падумаць, — сур'ёзна прамовіла панна Ядвіся.

Лабановіч на хвіліну задумаўся.

— Прызнацца, я ніколі не цікавіўся гэтым пытаннем. Тут, на Палессі, дзе людзей сустракаеш мала, можа і задумаешся над кожным чалавекам, які ні пяройдзе перад тваімі вачыма. Але ў горадзе, дзе не ўспяваеш больш-менш стала замеціць твар кожнага стрэчнага, я думаю, што гэта проста немагчыма. Можа дзе ў мазгах гэты працэс і выяўляецца, але ў нашай свядомасці ён дапраўды не адбіваецца.

— Я ў гарадах не была, — адказала панна Ядвіся, крыху нахмурыўшыся.

— Ах, Ядвіська! Што-ж гэта мы: і не падзякавалі пану настаўніку за кнігі.

— Выбачайце, я і забылася. Вельмі дзякую вам, — прамовіла Ядвіся.

— А вы ўжо прачыталі іх?

— Даўно ўжо прачыталі — адказалі дзяўчаты.

— Я вам яшчэ прынясу, калі яны вам спадабаліся.

Служанка прынесла самавар. Селі піць чай.

— Ну, а як-жа спадабаліся вам кнігі? — пытаў Лабановіч паненак за чаем.

— Вельмі цікавыя кнігі! — сказала Габрынька: — мы іх чыталі цэлымі вечарамі.

— Ці гэта ўсё была праўда, што там напісана? — спытала Ядвіся.

— Кожнае, самае праўдзівае апавяданне, разумеецца, не ёсць фатаграфія, але ў яго аснове ляжыць праўда. І кожная звычайная з'ява жыцця, калі ахінуць яе ў прыгожую форму і асвятліць яе больш-менш яскрава тым ці іншым светапоглядам і пры гэтым умець яшчэ вызначыць тыя, часта незаметныя пружыны выяўлення нашай душы, што звычайна не ўлаўліваюцца нашым вокам, — можа быць тэмаю для вельмі цікавага апавядання. Хоць-бы ўзяць для прыкладу вас. Можна-б было — каб знайшоўся такі, разумеецца, мастак — цікава напісаць, як у глухім Палессі гадаваліся і раслі дзве красуні-сястры. Гэтыя дзяўчаткі хочуць вырвацца на шырокі прастор жыцця, бо іх забівае і губіць гнілое паветра палескіх балот і гразь розных падонкаў культуры. Вось вам аснова апавядання, драмы і чаго хочаце. А ўжо справа самога пісьменніка дадаць тыя ці іншыя завязкі, узяць той ці другі тон, гледзячы на яго здольнасці... Для яго тут расчыняюцца шырокія магчымасці.

— Хоць-бы ўжо вы не смяяліся з нас, пане Лабановіч, — засмучона адказала панна Ядвіся.

Лабановіч звярнуў увагу, што ён закрануў нейкія балючыя струны панны Ядвісі.

— А вы ўзялі-б дый напісалі-б аповесць аб двух сёстрах, — сказала хітра Габрыня: — напісалі-б, што ў іх быў стары сабака Негрусь, у якога заўсёды цяклі з роту сліні...

Габрыня не магла гаварыць далей з-за смеху. Гэты смех перайшоў і на Ядвісю, і Лабановіча, бо гэты

Негрусь лічыў сваёй патрэбай заўсёды набрахаць на яго, і наогул быў смешнаю псінаю.

— А я вам чагось не сказала, — гаварыла Ядвіся на развітанне настаўніку.

— Ну, скажыце!

— Не, скажу другім разам.

## XVIII

Гэты вечар прайшоў вельмі скора.

У тую мінуту, калі Лабановіч вярнуўся ад пана падлоўчага, гадзіннік якраз збіраўся выбіваць час. Пашумеўшы і паскрыпеўшы, колькі яму было трэба, ён прабіў роўна поўнач. Настаўнік запаліў лямпу, узяў кнігу: ён меў звычай чытаць перад тым, як заснуць. Але з кожнага радка кнігі на яго пазірала панна Ядвіся, і чытаў ён зусім механічна, нічога не разумеючы з таго, што ён чытае. Ён проста пераводзіў вочы з радка на радок, ад слова на слова, а думаў пра Ядвісю.

— Не: з гэтага чытання нічога не выходзіць, — схамянуўшыся, зазначыў сабе Лабановіч.

Ён закрыў кнігу і колькі мінут ляжаў нерухліва. Спярша ён чуў, як нейкае задавальненне прыемна запаўняе яго ўсяго, бо ў гэты вечар ён прымеціў, што панна Ядвіся ім вельмі цікавіцца. Яе круглыя цёмныя вочы затрымліваліся на ім часта і доўга, то радасныя, ясна-спакойныя, то крыху як-бы засмучоныя, і глыбока западалі яму ў самае сэрца і хвалявалі яго. Усе словы і выразы яго ў гэты вечар цяпер прымалі асобнае значэнне, здаваліся многазначнымі і яшчэ яскравей выяўлялі вобраз гэтае дзяўчыны і яшчэ з большаю сілай захаплялі маладога настаўніка...

Але і другая думка зараз-жа зачала сваю работу ў яго галаве і як-бы клікала яго паглядзець на гэту справу крыху іначай. Калі гэта справа стаіць так, калі гэта яшчэ не зусім расцвіўшая краска палюбіць яго з усёю сілай першага кахання і даверыць яму сваё сэрца і маладосць, і ўсё сваё жыццё, то тады што? І перад ім пачалі вырысоўвацца другія вобразы, і думкі яго пайшлі ў другім кірунку. Няўжо-ж у яго хопіць адвагі звязаць яе долю

з доляю малазаметнага настаўніка ў гэтай глушы і тым самым адсеч сабе дарогі да далейшага дасягнення тых мэт, якія меў ён на ўвазе? Яго цягнула вольная праца ў гэтых невядомых яму прасторах людскога жыцця, яму хацелася пашырыць свой кругагляд, набыць тыя веды, якіх яму так бракавала. Яго, наогул, захапляла і вабіла гэта жыццё з яго прынаднымі малюнкамі і таемнымі чарамі. І вось на гэтай дарозе ўжо ўстала адна перашкода... Але ці так гэта? Чаму перашкода? Ці не ёсць гэта адна з тых прыгод жыцця, якая аздабляе гэта жыццё? Не ўсе з'явы жыцця вымагаюць такога падыходу, бо тады яны страчваюць сваё хараство, сваю цэльнасць і вартасць. Да іх трэба падыходзіць проста, беспасрэдна. Каб так разважала пчала, то яна, можа, і не затрымалася-б каля краскі. Не заўсёды можна разважаць над пытаннямі: а што з гэтага выйдзе? чым яно скончыцца? І ці не ёсць ва ўсіх гэтых прыгодах адзнака нейкага закону жыцця, агульнага і асабістага, які пільна стаіць на варце яго інтарэсаў і строга сочыць за тым, каб не парушалася яго роўнаважнасць?

Гэтыя думкі крыху закалыхалі і заспакоілі настаўніка, а вобраз панны Ядвісі так і стаяў у яго ваччу, як-бы смеючыся над яго разважаннямі.

Ад свае бабкі-старожкі Лабановіч з большага ведаў сямейнае жыццё пана падлоўчага.

— Добрая душа гэта паненка, — казала бабка і ўздыхала: — уся ў матку пайшла... Не даў ёй бог яшчэ пажыць трошкі, дзетак падгадаваць.

— Чаго-ж яна, бабка, так рана памерла? — пытаў бабку настаўнік.

— Памерла, панічок... На ўсё воля божая.

І, панізіўшы голас, як-бы баючыся, каб яе хто не пачуў, бабка казала:

— Ой, панічыку, цяжка ёй жылося з панам! Біў яе пан! Ды як яшчэ біў! У нябожчыцы пані былі пышныя валасы. Як распусціць, бывала, чорныя косы, дык чуць не да долу валасы звісалі... Ой, была жанчына, няхай са святымі супачывае яе душачка! Сама я, панічыку, бачыла, як біў яе раз пан. Узяў яе за косы, яшчэ на руку накруціў і вёў праз двор у пакоі. А што ён там рабіў ужо ў пакоі, то людзі таго не бачылі.

— Завошта-ж ён біў яе?

— Ой, панічыку, натура ў пана цяжкая! Ой, цяжкая натура! Калі ўжо ссунуцца бровы і вусы абвіснуць, ну тады дабра не спадзявайся. Як-бы на яго што надыйдзе. А так чалавек ён не кепскі. І пагаварыць любіць, і пашуткуе, і пасмяецца. Папросіш чаго, ніколі не адмовіць. І ведаеце, панічок: часта бедная пані па хатах хавалася, калі ўзбурыцца пан. А дзеці прыціхнуць, бы тыя пташкі ў гняздзе, калі над імі каршун пралятае... Не даў бог долі беднай пані. Старшай паненцы тады толькі дзесяты гадок пайшоў. А без маткі, панічок, самі ведаеце, цяжка жыці. Праз год жаніўся пан другі раз. Добрая пані, што казаць, панічок, але для дзяцей — не родная матка.

Такія вынікі сямейнага жыцця балюча адклікаліся на дзецях, асабліва на мяккай натуры панны Ядвісі, але яна была дзяўчына сукрытая, мела характар замкнёны і не жалілася на сваю долю. Дый каму было тут жаліцца? І смутак дзяцінства яна глыбока затаіла ў сваім сэрцы, каб аб ім нават не дагадваліся людзі, бо пры ўсёй мяккасці свае натуры панна Ядвіся была гордая дзяўчына. І толькі на адзіноце з сабою давала яна волю сваім невясёлым думкам. Аб чым тады думала яна? А пэўна былі ў яе тыя-ж думкі, якія бываюць і ў нявольніка за мураванымі сценамі, якому так прынадна ўсміхаецца воля. Розніца толькі ў тым, што гэта воля добра вядома яму, тады як жыццё за межамі гэтых панурых лясоў і зацятых у сваім выразе балот Палесся было для Ядвісі яшчэ не зусім ясным і, стала быць, яшчэ больш парывальным і прыгожым.

Але як-бы там ні было, панна Ядвіся часамі бегала на колькі мінут да старой Мар'і, не за тым, каб паскардзіцца на свой смутак, а проста пагутарыць з ёю. Забягала яна ў тыя часы, калі Лабановіч быў на лекцыях, і то ўкрадкам, з усімі перасцярогамі, каб не спаткацца з настаўнікам. Бабка была кабеціна добрая, чулася на чужое гора і ўмела знайсці тыя простыя жывыя словы, што ішлі да душы, гаілі і заспакайвалі яе. Гэтыя забачэнні іх доўгі час адбываліся цішком ад настаўніка, і бабка, як ні была яна гаваркая, ніколі не казала аб гэтым «панічу», хоць яна таксама была моцна аддана яму.

Што-ж цягнула панну Ядвісю да гэтае простае кабецiны? Трэба сказаць, што старая паляшучка была бабка добрая, спагадная і сваім простым сэрцам разумела яна, чаго бракавала маладой дзяўчыне, так рана страціўшай родную матку. Водгук на чужое гора жыў у яе сэрцы, бо і сама яна многа зазнала гэтага гора на сваім вяку, рана астаўшыся ўдавою з малымі дзецьмі. І трэба, наогул, зазначыць, што ніхто, як простая сялянская душа, не патрапіць так знайсці тыя добрыя словы і выразы, што так гаюча ідуць да другой душы, каб уцішыць і заспакоіць яе раны. Скуль-жа бяруцца гэтыя сілы, гэтыя ўласцівасці іх душы? Напэўна з гэтых крыніц свайго гора і цяжкага змагання з жыццём за свае людскія правы, з гэтай цэльнасці наіўнай веры ў справядлівасць расплаты на тым свеце за ўсе пакуты на зямлі.

З другога боку, Ядвісі было цікава паслухаць, як вёў сваю работу ў школе настаўнік, як ён часамі пакрыкваў на вучняў, сярдуючы на іх няцемлівасць або не ў меру падняты шум, каб потым задзівіць яго перасказамі таго, што рабіў ён у школе і як вёў сябе з вучнямі. А тонкая сцяна між кухняю і школаю пазваляла чуць усё, што рабілася ў школе. Ядвіся часта прыпыняла гутарку са старожкаю і прыслухвалася. Як толькі канчалася лекцыя і школа адразу ўздыхала вальней сваім шумам, Ядвіся, даўшы бабцы знак маўчаць, як спуджаная дзікая пташка, кідалася ў дзверы і знікала між будынін свайго двара, адкуль часта чуўся яе маладь сакавіты голас і звонкая песня. А бабка, гледзячы ёй услед, сама сабе ківала галавою і смяялася доўгім ціхім смехам.

— Смешная, вясёлая паненка! — зазначала сабе бабка.

Апавяданне бабкі аб дому пана падлоўчага рабіла моцнае ўражанне на маладога настаўніка. Вобраз гэтай пані з чорнымі пышнымі валасамі жыва рысаваўся ў яго ўяўленні, а цікавая думка імкнулася ўнікнуць ва ўсе схованыя пружыны гэтае драмы чалавечай душы. І гэта трагедыя людскога жыцця авявала і вобраз панны Ядвісі ў нейкую няясную заслону тайнасці цёмнай палескай глушы. І сама гэта глуш усё выяўней прымала свой асабісты воблік, як нешта само сябе здавальняючае і існую-

чае сваім уласным жыццём, таемна пераплятаючыся і лучачыся з людскім лёсам.

Астаючыся на адзіноце з самім сабою, Лабановіч часта думаў аб Ядвісі. Ён нават размаўляў з ёю ў сваіх думках. І гэта размова была такая простая, цікавая, бо яна ішла ад сэрца! Ядвіся так міла і крыху хітравата пазірала на яго і смяялася. Яму самому рабілася так добра і ціха на душы ад гэтае размовы. Ён чуў, што нешта добрае, прыемнае ўліваецца ў яго душу і грэе яго сэрца.

Але пры спатканні з Ядвісяю ён ніколі не выказваў таго, што гаварыў ёй без яе. Ні-то сарамяжлівасць яшчэ чыстага сэрца, ні-то нейкая асцярога стрымлівала яго, каб выказаць ёй усё, што было на сэрцы.

## XIX

У скорым часе пасля таго, як Лабановіч вярнуўся ад Турсевіча, да яго прыехаў Саханюк. Лабановіч быў моцна здзіўлены, угледзеўшы на парозе сваёй школы высокую, сухарлявую фігуру хатаўскага настаўніка. Першна-перш ніяк не чакаў яго ў госці, асабліва ў будны дзень.

— Здʼястуйце! — прамовіў Саханюк, прычым губы і вочы смяяліся вясёлым смехам. — Што, не чакалі мяне?— спытаў ён, павітаўшыся з калегаю.

— Ніяк не чакаў, — здзіўлена адказаў Лабановіч: — ну, тым прыемней пабачыць вас тут. Заходзьце-ж, калі ласка, у кватэру, а я зараз канчаю лекцыю і пушчу хлопцаў на абед... А можа вам цікава пазнаёміцца з маёй школаю, то будзьце ласкавы.

Саханюк больш з далікатнасці прайшоўся між вучнёўскіх лавак, заглядаючы на грыфелевыя дошкі і на сшыткі вучняў, а потым прыпыніўся каля шафы з кнігамі і слухаў, як калега вёў работу і якія адказы давалі вучні.

Лабановіч стараўся не скасавацца перад Саханюком і паказаць сваю школу з найлепшага боку. Запытанні адно за другім так і сыпаліся да вучняў, а следам за гэ-

тымі пытаннямі выклікаліся вучні. Вучні давалі досыць добрыя адказы.

— Можа паэкзаменуеце маіх вучняў? — спытаў Лабановіч Саханюка.

Саханюк махнуў рукою, даючы гэтым знаць, што ён не мае ніякіх запытанняў.

— Схавайце кнігі! — звярнуўся Лабановіч да вучняў.

Дзеці борзда пахавалі кнігі і дошкі.

— Малітву!

Школа хорам праспявала малітву прад абедам. З шумам рынуліся дзеці на вуліцу і запоўнілі яе сваімі звонкімі галасамі.

— Ну, як вам падабаецца мая школа?

— А нічога, добра! Добра!.. Вы, відаць, многа працуеце?

— Працаваць-то прыходзіцца. Толькі мне ўсё здаецца, што ў маёй працы чагось не стае, і што я раблю не так, як трэба.

Настаўнікі ўвайшлі ў пакойчык.

— Э, плюньце вы на гэта, — прамовіў Саханюк: — навучылі чытаць, пісаць і задачы развязваць і — шабаш! Вы думаеце медаляў заслужыце? Або свет гэтым перавернеце? Інспектар знойдзе да чаго прычапіцца. Ну, у самым лепшым выпадку падзяку напіша, а дырэкцыя вам дзесяць рублёў вышле. Але сваё здароўе даражэй.

— А як вы сваю школу пакінулі?

— А дзе яна дзенецца? У лес не пабяжыць, — адказаў, смеючыся, Саханюк.

«Відаць, брат, ты не так сюды прыехаў», — падумаў Лабановіч.

— Мусіць, у вас нейкая важная справа, калі так. Можа часамі ў сваты прыехалі да каго? — мяняючы тон размовы, жартліва запытаў яго Лабановіч.

— А што-ж? Сватайце. Гуляць будзем.

— Дык бачыце, я кепскі сват. Каб часамі з-за дзяўчыны не пасварыліся.

— Каб з-за дзяўчыны ды яшчэ сварыцца! Ці мала гэтага дабра на свеце? Хваціць на наш век!.. Паміж іншым, вамі цікавіцца адна паненка.

— Паненка? Якая?

— Такая, што ўсё аддай — і мала!

— Ну, хто-ж такая?

— Кажа: хацела-б пазнаёміцца з цельшынскім настаўнікам.

— Можа завітанская чараўніца?

— Яна, калега, яна! Як гэта вы адгадалі?

— А ў мяне бабка — знахарка; я ў яе лекцыі па знахарству бяру.

— А ўсё-ж такі цікава, чаму вы дагадаліся, што гэта яна?

— А вельмі проста: усе кавалеры — сем пар вінных і сем пар нявінных і вы ў тым ліку — закахаліся ў панну Людмілу. У яе аж галава закружылася ад радасці і дух заняўся. Але яе засмучае адно: чаму не ўсе кавалеры нясуць падатак яе хараству? Я, калі хочаце, той гарбач у казцы «Царэўна — чырвоная краска», які не пакланіўся гэтай царэўне. І не буду ёй кланяцца.

— Вось вы які! — сказаў Саханюк і засмяяўся.

— А што-ж вы думалі!

— І не пазнаёміцеся з ёю?

— Ва ўсякім разе сам да яе не пайду.

— Чаму?

— Проста не пайду і ўсё.

Саханюк гаварыў, часамі смяяўся, але Лабановічу здавалася, што чагось самага галоўнага яго калега не кажа, бо не можа быць, каб ён прыехаў сюды толькі дзеля таго, каб сказаць, што дачка каморніка хоча пазнаёміцца з цельшынскім настаўнікам.

— Выбачайце: я зараз вярнуся.

Лабановіч выбег у кухню.

— На табе, бабка, пяцьдзесятку, прынясі гарэлкі.

— Вы яго, панічок, частавацімеце? — шэптам спытала бабка.

— А што?

— Не варта, панічыку! Гэта-ж ён, панічок, прыехаў гарцы збіраць!

— Якія гарцы?

— Ссыпку з нашага вобчаства на школу!

— Каму ссыпку?

— Сабе, панічыку!

Бабка, гаворачы гэта, аж сіпала ад нейкага абурэння.

Лабановіч пазіраў на яе і дзівіўся. Уся гэта справа для яго была незразумелаю, хоць яна ў значнай меры пралівала асвятленне на прыезд Саханюка.

— Ну, бабка, прынясі гарэлкі: вып'ем, тады можа да сэнсу прыдзем.

Бабка сярдзіта накінула на сябе світку, моцна стукнула дзвярмі і накіравалася да Лявона Секача.

Лабановіч вярнуўся да госця. Яшчэ нічога не разумеючы, ён зірнуў на Саханюка.

— Ведаеце, што кажа мая бабка: быццам вы прыехалі збіраць нейкую ссыпку. Што вы на гэта скажаце?

Саханюк апусціў вочы, пачуўшы як-бы нейкую нялоўкасць, а потым ускінуў іх на калегу.

— Так, мне належыць ссыпка ад вашага сяла, — прамовіў ён спакойна.

— Вы не жартуеце? — здзівіўся Лабановіч.

— Не, кажу зусім сур'ёзна.

— Ха-ха-ха! — Лабановіч так і паехаў ад смеху. Саханюк пазіраў на калегу, таксама ўсміхаючыся.

— Што вы знаходзіце тут смешнага? — спытаў ён.

— Ну, як-жа не смяяцца? Вы прыехалі да мяне адбіраць мой хлеб. Я буду вучыць, а вы толькі будзеце гарцы браць.

— Чакайце, — загарачыўся Саханюк: — на валасным сходзе была зроблена пастанова, каб на хатаўскую школу давалі ссыпку. Ад вашага сяла мне належыць дванаццаць пудоў трыццаць фунтаў жыта. Ну? Я і маю поўнае права ўзяць сваё.

— Выбачайце. А калі была зроблена такая пастанова? Напэўна тады, калі Цельшына не мела свае школы? А раз гэта школа цяпер ёсць, то было-б, па меншай меры, смешна браць ссыпку ад свае школы і даваць у чужую. І наогул гэта справа такая простая і відавочная, што і дзіця зразумее ўсю недарэчнасць вашага дамагання.

Саханюк ніколечкі не пакрыўдзіўся.

— Я грунтуюся на цыркуляры дырэкцыі народных вучылішчаў, які зазначае, што раз была пастанова валаснога сходу даваць ссыпку, то грамадзянства не мае права яе адабраць. Вось чаму я і прыехаў забраць гэту ссыпку.



Якуб Колас сярод дзяцей. 1922 г.

— Але вы яе не атрымаеце.

— Вазьму!

— Не, не возьмеце!

Колькі хвілін Лабановіч узіраўся ў Саханюка. Саханюк таксама глядзеў на калегу. У яго жаўтаватых вачах блукаў нявінны смех.

— Ведаеце што, — прамовіў Лабановіч. — Мне не шкада гэтае ссыпкі, бог з ёю; але калі пайшло ўжо на рызыку, то магу вас не толькі запэўніць, але і переразапэўніць, што вы адгэтуль не возьмеце ні аднюсенькага зярнятка.

— Ну, пабачым, — сказаў Саханюк.

— Нічога вы не пабачыце!

У самы разгар іх спрэчкі скрыпнулі дзверы з кухні. Старожка прасунула галаву.

— Вось, панічыку, вам грошы: нідзе не дастала! Была і ў Лявона, і ў Губаровых — няма.

— Ну, то давай будзем абедаць.

Саханюк адмовіўся абедаць. Ён прыехаў сюды з Дубейкам і ўмовіўся з ім па дарозе заехаць на пачастунак. Куды, Саханюк не сказаў. Цяпер-жа ён мусіць ехаць, бо Дубейка ў старасты яго напэўна ўжо чакае.

Саханюк развітаўся з калегаю, заклікаючы яго да сябе ў госці.

— Дзякую, — сказаў Лабановіч, — але, калега, майце на ўвазе, што ссыпкі вы не атрымаеце.

— Буду судзіцца, — не адступаўся Саханюк: — вось прыеду і земскаму жалабу падам на вашага старасту.

Пад вечар таго-ж самага дня староста сабраў гарцы і прывёз іх Лабановічу.

— Што, панічок, звар'яцеў ён ці што? Як-то мы аддамо яму сваю ссыпку, калі ў нас ёсць свой настаўнік!

У старасты быў зусім адміністрацыйны і начальніцкі выгляд і пачуццё выпаўненага доўгу перад школаю і настаўнікам.

— Хоць-бы ён пасароміўся, — абурліва гаварыла бабка: — як гэта можна забраць ссыпку з чужое школы?

Бабка была зацікаўлена ў гэтай ссыпцы, бо і ёй належала некаторая частка гарцаў.

## XX

Панна Ядвіся была ў незвычайна вясёлым настроі. Яна і малая Габрынька пойдуць заўтра на раз'езд, сядуць на машыну і паедуць у госці. У Гродзеншчыне ў іх былі сваякі, і татка пазволіў ім паехаць да іх нядзелі на дзве пагасцяваць. Габрынька кружылася каля мачыхі, жартавала, смяялася такім вясёлым дзіцячым смехам, што нават пераважна смутная і заклапочаная пані падлоўчая не магла захаваць свой звычайны настрой і таксама смяялася.

— Адстань, адстань: ты ўжо не дзіця.

Пані падлоўчай, здавалася, было крыху нялоўка, што панна Габрынька так дурэе пры чужым чалавеку. А гэты чужы чалавек быў Лабановіч.

Але Габрынька не зварачвала на гэта ўвагі. Яна выдумала кароценькі вершык і раз-по-раз дэкламавала яго сваёй мачысе:

Мама така слічна,
Слепа, дыхавічна.

— От распуста, — ківала галавою пані падлоўчая, зварачаючыся да настаўніка.

— Я буду пісьменніцай. Хачу напісаць аповесць, як на Палессі жылі дзве прыгожыя краскі-панны і што з гэтага вышла, — смяялася Габрынька.

— А што з гэтага вышла? — пацікавіўся Лабановіч.

— Вышла тое, чаго ніхто не спадзяваўся: гэтыя дзве красуні пакахалі аднаго маладога паніча і кінуліся яму на шыю. А ён, бедны, пайшоў з гора і ўтапіўся ў Целяшовым Дубе.

— Габрынька, устыдзься! — прамовіла пані падлоўчая.

А Габрынька ўся хадзіла ад смеху. Таксама смяялася і панна Ядвіся, крыху засаромеўшыся такой непасрэднасці, прастаты і смеласці жартаў свае сястры.

— У вас, як бачна, ёсць здольнасці пісьменніцы, — смяяўся і Лабановіч: — але чаго-ж ён, гэты ваш паніч, тапіцца пайшоў?

Габрынька хітра зірнула на сястру. Ядвіся, відавочна, зацікавілася яе жартам і, смеючыся, адказала за сястру:

— Мусіць, той паніч пералякаўся свайго шчасця. —

І нямаведама чаго, сёстры пераглядаліся і перасмейваліся. Проста, ім было весела, іх цешыла, іх радавала гэта паездка, гэта змена ўражанняў, новыя месцы, новыя знаёмствы.

Лабановіч пачуў нейкае засмучэнне. Скуль яно, ён не ведаў і сам. Ці не з таго, што панна Ядвіся так радуецца? Як відаць, яе нішто не прымацоўвала тут, ніхто не цікавіў, і яна з лёгкім сэрцам гатова была змяняць гэту глуш Палесся на кожнае новае месца, бо сэрца яе было вольна, а можа шукала другога сэрца, каб забіцца яму ў адзін тон? А можа гэта сэрца было ўжо там?

І пачуванне адзіноты закралася ў душу настаўніка, бо ён тут — чужы і лішні. І смешны яму цяпер паказаліся тыя думкі, якія яшчэ так нядаўна цешылі яго маладое сэрца.

Пані падлоўчая вышла. У пакоі засталіся адны дзяўчаты. Каля печы пад канапаю ляжаў стары Негрусь і зрэдку павільваў хвастом, калі міма яго праходзіла панна Ядвіся.

— Я ні разу не бачыў вас у такім добрым гуморы, — сказаў да яе Лабановіч. — Вы сёння так вясёлы, як ніколі.

— А вы хацелі-б, каб я плакала? — спытала яна.

— Не, я гэтага зусім не хацеў-бы. Але, як я замячаю, у вас тут няма нічога такога, аб чым вы маглі-б пажалець. І калі-б вам напаткалася такое здарэнне, што вы маглі-б ніколі сюды не варочацца, то вы і ніколечкі аб гэтым не пажалелі-б.

— О, не! — прамовіла панна Ядвіся.

На мінутку яна як-бы аб чымсі задумалася. Твар яе стаў сур'ёзны. Але ў момант вока выраза яе перамянілася, у ваччу заблішчалі іскаркі смяшлівасці і хітрасці.

— О, не: вы памыляецеся! — сказала яна: — у мяне тут ёсць нехта такі, каго мне вельмі цяжка пакінуць і аб кім вельмі непакоіцца маё сэрца.

Лабановіч замёр у салодкім і разам трывожным чаканні. Панна Ядвіся акінула яго бачлівым поглядам. Яна раптоўна схапілася і накіравалася да Негруся.

— Негрусь, мілы мой Негрусь! — казала яна і лашчыла яго, прытуліўшы да яго сваю шчаку: — мы разлучымся з табою на цэлыя два тыдні!

— Тым прыемней будзе часіна спаткання пасля разлукі, — сказаў Лабановіч.

Ён устаў.

— Ну, жычу вам усяго найлепшага: шчасліва заехаць, весела гуляць і лёгка перанесці разлуку з тым, аб кім так непакоіцца ваша сэрца. — Гаворачы гэта, Лабановіч чуў нейкую крыўду, і, як ні сіліўся захаваць яе, гэта крыўда вызначалася на яго твары.

— Куды-ж вы? — спытала яго Ядвіся.

— У мяне, бачыце, ёсць адна работа. Вам-жа трэба збірацца ў дарогу — не буду вам замінаць... Бывайце здаровы!

Ядвіся нічога не сказала. Яна толькі вінавата і як-бы пужліва заглядала яму ў вочы. Можа яна каялася ў сваім апошнім, праўда, грубаватым жарце, але прызнацца ў гэтым яна чамусь не хацела.

— А можа вы заўтра пройдзецеся з намі на раз'езд? — спытала Лабановіча Габрынька.

— Нашто турбаваць пана настаўніка? — прамовіла Ядвіся: — татка заўсёды пасылае з намі лесніка Грыгора.

Што гэта: новая абраза, ці панна Ядвіся проста не хоча яго кампаніі? А можа яна не хоча мець сведку свайго спаткання з Сухаваравым?

Вясёлы настрой пакінуў панну Ядвісю, і яна засталася маўклівая, замкнёная ў сабе самой.

— Разумееце, — сказаў Лабановіч: — панне Ядвісі будзе шмат прыемней пайсці ў кампаніі Грыгора і Негруся, які напэўна сам назавецца ў праважатыя.

Пачуўшы сваё імя, Негрусь у здавальненні колькі разоў вільнуў хвастом.

Лабановіч развітаўся і вышаў. На душы ў яго было цяжка і смутна. Ясна, што панна Ядвіся насміхаецца з яго. А калі і звярачала на яго ўвагу, то толькі з тае прычыны, што тут — глуш, жывога чалавека няма. А ён, як неразумнае дзіця, не бачыць нічога. Ён сам наводзіў на сябе прыемны туман самазманства, ён сам закалыхваў сябе ружовымі думкамі і салодкім лятуценнем. Ну, што-ж? Трэба глыбей увайсці ў сябе самога і там трэба шукаць крыніц радасці і здаровага пачуцця. І трэба, наогул, узяць сябе ў рукі. Пара яму выкінуць усё гэта з галавы і сэрца, покі вобраз гэтае дзяўчыны яшчэ не

засеў там настолькі глыбока, каб з ім было трудна змагацца. Няхай не падумае яна, што яму без яе свет зачынен.

Колькі разоў прайшоўся ён па свайму пакоіку.

«Не, — думаў ён: — гэтак далей жыць не можна. Апрача школы і чыста асабістых інтарэсаў, ёсць яшчэ і другія — чыста грамадзянскія абавязкі. Трэба бліжэй стаць да народа, прыгледзецца, як ён жыве і чым ён жыве. Трэба пашырыць асадкі свае работы, трэба вынесці гэту работу за межы чыста школьных пытанняў».

Лабановіч накіраваўся ў школу, падышоў да кніжнае шафы. На адной палічцы стаяла колькі дзесяткаў тоненькіх кніжачак спецыяльна для народа. Выданні гэтыя былі шчупленькія і наогул пустыя. Тут пераважна былі кніжачкі, выданыя рознымі камітэтамі і гурткамі цвярозасці або сінодскія выданні. Разгледзеўшы гэту кніжыцу, Лабановіч нічога не знайшоў у ёй цікавага, асабліва для тутэйшага грамадзянства, і рашыў выбраць больш цікавую на яго погляд тэму для гутаркі з палешукамі. Аб чым-жа гутарыць? Трэба звярнуць увагу на становішча сялянскага побыту, паказаць сялянам, як жывуць другія людзі і як яны дайшлі да лепшага стану жыцця.

Лабановіч усё больш і больш захапляўся сваёю тэмаю. У яго галаве складаўся план прамовы і вынікалі ў яго ўяўленні ўсё новыя і новыя факты.

Ён зачыніў шафу, увайшоў у свой пакоік і сеў за стол, каб зрабіць накід плану свае прамовы.

На гэты час увайшла бабка.

— А вы, панічок, усё пішаце.

— Пішу, бабка.

— А ці чулі вы, панічыку, што Курульчука перамяшчаюць ад нас?

— Перамяшчаюць? — спытаў Лабановіч: — чаму-ж яго перамяшчаюць?

Лабановіч задумаўся. Яму стала чагось шкада. Нейкая адзінота ахапіла яго, і гэты цесны краявід, здавалася, яшчэ звузіўся і стаў больш цесным.

— Нелады ў іх з дарожным майстрам, — растлумачыла старожка прычыну выезду Курульчука.

## XXI

Прайшоў нейкі час.

На працягу гэтага часу малады настаўнік шмат перажыў, перадумаў. Цэлыя вечары праседжваў ён у сялянскіх хатах, прыглядаючыся да жыцця палешукоў. Яго тут прымалі і спатыкалі прыветна, з ахвотаю падтрымлівалі гутарку аб розных справах. Але гэтыя гутаркі не выходзілі за межы тых пытанняў, якія закранаў сам настаўнік, бо палешукі — людзі паважныя, сталыя, асцярожныя, не адразу і не кожнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо, мусіць, сама гэта прырода Палесся палажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму разважанню, мора лясоў выхоўвала ў іх засцярогу, бо так лёгка тут напаткаць небяспеку: на звера натрапіць, згубіць дарогу або папасціся ў рукі сярдзітым леснікам графа Патоцкага. І толькі выпадкова ўдавалася тут пачуць якое-небудзь няўмысле ўроненае сакавітае слова, прыказку або цікавае параўнанне. А гэтыя старыя, аздобленыя сівізною, маршчынамі і пачэснымі лысінамі дзяды, жывыя летапісы цельшынскай гісторыі на працягу многіх дзесяткаў гадоў, да душы падабаліся Лабановічу. Гэта былі тыя слупы, тыя падмуркі, на якіх трымаліся традыцыі сялянскай старажытнасці, яе побыт і навучальнасць. Гэта былі самавукі-астраномы, гадальнікі розных прыгод жыцця. Яны ведалі, у які дзень, у якую нават часіну трэба выязджаць з сахою на поле, пры якіх умовах трэба сеяць тую ці іншую збажыну. Ім досыць пабачыць першы вырай жураўлёў, каб сказаць, які будзе авёс. У залежнасці ад вышыні іх лёту знаходзіўся і рост аўса: высока ляціць вырай — высокі вырасце і авёс. Кожны такі дзед меў свой асаблівы, выразны твар.

Вось хоць-бы гэты дзед Мікіта. Сівы, як голуб. Востры погляд, калючыя вочы, гатовыя пранізаць. Старасць прыгнула яго крэпкі стан і кінула на твар яго і на высокі лоб цэлую сетку маршчын. Але што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады! І не было ў сяле роўнага яму. Такія штукі выкідваў дзед Мікіта, на якія цяпер ніхто не патрапіць, бо хіба цяпер такі народ? Ды што маладыя гады? Нават і цяпер, не гледзячы на свае восемдзесят год, дзед Мікіта за пояс маладога заткне.

Вось толькі няхай падгуляе, няхай ачнецца ў ім яго маладая бунтоўная кроў, — не выцерпіць, прасуне рукі ў камені-жарнавікі і пойдзе з гэтымі каменнямі, як з лёгкімі кацёлкамі, упрысядкі па хаце. І цяпер яшчэ баяцца дзеда Мікіты, бо Мікіта — знахар-чараўнік, хоць знахарствам ён не займаецца, але калі хто ўгневіць дзеда Мікіту, тады пазнае ён сілу дзедавых чараў. Мікіта — чалавек нелюдзімы, удзень яго бадай што і не спаткаеш на людзях і жыве ён адзін, як воўк, у сваёй хаце, даўно пахаваўшы сваю старую і адбіўшыся ад дзяцей.

Дзед Мікіта і другія родаўласнікі Цельшына дабрахоць уступілі свае правы больш маладым і здаровым, самі-ж яны ўжо стаялі збоку ад грамадзянскіх спраў. Першае, яны ўжо ўзнеслі свае падаткі грамадзянскаму будаўніцтву, другое, як ні ціха, як ні маларухома было вясковае жыццё, але старыя прадстаўнікі яго, дзядыпалешукі, знаходзілі ў ім цяпер многа чаго такога, што не адпавядала іх поглядам і супярэчыла іх сталаму светагляду. І толькі ўжо ў незвычайна важных выпадках прымалі ўдзел гэтыя дзяды.

І вось тады, калі вынікала якая заблытаная справа агульнавясковага характару, злазіў з печы зусім стары ўжо дзед Мікадым, выходзіў на вуліцу і голасна зазначаў:

— Вы не думайце таго — праўда не скварка, з кашаю не з'ясі. Выйдзе наверх яна родная, бо ўжо сама зямля прысягала небу не пускаць адгэтуль цёмнай, заблутанай праявы.

Звычайна-ж дзяды сядзелі больш дома або на двары корпаліся. У цэркву яны бадай што ніколі не хадзілі, бо цэрквы ў Цельшыне, апрача капліччкі на могілках, не было. А дома маліцца богу не выпадала, бо больш награшыш, чым намолішся. Апрача таго, маліцца іх не вучылі. І наогул, ніхто ў Цельшыне не ўмеў маліцца, як трэба. Кожны маліўся так, як зносіў яго розум. Адзін раз у год прыязджаў сюды бацюшка з Малевіч. Прыязджаў з года ў год на благавешчыну. Тады ўжо ўсе цельшынцы і неслі свае грахі яшчэ больш грэшнаму бацюшку, айцу Мадэсту, які быў вельмі заўзяты п'яніца і лаяльнік. Напэўна за гэта і пакараў святы Ілья малевіцкую цэркву, пабіўшы перуном яе вежу. А можа і другі грэх айца

Мадэста мог пацягнуць за сабою такую кару, бо айцец Мадэст сушыў жыта за царскімі дзвярмі, а ў святую нядзельку перад набажэнствам зазвычай хадзіў на балота трасці бучы з рыбаю сваіх парафіян. Раз, ходзячы па балоце, уваліўся ён дзесь у апарыну па самы пояс. Царкоўны стараста Крышчук, які таксама хадзіў разам з бацькам на раздабыткі, стаяў і спакойна пазіраў, як айцец Мадэст церабіўся ў гразі і не мог вывалачы з балота ног.

— Чаго пазіраеш, падла пранцаватая? Цягні мяне! — Тады толькі паварушыўся Крышчук і вызваліў з балота айца Мадэста.

У гэту нядзельку а. Мадэст зрабіў забастоўку і не пайшоў служыць абедню.

— Што, бацюшка, можа час званіць на абедню? — пытаў яго дома стараста Крышчук.

— А ні дзлэнг! — крыкнуў а. Мадэст: — як бог да мяне, так і я да бога!

І ўсё-ж такі, не гледзячы на ўсё гэта, цельшынцы адчувалі нейкую патрэбнасць так ці іначай мець сувязь з небам і царкоўнасцю, хоць гэта сувязь была больш фармальная і павярхоўная.

Лабановіч доўга не мог забыць аднаго здарэння, калі гэтыя рэлігійныя патрэбы вызначаліся асабліва самабытна. Лабановіч яшчэ спаў салодкім сном. Была раніца, толькі што разднела. У кухні, радам з пакоікам настаўніка, дзе ён спаў, стаяў глухі шум ад галасоў цельшынскага жыхарства. Гэты шум часамі гушчэў і павялічваўся, але голас бабкі спыняў яго, бо бабка не хацела трывожыць «паніча». Лабановіч прачнуўся і стаў прыслухоўвацца. Дзверы з двара ў кухню то адчыняліся, то зачыняліся. У самой кухні тупалі, штоўхаліся, грукалі збаны, глякі і бутэлькі, а ўвесь гэты шум пакрываўся і заглушаўся шумам вады. Вада лілася з вядзёр у цэбар. Настаўнік адзеўся. Адчыніўшы дзверы, ён убачыў поўную кухню палешукоў і паляшучак, дзяўчат, маладых і старых кабет. Усе яны праціскаліся да цэбра з вадою і бралі адтуль ваду. Старожка кіравала ўсёю гэтаю справаю і падлівала ў цэбар ваду. Убачыўшы настаўніка, усё гэтае зборышча спаткала яго вельмі прыветнымі ўсмешкамі.

— Што гэта, бабка, тут робіш?

— Ваду, панічок, свянцоную даю.

— Ах, праўда! — прамовіў настаўнік, — сёння-ж вадохрышчы. Хіба бацюшка свянціў?

— Не, панічыку. Памятаеце, прыязджаў бацюшка хатаўскі служыць малебен у школе? Вось засталася ад малебну вада. Я пераліла яе ў бутэлечку, а цяпер, бачыце, мы разбавілі яе, і людзі бяруць свянцоную ваду.

— Дык гэта-ж трэба да царквы паехаць ды на Іардань пайсці і адтуль вады набраць.

— Далёка, панічыку, ездзіць, — важна і аўтарытэтна прамовіў староста.

— Усёроўна, — махнуў рукою Сцяпан Рылка, той самы, што калісь вазіў настаўніка да воласці.

На працягу гадзіны часу ўсё сяло набрала сабе свянцонай вады. Бабка ў гэты дзень адчувала сябе важнейшаю асобаю ў сяле.

Колькі разоў заклікаў Лабановіч цельшынцаў да школы. Ва ўсе хаты разнеслі вучні весткі аб тым, што вось у такі вечар настаўнік запрашае грамадзянства ў школу, дзе ён будзе гаварыць і чытаць. На першы вечар народу наваліла поўная школа, нават месц нехапала. Як-ні-як, гэта ўсё-ж такі было цікава для палешукоў. Палешукі, галоўным чынам, сталыя жыхары, важна селі на лаўках, а дзяўчаты і маладыя хлопцы збіліся каля дзвярэй, пашчыпваючы адны другіх і перасмейваючыся.

Калі ўсё грамадзянства пасабіралася і пазаймала месцы, прышоў настаўнік.

У кароткіх словах ён выясніў слухачам, дзеля якое мэты сабраў ён іх сюды і ў аснову свае прамовы палажыў тую думку, што чалавек імкнецца ў сваім жыцці, каб гэта жыццё было добрае і карыснае, і якім чынам можа паляпшацца яно, як павінен ісці чалавек, каб гэта паляпшэнне было сапраўдным і значным. Ён стараўся зацікавіць сваіх слухачоў, прыводзіў жывыя прыклады з іх жыцця, праўдзівыя, простыя і зразумелыя. Ён добра падгатаваўся да свае прамовы, гаварыў гладка, часамі з натхненнем. Але яго вельмі здзівіла, што дзяўчаты зусім не слухалі яго і больш цікавіліся сваімі кавалерамі, чым яго прамоваю. Старыя палешукі хоць і слухалі, але то той, то другі шырока расчынялі сківіцы і пазяхалі. А ў канцы прамовы Максім Цялушка зазначыў:

— Усё гэта праўда, панічок. Але куды ўжо нам вучыцца? Няхай хіба яны вучацца, а мы ўжо так дажывем.

Пры слове «яны» Максім паказаў рукою на вучняў.

## XXII

Зрабіўшы яшчэ адну ці дзве такія спробы і заўважыўшы, што з кожным разам лік слухачоў памяншаецца, Лабановіч махнуў на іх рукою. Але што было рабіць і чым яму заняцца? У будныя дні зранку да вечара ён быў у школе. Але прыходзілі доўгія зімнія вечары. Куды было падзець гэты вольны час? Ён садзіўся за чытанне, зубрыў на ўсякі выпадак розныя падручнікі, пісаў лісты да сваіх сяброў, таксама пазакінутых у глухія куткі Беларусі; нават паспрабаваў весці дзённік, куды запісваў свае думкі, настроі і перажыванні. Спярша гэты дзённік яго моцна захапіў, і ён сядзеў над ім цэлымі гадзінамі. Разумеецца, у гэтым дзённіку самае важнае месца адводзілася адной дзяўчыне. Боязнь, каб гэты дзённік не папаў каму-небудзь у рукі і не расчыніў таямніцы яго душы, прымушала яго шукаць асобныя спосабы і формы запісаў, ужываць розныя алегорыі. Але праз тыдзень гэта пісанне было закінута, бо самому аўтару яно паказалася вельмі наіўным і смешным.

А што-ж гэта дзяўчына, якая так моцна парушыла спакой маладога настаўніка, што думала яна? А яна загасцілася ў Гродзеншчыне і, як відаць, не вельмі спяшалася дадому. Такая няўвага з боку панны Ядвісі крыўдзіла і абражала яго. Яму хацелася, каб яна скарэй вярнулася сюды, не з тае прычыны, што ён зараз-жа збярэцца і пабяжыць да яе. Не, зусім не. Ён проста хоча паказаць ёй сваю поўную няўважнасць да яе асобы. Ён нават колькі разоў пройдзецца ўдзень каля яе акон, але і галавы не паверне ў яе бок і знаку не дасць, што яна зацікавіла яго, што яму без яе цяжка і смутна. Ён толькі нацешыцца сваёю помстаю, але нічога не скажа аб гэтым.

У святыя дні было яшчэ горай, бо ў святыя дні яшчэ больш было гэтага вольнага часу. Яго цягнула ў людзі,

але ён цвёрда пастанавіў нікуды не хадзіць. Дый куды, сказаўшы праўду, пройдзеш? Курульчука няма, на Прыпяць перабраўся. Лабановічу вельмі шкода было Курульчукоў. Аб Марыне асталіся адны толькі чыстыя і прыемныя ўспаміны. Часамі малады настаўнік наракаў сам на сябе, чаму бліжэй не пазнаёміўся з ёю. Такая была мілая і слаўная дзяўчына, і напэўна было ў яе найлепшае сэрца. Што-ж замінала яму бліжэй стаць да Марыны?.. Эх, сказаў ён сам сабе: так лепей. Да пана падлоўчага яму таксама не хацелася цяпер заходзіць, хоць пан падлоўчы, праўда, заклікае яго, і ён ні разу не адмовіўся сесці з ім за стол, каб добра выпіць і закусіць знамянітымі літоўскімі калдунамі. Падвыпіўшы, пан падлоўчы быў у гуморы: ён успамінаў тады свае маладыя кавалерскія гады, свой жывы і гарачы нораў, свой спрыт да паненак.

— Я не ведаю, што цяпер за кавалеры, — казаў зняважальна пан падлоўчы: — ні рыба, ні мяса. Я, бывала, на галаве хадзіў! Падыйдзеш да паненкі і так і гэтак. Бывала, у морду табе дасць — ну, і нічога. Хіба гэта абраза для кавалера, калі часамі заробіш ад паненкі па мордзе?.. Не, трэба табе, пане прафесару, з паннаю Людмілаю пазнаёміцца. А то сядзіш ты тут, як пень на дарозе... Калі-небудзь мы паедзем з панам да Завітанак, трэба-ж крыху разварушыцца ды павучыцца, як каля паненак хадзіць.

— Куды-ж ужо мне патыкацца да завітанскае красуні, — сказаў Лабановіч, — каля яе ўжо вельмі завозна.

— То што?.. Гэ! Бывала, толькі і сунешся туды, дзе кавалеры кішаць. Вось тут-то і ўся цікавасць, каб іх паадціскаць, насы ім усім нацягнуць і да сябе паненку прывабіць.

Пан падлоўчы не прамінаў здарэння навесці апавяданне на гэтакую тэму, дзе яму самому прыходзілася выступаць у якасці гэтага шчаслівага кавалера, які браў верх над усімі кавалерамі.

Пані падлоўчая, давольная і шчаслівая, слухала гэтыя выдатнасці свайго грознага мужа і, нібыта не верачы, казала:

— Ну, ты ўжо скажаш.

— А мне што? — важна зазначыў пан падлоўчы. Ён быў глыбока пераконаны ў праўдзе ўсяго гэтага і ў правільнасці свайго кірунку ў гэтых справах.

— Я не любіў каля паненак кісялём сядзець.

Потым пан падлоўчы падыходзіў да музычнае скрыначкі, завадзіў тыя кружкі, якія яму асабліва падабаліся, і падпяваў басам у такт мелодыі, памахваючы рукою. Другія кружкі заводзіліся спецыяльна для таго, каб аддацца смутным успамінам далёкага мінулага. Пан падлоўчы тады сядзеў нахмураны, цяжка соп носам і думаў. Пасядзеўшы крыху такім чынам, ён падымаўся з месца і ішоў у свой пакой на супачынак.

Лабановіч звычайна сядзеў яшчэ колькі мінут і слухаў паню падлоўчую. Яна парывалася сказаць вельмі многа, яна хацела расчыніць сваю душу, выліць з яе ўсю тугу, увесь смутак свой, але словы ўпыняліся, не слухалі сваіх думак, што імкнуліся знайсці найболей дакладную сваю форму і не знаходзілі. Колькі разоў падкрэслівала пані падлоўчая, што яна вельмі паважае пана Лабановіча і лічыць яго як-бы за роднага. Нясkладна і перарывіста зазначала яна непаслушэнства, свавольства і распусту Чэся, звярачаючы ўвагу на тое, што ёй, як мачысе, вельмі трудна з ім справіцца, але яна цярпліва нясе свой крыж і незаслужана церпіць з-за Чэся.

Гаварыла пані падлоўчая ціха, задыхаючыся і кідаючы баязлівыя погляды ў той бок, куды пайшоў пан падлоўчы. У гэтых нясkладных, балючых і палахлівых словах было многа недасказу, у іх чуўся страх і сорам гэтага спавядання перад чужым чалавекам; у іх адчувалася мітусенне яе душы, неадпаведнасць таго палажэння, якое яна займае ў сям'і пана падлоўчага, з тым, на якое давала ёй права яе паходжанне і выхаванне.

Лабановічу прыкра было слухаць гэтыя скаргі, бо яны як-бы ставілі яго ў ролю суддзі і прымушалі так ці іначай умяшацца ў чужое жыццё, а гэтага яму не хацелася. З другога боку, таксама і шкода было паню падлоўчую: відочна, ёй было тут цяжка. Але разам з гэтым і нейкае варожае пачуццё проціў пані падлоўчай падымала-

ся ў Лабановіча. Для яго было незразумела, як гэта яна так пакорна без усякага змагання пагадзілася з сваёю доляю і не мае сілы скінуць з сябе гэты крыж жыцця.

— А скажыце, калі ласка, — не ўтрымаўся раз Лабановіч: — што звязвае вас з сям'ёю пана падлоўчага? Вы тут — чалавек вольны. Цяжка вам, вы чуеце несправядлівасць, — што-ж вас можа стрымаць, каб кінуць гэта жыццё і стаць вольным чалавекам?

На твары пані падлоўчай адбіўся жах. Гэта думка, як відаць, ні разу не прыходзіла ў яе галаву. Нерухомая і маўклівая, сядзела яна за сталом, сціснуўшы рукамі галаву. Потым яна ўсміхалася нейкаю кіслаю ўсмешкаю, як-бы хочучы сказаць, што ўсё гэта — глупства і што аб гэтым не варта было і гаворку пачынаць, а жыць на свеце наогул цяжка і наогул трэба пагадзіцца з сваёю доляю. Лабановіч казаў тады ёй што-небудзь такое, што так ці іначай магло палепшыць яе настрой, развітваўся і ішоў з дому пана падлоўчага.

Яшчэ адно здарэнне прыпомнілася цяпер настаўніку. Неяк на гэтых днях, па часе размовы з паняй падлоўчай, зайшла яна вечарам да яго. Пані падлоўчая была моцна ўсхваляваная і заплаканая.

— Выбачайце, калі ласка, што я зайшла да вас, — прамовіла яна: — але я вас вельмі паважаю і лічу вас за роднага... Божа мой! Што мне рабіць? Што рабіць мне? Няма сілы больш цярпець!

Лабановіч дагадаўся, што пан падлоўчы падняў у доме буру, але не распытваўся аб гэтым, і сама пані падлоўчая чамусь не гаварыла, не вінавaціла свайго мужа, а толькі казала, як ёй цяжка наогул.

— Што-ж вам можна параіць? — запытаў Лабановіч: — калі маеце куды паехаць, то што-ж? паедзьце. Я-б на вашым месцы не пагадзіўся-б з такім жыццём. Якое-ж гэта жыццё?

— Вы ведаеце натуру пана падлоўчага?

— Я чуў. Ну, што-ж паробіш, калі ў чалавека такая натура?

— Ох, мой паночку! як трудна яму ўнаравіць! Ну,

няхай я нягодная, але-ж ён і першую жонку ў магілу ўвагнаў і мяне ўгоніць.

Пані падлоўчая плакала.

— І ўсё я вінавата. Чэсь кепска трымае сябе — я ў адказе. То робіш не так, то ходзіш не гэтак! Што-б ні вышла, усё я вінавата.

Лабановіч не ведаў, што сказаць, якую даць параду. Пані падлоўчая выплакалася, вылажыла з душы ўвесь свой смутак і гора і крыху заспакоілася. Усміхаючыся скрозь слёзы, прасіла яна Лабановіча нічога нікому не казаць. Яна яшчэ раз зазначыла, што толькі з ім пагаманіла яна аб гэтым, бо лічыць яго вельмі добрым, зусім родным чалавекам, развіталася і вышла, просячы прабачэння.

Лабановіч пачуўся лягчэй, бо яму вельмі цяжка было слухаць гэту споведзь, тым болей, што ён тут не мог даць ніякае дапамогі. Апрача таго, яму наогул было прыкра слухаць усе гэтыя згрызоты ці ўмешвацца ў чужое жыццё.

«І вось-жа будзе цярпець і нікуды не паедзе, — думаў Лабановіч пра паню падлоўчую. — А што, напраўду, прымацоўвае яе тут?»

Лабановіч задумаўся. І была-ж у людзей маладосць, былі ў іх светлыя надзеі на жыццё. Па свайму густу будавалі яны сваё шчасце, перажывалі яны пачатак нейкай прыгожай казкі, і чым скончылася гэта казка? І ці не складае часамі і ён, Лабановіч, цяпер сваю казку?

Яму ізноў успомнілася панна Ядвіся. Яму стала цяпер ясным і зразумелым, чаму яна так рвалася адгэтуль хоць на колькі нядзель, абы хоць забыць і адыйсціся ад гэтага бруду жыцця, ад гэтае атруты дамашніх праяў.

## XXIII

У гэты вечар Лабановіч быў у нейкім асобным настроі. З чаго складаўся гэты настрой, ён і сам не мог сабе вытлумачыць. Нейкае нездавальненне, няяснае адчуванне бяссэнснасці такога жыцця, якім жыве ён, пачуццё адзіноты пачынала закрадацца ў яго душу. Ён чуў, што яму

чагось не стае, чуў, што яму трэба нешта зрабіць, чымся заняцца. Чым? Ён думаў, разважаў, але добрага адказу на гэта пытанне, які мог-бы задаволіць яго, ён не знаходзіў.

Не! Трэба куды-небудзь пайсці, проста зняцца з месца і ісці. Але куды пайсці? Зайсці да каго? Настаўнік перабраў у памяці сваіх тутэйшых знаёмых. Ну, усёроўна, куды ні накіравацца! Ён узяў табачніцу, падлажыў тутуну, каб закурыць у часе вандравання, і стаў збірацца, не ведаючы, куды пойдзе. Добра было-б даведацца да якой блізшае школы, але бліжэй, як за пятнаццаць вёрст, нідзе не было тут школы. Ён ужо адзеўся і сабраўся як мае быць.

— Вам ліст, панічок, прынеслі ад старасты! — прамовіла бабка, увайшоўшы ў пакойчык, і падала ліст.

Зірнуўшы на канверт, на добра знаёмы характар рукі свайго блізкага сябра, Лабановіч распрануўся і стаў чытаць гэты ліст.

Бабка стаяла, падпершы рукою шчаку, і назірала за выразаю твара настаўніка. Подлуг таго, як ён чытаў, мяняўся і яго твар. Паміж іншым, сябар пісаў, як яго падпаілі і хацелі ажаніць з адною дзяўчынаю, сваячкаю нейкага дыякана, і як яму прыходзілася выратоўваць незалежнасць свае асобы, для чаго ён збег самым нечаканым чынам і ў самую рашучую хвіліну. Вясёлая ўсмешка асвятляла твар Лабановіча. Гледзячы на яго, смяялася і бабка.

— Ад каго-ж, панічыку, такі ліст? — запытала цікавая бабка.

— А гэта, бабка, піша адна паненка. Піша, што калі прыеду да яе ў сваты, то пойдзе за мяне адразу, — адказаў ён бабцы.

— А што-ж, панічыку, думаць? Абы дзяўчына была добрая, — крыху пакрыўдзіўшыся, зазначыла бабка.

У канцы ліста сябар зрабіў прыпіску. Ён паведамляў аб смерці іх сябра, што разам з імі скончыў семінарыю. Гэта вестка моцна ўразіла Лабановіча. Няўжо гэта праўда? Андрэй Лабузька, той самы Лабузька, чыё прозвішча так блізка стаяла да яго прозвішча ў спісе, няўжо ён памёр? Ці можа гэта быць?

І вобраз маладога хлопца, сакаўнога, поўнага жыцця, сілы, устаў, як жывы, перад Лабановічам. Успомніўся

яму цяпер адзін пусты, нязначны выпадак, калі ён, жартліва праракаючы лёс сваіх сяброў, сказаў яшчэ вясною мінулага года:

— Ты, Лабузька, нядоўга пажывеш на свеце!

Гэта гаварылася дзеля смеху, бо вельмі трудна вязалася думка аб смерці Лабузькі з самым Лабузькам: так многа было ў ім здароўя і жыцця!

Лабановіч апусціў галаву і сядзеў нерухліва. Нядаўні яго смутна-няясны настрой цяпер забыўся. Зусім другія думкі выклікала ў ім гэта вестка аб смерці Андрэя. Няпэўнасць і нязначнасць людскога лёсу і гэта смерць, смерць усемагутная і неадхільная, як злая здань, пачынала трывожыць яго і зноў ахапіла яго ўсю істоту.

Лабановіч уставіўся ў адзін пункт і колькі хвілін пазіраў, не маргаючы вачыма. Патрывожанае ўяўленне вельмі жыва намалявала яму вобраз мёртвага Андрэя. Нерухлівы. Вочы заплюшчаны. Скрозь сіняватую плеўку вечка вытыркаюцца пагаслыя, закрытыя вочы. Губы цесна зацяты, і смерць адбіла на іх пячаць сваю. Мярцвячая бледнасць і жаўцізна разліты на яго твары... Гэта — чалавек! Гэта — тая неспакойная форма, у якой так часта мяняецца змест! Нейкі гаспадар пакінуў яе. Яна перш называлася чалавек, Андрэй Лабузька, а цяпер — труп!.. Дзе-ж гэтыя парыванні-імкненні? Дзе яны? І куды дзеўся сам гаспадар? Што ёсць там, па другі бок?..

Лабановіч жахнуўся. Ён як-бы пачуў, што нехта неадхільны, грозны і няўмольны замахнуўся над ім цяжкаю булавою і вось-вось апусціць яе на яго галаву. А ён такі мізэрны, такі нікчэмны, што нават голас пратэсту, нават голас просьбы не можа сарвацца.

Бабка пазірала на настаўніка. Яе таксама ахапіў нейкі страх: такая відочная змена зрабілася раптоўна з «панічом», і выгляд яго нейкі дзіўны.

Яна павольненька адступіла на крок, бліжэй да дзвярэй, не зводзячы з яго вачэй. Крыху пастаяўшы, яна паківала сама сабе галавой і ціхенька вышла з пакойчыка. Стоячы за дзвярыма ў кухні, яна колькі мінуцін прыслухвалася. Але настаўнік вёў сябе ціха. Бабка крыху заспакоілася.

Лабановіч устаў і прайшоўся па пакоіку. Думка аб

неадхільнасці смерці моцна ўзрушыла яго і засела ў мазгах.

«Калі-б я сказаў каму: асцерагайцеся мяне — я нашу ў сабе смерць, то, напэўна, на мяне паглядзелі-б, як на вар'ята, і ва ўсякім разе мяне спужаліся-б, — падумаў сам сабе Лабановіч: — і тым не меней гэта так. Але чаму-ж людзі таксама аб гэтым думаюць?.. А можа і думаюць і напэўна многа думаюць, толькі думкі гэтыя яны трымаюць пры сабе, бо што казаць пра іх таму, хто і сам мае такую-ж долю?»

Ранейшыя думкі аб момансе смерці зноў прышлі цяпер яму ў галаву.

Часамі ідзеш у дарозе. Дарога трудная, ногі баляць, а дадому яшчэ далёка. І думае часамі падарожны: «Будзе-ж такі момант, калі я ступлю на парог свайго дома, і кончыцца мая дарога». Таксама будзе, разважаў Лабановіч, такі момант, калі і я ступлю на апошні крок майго жыцця: апошні момант, а там — смерць, там — канец!.. А далей што? Далей — цёмная і жудасная ноч нябыту. А калі гэта так, то ці варта наогул жыць? Жыць, каб памерці?

Паставіўшы такое пытанне, Лабановіч задумаўся. Ён ніяк не мог пагадзіцца з думкаю аб смерці. У гэты момант яна была для яго найбольшым ворагам на свеце і як-бы засланіла сабою бліск дня, здушыла яго, замкнула ў нейкі цёмны і цесны круг.

Ніхто не хоча ўміраць, ніхто. Тут яму ўспомнілася панна Ядвіся. Колькі разоў чуў ён ад яе, што яна вельмі хацела-б памерці. Лабановіч ніколі не даваў ёй у гэтым веры, бо ён цвёрда быў пераконаны ў тым, што кожнаму хочацца жыць, як-бы яму цяжка ні жылося на свеце. Нават глыбокая старасць не хоча ісці ад жыцця. І сказанні народа пацвярджаюць гэта. Як вядома з святога пісання, Матусал жыў больш за ўсіх на свеце. У часе яго скanання з'явіўся яму бог. І спытаў яго бог:

— Вось ты меў доўгі век. Скажы-ж ты мне, як здоўжылася табе жыццё?

— Мне здаецца, што я ўвайшоў у дзверы аднаго дома, прайшоў праз яго і вышаў у другія — так уяўляецца даўжыня майго жыцця.

— Ну, а ці хацеў-бы ты яшчэ жыць?
— Хацеў-бы, божачка.
І, падумаўшы, Матусал запытаў:
— Божа! а ці трэба ўміраць другі раз?
— Трэба, — адказаў бог.
— У такім разе я не хачу жыць болей.

Людская мудрасць, такім чынам, зазначае, што страх смерці мацней жыцця, мацней самае смерці.

А самагубцы?

Жыццё дае многа прыкладаў, калі людзі самі накладаюць на сябе рукі. Як зразумець гэта?

Раз чалавек любіць жыццё, то што прымушае яго на самагубства? Кажуць, у чалавека слабая натура, яму бракуе сілы змагацца з нягодамі жыцця. Калі і сапраўды натура яго слабая, то скуль-жа гэта сіла перамагчы страх смерці і налажыць на сябе рукі?.. Нейкая недарэчнасць. Адно супярэчыць другому.

Лабановіч зацікавіўся гэтым пытаннем, яму хацелася як-бы стаць на месцы гэтых самагубцаў і паглядзець іх вачамі на справу жыцця і смерці. Цікава тут яшчэ адна акалічнасць: кожны самагубца мае нахіленне да таго ці іншага спосабу самагубства — адны страляюцца, другія вешаюцца, трэція топяцца, кідаюцца пад машыну, труяцца, рэжуцца брытваю. А ўсе, наогул, імкнуцца выбраць найболей лёгкі спосаб расквітання з жыццём. І яшчэ некаторыя з іх маюць звычай пакідаць перад гэтым запіскі, кароценькія, а то і доўгія. Лабановіч нядаўна чытаў у газеце запіску аднаго самагубцы. Ён пісаў: «Каб не так страшна было ўміраць, трошкі выпіў».

Незаметна для самога сябе, Лабановіч чамусь доўга затрымаў свае думкі над самагубцамі і самагубствам, незаметна для сябе стаў уваходзіць у ролю самагубцы.

«А што такое смерць? Момант — і больш нічога няма. Тады і думаць аб смерці не прыдзецца, і нічога чалавеку не трэба будзе», — разважаў Лабановіч.

Нічога не помнячы і не даючы сабе яснага адказу ў тым, што ён робіць, нічога не ведаючы, што ён будзе рабіць, ён адчыніў шуфлядку ў стале. У самым канцы шуфлядкі, завалены паперамі і кнігамі, ляжаў рэвальвер, просценькі, на шэсць патронаў рэвальверчык. Часамі ха-

дзіў Лабановіч у лес, каб пастраляць у цэль з гэтага рэвальверчыка.

Цяпер гэты рэвальвер у яго вачах меў зусім другі выгляд і значэнне. Узяўшы яго ў рукі, настаўнік агледзеў рульку, адкуль выглядала куля.

«Вось толькі прыставіць да віска, пацісуць дужку, узвёўшы гэту брамку, — і болю не пачуеш!.. Не, боль, напэўна, будзе, але ўсё гэта зробіцца так борзда, што мозг не паспее вызначыць выніку гэтага факта». Нейкія злачынныя думкі навялі як-бы туман на маладога хлопца і прычаравалі яго да свайго страшнага кругу.

Ён зноў узяў рэвальвер. І цікава: нейкую ўладу меў цяпер гэты рэвальвер над настаўнікам. Яго прыцягала і гэта кулька, што выглядала з рулі, як галоўка якоганебудзь гада. Ужо колькі разоў пазіраў ён на яе. Але раптоўна нейкі промень асвятлення бліснуў у яго мазгах. Ён адкінуў ад сябе рэвальвер. Халодны пот выступіў на яго ілбе. Цяпер толькі заўважыў ён, што рукі яго трасліся, як-бы па яго душы прабег нейкі віхор, усё гэта засцілалася нейкім туманам. Ён пачуў вялікую палёгку, як-бы пасля цяжкае хваробы, а ўсё тое, што пранеслося так нядаўна перад ім, яму здавалася нейкім сном.

— Панічыку! — пазвала яго бабка.

Яна толькі што ўвайшла на парог яго пакойчыка.

— Мусіць вы, панічок, нядобрае пісьмо атрымалі?

Настаўнік моцна здзівіўся.

— Чаму ты, бабка, так пытаеш?

— Відаць было, панічыку, па вас, — прамовіла яна, акінуўшы яго бачлівым поглядам. — І ведаеце, панічыку, — таемна прамовіла бабка: — я ізноў вам шаптала! Шаптала, яй-богу, шаптала! Вы любіце шуткаваць з мяне і з маіх шэптаў, а я ўсё-ж шаптала вам, бо мне стала вас шкада.

— А проці чаго ты мне шаптала? — запытаў зацікаўлены настаўнік.

Бабка паглядзела на яго колькі хвілін.

— Каб адхіліліся ад вас нядобрыя мыслі, — ціха прамовіла бабка, гледзячы настаўніку ў вочы; яна як-бы хацела штось адгадаць у іх.

Лабановіч пачуўся так, як-бы яго злавілі ў чымсі не-

прыемным. Непрыемна яму было і тое, што бабка ў гэты момант мела над ім перавагу.

«Цікава», — падумаў сам сабе настаўнік. Цяпер нябожчык Андрэй як-бы адышоўся ад яго, а разам з ім адышліся і думкі аб смерці.

«На свеце, мусібыць, усё робіцца шмат прасцей, як гэта нам здаецца», — замкнуў ён свае думкі аб смерці.

## XXIV

Злотаіскрыя вобразы, як усмех вясны, момантамі ўставалі ў памяці Лабановіча, хвалявалі яго, асыпалі праменнямі радасці і разгортвалі прад ім малюнкі не так даўно мінулага дзяцінства. Яны прыходзілі самі, аб чымсі гаманілі і кудысь клікалі, яны пакідалі ў душы лёгкі след засмучэння. Аб чым? Аб нейкай страце, аб тым, што не вернеш і што складае скарб, дарагі скарб памяці. Ён бачыў дубы на беразе Нёмна, крэпкія, пышныя дубы з развіслымі вярхамі. На жаралістых камлях гэтых дубоў адбіла свае пячаці несупынная плынь часоў. Яму ўсміхалася светласіняе неба і яркім блісканнем асвятляла далёкія прыгожыя вобразы мінулага: пахучы луг, роўныя пакаты ўзгоркаў у мутнасіняй далі, старую хвою з буславым гняздом... Бліскучы дзень, таемнае грукаванне надземскіх абшараў — гоман-воклік грознапавабных хмар, што шырокаю сцяною засланялі неба і выбухвалі кубчастыя клубкі бела-ружовых воблакаў... Не! Іх не зловіш, не замацуеш славамі, але імі жыве-гарыць душа!

Лабановіч адчуваў нейкую радасць. Яму было лёгка і прыемна. Ён чуў, як моцна звязан ён з гэтым жыццём. Яму па душы было гэта адзіноцтва, гэты лес і дарога, па якой ён цяпер ішоў. Куды ён ішоў? Нікуды. Яму проста люба было пабыць у лесе, паглядзець на гэтыя слаўныя адзінокія хвоі, на старасвецкія дубы па краях палянкі. Ён многа разоў хадзіў тут і цяпер дзівіўся сам сабе, як гэта не звárачаў ён раней увагі на тыя малюнкі, якія ён бачыў прад сабою цяпер. Вакол было ціха і глуха. Усюды ляжаў снег, але ў паветры патыхала чымся новым, і чулася скорая вясна. Лабановіч сеў на роўна спілаваны пень, сядзеў і штосьці думаў. Але хіба гэта былі думкі? Не,

перад ім праходзілі вобразы за вобразамі, цэлы іх шнур плыў і плыў у яго ўяўленні. Так прасядзеў ён некаторы час, покі не пачуў глухі тупат конскіх ног і лёгкае шорганне і пасвістванне вузкіх, кованых жалезам палазоў. Ён падняў галаву. Бойкі конік дружнаю рыссю зараз-жа выскачыў з-пад навіслых ялін на прасторную палянку і борзда імчаў лёгкія прыгожыя сані, у якіх звычайна ездзіць заможная шляхта або сярэдняй рукі панкі. На высокім сядзенні вазка, па-запраўску трымаючы туга нацягнутыя раменныя лейцы, сядзела маладая паненка. На ёй было лёгкае футра; зімняя шапачка, надзетая крыху на бок, вельмі ішла да яе твару. Здаровы холад зімы авеяў і разрумяніў ёй шчокі. Ад яе стройнае фігуркі так і патыхала здароўем і жыццём. Яна кінула зацікаўлены погляд на незнаёмага хлапца. Відаць, яе здзівіла гэта спатканне, а можа нават крыху і спалохала; чаго сядзіць зімою на дарозе гэты чалавек? Яна шпарчэй пагнала каня. У колькі хвілін вазок знік з вачэй Лабановіча, зноў ускочыўшы ў лес пад шалаш калматых ялін і хвояў. Але ён паспеў разглядзець і запамятаваць твар гэтае паненкі: тонкія бровы, бойкія сiняватыя вочы, пухлыя, прыгожа абрысаваныя губы. Дзяўчына была досыць прыгожая, як здалося Лабановічу.

«Напэўна гэта і ёсць тая краля, за якую так падаюць усе хатаўскія кавалеры, — падумаў сам сабе Лабановіч. — Ну, не такая ўжо яна цікавая, як гэта можна было-б спадзявацца». Тым не меней ён устаў і пайшоў у той бок, куды паехала гэта паненка. Праўда, ён пайшоў не дзеля таго, што ў гэты бок паехала завітанская красуня, ён проста пайшоў дадому. Але, сказаць праўду, у яго такі была думка — а можа ён спаткаецца з ёю. Усё-ж такі было-б цікава паглядзець на яе яшчэ раз, каб разглядзець яе лепей. Ды ўжо, калі на тое пайшло, трэба зрабіць так, каб і на мезены палец не даць падумаць ёй, што ён шукае з ёю спаткання або зацікавіўся ёю. Не, няхай на гэта яна выбачае. Ён проста зробіць так, каб гэта вышла зусім выпадкова. Мінуўшы сяльцо, Лабановіч надумаўся зайсці да старога Абрама, выпіць бутэльку піва і крыху адпачыць.

У старога Абрама была чыстая каморка, куды часамі

заходзілі больш важныя госці, чым простыя цельшынцы, якія звычайна таўкліся ў агульным памяшканні-карчме, яшчэ па стараму звычаю, калі Абрам трымаў шынок. Увайшоўшы ў гэту каморку, Лабановіч раптоўна спыніўся: за столікам сядзела тая самая дзяўчына, якая нядаўна праехала і аб якой ён усё-ж такі думаў. Яна разглядала карталюшкі, якія падаў ёй стары шынкар, і падрахоўвала лічбіны. Лабановіч ніяк не спадзяваўся спаткаць яе тут і прышоў у такое замяшанне, што не ведаў, як яму быць: далей ісці ці вярнуцца назад. Панна Людміла — бо гэта была яна — зараз-жа падмеціла яго нясмеласць і замяшанне, і гэта ёй, як відаць, спадабалася. Яна ўскінула на яго свае сінія вочы. Лёгкая ўсмешка бліснула на яе твары. І гэта ўсмешка як-бы казала: «А я і ведала, што ты да мяне прыдзеш». Панна Людміла была крыху знароўлена кавалерамі, бо ўсе яны ў тутэйшай акрузе лічылі сваім абавязкам аддаць ёй падатак свае кавалерскае ўвагі. Адзін толькі Лабановіч ухіляўся ад гэтага і ўпарта не хацеў пазнаёміцца з ёю.

«Напэўна думае, што я шукаю спаткання з ёю»,—падумаў сам сабе настаўнік і яшчэ больш замяшаўся.

— Выбачайце! — прамовіў ён, крута павярнуўся і вышаў вон з каморкі.

«Як дрэнна і па-дурному вышла ўсё гэта, — разважаў сам з сабою Лабановіч: — выходзіць так, як-бы я збаяўся яе і збег. Фактычна гэта так і ёсць. І яна напэўна смяецца з мяне. І другім яшчэ раскажа». Ён моцна быў нездаволены сабою, бо вёў сябе, як які-небудзь школьнік у прысутнасці дзяўчыны, якая хоць і незнаёма з ім, але добра ведае яго, як ведае і ён яе. А панна Людміла, застаўшыся адна, шчыра пашкадавала аб тым, што гэты дзівак так неспадзявана знік адгэтуль, як неспадзявана і з'явіўся тут. Ёй цікава было паглядзець на гэтага дзікуна і пустэльніка, які яшчэ да гэтага часу не быў у Завітанках. З другога боку, ёй чулася і нейкае зневажанне яе дзявочае асобы, бо ніякі кавалер не зрабіў-бы таго, што зрабіў гэты пустэльнік, як у сваіх думках называла панна Людміла цельшынскага настаўніка.

Вышаўшы на вуліцу, Лабановіч пачуў незвычайны крык і лаянку. Проці стараставай хаты стаяла грамада палешукоў. У сярэдзіне гэтай грамады метушыліся два

палешукі, пабраўшыся за грудкі. І па меры таго, як пасуваліся гэтыя два байцы, расступалася і грамада палешукоў, даючы месца байцам. Зацікаўлены гэтаю з'яваю, Лабановіч прыбавіў кроку і накіраваўся да грамады. Першае, што кінулася яму тут у вочы, быў Лявон Шкурат. Ён быў бледны, без шапкі, адна шчака яго была акрываўлена. Але ён моцна трымаў свайго праціўніка, Кандрата Куксу, стрэчнага брата старасты. Тут-жа ў якасці пазірача стаяў і сам стараста.

— Як вам не брыдка, мужчыны, — звярнуўся Лабановіч да грамады: — дапусціць, каб людзі крывавілі адзін другога! Разніміце іх!

Некаторыя з палешукоў, якія стаялі бліжэй, прыветна ўсміхнуліся настаўніку, некаторыя падалі яму руку. Другія былі захоплены бойкаю і не звярнулі на настаўніка ніякае ўвагі. А Шкурат і Кукса куксілі адзін аднаго і не знайся. Стараста, як і ўсе другія, таксама трымаў строгі нейтралітэт.

— Стараста! які-ж вы начальнік? — напаў Лабановіч на Рамана: — як-жа гэта вы дапушчаеце, каб людзі на вашых вачах калечылі адзін другога?

Стараста правёў рукавом па носе, састроіў сваю звычайную кіслую міну і важна прамовіў:

— Не трэба, панічок, мяшацца. Няхай сабе яны патузаюцца — самі разыйдуцца. Умяшайся — горш будзе.

— Госпадзі! што вы за людзі такія!

Лабановіч, праціснуўшыся скрозь грамаду, апынуўся радам з байцамі.

— Што вы робіце, дурні?! — крыкнуў ён раз'яраным байцам і стаў паміж імі.

— Ён маю юшку ўкраў, чорт каравы, ды яшчэ біцца са мною будзе?! — крычаў Лявон Шкурат.

— Ты мяне злодзеем называеш, дзяркач ты смярдзючы?! Адыйдзіся, паніч!

Кандрат Кукса замахнуўся. Лабановіч і сам пачуў нейкую злосць і таўхануў яго ў грамаду, а сам схапіў Лявона і борздзенька адвёў яго ў другі бок. Палешукі ўзварухнуліся, прытрымалі Кандрата.

— Завошта вы біліся, Лявон? — спытаў настаўнік Лявона.

— Юшку маю забраў.

— Якая гэта твая юшка? Калі хочаш ведаць, дык гэта казённая юшка: ты яе са школы ўзяў, як школа будавалася, — казаў усё яшчэ сярдзіты Кукса.

— А каб яна-ж згарэла была, гэтая праклятая юшка, — сказаў Лабановіч, — ну, падумайце, паварушыце мазгамі: ці варта гэта юшка, каб з-за яе так калаціцца? Ну, колькі яна каштуе?

— Рубель я заплаціў за яе, — адказаў Лявон.

— Украў ты яе, а не рубель заплаціў!

— Ну, на табе рубель, супакойся і ідзі дадому. Ляж на печ і ляжы, покі не астыне твая кроў.

Настаўнік дастаў кашалёк, вынуў сярэбраны рубель і аддаў яго Лявону.

Лявон узяў рубель і пашыбаваў у сваю хату.

— Бярэ рубель, — з зайздрасцю прамовіў Кукса: — а каб цябе, гад, за жывот узяло.

Лабановіч таксама пайшоў да сябе ў школу, думаючы, што ён зрабіў вельмі добра, і нават ганарыўся сваім учынкам.

Вечарам таго-ж самага дня, як ужо было цёмна, з вуліцы зноў пачуўся крык і лямант. Бабы плакалі і галасілі, як па нябожчыку.

— Лявона забілі, панічыку! — сказала бабка, ускочыўшы ў пакой.

— Хто забіў!?

— Кукса. Узяў аскабалак і каравуліў Лявона. Як толькі той паказаўся, цопнуў па галаве, — нават не пікнуў.

Лабановіч выскачыў на вуліцу. Там былі людзі. Сярод вуліцы на брудным снезе ляжаў нерухомы Лявон. Над ім галасілі бабы.

— Не трэба было, панічыку, мяшацца, — аўтарытэтна зазначыў стараста: — у нас гэта не першыня, паб'юцца і разыйдуцца. Набярэцца паганая кроў, трэба-ж яе выпусціць, і тады ўсё ціха і лагодна.

Лявон, праўда, быў толькі аглушан, але паляшуцкі чэрап быў яшчэ досыць крэпак, каб Лявон не мог ачухацца і падняцца на ногі.

## XXV

Выходзіла так, што стараста казаў праўду. Гэтага здання напэўна трымалася і ўсё цельшынскае грамадзянства... І які чорт падбіў яго прыткнуць і свае тры грошы? Каб не гэты паганы рубель, то нічога такога і не вышла-б. Добра яшчэ, што ўсё гэта так скончылася. А мог Лявон і не падняцца. І так яго на руках у хату занеслі.

Лабановіч хадзіў па пакоіку і разважаў над гэтым здарэннем. Яму было крыўдна тое, што сам ён — мужык, а не ведаў мужыцкіх звычаяў і зрабіў па прыказцы: «Уткні мяне, божа, куды мяне не трэба». І наогул, трэба зазначыць, што ён не ўмее трымаць сябе з людзьмі. Узяць хоць-бы яго візіт да панны Людмілы... Яму сорамна стала перад самым сабою. Ён нават пачаў сам сябе лаяць, кпіць і насмяхацца з сябе. «Дурань ты, брат, дрэнь! Думаеш, што ты разумны, а ўся цана табе—шчарбаты грош... Кавалер!.. Тфу!» З гэтымі думкамі ён прыпыніўся каля люстэрачка. З люстэрка пазіраў на яго другі Лабановіч, надзьмуты і зняважаны. «Ух, рыла!» — прамовіў Лабановіч свайму адбітку і адышоўся ад люстэрка. Прыпыніўшыся другі раз і зірнуўшы на свой адбітак, ён ужо глянуў крыху ласкавей на сябе самога і спагадна прамовіў: «Нічога, брат, не маракуй на мяне: як-небудзь будзем жыць на свеце». Яму тут прыпомніўся адзін чалавек, якога ён ведаў, як быў яшчэ малым. Гэты чалавек меў звычай размаўляць з сабою самім. Ён гаварыў: «Эх, Паўлючок! Кінь ты ўжо гэтыя згрызоты. Ці ты адзін такі на свеце?» Думкі яго пайшлі ў другім кірунку, і незаметна для сябе самога настаўнік зноў пагадзіўся сам з сабою. Да яго зноў вярнуўся добры настрой, і, стоячы каля люстэрачка, ён сам сабе строіў міны, сам сабе падсмейваўся. Каб хто пабачыў збоку, то напэўна падумаў-бы, што настаўнік крануўся з розуму.

У гэты момант дзверы з кухні адчыніліся, і ў пакой увайшла бабка.

— Што, бабка, добрага скажаш?

— А нічога, панічыку... Ажыў Лявон.

— Ну, дзякаваць богу, а то ён мяне вельмі напалохаў, думаў, што не ўстане.

— Гэ, панічыку, ці так яшчэ біліся! Бывала, даўней як завядзецца бойка — усё сяло калоціцца. Пабяруць калы і пачнуць матлашыць адзін аднаго. Проста страхоцце. А гэта, панічыку, глупства!

— З чаго-ж гэта бойка паўставала?

— Панапіваюцца, панічыку, і б'юцца. Ну, вядома — мужыкі. Зімою работы мала, абрыдне так сядзець і пачнуць біцца. Проста калы аб галовы ламаліся...

Бабка змоўкла і другім голасам сказала:

— Прыехалі нашы паненкі. Толькі што з раз'езду прышлі. — Відаць было, што дзеля гэтае навіны бабка і прышла сюды.

— А я, бабка, заўтра ранелька-ранелька ў воласць пайду.

— А можа-б вам староста падводу даў?

— Не, бабка; пайду памалу. Цяпер масленіца, часу ёсць, можа і падначую там.

— А што-ж, панічыку, прайдзіцеся. Толькі-ж ножак вашых шкада.

Пайсці ў Хатовічы Лабановіч надумаўся раптоўна. Яму трэба было так ці іначай адгукнуцца на бабкіну навіну, а ён проста адказаў ёй, што пойдзе ў воласць, бо, сказаць праўду, вестка аб тым, што вярнуліся суседкі, яго такі ўсхвалявала. Яму было і прыемна, што панна Ядвіся тут, блізка каля яго, але ён не хацеў паказаць гэтага. З другога-ж боку, яму таксама трэба паказаць Ядвісі і нават бабцы, дый сабе самому, калі ўжо на тое пайшло, што панна Ядвіся яго ўжо і не так цікавіць. Апрача гэтага, ён яшчэ не забыў тую крыўду, якую прычыніла яму панна Ядвіся, калі выказвала свой жаль з прычыны разлукі з Негрусем. Але трэба сказаць, што гэта крыўда цяпер жыла толькі ў памяці, а не ў сэрцы яго. Хіба можна так доўга трымаць гэту крыўду на панну Ядвісю? І якая гэта крыўда, каб хто запытаўся? Хіба панна Ядвіся сказала гэта сумыслу, каб абразіць яго? Але-ж трэба і характар паказаць, і выявіць станоўкасць і цвёрдасць сваю.

Не! Гэта ён добра прыдумаў: што-б там ні было, а ў Хатовічы ён пойдзе.

На гэтай думцы Лабановіч затрымаўся канчаткова.

Вось толькі пытанне: як рана ён пойдзе ў дарогу? Ці не лепш пайсці крыху пазней і гэтым даць можнасць панне Ядвісе пераканацца ў тым, што ён ужо напэўна ведае, што яна дома, і тым не меней ён ідзе ад яе. Ён нават пастараецца пайсці тады, калі яна будзе стаяць каля акна або выйдзе на двор, а ён пройдзе з такім відам, як-бы гэта стаіць не яна, а якая-небудзь Параска, да якой яму вельмі мала справы. А калі прыдзецца і спаткацца з ёю, то што-ж? Ён скажа ёй: «Дзень добры!» Нават і пагаворыць з ёю аб самых звычайных драбніцах. Так, толькі так!.. Яму стала нават чагось весела.

Назаўтра, чуць толькі разднела, Лабановіч быў ужо на нагах. Ён колькі разоў паглядаў на дом пана падлоўчага, але там было ўсё яшчэ ціха. Настаўнік хадзіў нецярпліва па свайму пакоіку і курыў адну папяросу за другою, прыслухоўваючыся да зыкаў, што ішлі са двара пана падлоўчага. Ён ужо як мае быць нарыхтаваўся ў дарогу: сабраў курэцкія прылады, паставіў у куток свой кій і, выбраўшы добрую часіну, вышаў з дому.

Цельшынская школа стаяла на рагу двух вуліц. Адна вуліца, прасторная, роўная, шырокая, ішла на чыгунку, другая, невялічкая, бегла ў поле і зараз-жа канчалася, перайшоўшы ў дарогу. На перасеку гэтых вуліц, каля саменькай школы, стаяў высачэзны крыж. Ён заўсёды прыцягаў да сябе ўвагу настаўніка і рабіў на яго моцнае ўражанне. Гэты высокі пануры крыж і гэта закінутая сярод палескіх трушчобін школа стаялі, як сіроты, і, здавалася, цесна туліліся адно да другога, як-бы ў іх была адна доля. Лабановіч вышаў на прасторную вуліцу. Па правую руку да вуліцы падыходзіў частакол двара пана падлоўчага. У куточку дворыка, каля самае вуліцы, стаяла студня. Ступіўшы колькі крокаў па вуліцы, Лабановіч згледзеў так добра знаёмую постаць панны Ядвісі. З вядзёркам у руцэ яна скоранька ішла да студні. Нейкая дрож прабегла па яго жылах, а сэрца ў грудзях застукала мацней. Як пахарашэла яна за гэтыя тры тыдні. Ён чуў, што яго штось моцна цягнула да яе. Але ён стараўся быць спакойным і не выказваць ёй таго, што адчуваў ён у гэту мінуту.

Радасць, праўдзівая радасць адбівалася на твары панны Ядвісі; гэта радасць свяцілася ў яе цёмных вачах, яна

снавалася на яе губках, такіх мілых, такіх прыветных!.. Чорт-бы вас пабраў, дзяўчаты: баламуціце вы нашага брата і годзе!

Але Лабановіч узяў сябе ў рукі. Нават і ценю радасці не паказаў ён, што ўбачыў яе.

Параўняўшыся з ёю, — а панна Ядвіся стаяла і чакала яго, — ён досыць прыветна сказаў ёй:

— Дзень добры!

Панна Ядвіся адказала яшчэ прыветней на яго прывітанне.

— Ну, як-жа вам гасцілася? — запытаў Лабановіч, але запытаў гэта так, як пытаюць тады, калі трэба сказаць хоць што-небудзь: без усякага пачуцця і цікавасці да таго, аб чым ён пытаўся.

— Ох, як было весела! — адказала панна Ядвіся. Яна хацела яшчэ штось сказаць, але ўтрымалася. — А як вы тут жылі?

— Жыў вельмі добра: чытаў, пісаў, вучыў, сам вучыўся, хадзіў гуляць і пачуваўся як не трэба лепей.

— А куды-ж вы сабраліся?

— Надумаўся да воласці даведацца.

— І нічога тут не шкада вам пакідаць? — спытала Ядвіся, і вочы яе засмяяліся хітраю ўсмешкаю. Сэнс гэтага пытання быў ясны для іх абаіх.

Лабановіч на момант апусціў вочы, потым паглядзеў на панну Ядвісю.

— Вас мне шкада пакідаць, — адказаў ён ні-то праўдзіва, ні-то з насмешкаю — разумей, як хочаш.

Яму нават зусім не хацелася цяпер ісці ў Хатовічы, але варочацца назад было ўжо некуды.

— Ну, бывайце здаровы! — пакланіўся ён ёй і пайшоў.

— А вы скора думаеце вярнуцца? — спытала Ядвіся.

— І сам добра не ведаю. Пабачу там, — адказаў Лабановіч, ужо адышоўшыся на колькі крокаў. Ён яшчэ раз пакланіўся ёй і зачасціў так шпарка, як-бы хацеў паказаць гэтым, што яму няма калі размаўляць з ёю.

Увесь гэты час размовы з паннаю Ядвісяю Лабановіч чуў, што ён робіць нейкую гвалтоўнасць над сабою, што ён гаварыў зусім не тое, што думаў і што пачуваў сапраўды. «Чаму я, як злодзей, таюся ад яе і ад людзей? —

думаў, ідучы вуліцаю, настаўнік: — чаму не сказаць ёй, што я так шчыра і так моцна палюбіў яе. І праўда: чаго я так віляю, нашто замятаю свае сляды, збіваю яе з тропу? Нашто гэта лганнё? Няўжо так робяць і іншыя? Проста няма ў мяне смеласці. Я баюся тае абразы, якая будзе для мяне тады, калі яе сэрца не адгукнецца майму сэрцу... А ўсё-ж такі гэта каханне ёсць нейкая хвароба, боль і пакута. Яна захапляе ўсяго, не дае спакою, параджае нейкія няясныя парыванні і вялікі смутак».

У лесе было ціха і спакойна. Гэты спакой паволі сходзіў і на падарожнага. Ён ішоў, мінаў засыпаныя снегам грэблі і балоты і ўсё думаў аб панне Ядвісі. Як жывы, вобраз яе стаяў у яго ваччу.

Панна Ядвіся прымеціла, што настаўнік за гэты час як-бы асунуўся і пахудзеў. У яго вачах яна расчытала нейкія новыя для яе думкі і нейкую затоеную тугу. І сама яна задумалася, і нейкі цень засмучэння пралёг на яе маладым і свежым твары. Аб ім так многа думала яна ўсе гэтыя дні, да яго так моцна рвалася яе думка.

## XXVI

— А! Вось і вы! Міласці просім! — спаткаў а. Кірыл Лабановіча.

А. Кірыл, як замеціў настаўнік, нейк асунуўся, толькі вочы яго былі яшчэ больш жывыя, больш неспакойныя.

— Што-ж гэта вы, вучыцелька, так закапаліся ў вашай глушы? — пытала яго вясёлая, румяная матушка: — ну, як-жа вам жывецца?

— Дзякую, матушка. Жыву памаленьку ды паціхеньку.

— Ну, кажыце: у каго вы там закахаліся?

— Чаму вы думаеце, што закахаўся?

— Ну, як-жа гэта можа быць, каб малады хлопец быў не закаханы?.. Ой, вы ўсё хітруеце! — пастрашыла матушка пальцам. — Там дзесь, у Цельшыне, знайшлі вы сабе мілую... Не гаварыце мне: па вачах бачу.

— Праўда, матушка, вы не памыліліся...

— А што! — падхапіла матушка. — Хто-ж ваша мілая? Ну, скажыце?

— Старасціха Алена, — прамовіў Лабановіч.

А. Кірыл і сама матушка громка засмяяліся.

— А я думаю, ці не дачка пана падлоўчага? Што-ж вы вочы апусцілі?

— Ну, матушка, калі буду жаніцца, дык вас за сваццю вазьму, — сказаў Лабановіч.

— Вазьміце, вазьміце! Такую высватаю вам жонку, што цэлае жыццё дзякаваць будзеце. Вы незнаёмы з дачкою каморніка?

— Гэта з паннаю Людмілаю? Не, незнаёмы.

— Яна цяпер тут, у пісара. Вечарам у пісара бліны будуць. Вось вы і падкаціцеся да яе. Яна дзяўчына сімпатычная. Хоць нашаму настаўніку сэрца пераешце.

— Э, матушка! Панна Людміла мае столькі кавалераў, што ў мяне і адвагі няма рабіць да яе залёты.

— Эх, вучыцелька: нічога вы не разумееце. Яна так зацікаўлена вамі, што будзе вельмі рада, калі звернеце на яе ўвагу.

— Што-ж? Дай, божа, нашаму гароху ў гаршчок панскі папасці, — усміхнуўся Лабановіч.

— Вас сяляне хваляць, — сказаў а. Кірыл: — вы патрапілі заняць належнае становішча.

— А за што ім хваліць мяне або ганіць? — спытаў Лабановіч: — у іх свае дзела, у мяне сваё. Нашы інтарэсы не стыкаюцца, і нам незашта пасварыцца нават.

— Вы—сукромны чалавек, і гэта робіць вам чэсць,— адказаў а. Кірыл. — Не, трэба сказаць праўду: Цельшыну шанцуе на добрых настаўнікаў. Толькі што глуш там, як і наогул гэта Палессе.

— Жаніцца трэба, — сказала матушка: — тады і глуш не такая страшная будзе.

— Што жаніцца! — махнуў рукою а. Кірыл. — Жаніцца кожны патрапіць, але што з гэтае жаніцьбы?

Тым часам маладая служанка а. Кірыла, чырвонашчокая паляшучка, прынесла самавар. Селі піць чай. Матушка ўвесь час гаварыла, перадавала вясковыя навіны і розныя плёткі, да якіх яна мела вялікую ахвоту. Паміж іншым, распачала апавяданне аб змаганні за панну Людмілу паміж Саханюком і Дубейкам. Але апа-

вяданне не было даведзена да канца, бо якраз на гэты момант прышоў і сам Саханюк.

На гэты раз Саханюк быў выфранчаны незвычайна, чыста падбрыты, манішка, гальштук, манкеты, — усё на ім зіяла і зіхацела.

— Майму супарату і калегу ніжэйшае шанаванне!— звярнуўся да Саханюка Лабановіч.

— Вось маладзец цельшынскі вучыцель! — пахваліла матушка Лабановіча: — адразу робіць выклік нашаму настаўніку.

— Вы не так мяне зразумелі, — заўважыў Лабановіч: — калега — мой супарат зусім другога парадку. Мы змагаемся з ім за гарцы.

А. Кірыл зацікавіўся гэтым змаганнем, і Лабановіч расказаў, якое было ў іх змаганне.

А. Кірыл смяяўся, смяяўся і сам Саханюк.

— Наш настаўнік — гаспадар. Мае кабанка і кароўку, — замеціла матушка.

— Толькі гаспадыні не стае, — дадаў Лабановіч: — так і быць, калега, жаніцеся — зраблю ўжо вам такі падарунак к вяселлю, аддам сваю ссыпку.

— І добра зробіце, — смяяўся Саханюк: — я чалавек практычны і адкідаць таго, што ідзе на патрэбу чалавеку, лічу неразумным. Калі жыць, дык жыць са смакам, а раскідаць рублі дзеля таго, каб пагадзіць двух буянаў-мужыкоў, не бачу сэнсу.

Саханюк кіўнуў у бок Лабановіча і засмяяўся. Гісторыя з юшкаю была ўжо тут вядома. Лабановіч не знайшоўся, што сказаць; ён крыху засароміўся.

— Так, — пацвердзіў і а. Кірыл: — наш настаўнік умее жыць. — Але спогадзь і спачуванне яго былі на баку цельшынскага настаўніка.

— Вось што, калега, — звярнуўся Саханюк да Лабановіча: — вас прасілі на вечар да пісара, і мне выпаў такі гонар паведаміць вас аб тым, нават і запіску вам перадалі.

— Хто-ж гэта звярнуў на мяне такую ўвагу? — пытаў Лабановіч, беручы запіску.

— А каморнічанка там будзе?—запыталася матушка.

— Н-не ведаю, — не зразу адказаў Саханюк.

— Ідзіце, ідзіце, вучыцелька, — падганяла матушка: — там паненкі будуць і напэўна панна Людміла.

— Не хочацца мне туды ісці,—прамовіў Лабановіч:— не люблю ў вялікай кампаніі быць.

— Больш любіце быць у кампаніі аднае? — пажартавала матушка.

Пісарава гасцінная ярка асвятлялася двума лямпамі. Пераступіўшы парог і акінуўшы поглядам гасцей, Лабановіч прыпыніўся ў нейкім замяшанні: ён не ведаў, да каго наўперад падыйсці і з кім павітацца, проста не ведаў хлопец, куды дзецца — так многа было тут гасцей. Трэба-б было пачаць з гаспадара, але гаспадар сядзеў за столікам, трымаў цэлую жменю карт і так пільна ў іх углядаўся. Напроціў, блішчэў ураднііцкі каўнер. Збоку сядзеў фельчар Гарошка. Ён падганяў пісара.

— Хадзі, хадзі, кум! Пад туза! Пад туза яму!

Але пісар не спяшаўся. Ён доўга ўглядаўся ў свае козыры і, здавалася, вось-вось чыхане.

Сядзелец, па фаміліі Кляп, выказваў усе адзнакі нецярплівасці такою маруднасцю пісара.

— Не пары гарачкі, бо так астанешся без аднае, а будзеш гарачку пароць, без двух астанешся.

Максім, сын фельчара Гарошкі, лятаў, як матыль, ад аднае паненкі да другой. Як відаць, у гэтай дзейнасці ён дужа быў напрактыкаваны. Лабановіч нямала быў здзіўлены, убачыўшы тут пана падлоўчага, бо пан падлоўчы крыху пагарджаў такою пісарскаю кампаніяй. Дубейка, заціснуўшы сваю шыю ў накрахмалены цесны каўнерык, вельмі павабна і вельмі прыгожа, як яму здавалася самому, ківаў сваёю птушынаю галавою то да аднае, то да другое паненкі. У глыбі пакоя на мяккім крэсле сядзела панна Людміла. Радам з ёю прымасціўся Сухавараў. Цяпер Лабановіч дагадаўся, што пан падлоўчы мусіў уступіць Сухавараву і паехаць з ім, каб пазнаёміць яго з паннаю Людмілаю, якою таксама зацікавіўся і Сухавараў.

— А, паночку! — прамовіў пан падлоўчы:—ці бачыш, які ён шпаркі. Я заходзіў да пана, каб разам з панам Сухаваравым паехаць. А ён ужо тут!

Пан падлоўчы весела павітаўся з сваім суседам, узяў яго пад руку і павёў да панны Людмілы.

— Проша быць знаёмымі: пан Лабановіч, прафесар велькіх букваў.

Панна Людміла ўсміхнулася сваёю прыветнаю ўсмешкаю і жартліва прамовіла.

— Мы бадай што і знаёмы.

І падала сваю мяккую ручку.

— Дык наш прафесар шмат дасціпнейшы, як гэта я думаў, — прамовіў пан падлоўчы.

— У ціхай бухце чэрці водзяцца, — дадаў і Сухавараў і распусціў свае мокрыя губы ў крыху абразлівую ўсмешку. Сухавараў быў адзеты ў парадны мундзір з бліскучымі гузікамі і звысака пазіраў на ўсіх тутэйшых кавалераў. Павітаўшыся з усімі гасцямі, Лабановіч сеў адзін у больш спакойным месцы і стаў прыглядацца да гасцей. Старшая пісаранка, як гаспадыня, часта адлучалася; кавалеры з далікатнасці ўдзялялі ёй шмат увагі, што прыдавала ёй гонару і здавальнення.

— Ну, як жывіце? — спытаў Лабановіча Дубейка:— у нас, бачыце, не тое, што ў вас—публікі многа, паненкі... Як вам падабаецца наша Людміла?

— А чаму яна ваша, а не наша? — спытаў і Лабановіч: — ну, што-ж? дзяўчына, як дзяўчына.

— Вы паглядзеце, як каля яе гэты жалязняк увіваецца!

— А вам зайздросна? Чаму-ж вы не ўвіваецеся?

— Маё ад мяне не ўцячэ,—горда зазначыў Дубейка. Яму нядаўна абяцаў земскі начальнік пісарскую пасаду.

Падышоў Максім Гарошка.

— Што вы так рэдка ў нас бываеце? — спытаў і ён Лабановіча.

Максім быў вяртлявы, нізкага росту дзяцюк, з тонкімі чорнымі дугамі-бровамі і жывымі вачыма. Ён быў досыць прыгожы хлопец і сярод паненак лічыўся цікавым кавалерам, хоць і нявыгадным жаніхом. Максім любіў весці размовы на грамадзянскія тэмы. Ён не меў службы. Чаму? А проста таму, што ніякая пасада яго не здавальняла і ніякая прафесія не адпавядала яго по-

глядам на жыццё. Ён проста быў трохі шалапай і распуснік. У яго быў востры язык і нахіленне да высмейвання людзей.

То той, то другі з гасцей падыходзіў да цельшынскага настаўніка і што-небудзь казаў яму. Саханюк сыпаў жарты паненкам. Да панны Людмілы ён не падыходзіў, хоць спатайку сачыў за ёю вельмі ўважна.

## XXVII

Панна Людміла ўжо колькі разоў памыкалася сама падыйсці да Лабановіча, бо страціла надзею на тое, што ён калі-небудзь падыйдзе да яе сам. Ёй проста было цікава пабачыць, што ён за чалавек. «Ну і бервяно нейкае!» — сама сабе зазначыла панна Людміла. Тым не меней, яна папрасіла прабачэння ў свайго кавалера і з мілаю ўсмешкаю падскочыла да Лабановіча.

— Можна каля вас прысесці? — спытала яна салодкім галаском.

— Проша, проша! — прамовіў Лабановіч і падставіў ёй крэсла.

— Вы як-бы за штось гневаецеся на мяне, праўда?

— О, не, барані божа! — горача прамовіў шчаслівы настаўнік: — хіба на вас можна гневацца? Дый за што?

— Ну, скажыце мне праўду: чаму вы ніколі да нас не зайшлі?

— Я жыву ўсё-ж далёка ад вас, з вамі да сённешняга дня быў незнаёмы, і так не было такога здарэння.

— А яшчэ якія былі прычыны? — дапытвалася панна Людміла.

— Другіх прычын я вам не скажу.

— А яны былі?

— І пра гэта прамаўчу.

— Ну, скажыце! Ах, які вы нядобры.

— Што зрабіць? І нядобрыя людзі жывуць на свеце.

— Не, вы — добры! Я чула, што вы добры.

— Мала што хто гаворыць. Ды яшчэ ці гаворыць?

— Дык вы мне не верыце?

— Я і сам сабе не веру.

— Вось гэта міла! Як-жа гэта вы сабе не верыце? — пытала панна Людміла.

— А вось бывае так, што думаеш адно, а робіш другое, хочаш жыць так, а жывеш іначай.

— А чаму гэта так выходзіць?

— А таму і выходзіць, што чалавек па сутнасці сваёй часта мяняецца. На яго мае ўплыў пагода, людзі, асабліва ваш брат...

— А які ўплыў мае на вас наш брат?

Лабановіч падумаў і адказаў:

— І добры і кепскі.

— Ха-ха-ха!—засмяялася панна Людміла: — няўжо на вас мае ўплыў, як вы кажаце, наш брат? Не верыцца нешта. Вы, выбачайце, дапраўды нейкі... святы.

— Я ведаю, — з ноткаю лёгкага засмучэння сказаў Лабановіч: — што паненкам святыя не падабаюцца, хоць, праўда, святым я з'яўляюся з вашага пункту погляду...

— Не, не! вы не крыўдзіцеся, прашу вас. Я толькі хацела сказаць, што вы... ну, зусім не такі, як другія, не такі ў лепшым сэнсе.

— Вельмі вам дзякую, але, зняўшы галаву, па валасах не плачуць. І крыўды тут ніякай няма. Людзі часта ўсё жыццё б'юцца і думаюць аб тым, каб святым застацца, а мне гэта лёгка далося.

— О! маладзец прафесар велькіх букваў, — жартаваў пан падлоўчы, падышоўшы да іх: — адзін завалодаў паннаю Людмілаю.

— Гэта я завалодала прафесарам, проста гвалтам узяла яго, не пытаючыся, ці рад ён гэтым, ці не рад, — адказала панна Людміла.

— Выбачайце, — усміхнуўся Лабановіч і глянуў ёй у вочы так, як-бы ён ведае шмат болей таго, як гэта думае панна Людміла: — а ці так гэта!

Дзяўчына на момант замяшалася, потым ускінула на яго свае бойкія вочы і сказала:

— Ой, хітры-ж вы, хітры!

— А як вы думаеце: святасць і хітрасць не шкодзяць адно другому?

— О, не! Вам яны не шкодзяць.

— Ну, гэта другое пытанне, але ці можна быць святым, астаючыся і хітрым?

— У пытаннях святасці я нічога не разумею, — адказала панна Людміла: — але пакінем аб гэтым. Скажыце, чаму вы тады так борздзенька ўцяклі, памятаеце, у Абрама?

— Я ніяк не думаў спаткаць вас там, і мне стала нялоўка... Скажу вам праўду: я не хацеў, каб вы падумалі, што я зайшоў туды дзеля таго, каб пабачыць вас.

— А хіба вам так непрыемна было пабачыць мяне?

— Вот вы і злавілі мяне. Цяпер выкручвайся, як хочаш, — сказаў, смеючыся, Лабановіч.

— Вы мне кажыце праўду, чуеце? Чыстую праўду,— горача наступала панна Людміла.

— Я проста не хацеў падманваць вас.

— Што гэта значыць? Я нічога не разумею, — крыху нахмурыўшыся, сказала панна Людміла: — у чым вы маглі мяне падманваць?

— Усяго ведаць не можна, бо часта веданне разбівае наша шчасце.

— Цяпер я ўжо зусім не разумею вас.

— А вы больш размаўляйце з разумнымі людзьмі,— параіў ёй Лабановіч.

— А чым-жа я вінавата што вакол мяне дурні?

Лабановіч засмяяўся.

— Кепскага-ж вы здання аб вашых кавалерах, і я на гэты раз вам вельмі рады, што не ў іх ліку.

— Аб чым гэта галубкі воркуюць? — запытаўся Сухавараў, падыходзячы да іх. Яму было крыху не па сабе, што панна Людміла аддавала перавагу Лабановічу, а не яму.

— Проша сядаць, — паказала панна Людміла яму месца каля сябе.

Сухавараў сеў, залажыў нагу на нагу і пакруціў свой чорны вусік. Але пагаварыць яму так і не ўдалося: гаспадыня стала запрашаць гасцей за стол. Госці ўздыхнулі лягчэй і, няспрытна топчучыся і аказваючы знакі ўвагі адзін другому, рушылі ў другі пакой. Праз увесь доўгі стол цягнуўся цэлы рад бутэлек гарэлкі. Лабановіч сядзеў радам з Максімам Гарошкам і Дубейкам. Яго су-

седзі былі добрыя выпівакі і кампанейцы па часці закусвання. Кожная новая чарка дадавала больш руху, ажыўлення, развязнасці. Шум, смех, жарты поўнілі пакой. Пілі за здароўе пісара, пісаравых дачок. Сухавараў падняў чарку за каханне, Дубейка за панну Людмілу. Госці ўставалі, стукаліся чаркамі, разлівалі гарэлку.Ураднік запрапанаваў заспяваць «Божа, цара храні». Госці мусілі падняцца, рад быў хто ці не рад гэтаму.

Максім Гарошка незвычайна ўпадабаў свайго суседа Лабановіча і, развязаўшы язык, плявузгаў featureрознае бруднае глупства.

— Да кожнае бабы падкаціцца можна, — гаварыў Максім Лабановічу: — я іх натуру ўжо добра ведаю. З віду здаецца, а ні «вэзь», брыкаецца, абражаецца, а кончыць тым, што прыгорнецца да цябе.

— Ну, ведаеце, па некалькіх патаскухах не можна судзіць аба ўсіх, — сказаў Лабановіч.

— На што браць патаскух? — Максім зірнуў на суседа. — Няхай гэта будзе між намі. Мне матушка наша жалілася на свайго бацьку Кірыла: «Такі ён, кажа, хваравіты, слабенькі. Нічога не можа. Проста шкада яго». Ну, і я пашкадаваў нашага бацьку, — прамовіў Максім і захіхікаў.

— Няўжо гэта праўда? — спытаў Лабановіч і паглядзеў на Максіма.

— А вы думалі я — Юзаф прыгожы? Вы, прафесарка, як бачу, яшчэ не асветлены ў гэтым сэнсе чалавек, — сказаў Максім і засмяяўся.

— А хіба для гэтага трэба спецыяльныя курсы скончыць? — спытаў Лабановіч.

— Не, для гэтага трэба мужчынаю быць, — адказаў Максім.

— А не проста разбэсціцца?

— Прычым тут разбэшчванне? Прырода, брат, вымагае гэтага.

— Калі за прыродаю пайсці, то можна апраўдаць featureрознае глупства, асабліва, калі пры гэтым пачнеш яшчэ патураць сабе. Вось вы нідзе не служыце, а бацька ваш

ужо стары, яму трэба ўтрымліваць вас, а вы скажаце: «І прырода вымагае таго, каб ён клапаціўся аба мне».

— Разумеецца. Хіба я прасіў яго, каб ён пусціў мяне на свет? А пусціў, няхай і корміць, няхай патурбуецца... Слухай, прафесар, давай вып'ем на ты?

Максім наліў чаркі. Выпілі.

— Ведаеш, брат, што, — пачаў Максім: — я табе такую маладзіцу расстараюся, што з ёю пазнаеш ты радасці раю.

Лабановіч быў ужо досыць п'яны. Яму было лёгка і весела. Перад вачыма яго снаваўся нейкі прыемны туман і ўсё афарбоўваў у ружовы колер. І гэты самы Максім, і Дубейка, Сухавараў, і наогул усе, праўду кажучы, добрыя людзі. Максім яшчэ зусім малады, ён — хлапчук. А што ён за бабамі ганяецца, ды хто-ж гэтага не робіць? Ды Максім і другія маюць смеласць адкрыта сказаць аб гэтым, а ён, Лабановіч? Ён шмат горшы ад іх, бо свае брудныя мыслі аб кабетах ён трымае пры сабе. А ці мала часу забіралі ад яго гэтыя думкі? Ён помніць спатканне з незнаёмаю жанчынаю, што ішла да яго, а ён прагнаў яе. Хіба ён добра зрабіў? Колькі разоў ён каяўся ў гэтым, і мыслі аб ёй распалялі яго. А каму ён аб гэтым казаў? Нікому. А чаму? Ясна чаму: яму, бруднаму ў такой-жа меры, як і ўсе мужчыны, а можа і больш таго, хацелася паказвацца чыстым, нявінным, лепшым ад другіх. А ён... проста — манюка, хітрэц, фарысей, ашуканец, прыкіда, фальшываманетчык, бо выдае сябе не за тое, што ён ёсць... Ха-ха-ха! Ён — пустэльнік, ён — святы!.. Мутнымі вачыма ён акінуў гасцей. У ваччу яго ўсё калыхалася і траілася. І вось невядома адкуль прад ім з'явіўся вобраз панны Ядвісі. «Ядвіська, мілая, слаўная!» — казаў ён у сваіх думках. Ён схіліў галаву і штосьць думаў. Потым раптоўна павярнуўся да Максіма.

— Максім Грэк! вып'ем, брат?

— Вып'ем, прафесар.

— За здароўе тае маладзіцы, з якою можна пазнаць радасці раю!

— Брава, прафесар!

Лабановіч быў ужо зусім п'яны. Праўда, цвярозых

тут і не было, апрача паненак, — яны былі толькі вясе-лы, — і Саханюк, які гарэлкі не піў. Тым не меней, Максім і Лабановіч выдзяляліся сярод гэтае кампаніі. Яны громка гаманілі, разводзілі рукамі і цалаваліся.

Саханюк незаметна падышоў да калегі.

— Слухайце, калега: зойдзем на мінутку да мяне!

— Чаго? Не пайду. Я яшчэ піць хачу. Хачу пахаваць цельшынскага педагога, бо ён — фальшывы.

— На адну мінутачку, калега. Выйдзем.

— Саханюк! Мілы мой Саханючок! Ты — мой старшы брат. Я пакараюся табе... Але... Стой! Ты, брат, хіцёр, Саханючок: я ведаю, ты хочаш ад мяне пад п'яную руку падпіску ўзяць, што я аддаю табе гарцы.

— Гарцы-ж ты мне і так аддасі, як падарунак к вяселлю.

— Праўда, праўда, брат! — схамянуўся Лабановіч: — жаніся, брат! — аддам табе гарцы, бо ты — чалавек, а не яловы пень, як думаў я раней.

Саханюк пад руку прывёў Лабановіча ў сваю кватэру.

— Куды ты мяне прывёў і нашто прывёў? Я хачу да паненак пайсці. Максім Грэк, свіны ты чалавек, дзе ты?

— Праспіцеся, калега. Ну іх! Будуць пальцамі паказваць і трубіць на цэлы павет — рады на язык падняць нашага брата.

— Эх, Саханюк, Саханюк! Ты і гарцы мае бярэш, ты і чэсць нашу настаўніцкую бароніш. Ты крануў маё сэрца. Жыві-ж, Саханюк, на многія леты. Жаніся, брат, пладзіся, напаўняй пінскія балоты і валодай імі, — гаварыў Лабановіч з канапы, ледзьве варочаючы языком.

## XXVIII

Першую палескую вясну сустракаў тут Лабановіч. Здавалася, тое засмучэнне, тая паласа тугі, што ўсю зіму не сходзілі з твара гэтага глухога кутка Палесся, цяпер прайшлі, бо штось новае і радаснае пачынала вызначацца і ў агульным выразе пустэлей-балот, і гэ-

тага панурага лесу, і асобных хвой і дубоў, што высока падымалі ўгару свае кучаравыя галовы або адзінока стаялі па краях лесу.

Вясна была ранняя, як і звычайна на Палессі. У лясах на ўгрэвах снег злазіў борзда, і вызваленая з-пад снегу зямля радасна выглядала на свет жаўтавата-шэрымі плямкамі, а разам з ёю выбіваўся і леташні брусьнічнік, свежы і сакавіты, сухія галінкі вераску і ягадніку. Побач чыгункі, дзе так прыемна купаліся залатыя косы сонейка, у зацішку зялёных хвой і чырванаватага маладога бярэзніку, ужо цягнулася доўгая жоўтая паласа талай зямлі. Яна шырылася з кожным днём, з кожным часам. А каля масткоў на чыгунцы стаяў вясёлы гоман звонкіх кропель, сцякаючых у ажыўшыя рачулкі і ручайкі. Засыпаныя снегам шпалы, старыя трухлявыя пні даўно загубленых дрэў, гнілыя галіны, — усё выглядала з-пад снегу і ўсё, здавалася, радавалася, што не апошні раз бачыла сонца. А лес, асветлены і абагрэты сонцам, пазіраў зусім такі весела. І было штось незвычайна прыемнае ў гэтых першых светла-бліскучых іскрынках абуджэння жыцця, у гэтым зямлістым паху прэлых леташніх лісцяў, дзе-ні-дзе шарэўшых на талай зямлі. І зусім другія струны душы закраналіся гэтым кволым патыханнем вясны, і другія парыванні разам з гэтым абуджэннем прыроды калыхалі душу ціхаю, няяснаю песняю ці даўно чутаю казкаю, поўнаю хараства і чараў, і кудысь цягнулі і клікалі. Куды? Можа да гэтага невядомага, заўсёды павабнага, нерасчытанага і неадгаданага, закрытага заслонаю ружовых мараў, што ніколі не зліваецца з тваімі жаданнямі? А можа гэта смутак аб чымсі такім, міма чаго прайшоў ты няўважна і страціў навекі? Ці гэта — адбітак вечнага нездавальнення чалавека, якое выдзяляе яго з кругу жывёлін і вядзе па дарозе шукання і ўтварэння лепшых стасункаў жыцця і яго хараства? Ці гэта — імкненне рассунуць граніцы свайго краявіду, каб пазнаць непазнанае, уведаць нязведанае? Але вечны загадкі жыцця і вечны нашы імкненні іх адгадаць, толькі-ж ніколі мы іх не адгадаем, бо формы жыцця абмежаваны, само-ж жыццё не мае граніц.

Пасля пісарскага балу Лабановіч некаторы час ад-

чуваў сябе дрэнна. Яму было прыкра, што ён там напіўся, гаварыў розныя глупствы і нават піў за здароўе нейкай маладзіцы. На другі дзень ён раненька вырваўся з Хатовіч і бадай што ўцёк дадому. І вось цяпер, на другі дзень п'янства, ён хадзіў па чыгунцы, крыху заспакоены, і падводзіў рахункі сабе самому, як чалавеку і як настаўніку. Яму ўспаміналіся першыя дні яго прыезду сюды, яго намеры і планы. І цяпер усё гэта так не сходзілася адно з другім, і ніякага маральнага здавальнення! Ён чуў нейкі неспакой душы. Яму хацелася кінуць тут усё і ісці. Куды? У гэты свет, на новыя мясціны — і ўжо там пачынаць жыць як-небудзь іначай. Ён акінуў вачыма гэтыя ваколіцы Цельшына: цесна, цёмна і пуста. Толькі ветракі, растапырыўшыя ўгары два крылы ў бок сяла, мелі такі выгляд, як-бы іх зразіла нейкая навіна, і яны, у здзіўленні сказаўшы: О-о-о! — застылі ў такім стане; ды дом пана падлоўчага і высокая вяндлярня выдзяляліся крыху весялей з купы гэтых саламяных стрэх сялянскіх хат. Няўжо-ж яму прыдзецца жыць тут яшчэ другую зіму, бо на лета, калі скончацца заняткі ў школе, настаўнік думаў куды-небудзь паехаць. Дом пана падлоўчага глянуў на яго яшчэ раз і яшчэ; і, скараючыся нейкаму пачуццю і голасу, ён звярнуў з чыгункі і накіраваўся дадому, паглядаючы то на высокі крыж каля школы, то на дах пана падлоўчага. Падыходзячы бліжэй да іх, настаўнік пайшоў павольней, як злодзей, кідаючы вочы на вокны. Ступіўшы яшчэ колькі крокаў, ён спыніўся: у акне з-за вазонаў яму кланялася тая галоўка, якую яму так прыемна было бачыць. Настаўнік прасвятлеўся і рашуча адкінуў клямку на дзверцах веснічак свае суседкі.

— З таго часу, як вы закахаліся ў панну Людмілу, вы ўжо не хочаце да нас зайсці, — сказала панна Ядвіся, ні-то шуткуючы, ні-то сур'ёзна.

Лабановіч глянуў ёй у вочы, у гэтыя круглыя цёмныя і такія слаўныя, выразныя вочы, на яе чорныя тонкія бровы, якіх ён не бачыў ні ў аднае дзяўчыны, ні ў каго на свеце. Здаецца, ніколі не адводзіў-бы ён ад яе сваіх вачэй, і падумаў: «Ніхто цябе не бачыць, ніхто не ведае, якая ты слаўная і мілая, — і дадаў: — дурні яны!»

— А, — сказаў Лабановіч у парыванні нейкай радасці, а ўнутрах яго ўсё дрыжэла: — ці толькі свету, што ў панны Людмілы? А вы мне вось што скажыце: калі ўжо вы перастанеце харашэць? Можна было-б ужо і спыніцца.

Усе думкі аб помсце панне Ядвісі, усе тыя калючыя словы, якія ён думаў не так даўно кінуць ёй, — усё цяпер знікла, як-бы гэтыя вочы і бровы адвялі іх і пахавалі навекі.

Ядвіся сказала:

— А калі вы перастанеце быць такім панурым і злосным?

— З таго самага часу, як вы аб гэтым запыталіся.

— Не люблю я панураў, — сказала Ядвіся: — усё здаецца, што яны накінуцца і біць пачнуць.

— Што зрабіць? Часамі чалавеку так цяжка бывае, так наваліцца на яго гора, што нехаця ляжа чорны цень на твары.

— А якое ў вас было гора? — спытала Ядвіся.

— Не пытайцеся: ніякага ў мяне не было гора. Хіба вы навядзеце яго на мяне, але гэтага я вельмі не хацеў-бы.

— Я? Што я для вас значу?

— Усё! — адказаў настаўнік.

— Праўда? — ціха спытала Ядвіся.

— Гатоў пабажыцца, аб заклад пабіцца, — пачаў сыпаць Лабановіч словамі, узяўшы жартлівы тон, каб жартамі прыкрыць тое, што ішло ад самага сэрца. Панна Ядвіся, як сарна, скокнула да печкі, дзе стаяў пусты кошык, і, схапіўшы кош, падбегла з ім да Лабановіча і прамовіла:

— Сыпце ў кош сваё красамоўства!

Яны смяяліся, шчаслівыя, як дзеці.

Панна Ядвіся раптоўна стала сур'ёзнаю.

— Скажыце, — прамовіла яна: — каб я вас аб чымсі папрасіла, ці зрабілі-б гэта для мяне?

— Усё, што можна зрабіць, зраблю.

— Зробіце?

— Зраблю.

Панна Ядвіся апусціла вочы, потым паволі ўзняла іх на настаўніка.

— У Гродзеншчыне ў мяне ёсць адна дзяўчына, — ну, вам усёроўна, хто яна. Ёй трэба выйсці замуж. Разумееце? Ёй проста трэба павянчацца, каб у сваіх дакументах мець другое прозвішча. Нашто, — гэта таксама вам не цікава. Дык ці згадзіліся-б вы павянчацца з ёю?

Ядвіся гаварыла самым сур'ёзным чынам.

Лабановіч і верыў, і не верыў. Калі гэта ўсё праўда, то стала быць для Ядвісі ён зусім непатрэбны чалавек. І яму стала так горка і непрыемна. Ён апусціў вочы і, памаўчаўшы, прамовіў з заметнаю ноткаю нездавальнення:

— Аб жаніцьбе, якая-б яна ні была, я думаю столькі, сколькі думаеце і вы аб леташнім снезе.

У гэты час у пакой увайшла Габрынька, і размова наконт жаніцьбы на тым і скончылася.

— Ну, кажыце, як вам гасцілася? — звярнуўся да яе настаўнік.

Габрынька з жарам і ажыўлена апавядала, як ім было там добра і як не хацелася ехаць сюды. Панна Ядвіся маўчала. Лабановіч слухаў Габрыньку і стараўся не пазіраць на Ядвісю. А Ядвіся ўвесь час не зводзіла з яго вачэй. А потым ціхенька вышла, нічога не сказаўшы. Яна доўга не прыходзіла сюды і вярнулася тады, калі Лабановіч ужо вышаў і пайшоў да сябе на кватэру.

Настрой у яго быў самы паганы. Ён проста не мог знайсці сабе прыпынку, не ведаў, за што ўзяцца. Прайшоўшыся колькі разоў па пакоіку, ён узяў паперу і пяро і сеў пісаць ліст свайму сябру.

«Мілы Сымоне!

«Дзе ты, мілы, белабрысы? Дзе ты? Адгукніся! Як без цябе тут гарую, прыдзі падзівіся». — З гэтае песні пачаў ён пісаць, мяняючы яе тэкст. — Абрыдла, брат, мне тут. Усё прыглядзелася і прыелася. Пачынаецца вясна. Разам з ёю ва мне абуджаецца і нейкі дух бадзяння. От-бы забраў пад паху свае манаткі, пайшоў-бы, куды

вочы глядзяць. Скончыцца работа ў школе, паеду дадому. На другі год думаю перабрацца куды-небудзь далей у глыб Палесся. Я пачынаю рабіць падлікі сабе самаму, і іх вынікамі я моцна незадаволены. Тая звычайная работа, якую мы павінны весці ў школе, мне здаецца мала вартоўнай, і калі толькі ёю абмежаваць сваю дзейнасць, то гэта значыць, рабіць вельмі мала, бо будзеш заўсёды чуць нейкі недахват. І тады трэба будзе на ўсё махнуць рукою, а каб было весела, то прыдзецца звярнуцца да карт, гарэлкі і праз колькі гадоў зрабіцца поўным вахлаком, што звычайна на кожным кроку і робіцца. Я чую, што ў мяне няма грунту пад нагамі, бо я не намеціў сабе пэўнага плану работы. Я, брат, тая муха, што папала пад шкляны калпак: і свет вакол відаць, і месца ёсць выбіцца з гэтага калпака, але няма здольнасці папасці ў выйсце. І я, не адзін такі я, шумім, круцімся, а толку няма. Можа каму выпадкова і пашчасліваецца знайсці дарогу з гэтага калпака, але пераважная большасць пападае ў сыровадку і трапечацца ў ёй, покі не захлынецца. Яшчэ нічога, калі ўсяго гэтага не замячаеш і думаеш, што гэтак і трэба. Але вельмі цяжка пачуваць, што цябе пачынае зацягваць балота, і ты ведаеш, што ў гэтым балоце твая грамадзянская смерць. І калі-б мяне спытаў хто, што мне найболей кінулася ў вочы і зрабіла мацнейшае ўражанне за першы год настаўніцтва, я вызначыў-бы гэта так: павольнае ўміранне душы і зацягванне цябе балотам... Не, брат Сымоне, не можна доўга аставацца на адным месцы, бо яно цябе заесць і ашальмуе. Няхай жыве вандроўніцтва!

Як я табе і казаў, ва мне з незвычайнаю сілаю абудзіўся дух бадзяння. Я не знаходжу сабе спакойнага месца, мяне кудысь цягне і парывае. Часамі мне проста хочацца зашчаміць сабе галаву і плакаць. «Маркотна жыць на гэтым свеце, панове». Цяпер толькі зразумеў я, якую праўду казаў Гогаль».

Напісаўшы гэты ліст, Лабановіч прылёг на канапу і задумаўся... «А ўсё гэта я ілгу: не тыя прычыны майго нездавальнення і смутку». І перад ім ізноў усплыў вобраз Ядвісі, і ізноў аб ёй, толькі аб ёй, пачаў думаць.

## XXIX

— Бабка, дома паніч? — пытала панна Ядвіся старую Мар'ю.

— Не, паненачка, кудысь вышаў нядаўна.

Ядвіся падышла да дзвярэй, прыслухалася, як-бы не верачы бабцы і баючыся быць злоўленай, потым ціхенька адчыніла іх, ускочыла ў пакойчык, азіраючы яго цікавым поглядам. Яна падышла да пісьмовага стала і палажыла туды маленькі букецік першых вясенніх красак. Потым узяла асадку, адарвала вузенькую палоску паперы, крыху падумала, на яе губах заблукала ўсмешка, і яна пісала: «мілы», паставіла тры кропкі і напісала другое слова «дурань». Паперачку з напісанымі словамі залажыла ў разгорнутую кнігу, яшчэ раз азірнулася і выскачыла ў кухню.

— Глядзі-ж, бабка, не кажы панічу, што я тут была. Барані божа, бабка, не кажы! — сказала і бягом кінулася на двор. Скора дзесь з двара пачуўся яе голас. Яна спявала нейкую песню. Бабка ціха ўсміхнулася сама сабе і прамовіла ўголас:

— Вясёлая, харошая паненка! — і аб чымсі задумалася. Праз мінуту бабка сама ўвайшла ў пакойчык. Ёй хацелася дазнацца, якую штуку выкінула там паненка.

— Красачак прынесла, няхай падумае аба мне.

Бабка ўзяла ў рукі букецік, паглядзела на яго, паднесла да носа і палажыла зноў на стол. Яна чагось уздыхнула і вышла.

Гэта было на захадзе сонца.

Калі ўжо добра сцямнела, прышоў Лабановіч. Ён запаліў лямпу. Пры яе асвятленні ён замеціў кветачкі. «Хто-ж гэта палажыў іх сюды?» — спытаў ён сябе самога і стаў разглядаць гэты букецік. Вечар быў цёплы і ціхі. Ён падышоў да акна і расчыніў фортку. Вокны пакоя пана падлоўчага былі цёмныя. Там, значыць, нікога не было, можа яшчэ рана. З двара нёсся сюды шум сялянскае вуліцы. Дзесь у канцы вуліцы пілікала скрыпка, там-жа чуўся радасны смех дзяўчат і іх крык і піск. Відаць, за імі ганяліся хлопцы, лавілі і дурэлі з імі. Потым дзяўчаты хорам спявалі «вяснянкі». Іх звонкія, ма-

ладыя галасы будзілі спакой гэтага ціхага вечара, і водгулле іх замірала дзесь у соннай цішы балот. На ясным небе загараліся зоркі, дрыгацелі, свяціліся рознакаляровымі агеньчыкамі, пераліваліся, як-бы трапяталі крыльцамі там нейкія дыяментныя матылі. І было штось незвычайна важнае і велізарнае ў гэтым далёкім харастве недасяжных зор і ў гэтай маўклівасці цёмнага бяздоннага неба, і перад велізарнасцю і тайнасцю яго заціхаў дробны клопат зямлі. «Колькім людскім пакаленням свяцілі гэтыя зоркі! — разважаў настаўнік, — людскія пакаленні даўно сышлі з твару зямлі, і вецер даўно параздзімаў іх магілы і разнёс па свеце прах касцей іх, а яны, гэтыя спакойныя зорачкі, кожную ясную ночку будуць свяціць сваім немяцежным бліскам, спакойныя, неўспагадныя на ўсе мітусенні і трывогі ўсхваляванай душы чалавека. А мы перабудзем свой век, колькі нам прызначана, гэты страшэнна кароткі міг, малюпасенечкае звенца ў бясконцым ланцугу жыцця, і ніякага следу не захаваюць па нас бязлітасныя часы. І ці варта так прырастаць да гэтага жыцця, да гэтага нязначнага моманту ў ходзе часоў?» І нейкая туга ахапіла настаўніка. Аб чым? Мабыць аб тым, што так мізэрна і нязначна людская доля, людское жыццё. Ён апусціў галаву над сталом і сядзеў нерухліва. Лёгкі і раптоўны шолах у шыбы акна абудзіў яго. Ён узняў галаву, і ў гэты момант на стол упала некалькі такіх-жа самых красачак, што былі і ў букеце. Відаць, некалькі з іх не папалі ў фортку, а толькі лёгенька кранулiся шыбак і засталіся за акном. Разважанні аб нязначнасці людскога жыцця былі таксама раптоўна распуджаны чыёюсь рукою, што кінула гэтыя краскі. Лабановіч борздзенька кінуўся да форткі. Але там было ўсё ціха. І толькі шумлівая і многагалосная вуліца правіла маладыя гімны гэтаму жыццю.

— Няўжо гэта Ядвіся? — пытаўся настаўнік.

— Бабка!

— А што, панічыку?

— Ты не спіш яшчэ?

Дзверы скрыпнулі. Прышла бабка.

— Ці ты, бабка, не ведаеш, хто гэта прынёс сюды красак?

Бабка перш прыкінулася, што нічога не ведае, а каб пераканаць у гэтым і настаўніка, яна ўзяла краскі і стала разглядаць іх. Але, як ні хітрыла бабка, настаўнік прачытаў на яе твары, што яна прыкідваецца.

— Ой, бабка! Грэх табе, старэнькай, хлусіць і падманваць. Не любіш ты мяне і не шкадуеш. Я ўжо і па той прычыне не паверу табе, што ты — знахарка. Ты павінна ведаць.

— Ой, панічыку! Ну, хто-ж вам можа прынесці красачак, як не паненка?

— Якая паненка і чаму паненка, а не якая-небудзь маладзіца?

— Хто-ж іх, панічыку, ведае, хто да вас лепей горнецца: ці паненкі, ці маладзіцы, — усё яшчэ хітрыла бабка. Але ёй самой не ў трыванне было не сказаць, і яна пачала смяяцца. — Паненка, панічыку; сама сюды забягала і палажыла іх вам. Толькі яна, панічыку, прасіла мяне, каб я пра яе вам не казала.

— Злаўлю яе калі-небудзь.

— Злавіце, панічок, злавіце! — прамовіла бабка, гатовая нават памагаць свайму панічу злавіць паненку.

— Чаму ты, бабка, не ідзеш на вуліцу песні спяваць?

Бабка паглядзела на настаўніка, ці ён праўду кажа, ці жартуе.

— Няма, панічыку!.. Адспявала я ўжо сваё.

— А ці шкада табе твае маладосці?

— А што яе, панічыку, шкадаваць? Ці шкадуй, ці не шкадуй — не вернецца назад.

— А ці хацела-б ты вярнуць яе?

— Э, панічок! Ніколі я пра гэта і не думаю. Нікому яна не варочаецца.

— Дык трэба, бабка, карыстацца ёю і ўзяць ад яе ўсё, чым яна міла і люба?

— Так, панічок, што цяпер страціш, таго потым не знойдзеш.

Гэта размова зусім не цікавіла бабку, і яна колькі разоў пазяхала. А ўрэшце яна сказала:

— Ужо-ж, панічок, і позна. Заставайцеся здаровы!

І паволі пасунулася ў кухню на сваю печ, адкуль скора пачуліся нейкія мармытанні, ні-то яна сама з сабою размаўляла, ні-то малілася богу.

У сяле яшчэ доўга спяваліся песні, ды дзесь з двара данасіўся брэх патрывожанага сабакі. Апозднены месячык загарэўся залатым пажарам за тым панурым лесам, што стаяў з боку чыгункі, і павольна ўзнімаўся над заспакоенаю зямлёю. Ноч цішэла і глушэла і цяжэй налягала на зямлю. Настаўнік яшчэ доўга сядзеў каля акна, і розныя думкі падымаліся ў яго галаве. Спаць яму не хацелася, і ён доўга варочаўся, покі сон замкнуў яму вочы. На століку каля яго ложка ляжаў букецік завяўшых красак.

Вясна ўступала ў сілу. Снегу ўжо зусім не было ў палях. Ажылі балоты. Жалобна застагналі кнігаўкі, цяжка лятаючы над вадою. Высока ў небе звінелі жаваранкі. Абсохшая зямля пачынала іскрыцца зялёным аксамітам кволай пахучай траўкі. То той, то другі з вучняў пакідаў школу.

— Вось што, дзеці, — казаў раз вучням настаўнік: — сёння па абедзе прыходзьце з рыдлёўкамі: будзем капаць ямкі, а заўтра цэлаю школаю пойдзем у лес, прынясем маладых дрэўцаў і абсадзім нашу школу.

Дзеці адзін перад другім спяшаліся запэўніць настаўніка, што яны прынясуць рыдлёўкі, і з вясёлым дзіцячым гоманам, як пчолкі з вулля, высыпалі яны з школы на вуліцу, напаўняючы яе звонкімі, шчаслівымі галасамі.

Пасля абеду дзеці весела беглі з рыдлёўкамі ў школу і таксама заяўлялі аб гэтым настаўніку, забягаючы да яго на кватэру. Нават маленечкі Паўлюк Рылка, самы меншы ў школе, горда нёс рыдлёўку, згінаючыся ад яе цяжару. Настаўнік прышоў у школу і павёў дзяцей на двор. Разам з вучнямі размеркавалі месцы для ямак, потым настаўнік назначыў работу сваім вучням, падзяліўшы іх на гурткі, і сам выкапаў першую ямку, каб паказаць дзецям, якія трэба капаць ямкі.

— Што гэта вы робіце?

Панна Ядвіся незаметна падышла да Лабановіча. Гэты так добра знаёмы яму голас прывёў яго ў нейкае трапятанне. Сэрца застукала мацней.

— Хачу па сабе вам памяць пакінуць.

— А хіба-ж вы ўміраць збіраецеся? — засмяялася Ядвіся.

— Я ўжо памёр, — трагічна прамовіў Лабановіч.

— Дык гэта вас хаваць тут будуць? — жартавала яна: — можа пабегчы пасклікаць баб, каб паплакалі па вас?

— А вы хіба не заплачаце па мне?

— Дык вы-ж усёроўна чуць не будзеце.

— Ах, выбачайце! — апамятаваўся Лабановіч: — вельмі дзякую вам за букецік і за тыя красачкі, што праз фортку ўляцелі.

Панна Ядвіся прыкінулася вельмі здзіўленаю і як-бы нічога не разумела.

— Які букецік?

— А той самы, што ўчора вы на стол палажылі.

— Ваша бабка — лгарка, і самі вы — лгар, — запратэставала Ядвіся: — больш ніколі да яе не пайду, і ў вашу кухню не ступіць мая нага...

— І ў маю фортку не паляціць ні адна краска?

Панна Ядвіся павярнулася і кінулася бягом у свой двор, потым яна спынілася і пайшла зноў да Лабановіча.

— Слухайце: вы бралі кнігу, што ў вас на стале разгорнута ляжала?

— Не, не браў.

— Вы не лжыцё?

— Я, здаецца, нікому яшчэ ў форткі не кідаў красак, каб мне лгаць.

Панна Ядвіся чагось засмяялася, ніколечкі не пакрыўдзіўшыся.

— Хочаце? Пойдзем сёння гуляць?

— Пойдзем, пойдзем! — падхапіў настаўнік. — Вы можа не паверыце, а ў мяне, чэснае слова, была гэта самая думка, толькі я не адважваўся сказаць вам.

— Дык вы заходзьце да нас.

— Абавязкова і з вялікаю прыемнасцю.

Яна зноў паімчалася ў свой двор. Дзеці шумелі, гамапілі, спрачаліся, хвалілі свае і ганілі чужыя ямкі.

Лабановіч стаяў шчаслівы, аб чымсі думаў, і чуць прыметная вясёлая ўсмешка блукала ў яго вачу і на губах.

«Чаму гэта пытала яна пра кнігу? — падумаў сам сабе Лабановіч: — ці не палажыла яна чаго ў кнігу?»

А гэтым часам панна Ядвіся кралася з другога ходу, каб тайком выняць з кнігі тую паперку, дзе яна напісала: «мілы... дурань», чаго Лабановіч не агледзеў.

## XXX

Прымкнуўшы дзверы кухні з двара, Лабановіч борздзенька пабег да сябе на кватэру праз другі ход, што вёў у школу. Ціхенька ступаючы, падышоў ён да дзвярэй, і, як толькі дакрануўся да іх рукою, у той-жа час панна Ядвіся кулём кінулася ў кухню, каб выскачыць на двор, але дзверы не адчыняліся. Азірнулася — на парозе стаяў настаўнік.

— Ах, папалась, пташка, стой,
Не ўцячэш ты з сеці!
Не расстанемся з табой
Ні за што на свеце!

Спакойна дэкламаваў Лабановіч, не зводзячы з яе вачэй, любуючыся ёю, шчасліва ўсміхаючыся.

А яна і сапраўды выглядала, як злоўленая пташка... Неспадзеўкі, пужлівасць, нейкая вінаватая ўсмешка разам адбіваліся на яе твары. Круглыя цёмныя вочы пазіралі то на дзверы, то на настаўніка. Адна рука яе была зашчэмлена — напэўна там была тая паперачка з двума словамі.

— Нашто вы замкнулі тут дзверы? — зусім нявінна спытала яна.

— А каб тыя самыя ножкі, што прышлі сюды праз школу, не вышлі праз кухню.

Лабановіч падышоў да яе зусім блізка. Яна неспакойна заварушылася.

— Пусціце мяне!..

— Вы — мая госця і нявольніца. Ніякаму на свеце паляўнічаму не здаралася злавіць такую слаўную сарначку, як мне сёння. Дайце-ж хоць наглядзецца мне на яе!

І ён стаў пазіраць на яе.

— Ну, другі раз вы не зловіце мяне.

— А навошта мне лавіць, калі я вас ужо злавіў?

Яна раптам кінулася яму пад рукі, каб уцячы ад яго. Але ён крэпка схапіў яе пад пахі і не пускаў.

— Што вы робіце? — з гневам прамовіла яна: — не смейце дакранацца да мяне!..

— Вы-ж самі кінуліся мне на рукі, — сказаў настаўнік і пачуў, як збунтавалася ў ім кроў. Ён выпусціў яе і толькі трымаў за руку. Яна зноў стала вырывацца. Цёмнарусыя яе валасы раскінуліся па плячах пышнымі хвалямі.

— Не, мілая палонніца, нічога не будзе — не пушчу!

З распушчанымі валасамі, з залітымі агнём шчочкамі яна была незвычайна прыгожа, і настаўнік не мог адвесці ад яе вачэй.

— Ну, слухайце, — тонам просьбы прамовіла яна: — ніяк я не спадзявалася, што вы будзеце мяне мучыць!

— А вы мяне не мучыце? — спытаў ён і глянуў ёй у вочы.

— Выкуп дайце, тады я пушчу вас.

— Я не маю чым плаціць, — казала яна і адною рукою старалася заправіць свае валасы. Настаўнік сумыслу раскідаў іх.

— Ах, адстаньце вы!

— Не, не адстану: каб вы ведалі, як вы прыгожы з распушчанымі валасамі, вы заўсёды і хадзілі-б так.

— У маёй мамы таксама былі раскошныя валасы, але доля яе была нешчаслівая, — у засмучэнні прамовіла яна.

Лабановічу стала незвычайна шкада яе. Ён выпусціў яе руку, глянуў ёй у вочы.

— Бедная вы, мілая, харошая, слаўная Ядвісечка!

— У, усе вы такія гэрады, тыраны! — з нейкаю нянавісцю прамовіла яна. Лабановіч хацеў ёй адказаць, што яна памыляецца, але не паспеў: яна раптоўна ахваціла рукамі яго шчокі і, умомант прыблізіўшы яго галаву, пацалавала яго, потым з сілаю адштурхнула яго і кінулася за дзверы ў школу. А ён, як-бы апалены маланкаю, стаяў на месцы колькі моманту. Потым, як дзікі звер, кінуўся ён даганяць яе. Панна Ядвіся стаяла на парозе, трымаючыся за клямку. Яна была зусім спакойна.

— Калі асмеліцеся пацалаваць мяне, то, клянуся па-

мяццю мацеры, я кінуся пад машыну! — І цёмныя круглыя вочы яе блснулі іскрамі гневу.

— Мілая, родная Ядвісечка! не, не: не буду... А пагуляць мы пойдзем?

— Дурань! — злосна прамовіла яна. Потым ускінула на яго свае добрыя, чыстыя вочы, усміхнулася і знікла за дзвярыма, трымаючы ў руцэ вузенькую паперачку.

Лабановіч вярнуўся да сябе ў пакой. Яго рукі і ногі дрыжалі. Ён прысеў каля стала на край канапы і сядзеў, не думаючы ні аб чым. Ён устаў, хістаючыся пайшоў у кухню, выпіў вады. Унутры яго ўсё кіпела ад нейкага шчасця і радасці.

«Што за дзяўчына! Што за натура! — колькі разоў паўтарыў сабе самому малады, шчаслівы настаўнік: — яна любіць мяне!.. Ці-ж можна не любіць яе, гэтую лепшую, прыгажэйшую казку Палесся. Ядвісечка!.. мілая, любая!»

Два старэйшыя вучні, якія падгатоўваліся да экзамену, прышлі і сказалі настаўніку, што ўсе ямкі ўжо пакопаны.

— Збярэцеся ў школу: я вам скажу колькі слоў і пушчу вас дамоў.

Вясёлы, дружны шум уварваўся ў школу, і звонкія, шчаслівыя дзяціныя галасы напоўнілі ўвесь дом.

Настаўнік увайшоў, пахваліў дзяцей за работу і сказаў ім:

— Заўтра ўжо кніг не прыносьце. А вазьміце колькі рыдлёвак (тут ён назначыў большых вучняў) і збярыцеся тут. Пойдзем у лес, накапаем дрэўцаў і пасадзім іх у ямкі, што вы сёння прыгатавалі. А цяпер ідзіце дамоў!

Настаўнік не хадзіў нікуды ўвесь гэты вечар. Гэта здарэнне, гэты агнявы пацалунак панны Ядвісі напоўніў яго шчасцем, і яму здавалася, што гэтага шчасця яму стане надоўга. Ён пераживаў кожны момант свайго шчасця, над некаторымі затрымліваўся доўга... Чаму яна сказала, што кінецца пад машыну, калі ён пасмее пацалаваць яе, і нават паклялася памяццю мацеры? Чаму кінула яна яму «дурань», а потым як-бы пакаялася ў гэтым і падарыла яму такую добрую ўсмешку, як-бы ёю перапрашала за гэта зневажанне? Ён хадзіў па пакоіку і ўсё думаў аб ёй.

Але чым болей думалася, тым больш хацелася яму зноў пабачыць сваю мілую Ядвіську, пачуць яе голас, зазірнуць ёй у вочы, каб прачытаць, што робіцца ў яе душы. Ён часта паглядаў у вокны, каб убачыць яе. Яе імя гучэла ў яго вушах незвычайнаю музыкаю і мела нейкае асобнае значэнне.

Назаўтра ён прачнуўся пазней, бо заснуў ужо тады, калі пачало развідняцца, прачнуўся з думкаю аб сваім шчасці, аб Ядвісі. Ён устаў тады, калі ўжо ў школе чуліся дзіцячыя галасы. Ён успомніў, што сёння субота перад вербніцаю, што ў гэты дзень ён скончыць сваю работу ў школе, бо пасля вялікадня прыдуць усяго толькі тры вучні, якім трэба падгатавацца да экзамену.

З вясёлым шумам ішлі дзеці ў лес са сваім настаўнікам, збіўшыся вакол яго цеснаю грамадкаю.

Дзень быў ясны, цёплы. Нават на цельшынскай вуліцы падсохла. Сяляне з сохамі, з каробкамі і мяшкамі з аўсом выязджалі на поле. Жалобна крычалі кнігаўкі, снуючыся над балотамі, над вадою, як-бы яны шукалі вельмі дарагую страту і ніяк не знаходзілі. У зацішку на лужынах тужліва кумкалі зялёныя жабы, а далей у балотах, між лесу, пераклікаліся бугаі, бухаючы, як пустыя кадушкі. Гэта буханне на далёкай адлегласці будзіла лясы, прыдаючы агульнаму настрою Палесся асаблівыя тоны. Сталыя і важныя буслы з незвычайнаю сур'ёзнасцю хадзілі па краях балота або ляталі да сваіх гнёзд на старых хвоях і папраўлялі свае апушчаныя на зіму палацы. Там і сям на акраінах лясоў распускаліся маладыя лісточкі бярэзінак. Жоўтыя пухаўныя каткі звісалі на вербалозінах, купаючыся на сонцы і склікаючы пчолак і чмелікаў. Зялёныя кветачкі павыбіваліся ўжо на снег скрозь сухія выцвіўшыя лісці, і прынадныя пахі разлівала ў паветры маладая чаромха. Адны толькі паважныя дубы, узбагачаныя спробамі жыцця за свой доўгі век, не вельмі спяшаліся расчыняць свае покаўкі і выпускаць адтуль свежую зелень маладых лісточкаў, бо дуб — мудрае дрэва, і не паддаецца ён на зман няпэўнай у пачатку вясны.

Настаўнік спыніўся з вучнямі на сухім месцы ў лесе і вёў з імі размову аб тым, што бачылі перад сабою, і аб значэнні тае справы, дзеля якой яны прышлі.

Дзеці рассыпаліся па лесе і агаласілі яго сваім крыкам і шчэбетам. Лабановіч доўга шукаў маладую грушку. Ён хацеў знайсці прыгожанькую грушку і пасадзіць яе на памяць аб сваёй каханай.

І калі ён знайшоў маладое, крэпенькае і стройнае дрэва, доўга і асцярожна капаўся каля яго, покі акуратненька не было яно выкапана разам з зямлёю. Сам нёс яго дамоў і пасадзіў яго ў куточку на школьным двары, дзе найболей свяціла сонца, і два разы паліў яго вадою ў гэты дзень. І агарадзіў гэту грушку высокімі коллямі, каб не патаптала і не паламала яе жывёла.

На кожнае дрэва вызначыў ён уласнікаў і налажыў на іх дагляд за іх выхаванцамі.

— Ну, а цяпер, дзеткі, ідзіце абедаць. Па абедзе збярыцеся і прынясіце свае кнігі, бо пасля вялікадня парассыпаецеся вы па лясах і палях. А хто захоча хадзіць у школу і па вялікадні, той потым і атрымае кнігу.

Прыняўшы па абедзе кнігі ад вучняў і пусціўшы іх на святы, Лабановіч пачуў, як-бы яму стала чагось шкада, хоць, праўду сказаць, яму крыху і дакучыла за зіму гэта работа па восем і па дзесяць гадзін у дзень.

Ён вышаў на двор, абышоў пасаджаныя маладыя дрэвы, над некаторымі затрымліваўся даўжэй. Ён часта паглядаў на двор пана падлоўчага. Яму вельмі хацелася пабачыць Ядвісю і паказаць ёй гэту слаўную грушку, якую пасадзіў ён на памяць аб ёй. Але Ядвіся доўга не паказвалася на двары. Ён падкараульваў яе з гадзіну. І калі заўважыў яе, аклікнуў і папрасіў яе падыйсці.

Яна, радасная і вясёлая, падбегла.

— Я хачу паказаць вам грушку.

— А вы не будзеце лавіць мяне? — з мілаю і хітраю ўсмешкаю спытала яна.

Ён памог ёй пералезці плот і павёў да грушы.

— Гэту грушку я пасадзіў на памяць аб вас.

Яна разглядала яе доўга. Потым засмяялася і сказала:

— Я вырву яе і выкіну.

— Чаму?

— Бо яна такая-ж калючая і дзікая, як я.

— Пойдзем гуляць сёння? — спытаў ён.

— А вы памятаеце, што я вам учора на гэта сказала?

— Зрабіце вы тое самае, што зрабілі ўчора, і тады скажыце мне хоць дзесяць разоў тое, што сказалі адзін раз.

Яна паглядзела на яго строга і прамовіла:

— Больш ніколі! Чуеце? Ніко-о-олі!

## XXXI

Вербніца і благавешчанне ў гэтым годзе прыпалі ў адзін дзень. У гэты дзень павінен прыехаць з Малявіч айцец Мадэст з дзякам Цішкевічам, бо ў гэты дзень цельшынцы па ўжо старому звычаю зносілі свае грахі айцу Мадэсту, пасля чаго яны ўжо рабіліся як-бы святыя, хоць, праўда, у Цельшыне было многа такіх палешукоў, як, напрыклад, дзед Мікіта, да якіх святасць не падыходзіла ніякім чынам. І замест таго, каб здаць гэтыя грахі, яны не толькі не здавалі іх, а набіраліся яшчэ новых.

Звычайна а. Мадэст прыязджаў на пераддзенні пад вечар. Так і сёння прыехаў ён досыць рана, калі яшчэ сонца не паспела схавацца за дубам, што стаіць у бок раз'езду. Счакаўшы з поўгадзіны, з каплічкі, што стаяла ў зараслі панурых і цёмных могілак, панёсся глухі звон, як-бы гэта званілі ў які-небудзь шчарбаты чыгун. Тым не меней, звон гэты, такі рэзкі і такі незвычайны для Цельшына, рабіў моцнае ўражанне. І кожны, хто чуў яго тут, так ці іначай аказваўся на гэты звон.

— А што гэта? — пытаўся хто-небудзь з цельшынцаў: — звоняць ці што?

— А мабуць звоняць.

І пасля ўжо гэтага вяліся тыя ці іншыя разважанні.

— Мабуць ужо піп прыіхаў: штось забомкалі.

— Спавядацісямем?

— А мабуць шчо так.

Але палешукі не вельмі кідаліся да цэрквы, бо яны народ дбалы і дасціпны. Таму паляванне ўсміхалася панадна, у другога было асочана месца, дзе яшчэ шчупакі не скончылі нераставаць.

І цельшынскі звон, як відаць, добра ведаў звычаі сваіх

парафіян, бо ён не спяшаўся канчаць сваё скліканне, і толькі праз гадзіну, калі ўжо на цвінтарыку збіралася досыць многа палешукоў і паляшучак, а з дворыка Міхалкі Кугая паказваўся айцец Мадэст, які ішоў роўна, і дзяк Цішкевіч, у якім усё-такі меней «благадаці», з якое прычыны ён крыху і заграбаў нагамі, — ужо тады звон пачынаў заліваціца ямчэй, прыхватваючы для гэтага сваіх меншых тонкагалосых братоў.

Каплічка адмыкалася. Каля дзвярэй звычайна стаяла колькі маладзіц з дзяцьмі на руках. Яны не смелі самі ўвайсці ў капліцу, бо яны былі яшчэ нячыстыя. Маладзіцы мелі розныя тэрміны: каму трэба было ўвадзіцца каля сёмухі, каму каля Пятра, каму на каляды, а хто яшчэ і не зусім вытрымаў свой тэрмін. Але ў Цельшыне гэта не мела значэння. Айцец Мадэст стаўляў цэлы шэраг маладзіц у каплічцы па абодва бакі дзвярэй, браў свой трэбнік і чытаў святыя малітвы, а дзяк Цішкевіч спяваў, крыху пагойдваючыся на сваіх нагах. Але гэта не шкодзіла яму назіраць і за «благочинием» у капліцы, бо маладзіцы, былі здарэнні, часамі і штурхаліся або выпіраліся наперад.

— «Еліцы во Хрыста»... — спяваў Цішкевіч, і тут ён замячаў, што якая-небудзь маладзіца парушала парадак. Тады ён прыпыняў спяванне і навучальна казаў маладзіцы: — Не прыся ты, а стой спакойна, — і спяваў далей.

— «Крэсці-і-ісь-це-сяяя!»

А тут ізноў рабілася што-небудзь не так, як трэба ў цэркве.

— Ці чуеце вы, ці не, што я вам кажу? — ужо досыць строга пытаў маладзіц Цішкевіч і ссоўваў бровы. Направіўшы парадак, ён прадоўжваў спяваць:

— «Во Хрыста аблекосцеся!»

Тут Цішкевіч рашуча спыняў спевы, калі бачыў новы непарадак, і ўжо сярдзіта казаў:

— Тфу! Што гэта за праціўная баба! Ці ты ёй кажы, ці не кажы — хоць кол на галаве чашы. — І, не знімаючы з маладзіц свайго грознага погляду яшчэ колькі хвілін, Цішкевіч канчаў песню: — Алілу-у-у-я!..

Айцец Мадэст нічым тут не выказваў свайго «я» і

даваў Цішкевічу поўную магчымасць навучаць «паству», бо яны жылі вельмі згодна. І гэта была не навіна і не першыня, калі яны там дома, у Малевічах, ішлі радам, падтрымліваючы адзін другога, бо вельмі часта хварэлі на няўстойку сваіх ног. Ідучы дружнаю параю, яны часамі прыпыняліся на вуліцы і рабілі кароткую параду, куды ім зайсці? Яны падымалі галавы, спускаючыся ўжо тут на свае вочы. І калі перад іх вачамі стаяла школа, то яны і накіроўваліся туды. Узышоўшы на ганак школы, яны зноў прыпыняліся, і тут часамі бывала між імі невялікая спрэчка, бо, як праўдзівыя хрысціяне, яны ўступалі першае месца адзін другому. А з тае прычыны, што перад богам усе роўны, то яны ўваходзілі радам і адначасна, Айцец Мадэст садзіўся першы на крэсла і казаў Цішкевічу:

— Садзіся, дзяча: школа царкоўная і крэслы царкоўныя.

Тут ён вымаў з-за пазухі свае расы бутэльку, сам цягнуў і дзяку даваў пацягнуць. Настаўніца не ведала, як трымаць сябе з гасцямі. Але госці былі непатрабоўныя, частаваліся сваёю гарэлкаю і закусвалі сваімі языкамі. Яны трохі спачывалі, спявалі «Хрыстос уваскрос» і спакойна выходзілі.

Увёўшы малалзіц і панасіўшы крыху іх дзяцей, айцец Мадэст прыступаў да споведзі. Палешукі, збыўшы гэты клопат, зараз-жа выходзілі з капліцы і ішлі дамоў. Назаўтра зранку таксама ішла споведзь, а потым ужо служылася абедніца, набажэнства, спецыяльна створанае для палешукоў, бо звычайна іх доўга ў цэркве не затрымлівалі. Невялічкая каплічка, якая магла ўмясціць якую-небудзь шостую частку цельшынцаў, была напалавіну пустая, і толькі тады, калі пачыналася прычашчэнне, у ёй было цесна, бо кожнаму хацелася хутчэй узяць прычасце. І тут ужо без канфліктаў ніколі не абыходзілася.

— Што ты мне на ногі ўзлез? — злосна глядзеў Трахім Буч на Рыгора Качана. — Прэцца, бы тая свіння, — усё яшчэ ў злосці казаў Буч.

Качан пазіраў на Буча, як-бы разважаючы, што ад-

казаць яму на гэта. Ён успамінаў, што яны ідуць да прычасця і што не павінны мецъ гневу ў сваім сэрцы, і, з дакорам ківаючы галавою, казаў, і ў голасе яго чулася скруха.

— Саладушнік ты, шчоб ты захлынуўся! Ідзеш да святога прычасця, а лаешся, як сабака, як бы ты не ў цэркве, а ў карчме ў Абрама!

Напамінанне аб хрысціянскім змірэнні, зробленае Качаном, мела значэнне і сілу, бо Буч нічога не адказваў і глядзеў перад сабою. А там, каля бацюшкі з чашаю, таксама мітусіцца народ.

— Чаго ты пхаесся? — агляцаецца на суседа адзін паляшук.

— А ты сам куды пражэсса? — адказвае сусед, па мянушцы Швайка, і займае першае месца, а гэты сусед, злосны, становіцца за ім, бо сварыцца ўжо няма калі, і Швайка стаіць з разяўленым ротам. Айцец Мадэст лыжачкаю бярэ з чашы:

— Прычашчаецца раб божы... Імя?

— Габрусь! — адказвае Швайка.

Угневаны ім сусед дадае:

— Дый яшчэ Швайка!

Швайка зачыняе рот, адварочваецца да суседа.

— Дый яшчэ чорт тоўстаносы!

Потым ён зноў разяўляе рот, павярнуўшыся да чашы.

Айцец Мадэст таксама не церпіць, хоць у справы сваіх парафіян не мяшаецца. Але калі заўважваў што, то выкідаў усё гэта на вока.

Дзед Мікіта толькі што вярнуўся з рыбы. Відаць, ён спяшаўся, каб не апазніцца на прычасце, бо моцна засопся і яшчэ ў капліцы зрабіў колькі шпаркіх крокаў, якімі ён ішоў з балота. Ён адапхнуў колькі кабет і стаў наперадзе. І вось, калі дайшла да яго чарга, то айцец Мадэст, зірнуўшы на ногі дзеда Мікіты, заўважыў, што яны па самы пояс былі мокрыя, а лапці плюхцелі.

— Ты чаму-ж гэта мокры прышоў сюды? — спытаў яго а. Мадэст.

— Замачыўся, то і мокры, — адказаў дзед Мікіта, крыху адвярнуўшы ад бацюшкі лысую маршчыністую галаву

— Дзе-ж гэта замачыўся?
— На балоце, дзє-ж?
— А чаму-ж ты на абедніцы не быў?
Дзед Мікіта маўчыць.
— Я табе прычасця не дам, — накінуўся на яго бацюшка: — не мог ты поўгадзіны ў цэркве пабыць, памаліцца? Дык ты скарэй на балота, да чарцей пабег, а цяпер, аблюманы і абрынданы, прычашчацца прыпёр? Не буду прычашчаць! — прамовіў а. Мадэст і чуць павярнуўся з чашаю ў бок.
— Го! — сказаў дзед Мікіта: — не будзе прычашчаць!.. То і не трэба! Настрашыш ты мяне!
Дзед Мікіта, ні на кога не пазіраючы, ідзе вон з капліцы. А. Мадэст колькі хвілін стаіць з чашаю і глядзіць услед дзеду Мікіце... Ён яшчэ думае, што дзед вернецца і папросіцца ў яго. Але дзед Мікіта, той самы дзед, што з жарнавікамі танцаваў, падыходзіць ужо да дзвярэй:
— Гэй! Як цябе там? Вярніся! Чуеш? — гукае а. Мадэст дзеду Мікіце.
Дзед спыняецца, паварочвае галаву да бацюшкі і кажа:
— Не хочу!
— Вярніся ты! — крычыць а. Мадэст: — табе ўжо і слова не можна сказаць.
Мікіта адпускаецца і, хлюпаючы лапцямі, зноў ідзе да амбону.
А. Мадэст прычашчае яго. Дзед бярэ кусочак прасфары, кладзе яе ў рот і хоча ісці.
— Ці злавіў-жа хоць рыбы? — пытае яго а. Мадэст.
Дзед зусім адпускаецца, глытае прасфару і адказвае ўжо лагодна:
— Дзе там у чорта? Няма! — працягвае апошняе слова, махае рукою і выходзіць.
Святая служба канчаецца. Цішкевіч бубніць канчальныя малітвы, а. Мадэст скідае рызы. Малітвы кончаны, кніга загорнута. А. Мадэст падыходзіць да Цішкевіча, перакінуліся колькімі словамі і выходзяць.
На цвінтарыку яны прыпыняюцца, знаёмяцца з цельшынскім настаўнікам.
— А вашы вучні добра чытаюць. Учора даў газету

вашаму вучню, Рылку; такі маленькі, а як разбірае! Права слова! — гаворыць а. Мадэст.

Цішкевіч панура слухае, потым падымае вочы на бацюшку.

— Э, бацька! Ці ты яго хвалі, ці не хвалі, а на чай нас усёроўна не пакліча!

— Цёмны тут у вас народ! — гаворыць на развітанне а. Мадэст і паволі з Цішкевічам ідзе да Міхалкі Кугая.

## XXXII

На чацверты дзень вялікадня вярнуўся Лабановіч у сваю школу. Яшчэ вечарам таго-ж самага дня, калі цельшынцы здавалі свае грахі а. Мадэсту, надумаўся ён паехаць дадому, каб крыху праветрыцца і хоць на кароткі час адыйсціся ад гэтага кругу тутэйшых уражанняў і сваіх настрояў. Але на першыя-ж дні свят яго моцна пацягнула сюды, бо быць блізка ад Ядвісі і бачыць яе хоць зрэдку стала яго патрэбнасцю. Едучы назад, ён не спаў дзве ночы, а па дарозе, апрача таго, яму прыходзілася віншаваць таго-сяго са святым вялікаднем і, разумеецца, крыху падвіншавацца. Утомлены бяссоннымі начамі і выпіўкаю, ён пачуў сябе вельмі добра, улёгшыся на сваёй пасцелі, і зараз-жа заснуў крэпкім-крэпкім сном. Даведаўшыся, што прыехаў сусед, пан падлоўчы праз поўгадзіны, прымасціўшыся пад яго акном, дзе ён спаў, барабаніў кулаком у акно і клікаў:

— Прафесар вялькіх букваў! О, прафесар! Чуеш? Уставай піць гарэлку!

Лабановіч спаў крэпка і нічога не чуў. Пан падлоўчы, ужо падвыпіўшы, не адступаўся. Яго кулак часцей і шмат мацней пачаў барабаніць па сярэдняй раме. Шыбы завінелі, а з некаторых пасыпаўся кіт.

Пан падлоўчы, звярнуўшы на гэта ўвагу, засмяяўся і прамовіў сам сабе:

— Чорт яго бяры, прафесара: павыбіваю яму вокны!

Лабановіч на гэты раз пачуў грук і скрозь сон дагадаўся, што яго будзіць пан падлоўчы, але расчыніць вочы і падняць галаву ён проста не меў сілы, і калі грук пачаўся з новай сілаю, ён громка прамовіў:

— Га-а!

— Уставай прафесар! — гукаў з двара пан падлоўчы.

Лабановіч узняўся, адчыніў фортку і стаў прасіцца:

— Пане суседзе, не спаў тры начы — не магу!

— Што за «не магу»? Зараз-жа адзявайся, бо, дальбог-жа, прыду і павалаку так, як ты цяпер ёсць. А будзеш упірацца, то паклічу Рыгора і Язэпа і, дальбог, прывалаком вось так, як ты цяпер ляжыш. А ў мяне і паненкі ёсць.

Лабановіч убачыў, што ад пана падлоўчага не адчэпішся, і стаў адзявацца.

Адзеўшыся і памыўшыся халоднаю вадою, ён крыху асвяжыўся і прышоў да памяці. Ён пералез добра знаёмы яму пералаз і ступіў на ганак пана падлоўчага. Негрусь па свайму сабачаму звычаю забрахаў разы тры, павільваючы хвастом, як-бы хочучы сказаць:

— Гэта я так сабе брашу, без злосці.

— А што? Нябось збаяўся: прышоў-такі! — спаткаў «прафесара» пан падлоўчы ў сваім пакоі.

Даўжэразны стол, якога раней настаўнік не бачыў у пана падлоўчага, стаяў каля сцяны, прыхінуўшыся да яе шчыльна адным сваім краем. Гэты стол, як ёсць, быў завален пірагамі, бабкамі, мясам розных гатункаў і рознага прыгатаўлення: штук шэсць шкляных банак з крэпкім хрэнам выглядалі з розных месцаў стала, тры «буслы» гарэлкі высока падымалі голавы над гэтымі стосамі закусак. Шынкі, як падушкі, абтыканыя зялянінаю ляжалі важна зялёнымі шалашамі. На дзябёлым крэсле старасвецкай работы сядзеў жалезнадарожны майстар Грыгарэц, з шырачэзнаю спіною і дубовага складу чалавек, ніколі ў жыцці не ведаўшы страху перад гарэлкаю. Ён быў тоўсты, крэпкі і меў выгляд навоя, на які толькі што навілі кросны ў дванаццаць губіц. Рыжая і ўжо з лысінаю галава яго насілу пакручвалася направа і налева на кароткім, але незвычайна тоўстым карку. Маленькія вочкі яго ўжо замасліліся, але ён не касаваўся перад чаркаю і ліў іх, як у бочку. Тут-жа была і панна Людміла з сваім братам Анатолем, але Анатоль, чуць паздароўкаўшыся з настаўнікам, зараз-жа пайшоў шукаць прыпынку для сваёй галавы, у якой цяпер мала-

ціла нейкая малатарня. Панна Людміла толькі правяла яго сваім балесным поглядам. Яна была адзета ў лёгкую шаўковую блузку колеру ільнянога цвету і выглядала вельмі прыгожаю і цікаваю. Панна Ядвіся таксама была адзета з густам. На ёй была чырвоная атласная кофтачка, якая вельмі ішла да яе смуглага твара, а пышныя цёмнакаштанавыя валасы былі перахвачаны чырвонаю-ж, як жар, стужачкаю. Габрынька стаяла каля музычнае скрыначкі, на якой нядаўна грымела музыка.

— Тут, пане мой, паненкі адны сядзяць, а ён спаць заваліўся, — адчытваў Лабановіча вясёлы пан падлоўчы.

Падышоўшы да панны Людмілы, Лабановіч спыніўся і сказаў ёй:

— Чаму вы, панна Людміла, не перахрысціліся, убачыўшы мяне?

Ядвіся зірнула на Лабановіча, потым на панну Людмілу. Людміла, асвятліўшы свой твар усмешкаю, пазірала на яго, штось прыпамінаючы, а потым весела засмяялася.

— Аднак-жа вы злапомны.

— Зусім не, — адказаў настаўнік: — я толькі хацеў вам напомніць, што, угледзеўшы «святога», трэба перахрысціцца.

— Ну, годзе табе тут любошчы разводзіць, — падышоў пан падлоўчы і ўзяў настаўніка пад руку: — вып'ем!

— Ох, паночку: за што вы на мяне так угневаліся? З раю ў пекла цягнуцца? — скардзіўся Лабановіч, гледзячы на паненак.

— І ў пекле паненкі ёсць, ды яшчэ такія, якіх і ў раі не знойдзеш, — прамовіў пан падлоўчы і, пакланіўшыся паненкам, папрасіў у іх прабачэння, што забірае ад іх кавалера.

— Але нічога, — заспакоіў ён іх: — пан прафесар шмат цікавейшы будзе, вярнуўшыся ад стала.

Пан падлоўчы наліў чаркі.

Грыгарэц вельмі спрытна кульнуў сваю чарку; здавалася, што ён яе і не піў, а так толькі ўскінуў галаву, каб паглядзець, як высока столь у пакоі пана падлоўчага. Закусваючы, ён штурхануў локцем Лабановіча і ціха прамовіў:

— Ну, як наконта маладзічак?

Настаўнік нічога не паспеў сказаць яму, бо перад ім ужо стаяла другая чарка.

— Выпі, тады будзеш закусваць. Мы тут, пане мой, мардаваліся, а ён сабе спаць палажыўся.

І прымусіў выпіць яшчэ чарку.

Лабановіч пабег да паненак, запрашаючы іх да стала.

— Пойдзем! — прасіў ён іх: — я раскажу вам гісторыю, як на Палессі такія, як вы, прыгожыя дзяўчаткі з'явіліся.

Паненкі зацікавіліся і ўсталі. Ён узяў іх пад рукі і пайшоў з імі да стала. Наліў па чарцы віна і вельмі ўпрашаў іх выпіць, называючы іх дыяментамі Палесся, божымі летуценкамі. Яму было надзвычайна весела, язык яго развязаўся, ён забаўляў паненак; яны слухалі і смяяліся.

— Ну, а гісторыю калі скажаце? — пыталі яны.

— А вось, як віна вып'еце! — І яны выпілі.

— Ну, слухайце... Стварыў бог Палессе і пайшоў аглядаць балоты. Доўга хадзіў бог, і стала яму маркотна. І стварыў бог дзяўчыну незвычайнага хараства і сам залюбаваўся ёю. Вочы ў яе былі, як у панны Ядвісі, і такія-ж самыя пышныя валасы. Бровы... — тут Лабановіч глянуў на бровы панны Людмілы, а потым на бровы Ядвісі.

— Усё ў яе было, як у панны Ядвісі, — сказала панна Людміла і хітра ўсміхнулася.

— Не, не ўсё, — адказаў Лабановіч: — бровы былі, як у Габрынькі, губы і рот — як у вас. Доўга пазіраў на яе бог, а потым сказаў: «Не, не можна цябе астаўляць людзям: яны будуць калаціцца з-за цябе». Паставіў яе бог на сваю руку і дзьмухнуў на яе. Дзяўчына рассеялася і зрабілася хмаркаю. «Ты будзеш хадзіць над Палессем век-векам, і ад тых людзей, на якіх упадуць твае кроплі, і будуць раджацца красуні». І вы, — сказаў Лабановіч паненкам, — маеце ў сабе тыя кроплі і радзіліся дзеля таго, каб на Палессі не маркоціліся маладыя хлопцы.

— Ну, годзе табе казанні казаць, — спыняў яго пан падлоўчы.

Лабановіч ужо не спрачаўся і піў многа, але гарэлка ўрэшце страціла над ім сваю сілу, і ён піў ужо сам і падліваў другім.

— Слухайце, — пытала панна Людміла: — чаму вы ніколі да нас не зойдзеце?

— Добра, што вы запыталіся цяпер, — адказаў настаўнік, — бо я толькі тады і кажу праўду, калі добра вып'ю, дык слухайце: буду казаць праўду. Я затым і не хадзіў да вас, што баяўся вас, бо душа мая чуе, што тады, калі мае ногі пераступяць парог вашага дома, яна пападзе да вас у палон.

— Я вельмі шкадую, — смеючыся прамовіла панна Ядвіся, — што ніколі не чула вас тады, калі вы добра вып'еце.

— Эх, панна Ядвіся, панна Ядвіся! — як-бы ў нейкім незвычайным засмучэнні прамовіў настаўнік: — калі я гавару з вамі, то тады я не толькі «добра выпіўшы», але і п'яны — і, стала быць, яшчэ большую кажу вам праўду.

— Хіба-ж я бочка з гарэлкаю? — засмяялася панна Ядвіся.

— Вы — той напітак, які п'юць толькі багі.

Адным словам, стараўся развясельваць дзяўчат.

Пан падлоўчы хадзіў перавальваючыся, і здавалася, што яму вельмі было цяжка падымаць свае ногі. Але ён быў незвычайна вясёлы і, павярнуўшыся да панны Людмілы, заспяваў:

Ксёндз барнадын у касцелі —
Ха-ха-ха-ха!
Відзеў собе анелі!
Тра-ля-ля-ля!

Але далей ён чамусь не спяваў, як яго ні прасілі.

— Габрынька! — скамандаваў ён. — Заграй нам штонебудзь!

Пад звонкія і меладычныя зыкі гэтае музыкі сарваўся з месца Грыгарэц і пайшоў тупаць і прытупваць. Здавалася, што гэта не чалавек танцуе, а нейкі добра ўкормлены вяпрук убег у гэты пакой і ў нейкай свіной радасці разгуляўся тут і пайшоў выбрыкваць розныя свае вяпручыныя выкрунтасы. Пайшоў танцаваць і пан падлоўчы

са сваёю жонкаю. Усе вельмі хвалілі пана падлоўчага і паню падлоўчую. Праўда, танцаваў ён здольна. Потым ён пайшоў у танцы з паннаю Людмілаю. Грыгарэц пад шум танцаў кудысь знік. І калі агледзеліся, што ён прапаў, то пан падлоўчы сказаў:

— О, злодзей! Ведаю я, куды ён пайшоў! — І, як відаць, трохі яму пазайздросціў.

Анатоль, праспаўшыся, зноў увайшоў у пакой. Гэта быў высокі малады хлапец, не падобны да свае сястры. Яны з настаўнікам падселі да стала і пачалі ізноў піць, як-бы гарэлкі ў вочы не бачылі.

— Ну, Толя, ці не пара нам дамоў? — падышла да іх панна Людміла.

— Гуляйце: вялікдзень раз на год бывае, — сказаў ёй Лабановіч.

— Ну, хто вам больш падабаецца з хатоўскіх маладых людзей? — пытала яна Лабановіча.

— Усе слаўныя хлопцы, — адказаў ён.

— Ну, гэтым вы мала сказалі.

— А што мне пра іх казаць? Я больш цікаўлюся дзяўчатамі.

— Ну, а хто-ж вам больш падабаецца з паненак?

— Калі аб гэтым пытаецеся вы, то я павінен сказаць вам — вы.

— Не, вы скажыце праўду.

— Хто цяпер гаворыць праўду? Нават і «святыя» і тыя пачынаюць лгаць.

— А я ведаю, хто вам не толькі падабаецца, але каго вы і кахаеце.

Лабановіч паглядзеў ёй у вочы, паглядзеў доўга і сказаў:

— Так, вы ведаеце.

— А па чым вы ведаеце, што я думаю?

— Па вашых вачах прачытаў.

— О, пані! — падхапіў пан падлоўчы: — наш прафесар шаптаць і гадаць умее.

— Ну, пагадайце мне! — панна Людміла працягнула Лабановічу сваю руку.

— Пані! — адказаў за яго пан падлоўчы, — наш прафесар на каленях гадае.

Панна Людміла засаромілася, ускочыла і села на канапу, а пан падлоўчы пакатваўся ад смеху, пазіраў на «прафесара», а вочы яго казалі: «Вось як трэба з паненкамі гаварыць!»

Ад'язджаючы дамоў, панна Людміла доўга ціснула руку настаўніку, заглядала яму ў вочы і казала:

— Памятайце, я чакаю вас у Завітанкі.

— На тое-ж яны і Завітанкі, каб у іх завітаць, — адказаў Лабановіч і моцна паціснуў ёй руку.

## XXXIII

Назаўтра атрымаў Лабановіч пакет інспектара. Інспектар паведамляў, калі і дзе назначаюцца экзамены, куды настаўнік і павінен прыбыць са сваімі вучнямі. Экзамены назначаліся на панядзелак па вялікадні, а ехаць трэба было па чыгунцы вёрст за пяцьдзесят... У той-жа самы дзень, калі было атрымана гэта паведамленне, прышлі і вучні. Тут яны ўмовіліся з настаўнікам, што паедуць у суботу вечарам, каб часамі не прапусціць цягніка, і гэтыя тры дні, якія заставаліся да экзаменаў, пайшлі на паўтарэнне курсу.

Гэтымі-ж днямі даведаўся Лабановіч, што панна Ядвіся збіраецца выехаць з Цельшына, калі не назаўсёды, то ва ўсякім разе на доўгі час. Гэта вестка моцна засмуціла настаўніка. Ён адразу пачуў, што перад ім як-бы ўжо расчыняецца нейкая пустота, і гэтыя пышныя малюнкі зазелянеўшага Палесся, узбуджанага вясною, поўнага спеву, шуму і жыцця, патускнелі ў адзін момант і як-бы адыходзілі ад яго. Усё, здавалася яму, мела цяпер такі выгляд, як-бы хацела сказаць яму: «У цябе гора, але мы ў гэтым не вінаваты», і пачыналі жыць сваім клопатам, сваімі інтарэсамі, зусім для яго чужымі, а ён заставаўся тут адзін як ёсць.

Яшчэ адна акалічнасць засмучала яго: гэту вестку пачуў ён не ад яе, а ад свае бабкі. А разам з тым гэта акалічнасць і грэла яго надзеяй, што гэта можа яшчэ і не зусім праўда. Ён рашыў сягоння-ж пастарацца паба-

чыць Ядвісю і пагаварыць аб гэтым з ёю. Цяпер толькі пачуў ён, як дарага яму яна і якая для яго будзе невыказная страта, калі яму прыдзецца тут жыць без яе. Не, тады ён не застанецца тут! Яго ўяўленне ўжо малявала яму асірацеўшы двор і пакой пана падлоўчага, і ён незвычайна востра пачуў тыя настроі, якія агорнуць яго тады, калі ўжо не будзе яго мілай суседачкі.

Пасядзеўшы да самага вечара ў школе са сваімі вучнямі і крыху адцягваючыся гэтымі заняткамі і блізкімі экзаменамі, ён пусціў дадому хлопцаў і пайшоў да сябе на кватэру. Зірнуўшы на дом пана падлоўчага, ён згледзеў Ядвісю на ганку. Яна сядзела за столікам. На століку стаяла швейная машына. Панна Ядвіся штось шыла. «Напэўна гатуецца ў дарогу», — тужліва зазначыў сабе настаўнік.

Ён надзеў шапку і вышаў на двор. Ён борзда перакінуўся праз знаёмы яму пералаз і ўзышоў на ганак пана падлоўчага.

Ядвіся была сур'ёзная і як-бы крыху чымся заклапочана. Тут-жа сядзела і пані падлоўчая, таксама з шыццём у руках.

— Што-ж у пана чуваць добрага? — спытала пані падлоўчая.

Лабановіч паведаміў яе аб экзаменах.

— Калі-ж вы паедзеце? — запыталася Ядвіся і ўскінула на яго свае цёмныя вочы.

— Умовіліся з хлопцамі ехаць у суботу вечарам.

Панна Ядвіся прыпыніла сваю работу і задуменна кудысь пазірала.

— Люблю я гэту станцыю, — прамовіла яна.

Пані падлоўчая вышла — яе паклікалі.

Лабановіч сядзеў моўчкі і штось думаў.

Вечар быў ціхі, ясны і цёплы. Цень ад хаты пана падлоўчага паволі закрываў палісаднічак і свежыя клумбачкі з краскамі, нядаўна пасаджанымі, і пасуваўся па вуліцы. Бойкія вераб'і чылікалі на хаце і сНаваліся па палісаднічку.

— Што вы сёння нешта не ў гуморы? — запыталася Ядвіся і глянула на настаўніка.

— Скажыце вы мне, праўда ці не: я чуў — вы збіраецеся кудысь паехаць адгэтуль надоўга?

Панна Ядвіся ніжэй нахіліла галаву. Лабановіч пачуў, што адказ для яго будзе невясёлым. І, не падымаючы вачэй, яна ціха сказала:

— Так, збіраюся паехаць.

Яна ўздыхнула чуць-чуць заметна, падняла галаву і паглядзела доўга-доўга на настаўніка.

А вы-б хацелі, каб я не ехала?

— Я ведаю, вам тут цяжка, — сказаў настаўнік, — і пэўна там, дзе думаеце вы жыць, вам будзе лепей. І тут ужо не прыходзіцца спраўляцца з тым, як-бы я хацеў. Але калі вы выедзеце адгэтуль, то я тут болей не застануся.

Чуць заметная радасць прабегла па яе твары.

Яна борзда ўскінула на яго цёмныя вочы і, смеючыся імі, зусім ужо весела прамовіла:

— І вам не шкада будзе панны Людмілы?

Лабановіч маўчаў.

— Скажыце, калі можна, — прамовіў ён, — як даўно надумаліся вы выехаць адгэтуль?

— О, я ўжо даўно аб гэтым думала! Яшчэ і вас тут не было.

— А чаму вы са мною ніколі аб гэтым не гаварылі?

— А што мне было гаварыць? — сказала яна: — вы і так смяяліся многа з чаго такога, што я гаварыла.

— А калі вы думаеце ехаць? — спытаў ён.

— Я і сама не ведаю: гэта будзе залежаць ад таткі. Запражэ каня, скажа ехаць, тады і паеду.

— І можа стацца так, што я вярнуся з экзаменаў, а гэта ластавачка ўжо вылецела ў вырай?.. Скажыце мне, нашто гэта ластавачка вясною ў вырай вылятае?

— Што-ж? Як прыходзіцца! — прамовіла яна. — Што гэта вы сёння так павесілі нос? Як-бы ў вас за пазухаю свечка, якую вы мне павінны на скананне даваць?.. Я-б раіла вам пайсці да панны Людмілы... Праўда, яна цікавая панна.

— Працiў яе грэх сказаць што-небудзь: слаўная дзяўчына!.. Чаму вы раіце мне схадзіць да яе?

— Чаму? Самі ведаеце чаму: як толькі вашы ногі пераступяць парог яе дома, то душа ваша пападзе да яе ў палон.

Лабановіч усміхнуўся.

— Вы нават і гэтага не забылі.

— Хто вам казаў легенду аб палескіх прыгожых паннах? — запытала панна Ядвіся, палажыла сваю работу на стол і глянула на настаўніка.

— Гарэлка пана падлоўчага з аднаго боку...

— І панна Людміла — з другога, — падказала яму Ядвіся.

— Што вы мяне ўсё паннаю Людмілаю папракаеце?

— Я не папракаю, і не думаю нават, але панне Людміле вельмі спадабалася гэта легенда.

— А вам яна спадабалася?

— Каб яна для мяне казалася, тады і мне спадабалася-б, а чужое любіць — толькі сэрца пераядаць.

— Ну, вы мяне, панна Ядвіся, хочаце ўсердаваць, але вам гэта не ўдасца. А покі што бывайце здаровы.

Лабановіч затрымаў яе руку і з нейкаю просьбаю ў голасе сказаў ёй:

— Вы не выедзеце, покі я не вярнуся?

— Калі я паеду, я і сама яшчэ не ведаю. А можа і зусім не паеду.

— А вы пад машыну не будзеце кідацца? — ціха спытаў ён яе, усміхаючыся.

— Не буду, — яшчэ цішэй прамовіла яна, азірнулася і апусціла вочы.

Ён умомант нахіліўся да яе і пацалаваў крэпкім-крэпкім пацалункам. І, п'яны ад гэтага пацалунка, борзда вышаў з палісаднічка. А панна Ядвіся сядзела, нахіліўшы галаву, і аб чымсьці моцна-моцна задумалася.

У нядзельку раненька, чуць толькі ўзышло сонейка, настаўнік з сваімі вучнямі, правёўшы ноч на станцыі, садзіўся ў вагон. Прабілі тры званкі, гучна і адрывіста азваўся паравоз, абуджаючы ранічны спакой бясконцых балот, і цягнік зрушыў з месца. З шумным шыпеннем выпускаючы пар, усё быстрэй і быстрэй бег паравоз, і ў

нейкую асобную, глухую музыку зліважася тухканне гэтых цяжкіх ног цягніка.

Лабановіч стаяў каля расчыненага акна. Штось прыемнае і радаснае ўлівалася яму ў душу ад гэтых новых малюнкаў і ад гэтага размашыстага бегу машыны. Борзда адыходзіла ўзад станцыя з высокаю вадакачкаю, закрываючыся свежаю зеленню раслін. Рассыпаючы сноп залатых стрэлаў, велізарна выплывала сонца з-за краю зямлі над прасторамі гэтага палескага мора. Борзда выпікалі і беглі ўсё новыя і новыя малюнкі гэтага зачараванага краю. Балоты з густымі зараслямі лазы, кустоўніка і маладой асакі рассціпаліся шырачэзнымі круглымі абшарамі, і чуць-чуць віднеліся зубатыя цёмныя палоскі лясоў па краях гэтых балот. Балоты канчаліся, побач дарогі ўставалі высокія сцены бору, бор перасякаўся вясёлымі палянкамі; там-сям віднеліся на іх людскія будынкі, а бярвенні гэтых будынкаў, асвятлёныя сонцам, здаваліся маршчынамі на разумнай галаве чалавека, які многа думае і разважае. Вясёлыя палянкі абводзіліся аправаю пышна-зялёных хвойнікаў на жоўценькім пясочку. Нейкім прыветам, ласкаю і цішынёю патыхала ад гэтых сакавітых хвойнікаў, ад гэтых людскіх будынкаў. А як прынадна і прыгожа павіваліся і беглі ў хвойнік гэтыя каляінкі вясковых дарожак і сцежак, па якіх так рэдка пракоціцца сялянская цялежка! А колькі самабытнага хараства ў гэтых адзінокіх разложыстых дубах, раскіданых па краях лесу, і гэтых пышна-купчастых хвой у полі! Чымся родным, мілым, даўно знаёмым веяла ад гэтых аксамітных абрусаў маладога жыта і ад гэтых кволых бледназялёных усходаў ранніх аўсоў!

Лабановіч стаяў каля акна, як прычараваны, і не адводзіў вачэй ад гэтых самавітых, простых малюнкаў Палесся, поўных невыразнага хараства і жыцця, стаяў да таго часу, калі машына не стала падыходзіць да тае станцыі, дзе трэба было выходзіць.

Вышлі з вагона і пайшлі шукаць школу. Школа была не вельмі далёка ад станцыі, і шукаць яе прыйшлося нядоўга. Тры вучні і чацверты настаўнік узышлі на ганак школы і спыніліся.

Школа была замкнёна. Лабановіч пастукаў, крыху пачакаў, але нікога там не чуваць было. Пастукалі яшчэ раз. Таксама ніхто адтуль не адклікаўся. Урэшце Лабановіч угледзеў званок. Пазваніў. Зараз дзесь у сярэдзіне адчыніліся дзверы і пачуліся крокі, досыць рашучыя, і з-за дзвярэй чыйся голас, таксама строгі, прамовіў:

— Хто?

— Цельшынская школа.

Дзверы зараз-жа адчыніліся і паказалі фігуру гаспадара-настаўніка. Трахім Пятровіч Грынько, мужчына гадоў пад трыццаць пяць, толькі што памыўся. Валасы яго былі прычэсаны на бок, адна дугавідная пасма валасоў тырчала над ілбом і дадавала выгляд Грыньку вучонага чалавека, а рэдкія доўгія вусы рабілі яго строгім настаўнікам.

— Што-ж гэта так рана? — спытаў Грынько, пазнаёміўшыся і павітаўшыся з калегаю.

— Няхай сабе хлопцы агледзяцца і азнаёмяцца са школаю. Часу ў нас хапае, — адказаў Лабановіч.

— І то праўда, — ужо больш мякка прамовіў Грынько. Як відаць, у гэтым ходзе калегі Грынько заўважыў значную долю педагагічнай стратэгіі і адразу прасякся да яго павагаю.

Вучняў увялі ў школу.

— Ось тут можаце сабе сядзець, хадзіць і спаць, — сказалі ім настаўнікі, а самі пайшлі ў пакой Грынько.

Кватэра тутэйшага настаўніка зразу кідалася ў вочы кожнаму сваім чыстым выглядам і сваім убранствам. На сценах віселі розныя фатаграфіі, малюнкі ў прыгожых аправах, мяккая, абітая чырвоным плюшам мэбля, каберац каля стала, прыгожы абрус, — усё казала за тое, што Грынько жыў панам (тады яшчэ не казалі буржуем). У Грынько была цэлая гаспадарка: дзесяцін тры агароду, столькі-ж сенакосу, была карова, свінні, на дварэ хадзіла featuringрознае птаства пад пільным і дбалым наглядам гаспадыні.

Лабановіч у параўнанні з Грыньком быў горкі пролетар, і ён нават з знявагаю паглядзеў на свой сурдут,

які ён купіў у Курульчука за два рублі з палавінаю і ў якім ён, асабліва ззаду, вельмі змахваў на местачковага рабіна.

## XXXIV

Каля восьмае гадзіны раніцы пачалі з'язджацца другія школы. То той, то другі настаўнік з кучкаю сваіх выхаванцаў узыходзіў на ганак школы і з шумам уводзіў іх у школьную залу. Тут ён даваў ім розныя інструкцыі і заканчваў іх звычайна так:

— Толькі не трэба труса задаваць: глядзі смела, кажы адважна, рэж з-за пляча — храбрасць гарады бярэ!

Паддаўшы такім чынам духу, настаўнік заходзіў да Трахіма Пятровіча, захоўваючы яшчэ на сваім твары тую смеласць і рашучасць, якімі ён толькі што набіваў сваіх вучняў.

Іншыя настаўнікі, наадварот, доўга заставаліся ў школе пры вучнях і тлумачылі ім, дзе, у якіх выпадках трэба паставіць той ці іншы знак прыпынку, і вялі нават папярэдні экзамен. Пакінутыя адны, вучні памаленьку пачыналі разварушвацца, знаёміцца самі з сабою — часта пры дапамозе кулакоў, штурханоў, высмейвання адных другімі і давання мянушак.

Звычайна на экзамены ў адну школу збіралася пяцьшэсць школ. Тут ужо можна было лягчэй паназіраць настаўнікаў розных тыпаў. Рознасць іх выяўлялася ўжо і з чыста надворнага выгляду. Тут ужо можна было спаткаць прылізанага зуха з талентам і з нахіленнем да жаночага роду; тут былі і выяўна зняважлівыя да розных умоўнасцей грамадзянскага прыліку: мелі доўгія валасы і, адным словам, насілі на сабе ўсе адзнакі нігілізму, як пратэст супраць свайго бяспраўя і нязначнасці палажэння ў грамадзянстве. Былі і такія, што ўсё асмейвалі, на ўсё пазіралі звысака і, прачытаўшы Дрэпера або Бокля, лічылі сябе ў высокай меры свядомымі і начытанымі і ўжо на валаснога пісара пазіралі так, як пазірае вучоны

на якога-небудзь мікроба. Людзі-ж пажылыя, жанатыя, ужо цікавіліся болей гаспадаркаю і куском хлеба, чым гэтымі школамі і навукамі; гэта былі ўжо людзі пакорлівыя, якія лічылі сваім абавязкам лішні раз пакланіцца начальству. Само начальства, інспектар Хрысціцкі, прыехаў ужо гадзіну таму назад, але ў школу яшчэ не прышоў. Ён спыніўся ў мясцовага папа-акадэміка Пражорыча, і сам інспектар таксама быў акадэмік; у настаўніка інспектар начаваў толькі тады, калі яму не было дзе прыпыніцца.

Настаўнікі сядзелі ў кабінеце Трахіма Пятровіча і аб сім-тым гаманілі, пераважна аб экзаменах і аб інспектары: прычым адны знаходзілі яго чалавекам, з якім яшчэ жыць можна; другія-ж, наадварот, даводзілі, што ён — прыдзіра, з кожнага глупства робіць цэлую справу і, наогул, страшны бюракрат. У залежнасці ад таго, якое ў каго дачыненне да інспектара, і выяўляліся гэтыя погляды. Была адна рыска, якая аб'еднала ўсіх настаўнікаў: гэта рыска — асобная бледнасць і зямлістасць колеру іх твара, якую можна знайсці толькі ў тых, хто змушан жыць у падвалах, астрогах; і яшчэ што іх рабіла падобнымі адных да другіх — гэта тая семінарская закваска, якая так трудна вытыхаецца з настаўніка-семінарыста.

— Ідзе!

Хтось з настаўнікаў заўважыў у акно інспектара.

Усе настаўнікі крыху здрыгануліся, паправілі манішкі і гальштукі, а Лабановіч нават ускінуў плечы, каб падняць свой «лапсярдак», як ужо ўспелі тут назваць гэты важны адзетак афіцыяльных выступленняў; праўда, да гэтае адзежыны больш падыходзіла слова «лапсярдак», чым сурдут, бо ён быў пашыты на чалавека — шырынёю на аршын у плячах і на паўтары, а то і цэлых дзве, галавы вышэйшага ад Лабановіча; апрача таго, на ім былі сякія-такія плямы, паходжанне якіх можна было-б вытлумачыць неасцярожна ўпаўшымі капкамі верашчакі. Тым не меней, нават і такі «лапсярдак», са спушчаным далёка ўніз станам, усё-ж такі больш стаса-

ваўся з важнасцю моманту, чым які-небудзь замухрышасты пільчак вясковага настаўніка. Сярод настаўнікаў прайшоў нейкі рух. Тут ужо многа чаго трэба было ўзяць пад увагу: не паказаць свайго страху перад інспектарам, не паздароўкацца так, каб другім кінулася ў вочы, што ён дагаджае начальству, а дагадзіць, хоць трошачкі, а трэба было, і разам з гэтым трэба таксама не ўраніць і сваю вартасць. Інспектар увайшоў, як цар: важны, строгі і з такім выглядам, як-бы ён трымаў у руках лейцы, каб не разбеглася, спудзіўшыся, зямля, на якой мы жывем. На твары яго быў незвычайны клопат, думка яго была так моцна занята такою важнаю справаю, што ён нават не меў часу паглядзець на таго, каму ён даваў руку. Не паспеўшы яшчэ прысесці, ён зараз-жа звярнуўся да Трахіма Пятровіча з чыста дзелавымі пытаннямі: ці ёсць прылады пісьма, ці ўсё падгатавана ў школе, ці павешаны на сцяне карты. Адразу стала ціха і важна, бо ні ў кога нехапала смеласці парушыць работу мыслі начальства.

Усе з'ехаліся? — спытаў ён. — Ну, пойдзем!

Начальства паднялося і накіравалася ў дзверы. За ім ішоў Грынько, а там ужо ішлі, як папала. Лабановіч у сваім «лапсярдаку» ішоў апошнім, маючы на ўвазе, каб гэты лапсярдак не так ужо кідаўся ў вочы. Працэсія была вельмі важная. Наплечнікі і бліскучыя гузікі інспектара зусім асляплялі палешучкоў, боязна пазіраўшых вытарашчанымі вочкамі. Іх парассаджвалі, далі ім паперу. Яны павінны былі напісаць першае слова: «экзаменационная». Дзеці мардаваліся, мыліліся, некаторыя плакалі, пішучы гэтае слова. Потым само начальства пачало дыктаваць, не даяраючы настаўнікам. Кажаноўскі настаўнік, Філюк, стаў воддаль ад сваіх вучняў, як-бы вельмі спакойны за іх навуку і веды. Але там, дзе вучні павінны былі паставіць коску, ён браў сябе за кончык вуха, пазіраў кудысь у прасторы, як-бы заняты нейкаю думкаю, і пакручваў сябе за вуха. Калі трэба было паставіць дзве кропкі, то Філюк пацірав свае вочы, як-бы ў іх набілася пылу. Кропка і

коска — чухалася вока і кончык носа. А калі ўжо трэба было паставіць клічнік, то, падняўшы ўгару палец, Філюк чухаў ім броў. Тут быў прыдуман цэлы лад умоўных знакаў, і не адзін раз былі паверачныя дыктоўкі, каб усвоіць гэтую хітрую сігналізацыю. Канчалася дыктоўка, давалася другая работа — пераказ. За пераказамі ішла пісьменная задача. І ўсе гэтыя работы вяліся пад назіраннем самога начальства. Прамучыўшы дзяцей гадзіны дзве, іх пускалі на пераменку, покі папраўляліся вучнёўскія работы. Тады ўжо ішоў вусны экзамен. На вусны экзамен прышоў поп Пражорыч. Гэта быў незвычайна пануры, чорнабароды бацька. У вочы ён рэдка каму пазіраў, не смяяўся. А калі здароўкаўся і падаваў руку настаўнікам, асабліва ў такім лапсярдаку, як у Лабановіча, то ён у гэту хвіліну шчыра шкадаваў, што ў яго ёсць рукі. На першае месца садзіўся інспектар, ён і быў старшынёю камісіі, на другое — Пражорыч. Трэці член камісіі быў той настаўнік, чые вучні экзаменаваліся.

Вучні-ж адчувалі сябе мала чым лепей тых цялят, якіх загналі на разніцу.

Вучнёўскія сшыткі складваюцца і даюцца інспектару. Інспектар па спіску выклікае вучняў. Вучань, трасучыся, падыходзіць да стала.

— Што трэба напісаць у слове «телега» пасля л? — пытае вучня інспектар.

— Трэба напісаць яць, — адказвае вучань.

— А чаму-ж ты напісаў е?

— Спужаўся, — адказвае вучань.

— Ну, чытай тут, — інспектар дае вучню кнігу, а сам, грозна насунуўшы бровы, зварачваецца да настаўніка:

— Чаму вы падчыркнулі «не смотря»? Якая-ж тут памылка?

Малады настаўнік пазірае на падчыркнутую памылку: на яго твары адбіваюцца рашучасць і смеласць.

— «Несмотря», гаспадзін інспектар, трэба пісаць злучна.

— Вы самі слаба знаеце граматыку, — адказвае громка інспектар.

— Выбачайце, гаспадзін інспектар: «несмотря» пішацца злучна, — стаіць настаўнік на сваім: — па Гроту «несмотря» пішацца разам.

Які ні важны інспектар, якое ні вялікае яго начальніцтва, але пры слове «Грот» ён перастае спрачацца, хоць лёгка здавацца ён і не хоча.

— Трахім Пятровіч, — зварачваецца ён да Грынько: — прынясеце сюды Грота.

Трахім Пятровіч кажа:

— Так, г. інспектар, «несмотря» пішацца злучна, — але ідзе і выносіць з шафы Грота.

У тыя часы Грот сядзеў незвычайна крэпка на сваім троне. І калі ты казаў свайму супярэчніку, што па Гроту пішацца так, то ўжо ніякія довады чалавечага розуму не маглі зрушыць цябе з твае пазіцыі. Калі ўжо сказаў Грот, то — аман. Тут канец, і далей ісці няма куды.

Чарга прыходзіць да вучняў Філюка. Інспектар разглядае дыктоўкі.

— Вашы напісалі добра. Але па сінтаксу вашы вучні значна крапчэйшыя, чым па этымалогіі, — зазначае інспектар.

— Не наладжана сігналізацыя па этымалогіі, — робіць ціхенька ўвагу Грынько на вуха Лабановічу. А Філюк, як ні ў чым не бывала, адказвае інспектару:

— Я наогул на граматыку зварачваю ўвагу.

— Гэта і відаць, — хваліць яго інспектар.

Вучнёўскія пакуты канчаюцца, іх пускаюць, а інспектар робіць увагі то таму, то другому настаўніку, вельмі важна кланяецца ім і з папом Пражорычам ідуць абедаць.

Настаўнікі застаюцца на некаторы час, абедаюць з выпіўкаю, віншуюць адзін другога са сканчэннем вучэбнага года і распаўзаюцца па сваіх трушчобах.

— А вы, калега, можа паначуеце? — казаў Грынько Лабановічу.

— Не, калега: я і так адну лішнюю ноч правеў у дарозе, трэба ехаць.

Лабановіч даўно ўжо маркоціўся па Цельшыне і вельмі быў рад, калі скончыліся экзамены. Ён яшчэ цэлую гадзіну чакаў на станцыі, пакуль прышоў цягнік. Позна ўночы выехаў ён дадому.

## XXXV

— Гэта мой апошні тут вечар, — казала сама сабе панна Ядвіся: — і я не ўбачу яго!

Яна задумалася. Яна прыслухвалася да голасу сваё думкі. Няўжо-ж і не ўбачыць яго? Ніколі не ўбачыць? І нашто яна зманула яго? Яна-ж і тады ўжо ведала аб тым, што заўтра, у панядзелак, паедзе, а яму яна сказала, што не ведае, калі паедзе. Яна зірнула на вокны пустой цяпер кватэры яго. Там цёмна і страшна, бо пуста. Дом толькі тады жывы, калі ў ім жыве гаспадар, бо гаспадар — душа свайго дома. Як смутна і тужліва пазіраюць гэтыя шкляныя вочы пустой і мёртвай кватэры! І дарэмна гэты малады бліскучы месячык стараецца ажывіць пагаслыя вочы: яны свецяцца, а жыцця няма.

Ёй нават страшна. Яна нізавошта цяпер не падыйдзе да іх, як падыходзіла калісь, калі гэтыя вокны жылі і так прыветна пазіралі на іх двор светлазялёным асвятленнем. О, тады ёй было весела, і яна так ціхенька падыходзіла, як начны матылёк, да гэтых вокан, яшчэ цішэй падымалася яна на плот перад вокнамі і доўга пазірала туды. Тады шчаслівая ўсмешка прабягала па яе губках, бо ён нічога не ведае, сядзіць якраз напроціў, схіліўшы галаву над кнігай, і толькі зрэдку правядзе рукою па сваіх цёмных, зусім яшчэ маладых вусіках. Смешны ён, калі падымае свае вочы, такія добрыя і ўдумныя, і пазірае ў акно. І гэтыя вочы напэўна шукаюць яе. Яна-ж тут, але яго вочы не бачаць яе. І смешна ёй і радасна. Але ён гэтага не ведае...

— Не! Ён многа не ведае чаго — і ніколі ведаць не будзе!

І чаму салгала яму? Ну, чаму? А можа заўтра не ехаць? Ад яе залежыць. Татка-ж не гоніць яе. Ён цяпер

такі добры з ёю! «Пагуляй ты, кажа, Ядвіська: не гарыць-жа там у цябе!» Яе татка добры, але чагось яна баіцца яго. Ёй страшна, калі ён прыдзе дадому, а вочы яго пазіраюць кудысь далёка-далёка, як-бы яны сышлі з яго твару, а гэтыя грозныя, жорсткія вусы, як хмары ў навальніцу, апусцяцца ўніз. Нашто яна салгала яму?

Ёй хочацца пабачыць яго. Эх, каб ёй крылле! От-бы ўзнялася цяпер і паляцела да яго, проста, каб пабачыць яшчэ раз, вось так, як пазірала на яго тут, калі ён і не ведаў аб тым...

Не, гэта апошні яе тут вечар!

Яе тонкія, доўгія, дзве цёмныя рыскі-бровы крыху пасуваюцца і хмурацца, і твар яе строгі. Так, гэта апошні тут вечар!

Яна зноў пазірае на вокны. А каб пайсці туды? Сесці за сталом, як сядзеў калісь ён і праводзіў рукою па маладых сваіх цёмных вусіках? Там страшна, бо там пуста. Там цяпер прытаіўся нехта другі, няласкавы і варожы. І, напэўна, яна спаткала-б нешта там, каб пайшла цяпер туды. Ну, напэўна, пачула-б там голас, а можа смех, пусты і жудасны смех. Яна ўпэўнена ў тым, што пачула-б нейкі страшны і таемны смех, і гэты смех забіў-бы насмерць яе нейкую радасць і шчасце, што знайшлі сабе месца ў яе сэрцы. Яна зноў пазірае туды.

Як жудасна заліваюцца смехам гэтыя совы каля каплічкі! Чаго смяюцца яны пустым сваім смехам? Чаго? Ці не з яе? А гэтыя цёмныя вокны! Што ў іх? Чаму яны ўбіліся ёй у вочы? Ёй нават робіцца нейк непрыемна ад гэтага. «А я пайду туды! Вазьму ды пайду!.. Няўжо я пайду?»

Яна ціха падымаецца, азіраецца, ідзе. Кухня не замкнёна. Адчыняе дзверы. Яна ў кухні.

— Ты, бабка, тут? — пытае ціха Ядвіся.

Бабка варочаецца на печы.

— Тут, паненачка!

— А чаму ты, бабка, дзвярэй не замкнула?

— От, паненачка, прылягла дый так не прычыніла. Я-ж не сплю.

— Заўтра, бабка, паеду.

— Паедзеце, паненачка? — пытае бабка, устае і садзіцца на печы. — І не пачакаеце, покі паніч вернецца? — пытае яна.

— А хіба-ж твой паніч са мной паедзе?

— Ну, як-жа, паненачка: ён смуціцца будзе, што вы паехалі і не развіталіся з ім.

— А чаго ён будзе смуціцца? — пытае Ядвіся.

Ей прыемна чуць ад бабкі, што ён будзе па ёй смуціцца.

— Чаму-ж не будзе, паненачка? Я-ж бачыла, якімі вочкамі пазірае ён на вас.

— Ну, якімі-ж? Скажы, бабка!

— Добрымі вочкамі, успагаднымі вочкамі, паненачка, такімі, што ад сэрца ідуць, каб другому сэрцу штось сказаць.

— А што сказаць другому сэрцу?

— Я ўжо забылася, паненачка. Куды-ж я? — старая. Забылася, — хітра адказвае бабка.

— А каго ты, бабка, больш любіш: мяне ці паніча?

— Я і вас люблю і паніча люблю... От, паненачка, пабраліся-б вы з панічом, яй-богу! — з жарам і зусім другім тонам прамовіла бабка, і ў ей адразу абудзілася жанчына-свацця.

— Мне-ж, бабка, толькі шаснаццаты год, мне і замуж не можна яшчэ.

— О, паненачка, шаснаццаты год! дык не сёння-ж і замуж ісці.

— А твой паніч не хоча мяне.

— Ой, паненачка, што вы кажаце! Чаму-ж ён ні на кога другога не хоча глядзець? Чаму-ж ён ніколі не пойдзе да панны каморнічанкі? Усе туды ходзяць, а ён не. Мусібыць каля вас яму мілей.

— Проста гультай твой паніч і болей нічога.

— Не, не гультай ён: ён вас, паненачка, пакахаў.

— А хіба ён табе казаў?

— А што ён будзе казаць мне? Ён вам пра гэта казаў.

— Не, бабка, ніколі не казаў ён гэтага мне.

— Казаў, паненачка, казаў! І яшчэ скажа.

— Нічога ты, бабка, не ведаеш!

— Ведаю, паненачка, ведаю!.. А куды вы, паненачка, ехацімеце?

— Далёка, бабка, у маёнтак.

— А паніч ведае?

— Нічога не ведае і не будзе ведаць.

— Вы напішыце яму, паненачка?

— Нічога я не буду пісаць яму.

Ядвіся падышла да дзвярэй пакойчыка Лабановіча, адчыніла і ўвайшла ў пакойчык.

Тут ціха. Цёмна і пуста.

Ядвіся прыслухалася.

Між сцяною і адстаўшымі ад яе абоямі прашуршэў кусочак пабелу. Чаго ён так доўга каціўся? Гэты шолах паказаўся ёй не выпадковым. Але ёй не страшна. Ёй проста чагось шкада. Яна чуе нейкі смутак. Вочы яе прывыклі да цямноты. З гэтае цьмы выступаюць няясныя абрысы стала. Вось і крэсла. На тым самым месцы, дзе ён звычайна сядзеў. Ядвіся чутка прыслухоўваецца. Не, гэта ёй проста так нешта здалося. Яна ціхенька адстаўляе крэсла і садзіцца. Садзіцца так, як сядзеў і ён, і праводзіць рукою па сваёй губцы. Гэта вось ён тут сядзіць, а яе тут няма: яна там, за акном, пазірае на яго. Яна ўся ўздрыгвае і боязна глядзіць у куток: там нешта заварушылася ціха, без шуму. Не, гэта там, на палічках, ляжаць яго кнігі. Яна ўстае, кладзе ў кнігу кусочак паперачкі, азірае цёмныя сцены — яны непрыветны і маўклівы. Яны мёртвы, бо душа вышла з гэтага дома. Ёй страшна і жудка — і разам з гэтым прыемна і смутна.

Што думае аб гэтым бабка?

Ну, усёроўна: сягоння яе апошні тут вечар.

Яна яшчэ раз азіраецца. Яе забірае нейкі страх. Ёй хочацца заплакаць. Яна ціхенька ўваходзіць ізноў у кухню.

— Ну, бабка, дабранач!

— Дабранач, паненачка! — адклікаецца бабка з печы. Бабка не спіць. Яна проста думае свае старэцкія думкі, сухія, як і сама старасць, простыя, як і ўсё жыццё яе,

нецікавыя, як і яе доля. Яна ўстае, накідае зашчапку, глядзіць проста па прывычцы ў акно, пазяхае ды зноў лезе на печ і чагось уздыхае, кладучыся ў гэты цесны, цёмны куток, адведзены ёй жыццём. Але бабка любіць свой гэты куточак. Тут ціха, тут цёмна, і толькі прусакі шалпочуцца ў сваіх шчылінах, але бабка не чуе іх, хоць і ведае аб тым, што яны тут жывуць і жывяцца ад яе жыцця. Ну, што-ж? Няхай.

Ядвіся зноў на двары.

Яна падышла да дзікае грушкі. Пазірае на яе, штось разважаючы. Яна аглядаецца, бярэ за гэту грушку. Але грушка моцна бароніць сябе і коле Ядвісі руку. «Гэта-ж я такая калючая, — думае Ядвіся, — бо я — дзікая!»

Яна зноў падымае руку і асцярожненька бярэ за самы вяршок і ломіць яго. Нашто яна гэта зрабіла? Яна проста хоча сказаць гэтым, што яна злая і нядобрая. Няхай ён ведае гэта. Яна ідзе на свой двор. Зноў пазірае на гэтыя цёмныя вокны. І месячык адышоўся ад іх, бо яны мёртвыя і іх не ажывіш. Не ажывіш, бо душа вышла з гэтага дома. Ядвіся глядзіць на іх і не верыць сабе, што яна была там. Гэта проста ёй прыснілася... Няхай-бы ён ужо і не прыязджаў сюды і не даваў-бы жыцця гэтым вокнам. А яны ажывуць. Яны зноў ажывуць! Але жыцця яна ўжо не ўбачыць, бо гэта апошні яе тут вечар: яна сама так захацела. Чаму? Яна проста спыніла сваё шчасце і сказала: «Даволі!» Але хто-ж вырве з яе сэрца гэта шчасце цяпер? Ніхто. Яна будзе з ім жыць, будзе жыць і з тым, хто сядзеў унь там і праводзіў рукою па сваіх цёмных, маладых вусіках.

Але сэрца ёй кажа: «Я хачу яшчэ болей гэтага шчасця! Я хачу выпіць яго ўсё, усё, да самага дна!» «Не, няхай яно будзе лепш недапітым, бо можа на дне яго наліта атрута. Так лепей! Так лепей!» — гаворыць Ядвіся да свайго сэрца, ды яно ніяк не хоча згадзіцца з ёю. Яна хоча думаць аб другім: аб дарозе, аб тым невядомым, што на гэтай дарозе яе напаткае. Але гэтыя ўдумныя добрыя вочы пазіраюць на яе, як-бы яны просяць, каб аб іх, толькі аб іх думала яна. І сэрца ёй зноў кажа:

«Нашто ты лгала яму?..»

Малады месячык схіліўся над ветракамі. Яго ўжо не цікавіць гэта дзяўчына і гэтыя вокны, якія імкнуўся ён ажывіць. Ён яшчэ не акрэп. Яго цягне край зямлі, няясны і мілы. Ідзе ён туды адпачыць, каб набрацца новых сіл на заўтрашнюю ноч. І ён ажывіць гэтыя вокны.

Нявідная рука поўначы ціха праводзіць граніцы між ноччу і днём, і ў вечнасць адходзіць гэты вечар Ядвісі.

## XXXVI

Ціхая ноч ляжала над Палессем.

Аднатонную песню вялі колы вагонаў. Бясконцы рой залатых іскраў выпускаў паравоз, агністаю паласою вызначаючы сабе дарогу. Ціха гулі і судрыгаліся балоты побач чыгункі, дзе бегла машына. Раскаціста і гучна грымелі салаў'і: звону іх песень не маглі заглушыць грук і шум вагонных колаў. Месцамі ўзнімаўся белаваты туман і нерухома звісаў над маладымі асокамі і цёмнымі абрысамі разложыстых купчастых лазнякоў. І калі спынялася машына на станцыях і поўстанках і заціхаў гэты шум цягніка, то з балот даносіліся хвалі незвычайна мяккіх зыкаў крахтання жаб. Нейкі невыразна маркотны і разам з тым прыемны гоман стаяў тады над балотамі, як-бы яны апавядалі гэтай ціхай ночцы і гэтым людзям, што ўночы не спалі, адвечную скаргу сваю і смутак свой... Ізноў шуміць машына, ізноў заліваюцца салаў'і.

Вось і станцыя. Дарога скончана. Далей у свет пабяжыць машына.

Лабановіч вышаў з вагона, крыху пастаяў, падумаў і, не заходзячы на станцыю, пайшоў па палатну дарогі. У галаве яшчэ стаіць шум вагонных колаў, а гэтыя экзамены, гэтыя новыя ўражанні ўсё тускнеюць і тускнеюць. Пачынае развідніваццa, а разам з гэтым абуджаецца Палессе. Далёка ў лесе такуе цецярук, як-бы нехта багамольны чытае там малітвы. Яшчэ больш гучна, яшчэ з большым натхненнем правяць салаўі свае раннія літанні. Як падзяку небу, як дым пахучай смалы, узносяць угару балоты свае туманы — і, здавалася, адпраўляюць сваё набажэнства гэтыя лясы, ахінуўшыся тонкімі тканкамі

пары. Усход святлее, ціха грае і пераліваецца гэта ясната, залатая багра — шчаслівы ўсмех дня, — каб дыяментамі разліцца на гэтых свежых маладых лісціках, на гэтых чысцюткіх кроплях расы і запаліць іх бліскам найдарожшых каменняў.

Дзесь уперадзе пагруквае, як-бы пасмейваецца і перамаўляецца з рэйкамі дрызіна, і гэты вясёлы смех адбіваюць сцены лесу, што стаіць побач чыгункі. Едуць рабочыя, палешукі-хлопцы. Яны вясёлыя, перакідаюцца жартамі і крэпка налягаюць на тоўстыя палкі, падганяючы дрызіну. Збоку дзесь голасна і музычна выводзіць трэлі пастуховая труба; балоты падхватваюць голас трубы і нясуць яго далёка па краях лесу і кідаюць невядома дзе. Залаты пажар сонца залівае верхавіны лесу.

Настаўнік падыходзіць да пераезду, паварочвае ўправа ў лес і выходзіць на дарогу, што ідзе на станцыю з яго вёскі. Колькі часу ідзе ён між маладых хвойнікаў, выходзіць на круглую палянку, дзе калісь спаткаўся ён з паннаю Людмілаю. Адгэтуль ужо блізка вёска. Але раніца такая слаўная, у лесе так добра, што ён садзіцца на пень і слухае, як спяваюць дразды, як дзесь на ўскраіне лесу кукуе зязюлька. Ён думае, чым займецца цяпер, калі ў яго так многа вольнага часу, колькі пабудзе яшчэ ў сваёй школе. Напэўна яшчэ досыць доўга і ва ўсякім разе не будзе спяшацца, покі тут яшчэ застаецца і панна Ядвіся. Чым бліжэй быў ён да яе, тым з большаю сілаю ажываюць у ім яго настроі, тым жывей устае прад ім гэта слаўная дзяўчына. Ён падымаецца, ідзе далей. Дарога выходзіць з лесу на грэблю. За грэблю відаць сяльцо, карчма старога Абрама, капліца, высокія дзікія грушы, а за сялом, нерухома падняўшы крыллі, стаяць два ветракі, захоўваючы ўсё тую-ж выразу здзіўлення. Ён праходзіць грэблю, мінае карчму і мінут праз пяць адчыняе дзверы і ўваходзіць у кухню.

Каля печы стаіць з вілкамі ў руках старожка, прыстаўляе гаршчочак.

— Дзень добры, бабка!

— Дзень добры, панічок! — прыветна адказвае бабка. — Хіба-ж, панічыку, вы пяхотам прышлі?

— Так, бабка, на пары сваіх прыехаў.

— Любіце вы хадзіць, панічыку. Няхай-бы таварнага пачакалі ды да раз'езду ехалі-б.

Бабка чымся заклапочана і як-бы нават засмучана.

— А як-жа вам, панічок, там бог паводзіў? — пытае яна.

— Добра, бабка. Хлопцы выдатна паздавалі экзамены. Можна сказаць лепш ад усіх школ.

Бабка весялее. Відаць, і ёй прыемна гэта навіна, і яна сапраўды рада ёй. Але ізноў чагось засмучаецца і ціха ўздыхае.

— Чаго ты, бабка, як-бы нечага зажурылася?

— Не, нічога, панічыку, — кажа яна.

Лабановіч ідзе ў свой пакойчык, раздзяваецца.

Следам за ім сюды ўваходзіць і бабка.

— Можа вам чаю, панічыку, паставіць? — пытае яна.

— Хіба пастаў, — згаджаецца ён.

— Паехала-ж, панічыку, наша паненка, — ужо зусім смутна прамовіла бабка.

Лабановіч пачуў, як сціснулася яго сэрца. Колькі моманту пазірае на бабку. Яму робіцца цяжка-цяжка на душы.

— Паехала, панічок, паехала! Учора і паехала. Яшчэ сюды забягала. «Кланяйся, кажа, бабка, свайму панічу!» Паехала, панічок, — у засмучэнні кажа бабка.

— Ну, што-ж, — стараючыся быць спакойным, гаворыць Лабановіч: — можа ёй там лепш будзе.

— Я-ж пайду самавар ставіць.

Бабка выходзіць. Настаўнік застаецца адзін, садзіцца каля стала, сціскае галаву і моцна-моцна задумваецца. Паехала!.. Ён колькі хвілін думае над гэтым словам. Звычайнае, простае слова. А колькі гора і смутку для яго сэрца ў гэтым слове! Паехала!.. Нават і не развіталася з ім. А як многа хацеў ён сказаць ёй у гэтыя апошнія дні! Чаму так здарылася? Ён устае і ідзе ў другі свой пакойчык, глядзіць у акно на дом, на палісаднічак пана падлоўчага, на ганак, абсаджаны дзікім вінаградам. На гэтым ганачку ён бачыў яе апошні раз. А цяпер ні там, ні ў гэтым доме яе няма. Там цяпер пуста, і ўсюды стала пуста. Вуліца жыве сваім звычайным жыццём. Дзве кабе-

ціны-паляшучкі, убраныя па-святочнаму, аб чымся гутараць, спаткаўшыся на сярэдзіне вуліцы. На прызбе каля старасты сядзяць мужчыны з люлькамі, па вуліцы перабягаюць свінні і пужаюць вясёлыя гурткі верабейчыкаў. Усё гэта так нецікава, усё гэта так далёка ад яго і так чужое яму. Ён чуе страшэнную адзіноту. Штось перахватвае яму горла. Цяжка, невыразна цяжка.

Ён падыходзіць да стала, бярэ паперу, чарніла, садзіцца, нахіляецца над лістком паперы і думае. Трэба напісаць ёй, трэба выліць з сэрца ўвесь гэты жаль. Ён думае над тым, як звярнуцца, як назваць яе, але не знаходзіць адпаведнае назвы і піша:

«Вас ужо няма тут. Вы паехалі, разам з сабою забралі ад мяне ўсё, што звязвала мяне з гэтым месцам, з гэтым кутком Палесся. Цяпер ён не жыве для мяне, бо ўсё тое, што прыдавала яму прыгоства і нейкую чароўнасць, забралі вы. Я тут адзін, усё тут стала не міла для мяне, як-бы яно памерла і знікла, і толькі адзін нежывы труп застаўся ад усяго, што раней гарнула і вабіла мяне. І толькі цяпер я пачуў сваю вялікую страту. Мне так хацелася пабачыць вас, пачуць ваш голас, ваш смех, глыбока зазірнуць у вашу душу і даведацца, якое гора ляжала ў ёй. Цяпер-жа, пішучы вам, я толькі хачу прынесці вам падзяку за тое, што вы аздобілі маё жыццё тут, што вы былі для мяне тою яснаю, чыстаю зоркаю, якая свяціла мне ў гэтай цемры жыцця, радавала мяне і ўхіляла ад featureрознага бруду, і калі ў мяне захавалася жывая іскра, то толькі дзякуючы вам...»

Настаўнік перачытаў напісанае і падумаў: «Усё гэта выходзіць не так, як-бы хацелася». Ён задумаўся. «А куды пасылаць?» — спытаў ён сябе самога і не мог даць адказу.

Бабка прынесла самавар.

— Гатоў, панічыку, чай: выпійце ды спачывайце сабе, бо вы-ж з дарогі.

— Добра, бабка, я зараз буду піць. — Ён вышаў на двор. Бабка, пазіраючы на яго, паківала галавою. «Па паненцы нудзіцца», — зазначыла яна сабе.

Зірнуўшы на маладую грушку, ён заўважыў, што вяршок яе быў зломан і гаротна нахілен да зямлі.

— Гэта яна зламала, — прамовіў сам сабе настаўнік, — нашто яна зрабіла так? Няўжо яна хоча, каб я выкінуў яе з сэрца?

Яшчэ больш жаль ахапіў яго. Ён хацеў зрэзаць адломаны вяршок.

— Э, усёроўна! — сказаў ён і адышоўся.

Спаць у гэты дзень ён не лажыўся.

Ён пачаў перабіраць кнігі, складваць паперы, прыводзіць іх у парадак.

У адной кнізе ён знайшоў невялічкі лісцік паперы, напісаны рукою Ядвісі.

Яна пісала:

«Бывайце здаровы. Я сумыслу пастаралася, каб вы мяне тут не засталі, хоць мне і хацелася яшчэ хоць раз, апошні раз, пабачыцца з вамі. Але я падумала сабе: усёроўна, ехаць мне трэба; ехаць-жа тады, калі вы былі-б тут, мне было-б яшчэ цяжэй... Панна Людміла чакае вас — зайдзіце да яе».

І больш нічога не напісала.

Лабановіч доўга пазіраў на гэту паперку. Нават не напісала, куды едзе, і сама не падпісалася...

І чаму ўсё гэта так скончылася? Чаму?.. І няўжо гэта канец?

Ён яшчэ доўга сядзеў і разважаў. На вочы набягалі слёзы.

Ён згарнуў гэту запісачку разам з сваёю і палажыў у кішэню.

Пад вечар прышоў стараста прыняць школу. Лабановіч тлумачыў яму, дзе якія дакументы і што ён здае. Стараста нічога не цяміў, але выгляд меў такі, як-бы для яго ўсе гэтыя справы былі добра знаёмы.

Назаўтра напісаў Лабановіч прашэнне аб перамяшчэнні і стаў збірацца ў дарогу. Бабка часта ўваходзіла ў пакойчык і, як родная матка, падбірала за ім яго розныя рэчы.

— Разлятаюцца мае галубкі, — тужліва прамовіла бабка, — не вернецеся вы, панічыку, сюды!

І бабка ў вялікім засмучэнні падперла рукою шчаку.

А вечарам, праводзячы настаўніка, яна заплакала.

Садзячыся на фурманку з двума чамаданчыкамі, настаўнік сказаў у сваіх думках:

«Адзін раздзел кнігі прачытан і загортваецца!.. Ну, што-ж? гайда далей!»

*Мінск, 1921 — 22 гг.*

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

### I

На прастор, на шырокі прастор!

Я люблю гэтыя прасторы, люблю неаглядныя, ружова-сінія далі іх, поўныя жыцця, малюнкавасці, рознастайнасці тонаў зямлі і неба, дзе так многа разгону для тваіх вачэй, дзе мудрая маўклівасць далечыні, атуліўшыся танюсенькаю наміткаю сінечы, думае нейкую адвечную сваю думку і так моцна парывае душу зазірнуць за заслону гэтай мудрасці, каб пазнаць яе таямніцы. Я люблю гэтыя далі, дзе ласкава-прыветнае сонца разлівае свой усмех і так пяшчотна праводзіць мяцёлачкаю сваіх праменняў па твары зямлі і лёгкімі ветрыкамі калыша на гольках зялёнае лісце, расчэсвае і блутае косы кучаравым хвоям і гойдае над полем срэбна-шэрае жыта, кожны момант пераліваючы яго жывыя рухлівыя цені і асвятленне, як-бы выганяючы з зямлі ільняна-дымную, бясконцую, несупынную плынь.

Я люблю гэтыя прасторы, дзе параскіданы людскія сялібы з іх гаспадарліва абсталяванымі дворыкамі, з іх нізкімі хаткамі, верабінамі, ліпамі, вязамі і клёнамі, з іх палеткамі, дзе праходзіць сялянскае жыццё з яго трывогамі і надзеямі, з яго радасцямі і смуткам і дзе маўклівыя сялянскія думкі зліваюцца з думкамі прастораў.

Я люблю гэтыя далі, калі над імі разнімае свае

крыллі грозная хмара і выкочвае велізарныя, златарунныя клубкі, кідаючы гняўлівыя цені на сутокі неба і зямлі, разліваючы громы і трасучы зацятую немасць прастораў.

Будзе бура, павінна быць навальніца...

Ласка і гнеў, ціша і бура! Я вітаю вас, калі вы прыходзіце ў сваім часе, калі выконваеце вы адвечную волю жыцця.

На прастор, на шырокі прастор!

За Сяльцом дарога крута паварачвала на гатку з мосцікам праз Целяшоў Дуб і зараз-жа падымалася на горку ў лес.

Вечарэла. З балот пацягнула цёплаю вільгаццю. Над лозамі, лявей, рассцілаўся бялявы туман. У алешніку пры лесе засвістаў салавей. А лес, нерухліва развесіўшы свае галіны, маўкліва слухаў гэты гімн вясне і маладому жыццю.

Лабановіч апошні раз зірнуў на Цельшына. Мільгатнулі высокія грушы ў каронах белага цвету, каплічка на панурых могілках, аднатонна-шэрыя стрэхі цельшынскіх будынкаў, школа і пры ёй высачэзны крыж, дом пана падлоўчага, а за сялом вятрак з паднятымі і занямелымі ў вячэрняй цішы крыллямі. Здавалася, яшчэ большае здзіўленне адбівалася ў яго постаці, так добра знаёмай Лабановічу.

Пуста і нявеила там...

І нейкі востры боль адчуўся ў сэрцы маладога настаўніка, а вобраз панны Ядвісі яшчэ яскравей устаў у яго вачах.

Яна была, — і там было жыццё, там жыла радасць, нейкая паўната гэтага маладога жыцця. А цяпер яе няма там, — і ўсё патускнела, як-бы замерла...

І чаму гэта сталася так? Чаму?

А можа яно так і лепей...

І тым не меней, пачуццё нейкай крыўды заставалася ў яго сэрцы.

Дарога ўвайшла ў лес.

Цельшына, школа і дом пана падлоўчага, заслоненыя лесам, засталіся ззаду.

Няўжо назаўсёды?

І штосьці смутна-журботнае, нібы пахавальны звон, адчулася ў гэтым бясслоўным пытанні...

Лабановіч паправіўся на возе, дастаў папяросы.

— Закурым, дзядзька Раман, каб дома не журыліся.

Хацелася пагаварыць, адыйсціся з думкамі ад гэтага смутна-балючага настрою, палажыць мяжу пражытаму жыццю і гэтаму адчуванню.

Дзядзька Раман, шырокі ў плячах мужчына, ахвотна павярнуўся да настаўніка, засвяціўшыся прыветнаю ўсмешкаю, і загрубелымі пальцамі няспрытна ўзяў папяросу.

— А чаго журыцеся? — азваўся ён. — Дома, нябось, рады будуць пабачыць вас... Вы, пане настаўніку, на ўсё лета едзеце ад нас?

— Так, на ўсё лета, а можа і назусім.

— Зусім хочаце выбірацца?.. Э, пане настаўніку, трэба пажыць яшчэ ў нас. І дзеці палюбілі вас, і мы да вас прывыклі. Ды вы-ж яшчэ і не разгледзеліся тут... Хіба-ж вам не спадабалася ў нас?

— Вось так, бачыце, і добра: пабыў сабе нядоўга — і далей. Хоць вачэй людзям не намазоліш. А месца мне тут вельмі падабаецца, і народ тутэйшы добры. Тым лепей па-прыяцельску з людзьмі развітацца: самы лепшы госць — той, хто ў гасцях не заседжваецца.

— Э, не, у вас, мабыць, другая прычына, калі вы хочаце пакідаць нас.

— Ды я проста, як той цыган: не люблю доўга на адным месцы заставацца.

— Ну, вядома, — чалавек шукае, дзе яму лепей, — тонам лёгкага папроку адказаў Раман: — а ў нас, праўда, што можа быць для вас цікавага? Але мы не пусцім вас: прыгавор напішам і не пусцім... Но-о! — пагнаў ён коніка.

Конік весела пырхнуў, і рухавей застукалі калёсы па каранях.

Пачынала цямнець. Побач дарогі пайшоў малады, сакавіты хвойнік. Хвойнік кончыўся, выехалі на вясёлую палянку. Па краях стаяў рэдкі хваёвы лес. Збоку, направа, бегла чыгунка. Палянка змянілася зноў лесам.

Лес, атулены мрокам і цішынёю, стаяў нерухліва. Заблiскалi першыя зоркi.

— Мінём Яшукову гару, палавіна дарогі застанецца, — загаварыў дзядзька Раман.

— А ці далёка да Яшуковай гары?

— Вярсты яшчэ тры засталося.

— А скажыце, чаму гэтая гара Яшуковаю называецца?

— Ды так яе ўжо даўно называюць у нас. Расказваюць людзі розныя байкі, але напэўна ніхто добра не ведае. Тут, кажуць, пахаваны пан Яшук.

— А чаму-ж яго пахавалі тут, у глухім лесе, — дапытваўся Лабановіч.

— Ды так, ужо тут памерці яму прышлося.

— А як ён памёр?

Лабановіч даўно чуў, як толькі прыехаў у Цельшына, назву гэтай гары. Але яму не ўдалося даведацца яе гісторыі-легенды, хоць і не раз распытваўся аб ёй у тутэйшых людзей. Цяпер-жа зноў абудзілася ў ім моцнае жаданне, а разам з ім і надзея дачуцца аб гэтай гары.

— Э, пане настаўніку, не варта працiў ночы і ўспамінаць аб ім: ліхі гэта быў пан — ну, так людзі кажуць. Ды і смерць яго не людская была. Вось так, бачыце, расказваюць людзі. Быў тут калісь маёнтак, і гэты лес, і балоты гэтыя належалі да таго маёнтку. А ў гэтым маёнтку жылі паны. І пераходзіў ён ад аднаго пана да другога. Усялякія былі паны — і добрыя, і ліхія. Апошні з іх роду і быў пан Яшук, ды такі ўжо вырадак, гвалтаўнік, што і свет не бачыў такога. Здзекаваўся з людзей, забіваў іх бізунамі і такія вытвараў штукі, што ўрэшце і зямлі цяжка стала насіць яго. Людзі цярпелі, бо думалі, што калі цярпець, то лягчэй ад гэтага будзе, дый баяліся пана. Але часамі і дзерава не сцерпіць і скіне галіну, каб прыбіць чалавека. На свеце ёсць мера ўсяму. І тут так вось было. А пан гэты тое і рабіў, што або людзей катаваў, або балярваў, назганяўшы дзяўчат ды маладзіц, або на паляваннях прападаў, ды так і прапаў на адным паляванні. Кончылася паляванне, збор трубіць пачалі, пазбіраліся паны, а

пана Яшука няма і няма. Шукаць пачалі, народа яшчэ больш пазганялі. А тут і бура такая паднялася, што лес крышыўся і стагнаў. І дагадаліся людзі, што пан напэўна павесіўся, бо з чаго-ж бы такая бура была? І толькі на трэці дзень знайшлі пана. Вісеў пан Яшук на лазовай вяроўцы паміж двух тоўстых асін. Асіны таўшчэзнаю вяроўкаю з лазы перавіты былі, а на гэтай вяроўцы гайдаў вецер пасінелы труп пана Яшука. Тут і пахавалі яго, і курган над ім насыпалі. Над балотам, калі заўважылі, горка такая даўгаваценькая цягнецца. На гэтай горцы і курганок ёсць невялікі. Вось і сталі людзі гару гэтую называць Яшуковаю гарою. За доўгія часы многа на свеце рабілася. А праўда гэта было ці не — не ведаю.

— Яго павесілі, ці сам ён павесіўся? — спытаўся настаўнік.

— А хто-ж яго ведае, — даўно было гэта, але так баюць старыя людзі.

Гэта ціхая ноч, палеская глуш, агорнутая мракам, і гэты спакойны расказ дзядзькі Рамана мімаволі хілілі думку да народных легенд і паэзіі, авеяных духам гэтых лясоў і прастэчаю веры палешука. Лабановіч, задаволены расказам Рамана, крыху памаўчаў, а потым зноў запытаўся:

— Ну, а скажыце, тут, каля гэтае магілы, ніякіх такіх страхаў не здараецца?

Раман адказаў не адразу. Відаць, яму не хацелася, пад'язджаючы да Яшуковай гары і ўночы, успамінаць аб страхах, і ён, каб ухіліцца ад простага адказу, прамовіў:

— Усяго не перaслухаеш, што людзі кажуць.

І, памаўчаўшы, дадаў:

— Хто баіцца, з тым і страхі здараюцца... А вось я вам скажу, пане настаўніку, такую праяву. Ёсць у нас недалёка ад раз'езду масток на чыгунцы. Каля гэтага мастка вось колькі ўжо чалавек машынаю зарэзала, і нават сабака адзін пад поезд папаў. І часта хто ні ідзе ўночы, там што-небудзь здасца... Вось гэта што значыць?

— А што здавалася там?

— Ды ўсякія штукі бывалі. Часамі там штось плюхціць, як-бы хто па балоце топчацца і зубамі чаўкае, або стагнаць пачне. І са мною там адно здарэнне было. Ішоў я на раз'езд да свайго родзіча — вы яго ведаеце напэўна: Занька Язэп, стрэлачнікам служыць. А ўжо было і позна — трэці нумар прайшоў. Толькі гэта я мінаю масток, аж там, у кустах на балоце, як зашуміць, ну, здаецца, і лісце з кустоў усё пасыпалася! і раптам ціха стала. А ноч была спакойная — ні ветрыку. Дык, ведаеце, мне вусцішна зрабілася.

— Бачыш ты, якія праявы, — прамовіў Лабановіч. Яму было крыху смешна, смешна ад гэтай наіўнай веры дзядзькі Рамана, але хацелася слухаць яго, хацелася ўвайсці ў яго псіхіку і яго вачамі зірнуць на з'явы прыроды.

Дзядзька Раман маўчаў, чакаючы, што скажа настаўнік.

— Вы, дзядзька Раман, вельмі добра самі растлумачылі гэтыя страхі: хто баіцца, з тым яны і налучаюцца. Страх жыве ў нас саміх, мы самі ствараем і перадаем яго адзін другому. Незалежна-ж ад чалавека страху няма. У істоце кожнага страху ляжыць наша няведанне, наша цемната. Страх і цемната — неразлучныя прыяцелі. І паколькі мы не ведаем прычыны тых ці іншых з'яў і не зможам паставіць сябе вышэй ад іх, падпарадкаваць іх нашаму людскому розуму, да таго часу мы і будзем адчуваць страх. Сам-жа па сабе страх, як нейкая незалежная сіла, гэта не больш і не менш, як нашае глупства.

— Вось і Яшукова гара, — прамовіў Раман і паказаў улева.

Гара вельмі няясна вырысоўвалася з мроку. Далей за ёю скрозь галіны лесу прасвечвалася на начным небе шырокае балота. Дарога павярнула досыць крута к пераезду. Перад самым пераездам стаяў крутаверхі клён у шапцы густога маладога лісця. Пад ім было цёмна-цёмна. Мінулі клён. Калёсы гучна загрукалі па мосціку перад самымі рэйкамі. З другога боку чыгункі стаяла будка. Цёмныя вокны зірнулі панура. Лабановіч чамусь звярнуў на іх увагу, як-бы хочучы замацаваць іх у сва-




Вокладка аповесці «У палескай глушы». 1927 г.

ей памяці. Для чаго?.. Ды хіба-ж пытае цень ад хмаркі, чаму прабягае яна тут, а не там?

У лесе стала яшчэ больш глуха, больш ціха і вільготна. Хацелася ўглыбіцца ў сябе самога, аддацца плыні сваіх думак. Успльвалі вобразы пражытага, няясна вынікалі новыя. Ноч і цішыня соннага лесу, балот агортвалі душу сваім спакоем. Крыху было смутна. Нейкі жаль закрадаўся ў сэрца — можа аб тым, што было ды сплыло і чаго назад не вернеш. Але ўперадзе было яшчэ многа цікавага, нязведанага, бо гэта-ж толькі адна мяжа, за якою разгортваюцца новыя краіны жыцця, новыя хвалі яго вечнай плыні. А гэтая ноч і гэтая дарога — апошні момант мяжы.

## II

Заснуць у гэту ноч не прышлося.

У вагоне было цесна і душна. Увесь час язды Лабановіч стаяў у карыдорчыку перад адчыненым акном. Дружна грукацелі колы. Іх грук зліваўся часамі ў нейкія дзіўныя спевы, і варта было толькі даць ім словы, каб яны зараз-жа выстукалі і матыў да іх. Або наадварот: іх матыў выклікаў гэтыя словы. Адзін час, здавалася, колы казалі:

У-ця-кай!.. У-ця-кай!.. У-ця-кай!..

І так без канца ўсё адны і тыя-ж словы. Надакучыла слухаць. Лабановіч хацеў не чуць іх, а яны ўпарта лезлі ў вушы: уцякай! уцякай! уцякай! Каму казалі яны гэта: сабе ці яму? Ён пазіраў на прыдарожныя малюнкі. Але ў чорным нерухлівым пылу цемнаты яны вырысоўваліся вельмі цьмяна. Беглі-адступалі ўзад дрэвы, балоты з іх нязменнымі купінамі, з купчастымі лозамі і бліскучымі стужкамі вады. Заліваліся нейкім незразумелым смехам колы, прабягаючы кароценькія мосцікі, ды зноў пачыналі песню. Цяпер яны выстуквалі:

— Дзы-лін-бом! — купляй мак! — за тры грошы!— або так!..

Адно і тое, адно і тое. Ну, проста як-бы насмяхалі-

ся, толькі тады, калі цягнік падыходзіў да раз'езду або да станцыі, яны змянялі свой рытм і казалі ўжо нешта зусім невыразнае.

Разам з прыдарожнымі дробнымі малюнкамі, з якіх складалася гэтая палеская краіна, і ўся яна, гэтая краіна, паволі адыходзіла і адыходзіла, саступаючы месца больш светлым, больш вясёлым пейзажам Беларусі.

Развіднялася.

Як лагодная ўсмешка, заяснелася неба на ўсходзе, заяснелася і паружавела. Прасторы зямлі шырыліся, разгортваючы свае малюнкі-чары. І хто не падасца гэтым чарам?

Палессе засталося дзесь ззаду. Другая краіна, другія малюнкі. Мясцамі рассцілаліся прасторныя даліны рэчак, а самі рэчкі пакручастымі завітушкамі вельмі прыгожа вырысоўваліся ў сваіх высокіх беражках. Над гэтымі далінамі ўзнімаліся роўненька акругленыя скаты ўзгоркаў, аздобленыя снежнаю зеленню маладой ярыны. На маладых аксамітных усходах палёў, на прыдарожнай траве, сакавіта-жыццёвай, на лісцях кустоў, нібы тыя брыльянты, буйніліся багатыя росы. Выступалі цёмнасінія сцены высокіх лясоў, прыгожа раскіданых на гэтых бясконцых прасторах зямлі. І нейкая радасць жыцця была разліта ў прыродзе. Пульс гэтай жыццерадаснасці біўся ў кожным моманце часу, у кожным куточку гэтых вясёлых прастораў. На полі сям-там паказаліся людзі з сохамі і плугамі. У прасторах надзем'я замільгалі вольныя пташкі. Вось побач з цягнікам ляціць варона, нібы ёй хочацца паспрачацца ў быстрыні з ім. Ляціць доўга, паволі адстае, зварочвае кудысь у бок і знікае. Дзень зачаўся.

Лабановіч пільна ўглядаецца ў гэтыя далі, у гэтыя ўсё новыя і новыя малюнкі. Спаць яму зусім не хочацца. Ён адчувае, што чым далей адыходзіць ён ад Палесся, тым меншую ўладу маюць над ім і яго чары. Тое, што так моцна захапіла яго там, што непакоіла яго мыслі, — усё яно зацішала, як-бы ніжэй асядала на дно душы. У яго цяпер было такое адчуванне, як-бы ён толькі што пачаў ачуньваць пасля нейкай хваробы.

«Дарога, вандроўка — самае лепшае лякарства ад усякіх напасцей», — зазначае сам сабе Лабановіч і сам сабе ціха ўсміхаецца.

У гадзін адзінаццаць раніцы ён вышаў з цягніка са сваімі двума чамаданчыкамі. Некалькі местачковых балаголаў апанавалі Лабановіча і цягнулі яго кожны на сваю фурманку, вырываючы з рук чамаданы. Але ехаць ён не хоча: навошта на такое глупства грошы траціць, калі чамаданы можна пакінуць у стоража, балазе стораж — добры знаёмы, а самому пехатом пайсці? Ён так і зрабіў: будуць у мястэчка з дому ехаць — і чамаданы забяруць.

Мінут праз пяць сустрэчны пасажырскі цягнік прышоў. Лабановіч намерыўся ўжо зрушыць у дарогу, аж чуе — аклікае нехта, семінарскаю мянушкаю называе:

— Стары! Стары!

Азірнуўся — зямляк-аднакашнік Алесь Садовіч. Ідзе-калыхаецца, чамадан з распёртымі бакамі тарабаніць, а праз плячо накідка звешваецца. На смуглым твары разліваецца самы шчаслівы смех.

Лабановіч шпарка пайшоў яму насустрач, незвычайна рады нечаканаму спатканню. Прыяцелі спыніліся, паглядзелі адзін аднаму ў вочы.

— Га-га-га-га! — басістым смехам загрымеў на ўсю станцыю Садовіч.

— Не смейся, Бас, бо ў сківіцу дам!

Сябры шчыра абняліся. Блізка года яны не бачыліся і за гэты час значна змяніліся і галоўным чынам змяніліся тым, што з семінарскіх скур павылузваліся.

— На лета прыехаў?

— На лета. А ты?

— Няхай яно згарыць. І я, брат, на лета да бацькі... Уцёк, можна сказаць, — прамовіў Садовіч.

Зноў апанавалі балаголы і пачалі іх тузаць. Ледзьве адбіліся ад іх.

— Пехатом пойдзем, Алесь, а чамадан Марозу нясі — там і мае ляжаць.

Аддаўшы чамаданы пад ахову стоража, юнакі-настаўнікі пусціліся ў дарогу. Усяе дарогі было вёрст сем-восем. Ішлі весела. Ідучы, дзяліліся сваімі ўражан-

нямі, навінамі, і гаворка іх часта перарывалася дружным смехам.

Мінулі пераезд.

— Стой, старына, прысядзем, дружа!

— Давай прысядзем.

Яны звярнулі з дарогі, выбралі слаўную мясцінку — зялёны грудок сярод жоўценькага пясочку — і спыніліся. З аднаго боку перад імі ляжала досыць убогае тарфяное балота, як пабіты воспаю твар. Нізенькія кусцікі, хірлявыя алешынкі ў перамежку з ялаўцамі кучкамі раскідаліся па балоце. На другі бок дарогі цягнуліся пясчаныя груды. Купінкі белага моху, яловец, разложыстыя нізенькія хвойкі дадавалі характар нейкай маркоты гэтаму пейзажыку.

Садовіч разаслаў сваю накідку.

— Лажыся, брат! — сказаў ён і выцягнуўся на спіне, упёршыся абцасам у пясок.

— Эх, Стары, добра, брат, расцягнуцца на сваёй роднай зямлі, ляжаць і лічыць, колькі вёрст да неба.

— Адным словам, хоць на кароткі час Манілавым зрабіцца, — дадаў Лабановіч.

Хвілінку паляжалі моўчкі.

— А я, брат, не спаў усю гэтую ноч.

— Гэ, — загуў басам Алесь: — ці адну ноч не спаў я! Няхай яно, брат, запаветрае.

— Што-ж ты рабіў, у карты дуў?

— Усяго, брат, было: і карты, і піятыка, і ўсякая трасца. Вось-жа я і ўцёк ад усяго гэтага. Абрыдзела і астачарцела.

У голасе Садовіча пачуліся ноткі нездаволення і расчаравання сваім маладым настаўніцкім жыццём і тою абстаноўкаю, у якой прыходзілася жыць.

— Думаю пераводзіцца ў другое месца і ўзяць ужо сябе ў рукі, а то гэтыя зборышчы, гарэлка, карты і ўся гэтая местачковая брыдота зацягнуць зусім. І самае важнае — ніякае стравы для галавы. Не чытаў нічога і школу апусціў... Бесхарактарны я, брат Стары, — на тон самабічавання з'ехаў Садовіч, — але пераеду ў другую школу, тады, брат, шабаш. Я ўжо намеціў сабе праграму — гатавацца буду за курс гімназіі.

Садовіч энергічна перавярнуўся на бок і смела зірнуў на сябра. Вочы яго загарэліся, і ўся выраза твару свяцілася рашучасцю.

— Ты не прападзеш, Алесь, — паддаў яму духу Лабановіч: — усе мы, браток, напэўна, за першы год настаўніцтва многа навучыліся мудрасці жыцця. Самае галоўнае, друг ты мой, гэта тое, каб не ўтраціць усведамлення сваіх памылак... Крытыка і самакрытыка.

— Правільна, старына, — падхапіў Садовіч: — трэба-ж, брат, знайсці ў жыцці нешта такое, што дадавала-б сэнсу гэтаму жыццю. Трэба перш за ўсё пашырыць свой кругагляд, выблутацца з гэтага павуціння, што засланяе разумнае жыццё.

Сябры захапіліся гэтаю тэмаю. Але іх разважанне круцілася ў замкнутым крузе агульных пытанняў маралі, ідэалізма і ў няясным парыванні да «разумнага» жыцця. Усе-ж дарогі, якія маглі-б прывесці іх да выйсця з гэтага зачараванага кругу, для іх былі няясны — іх шчыльна і моцна загрузіла семінарская навука і семінарскае выхаванне. Яны не бачылі таго палітычнага ўціску і социяльнага зла, якімі было забіта і прыдушана жыццё. Трэба было саматугам працярэбліваць гэтыя дарогі, але дзеля гэтага трэба было так ці іначай узыйсці на іх.

Гэтае разважанне мела для іх тое значэнне, што яно падмацавала іх у шуканнях чагось новага, асэнсованага і падымала іх над забраснявелым балотам грамадскага жыцця: гэтае разважанне падтрымала той агонь, які не дае памерці і заглухнуць чалавеку для гэтай грамадскай работы, — адным словам, яно было як-бы маральнаю чысткаю, якая ніколі не шкодзіць чалавеку.

— Так, брат Алесь, нам трэба шчыльней злучыцца, пісаць адзін аднаму, часцей рабіць паверкі самім сабе і час-ад-часу запытаць сябе: «Ці ёсць яшчэ порах у парахаўніцах?».

— Ёсць! — заўзята адказаў Садовіч.

Ён зусім настроіўся на ваяцкі лад і ўсё мацней усталёўваўся на сваіх новых пазіцыях — парваць усякія зносіны з местачковай кампаніяй і жыць «разумна».

— А то сап'ешся і прападзеш, як цюцька.

Успомнілі сваіх сяброў-аднакашнікаў, знаёмых маладых настаўнікаў. Многа аб якіх не мелі вестак.

— А ведаеш ты нашага Івана «Тарпака»? Гэта ты, здаецца, ахрысціў яго Тарпаком? — запытаўся Садовіч і весела засмяяўся.

— Не, не чуў аб ім. А што?

— Пацешны хлопец. Перш за ўсё атэістам зрабіўся. І нікога прызнаваць не хоча. Назначылі яго ні то ў Апечкі, ні то ў Зарубежжа. Там ужо нікога няма, адзін, як палец. Завёў сабе з бабамі шашні, гуляк на сяле знайшоў, кампанію завёў з імі. Трэба было раз выпіць, а не было за што. Дык ён узяў ды прапіў Ісуса Хрыста: за кварту гарэлкі аддаў мужыку школьны абраз. «Калі, — кажа, — ён ёсць сапраўды бог, то зноў у школу вернецца». Вось які наш Іван!..

— Ды гэтага ад яго можна спадзявацца, — заўважыў Лабановіч.

— А цяпер мяркуецца цара з царыцаю прапіць і ехаць у Амерыку.

Паводзіны Івана Тарпака развесялілі маладых настаўнікаў. Пры гэтым успомнілі яго семінарскую біяграфію.

Гэта быў здольны хлопец, але страшэнны гультай, трымаўся з усімі незалежна, да лекцый гатаваўся слаба. А калі яго выклікалі да дошкі і ён пачынаў збівацца, то на ўвагі настаўнікаў звычайна адказваў:

— Я спужаўся, — і пры гэтым рабіў міну зусім перапалоханага чалавека.

Хлопец ён быў здаравенны, грудасты, шырокаплечы, і гэтыя яго «пярэпалахі» выклікалі агульны смех. Адзін з настаўнікаў, акінуўшы поглядам яго фігуру, сказаў яму:

— Ды чаго-ж табе пужацца? Ты-ж можаш сцерці мяне ў парашок.

І тым не меней на гэтых пярэпалахах Іван Тарпак шчасліва даехаў да канца семінарскага курсу.

Сонца звярнула з поўдня, было досыць горача.

Садовіч сеў на сваёй накідцы, зірнуў на дарогу і сказаў:

— Што, Стары, пойдзем можа?

— Давай будзем рухацца.

Зрабілі кароткую нараду, якою дарогаю ім пайсці дамоў, бо дарог было некалькі. Кожная з гэтых дарог мела свае пэўныя перавагі ў параўнанні з другімі і чым-небудзь уступала другім.

— А ведаеш ты што, — сказаў Лабановіч: — а давай пойдзем на Панямонь? Зробім там прывал...

— А гэта ідэя! — падхапіў Садовіч, — і ўжо калі на тое пайшло, то давай зойдзем там да Шырокага. Ён мне, гад, яшчэ з каляд застаўся вінен тры рублі картачнага доўгу.

— Ідзе, — адгукнуўся Лабановіч.

Сябры падняліся, паправілі свае гарнітуры і павярнулі на Панямонь.

## III

Мястэчка Панямонь — прашу не змешваць яго з другою Панямонню — было ў трох вярстах ад станцыі, а можа нават і меней. Гэта ўжо старое мястэчка. Стаіць яно ў прыгожым месцы над Нёмнам, на шырокім гасцінцы, што ідзе з Нясвіжа на Мінск. Калі падняцца на вапельную гару, а яна тут-жа, крыху на захад ад мястэчка, і зірнуць у бок Нёмна, то перад вамі разгорнецца найпрыгажэйшая панарама. Улева ад вас будзе чыгунка, мост цераз Нёман. А як прыгожа выглядае адгэтуль Нёман! Як выцягнутае срэбнае вужышча з дзесяткамі, сотнямі, тысячамі прыгожа акругленых кален-нартоў, павіваецца, бы пасмейваецца на сонцы, стары наравісты Нёман у сваіх высокіх берагах, атуленых лозамі і пахучымі травамі-зеллем, далінамі-лугамі, полем-узгоркамі з залатымі або беласнежнымі скатамі сваіх пяскоў... Смела кажу: мала дзе знойдзеце вы такіх прыгожых рэчак, як Нёман. Лявей чыгункі другое мястэчка, яшчэ большае за Панямонь, хоць і Панямонь мястэчка не малое. А сама гэтая

вапельная гара! А Сіняўскі гай... Хіба толькі той не паддасца чарам іх хараства, хто ў харастве нічога не кеміць.

У мястэчку Панямонь многа розных выдатных будынкаў і ўстаноў. Тут ёсць цагляная лазня, царква св. Магдалены, два млыны, дзве школы, сінагога, касцёл і камяніца Базыля Трайчанскага. Але вы яго напэўна не ўсе ведаеце. А шкада: чалавек ён слаўны, настаўнік і грамадскі дзеяч. Адным словам, мястэчка вельмі выдатнае, і калі, бывала, уваходзіш у яго, то несвядома пачынаеш прасякацца вялікаю да яго павагаю і пашанаю.

Заслугоўваюць увагі і самі панямонцы. Гэта ўсё мілыя і добрыя людзі, і многа ў іх далікацтва. Калі іх моцна што здзівіць, то сваё здзіўленне — а гавораць яны борздзенька — выказваюць так:

— Ва! ва!

Пры гэтым некаторыя дабаўляюць «браток ты мой». Але ў слове «браток» літару «а» вымаўляюць, як «ы», і такім чынам яны кажуць:

— Ва! ва! брыток ты мой.

Вось у гэтае мястэчка і накіраваліся нашы вандроўнікі — Лабановіч і Садовіч.

Прайшлі жалезны мост, спусціліся з высокага насыпу і пайшлі берагам Нёмна. Чыстая нёмнавая вада, жоўценькі пясочак на дне, прыгожы беражок, — усё гэта вабіла такою спакусаю, што маладыя настаўнікі змушаны былі спыніцца. Сам Нёман, здавалася, сказаў ім:

— А можа-б вы, хлопцы, пакупаліся?

І, не гледзячы на тое, што час для купання быў заранні, бо каноплі былі яшчэ не настолькі высокія, каб у іх магла схавацца варона,[1] настаўнікі з вялікаю прыемнасцю выкупаліся, папесціўшы голае цела на гарачым пяску прыбярэжжа, асвяжыліся і пачуліся як не трэба лепей, пасля чаго ўжо пайшлі ў Панямонь малайцы малайцамі.

---

[1] У народзе ёсць такая прымета, што купацца можна толькі тады, калі каноплі падрастуць настолькі, што ў іх можа схавацца варона.

У той час, калі яны купаліся, на ганку фельчарскага пункту сядзеў гурток панямонскай інтэлігенцыі. Гэта была група найболей дзейных карцёжнікаў, самых што называецца заядлых канаводаў. Тут быў сам фельчар Мікіта Найдус, зухаваты хлопец-праныра, процір яго сядзеў валасны старшыня Брыль Язэп, нізенькі, кругленькі чалавек накшталт французскай булкі, з носам драпежніка. У колах карцёжнікаў ён больш быў вядомы пад мянушкаю «Акула». Так назваў яго Тарас Іванавіч Шырокі. Гэты яго «хрышчоны бацька» сядзеў тут-жа радам з ім. Шырокі — тутэйшы настаўнік. Ён быў загадчыкам двухкласавае школы і быў шырокім не толькі па прозвішчу, але і па сваёй фігуры, і па сваёй натуры, і нават па размаху ігры ў карты.

Яны зрэдку перакідаліся кароткімі сказамі. Але відаць было па іх тварах, што яны даўно ўжо прыгледзеліся адны другім і што ім чагось бракавала. Душы іх знаходзіліся ў стане тамлення і праглі дзейнасці, шукалі вострасці адчування, але выхаду не знаходзілі. Шырокі задуменна пазіраў кудысь у прасторы. Найдус ціхенька пасвістваў і барабаніў пальцамі, а Брыль Язэп паварачваў драпежніцкі свой нос направа і налева. Ён першы заўважыў маладых вандроўнікаў.

— Хто гэта такія?

Увага трох прыяцеляў спынілася на незнаёмых падарожных. А тыя, у сваю чаргу, пазіралі на гэтых трох і, як відаць, яшчэ здалёк пазналі іх.

Напрактыкаванае вока Шырокага адразу аднесла гасцей да належнай катэгорыі.

— Педагогі! — сказаў ён, і голас яго ажыў, набыў зразу жыццёвую моц, а вочы яшчэ вастрэй уставіліся ў маладых хлопцаў: хацелася-ж і пазнаць іх. І толькі тады, калі Лабановіч і Садовіч шырокімі ўзмахамі рук падвялі свае шапкі і артыстычна пакланіліся кампаніі панямонцаў, Шырокі ажыў яшчэ больш. Ён схапіўся з месца, дзябёлая фігура яго рэзка калыхнулася, здрыгануўшы ганак, і зычным голасам прывітаў Шырокі маладых настаўнікаў.

— А галубчыкі-ж мае! Адкуль-жа гэта вы?

Шырокі размашыста рушыўся на спатканне гасцям, прычым жывот яго закалыхаўся, як човен на вадзе. Па чарзе абняў ён аднаго і другога госця. А госці, абнятыя Шырокім, як-бы на момант знікалі з вачэй: яны закрываліся фігураю Шырокага і траціліся ў ёй.

— Вот люблю свайго брата настаўніка! Гэта — соль зямлі! — крыкнуў ён, зірнуўшы на фельчара і старшыню.

Шырокі выказваў усе адзнакі нястрымнага руху, парывістай, стыхійнай радасці і буйства: спатканне з калегамі прывяло яго ў гэты надзвычайны стан душы.

— Пакланіся ім ніжэй, гулугала ты! — накінуўся Шырокі на старшыню, і ў той час, калі старшыня вітаўся з настаўнікамі, ён ухапіў яго за карак і гнуў яго галаву. — Гэта — святыя мучанікі за ідэю народнае асветы, не тое, што ты, камінар цёмны: толькі тое і робіш, што за нядоімкі апошнюю цялушку цягнеш са двара, або ты, рыцынная душа: стружа чалавека жывот, а ты з яго рыцынаю пазалеташняе выганяеш.

— Не чапай ты ўжо лепш медыцыны: нічога ты ў ёй не разумееш, — заступіўся фельчар за сваю прафесію.

Зняважліва глянуў Шырокі на фельчара, галавою паківаў.

— Ды хіба-ж я проціў медыцыны кажу? Трубка ты гутаперчавая.

Словам, Тарас Іванавіч Шырокі разышоўся на радасці, што калег спаткаў, бо толькі ў сваіх калегах ён бачыў сапраўдных людзей, з каторымі адчуваеш сябе, як з братамі.

З'яўленне тут новых людзей прынесла значнае ажыўленне. Найдус і Брыль таксама заварушыліся, бо была надзея перакінуцца картамі з дарагімі гасцямі.

Азірнуўшы спатайка маладых настаўнікаў, Брыль, здавалася, абнюхаў іх кішэні, але гэты агляд не выклікаў вялікіх надзей на скарбы, бо настаўнікі былі адзеты не надта фарсіста. Ну, але гэта не так ужо важна, важна было тое, што каля новых людзей можна было сабраць кампанію. Брыль зараз-жа затарапіўся

да воласці, бо якраз трэба было яму адсылаць пошту і падпісаць паперы. Што-б там ні казаў Шырокі, а непадпісаная старшынёю папера з воласці не пойдзе. Ён развітаўся і на развітанні перамігнуўся з Найдусам і Шырокім. Сэнс гэтых мігаў быў прыблізна такі: «Банчок можна лічыць наладжаным. Склікай брацію».

Усё гэта зрабілася, разумеецца, вельмі борзда, мімаходам, між іншым.

— Чаго-ж мы будзем таптацца на ганку? — зноў парывіста загаманіў Шырокі, — ты, п'яўка, заклікай гасцей ды па пляшку пасылай.

— Дальбог-жа няма за што! — і Найдус некалькі разоў пастукаў сабе кулаком у грудзі.

— Тфу! — плюнуў Шырокі і акінуў фельчара зняважлівым вокам.

— А нашто тая гарэлка?

— Кіньце вы гарэлку! Пасядзімо трохі, — і дадому...

— А браткі-ж мае родныя, куды дадому?! І не думайце нават. Я рад, што сваіх братоў-настаўнікаў бачу: хоць душу адвесці ёсць з кім.

— А мы, прызнацца, і выбралі такую дарогу, каб Тараса Іванавіча не мінуць.

— Малайцы, ей-ей малайцы!.. Пойдзем, хлопцы, да мяне! — Шырокі ўстаў, як-бы паравоз зрушыўся, узяў за рукі калег.

— Пойдзем! — пазваў ён і Найдуса.

— Мне да хворага зайсці трэба.

— А чаго табе ісці? Пашлі рыцыны — і ўсё.

— Я потым прыду.

— Дык прыходзь.

Шырокі і яго два калегі вышлі на пясчаную вуліцу. Правей ад іх ішла яшчэ адна вуліца. На самым канцы яе стаяла камяніца Базыля Трайчанскага. Адгэтуль яна бадай што была і нявідна — яе закрывалі хаты, і толькі ганак, вышклены рознастайнымі каляровымі шкелцамі, выступаў на вуліцу і як-бы казаў, што камяніца — не якая-небудзь пустая мара, а рэальны здабытак рэальнага чалавека. Гэтая камяніца ў сваім часе была выдатнейшаю праяваю ў жыцці Панямоння. Аб ёй было многа гутаркі сярод панямонцаў, а сам яе ўласнік па-

раўноўваўся з суседнімі дваровымі панкамі — Пласкавіцкім, Дашкевічам, Лабоцкім. А Базыль, слухаючы гэта, толькі пазіраў з-пад казырка шырокаверхае настаўніцкае шапкі і дабрадушна пасмейваўся. Разумеецца, пры такіх гутарках прабівалася людская зайздрасць, бо ніхто з панямонцаў не адмовіўся-б ад такой камяніцы.

Прайшоўшы колькі крокаў, настаўнікі павярнулі ўлева. Мінулі кузню. Лабановіч, ідучы каля кузні, акінуў яе поглядам. Яму ўспомнілася, што ў гэтай кузні спрытны каваль Хаім нацягаў шыны на іх колы, што ў гэтую кузню не адзін раз прыязджаў ён і прыходзіў з дзядзькам Марцінам па розных гаспадарскіх справах. І гэтая кузня і само мястэчка тады нейк выглядалі па-другому, рабілі большае ўражанне, можа з тае прычыны, што ён тады быў малы. І яму стала чагось смутна, але гэты смутак быў мімалётны, няясны. Недалёка ад кузні працякала малюсенькая рэчачка Панямонка, над каторай прыгожа нахіліліся кроткія шырокаверхія вербы, як-бы ўслухваючыся ў шолах і бульканне малюпасенькіх хвалек Панямонкі.

Усю невялікую дарогу, хвілін на пяць хады, Шырокі не пераставаў у значна павышаным тоне расказваць аб затхласці местачковага жыцця, аб нікчэмнасці інтарэсаў панямонскай інтэлігенцыі. Ён энергічна махаў рукамі, пыхцеў, жаліўся на гарачыню, знімаў сваю белую шапку з двума значкамі, бо ён быў кіраўніком двухкласнай школы, і хустачкаю цёр коратка астрыжаную галаву.

— І толькі калі сустрэнеш свайго брата-настаўніка, то пачуешся так, як-бы на цябе бліснуў промень сонца з-за хмар пасля зацяжнай непагоды, — грымеў Шырокі ўжо каля веснічак двара сваёй школы. І, як-бы абурыўшыся затхласцю панямонскага жыцця, ён з сілаю таўхануў нагою веснічкі. Яны прарэзліва-дзіка бразнуліся аб вароты, і настаўнікі ўзышлі на двор школы. Ступіўшы на ганак, Шырокі з шумам сеў на лаўку, адкінуўся, выцягнуў здаравенныя дзябёлыя ногі і пагладзіў свой жывот-ночвы. — Го-о-о, браткі-ж мае, утаміўся!

Лабановіч з Садовічам, зірнуўшы на жывот Тараса Іванавіча, не ўтрымалі.

— Ну, брат, і жывот-жа ў цябе! Мусібыць на дзесяць тысяч настаўнікаў другі такі не знойдзецца.

Замест адказу Тарас Іванавіч толькі пашлёпаў па жываце з відам самаздаволення.

А жывот у яго быў выдатны. Не дарма-ж ён паслужыў тэмаю для творчасці аднаго паэта. Гэты верш, напісаны невядомым паэтам, не адзін раз зачытваўся Шырокаму ў адпаведных выпадках жыцця. Верш так і называўся:

ЖЫВОТ

Эх, жывот, ты жывот,
Каб ты жыцця не знаў,
І чаго ты за год
У сябе не прымаў:
Бульбы пограб згнаіў,
Засек жыта ты з'еў,
А давольны не быў,
Яшчэ болей хацеў.

Шырокі змоўк у салодкім адпачынку, але гэта быў адзін толькі момант, і Тарас Іванавіч раптам усхапіўся, як той спуджаны арол.

— Жонка! Жонка! — загукаў ён на ўвесь школьны двор.

На яго клік выбег сын яго Лёня, хлопчык гадкоў чатырох. Убачыўшы незнаёмых людзей, ён спыніўся, утаропіўся на іх сваімі яснымі вочкамі.

— Пазнаў ты мяне, Лёня? — спытаў яго Лабановіч.

Лёня ўсміхнуўся прыветным смехам і сказаў:

— Дзядзя, ласказы мне казку!

Следам за Лёнем вышла і жонка Шырокага, Вольга Сцяпанаўна. Гэта была мілая і добрая жанчына. Яна вельмі была рада гасцям.

— Ты ведаеш, — гэта самыя лепшыя людзі на свеце: гэта — настаўнікі!

— Ведаю, ведаю, — казала Вольга Сцяпанаўна. А Тарас Іванавіч зноў разышоўся і ў натхненні сказаў:

— Эх, каб я не быў жанаты! Свет-бы я перавярнуў!

— Сціхні ўжо ты, — сказала жонка, — пляце нямаведама што.

— Нічога ты не разумееш, галубка мая!

Вольга Сцяпанаўна заклікала гасцей у дом.

## IV

Уваходзячы з гасцямі ў свае апартаменты, Шырокі расказаў, як да яго на кватэру зайшоў нядаўна жандар і, пабачыўшы пакоі, здзівіўся:

— «Какая популярность ваших комнат!»

Шырокі ўсім расказваў пра гэтага жандара і ўсякі раз заліваўся забіяцкім смехам. Так было і цяпер.

— Ну, жонка, шарганіся ты каля буфета ды ці не знойдзеш там чаго.

Такую ўжо натуру меў Тарас Іванавіч. І здавалася дзіўным, каб чалавек яго камплекцыі быў здолен на гэтую рухавасць і стыхійную бурлівасць. У гэтым выпадку маладнякоўскае слова «бурапеністы» падышло-б да яго, як не трэба лепей.

Вольга Сцяпанаўна вышла прыгатаваць стол. Лёня ўсеўся на каленях Лабановіча і слухаў казку пра бабуягу. Казка надзвычайна зацікавіла малога, асабліва калі Лабановіч пусціўся на выдумкі і сказаў, што баба-яга бывае часамі маленькаю, як палец, а потым зноў расце і прымае свой звычайны выгляд, але ў самым цікавым месцы казкі Тарас Іванавіч грымнуў песню:

Три деревни, два села,
Восемь девок — один я —

і заглушыў казку. Сын запратэставаў рэзка і крыкліва. Тарас Іванавіч толькі павярнуў галаву ў бок сына і, махаючы кулакамі, адбіваў такт і спяваў далей. Сын закрычаў яшчэ грамчэй, каб у сваю чаргу заглушыць бацьку, а бацька, не паддаючыся сыну, падняўся на некалькі тонаў вышэй. Тады Лёня залемантаваў так, што на гэты лямант вышла Вольга Сцяпанаўна — даведацца, што тут здарылася.

— Ну, дай-жа ты дзіцяці казку паслухаць! Добры

бацька сам расказаў-бы, а ён і паслухаць не дае. Вось вар'ят ужо!

Тарас Іванавіч кінуў спяваць, заліўшыся багатырскім смехам, а потым сказаў да сына:

— Што-ж з цябе будзе, калі ты гадоў дарасцеш? Цяпер ужо бацьку злажыцца не даеш, гад ты печаны! — І, павярнуўшы галаву да жонкі, дадаў: — Вось і жаніся ты цяперашнім векам — у труну гатовы палажыць чалавека.

Жонка акінула фігуру мужа і ні то сярдзіта, ні то жартліва прамовіла:

— Ого дзіва: паложыш такога ў труну.

Шырокі зірнуў на гасцей і з дакорам паківаў галавою.

— Вось як пабачыла маладых хлопцаў, дык хоча, каб я памёр.

Але ён раптам перайшоў на другую тэму і расказаў аб адным настаўніку. У гэтага настаўніка быў у хоры спявак, аб каторым ён казаў:

— Быў у мяне унісон. Вы ведаеце, што гэта быў за унісон!

І Тарас Іванавіч зноў задрыжэў ад смеху.

Не пераставаў ён тарахцець і тады, калі селі за стол. У Вольгі Сцяпанаўны знайшлося па чарцы. Смачная наліўка дзесь была прыхавана так, што аб ёй і не ведаў Тарас Іванавіч. Гэтая наліўка прывяла яго ў вышэйшы стан радасці.

— Ты ў мяне, жонка, малайчына!

І, падняўшы чарку, сказаў цэлую прамову на тэму, якое значэнне мае ў жыцці беднага настаўніка добрая жонка.

— Пі ты ўжо, малатарня, — смеючыся, азвалася Вольга Сцяпанаўна, — людзі чакаюць выпіць, а ён меле.

Выпілі.

Тарас Іванавіч адкінуў галаву і, гладзячы рукою тое месца, дзе прайшла наліўка, казаў у захапленні.

— А браткі-ж мае, а родненькія!.. Іскры вясёлкавыя! Бальзам, амброзія боская!.. Салавейчыкі ў кішках спяваюць!

І Вольга Сцяпанаўна і госці ўрэшце паддаліся ўла-

дзе гэтай шумлівай крыніцы жыцця і вясёласці. Смяяўся Тарас Іванавіч, смяялася і Вольга Сцяпанаўна, і маладыя настаўнікі, гледзячы на іх, смяяўся і Лёня, і час за сталом праходзіў весела, а наліўка яшчэ больш дадавала гэтай вясёласці.

Незаметна і вечар надышоў.

Лабановіч і яго прыяцель заварушыліся, ці не пара ўжо ім дадому?

— Куды-ж вы так спяшаецеся? — сказала Вольга Сцяпанаўна, — жонкі вас чакаюць або дзеці плачуць? Пагасцюйце ў нас... Ды вы яшчэ, мусібыць, незнаёмы з нашаю новаю настаўніцаю?

Пры словах «новая настаўніца» Тарас Іванавіч падскочыў, як на пружынах, не даў жонцы дагаварыць.

— Браткі мае, родненькія! Паглядзіце на яе — і пальчыкі абліжаце!.. Вочы!.. Што за вочы! Неба Італіі свеціцца ў іх. А бровы! а губкі! а фігурка!.. Эх! — шчаміўшы зубы, выкрыкнуў Тарас Іванавіч, — усё на свеце, здаецца, аддаў-бы, каб абняць ды прыгарнуць яе...

Тут Вольга Сцяпанаўна замахнулася на мужа чарпаком, а Тарас Іванавіч крута падаўся ўбок, ратуючыся ад чарпака.

— На што-ж ты пра яе ўспомніла?

— Тут ёсць кавалеры, а ты што?

— Я, брат, таксама пудла не даю.

І Тарас Іванавіч зноў захадзіў ад смеху.

— Уй, мяшок! — сказала яму жонка: — куды табе? Унь хлопцы ёсць нежанатыя, кавалеры... Яна вас у паганскую веру прыводзіць будзе, — звярнулася Вольга Сцяпанаўна да настаўнікаў.

— У якую паганскую веру? — запытаў Лабановіч.

Вольга Сцяпанаўна засмяялася.

— Ну, заставайцеся — будзеце ведаць.

— Дык хіба застанемся, Стары? — запытаў Садовіч прыяцеля.

Лабановіч паглядзеў на яго, уздыхнуў і патрос галавою.

— Алесь, Алесь, не спакушайся, брат, цяжка будзе жыць на волі, калі будзеш мець сэрца ў няволі!

— Гэта вы з практыкі гаворыце? — запыталася Вольга Сцяпанаўна.

Лабановіч адказаў:

— Ён называе мяне «Старым». Па праву старога я павінен мець усякую практыку і перасцерагчы блазна.

— Го-о-о, браток ты мой! — падхапіў Тарас Іванавіч, — ці не ў Палессі пакінуў ты сваё сэрца?

Усе засмяяліся.

— Маё сэрца са мною... Вось-жа я на злосць вам застануся, у паганскую веру не пайду і на «неба Італіі» зіраць не буду.

Вольга Сцяпанаўна запляскала ў ладкі: яна была рада, што настаўнікі застаюцца, а Лабановіча яна тут-жа паставіла ў прыклад свайму мужу, на што Тарас Іванавіч адгукнуўся так:

— Я пакрыўдзіўся-б на месцы Лабановіча. Хіба ты, брат, не мужчына, ці што?

Тым часам надыходзіў і вечар. Сонца схавалася за вапельную гару, а цень ад яе закрыў усё мястэчка, але дзень ніяк не хацеў саступаць месца вечару, і неба доўга заставалася ясным і светлым.

А ў Панямоні ўжо ўсе ведалі, што да Шырокага прышлі два настаўнікі, значыць збор сёння будзе ў Тараса Іванавіча. Аб гэтым ведалі Найдус і старшыня і паведамілі аб тым і знаёмых сваіх, бо іх некалькі разоў можна спаткаць на дзень. А калі-б нават Найдус і старшыня нікому не сказалі, то ўсёроўна ведалі-б усе: на гэта ў Панямоні і быў Ёсель.

У Ёселя не было пэўнай прафесіі. Гэта быў бедны местачковы дзяцюк гадоў за дваццаць, бязвусы, безбароды, трохі заіка, трохі гультай і трохі прыдуркаваты. А можа ён проста прыкідаўся такім, каб мець больш права на тую ролю, якую выконваў ён, жывучы ў Панямоні. Усё яго жыццё праходзіла каля панямонскай «інтэлігенцыі». Ад яе і жывіўся ён, слугуючы ёй і зносячы яе кпіны. Зранку да самага вечара шнураваў ён па мястэчку, непрыкметна заходзіў то да аднаго, то да другога, так што і заўважыць яго было трудна. Але варта было падгуляўшаму «інтэлігенту» толькі крыкнуць «Ёсель», як ён зараз-жа з'яўляўся, як-бы вырастаючы з зямлі. Яму

давалі даручэнне збегаць з запіскаю да тае ці іншае асобы, прынесці піва ці схадзіць купіць новую калоду карт. Пры гэтым, каб ён быў рухавейшым, яму давалі чарку гарэлкі ці шклянку піва. І Ёсель весела бег, куды яго пасылалі, а невялічкая здача з'яўлялася яго заработкам.

Ёсель хоць і быў непісьменны, але вёў строгі рэестр імянін і ўсякіх сямейных свят у Панямоні. Дзён за два, за тры да такіх свят ён абходзіў сваю парафію і напамінаў «парафіянам», што такі і такі, тады і тады будзе імяніннікам. Яму казалі з'явіцца ў пэўны дзень, каб занесці павіншаванне. І Ёсель прыходзіў акуратна ў назначаны тэрмін і выконваў свой абавязак. На вечарах Ёсель быў неадлучна, стаяў у цені, каб з'явіцца па першаму слову ў патрэбную мінуту.

Праўда, была яшчэ ў яго і здольнасць пасмяшыць, павесяліць гасцей, калі яму ставілася такая задача. Тады яго частавалі — ну, разумеецца, недаедкамі, і Ёсель, упletаючы свініну, строіў жарты і насмешкі над законамі свае нацыі.

Чуць толькі пачало цямнець, Ёсель ужо быў, як на варце, у Тараса Іванавіча і чакаў свае мінуты.

Першым прышоў Базыль Трайчанскі. Яго яшчэ звалі коратка «База». На твары яго красавала прыемная ўсмешка і сам ён быў чалавек прыемны, хоць трошкі мешкаваты. Маючы размову з чалавекам, ён крыху ківаў галавою і глядзеў як-бы з-пад нізу, наўперад адным вокам, а потым, перакінуўшы галаву ў другі бок, другім. У гэтым пункце ён меў падабенства з курыцаю, калі яна шукае па хаце крошак.

Прывітаўся з калегамі, распытаў іх, ці на ўсё лета прыехалі, як ім паводзілася на настаўніцтве, ці збіраюцца быць летам на курсах. Кожны адказ маладых калег Базыль сустракаў дабрадушным смехам. Такі ўжо прыемны чалавек быў Базыль Трайчанскі.

Тупат на ганку сведчыць аб прыбыцці новых асоб. Іх было дзве: сядзелец Кузьма Скаромны і панямонскі абываталь Мікола Зязюльскі. Жылі-ж яны на свеце і займалі ў ім пэўнае месца: аб іх таксама трэба сказаць хоць колькі слоў. Скаромны быў чалавек з прэтэнзіямі

на інтэлігентнасць. Любіў ён збіраць грыбы і меў нахіленне да брудных анекдотаў: любіў яшчэ гуляць у карты, але пабайваўся жонкі. Мікола Зязюльскі быў калісь багаты чалавек, задаваў форсу і прагульваў цэлыя сотні рублёў. Аб ім гаварылі з пашанаю. Але незаметна з'ехаў ён на бзік і адышоў на задні план. Страціў пашану і былую славу. І толькі нядаўна ў яго жыцці здарылася адна праява, якая зрабіла яго чуць не героем сярод панямонцаў: месяц таму назад, ужо калі Зязюльскі меў 53 гады, у яго жонкі радзіліся блізняты. Гэты факт значна падняў курс Зязюльскага на біржы панямонскага жыцця. Аб ім зноў загаварылі. Сам-жа Зязюльскі пасля гэтага заганарыўся і казаў таму-сяму з панямонцаў:

— Ну, куды-ж вы варты.

А панямонцы чухалі голавы.

— Вось табе і Зязюльскі.

Зязюльскі прышоў ужо выпіўшым. Худы яго твар быў ружовы і блішчэў, як вычышчаны рондаль. Генеральскія вусы рабілі яго важным, нават да некаторай ступені і грозным, і толькі нізкі рост яго значна перашкаджаў поўнаму стану гэтай грознасці.

Ён падышоў да маладых настаўнікаў, моцна пацісную ім рукі і кожнаму па чарзе сказаў досыць доўгае слова прывітання і пасля ўжо гэтага пацалаваў аднаго і другога.

Затым падсеў да Лабановіча.

— Любачка мая, — казаў яму Зязюльскі, — гляджу я на цябе і ўспамінаю твайго бацьку: тваё аблічча так напамінае мне нябожчыка!

Зязюльскі цяжка ўздыхнуў, журботна звесіў старую галаву, як-бы акамянеўшы ў вялікім смутку.

— Міхаіл, Міхаіл! нашто ты памёр? — голасам бязмежнай жальбы выкрыкнуў Зязюльскі і, падняўшы завільгочаныя слязамі вочы на Лабановіча, сказаў: — Гэта быў мой першы прыяцель, дружака... О, колькі разоў выпівалі мы з ім! — І яшчэ ніжэй апусціў галаву. — Эх...

Ён не мог далей гаварыць і толькі безнадзейна махнуў рукой.

## V

Покі Зязюльскі выліваў смутак свайго сэрца, сабралася амаль што ўся кампанія. Падышоў вядомы ўжо старшыня Брыль Язэп, памочнік пісара Савось Карэнчык, бяссочны, як таран, вяртлявы, суятлівы хлопец, і дзяк з цэрквы св. Магдалены, Майсей Памахайлік. Яго яшчэ называлі «места пячаці». Гэтая мянушка вышла з сферы валаснога праўлення, бо там галоўным чынам былі бланкі з літарамі М. і П., дзе і ставілася пячаць. Дзяк належаў да тыпу людзей, якіх звычайна называюць цвілымі або сметанковымі. Ён быў крыклівы, гарласты і сваё права бараніў з такім жарам, што толькі адзін Тарас Іванавіч Шырокі, стукнуўшы кулаком-молатам перад носам Памахайліка, наводзіў на яго страх і змушаў заціхаць.

Садовіч і яго прыяцель на першых часах адчувалі сябе трохі нялоўка сярод гэтае кампаніі, асабліва Лабановіч, і чакалі, што будзе далей. То той, то другі з гасцей перакідаўся з імі адным-двума словамі, але агульнай тэмы для гутаркі не знаходзілася, як-бы гэтыя людзі выпадкам сышліся дзесь на вакзале, чакаючы цягніка.

— Што-ж гэта Найдуса няма? — запытаўся Тарас Іванавіч. Ён добра ведаў, чаму няма Найдуса: Найдус каля новае настаўніцы пакручваецца, але трэба-ж было даць тон і нейк прыступіць да справы.

— Найдус ведае, дзе трэба хадзіць, — чмыхнуў сядзелец.

— Ды яны зараз прыдуць, — сказаў Карэнчык, — Тамара Аляксееўна і мяне заклікала, каб разам прыйсці, але я не хацеў ужо станавіцца Найдусу ўпоперак дарогі.

— Чуеш, брат Стары, — шапнуў Садовіч прыяцелю, — давай, брат, адціснем Найдуса!

— Ну, што-ж? Папрабуй, — ціха адказаў Лабановіч.

Садовіч, яшчэ не бачачы новае настаўніцы, кашлянуў басам, падаў наперад грудзі, — словам прыняў пэўную кавалерскую постаць. А Карэнчык яшчэ дадаў:

— Яна дачулася, што прышлі маладыя настаўнікі, і хоча пазнаёміцца з імі, — і паказаў галавою на настаўнікаў.

Садовіч незаметна штурхануў локцем Лабановіча, а той ціхенька азваўся:

— Грунт ёсць.

— Прыдуць, — пераконана адазваўся Скаромны: — давай, Тарас Іванавіч, абразікі, каб не так маркотна было чакаць шчаслівай пары.

Сядзельца падтрымалі, і Тарас Іванавіч, слаба пратэстуючы, вышаў і зараз-жа вярнуўся з двума калодамі карт.

Дзеля большай вольнасці і разгону пастанавілі перайсці ў класны пакой. Тарас Іванавіч прынёс вялізную лямпу «Молнія», запаліў яшчэ і вісячую лямпу, і ў класе стала светла.

Каля карт аб'едналася перш невялікая група гасцей. Сюды падсеў старшыня. Увесь час ён маўчаў, а цяпер пачаў прыглядацца да карт. Аказалася, што гэтымі картамі іграць ужо нельга: на адной ражок здзёрты, на другой падазроная плямка заметна. Адным словам, ігра тут небяспечная... Няма ў людзей веры ў адносінах аднаго да другога. Можа ад гэтага часамі і цяжка бывае чалавеку.

Тарас Іванавіч сказаў з запалам:

— І чалавек з часам аблупліваецца, і пашпарт мяняеш ты ў воласці, а то дзіва, што карты зашмуляюцца.

Тараса Іванавіча тайком лічылі іграком не зусім лаяльным, але аб гэтым яму ў вочы не казалі. Тарас-жа Іванавіч у цеснай кампаніі часамі скажа:

— На тое-ж і шчупак у моры, каб карась не драмаў.

Аблаяўшы старшыню «капшуком», Тарас Іванавіч зычна крыкнуў:

— Ёсель!

І зараз-жа дзесь у глыбіні дома затухкалі ногі, а яшчэ праз момант на парозе стаяў Ёсель.

— На, збегай да Моні і прынясі дзве калоды карт. Ды жыва — на адной назе!

Ёсель узяў грошы, забалбатаў нешта і, шырока ступаючы, знік за дзвярыма.

— А-а-а! — разам ахнула некалькі галасоў: праз тыя-ж дзверы пад ручку ўваходзіла пара — Тамара Аляксееўна і Найдус. Найдус быў прылізаны, у чорнай тужурцы з бліскучымі гузікамі. Ясна, што была пастаў-

лена стаўка на закасаванне ўсіх іншых прэтэндэнтаў на прыгожую дзяўчыну. На губах у Тамары Аляксееўны красавалася ўсмешка, ды такая чароўная, што хіба толькі той не мог крануцца ёю, што ўжо высах на 90 процантаў.

Найдус галантна падводзіў сваю даму да кожнага госця, з каторым і віталася яна ўсё з тою-ж чараўнічаю ўсмешкаю, прычым кожны стараўся сказаць ёй пры гэтым самы прыемны панямонскі камплімент, а калі ў каго не знаходзілася такога, то хоць адказнаю і таксама прыемнаю ўсмешкаю выказаць сваё захапленне яе прыгажосцю.

Карэнчык таксама расплыўся ва ўсмешку, але гэта ўсмешка вельмі мала дадала яму хараства. Ён быў нават намерыўся сказаць, але з яго губ сарвалася адно толькі шыканне. А Тарас Іванавіч перахваціў Тамару Аляксееўну ад Найдуса, сказаўшы:

— Кіньце вы гэтага таўкача: я вас пазнаёмлю з нашымі калегамі, — і сам павёў яе да настаўнікаў.

Тамара Аляксееўна з усімі віталася моўчкі, асвятляючы кожнага ўсё тою-ж чараўнічаю ўсмешкаю. Паходка яе была плыўкая, мяккая. Цёмнакаштанавыя валасы, завітыя спрытнаю, напрактыкаванаю рукою, спускаліся бясконцымі хвалямі на верхні абрыс твару, даючы яму шыкозную аправу.

Знаёмячыся з Садовічам, яна проста-такі асыпала яго іскрамі з «неба Італіі», а верхняя губка яе, чуць-чуць перахвачаная пасярэдзіне ямінкаю, лёгенька задрыжэла пад павевам прыямнейшай на свеце жаночай усмешкі.

— Гэта — святар Бабруйшчыны, — рэкамендаваў Тарас Іванавіч Садовіча. А святар Бабруйшчыны кіўнуўся ўсёю фігураю і толькі кашлянуў басам.

— А гэта — прасвяціцель цёмнага Палесся, вялікі пустэльнік, але не кладзіце яму пальца ў рот.

Тамара Аляксееўна падала руку «пустэльніку», а другою рукою лёгенька шлёпнула па руцэ Тараса Іванавіча і назвала яго «златавуст панямонскі». Гэта былі яе першыя словы. А Тарас Іванавіч, каб апраўдаць славу «златавуста панямонскага», сказаў аб Лабановічу яшчэ:

— Тут, на тэрыторыі, дзе красуе ваша прыгажоства,

ён асмеліўся заявіць, што не будзе прызнаваць паганскай веры...

— Ой, скажу Вользе Сцяпанаўне, — пастрашыў Лабановіч Шырокага, — не мінуць табе чарпака.

Тамара Аляксееўна з дакорам паківала галавою, пазіраючы на Лабановіча, а Тарас Іванавіч з жарам выпаліў:

— З-за Тамары Аляксееўны гатоў пад розгі легчы і на крыж пайсці.

Але якраз увайшла Вольга Сцяпанаўна, Тарас Іванавіч асекся і разыграў ролю дураслівага школьніка ў момант паяўлення грознага настаўніка.

Тамара Аляксееўна кінулася да Вольгі Сцяпанаўны і, па-жаночаму звычаю, пацалавалася з ёю.

— Каго-ж вы, Тамара Аляксееўна, у паганскую веру прыводзіць будзеце? — запытала гаспадыня.

Госці засмяяліся, зашумелі, а Тамара Аляксееўна, крадучыся, як кошка, накіравалася да Садовіча. Садовіч стаяў у недаўменні і не ведаў, што будзе далей і як рэагаваць на ўсё гэта. А настаўніца падышла блізенька, працягнула руку і ўзяла Садовіча за вуха і павяла яго вакол стала пад громкі смех панямонскай «інтэлігенцыі». На поўдарозе Садовіч спрытна падхапіў яе пад руку і вызваліў сваё вуха. Потым удваіх яны пайшлі да Лабановіча. Як толькі Тамара Аляксееўна працягнула руку, каб узяць за вуха, ён адскочыў убок.

— Эге! — пачуліся галасы, — паляшук не даецца.

І пачалася беганка. Лабановіч выкручваўся ўсякі раз, калі Тамара Аляксееўна, здавалася, вось-вось схопіць яго за вуха. Яна ганялася за ім па класе, па лаўках, але дарма. То той, то другі з гасцей стараліся памагчы настаўніцы ўзяць за вуха непакорлівага палешука, але ён вылузваўся, уцякаў і падражніваўся:

— Кароткі ў вас рукі.

Сам Тарас Іванавіч прышоў ёй на дапамогу. Не спадзеючыся дагнаць вёрткага «палешука», ён скраўся ззаду і наваліўся ўсім сваім сяміпудовым целам на Лабановіча і ўшчаміў яго жалезнымі рукамі. Рвануўся бедны хлопец, але вырвацца не здолеў. Тамара Аляксееўна з растрапанымі валасамі падбегла і хацела ўжо як мае быць узяць за вушы калегу. Але ў калегі рукі на-

палавіну былі вольны, і ён ухапіў яе рукі разам з батыставымі рукавамі. Вырываючы рукі, Тамара Аляксееўна разарвала рукаў.

— Гадасць вы! — сказала яна і пабегла да Вольгі Сцяпанаўны, каб зашыць рукаў свае блузкі.

Так забаўлялася панямонская інтэлігенцыя. У той час, калі адбываўся абрад «паганскай веры», людзі сур'ёзныя і салідныя, як Скаромны, старшыня і дзяк Памахайлік, прыводзілі ў парадак прынесеныя Ёселем карты, адкідалі непатрэбныя, пачынаючы з двоек і канчаючы шасцёркамі, і пералічалі, ці ўсе карты ў калодках.

Калі шум аціх, яны вылезлі з-за лавак і падышлі да стала.

— Ну, — сказаў Памахайлік, — будзем служыць набажэнства.

— Хто закладае банк? — спытаў сядзелец. Звычайна, ніхто першым не называўся. Такі ўжо быў звычай у Панямоні. Наўперад трохі таргаваліся, рабілі выгляд, што нікому іграць у карты не хацелася, а хто проста казаў, што грошай няма. Канчалі-ж тым, што цягнулі карты. У каго аказалася старшая масць, той і садзіўся закладаць банк.

Трымаць банк выпала Базылю Трайчанскаму. Павольна, не поручы гарачкі, сеў Базыль на самым выгодным месцы за сталом, азірнуў кампанію, кіўнуўшы направа і налева, палажыў на стол два рублі «банку» і стаў раздаваць карты, пытаючыся, колькі хто бярэ карт. Потым браў другую калоду, тасаваў яе на ўсе бакі і ўсімі спосабамі і даваў каму-небудзь «зняць». Знімаць трэба было асцярожненька, каб, не дай божа, ніхто не падглядзеў карт, і выкладаў дзве карты першага раду. Такая ігра называлася «тэфталем». Яна была ў пашане сярод панямонскіх інтэлігентаў. Першыя дзве карты не аплачваліся і замяняліся другімі. Пасля гэтага банкір патрабаваў ад партнёраў плату. Плацілі, хто колькі назначаў: 15, 20, 10, 40 капеек, у залежнасці ад велічыні банку. Банкір павінен палажыць пяць радоў: чатыры рады па дзве карты, а пяты рад — адну карту. Хто браў у другім радзе, той меў з банку ўдвойчы болей свае стаўкі, у трэцім — утройчы і г. д. У дзевятым радзе выклада-

лася толькі адна карта, і калі чыя карта брала ў гэтым радзе, той атрымліваў у дзевяць разоў болей свае стаўкі.

Калі на стале зазвінелі грыўні, залатоўкі, саракоўкі і поўрублі, Садовіч ціха сказаў Лабановічу:

— Давай, брат, папробуем. А ну-ж!

Лабановіч першы раз бачыў такую ўрачыстую, такую паважную ігру. Была спакуса выйграць, і самы працэс такой ігры быў цікавы, асабліва калі хто браў «дзевяты вал».

— Чорт яго, брат, ведае, — адказаў ён.

У тоне гэтага адказу чулася жаданне папрабаваць шчасця.

Успомнілася Палессе, Цельшына. Як-бы з нейкага мроку глянулі вочы панны Ядвісі, і хваля нейкага болю кальнула ў сэрца. Жаль, крыўда адчуліся ў ім. А дзесь, у падсвядомасці, як-бы нейкі голас казаў, як неразумна, як брыдка траціць свой час у такіх забавах. А твары партнёраў, рэзка змененыя прагавітасцю гэтых грошай, яшчэ больш павялічвалі непрыемнае адчуванне.

Садовіч падышоў да стала, узяў у банкіра тры карты, дастаў свой шчупленькі кашалёк і выняў тры грывенікі.

Некаторы час Лабановіч стаяў збоку, аддаўшыся сваім думкам аб тым, што так моцна жыло яшчэ ў яго сэрцы.

## VI

Банкір толькі-толькі намерыўся выкладаць платны рад, як увайшла Тамара Аляксееўна. Яна зашыла рукаў і прывяла ў парадак прычоску. На губах яе красавала ўсё тая-ж усмешка.

— Тамара Аляксееўна, ці не ўгодна вам картачку? — запытаў банкір.

Тамара Аляксееўна здалёк працягнула руку.

— Пару.

Ей зараз-жа далі месца за сталом, і яна села каля шчаслівага Садовіча. Заплаціла грошы, закурыла папяроску. Лабановіч хацеў падыйсці і папрасіць прабачэння. Яна-ж не падняла на яго сваіх вачэй, паціху перагаварвалася з Садовічам і часамі смяялася кароткім смехам.

Не граў у карты і Зязюльскі. Ён спярша сядзеў здалёк і пыхцеў папяросаю, скручанаю з махоркі. А каб махорачны дым не біўся ў інтэлігенцкія насы, ён разганяў яго рукою, бо ўладары гэтых насоў заяўлялі пратэст. Так і цяпер Тарас Іванавіч, чмыхнуўшы носам, прамовіў, глянуўшы ў бок Зязюльскага:

— Ты, бацька-дубальтовік! Зноў засмуродзіў!

Зязюльскі шпурнуў сваю суслу-папяросу. Яна ўпала дзесь на лаўку і, як ракета, пырскнула іскрамі.

— Ты мне школу спаліш! — накінуўся на яго зноў Тарас Іванавіч.

Зязюльскі затаптаў папяросу і падышоў да стала і прыпыніўся за спінамі ігракоў. Калі банкір пачаў класці карты ў рады, то на адзін момант стала ціха, як у магіле.

У другім радзе не вышла нічыя карта.

— Мост кладзе! — сказаў Найдус і зірнуў на нявер-ную Тамару Аляксееўну.

— Для банку гэта нядобры знак, — азваўся Базыль-банкір.

— Ёсць! — крыкнуў Карэнчык і выкінуў на стол чырвеннага ніжніка.

— Вярнуў сваю стаўку, — падаў голас і Садовіч і таксама выкінуў сваю карту.

Перад чацвертым радам стан напружанасці сярод ігракоў павысіўся.

— Мая! — сказала Тамара Аляксееўна і засмяялася.

Банкір заплаціў грошы і клаў другую карту чацвертага раду.

— Мая! — яшчэ грамчэй заявіла Тамара Аляксееўна.

Шум адабрэння пранёсся сярод ігракоў.

— Ёй у каханні і ў картах вязе, — гаротна сказаў Найдус.

— Ну, ты так даеш, што зараз іграка страціш. Давай дзевяты рад, — загрымеў Тарас Іванавіч.

Напружанасць яшчэ ўзрасла.

А Базыль асцярожненька пасунуў уніз дзевятую карту, зірнуў на яе край, уздыхнуў, кіўнуў галавою направа і налева, каб даведацца, чыя бярэ дзевяты рад. Прыемна ўсміхнуўшыся, ён ткнуў пальцам у карты Садовіча.

— Стары! — гукнуў Садовіч: — дзевяноста капеек зарабіў!

А Тарас Іванавіч з шумам шпурнуў на стол карты.

— Прапёр шэсцьдзесят капеек, —прызнаўся Памахайлік.

— Скупы ты, Базыль, чалавек! — чмыхнуў сядзелец.

— У яго і снегу на каляды не дастанеш, — з дакорам прамовіў Тарас Іванавіч.

— Не па-суседску робіш, Базыль, — упікнуў яго і старшыня. А Тамара Аляксееўна і Садовіч пахвалілі яго.

— Маладзец, Базыль!

— Вам заўсёды гатоў! — азваўся з прыемнаю ўсмешкаю Базыль. — Банк удвоіўся. — І пачаў зноў тасаваць карты.

— Вось вязе — як няхрышчанаму: з першай кідкі банк удвоіў, — з зайздрасці сказаў Памахайлік. А партнёры тым часам зноў палезлі ў кішэні.

— Што-ж ты, мілачка, сядзіш? — так запытаў Зязюльскі Лабановіча. — Вазьмі картачку. Па пятачку. Многа не прайграеш і не выйграеш, а час правядзеш з прыемнасцю... Дай папяросу.

Лабановіч і сам памыкаўся папрабаваць — вельмі было спакусна і цікава.

— Дай нам пару картачак, — сказаў Зязюльскі да банкіра.

— Калі ласка.

— Добрыя карты! — шапнуў Зязюльскі, глянуўшы на званковую дзевятку і на храстовага караля. Ён прыняў самы жывы ўдзел у новай ролі Лабановіча. — Пастаў на дзевятку дзесяць капеек, а на караля — пяць... Стой, я яшчэ прымажу пяць капеек на дзевятку. — Зязюльскі пашукаў па кішэнях і выцягнуў мядзяк. — Стаў смела!

Іграні ўваходзілі ў большы азарт. У банку было даволі многа грошай. Хто прайграў, таму хацелася адыграцца і яшчэ зарабіць, а хто выйграў, таму хацелася выйгрыш свой павялічыць. І грошы ямчэй і часцей звінелі на стале, плывучы ў банк. Карэнчык гадаў на пальцах: ніжнік — сямёрка. Ніжнік — сямёрка. І стараўся пацэліць палец у палец, развёўшы ў бок рукі і робячы імі не-

калькі калаваротаў. І калі выходзіла, што палец стыкаўся пры слове «ніжнік», то на ніжніка і ставілася болей.

У Памахайліка быў другі спосаб гадання. Ён клаў карты роўненька на край стала і стукаў у іх далонню, і тая карта, што адлятала далей, ставілася вышэй.

Чараваў і Найдус, але яго чараўніцтва было асобнага парадку. Тут было нешта задумана і загадана. Не адны толькі грошы прымаліся тут пад увагу: да яго прышла чырвенная дама, якая сімвалізавала сабою Тамару Аляксееўну. Найдус адлажыў даму і падсунуў пад яе тайком поўрубель, а потым, падумаўшы, палажыў зверху яшчэ грыўню і сказаў банкіру:

— На карце і пад картаю.

Банкір толькі галавою паківаў і, сказаўшы: «бярэце грошы», стаў выкладаць рады.

— Рана вышла! — сказаў Памахайлік, выкідаючы на стол карту.

— Наша возьме! — падбадзёрваў Зязюльскі Лабановіча.

— Гані сюды! — крыкнуў Тарас Іванавіч і адвярнуў сваю карту, пад каторою ляжаў рубель.

— Вот угадае паставіць, — здзівіўся банкір, адлічаючы тры рублі з банку.

— Я-ж табе чатыры прасадзіў.

У чацвертым радзе ўзяў кароль Лабановіча па пяць капеек. На смех паднялі, а Зязюльскі сказаў:

— Мы яшчэ дзевяты рад возьмем. Пяць капеек зарабіў — і то добра.

З заміраннем сэрца ўсе чакалі дзевятага валу. Банкір паглядзеў у бок Тараса Іванавіча і Найдуса.

— Не даць-бы ім.

— Нам давай! — крычаў Зязюльскі.

— А ў вас што?

Лабановіч паказаў дзевятку.

— Ваша! — радасна крыкнуў Базыль.

— А што?

І Зязюльскі пачаў штурхаць локцем Лабановіча, а ігракі кінулі злосна карты.

Бедны Найдус хацеў незаметна забраць поўрубля з-пад дамы, але банкір сачыў акуратна.

— Гані! Гані!

І забраў поўрубель і грыўню. А Тарас Іванавіч пацікавіўся картаю, як ні хацеў Найдус выдаваць свае таямніцы.

— Ха-ха-ха! — рагатаў Тарас Іванавіч: — Тамара Аляксееўна, нашто вы падвялі Найдуса? — І паказаў ёй чырвенную даму.

— Стукаю! — крычаў банкір, — праменат!

Гэта значыць, банк утроіўся і будзе апошняя здача карт.

— Прапёр, брат, выйгрыш і сваіх пяцьдзесят капеек, — тужліва прызнаўся Садовіч свайму прыяцелю, — пушчу яшчэ рубель і квіта... Ты, брат, маладзец — дзевяты вал узяў.

— А і ты-ж узяў.

— Я яшчэ вазьму, — храбрыўся Садовіч.

Базыль раздаў карты. Банк яго рос. Найдус пачырванеў — відаць высокія меркаваў стаўкі. А Зязюльскі тым часам даваў дарады Лабановічу, як якую паставіць карту. Паставілі ўвесь папярэдні выйгрыш. Садовіч таксама павялічыў стаўку і заміж рубля паставіў два. Тамара Аляксееўна была зусім спакойна, але чараўнічая ўсмешка збегла з яе губ. Цяпер толькі ігра перайшла ў вышэйшую ступень напружанасці.

Трывожна акінуў Базыль вачамі поле сваіх праціўнікаў. У банку было рублёў дваццаць. Хацелася захаваць гэты банк, зняць як можна больш. А ігракі прагавітымі поглядамі акідалі кучу грошай, кожнаму хацелася як найбольш выцягнуць з гэтае кучы.

Банкір нават закурыў.

Яму шчасціла. Нават дзевятага раду нікому не даў.

Вылажыўшы апошнюю карту, банкір пазбіраў «мазы» з-пад карт і абодвума рукамі пасунуў да сябе кучу грошай.

— Набраўся, як жаба гразі! — з зайздрасцю прамовіў Найдус, хоць ён трохі «адбіўся» за гэты раз.

Лабановіч спусціў свой выйгрыш, але Зязюльскі паддаваў яму духу.

— Выйграем яшчэ! Ты толькі мяне слухай.

Садовіч ціхенька падышоў да Тараса Іванавіча і напомніў яму аб трох рублях доўгу.

— Браток ты мой родненькі! Я-ж голы астаўся: сем рублёў прасадзіў!.. Пачакай трохі.

Калі на першы банк банкіры не знаходзіліся, то цяпер іх выскачыла адразу цэлых тры.

—Я дзяржу банк! — загарланіў Памахайлік.

— Банк стаўлю я! — замітусіўся старшыня.

— Шыш аднаму і другому, — грымнуў Тарас Іванавіч і схапіў карты, расчышчаючы месца за сталом.

— Я першы сказаў!

— Паставіш яшчэ, чорт цябе не возьме! — сказаў Тарас Іванавіч і палажыў на стол тры рублі.

Скрыва глянуў Памахайлік.

— Гэта чорт ведае што! З рук вырываць карты!.. Бочка, — дадаў ён, панізіўшы голас.

— Заткніся, кадзіла... добрасмярдзючае! — Тарас Іванавіч павярнуўся да Памахайліка, акінуў грозным вокам.

— Ціха вы, усе нагуляецеся, — лагодненька сказаў да іх Зязюльскі.

Тарас Іванавіч пачаў раздаваць карты.

— Табе колькі даць, масла ты лампаднае? — спытаў ён Памахайліка ўжо тонам згоды.

— Не хачу на твой банк карты браць.

Памахайлік сядзеў надзьмуты.

— Каяцца будзеш: карты бяручыя.

— Ну, давай.

Злосць у Памахайліка прайшла.

— Піва, горла прамачыць!

— Базыль, пасылай па піва!

Базыль не спрачаецца. Ён нічога не мае проціў піва і адлічвае грошы на тузін піва, бо ён-жа выйграў.

На сцэну выходзіць Есель, знікае, а праз нядоўгі час тарабаніць поўны кош піва.

Банк Тараса Іванавіча цягнецца доўга. Грошы прыходзяць і выходзяць. Садовіч некалькі разоў даведваецца свае кішэні. Зязюльскі дыпламатычна адышоў ад свайго вучня, бо «настаўніцкія» парады аказваюцца марнымі.

— Ну што? — пытае Садовіч прыяцеля.

— Кепска, брат, — трасе галавою Лабановіч.

Яны адыходзяць ад стала, п'юць піва. Від у іх далёка не геройскі.

— Ведаеш, брат, дзесяць рублёў прапёр... У цябе ёсць грошы? — пытае Садовіч.

— Слаба, брат.

Выпіваюць яшчэ.

Піва шаломіць стомленыя галавы, робіцца трохі весялей. У вачах стаяць фігуры карт, у вушах грошы звіняць, а там, дзесь у нутрах-глыбінях, штось ные, баліць і снуюць неспакойныя думкі. А голас спакусы шэпча — яшчэ ўсё можна паправіць, вярнуць свае грошы...

— Эх, вярнуць-бы свае грошы!

Садовіч дыміць папяросаю. Лабановіч прыглядаецца да ігракоў. Нялюдскія цяпер у іх твары: драпежніцкія, прагавітыя, закураныя пылам і дымам. Твар у Тамары Аляксееўны асунуўся, яна як-бы пастарэла. Лабановіч думае, рысуе ў думках сваіх вобраз яе ў старасці... Праціўна.

За сталом шум, лаянка.

— Праменат! — грыміць Тарас Іванавіч.

— Пазыч мне рубель, — кажа Садовіч.

— Ведаеш, брат, што, — адзываецца Лабановіч, — давай незаметна, як пабітыя сабакі, пойдзем дадому.

— Я чую, што адыграюся. Пазыч рубель. Папрабуем яшчэ.

Яны ідуць да стала,бяруць карты. І ў самы ўрачысты момант апошняй раздачы адчыняюцца дзверы. На парозе спыняецца новая фігура, знімае зношаны капялюш, кланяецца, і па ўсіх кутках класа разліваецца насмешлівы голас.

— Добры вечар, героі зялёнага поля!

## VII

Тутэйшым «інтэлігентам» чалавек, што стаяў цяпер каля парогу ў заношаным капелюшы, быў добра знаёмы.

Яго паяўленне нікога не здзівіла. На яго прывітанне ніхто не азваўся, бо ўсе былі ў гарачцы апошняй здачы карт. Новым ён быў толькі для маладых настаўнікаў. Няясная ў мроку постаць яго выплыла на сярэдзіну класа, дзе было светла.

Лысы, лоб круты, маршчыністы. Сам сутулаваты, прысадзісты. Адзеты бедна, але па-інтэлігенцку. З пачатку цёмная, па канцах рыжая барада яго пачыналася

чуць не ад самых вачэй. Бровы навіслыя, густыя. Твар пануры, але ён часта мяняецца. Вочы неспакойныя, часамі глядзяць нейк дзіка, і іх выраза таксама мяняецца часта. З вушэй тырчаць цэлыя кусты густых валасоў. Гаворыць чотка, выразна, гладка, нават красамоўна. У некаторых пунктах размовы звонка б'е далонню аб далонь. На від яму гадоў пад пяцьдзесят. Гэта быў ніхто іншы, як «рэдактар». Сапраўднае-ж прозвішча яго было Бухберг.

Рэдактар таксама быў настаўнікам. У яго вышлі нелады з народам Іеговы, сынам якога ён быў, і школу прышлося пакінуць. Ён рэзка нападаў на звычкі свайго народа, жорстка высмейваў яго забабоны і, як той старажытны біблейны прарок, бічаваў яго акасцянеласць і кансерватызм. Праціўнікі называлі яго «місюгінэ», што значыць вар'ят, і хацелі пабіць каменнямі. Была раз рукапашная стычка з імі, але ён паразмятаў іх сілаю і крэпасцю кулакоў сваіх.

Ніхто не даваў яму дапамогі, і рэдактару прыходзілася вельмі цяжка. Але ён гнуў сваю лінію і ні на якія кампрамісы не ішоў. Ён быў дапісчыкам правінцыяльнай газеты і выкрываў «язвы на грамадскім целе». Але рэдактар не здавольваўся роляю дапісчыка. У галаве яго было многа ўсякіх ідэй. Адна такая ідэя — прыступіць да выдання панямонскай газеты. Ён развіў і прапагандаваў гэтую ідэю сярод панямонскай інтэлігенцыі. Але словы яго падалі на камяністы грунт і засыхалі, не даўшы прарасці, бо ніхто на іх не адгукнуўся. Тады рэдактар махнуў на ўсіх рукою і ўзяўся за газету сам адзін. Яго газета называлася «Панямонскія Ведамасці». Уся яна ад пачатку да канца складалася самім рэдактарам. Газета выходзіла раз у два тыдні. Тыраж яе быў ад 10 да 15 экземпляраў. Рассылалася яна не па пошце: сам рэдактар прыносіў яе на кватэры сваіх падпісчыкаў у рукапісным выглядзе. Цана № значылася 10 кап.

Досыць дзіўныя былі адносіны паміж рэдактарам і падпісчыкамі: падпісчыкі пабойваліся рэдактара, а рэдактар пабойваўся падпісчыкаў, каб яны часамі не адмовіліся купляць яго газеты. Рэдактару прыходзілася ламаць галаву, хітрыць, пускацца на ўсякія выдумкі, вы-

біраць жанр і форму ў дастасаванні да панямонскага жыцця і да характару саміх панямонцаў.

Рэдактара часта можна было бачыць у розных кутках Панямоння. Хадзіў ён сур'ёзны, задумлены, да ўсяго прыглядаўся, прыслухоўваўся і часамі нешта запісваў у сваю патрапаную кніжачку, абмытую потам рэдактара.

Рэдактар спыніўся каля стала, шырока развёў рукі.

— Што я бачу! Змаганне на зялёным полі!.. О, людзі, людзі!! Як далёка адышліся вы ад законаў разумнага жыцця!

— Так, дружа рэдактару: жыццё — гэта адвечнае змаганне. І гора тым, хто будзе пераможан! — тонам філосафа адказаў Тарас Іванавіч. Ён нават не абярнуўся ў бок рэдактара і не ўсё чуў, што сказаў рэдактар: трэба было сачыць за платаю.

А Памахайлік дадаў:

— У поце ліца твайго будзеш ты есці хлеб свой.

— Не трудзівыйся да не яст, — уставіў і сваю ўвагу Найдус.

А рэдактар як-бы не чуў нічога гэтага і казаў далей:

— Там, за гэтымі сценамі, вялікі дом прыроды. Столь яго — неба, расквечанае зорамі. Памост — зямля, дзе чуецца дыханне травы і красак. Там прастор, якому няма граніц. Там кніга адвечнай мудрасці разгортвае свае таямніцы. Вы, у каго ёсць вушы, каб чуць, і вочы, каб бачыць! Ідзіце на прастор, разніміце крыллі мыслі, каб пазнаць парадак рэчаў і атрэсці фуз, бруд і пыл, бо імі заслеплены вочы вашы, бо вы заперліся ў цесныя сцены, вы прышлі ў катух, поўны смуроду, вы атруцілі яго сваім дыханнем.

— А сам рэдактар чаго прышоў у катух? — запытаўся Найдус, не зводзячы з карт вачэй.

— Дзівак, дзівак, а што-небудзь ды змарозіць наш рэдактар! — адгукнуўся сядзелец і пусціў смех у вусы.

І гэтыя словы рэдактар прапусціў між вушэй. Ён трагічна патрос лысаю галавою.

— Эх, людзі, людзі! Адзябелела сэрца ваша, і вушамі вы цяжка чуеце. Як далёка, кажу вам, сталіце вы ад жыцця! І калі вы, соль зямлі, страцілі салёнасць, то што сказаць аб гэтых малых? Я бачу трупныя цені на вашых тварах. Рука прагавітасці кладзе на іх свае пячаці і вы-

водзіць звера з глыбінь вашае істоты. Бяссонныя ночы запісваюць на іх доўг свой, і вы аддасце яго бясчасную старасцю і болем змучанага цела...

Рэдактар яшчэ гаварыў, але яго ніхто не слухаў. Да вушэй ігракоў даляталі асобныя словы без усякага значэння іх: звон срэбра і шолах бумажак глушыў іх. І да гэтага бічавання рэдактара панямонцы прывыклі, лічылі з'яваю звычайнаю, сам-жа рэдактар быў .чалавек, у якога «не ўсе былі дома». А для вуха Лабановіча гэтыя словы гучалі дакорам, і чулася ў іх горкая праўда і захаваны сэнс.

Тарас Іванавіч уступіў месца Памахайліку. Ён вельмі ўдала патроіў банк, пасля чаго пайшоў піць піва.

Рэдактар змоўк. Вочы яго патухлі. Адвярнуўся ў другі бок, апусціў уніз вочы і задумаўся, а потым надзеў парыжэлы капялюш і вышаў, нічога не сказаўшы. У «Хроніцы панямонскага жыцця» трэба было зрабіць сякія-такія дадаткі. Ён пайшоў дамоў, у сваю цесную каморку, запаліў агарак свечкі і стаў пераглядаць сваю газету — надыходзіў тэрмін яе выхаду ў свет. Перад рэдактарам ляжаў рукапісны аркуш паперы. Буйнымі літарамі ўгары гэтага аркуша было напісана:

### ПАНЯМОНСКІЯ ВЕДАМАСЦІ

Газета пачыналася з перадавіцы. Перадавіца памечана:

«Панямонь, 10 мая»,

«Наша мястэчка — досыць значны цэнтр у воласці. Па перапісу 1897 года ў ім значыцца дзве тысячы восемсот сорак чалавек насялення. Прымаючы пад увагу натуральны прырост, мы не зробім вялікае памылкі, калі скажам, што цяпер Панямонь мае тры з палавінаю тысячы насялення. Між тым, у мястэчку ёсць толькі дзве пачатковыя школы: двухкласная міністэрская і аднакласная жаночая. Само сабою зразумела, што гэтыя школы не могуць, далёка не могуць абслугоўваць інтарэсы насялення ў сэнсе здавалення яго патрэб у адносінах асветы. Наспела пільная, неадкладная патрэба ў адчыненні новых школ у Панямоні.

Паўстае пытанне: якую-ж школу мы павінны прапагандаваць у Панямоні? Якая школа можа найболей адпавядаць патрэбам і інтарэсам мястэчка і воласці?

Рэдакцыя «Панямонскіх Ведамасцяў» бярэ на сябе смеласць заявіць і гэтым выказаць агульнае жаданне грамадзян Панямоні,

што такою школаю можа быць толькі гімназія. або прагімназія, але ва ўсякім разе не ніжэй прагімназіі.

Як паказваюць факты, ні ў якой другой воласці не заўважаецца такога цягнення моладзі да навукі, як у Панямонскай. Чым гэта аб'ясняецца? Воласць наша малазямельная, зямля неўрадлівая. Стала быць, у аснове гэтай прагі моладзі да навукі ляжыць эканамічны фактар. Ну, фактары, разумеецца, могуць быць розныя: Довід Пінхалес таксама быў «фактарам», а цяпер ён адчыніў сваю краму... Але мы адхіляемся ад нашае тэмы. Куды-ж ідзе наша моладзь? Дзе знаходзіць яна здаваленне сваім імкненням, свайму жаданню? Шырокаю хваляю плыве яна ў настаўніцкія семінарыі, у гарадскія вучылішчы, плыве за дзесяткі і сотні вёрст пехатом, з лапцямі за плячыма, без капейкі ў кішэні. Але толькі нямногім шчаслівчыкам удаецца папасці ў гэтыя школы, пераважная-ж большасць маладых людзей застаецца за парогамі школы.

Колькі гора, колькі трагедый перажывае наша сучасная моладзь! Адгэтуль і ясна, што наша Панямонь павінна мець школу павышанага тыпу, а такою школаю можа быць гімназія. Трэба даць ходу нашай моладзі. Шырэй дарогу ў храм навукі! Няхай-жа закрасуе Панямонская гімназія!

## ПА ВОЛАСЦІ

□ Нам паведамляюць, што ў засценку Пранукі былі ўжо два выпадкі пакражы коней у сялян. Паліцыя на чале з нашым бравым паважаным урраднікам Тупальскім прымае энергічныя меры да вылаўлівання зладзеяў. Да гэтага часу напасці на іх след не ўдалося.

□ Сяляне вёскі Красны Бераг ужо даўно судзяцца з адміністрацыяй князя Радзівіла за сервітутную пашу. Апошнія капейкі выцягваюць з іх розныя дамарослыя адвакаты, але толку з гэтага няма. Акружны суд прысудзіў адабраць пашу ад сялян. Сяляне пераносяць справу ў судовую палату.

Не шкодзіла-б успомніць тут усім вядомую прыказку.

□ Апошнімі днямі, у звязку з сухою пагодаю, пачалі гарэць Радзівілаўскія лясы.

□ Каталіцкае насяленне воласці, адміністрацыя князя Радзівіла, дробныя арандатары, а таксама і шляхта робяць захады аб адчыненні ў Панямоні касцёла, зачыненага з 1863 года. Як нам удалося даведацца, касцёл будзе адчынены, і ўжо назначаны ксёндз Савікня.

## ПА МЯСТЭЧКУ

□ У Малкі Шулькінай трэцяга дня адбыўся вобыск. Агенты акцызнага нагляду шукалі гарэлкі: быў зроблен данос, што Шулькіна трымае патайны шынок. Знойдзена поўбутэлькі гарэлкі, пяць засмажаных тараноў, хвост, рэбры і галава ад селядца. Напісан пратакол.

□ На Юр'еўскім кірмашы адбылася ўпартая бойка паміж нашым панямонскім чэмпіёнам Петрусём Маргуном і сялянамі вёскі

Чыхуны. Не гледзячы на тое, што перавага была на старане чыхуноўцаў, наш чэмпіён, выхваціўшы з цялежкі шворан, разагнаў іх, і поўная перамога засталася за нашым чэмпіёнам.

Як відаць, мы ўступаем у паласу мілітарызму: народ б'ецца шворнамі, а мозг гэтага народа, інтэлігенцыя, практыкуецца ў стратэгіі на «зялёным полі».

Ва ўсякім разе, начальству варта было-б звярнуць увагу на чэмпіёнаў шворна і «зялёнага поля» і выдаць ім медалі за храбрасць.

## ТРОХІ ФАНТАСТЫКІ

У падножжы вапельнай гары, непадалёку ад могілак, час-ад-часу з'яўляюцца таемныя постаці маладой пары. Шмат каму з грамадзянства здаралася сустракаць іх там вечарамі. Каваль Хаім быў напалохан імі і ад страху захварэў.

Цікава адзначыць, што ў той час, калі паяўляюцца гэтыя постаці ў свой пэўны час, хворыя панямонцы не могуць дастукацца на фельчарскім пункце, рыцына застаецца неспажытаю, а болі і хваробы нялечанымі.

* * *

Покі рэдактар дачытваў і папраўляў сваю газету, агарак свечкі пачынаў канаць. Яе белае полымя дрыгацела, хісталася, падымалася і ападала, і вось-вось, здавалася, пагасне. І раптам з неспадзяванаю сілаю зноў выбухала і зараз-жа ў знямозе нікла, як апошні прадсмертны ўздых.

Рэдактар перавёў вочы на агонь, пазіраў на яго апошнія моманты жыцця. І было штось трагічнае ў гэтым змаганні жыцця і смерці. Рэдактар пазіраў і трос галавою. Не, не падняцца табе са дна жыцця: дайшлі да канца, спустошыліся твае жыццёвыя сокі. Кноцік упаў на стол, агонь зусім апаў, але затрымаўся на момант, падняўся, асвяціў яшчэ раз на адзін міг газету і знік, як-бы заліты гэтым варожым мрокам. І цесная каморка рэдактара, і двор за акном гэтае каморкі зліліся ў адну цёмнашэрую пляму, нямую, зацятую, непарушаную ніводным голасам жывога жыцця.

Рэдактар адчыніў акно, абапёр лысую галаву на рукі і доўга сядзеў нерухліва, і толькі калі на ўсходзе забялелася неба, ён уздыхнуў, зачыніў акно і лёг на сваю жорсткую пасцель.

## VIII

Зямля яшчэ песцілася ў сонным змроку вясенняй ночы, а неба чуць-чуць пачынала святлець бледна-яснымі зорамі, калі маладыя настаўнікі выходзілі з Панямоня.

Гэты змрок закрыў іх змучаныя, бледныя твары: дарога, бяссонныя ночы, згрызоты і няўдачы на «зялёным полі» адбілі на іх свае пячаці. Вышлі яны ціхачом, незаметна, ні з кім не развітаўшыся, бо яны былі жорстка пабіты на ўсіх «тэфталеўскіх» пазіцыях, вышлі з строю поўнымі інвалідамі.

Спакойна, нават неспагадна сустрэлі іх маўклівыя панямонскія вуліцы і хаты на гэтых вуліцах, і толькі халодны пясок шуршэў пад іх нагамі няўцямнаю, многазначнай гутаркай.

Некаторы час ішлі моўчкі. У іх кішэнях была пустэля, у галаве — малатарня, у ваччу мітусіліся розныя фігуры карт, а на душы, як кажуць, кошкі скробалі.

— А няхай яно, брат, згарыць, — азваўся нарэшце Садовіч: — не варта было заходзіць.

— Ну, нічога, брат, бывае і яшчэ горш, — тонам заспакаення адгукнуўся Лабановіч: што-ж было казаць? — Што было, таго не вернеш, і няма тут чаго каяцца. Добра ўжо і тое, што хоць пачулі смурод местачковага балота... Тфу, паскудства! Ну яго к чорту!

Відаць было, што ў Лабановіча не так спакойна на душы, як гэта ён хацеў сказаць.

— Ты памятаеш, Стары, як нам диктаваў калісь Корзун: «Чист кругом я, лёгок и никому не нужен». Цяпер і мы з табою такія-ж чыстыя, лёгкія і нікому непатрэбныя.

Садовіч засмяяўся гучным смехам. Гэты смех падхапілі прасторы панямонскіх выганаў, панеслі яго пад масты і перакінулі на той бок Нёмна.

— Усё гэта яшчэ нічога, Алесь. Нашы капіталы, што перайшлі сёння ў чужыя кішэні, не такія вялікія, каб аб іх вельмі многа гараваць. Але справа не ў гэтым: слізнякі мы, бязвольнікі, людзі без цвёрдага грунту. Вот дзе наша слабае месца! Мяне яно мучыць больш, чым паражэнне на «зялёным полі»... І вось-жа ведаеш, усведамляеш усё

гэта сабе і тым не меней робіш тое, ад чаго ты потым становішся праціўным сам сабе. Чаму гэта так?

— У чалавека многа такіх супярэчнасцей, — заўважыў Садовіч: — думаеш адно, а робіш другое. Ад гэтага і канфлікты вынікаюць з самім сабою.

— Ну, а скажы, Алесь: а каб мы з табой выйгралі — так рубельчыкаў па дваццаць, то якое тады было-б самапачуванне?

— Го! — басам выгукнуў Алесь, — тады, брат, мы-б казырамі ішлі, чорт пабяры! Нават каб нічога не выйгралі і не прайгралі, то і тады быў-бы другі каленкор.

— Значыць, тут усё залежыць ад вынікаў ігры. І стала быць, калі-б шанцавала ў карты, то іграў-бы і іграў, і ніякага там табе ні самааналізу, ні згрызот і нагул ніякага чорта... Дык гэта, брат, ужо шваха дзела!

Садовіч хацеў нешта сказаць, але ўвага яго звярнулася на штось іншае. А можа проста гаварыць аб гэтым не хацелася. Ён раптам спыніўся, набраў духу і, моцна падаўшы наперад грудзі, загукаў старанна, разлічана, у двух тонах, нават з замахам на некаторую музычнасць:

— Э-э-э-вуу!

Росны луг страсянуўся вільготным паветрам, падхапіў гэтае «э-ву», панёс яго ў лес, што стаяў досыць далёка за Нёмнам. Краем лесу пабегла задорыстае водгулле, прыціхла, а потым павярнула назад, бегучы другім крылом лесу, а нарэшце зусім заціхла на яго заломе.

— Хораша выходзіць! — забыўшы ўсё на свеце, захоплены гулкасцю і выразістасцю водгулля, прамовіў Садовіч і гукнуў яшчэ раз.

— А ну, давай гукнем разам!

Некалькі раз гукнулі хорам і слухалі, як разлягалася рэха і будзіла ранічны спакой маўклівых ваколіц.

— Вось дзе, брат, хараство! Прастор! А якое здаровае паветра! Ну, проста як-бы на свет нарадзіўся. Чуеш, як жыццё крыніцаю б'ецца ў кожнай тваёй жыле! — яшчэ ў большае захапленне прыходзіў Садовіч.

Мінуўшы масты, сябры павярнулі направа. Разуліся, бо дарога забірала ў лугі, а побач яе стаяла высокая росная трава. Басанож патрапалі далей, пахвальваючы і дарогу, і расу, і гэтую прыемнасць ступаць босымі нагамі па мяккай дарозе, і свежае ранічнае паветра.

Чым далей адыходзілі яны ад Панямоння, тым спакайней станавілася ў іх на сэрцы, тым з большаю сілаю паддаваліся яны чарам гэтай дарогі і яе малюнкаў. Адзін край лугу стыкаўся з лесам, уразаўся ў яго, адхоплівaючы дугаватыя лукі і павялічваючы свае травяністыя прасторы. І ўздоўж і ўпоперак перасякаўся ён вузкімі, доўгімі і глыбокімі тонямі, зарослымі аірам, сітняком, чаротамі і мяккімі ніцымі лозамі, дзе хаваліся розныя лугавыя птушкі. Срэбнаю стужкаю вывіваўся Нёман, то падыходзячы пад самы лес, падразаючы карэнне дрэвам, то бегучы сярэдзінаю лугу, вырысоўваючы прыгожыя лукі, то падступаючы к полю, апяразваючы бліскучым жывым паскам яго пясчаныя скаты. Сям-там па лугавых грудах раскідаліся барoдкі-кудзёркі дубовых астраўкоў, дзе буяў малады, сакавіты дубняк, кусты арэшніку, брызгліны, чаромхі і крушыны, а самая понізь засцілалася мяккаю лугавою канапелькаю, што зацвітае летам такімі прыгожымі сіненькімі кветачкамі... Эх, як прывольны прасторы наднямонскіх лугоў! Часамі над гэтымі прасторамі зялёнага мора, як вартаўнік, узнімаліся пышныя постаці адзінокіх дрэў, пераважна дубоў, параскіданых дзе-ні-дзе сярод лугу, а мясцамі і цэлыя дубовыя гаі. Многа тут для іх прастору і сонца. Ёсць дзе разгарнуцца іх магутным карэнням, камлям і галінам. Між гэтых дрэў асабліва кідалася ў вочы падарожнага старадрэвіна-хвоя, што стаяла на высокім грудзе непадалёку ад Нёмна. Яна звaрачала на сябе ўвагу і сваёю адзінокасцю, бо яна была тут зусім адна, і сваёю фігураю.

Тоўсты, гладкі, бы вытачаны, камель з карою накшталт адмысловай чарапіцы высока ўзнімаў верхавіну, заламаўшы яе на бок пад простым вуглом, а на гэтым заломе змайстраваў сабе бусел доўгавечнае гняздо. Ад яе адзінокае постаці, ад гэтай пахіленай у бок лесу верхавіны павявала нейкім смуткам, як-бы ўзлажыла яна цяжар на свае плечы і схіліла галаву пад гэтым цяжарам.

У лузе было пуста і бязлюдна. Адны толькі драчы не ведалі супачынку і не шкадавалі горла: адзін перад другім, схаваўшыся ў траве, лупілі яны свае аднагучныя

скрыпучыя песні, як-бы ўвесь сэнс іх складаўся з таго, каб перакрычаць адзін другога.

— Драч-драч! Драч-драч! — і так без канца, і так без адпачынку.

Пачынала развідняцца.

Няясныя постаці прыбярэжных кустоў усё больш і больш вырысоўваліся, выплывалі з ранічнага мроку, святлелі, развясельваліся, і шырэй разгортваліся прыгожыя краявіды, поўныя радаснага спакою і маўклівага задумення.

Дарога павярнула ўлева, пайшла грудамі, шчыльней тулячыся да Нёмна, дзе ён апісваў вельмі зграбную луку, падыходзячы к лесу. Уся гэта лука выглядала пышным старасвецкім садам, дзе замест пладовых дрэў раслі разложыстыя, дуплястыя, з асмаленымі жараламі дубы, убраныя чорнымі шапкамі буславых гнёздаў. Часамі гэтыя гнёзды, заціснутыя ў развіліны стромкіх аголеных шпянёў, высока ўзнятых над зялёнаю каронаю дуба, што пачынаў сохнуць зверху, здаваліся нейкімі дзіўнымі падлескамі над дубамі, бо самыя шпяні скрадваліся адлежнасцю і губляліся ў празрыстых хвалях паветра.

Не даходзячы да лукі, выгнуўшыся яшчэ раз каля лесу вельмі прыгожаю дугою, Нёман забіраў управа, пралёгшы роўнаю, бліскучаю стужкаю паміж лугамі і полем. На адным канцы дугі стаялі кучаравыя пышныя хвоі, звесіўшы над вадою махрыстыя галіны і аплёўшы пясчаны бераг цэлаю сеткаю смаляных карэнняў. За імі пачыналіся маладыя сакавітыя баравіны, перамешаныя з старым лесам. Там-сям з зялёнага мора маладога хвойніку высока ўзнімаліся парасоны-верхавіны хвой-старадрэвін, як-бы аглядаючы зялёныя прасторы свае маладое змены і цешачыся яе размахам і сакавітаю жыццёвасцю. І гэты маладых хвойнік, і гэты лес, і гэтыя хвоі зліваліся ў адну сцяну лесу, вырысоўваючы прыгожую вычварную лінію загібаў-паваротаў, разгортваючы сваё цёмназялёнае крыло і ахватваючы пясчанае поле, дзе раскінуліся маўклівыя пагоркі. А над усім над гэтым ляжала цішыня і спакой раніцы.

— Стой, брат Алесь, — спыніўся Лабановіч, захоплены гэтым спакоем раніцы і харавтвом таго, што было навакола, — ты паглядзі, што за слаўнота!

І паказаў рукою на ўсход, дзе скрозь проразі далёкага лесу прасвечваўся пазалочаны край неба, абмыты майскімі росамі, і разгортваліся цэлыя панарамы ўзгоркаў.

— Эх, што за мясціна! — пачаў Лабановіч і раптам перапыніў самога сябе. — Слухай, брат, слухай.

Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня лясной жаваранкі. Яна першая тут вітала наступанне дня, і песня яе расплывалася ў маўклівым паветры звонам тонкага дарагога металу, напаўняючы яснасінія разлогі надзем'я і глыбокую цішыню зямлі, агорнутай затоена-радаснаю задумлёнасцю. Здавалася, усё навокала занямела, зачараванае цудоўнымі тонамі песні гэтай вольнай пясняркі ўзлескаў і пясчаных пустак між лесу. Снуючыся высока ў небе, раняла яна мяккія, ласкавыя мелодыі, сатканыя са звону срэбраных струн, з булькання лясных ручайкоў, з зумкання пчаліных крыльцаў, шолаху красак. І ўсе гэтыя тоны сплятаюцца так гарманічна-своеасабліва ў песні лясной жаваранкі, што песня яе даходзіць да самых затоеных глыбінь сэрца і калыша самыя тонкія струны душы. Ніякая іншая пташка, нават праслаўлены салавей, не можа параўнацца ў сваіх спевах з песняю лясной жаваранкі. Толькі свае песні спявае яна ў бязлюдных мясцінах, дзе рэдка бывае чалавек, і мала хто чуе іх. Мелодыя-ж яе надзвычайна багатая, differentнастайная, дзівосна прыгожая і такая чоткая, такая выразная, што яе можна палажыць на ноты, а мастак-музыка, напэўна, можа выканаць яе на скрыпцы, але афарбоўкі яе тонаў не патрапіць перадаць ніякі музычны інструмент.

Лабановіч стаяў і слухаў, як прычараваны, гэты смутна-радасны гімн раніцы, што нейкім дзіўным водгуллем адбіваўся ў яго ўласным сэрцы. Яму здавалася, што ён ужо раз перажываў тое самае, што звінела і цяпер у яго душы, толькі ніяк не мог прыпомніць, калі гэта было. Ці гэта яму толькі снілася?

— З-за аднае такое раніцы варта не паспаць яшчэ адну ноч, — азваўся, нарэшце, ён і зірнуў на Садовіча, бо той ужо цягнуў яго за рукаў і некалькі разоў казаў:

— Пойдзем, брат.

І яны пайшлі.

У двух вярстах перад імі раскінулася іх роднае сяло Мікуцічы.

— Выспімся, брат Стары, пасля ўсіх гэтых згрызот, адпачнем, і тады будзеш думаць як і што.

— Не ўспамінай ты пра іх. Усё гэта трынь-трава. Мала што было — і гэта трэба перажыць. Для мяне ўся гэтая панямоншчына — проста як нейкі паскудны сон.

Чым бліжэй падыходзілі яны да сяла, тым з большаю ўладаю апаноўвалі іх думкі і настроі свайго сяла, і кожны з іх па-свойму перажываў іх.

— Ведаеш, брат, што: застануся я тут за настаўніка. Што ты на гэта скажаш, Стары?

— Чаму-ж табе так захацелася тут быць?

— Сваё, ведаеш, сяло, свае людзі. Буду працаваць для сваіх.

— А я на тваім месцы застаўся-б тут, — заўважыў Лабановіч.

— Чаму?

— Ды так, — мне тут нецікава. Усё даўно табе тут знаёма. А я люблю пабыць на новых мясцінах, сярод новых людзей.

— Не, брат Стары, тут і танней пражыць можна. Будзеш сабе сталавацца ў бацькі, можна і капейку прыхаваць. І тут ціха, спакусы няма, а я хачу сур'ёзна ўзяцца за навуку.

— Няўжо мы, Алесь, такія бязвольныя, што гэтых спакус не можам здолець? Бо гэта-ж ёсць прызнанне свайго бяссілля, раз ты баішся гэтых спакус.

— А на чорта змагацца з імі, калі іх можна ўнікнуць? Змаганне, ды яшчэ з няпэўным вынікам, патрабуе траты, непатрэбнай траты энергіі і будзе цёнгле замінаць рабіць тую ці іншую работу над сабою. А тут, у нашых Мікуцічах, нікога няма, хто пацягне цябе на карты, на п'янства... Не, брат, гэта ідэя! А месца тут якраз звальняецца. Падам прашэнне — і квіт.

— Ну, разумеецца, і тут будзеш жыць. Усё гэта справа густу, — тонам згоды адказвае Лабановіч; спрачацца не хацелася. — Можа ты і маеш рацыю. А калі ў цябе ёсць яшчэ і ахвота жыць тут, тым лепей. Хоць мець будзем летам штаб-кватэру.

Садовіч быў хлопец гарачы, борзда захапляўся новымі мыслямі і планамі.

— Ведаеш, брат, сур'ёзна: давай, каб не траціць часу, займемся падгатоўкаю! Да нас прыстануць яшчэ хлопцы... А то ведаеш? Зберамося чалавек пяць-шэсць, зложымся ды наймем яшчэ студыёзуса... Што скажаш на гэта?

— Трэба абмеркаваць, можа тваімі вуснамі прамудрасць глаголе.

Садовіч захапіўся новаю ідэяю і ўсю рэштку дарогі гаварыў аб ёй з высокім пафасам.

## IX

Не даходзячы трохі да сяла, прыяцелі развіталіся. Садовіч пайшоў далей адзін, а Лабановіч звярнуў з дарогі і накіраваўся на маленькі хутарок, што стаяў адзінока ў полі недалёка ад Нёмна. Тут жылі яго родныя.

Хутарок быў пабудаваны нядаўна, гадоў тры, на арандаванай скарбовай зямлі. Тры гады назад выгаралі Мікуцічы, і тады дзядзька Марцін надумаўся пабудавацца тут, дзе было прастарней і спакайней. За гэты час хутарок не паспеў яшчэ абсталявацца належным парадкам і меў досыць убогі і пустэльны выгляд, бо нават не было ніводнага дрэўца каля хаткі, хоць ямкі для іх і пакапаў дзядзька Марцін.

Сотнямі знаёмых вачэй зірнуў гэты хутарок на Лабановіча, зірнуў, здавалася, дакорліва, бо ён, Лабановіч, забыўся аб гэтай беднасці, аб гэтай пустэчы, заняты сабою, сваімі мыслямі, сваім замкнута-асабістым жыццём, хоць яшчэ летась меркавалі яны з дзядзькам Марцінам аб тым, каб завесці тут садок, а ў садку — пчольнік. Яму ўспомніліся такія-ж звароты яго дадому, калі ён вучыўся ў семінарыі, і мімаволі адчуў ён, што адразу папаў у самую сярэдзіну дамашняга клопату, скаргі на цяжкае жыццё, на беднасць, і радасць спаткання з роднымі астуджалася гэтымі адчуваннямі, што былі прыглухлі ў ім за час побыту па-за межамі роднага кутка, саступіўшы месца другім. І тут нейк само сабою ўспомнілася Панямонь і марная страта грошай, праўда, невялікіх, але ў

гэтай бядоце яны мелі-б значную сілу. А гэта ўсё разам яшчэ больш памацняла апалы настрой маладога настаўніка.

На хутарку дзень толькі што пачынаўся. Вароты ў гумне былі адчынены і адтуль даносілася прагавітазаядлае «хрум-хрум! хрум-хрум». Гэта дзядзька Марцін рэзаў сечку на саматужнай сячкарні, — відаць збіраўся ехаць араць папар.

Першы, хто заўважыў тут Лабановіча, быў сабака Шукай. Сарваўшыся з месца і кінуўшыся з злымі намерамі, пачаўшы сваё сабачае прывітанне моцным гаўканнем, якое звычайна накіроўваецца на незнаёмага чалавека, ён раптам сарваў злосны брэх, прыпыніўся на момант, каб лепей паўглядацца, завіляў хвастом і з радасным піскам кінуўся сустракаць госця. Спатканне з аднаго і з другога боку было самае шчырае. Шукай вішчаў, круціўся, скакаў, клаў свае лапы на грудзі Лабановіча, стараючыся лізнуць яго ў губы, што яму, нарэшце, і ўдалося і яшчэ больш павялічыла яго сабачую радасць.

Дзядзька Марцін кінуў рэзаць сечку і вышаў на прыгумень: па тону вішчання ён дагадаўся, што свой чалавек вітае на хутар. Угледзеўшы пляменніка, якога дзядзька Марцін вельмі любіў, ён засвяціўся радасцю і яшчэ загадзя расхіліў вусы, каб адвесці прастарнейшае месца пацалунку, шурпатаю далонню выцер губы і, стаўшы каля весніц, нарыхтаваўся як належыць спаткаць пляменніка. А маці ў гэты час дадойвала ў хляве карову. Яна адразу была падумала, што гэта іх Андрэй прыехаў на лета, бо і сон такі прысніўся ёй сёння. Яна спяшалася як мага хутчэй дадаіць, і ў той час, калі дзядзька Марцін на той бок веснічак вітаўся з пляменнікам, вышла з даёнкаю і, прыкрыўшы яе хвартухом, борздзенька пайшла ў сенцы і зараз-жа вярнулася, каб павітацца з сынам.

— Ну, здароў, Андрэй!

Дзядзька і пляменнік моцна абняліся.

— На ўсё лета прыехалі? — запытаўся дзядзька Марцін, зварачаючыся да пляменніка часамі на «вы».

— На ўсё лета... Ну, як здаровы і што ў вас добрага?

— Нічога, брат, жывем патрохі.

— Чамадан свой я пакінуў на вакзале, а сам пехатом пайшоў. Якраз і з Алесем Садовічам на станцыі з'ехаліся і разам дадому ішлі, — як-бы апраўдваўся Лабановіч за свой «парожні» выгляд.

Падышла маці.

— Сынок мой!.. вярнуўся!

Лабановіч пацалаваў яе руку.

— А я даю карову, чую — Шукай забрахаў і адразу сціх, вішчаць пачаў. Дык мне і цюкнула, што гэта напэўна ты..

Маці з некаторымі падрабязнасцямі апісала сваё адчуванне, што было ў ёй незадоўга перад гэтым, і нават сон расказала свой, ідучы ў хату разам з дзядзькам Марцінам і Андрэем. На парозе сустрэліся з Юзікам, меншым братам лабановічавым. Юзік быў адзеты пастухом, з пугаю і торбаю. Ён ішоў выганяць у поле каровы на раніцу.

— Здароў, Юзік! — павітаўся з ім старшы брат.

Юзік толькі ўсміхнуўся, павярнуўшы ў бок брата свой смуглы твар і паказаўшы рад белых зубоў. Нібы трохі засароміўся.

— Выганяй, выганяй, брат, быдла, — заўважыў дзядзька Марцін: — сонца, унь, ужо высока над лесам стаіць.

Хата была яшчэ не прыбрана, і не ўсе там паўставалі.

— У самы бярлог ты, сынок, папаў, — казала маці, якбы просячы гэтым прабачэння ў сына.

— Ды яшчэ-ж і рана, — азваўся Лабановіч.

— Спаць папрывыкалі доўга, — досыць строга прамовіў дзядзька Марцін і кінуў погляд у той куток, дзе ляжалі ў пасцелях яго пляменніцы, Маня і Насця.

— Параспешчвала іх маці: такія, пане мой, дзявухі!

Мані было ўжо гадоў шаснаццаць, а Насця гадоў на два малодшая.

— Ім-жа так хочацца паспаць, — заступілася за дачок маці: — маладзенькія яшчэ, напрацуюцца за свой век.

Ганна, маці Лабановіча, была жанчына добрая, працавітая, руплівая, усё старалася зрабіць сама, за ўсіх заступалася. Яна не раз плакала, будзячы Юзіка гнаць каровы, бо таму так хацелася паспаць. Хоць адну лішнюю

мінутку старалася яна прыбавіць на яго салодкі ранічны сон, а калі ён устане, то стаяла пры ім, памагала яму сабрацца і рабіла ўсё, што толькі можна зрабіць, каб улагодзіць сына.

— Змоладу трэба ў работу ўцягвацца, — стаяў на сваім дзядзька Марцін: — нябось, як вырастуць гультаямі, то дзякуй не скажуць табе за гэта.

Сказаўшы так, падышоў да пасцелі. Закрыўшыся з галавою ў коўдру, спаў яго самы меншы пляменнік Якуб, самы лепшы дзядзькаў прыяцель. Нахіліўся да яго дзядзька і стаў шаптаць яму штось на вуха. Якуб нешта буркнуў, а дзядзька Марцін зарагатаў самым шчырым смехам, пасля чаго сказаў:

— Якуб у мяне — чалавек. Гэта не Юзік. Таго трэба з музыкаю падымаць, а Якуб, як слова гаварыць, падымаецца, калі трэба. Гэта — першы гаспадар у доме.

Пахвалены Якуб — яму было гадоў шэсць — паказаў сваю галоўку з-пад коўдры, бліснуў на брата цёмнымі вочкамі, усміхнуўся ды зноў схаваўся пад коўдру.

— Мама! ідзі сюды, — паклікаў ён матку: яму трэба была нейкая адзежына, бо ён надумаўся ўставаць, каб апраўдаць сваю гаспадарчую рэпутацыю.

А дзядзька Марцін расказаў гэтым часам, як Якуб шукаў чарвякоў вудзіць з дзядзькам рыбу, адварочваў гнілякі, і калі пад імі чарвякоў не было, то сам сабе казаў:

— Тут тожа няма.

Здарэнне, здавалася-б, зусім мала выдатнае, але дзядзьку Марціну яно чамусь падабалася, а гэтае «тут тожа няма» выклікала ў ім усякі раз вясёлы смех.

Дзядзька Марцін быў яшчэ не стары чалавек. Зранку да самага вечара не выпускаў ён работы з рук. То на полі, то каля дома ўвіхаўся. А ў часіны больш-менш вольныя займаўся майстэрствам, што мела беспасрэдныя адносіны да спраў гаспадарскіх: то калёсы ладзіў, то саху правіў, у хляве ці ў гумне парадак рабіў, або ў хаце ці ў сенцах усякія рыштункі штукаваў. Проста сам што-небудзь выдумляе для большага парадку ў гаспадарстве. Кароткія перарывы паміж работаю выкарыстоўваў дзядзька Марцін для спраў рыбацкіх, балазе Нёман быў, як кажуць, пад самым бокам. А рыбацкая снасць — сет-

ка, нераткі, вуды — была адмысловая ў дзядзькі Марціна. У грыбныя часы, калі задажджыцца і работа спыніцца на полі, дзядзька Марцін браў каробку і хоць выхадзіць палавіну дня, затое-ж прынясе такіх баравікоў, што хоць іх вязі на выстаўку.

— Ну, браце, супачынь з дарогі, — я табе і палаткі ў гумне змайстраваў, — сказаў дзядзька Марцін да госця: — а я паеду паару трохі, думаем грэчку пад Клінамі засеяць.

Дзядзька Марцін паехаў араць, а Лабановіч некаторы час сядзеў і слухаў навіны дамашняга жыцця. Навіны-ж гэтыя нельга сказаць, каб былі вясёлыя. Наладзіць гаспадарку так цяжка. Зямля пустая, хоць і многа яе, параскідана «за светам», толькі тае карысці, што з зямлі каля дома. І гэтая зямля пустая, але-ж яе хоць угнаіць можна. Арэндная-ж плата падвышана, а плаціць няма з чаго. Сымон, старшы брат, вось ужо тры нядзелі як на плыты пайшоў. А якія заработкі плыты? Калі прынясе дзесяць рубельчыкаў, то і добра. А колькі нагаруецца, нацерпіцца. І з пашаю цесна, забаронена ўсюды, чуць дзе ступіць скаціна, зараз і штрафы плаці. Ну, словам, чым далей, тым горай. Наогул, нейк цяжэй стала жыць на свеце. А тут і дзяўчаты падрастаюць і адзенне ім трэба спраўляць.

Лабановіч усё гэта слухаў, хоць і цяжка было слухаць. Ён заўважыў, што маці пабляжэла за гэты час, відаць клопату многа і жывецца нялёгка. А перад гэтым клопатам знікаў яго ўласны. У глыбі сваёй душы ён папікаў сябе за тое, што нічым яшчэ не дапамог дома. Праўда, і памагчы было яму трудна, бо пенсія была невялікая, і за два апошнія месяцы ён і не браў яшчэ яе. І тут асвяціла яго думка — даць даверанасць знаёмаму крамніку Гэсалю, што ў Панямоні, на гэтую пенсію. Гэсаль з ахвотаю бярэцца за такія справы і хоць прыдзецца яму ўступіць значны процант, затое-ж без клопату можна дастаць рублёў трыццаць пяць. Дваццаць рублёў ён аддасць на гаспадарку, а рэшту пакіне сабе. На гэтай думцы ён зусім заспакоіўся і значна павесялеў. І гэта ён зробіць у бліжэйшы час. Можа нават заўтра сходзіць да Гэсаля.

— Ты, сынок, як-бы трохі пабляжэў, — заўважыла маці, прыглядаючыся да сына.

— Не, мама, гэта проста з дарогі, бо я дзве ночы не спаў.

— То ты, сынок, выпі свежанькага малачка ды ідзі засні ў гумне.

— Але, такі трэба трохі адпачыць.

Маці прынесла цэлы кубак малака. Якуб ужо ўстаў і пазіраў на брата.

— Ну, Якуб, дык многа назнаходзіў ты чарвей?

— Я цяпер ведаю, дзе іх трэба шукаць: на дрывотні пад трэскамі, — адказаў Якуб. — Вось калі Андрэй захоча, то ён у два мігі прынясе іх поўную бляшанку. Але рыба цяпер лепш бярэцца на аўсянікаў.

— А ведаеш, Андрэй, дзе многа рыбы?

— Ну, дзе?

— У Бервянцы. Там такая букта, што і прысам дна не дастанеш. Там можа хвоя схавацца!.. Вось там многа рыбы!

— Адкуль-жа ты ведаеш, што там яе многа?

— Я бачыў, як там яна плавае. І плюхае, страх як плюхае!

Якуб нешта ўспомніў і пачаў смяяцца.

— Чаго ты смяешся?

— Смешна было раз. Дзядзька вудзіў рыбу, а яна там як плюхне! Я кажу: дзядзька, унь рыба плюхнула! А дзядзька кажа: вось каб яшчэ плюхнула адна такая рыба, дык і квас быў-бы!

— Ну, годзе табе расказваць! Няхай Андрэй адпачываць ідзе, — сказала Маня: — я паслала ўжо табе на палатках у гумне, — звярнулася яна да Андрэя.

— Хадзі, я табе пакажу палаткі, — і Якуб павёў брата ў гумно. — Мы з дзядзькам майстравалі тут, — казаў, ідучы, Якуб.

Ён увесь час круціўся каля брата і шчабятаў сваім дзіцячым галаском.

— Што-ж ты цяпер будзеш рабіць? — запытаўся Андрэй.

— Пайду зараз да дзядзькі. Дзядзька казаў, што навучыць мяне араць.

— Пойдзем, Якубка: няхай Андрэй спіць.

Маня паклікала гаваркога Якуба і зачыніла вароты. Лабановіч раздзеўся і лёг на мяккую пасцель. Зму-

чанае дарогаю і бяссоннымі начамі цела даўно патрабавала адпачынку, але заснуць ён адразу не мог, бо вельмі многа было ўсялякіх уражанняў, і нервы ягоператаміліся, а мыслі нейк мітусіліся ў галаве і не паддаваліся ніякаму кантролю.

У гумне было досыць свежа і цемнавата, хоць з-пад шчыта сюды ўрываліся косы вясенняга сонца, а скрозь няшчыльна зложаныя сцены свяцілася яснае неба. З вясёлым шчабятаннем залятала сюды пара ластавачак, аблюбаваўшых сабе месца для гняздзечка, і парушала гэтую маўклівасць сялянскага зацішку. З поля сяды-тады даносілася пануканне дзядзькі Марціна. Каля Нёмна — а ён быў тут зусім блізка — пачулася якубава песня, а потым яго-ж імправізацыя:

> Нёман, Нёман дарагі,
> Залатыя берагі,
> Пацячы назад..

Добра Якубу! Ні згрызот, ні клопату. Вольны і шчаслівы, як гэты ясны прамень, як срэбраная нёманавая хваля, якою ён цяпер любуецца там. Парою сюды, у гумно, урываўся лёгкі ветрык, паварушваючы звіслыя са страхі нішчымныя каласкі і мастацкі сатканую павуціну на кроквах. Дзесь над гумном зазвінела песенька палявой жаўранкі... Знаёмыя, блізкія малюнкі-з'явы дамашняга побыту, родныя адгалоскі — павевы сялянскага жыццяклопату.

«Добра, што я дома», — мільганула ў Лабановіча думка-адчуванне, і ён заснуў моцным-моцным сном.

## X

Усё гэтае лета Лабановіч жыў дома. Нельга сказаць, каб яму тут было вельмі добра. Непрыемна перш за ўсё было адчуванне, што ён тут не такі, як усе, і што на яго ў доме пазіралі, як на чалавека іншага кругу. І як ён ні стараўся сцерці ўсякія граніцы паміж сабою і роднымі і цалкам зліцца з імі, жыць так, як жывуць і яны, яму гэта ніяк не ўдавалася, бо самі-ж родныя падтрымлівалі гэтыя граніцы. Калі ён уставаў разам з другімі, каб узяцца за якую-небудзь работу дома, то дзядзька або

маці заўважалі яму, што ён мог-бы паспаць і даўжэй, і не яго ўжо справа цягнуць гэтую гарапашніцкую лямку простых людзей.

— А хіба-ж я крывы? — пытаў Лабановіч.

— Крывы не крывы, а раўняцца з намі табе няма чаго. Не на тое-ж ты вучыўся, каб капацца ў гэтым смецці і брудзе.

А маці старалася і яду гатаваць яму лепшую, не зважаючы на яго пратэсты. Браты і сёстры таксама трымаліся здалёк ад яго, як-бы чужаліся і таілі ад яго сваё жыццё, свае патрэбы, і ён, нарэшце, пагадзіўся з роляю адгароджанага ад сям'і чалавека, што нейк рабілася само сабою натуральным парадкам. У сваю чаргу і ён замыкаўся ў сабе самім. Адзін толькі Якуб быў з ім за панібрата і знаёміў яго з кругам сваіх інтарэсаў, сваіх забавак і свайго дзіцячага жыцця, забаўляючы яго сваім несціханым шчэбетам.

Першыя часы побыту дома хадзіў ён па полі, што яны арандавалі ад скарбу, аглядаў засевы збожжа. Ён радаваўся, калі бачыў шнуры добрай збажыны ці бульбы і не згаджаўся з тою ацэнкаю іх, што рабілася дома, бо і ў мацеры і ў дзядзькі Марціна, як здавалася яму, заўважалася нахіленне зніжаць сапраўдны стан рэчаў.

Недалёка ад хаты была тут нізкая балоціна, дзе расла дзікая трава. Карысці з яе не было амаль ніякай, бо ні да пашы, ні да сенакосу яна не давалася: трудна было туды даступіцца. Між полем і гэтаю балоцінаю рос густы алешнік, раскінуўшыся па купінах, дзе прыкідалася маліна і смародзіна. У цені гэтага алешніку было вільготна. Чорная, як дзёгаць, гразь выглядала з-за высокага куп'я.

«А што, каб гэтай гразі нацягаць на поле», — думаў, ходзячы тут, Лабановіч. Поле-ж было пустое: капарні нагою — і жоўтага пяску дастанеш. — «Трэба будзе параіцца з дзядзькам Марцінам».

І ён пачаў меркаваць, як-бы можна было палепшыць зямлю. Сілы малавата, а перакапаць-бы зямлю на перавал ды навазіць у канаўкі гразі з алешніку, напэўна зямля паправілася-б, і расло-б тут збожжа, як лес.

Яго мыслі пайшлі далей у гэтым кірунку. Яго яшчэ

невялічкае жыццёвае дасведчанне казала яму аб нядбайнасці людской, аб закаранеласці форм людскога жыцця.

Вось хоць-бы і тутэйшы народ: бедны, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі, таўчэцца, кідаецца ў розныя бакі, шукаючы аддушыны, і мала хто знаходзіць яе. Зямлі мала, зямля неўраджайная, голы пясок. Усе-ж лепшыя землі належаць да скарбу. Адчуваецца вострая патрэба ў зямлі, а народ множыцца. Чым-жа можна палепшыць яго добрабыт? Каб людзі грамадою пасталі на работу, яны асушылі-б балоты, пазносілі-б пяскі з палёў, а балотны гной і яго ўраджайны грунт перанеслі-б на пясчанае поле — хапіла-б і хлеба, і сенакосу.

З рэальнага грунту разважання Лабановіч паволі з'ехаў у павабны край прыгожых мар. Ён бачыў сябе ў ролі чалавека, які здолеў заклікаць грамаду на новую дружную работу. Грамада асушае балоты, стварае новыя землі, праводзіць дарогі, абсаджвае іх пладовымі дрэвамі, робіць масты, будуе новыя дамы і пачынае жыць шчасліва і багата.

Аглядаючы двор і гаспадарскую надобу, ён спыніўся каля хлява: пад страхою ляжалі тры тоўстыя кавалкі чорнага дуба. Яшчэ летась улетку, купаючыся, напаткаў ён выпадкам гэты дуб у пяску на дне Нёмна. Пачаў тупаць каля яго, зацікавіўся знаходкаю. Прынёс рыдлёўку, стаў адкапваць. Работа пасувалася борзда, вада сама адносіла ўзварушаны пясок, і цела старога волата ўсё больш і больш выступала з зямлі. Чорны, як вугаль, тоўсты, роўны, гладкі дубовы стаўбур ляжаў упоперак Нёмна. Камель яго далёка ўваходзіў у высокі бераг, і адкапаць там яго было вельмі цяжка. Лабановіч з захапленнем увіхаўся каля гэтага дуба. Ён адчуваў тады нават нейкую радасць, выкапваючы на свет гэтага невядома калі пахаванага нябожчыка. І напэўна доўгі-доўгі час ляжаў ён на дне Нёмна, бо ніхто не памятае, калі тут раслі дубы — ніякіх слядоў ад іх не захавалі часы. Калі ўвесь стаўбур быў адкапаны, прынеслі пілу. Дзядзька Марцін таксама зацікавіўся дубам, і ўдвух пачалі яны даставаць яго. Дастаць яго цалкам ім было не пад сілу, прыйшлося пілаваць на тры часці. Пранятый вадою, ён лёгка, як морква, паддаваўся пілоўцы. Разрэзаныя ка-

валкі выкацілі на бераг, дзе яны прасохлі і сталі цвёрдыя, як косць.

І гэтыя тры таўшчэзныя кавалкі чорнага дуба, роўныя, гладкія, без ніводнага сучка, ляжаць пад страхою без ніякай карысці. Ляжаць без ніякага ўжывання, не гледзячы на сваю высокую вартасць. Ад сонца і ветру яны пакалоліся, парыжэлі. І трохі крыўдна рабілася цяпер Лабановічу, што дзядзька Марцін не паклапаціўся папілаваць яго на дошкі і скарыстаць гэты дарагі матэрыял. Не дуба гэтага шкада было яму, а крыўда брала за тое, што не выкарыстоўваецца тое багацце, што ляжыць каля нас, і мы не ўмеем даць яму належнага ходу.

— Нічога з іх ужо не будзе, брат: пакалоліся падлы, прыдзецца папілаваць на дровы.

Такі прысуд выносіў цяпер гэтым дубовым кавалкам дзядзька Марцін і як-бы ў апраўданне дадаў:

— Нам трэба было палажыць іх наўперад у гумно ды прыкрыць саломкаю, каб яны высыхалі павольненька — тады і не пакалоліся-б.

Праект-жа пляменніка — падвезці чорнай зямлі з алешніку на поле — дзядзька прызнаў вартым увагі — можа проста, каб не пакрыўдзіць «настаўніка», але... тут знайшлося сваё «але»: па-першае, на гэтую справу патрабуецца многа сілы, часу і працы. Ды гэта яшчэ нічога, можна было-б спрабаваць, а самая важная прычына, што перашкаджала такой рабоце, гэта тое, што зямля не іх, а арандаваная, і невядома, што будзе далей з арэндаю, бо скарб хоча пусціць гэтую зямлю на замену з канцамі сялянскіх шнуроў, што падыходзяць або ўкліняюцца ў скарбовы лес, каб такою заменаю акругліць княжыцкія лясы.

— Жывеш вось так з дня на дзень і нічога пэўнага не ведаеш. Можа яшчэ скажуць зносіць адгэтуль будынкі. Тады хоць вазьмі ды падпалі іх, а сам надзявай торбу ды ідзі жабраваць. Няма, брат, простаму чалавеку ні волі, ні разгону. Іх сіла і іх права. Служыў, служыў бацька ўвесь век, а памёр — сям'я куды хочаш дзявайся... І калі ім, халерам, канец той будзе? І ці будзе? Пачалася-б вайна ці якое ліха, можа-б людзям палёгка ці не была-б.

І жаліўся дзядзька Марцін, што ўсюды ўціск пачаўся. Куды ні кінься, усё ў панскія рукі пападзеш. Свет яны

ўвесь загарадзілі, а за простага чалавека ніхто не заступіцца.

Цяжка было слухаць гэтыя жальбы, бо ў іх была голая і горкая праўда. І як пагадзіць гэта ўсё з тым, што ўбівалася ў іх галавы ў семінарыі? Вучылі-ж там, дзяўблі на кожным кроку, як апякуецца царскі ўрад, царскае начальства і сам цар аб народзе, як гэты народ любіць свайго бацьку-цара, як ён заўсёды знаходзіць у яго і ласку і міласць. «Бог на небе, цар на зямлі» — вось тыя кіты, на якіх стаіць свет. І гэтыя-ж ідэі праводзіў праз школу і ён, Лабановіч. Скуль-жа гэтая няўвязка «навукі» і жыцця?

Лабановіч прыпамінае слова «соцыялісты». Ён першы раз чуў яго ў семінарыі ад аднаго таварыша з Навагрудчыны. Гаварылася яно ціха, шэптам, а самы-ж сэнс яго агортваўся нейкаю таямнічасцю, не выклікаючы рэальнага значэння. Гэта проста той прапашчы чалавек, які асмельваецца нядобра думаць аб цару.

Так праходзілі першыя дні побыту дома. У гэтыя дні Лабановіч нікуды не хадзіў з дому, снаваў па двары, па полі, хадзіў у лес у свае знаёмыя абходы, дзе ў грыбныя часы так любіў збіраць грыбы, але цяпер іх яшчэ не было. Хадзіў ён, хадзілі з ім і думкі яго, і яго мары і ўспаміны. Спакой і цішыня лясная так хіляць да такога думання. І тут, у гэтай адзіноце-глушы, неадступна хадзіў з ім і вобраз панны Ядвісі, чысты, недасяжны і бясконца мілы і дарагі. І дзе яна цяпер? Ці ўспамінае яго? І чаму ўсё-ж такі нічога не напісала, не сказала яму, куды паедзе? Няўжо яна не хоча знаць аб ім нічога? А можа там, у Хатовічах, у воласці ёсць пісьмо яму ад яе. Ён напіша пісьмо туды. Як добра, што такая думка прышла яму ў галаву. І ў сэрца прыходзіць надзея, што гэты ліст напэўна ёсць там, а дома, прышоўшы з лесу, ён піша да Дубейкі і просіць, каб усякая пошта перасылалася яму сюды. З гэтым лістом ідзе ён у Панямонь. Якраз і другую справу можна зрабіць — камерцыю з Гэсалем. З Панямоння вярнуўся ён значна павесялеўшым і падвесяліў у значнай меры і сваіх родных, бо дваццаць рублёў грошы для іх не малыя

Асталяваўшыся дома і знайшоўшы сабе работу, Лабановіч увайшоў у каляіну дамашняга жыцця. Чытаў,

аднаўляў у памяці навуку, набываў новую. Часамі падвячоркамі хадзіў у Мікуцічы, каб пабыць у кампаніі сваіх таварышаў, а летам іх тут ніколі не бракавала.

Мікуцічы — сяло вялікае, вядомае ва ўсёй акрузе. Стаіць на пясках каля Нёмна. Народ тут бедны, малазямельны. Жыць з гаспадаркі трудна, і мікуцічане перабіваюцца заработкамі. Але гэтых заработкаў мала. Зімою возяць калоды, вясною і летам ходзяць на сплаў — на згоны і на плыты. Жанкі і дзяўчаты збіраюць летам ягады і грыбы і гэтым трохі падзарабляюць на дамашні абыходак, а моладзь расходзіцца па свеце, каб выбіцца ў людзі і знайсці сабе кусок хлеба і бацькоў падтрымаць. Выб'ецца адзін, за ім цягнецца другі, памагаюць адзін другому. Чыгунка, тэлеграф, пошта, школы розных гатункаў, пачынаючы настаўніцкімі семінарыямі і канчаючы вышэйшай школаю, маюць сваіх прадстаўнікоў з Мікуціч. Такім парадкам, Мікуцічы маюць сваю інтэлігенцыю, пераважная большасць якой прыходзіцца на настаўніцтва, і гэтая група як найболей цесна звязвалася з сваім родным сялом.

Як толькі канчалася работа ў школах, настаўнікі з'язджаліся на лета да сваіх бацькоў. Гэты з'езд увайшоў нейк у традыцыю, дый дома пражыць танней, можна было не чапаць пенсіі за летнія месяцы, перабіцца на дамашнім хлебе і на бацькоўскім крупніку. У цяньку гумен і адрынак знаходзілі яны спакой душы і адпачынак целу. Хто гатовіўся ў настаўніцкія інстытуты, хто ўзбройваўся філасофіяй жыцця, хто лавіў рыбу на ўлонні прыроды, хто ўходжваўся каля гаспадаркі, памагаючы бацькам, а хто проста біў бібікі, але ў гарачы час сенакосу і жніва высыпалі яны на луг, на поле, і толькі ўжо самыя важныя і салідныя, прасякнутыя «панскім духам», упарта сядзелі пад сваімі стрэхамі. А калі хто і выходзіў у крытычны момант вязаць ячмень, то не іначай, як у пальчатках, даючы гэтым багатую страву для жартаў вясёлым мікуцічанам.

Вечарамі, калі спадала дзённая гарачыня, выходзілі настаўнікі халадком на шпацыр, хадзілі па вуліцах, а часамі збіраліся ў каго і ладзілі выпіўку. А некаторыя цішком наведваліся камор і сенечак, дзе мелі свае рэзідэнцыі абранніцы іх сэрца. Такія «абранніцы» называ-

лiся ў Мікуцічах «панскімі» дзяўчатамі, і гэты парадак рэчаў быў тут законным і натуральным. Але трудна было ступіць крок па лініі кахання, каб гэты крок не стаўся вядомым назаўтра ўсім у Мікуцічах.

Сярод настаўніцтва былі свае групы, якія складаліся на грунце тых ці іншых інтарэсаў. Настаўнікі болей сталыя, што ўжо мелі пэўную жыццёвую практыку і пабылі настаўнікамі па колькі гадоў, трымаліся свае кампаніі і на маладых глядзелі трохі звысока, як людзі больш дасведчаныя, больш развітыя і больш заможныя, калі толькі «заможнасць» наогул можна прылажыць да вясковага настаўніцтва.

Маладыя-ж настаўнікі лічылі сваім абавязкам сядытады зайсці да сваіх калег, каб пагаварыць з імі, а часамі і паспрачацца і паказаць ім, што і яны не лыкам шыты і казённую кашу не дарма елі. А ў Мікуцічах сцяг навукі і годнасць «развітога» чалавека трымаліся высока сярод настаўніцтва.

Першая пазіцыя, якую заваёўвалі яны ў сваім змаганні за права «развітога» чалавека, звычайна была рэлігія і бог. Можа ў гэтым выяўляўся іх пратэст супроць семінарска-папоўскага выхавання і славянскіх тэкстаў Філарэта, але хто не чытаў Бокля, Дарвіна і Дрэпера, той проста лічыўся невукам, чалавекам, які нічога не ведае і з якім няма аб чым гутарыць. Мікуціцкія гумны і адрынкі былі школамі бязбожніцтва і вольнадумства. З адрынак гэтае вольнадумства пераходзіла і пад стрэхі сялянскіх хат. Сталыя людзі наўперад з дакорамківалі галовамі, калі прачувалі аб якой-небудзь бязбожніцкай штучцы таго ці іншага настаўніка.

— Чаму-ж яны дзяцей навучаць, калі самі робяць нямаведама што?

А потым прывыкалі і гаварылі:

— А можа і сапраўды няма бога.

І нарэшце проста смяяліся, як вось і з гэтага здарэння з Іванком Перагудам.

Яго маці — богабаязная жанчына. Балела яе сэрца, што Іванок у царкву не ходзіць, а папа кудлатым чортам называе. А калі яго часамі запытаеш аб чым, то ён адкажа: «А чорт яго святы ведае».

— Ах, як ты нядобра гаворыш, сынок! Ты-ж такі настаўнік і сам павінен ведаць, што гэта — грэх.

— Што значыць «грэх»? — адказвае Іванок, — можа ты скажаш, што і сала есці ў пятніцу — грэх?

— А ты запытай у бацюшкі, што ён табе скажа.

Іванок зняважліва трасе галавою.

— Я буду пытацца ў гэтага валасатага асталопа!

— Пабойся бога, сынок! Што ты гаворыш! Ён-жа служка божы.

— Не баюся я таго, чаго на свеце няма.

— Дух святы з намі, матка найсвеншая!

Маці хрысціцца, узад падаецца, а Іванок нападае:

— А ты бачыла бога? Дык скажы, які ён! Да каго падобны: да каня ці да каровы?

Маці адступаецца ад сына і ціха шэпча «айчэ наш». Яна не можа забыць гэты цяжкі грэх яго. Тайком моліцца за яго богу.

— Сынок, — кажа яму праз некаторы час, — пайдзі ў цэркву, памаліся. На табе сараковачку, пастаў, сынок, свечачку ў цэркве.

Гэту саракоўку ён прапіў у адрынцы з сябрамі, а мацеры сказаў:

— Я табе, маці, потым пяць рублёў дам за тваю саракоўку, але цяпер я прапіў яе: лепей прапіць, як аддаць папу.

## XI

Каля самага сяла, падмываючы вуліцы, цячэ Нёман. Разложыстыя, круглаверхія вербы, узняўшы над вадою карэнне, абступаюць адхонны пясчаны бераг. На мікуціцкіх вуліцах — сыпучы пясок. Гразі тут амаль не бывае ніколі, але калі падымецца вецер, то цэлыя воблакі стаяць у паветры.

Шумна і гучна ўлетку на беразе Нёмна. Зранку і да самага вечара галышамі качаюцца тут дзеці, то ў пяску, то ў вадзе. Сотнямі гукаў разносіцца над Нёмнам плясканне пранікаў. Падаткнуўшы спадніцы і агаліўшы лыткі, выбіваюць палотны жанкі і дзяўчаты, беляць іх, рассцілаюць на беразе. У гэтым месцы Нёман мелкі і шы-

рокі. І ездзяць, і ходзяць, і скаціну ганяюць уброд. Цалюткі дзень снуюць тут людзі — старыя і малыя, хто за Нёман, хто з-за Нёмна. Перайсці-ж уброд летам — адна асалода. І калі ў мужчын ёсць яшчэ сякі-такі клопат — падкасацца або скінуць нагавіцы, калі вада ў Нёмне прыбудзе, то жанчыны ў гэтых адносінах зусім шчаслівы народ. Падымуцца на ходу, колькі трэба, і храбра рушацца ўброд, не зважаючы, ці ёсць тут хто, ці не, глядзяць на іх, ці не глядзяць. Часамі-ж некаторыя смелыя і рызыкоўныя асобы, асабліва, калі на беразе ёсць гледачы, сумыслу нарыхтуюцца брысці так, як-бы тут вельмі глыбока і можна падумаць, што вада зойме іх па самыя пахі, хоць вышэй кален яна не даходзіць. Бывала і жартамі перакінуцца ў такіх выпадках па істоце справы, а часам які-небудзь Гілерык, чалавек сталых год, і заўвагу зробіць, выняўшы люльку з зубоў: «Апусціла-б хоць ніжэй спадніцу», — а сам пры гэтым сарамліва ўбок адвернецца. А калі яго закраналі смехам, то, каб у даўгу не быць, так адзавецца:

— Пацягнуць-бы бясстыдніцу цыбуком, то шанавалася-б. Казырыцца чорт ведае чым!

Па той бок Нёмна лугі ідуць, а за лугамі — лес і поле. Вярсты дзве будзе да поля. Ляжыць чорная грэбля ўпоперак лугу, адным канцом да Нёмна даходзіць, другім — у поле ўпіраецца. Вось гэта грэбля — бяда і гора мікуціцкае. Покі праедзеш яе — духі вытрасеш і кішкі збоўтаеш, а ў мокрае лета і каня ўгрузіш, і сам, як д'ябал, у гразі выкачаешся. І снасць ламалі тут, і жывёлу калечылі. Паганая грэбля, каб яе і людзі не зналі. Пракліналі гэтую грэблю — так-жа ўелася яна ў косці. А колісь тут, як расказваюць старыя людзі, праўда, самі яны не помняць, быў мост. І цяпер яшчэ сям-там па баках грэблі засталіся рэшткі паляў, і тырчаць яны з гразі, як згніўшыя зубы ў сківіцы. Але мост гэты быў знішчаны ў часе Шведскага Палення. Жыве яшчэ ў памяці народа гэтая вайна са шведамі. Нават імя сваё мае ў вуснах народа гэтая вайна — Шведскае Паленне. Вось і спалілі тады шведы мост. Вялікія бойкі адбываліся тут. А над самым Нёмнам, вышэй трохі сяла, ёсць курган-магіла. Размывае Нёман грудзі гэтай невядомай магілы, вымывае чалавечыя чарапы і старасвецкую зброю. І перадаюць мацяркі

сваім дзецям аб гэтай страшнай часіне Шведскага Палення. Многа тады народа пабіта было, а будынкі папалілі. Людзі па лясах таіліся. І кідаліся шведы на хітрыкі. Гукалі яны ў лесе:

— Таццяна, Мар'яна! выходзьце з лесу: шведы дадому паехалі.

І калі хто выходзіў на голас, таго забіралі і забівалі. Многа было пабіта народа тады, і жывёла амаль уся перавялася. У Мікуцічах застаўся адзін толькі бык, а ў Сверынаве — карова. Сабралі гэтую пару людзі потым і аралі на ёй. Але нарэшце пакараў бог шведаў за здзекі над людзьмі — асляпіў іх, і калі садзіліся яны вярхом, то садзіліся тварам да конскага заду, і тады іх пабілі.

Такая легенда звязвалася з грэбляю і з даўнейшым мастом, што быў на месцы гэтай грэблі.

Крайнім будынкам ад Нёмна процiў броду была старая карчма на высозным падмурку. Калісь гэта быў вір сялянскага жыцця, і не адна мікуціцкая душа захлынулася ў гэтым віры. З таго часу, як увялі манапольку, карчма заняпала, а потым згарэла. Але па старой прывычцы збіраўся тут народ, як на старадаўняе веча, дзе вырашаліся сялянскія справы і разважаліся розныя пытанні мікуцічанскага побыту.

Мікуцічане — народ грамадскі, любіць пагутарыць аб розных розпасцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасцях жыцця, аб тым, што нешта на свеце робіцца і нешта гатуецца і што павінна нешта адбыцца, бо далей так жыць нельга. Прагавіта прыслухоўваліся да розных чутак, часамі выдумлялі іх самі і на іх аснове стваралі такія рэчы, што самі пачыналі палохацца іх, а потым самі-ж дапякалі сябе смехам. Стаіць, бывала, грамада, а перад ёю за Нёмнам, як нейкая гадзюка, ляжыць гэтая праклятая чорная грэбля, дыхнуць вольна не дае. Многа было аб ёй гутарак, сварыліся з-за яе, калі справа заходзіла аб тым, каб яе падправіць. Бывала, так-сяк і збяруцца для рэпарацыі і падправяць сям-там, але такая рэпарацыя мала давала карысці, і грэбля як была, так і заставалася іх бядою.

Праўда, не заўсёды гэтая грэбля з аднакаю сілай бунтавала сялянскія душы. Часамі аб ёй зусім нават за-

бывалі, і толькі ў часе касьбы і жніва, калі трэба было ездзіць з вазамі, аб ёй думалі, яе праклінаалі, з-за яе сварыліся.

Жыла гэта грэбля і ў думках грамады і ў мыслях паасобных членаў яе. Жыла, як заноза ў целе.

Лабановіч не раз чуў размовы аб гэтай грэблі і скаргі на яе як з боку дзядзькі Марціна, так і з боку грамады. Не раз і сам хадзіў па ёй пехатом і ездзіў з возам. Не раз перадрыжэў ён тут, везучы снапы ці сена, каб не абярнуцца з возам. У яго памяці абуджаліся ўспаміны аб легендзе, што звязвалася з грэбляю, і аб розных пабаюшках, створаных напалоханай фантазіяй цёмнага чалавека ў звязку з гэтаю-ж грэбляю, бо было на ёй і страшнае месца, адкуль часамі выбягаў нехта ў чырвоным з пугаю ў руках і шалёстаў па вушах таго, хто позна ехаў з поля, як гэта было раз са Стасечкам.

Дзіўным здавалася Лабановічу, што такое вялікае сяло, як Мікуцічы, не можа справіцца з грэбляю. Ну, што-б значыла сялянам адвесці, ну, тыдзень, два часу, каб адвінуцца і збыць гэтую злыбеду? Няўжо так цяжка грамадою выкапаць побач грэблі канавы, падвезці пяску і камення, падняць яе, насыпаць, зараўняць, утрамбаваць. Пяску-ж, куды не павярніся, цэлыя горы. Каменнем завалены межы. Цэлыя рэчкі каменняў, паскіданых з поля, цягнуцца побач дарогі. І рабочых рук стае, і матэрыял пад рукамі, няма толькі рукі, што паставіла-б на грамадскую работу сяло.

І вось гэтым летам, калі ў галаве Лабановіча спелі розныя праекты палепшыць людское жыццё, падняў ён раз пытанне аб грэблі сярод настаўнікаў свайго сяла. Чалавек з дзесяць настаўнікаў сабралася ў гумне Іванка Перагуда... Сам Іванок ляжаў у сваім логаве, змяўшы нагамі даматканую коўдру і збіўшы падушку ў нейкі брудны камяк. Валасы яго, даўно нястрыжаныя, ускудлачыліся і, як купіна, ляжалі на падушцы. Настаўнікі размясціліся, як дзе папала. Каля пасцелі стаяў кволенькі столік, на стале было некалькі кніг, пустая папяровая скрынка ад гільз ды пара акуркаў.

Іванок Перагуд карыстаўся тут славаю дзівака і філасафа. Асноўная формула яго філасофіі казала: «Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе». Праўда, у яго было многа

напускнога, і ён трохі фарсіў сваім дзівацтвам. Наогулжа быў добрым работнікам ў школе і вясёлым чалавекам у кампаніі.

Былі тут розныя групы настаўнікаў. Старэйшыя вялі рэй, а маладыя толькі прыслухоўваліся ды падавалі рэплікі.

— І вось што цікава, і гэта трэба адзначыць, хлопцы, — гаварыў Міхась Лабада, настаўнік з пяцігадовым стажам: — сярод нашых мікуцічан ніводнага злодзея няма.

Настаўнікі былі прыемна здзіўлены. І праўда: няма тут злодзея.

— Гэта, братцы, варта таго, каб залатымі літарамі занесці ў гісторыю нашага сяла, — азваўся прыяцель Лабады, Ігнат Курган.

— Так, гэта рэдкасць, — загулі галасы.

— Бо тут і ўкрасці няма чаго, і гэтая мікуціцкая галота няздольна выгадаваць злодзея, — азваўся з свайго логава Іванок.

І ўсе засмяяліся.

— Не, брат, стой! — з жарам выступіў Садовіч, — а Язэп Малюк...

— О ты чорт! — нібы напусціўся на яго Курган, — абедню псуеш. Ды і што Язэп? Ён тут не жыве і тут ніводнага цвічка не ўкраў і, такім парадкам, не парушае агульнай гармоніі чэснасці нашага сяла.

— Праўда! — падхапілі настаўнікі.

Язэп Малюк паяўляўся ў Мікуцічах разы са два, а цяпер аб ім ніякіх чутак няма.

— Я вам раскажу пра Язэпа, — сказаў Курган: — як быў ён тут апошні раз, паехаў ён з нашымі мікуцічанамі ў Панямонь. А ён чалавек спрытны, адзеты на гарадскі лад, манеры ў яго, як у пана. «Чый-жа гэта такі?» — дзівяцца людзі. «А гэта наш — мікуціцкі», — адказваюць мікуцічане. Рады яны, што іх чалавек такі спрытны. Аж праз некалькі хвілін злавілі Язэпа на кражы. Вядуць. «Хто-ж гэта такі? Чый ён?» — пытаюцца людзі. «Нашы мікуцічане адказваюць: «А чорт яго ведае, чый ён там».

Калі гутарка скіравалася на сяло, то Лабановіч улучыў момант, каб паравесці размову на грэблю.

— Ведаеце, хлопцы, што? Вот мы тут успамінаем усякія, праўда, вельмі цікавыя, драбніцы. А варта было-б грэблю наладзіць. Усім яна ў косці ўелася і ўсе адчуваюць, што грэблю трэба наладзіць, так наладзіць, каб яна перастала быць занозаю ў жыцці сяла... Давайце паднімем народ на работу!

Ён хацеў сказаць болей, што зрабіць добрую грэблю зусім не цяжка пры дружнай рабоце грамады, але трохі саромеўся старэйшых таварышаў і адчуваў сябе ў іх кампаніі не зусім упэўнена

— Ты што-ж? Хочаш быць Оберлінам? — запытаў яго Лабада.

— Не мяшайся ў жыццё, — заўважыў з логава Іванок, — няхай яно ідзе, як ідзе. Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе.

— Тут, брат, трэба ўмяшанне начальства, наказ строгі і сур'ёзны, а цябе ніхто не паслухае, — дадаў Курган дзелавіта.

— Распанелі вы і не хочаце пальцам паварушыць, каб зрабіць добрую справу, — жартам адказаў Лабановіч і сціх. Але яму было як-бы трохі крыўдна за сваё выступленне, а гутарка павялася на іншыя тэмы. Ну, што-ж? Ён зробіць гэта і без іх. Болей ён не чапаў ужо гэтага пытання, бо відаць было, што ніхто не прыдаваў тут сур'ёзнага значэння таму праекту, з якім ён так няўдала высунуўся.

Кожны, хто хацеў-бы пагутарыць з мікуцічанамі, заўсёды знойдзе сярод іх уважных слухачоў, асабліва ў святы дзень і ў пагоду. Падсядзь толькі да двухтрох чалавек на прызбе, толькі расчыні рот і скажы некалькі слоў, як зараз-жа каля цябе пачнуць збірацца людзі, і праз поўгадзіны іх назбіраецца не адна сотня. Вось і на гэты раз каля хаты дзядзькі Базыля, на горцы, адкуль так добра відаць і брод і грэбля за Нёмнам, сабраліся мікуцічане. Між імі быў і Лабановіч. Гутарка зачалася з Палесся. Лабановіч расказаў некалькі смешных здарэнняў з цельшынскага жыцця, як палешукі свята згубілі і як яны прычашчаліся пасля споведзі.

Мікуцічане слухалі і смяяліся.

— Дык яны, падлы, дзікія, — заўважыў дзядзька Сымон: — я раз бачыў іх. У Нясвіжы лесніка-палешука бачыў. Валасы доўгія, бы ў папа. Узялі яго ды астрыглі на калена. Ото-ж ён гараваў! Хватаўся за галаву і ўсё казаў:

— Што-ж мне зробілы? Як-жа я покажуса на родыму? Скажуць — таўкач та і ўсэ.

— Але паміж імі і, скажам, намі, мікуцічанамі, ёсць многа падобнага і агульнага, — заступіўся Лабановіч за палешукоў.

— У чым-жа? — пацікавіўся дзядзька Яхім.

— А вось у чым. Там, у Цельшыне, страшна гразі многа, не вылезці, праз вуліцу нельга перайсці ў мокрае надвор'е. Двары-ж і вуліцы бярвеннем завалены. І нікому ў галаву не прыдзе палажыць кладку каля хаты. Гаварыў я з імі аб гэтым не раз, а яны хоць-бы што. «А, — кажуць, — мы ўжо да гэтага прывыклі, спрадвеку так у нас вядзецца». А вы-ж паглядзіце — бачыце? — Лабановіч паказвае на грэблю, — ці не тое самае?

— Верна, брат, — чуюцца галасы.

— Дык яна, падла, вялікая! Гэта не тое, што бервяно выкаціць з двара на вуліцу, каб палажыць кладку, — апраўдваецца дзядзька Сымон. Не хоча, відаць, у адзін рад з палешукамі стаць.

— Але праехаць з возам па грэблі гэта не тое, што прайсці пешкам па гразкай вуліцы.

— Што казаць! вось дзе сядзіць яна, гэтая грэбля. — Дзядзька Базыль паказвае на горла.

— Вось я сумыслу і пачаў з палешукоў, каб пагаварыць аб грэблі. Па праўдзе: як гэта вы цярпіце да гэтага часу такое ліха, як наша грэбля? Такое вялікае сяло, столькі рук, столькі сілы! Кінуліся-б гуртом — хто пяску падвёз-бы, хто камянёў, — імі поле, дарогі завалены, — хто вышаў-бы з рыдлёўкаю, хто з сякераю... Тыдзень часу, і грэбля была-б, як яечка.

— Каб-жа гэта дружна ўзяліся, — гудзе голас.

— Гэта, брат, не так лёгка, — выступіў стары Сёмка, краснабай і заядлы курэц. Ён так прасяк сосам, што яго можна за поўвярсты носам знюхаць.

— Зрабі ты найлепшую грэблю, а выльецца вясною вада і сапрэ тваю грэблю к чортавай матары.

Тут падняўся шум. Некаторыя стаялі за тое, што грэблю можна зрабіць вечную. Уся бяда ў тым, што народ на работу не падымеш, бо нядбайны. Другія даводзілі, што з гэтае грэблі толку не будзе. Тут мост рабіць трэба, лес вазіць, майстраў ставіць. Часамі завязвалася паміж некаторымі сварка. Вось, напрыклад, Сцяцок — колькі працаваў на грэблі, а Гаронім туляўся, як сабака ад мух.

— Вы ніколі і не браліся дружна, грамадою, і не ведаеце, якая вы сіла ў дружнай грамадзе. Хто-ж за вас рабіць будзе? І для каго вы будзеце рабіць?

— Мы гэта, брат, ведаем, ды вось рады не можам даць. Калі-б прыехаў прыстаў з бізуном ды даў-бы перцу, то паставіў-бы ўсіх на работу, — кажа стары Гілёрык.

Мікуцічане гудуць. Выплываюць розныя крыўды, непаразуменні, успамінаюцца старыя прарэхі сялянскага жыцця, аб грэблі перастаюць зусім гаварыць.

Некаторы час Лабановіч і ў сяле не паказваецца, бо нейк прыкра было слухаць насмешкі сяброў.

## XII

Канчалася лета.

На лугах ужо рассцілалася зялёнымі аксамітамі пяшчотна-кволая атава. Парыжэлі стагі. Збіраліся ў вырай буслы. Агорнутыя сіняватаю смугою, журботна пазіралі далечы і ніклі ў святле жнівеньскага сонца.

Пачалі раз'язджацца з летніх вакацый настаўнікі. — Пажыў, брат, і годзе: збірайся на сваё седала! — У гэтым голасе восені чуваць нейкі смутак, бо, здаецца, так нядаўна яшчэ гучэў другі голас, радасны, свежы голас вясны: разгарні крылле, рушся з месца, ляці на прастор, жыві, як толькі ты здолен жыць.

Назначыў сабе дзень ад'езду і Лабановіч.

Дубейка пераслаў яму пошту, але таго пісьма, якога так прагна чакаў, аб якім так многа думаў і аб якім не гаварыў нікому, а толькі насіў у сваім сэрцы, не было і не было. І не будзе. Лета прайшло, прайшла і надзея. Ну

што-ж? Пажартавала дзяўчына, а цяпер гэтыя жарты прайшлі ў яе там; у глушы, дзе апроч яго, нікога не было, можна было і з ім пажартаваць, пасмяяцца з яго, дурнога. Але такі канец, такі вывад спакою не дасць, не, не дасць!

Нядаўна прышоў да яго казённы пакет — назначэнне ў Выганскую школу. Углядаўся Лабановіч у гэтае слова: якраз яно і падыходзіць яму. Проста аж нейк дзіўна трохі, бо ў гэтым слове чуецца яму як-бы нейкае выгнанне. І чаму ў гэтым «выгнанні» чуваць сугучныя акорды яго сэрцу? Што выгнана з яго? Хто выгнаў?

Ён думаў і аб сваёй новай школе. І гэтая школа, і гэтыя Выганы, аб якіх ён ніколі раней не чуў, уплятаюцца ў яго жыццё, прадстаўляюцца ў тых няясна-прывабных тонах-абрысах, што так прыгожы здалёк, але ніколі не супадаюць з рэчаіснасцю. І аднаго гэтага паэтычнага вобразу новага месца было мала. Пайшоў у Мікуцічы ў школу, каб знайсці на карце свае Выганы, якія там ёсць болей значныя пункты. Настаўнікі амаль усе раз'ехаліся, і ніхто не дасць яму справўкі аб яго новай школе.

Зайшоў да Садовіча. Хацелася-б з прыяцелем падзяліцца навіною. Садовіч таксама чакаў новага назначэння. Нечакана спаткаў Лабановіч там і другога свайго таварыша па семінарыі Янку Тукалу. Гэта быў замкнуты ў сабе юнак, круглагаловы, бялявы, з задраным трохі ўгору носам і шэрымі вачамі. У семінарыі ён стараніўся ад сваіх таварышаў і ўсё нешта думаў. Што займала яго мыслі, ён нікому не гаварыў. У яго душы, відаць, адбываўся нейкі балючы працэс, і ён перажываў яго моўчкі, патаемна. Часамі ўдавалася яго разварушыць, і тады ён рабіўся вясёлым, жартлівым, здольным усіх захапіць сваімі жартамі, і сам смяяўся такім заразлівым смехам, што нельга было не паддацца яму.

Выпадкам ён адкрыў у сябе адну ўласцівасць. Было гэта на другім курсе. Тукала заўсёды быў каротка астрыжаны. Валасы ў яго былі жорсткія, стаялі тырчаком. Раз, кладучыся спаць, знімаў ён суконную кашулю. Шаргануўшы ёю па валасах, ён пачуў нейкі дзіўны трэск і зацікавіўся. Шарганаў яшчэ раз, зноў пачуўся той-жа трэск.

— Гэй, хлопцы, — гукнуў ён, накрыўшы галаву кашуляю, — ідзіце сюды — у мяне, аказваецца, не галава, а машына электрычная!

Вакол Янкі збілася чалавек з дваццаць семінарыстаў. Затаіўшы дыханне, слухалі трэск у яго валасах, калі па іх шоргала кашуля, а потым заліваліся дружным рогатам.

— Плаціце, пся маць ваша, грошы, — смяяўся і сам Янка, забаўляючы таварышаў.

І вось гэты самы Янка Тукала стаяў цяпер каля гумна, дзе пасяліўся на лета Садовіч.

— Янка! ты-ж гэта адкуль узяўся?.. — здзівіўся Лабановіч і трос янкаву руку.

— Дзён майго вандроўніцтва сто сорак, — нейкім біблейным тонам адгукнуўся Тукала: — абышоў я 4 ветры зямлі, узважыў чалавечае жыццё і знайшоў, што яно падобна быдлячым ляпёшкам, параскіданым па выганах.

— Бадай-жа ты згарэў з сваім вывадам, — смяяліся яго сябры.

— Га-га-га! — рагатаў Садовіч, — ты ведаеш, — звярнуўся ён да Лабановіча, — ён-жа святым хацеў быць — на Валаам ездзіў бога шукаць!

— Не можа быць!

Янка вінавата пасміхаўся і не пярэчыў. Лабановіч і Садовіч пазіралі на яго і рагаталі.

— Чаго вы рагочаце, вельзевулавы дзеці?

— Бадай-жа ты згарэў, Янка: святым хацеў зрабіцца!

— Чхаць я хачу на святых — баста! Не знайшоў я тут праўды і болей шукаць яе там не буду. А цяпер помсціцца пачну: сцеражыцеся, багі, бедната гуляе, — перайначыў ён верш Нікіціна. — Жыў я, браткі, адзін. Глуш, нікога няма, часу многа. Начытаўся я ўсялякай душазбавеннай дрэні, і пацягнула мяне пад царкоўныя сцены, у кусты сівабародага Іеговы. Пасціў, брат, збіраў грошы, каб на Валаам паехаць. А скончыў я тым, што, вярнуўшыся, прынёс такую ахвяру святым у асобе Мікалая ўгодніка, якой ніякі жрэц на свеце не прыносіў.

І расказаў аб пакасці, якую зрабіў ён перад абразом «Мікалая цудатворца».

— У цябе, брат, усё крайнасці, няхай ты згары, — заўважыў са смехам Садовіч.

— Трэба-ж нейкі агул падвесці пяройдзенаму кругу і тычку паставіць, — смяяўся Янка. — Не, браткі, цяпер я хачу жыць па-другому. Годзе гэтага лайдацтва. У другія гарызонты пераведу я вочы свае, і перш за ўсё — месца перамяніць трэба, хоць з другога боку — не месца красіць чалавека, а чалавек месца. Я хачу басавым суседам быць, а яшчэ лепш — у адну школу з кім-небудзь з вас папасці, бо калі я адзін, я зноў нейкае глупства зраблю — натура мая такая сабачая. Думкі ўсё нейкія ў галаву маю лезуць.

— А я, хлопцы, пераведзены ў другое месца, — пераняў Янку Лабановіч: — у Выганскую школу.

— Цябе ўжо, як нейкую скаціну, пагналі на выган, — пажартаваў Янка.

— Гэта напэўна святы Мікалай памыліўся і замест цябе мяне пакараў.

— Ён яшчэ, глядзі, і мне каб фефару не задаў. Чорт яго, брат, ведае.

Пажартавалі трохі сябры, а потым пачалі гаварыць аб сваіх школах, пераводах, аб сваіх адносінах да так званай інтэлігенцыі, з якою прыходзілася жыць.

— Можа яны шчаслівейшыя за нас, усе тыя, што ў карты іграюць і гарэлку п'юць? Ім гэта люба, у гэтым іх радасць, і яны ніякіх чартоў знаць не хочуць. А я дык і піць не хачу — праціўна! Карты не горнуць мяне, а дзяўчаты хоць і хіляць, але я з сваім «імбрычкам», — так назваў Янка свой нос, — саромеюся паткнуцца да іх: мне ўсё здаецца, што яны смяюцца з мяне. Што-ж мне рабіць? — пытаў Янка. Сур'ёзнае і жартлівае перамешвалася ў яго прамове. — Я пачынаю думаць, да ўсяго падыходзіць з нейкаю меркаю ацэнкі, але гэтай меркі ў мяне няма. Сёння яна — мерка, а заўтра — глупства, і я сам адмяняю яе, сваёю ўласнаю рукою. Я кідаюся ад аднае тэорыі да другой, бяруся за адно, хватаюся за другое і ўсюды адстаю. Чытаеш адну кнігу, здаецца — тут праўда. Возьмешся за другую, і з ёю згаджаешся. Цяпер вось захапіўся Ніцшэ «Так казаў Заратустра», і мне хочацца быць «надчалавекам», чорт вазьмі! А калі строга падумаць, то выходзіць, што ты проста чалавек з

пакалечанымі семінарскім выхаваннем мазгамі. Я, аб вас я не адважваюся гаварыць гэта, хоць і вы, напэўна, такія-ж хісткія, як і я, я — дрэва ў полі, што хіліць галіны туды, куды вецер дзьме.

— Ну, гэта — вельмі песімістычнае прызнанне, Янка, — азваўся Садовіч.

— Янка, дарагі! — руку, брат!

— Ты, значыцца, згаджаешся са мною? — і Янка са здзіўленнем паглядзеў на Лабановіча.

— А ні на валасок, — адказаў Лабановіч, — дый у чым з табою згаджацца? Ні да якога-ж заключэння ты не прышоў, ты толькі паказаўся з новага для мяне боку. Але я люблю цябе за пакуту тваю, як гэта сказана ў Дастаеўскага, за тое, што ты не стаіш на месцы, што ты мітусішся, праўды шукаеш і «хочаш сваёй пагібелі» — так-жа казаў Заратустра. Няхай мы — тыя дрэвы ў полі, што стаяць пад ветрам, няхай нахіляюцца галіны іх у той бок, куды дзьме вецер. Але-ж ветры веюць з розных старон, і галіны хіляцца і туды, і сюды. Але здаровае, моцнае дрэва будзе стаяць роўна, а галіны яго больш нахіляцца ў той бок, адкуль свеціць сонца. Штука-ж уся ў тым, як намацаць галінамі гэтае сонца.

— Ты ўжо, я чуў, намацваў «галінамі сонца», калі думаў падняць мікуцічанаў зрабіць грэблю за Нёмнам? — запытаў, смеючыся, Янка.

— Дык і ты намацваў гэтае самае сонца, калі думаў знайсці яго ў валаамскіх манастырах! — заступіўся за Лабановіча Садовіч.

— Падняць сяло, зрабіць добрую грэблю, па-мойму, у тысячу разоў важней, чым блытацца пад кустамі сівабародага Іеговы, як ты казаў. Але я цябе за гэта не асуджаю і не смяюся. А што не ўдалося падняць сялян, каб зрабіць самім-жа ім карысную работу, то гэта не значыць яшчэ, што іх наогул не падымеш і падымаць не трэба: не падняў цяпер, падымеш потым. Дый брацца за гэта трэба можа нейк трохі не так. Трэба лічыцца з тым, што народ малакультурны, кансерватыўны, не ўмее цаніць сваіх грамадскіх інтарэсаў і не прывык выступаць грамадою. Але-ж яму трэба гэта гаварыць, будзіць яго, катурхаць. І, па-мойму, гэта ёсць наш абавязак...

Але што гаварыць аб народзе, калі настаўнікі не разумеюць гэтага!

— Праўда, брат,—сказаў Садовіч:—народ наш спіць, воля яго спаралізавана, у яго многа нянек, апекуноў, з яго рук выбіта ўсялякая ініцыятыва... Вось дзе карэнне яго бяды... Я, хлопцы, вельмі задаволены, што мы спаткаліся і пагаварылі. Праўда, мы, як у лесе, ходзім вобмацкам, як сляпыя. Мы павінны перш за ўсё шчыльней адзін аднаго трымацца, каб разам выбіцца на нейкую дарогу, павінны падганяць самі сябе, каб не заснуць і не ўгразнуць у балоце. Я цвёрда намерыўся тут застацца. Янка будзе маім блізкім суседам. Вось шкада толькі, што ты, Андрэй, забіўся ў гэтае Палессе.

— З вамі я чуюся весела і пайду на што хочаце, — разышоўся Янка: — богу не паддамся і з цара гатоў карону лупіць... У мяне, браткі, і сны бываюць цікавыя. Я ўсё збіраюся запісаць іх у навучанне патомкам.

— Ну, што-ж? Будзем пісаць пісьмы, дзяліцца сваімі думкамі і не губляць адзін аднаго з вока, — перапыніў Янку Лабановіч.

— Дык давайце заключым трыумвірат! — крычаў Янка.

— Давайце!

І сябры з жарам пацiснулі адзін аднаму рукі ў знак свайго саюзу.

На карце ў школе Лабановіч не знайшоў свайго новага месца. «Напэўна, яшчэ большая глуш, як Цельшына», — думаў ён. Дасталі «Памятную кніжку Мінскай губерні», дзе звычайна былі адзначаны ўсе ўстановы і школы. У кнізе значылася і Выганская школа, што трохі ўсцешыла і заспакоіла маладога настаўніка, але дакладнага адраса не было там. Аднаго толькі дазнаўся Лабановіч: ехаць трэба ў Пінск, а ўжо адтуль дабірацца да свае школы.

Напярэдадні ад'езду пайшоў Лабановіч у лес, каб апошні раз абыйсці свае грыбныя абходы і развітацца з імі.

У лесе было зусім ціха. Скрозь галінкі выносных хвоек прабіваліся цёплыя косы верасноўскага сонца. Пажоўклыя калюшкі без шуму ападалі на дол, чуць зачэпіш галінку. Дзесь у небе закрычалі жураўлі, шыбу-

ючы ў вырай. Лабановіч адчуваў нейкую мяккую журботу, навеяную і цішынёю лесу і гэтым заміраннем жыцця. І розныя думкі, лёгкія, бы гэтыя цені хваёвых галінак, журботныя, як і гэтае курлыканне жураўлёў у небе, снаваліся ў яго сэрцы.

Было чагось шкада, як-бы нейкая страта напаткала яго. Думаў аб сваім новым месцы, складаў новы план свайго жыцця і свае работы на новым месцы. Успаміналася Цельшына. Цяпер яно нейк адыходзіла ад яго, ахіналася мрокам, рабілася пустым і чужым, бо не было там таго мілага вобразу, што даваў жыццё і радасць. І гэты вобраз неадступна хадзіў з ім па лесе, адганяў іншыя думкі яго, змушаючы думаць аб сабе. І гэтыя словы Ядвісі: «калі вы мяне пацалуеце, то, клянуся памяццю мацеры, я кінуся пад машыну» — ніяк не забываліся, і сама яна, як жывая, стаіць у яго ўвесь час перад вачамі.

На другі дзень на захадзе сонца запрог дзядзька Марцін чорнага коніка, якога празваў за жвавасць «Ножыкам», каб адвезці пляменніка на станцыю. Невялічкі чамадан быў загадзя зложаны, сабраны ў дарогу.

— На добры лад, дык і каня запрагаць не варта было-б, — казаў Лабановіч, паважваючы ў руцэ чамадан.

— Навошта-ж, сынок, ты будзеш трапаць ногі? Не звярэдзіцца конь, гуляе цяпер.

Вылічыў Лабановіч грошы на дарогу, як заехаць, а рэшту, рублёў сем, аддаў мацеры.

— Прышлі-ж, сынок, ліст, заехаўшы, як ужо будзе табе паводзіцца там.

Пацалавала маці сына і слёзы выцерла.

— Ну, Якуб, бывай, брат, здаровы! На другую зіму к сабе забяру цябе. Добра?

— Добра, — кіўнуў галавою Якуб.

Маці стаяла на дварэ і праводзіла вачыма фурманку, што шыбавала ў бок лесу. Лабановіч азірнуўся, памахаў шапкаю мацеры і сёстрам, кіўнуўшы ім здалёк галавою. Яшчэ раз азірнуўся назад, як пад'язджалі к лесу. Мільгнуў хутарок з сваім алешнічкам, мільгнуў і схаваўся.

## НА НОВЫМ МЕСЦЫ

### XIII

Цягнік падыходзіў пад Пінск.

Яшчэ нябачаныя краявіды Пінскага Палесся, залітыя святлом вераснёўскага сонца, атуленыя тонкаю паволокаю сінечы, поўныя своеасаблівага хараства, першабытнай дзікасці, мяккасці тонаў і нейкай адвечнай задумленасці, вынікалі перад Лабановічам, захаплялі сваімі чарамі, неасяжнымі прасторамі зямлі і гэтай роўняддзю паземаў, што зліваюцца з небам ці хаваюцца за цёмнасіняю стужкаю бясконца далёкіх лясоў. А на гэтай роўнядзі вынікалі палескія вёскі, дзе над стрэхамі будынкаў высока ўзнімаліся вязы, ліпы і клёны, абсыпаныя золатам восені. Бліскучым срэбрам вывіваліся рэчкі ў нізкіх берагах, раскрываліся шырокія разлогі балотных нізін, зарослых дзікаю травою, аірам і чаротам. Па гэтых дрыгвяных балоцінах, дзе, здавалася, і вады не было, прапіхаліся з чаўнамі рыбакі-палешукі ў сваёй самабытнай вопратцы і шырокаполых капелюшах. Месцамі рассцілаліся цэлыя плошчы жоўтых пяскоў, ашлякаваных кучаравымі маладымі хвойкамі. Малюнкі борзда знікалі, замяняліся новымі, і не было калі спыніцца на іх, бо цягнік імчаўся вельмі шпарка, мінуўшы апошні раз'езд перад Пінскам.

Пасажыраў у вагоне было няшмнога, і Лабановіч пераходзіў ад аднаго акна да другога, каб разгледзець гэтую

мясцовасць і хоць прыблізна адгадаць, дзе яго новая школа. У вагоне ён навёў спраўкі аб сваіх Выганах у тутэйшых людзей. Аказалася, што яго новае месца ў пяці вярстах ад Пінска, і гэта вельмі ўзрадавала маладога настаўніка. І яшчэ даведаўся ён, што воласць ад школы зусім блізка. Яму тут і параду далі, як дабавіцца да Выганаў. Для гэтага трэба толькі трапіць на Каралінскі рынак, а там напэўна будуць выганскія сяляне і за вельмі сходную цану, а то і проста дарма завязуць яго на самае месца.

І гэты ясны дзень, і гэтыя краявіды, поўныя паэзіі, і гэтыя весткі аб новым месцы, сабраныя ў дарозе, — усё гэта памацняла той добры настрой, з якім пад'язджаў Лабановіч к Пінску. З яго знімаўся цяпер і непакой і вялікі клопат знайсці сваю школу і дабрацца да яе.

З чамаданам у руках пацiснуўся ён на станцыю ў густым патоку людскога тлуму. Прайшоў багатую і прыгожую залу першага класа, прайшоў з выглядам чалавека бывалага, для якога ўсё прыгоства і ўбранства залы як-бы было самаю звычайнаю рэччу, хоць, ідучы, ён не мог не заўважыць усю неадпаведнасць свайго ўласнага ўбранства, у дадатак з гэтым танненькім чамаданчыкам, з убранствам залы і тае шыкарнае публікі, што так важна сядзела за гэтымі пышнымі сталамі. Ён нават адчуваў тут нейкі страх, як чалавек, папаўшы не на сваё месца, і яго ўласная асоба паказалася тут занадта мізэрнаю, нязначнаю, неадпаведнаю месцу. Вось чаму ён стараўся шпарчэй праціснуцца, трымаючыся больш каля сцяны, каб не замінаць тут нікому, каб не вярнуў яго назад гэты высокі і грозны швейцар у бліскучых галунах. І толькі прайшоўшы залу і апынуўшыся ў карыдоры, уздыхнуў ён лягчэй. Цяпер перад ім стаяла задача знайсці Каралінскі рынак. Горада ён не ведаў, бо яму даводзілася быць тут першы раз. Хвіліну пастаяў на ганку перад пад'ездам, дзе таўпіліся возпікі, стараючыся перахваціць пасажыраў.

«Лепш будзе ўзяць возніка», — падумаў Лабановіч. Зрушыў з месца, выбраў возніка пабядней і загадаў ехаць на Каралінскі рынак, што быў на другім канцы горада.

Праехаўшы некалькі вуліц і завулкаў, возпік спыніўся — тут і ёсць Каралінскі рынак. Не спяшаючыся і разглядаючыся, пайшоў Лабановіч хадзіць па рынку, шука-

ючы сялянскіх падвод. Сям-там пападаліся тыповыя постаці палешукоў і паляшучак, надзвычайна паважных і нават гордых, бо яны так зняважліва паглядалі на ўсё, што не было палешуком, і не надта ахвотна ўступалі ў размовы, якія не мелі беспасярэдніх адносін да іх уласных паляшуцкіх персонаў; па іх думцы, усе, хто не з'яўляецца палешуком, ёсць басякі або проста жулікі.

— Скажыце, будзьце ласкавы, — зварачаўся настаўнік да некаторых сялян-палешукоў: — ці не ведаеце, дзе-б тут знайсці каго з выганскіх.

Запытаны паляшук разважна падымаў вочы на настаўніка, аглядаў яго і адказваў не адразу. І з гэтага адказу часамі не выплывала ніякай пэўнасці — буркне, каб адвязацца. Але, разглядзеўшы настаўніка і нешта разважыўшы, часамі гэты-ж паляшук, зноў спаткаўшы яго і даведаўшыся, што гэта настаўнік, даваў ужо болей падробныя спраўкі, дзе спыняюцца выганаўцы, дзе іх можна знайсці. Але аказалася, што сёння іх тут зусім не відаць было.

Патупаўшы па рынку і не знайшоўшы нікога з Выганаў, Лабановіч старгаваў за рубель возніка. Хоць заплаціць прыходзіцца дорага, затое-ж ехаць ён будзе выгодна.

Рэсорная павозка, мінуўшы брукавыя траскія вуліцы, мякка пакацілася па гладкай пыльнай дарозе, дзе пападаліся часамі прыгожыя адзінокія ліпы і цэлыя купы разложыстых вязаў каля паселішчаў, параскіданых досыць густа ў бок ад дарогі. Лабановіч уважна прыглядаўся да ўсяго, што пападала ў поле яго зроку, стараючыся заўважыць кожную драбніцу, як-бы гэта мела для яго нейкае надзвычайна важнае значэнне. І гэтая мясціна яму адразу спадабалася. Зямля навокал была добрая, ураджайная, і народ, відаць, жыў тут заможна. А надвор'е было ціхае, яснае. Хоць дзень ужо змяняўся падвячоркам, але было яшчэ досыць горача. Неба, злёгку агорнутае танюсенькаю белаватаю павалокаю, як-бы шоўкаваю кудзелькаю, здавалася, ніжэй нахілілася над гэтымі паземамі, каб папесціць іх пацалункамі сонечнага святла.

Мінуўшы прыдарожны слуп з дзяржаўным гербам і табліцаю, дзе значылася: вёска Выганы, двароў 73 (прычым нейкі жартаўнік сцёр літару «д» у слове «двароў»), мужчын 269, жанчын 284, возьнік спусціўся з горкі і па-

вярнуў направа: зараз-жа за Выганамі на шырокім пляцы, што раздзяляў дзве вёскі, Выганы і Высокае, стаяла школа. Лепшай пазіцыі для яе, здаецца, нельга было і знайсці. Школа якраз стаяла на прасторным месцы паміж двух невялічкіх вёсачак, прыветна бялеючы сваімі шырока раскрытымі акяніцамі. Пры школе быў досыць вялікі агарод, праўда, незасеяны і запушчаны. Агарод прымыкаў да плятня казённага ляснічага. Уздоўж плятня цягнуўся цэлы рад высачэзных вязаў, аддзяляючы прыгожы парк казённага ляснічага ад пляцу, дзе стаяла школа. Лявей гэтага пляцу раскінулася вёска Высокае, дзе з-за дрэў весела выглядалі акуратныя чаротавыя стрэхі сялянскіх хат і клуняў. Ніжэй школы, на адной з ёю лініі, выглядала з-за саду дзяковая сядзіба і царкоўны дом, дзе жылі цяпер дзве папоўскія сястры, якіх абмінула замужства, хоць надзеі на замужства яны яшчэ не трацілі. У кроках ста ад школы прасторны пляц-выган досыць крута спускаўся да рэчкі Піны. За рэчкаю ляжалі неасяжныя прасторы балот. На гэтых прасторах рос густы і незвычайна высокі чарот. Зарэчная балотная роўнядзь злівалася з небам і, здавалася, не мела канцакраю.

Усе гэтыя малюнкі абегла мільгануліся перад вачамі настаўніка, але не было калі спыніцца на іх з тою ўвагаю, якую справядліва яны заслугоўвалі, бо возьнік спыніўся перад прасторным школьным ганкам.

Лабановіч саскочыў з павозкі і ўзбег на ганак. Дзверы былі замкнёны, а на стук ніхто не азваўся, але вокны ў кватэры настаўніка былі раскрыты насцеж. Заліты сонцам пакойчык выглядаў вельмі прыветна. Адтуль пахла свежаю фарбаю. Пад вокнамі ляжалі кучкі друзу. Відаць, тут быў нядаўна рамонт і яшчэ не паспелі зрабіць парадку.

— Пастойце трошкі тут, — сказаў Лабановіч да возніка, а сам пабег у двор, каб зайсці ў школу другім ходам.

Каля дзвярэй кухні стаяла замурзаная дзяўчынка гадкоў пяці і здзіўленымі вочкамі пазірала на незнаёмага чалавека. На дзвярах кухні вісеў замок.

— А дзе твая маці? — запытаў дзяўчынку Лабановіч.

Дзяўчынка правяла па носе каравым рукавом.

— Пайшла да паненак, — адказала яна і кіўнула галавою ў бок папоўскага дома.

— А мама твая тут жыве?

— Эгэ!

— А бацька твой дзе?

Дзяўчынка пазірала на настаўніка, не ведаючы, што адказаць на гэтае запытанне.

— Ты можа паклічаш маму?

— Яна, мусіць, на сяло пайшла, — прамовіла разважліва дзяўчынка. Відаць, ёй не хацелася шукаць маткі, а можа яна проста не ведала, куды тая пайшла. Яна адвярнулася ў другі бок, перастаўшы цікавіцца незнаёмым чалавекам, а можа, каб паказаць, што гаварыць тут болей з ёю няма чаго, і заспявала сваю песеньку.

Лабановіч пайшоў назад, раздумваючы, што рабіць яму далей. Вышаўшы з двара школы, ён заўважыў новую асобу. Досыць каравы стары чалавек стаяў каля возніка. Угледзеўшы настаўніка, гэтая асоба ў заношаным паліце на гарадскі лад, доўгавалосая, з неахайным хмызам на твары накіравалася ў бок Лабановіча.

— Педагог? — развязна запытаўся незнаёмы чалавек, асвяціўшы свой хмыз усмешкаю, і падаў руку.

— Так, я назначаны сюды настаўнікам, — адказаў Лабановіч, падаючы руку. Далонь і пальцы ў незнаёмага чалавека былі нейк ненатуральна вывернуты і напаміналі сабою лапу вялізнага крата.

— Ну, будзем знаёмы: ваш сусед, псаломшчык Бацяноўскі.

Нельга сказаць, каб Лабановіч быў вельмі здаволены такім суседствам: дзяк быў занадта каравы і апушчаны, і ў яго твары было штось такое, што не гарнула да гэтага чалавека.

— Дык як ваша прозвішча? — запытаў дзяк.

— Лабановіч.

— А вы можа з духоўных? — цікавіўся далей дзяк.

— Не, я другой пароды.

— З семінарыстых?

— Скончыў настаўніцкую семінарыю.

— А вы разумееце царкоўныя спевы?

Гэтае распытванне пачынала злаваць настаўніка, тым болей, што яго чакаў вознік і ён не выясніў яшчэ пытан-

ня, як убіцца ў школу. І на апошняе запытанне ён адказаў:

— А вось зачынайце «Іжа херувімы», дык я вам зараз падцягну.

— І нотнае ведаеце? — не адставаў дзяк.

— Калі трэба, дык і па нотах заспяваю.

— Вось гэта добра! — зарадаваўся дзяк: — айцец Мікалай прасіў інспектара назначыць сюды такога настаўніка, каб мог наладзіць царкоўны хор.

Успамінанне аб а. Мікалаі і аб царкоўным хоры было зусім не пад густ Лабановічу, бо па часці царкоўных спеваў ён чуўся вельмі нямоцна, як і наогул у гэтай галіне мастацтва.

— Скажыце, калі ласка, — перапыніў ён дзяка, бо той яшчэ хацеў паставіць нейкае пытанне, — як знайсці тут воласць?

— А вот праехаць сялом на той бок — вярсты не будзе.

— Ну, то бывайце здаровы!

Пакланіўся дзяку і крута павярнуў да возніка.

— Праедзем у воласць!

Яны паехалі, а дзяк пазіраў услед настаўніку і ківаў галавою. Відаць, настаўнік яму не спадабаўся, бо як ён асмеліўся сказаць яму, старому чалавеку, зачынаць тут, на выгане, «Іжа херувімы»? Трэба будзе пагаварыць з а. Мікалаем.

У сваю чаргу спатканне і размова з гэтым заскарузлым дзяком трохі папсавала настаўніку яго добры гумор, і асабліва не спадабалася яму, што а. Мікалай прасіў інспектара назначыць сюды певака. Ён пачаў думаць аб а. Мікалаю, што гэта яшчэ за тыпус такі. І прыдзецца-ж да яго зайсці гэтымі днямі. Але ўсё гэта скора згладзілася, сцерлася з памяці, і ён з вялікаю зацікаўленасцю разглядаў двары і будынкі тутэйшых сялян. У сяле была адна толькі вуліца, а будынкі далёка цягнуліся ў глыб двароў побач яе. Мінулі цэркаўку і новы папоўскі дом. Яшчэ праехалі некалькі двароў і павярнулі ў двор валаснога будынку.

На ганку перад зборняю спаткаў Лабановіча валасаты сторож дзед Піліп. Гэта быў каржакаваты, крэпкі

і ўвішны яшчэ старычына з доўгім чырвоным носам і вострымі, пранізлівымі вачамі.

— Дзень добры, дзеду!

— Дзень добры, панычу!

— Можна пабачыць пісара?

— У канцылярыі паныч сядзіць. А вы-ж хто будзеце? — запытаў дзед.

— Настаўнік вашай школы.

— А, дык гэта паныч — настаўнік!?

Дзед Піліп, здавалася, зарадаваўся, што прыехаў настаўнік. Ён прыветна засмяяўся і, як нейкаму даўно чаканаму госцю, шырока расчыніў дзверы.

— А наш паныч такі і казаў, што павінен скора прыехаць да нас новы настаўнік. Вось вы і прыехалі.

«Цікавы дзед», — думаў Лабановіч, разглядаючы самабытную постаць дзеда Піліпа.

— Дайце ваш чамадан, я занясу яго ў пакой для прыезджых. Дзед Піліп узяў чамадан з рук настаўніка, паказаўшы яму рукою на канцылярыю.

## XIV

Прайшоўшы прасторную зборню, чыста падмеценую дзедам Піліпам, але брудную, бо на падлозе было не менш, як на корх, засохшай гразі, нанесенай сюды з усіх канцоў воласці, Лабановіч адчыніў дзверы ў канцылярыю. Канцылярыя была светлая і таксама прасторная, разгароджаная балясамі. За гэтымі балясамі стаяў доўгі стол, абіты цыратаю. Над сталом са сцяны пышліва схіляліся строгія, размалёваныя цары і царыцы ў пазалочаных рамах. За сталом сядзелі дзве асобы. Яшчэ зусім малады бязвусы хлапчук з маленькімі шэрымі вочкамі, але хітрымі і трохі насмешлівымі. Белая манішка і прылізаныя валасы яго казалі аб зухаватасці маладога памочніка пісара, а гэтыя хітрыя вочкі і жулікаватая ўсмешка сведчылі аб здольнасцях вывуджваць грыўні і саракоўкі з паляшуцкіх кішэняў. Другая асоба — сам пісар, таксама малады, але больш сталы. У пісара былі чорныя вусы, праўда, кароткія, і рэзка азначанае месца барады, заросшае кароткаю густою шэрсцю, кароткі за-

дзёрты нос і закрытыя блізарукія вочы, прыкрытыя цёмнымі акулярамі. Пісар сядзеў, нізка спусціўшы ў паперы галаву, і нешта пісаў.

Лабановіч спыніўся каля балясаў.

Прывітаўся.

Памочнік спыніў сваю работу, кіўнуў настаўніку галавою і чакаў далейшага выяснення справы. Пісар не адрываўся ад работы.

— Выбачайце, што я перабіваю вам работу, — загаварыў Лабановіч і адрэкамендаваўся.

— А-о-о! — азваўся тады пісар, борзда ўстаючы і праводзячы настаўніка за балясы. Тут ён падаў крэсла і папрасіў Лабановіча сесці.

— Школа мая аказалася запёртаю з усіх канцоў, і я ніяк не мог туды ўбіцца. Прыехаў да вас, каб навесці спраўкі. Дзе-ж мне прыпыніцца?

Пісар засмяяўся.

— І школа, кажаце, ёсць, а спыніцца няма дзе. Ну, нічога: усё будзе добра.

— Раз ужо заехалі да нас, то ўсёроўна, як хрысту за пазуху папалі, — у тон пісару дадаў памочнік.

— За пазухай не надта ўжо цікава сядзець, — засмяяўся Лабановіч. — А ў школе, здаецца, рамонт быў?

— Быў, быў! Я пастараўся ўжо адштукаваць вам кватэрку на пяць з плюсам.

Пісар, як відаць, стараўся пусціць трохі пылу ў вочы, і ўсе такія важныя мерапрыемствы ён у значнай меры прыпісваў сабе. А калі ён гаварыў, то нейк падціскаў губы і дробненька трос галавою. Гэтае пісарскае самахвальства адразу кідалася ў вочы, а каб яшчэ больш заахвоціць пісара, Лабановіч тут-жа падзякаваў яму і пахваліў яго за добрыя адносіны да школы, зазначыўшы, што такіх слаўных пісараў не надта многа на свеце.

— Ну, што вы кажаце? — Адразу відаць было, што гэта пісару спадабалася. — У нас з настаўнікам заўсёды былі самыя лепшыя адносіны, школа ад нас ні ў чым не цярпела, — важна сказаў пісар і патрактаваў Лабановіча папяросаю.

— Дайце ўжо і мне пусціць дым з прычыны такога важнага здарэння, — працягнуў руку да пісараўскіх па-

пярос памочнік, бо звычайна пісар ухіляўся частаваць папяросамі свайго памочніка, хоць і быў ліberalам.

— А пры школе-ж, здаецца, жыве хтось?

Лабановіч зноў заводзіць гутарку аб сваёй школе.

Пісар і памочнік зірнулі адзін на другога і нейк хітравата-блудліва пасміхнуліся.

— Жыве там... старожка.

— Дык гэта, мусіць, яе дзяўчынку бачыў я там каля кухні?

Пісар выпускае дым і адначасова выдае скрозь прыцятыя губы нейкі спецыфічна свой гук «псс», трасучы галавою:

— Так, гэта яе дачка Юста, а скора і... сын будзе... напэўна, сын, судзячы па бацьку.

Пісар і памочнік зноў пераглядаюцца і смяюцца.

— Мітрафан Васільевіч не павінен даць маху, — дадае памочнік, і маленькія вочкі яго амаль зусім засланяюцца смехам.

Лабановіч глядзіць на іх, дагадваецца аб нейкай раманічнай тут гісторыі. Ён адчувае, што гэтая гісторыя стане яму зараз вядома.

— А хто такі Мітрафан Васільевіч?

— А гэта ваш папярэднік.

— А... Ну, цяпер я ведаю, у чым тут справа.

— Нашкодзіў, а сам у Пінск уцёк.

І пісар ізноў пачаў смяяцца.

Нецікава было весці далей гутарку ў гэтым тоне і калупацца ў людскім брудзе. Лабановіч рад быў-бы сядзець цяпер у сваёй школе. Хацелася асталявацца там і пачаць нешта рабіць, разабраўшыся ў новай абстаноўцы.

Дзён тры Лабановічу ўсё-ж такі прышлося пабыць у валасці на кватэры пісара, покі школа прыводзілася ў парадак. Праўда, не многа патрэбна было работы, каб зрабіць гэты парадак: выслаць некалькі жанчын памыць падлогу ды прыбраць друз каля школы. Усё гэта абяцалі зрабіць на гэтых днях. Астаноўка была толькі за старастам Бабічам, які павінен быў выправіць на работу жанчын. Але стараста быў заняты дзесь другою справаю. Гэтыя тры дні Лабановіч жыў і сталаваўся ў пісара. Пісар быў чалавек халасты, гасцінны. Пры ім жыла яго

старая маці. Родам яны былі са Случчыны, і Лабановіча яны лічылі сваім чалавекам. Апрача таго, старшы пісараў брат быў таксама настаўнікам на Піншчыне.

Будынак валаснога праўлення стаіць на горцы над самаю рэчкаю Пінаю. Адгэтуль адкрываецца надзвычайна шырокі і прыгожы від на зарэчную часць Піншчыны. Каля самага сяла праходзіць шырокая дуга вады. Вада цячэ так ціха, што яе скарэй можна прыняць за заплаў, а не за самую рэчку. Круглыя, зялёныя лопухі купаюцца ў ёй, калышацца расянка на тонкіх, доўгіх ніцях-сцяблах. Адхонны бераг Піны застаўлен чаўнамі і чайкамі-душагубкамі. Быстра слізгацяць душагубкі па люстранай гладзі вады пад лоўкімі ўзмахамі вёсел прывычных палешукоў і паляшучак. Вось з-за рачных загібаў выплываюць рыбакі з сваімі снасцямі. Сур'ёзныя, павольныя постаці. Селянін-гаспадар шыбуе з таго берагу. З краёў душагубкі звешваюцца махрастыя пукі чароту і жмуты жорсткай асакі. Гоніць чайку грабец. На другім канцы сядзіць са стрэльбаю паляўнічы. Зоркія вочы пільна ўглядаюцца ў лінію дугі каля берагу. А сярод гэтай драбязы чаўноў і душагубак цісне павольна паважны дуб з рознымі таварамі і прадуктамі. За шырокаю бліскучаю дугою ляжыць, як мора, неасяжны прастор балотных зарасляў, дзе ўсё згладжваецца, пакрываецца, як-бы шліфуецца роўнаю сцяною высозных чаротаў з бурымі мятлістымі кісцямі. І ўся гэтая зарасль, гэтая жывая коўдра вісіць-хістаецца над дрыгвяною багнаю бяскрайных балот, дзе не пройдзе чалавек, дзе толькі можа з трудом прасунуцца лёгкі човен або чайка-душагубка, угінаючы сабою балотную скарынку, на якую набягае вада. Незнаёмаму з тутэйшымі балотамі чалавеку небяспечна забірацца ў гэтыя нетры-трушчобы: заедзеш сюды, ашаломішся і заблудзіш і не патрапіш выбрацца адгэтуль, бо апроч густых чаратоў ды неба над галавою нічога не ўбачыш. Прападзеш, калі не выратуюць людзі. На гэтым балотным прасторы пападаюцца вузкія, чорныя, як ноч, як растопленая смала, палосы вады, страшныя сваёю маўклівасцю і глыбінёй. Тут праходзяць рэчкі Струмень, Стаход і Стыр, дзесь па той бок гэтай балотнай роўнядзі. Лабановіч цэлымі гадзінамі праседжвае ў воласці каля адчыненага акна, любуецца

прасторамі балот, поўнымі своеасаблівага прыгоства і жыцця.

А надвор'е на здзіўленне ціхае, яснае, цёплае. Сiняватая смуга звісае над зарэччам. Журботна-ласкавая ўсмешка восені разліта на гэтых занямелых, як-бы заснуўшых далях. Вынікае, далёка-далёка, белаваты дымок рачных параходаў. Здаецца, ён стаіць на адным месцы, не рухаецца — так павольна здалёк вызначае ён лінію рачной плыні. І доўга трэба сачыць, углядацца, каб заўважыць рух белаватага дыму над гэтымі пабурэлымі ад часу чаротамі. Адна з'ява асабліва зацікавіла тут Лабановіча: раптам то ў адным, то ў другім месцы паднімаецца палавое воблака дыму, выбліснe агонь, разбягаючыся па крузе. Пройдзе мінута, другая, дым прападзе, і знікне агонь — не пад сілу яму змагацца з гэтаю стыхіяй балот, не можа ён разгарнуць тут сваіх гарачых крылляў, і нікне. Крыху счакаўшы, агонь выбухне ў другім, у трэцім месцы, а то ў некалькіх мясцінах адразу. Гэта сумысля падпальваюць балота палешукі, каб на выгараным месцы расла на лета маладая, лепшая трава.

Пазірае Лабановіч на гэтыя з'явы-малюнкі, убірае іх у сваю істоту, злучаецца з імі, імі жыве, адчувае як-бы нейкую блізкасць да іх, спачуванне, прыязнь, дружбу, і яму хочацца яшчэ болей шчыльна зліцца з імі, расплысціся ў гэтых павабных далечах-прасторах і самому стацца гэтым прасторам. У яго душы ўзнікаюць нейкія поўныя чараў няясныя вобразы, родзяцца сугучныя акорды гэтым бяскрайнім прасторам, і часамі мільгаецца ў ім штось як-бы даўно знаёмае, бачанае, перажытае, але дзе і калі? Ці гэта толькі — водгалас яго ўласных летуценняў, снення ці сапраўды ён перажываў ужо нешта падобнае? На нейкі момант забывае, дзе ён, як-бы зусім адрываецца ад зямлі і ад рэчаіснасці.

Але гучныя галасы зямлі і моцныя ніткі рэчаіснасці, каб можна было надоўга забыцца аб іх. У воласці толькі ў некаторыя дні і гадзіны бывае зацішак, такі зацішак, калі нават і памочнік пісара вылезе з-за стала і на некаторы час знікне. Звычайна-ж тут, на зборні ці ў канцылярыі, таўчэцца народ. Прыходзяць людзі па сваіх справах, а спраў гэтых у воласці многа. Ці скаргу напісаць на суседа, ці заключыць кантракт, ці нядоімку ўнес-

ці, ці льготу сыну зрабіць, ці копію ўзяць, ці проста так сабе пісара пабачыць, шапнуць, таемна кіўнуць яму галавою, каб выйсці ў пакой для прыезджых, дзе ўжо пачціва, стаіўшыся ў куточку, стаяць пакорлівыя бутэлькі піва.

Шумна і гучна прыходзіць сюды старшыня Захар Лемеш. Яго ногі яшчэ не паспеюць як след стаць на ганку за зборняю, а ўжо тут, у канцылярыі, кажуць: «Старшыня ідзе». Зычны голас старшыні папераджае самога старшыню. Як капітан з салдатам, паздароўкаецца ён яшчэ з двара з дзедам Піліпам, а дзед Піліп адкажа яму па-салдацку: «здравя жылаю, гаспадын старшыня», хоць ні старшыня, ні дзед Піліп у салдатах не служылі. Калі-ж дзед Піліп на вочы не пападзецца, то старшыня пусціць свой зычны голас да каго-небудзь на зборні. А калі і на зборні пуста, нікога няма, то ён прарэжа зычным голасам і гэтую пустату: «Братцы мае, нікога няма». Бо голас у старшыні моцны, ён любіць свой голас: голас дае яму пашырэнне яго ўласнага «я». Пісар-жа і памочнік патураюць яму. Пісар кажа, што такога старшыні ва ўсім Пінскім павеце няма, а памочнік не раз гаварыў: «Нашаму-б старшыні паліцмейстрам быць». Усё гэта кружыць галаву Захару Лемешу. Ды ён-жа — гаспадар воласці.

Захар Лемеш — фігурны чалавек. Як для старшыні, ён яшчэ зусім малады, гадоў пад трыццаць пяць. К таму-ж ён і бялявы, а бялявасць мае тую ўласцівасць, што паказвае чалавека маладзей яго лет. Барады ў старшыні няма і вусы яго вышлі слаба, але твар яго энергічны і досыць прыгожы. Губы, хоць трохі таўставаты і часамі крывяцца, але гэта ўжо — здабытак яго старшынскай важнасці, а не падарунак прыроды. Зеленаватыя вочы ўмеюць быць злымі і строгімі, хоць сам старшыня чалавек не злы. Калі ён уваходзіць у канцылярыю, то шумна ідзе за балясы, громка здароўкаецца з пісарам і з памочнікам пісара і важна садзіцца за стол, прычым крэсла пад ім скрыпіць, трашчыць і хістаецца, бо старшыня — мужчына ёмкі, шырокі, як добрае шула ў гумне заможнага гаспадара.

— Слухай, пісар: трэба купіць нам добрых крэслаў, бо на гэтай «рундзе» і сядзець нельга.

«Рунда» ў старшыні азначае «ерунда».

Затым старшыня пераводзіць вочы на царскія партрэты і на рамы, што сам выбіраў. Ён цешыцца з цароў і асабліва з царыцы. А часамі не ўтрымае і скажа:

— Эх, ядры яго качан! Убрацца-б, як цар, ды мець-бы сабе такую маладзіцу!

Пасля гэтага старшыня пытае ў пісара, як справы ідуць, што зроблена, што трэба зрабіць, куды паехаць у першую чаргу і да каго заехаць, зрабіўшы справу.

— Ну, дай папяросу, — гаворыць у заключэнне старшыня. Калі часамі памочнік пісара працягне яму свае папяросы, то старшыня зняважліва махае рукою і гаворыць:

— Рунда твае папяросы!

Ён ведае, што пісаравы папяросы даражэйшыя, хоць распазнаць гэта сваім уласным смакам ён не можа, бо старшыня не курэц, а курыць толькі пры выкананні старшынскіх абавязкаў для большай саліднасці і важнасці. Ён часамі нават і сам купляе пачачкі папярос па дзесяць штук, за тры капейкі пачак, бо не заўсёды-ж пад рукою бывае пісар, дый яно яшчэ важней выглядае, калі старшыня сам пры людзях вымае з свае кішэні папяросу.

— Пры службе, бач ты, без гэтага трудна абыйсціся, — гаворыць старшыня, калі хто заўважае, што ён курыць пачаў.

Сюды-ж вольным часам заходзіць і царкоўны староста Грыгор Крэшчык, крапак-старычына гадоў за шэсцьдзесят. Ён любіць кампанію вышэйшага палёту, любіць пасядзець, пабалакаць, парагатаць і аб царкоўных справах завесці размову, бо Крэшчык больш за папа дбае аб добрабыце царквы. Таксама любіць ён хлабыснуць піва. Часамі з півам і прыходзіць сюды ды яшчэ і рыбіну ў дадатак прыцягне, каб пісарава маці зрабіла фрыштык. Грыгор Крэшчык рагоча заліхвацка. Пагутарыўшы аб святых справах царкоўных, ён так ці іначай скіруе размову і на прыгожых маладзіц. Адным словам, чалавек — душа.

Стараста Бабіч — ціхі чалавек, лагодны. Сам ён гаворыць мала, а толькі слухае, як другія сакочуць, прычым на яго твары ўвесь час красуе найдабрэйшая ўсмешка. Ніхто так не ўмее слухаць, як стараста Бабіч: уважна,

спагадна, прачула. Часамі ён смяецца ўголас, махнуўшы рукою і спусціўшы лысую галаву. А калі адпаліць хто што-небудзь вельмі сакавітае, тады стараста замахае абодвума рукамі і смяецца, круцячы галавою. Прыемна расказваць такому чалавеку.

І пісар, і старшыня, і абодва старасты агортваюць Лабановіча сваёю ўвагаю, частуюць півам, падбадзёрваюць, каб быў весялейшым, бо тут няма прычыны быць невясёлым: і маладзіц тут харошых многа і паненак стае — у першую чаргу дзве сястры-пападзянкі і дзякова Даша, і ўсе яны амаль на адным двары са школаю.

Слухае настаўнік ды пасміхаецца, а сам думае — скарэй-бы ў школу сваю перайсці.

## XV

Лабановіч любіць сваю новую школу. Адразу нейк да душы прышлася яна, бо нават і знадворны выгляд яе такі, як быццам-бы яна ўсміхаецца табе прыветнаю ўсмешкаю. І ганачак такі прытульны, просты, без усякіх лішніх выдумак. Ну, вось так часамі і горне пасядзець, паслухаць гэтае штодзённае водгулле наўкольнага жыцця, яго адвечную песню, дзе галасы людскога шуму будзяць, жывяць і поўняць гэтыя прасторы зямлі і нейкім дзівосным водгаласам закідаюцца ў тваю душу.

І асабліва гучна звініць гэтая песня надвячоркам або раніцаю, калі струны паветранай арфы так пяшчотна-чуллівы, калі кожны гук плыве-разыходзіцца па іх у працяглых музычных тонах. Улева адгэтуль, у трох чвэрцях вярсты, пралягае чыгунка. Высокія слупы з туга нацягнутым дротам, бы нейкія музыкі, складаюць гімны людскому розуму. Пераможнаю радасцю гучаць жалезныя колы вагонаў, і гэтае гучанне падхоплівае зарэчны чарот, ператвараючы яго ў цэлую мяцеліцу адрывістага смеху-шуршання. А справа, з глыбі гэтага зарэчча, бы звер з нутраў балот, гудзе кароткі нізкі голас парахода. Цэлая сімфонія гудкоў, змякчаная далечынёю, бяжыць-плыве сюды з горада, дрыжыць-трасецца ў паветры, як срэбраны звон на вострым металічным шпяні. Сюды-ж,

у гэтую сімфонію фабрычных гудкоў, далучаецца грукат і кільгіканне сялянскіх калёс, гоман рыбакоў, стук вёсел і закацісты смех вясёлага чалавека ці ядраная лаянка ўзлаванага сэрца.

Задаволены Лабановіч і сваёю кватэраю. І параўнаць не можа яе з цельшынскаю. Тры светлыя, прасторныя пакойчыкі, акуратна адрамантаваныя, пабеленыя, чыстыя. Аглядае іх, цешыцца імі, усміхаецца сам сабе і сам сабе кажа: «Добрую маеш, браце, кватэру». Асабліва прыходзіцца да густу гэты сярэдні пакойчык. Адно акно выходзіць на выган, другое — на зарэчча. У гэтым пакойчыку і будзе яго сталае месца.

У кухні жыве старожка Ганна, жанчына гадоў за трыццаць пяць, з малалетняю дачкою Юстаю. Юста ціхенька сядзіць каля печы, голасу яе не чуваць, бо маці не пазваляе ёй ні песні заспяваць, ні громка загаманіць. Ганна так баіцца новага настаўніка. Яна ўпэўнена, што ён скажа ёй выбірацца вон са школы: нашто яна яму такая брыдкая ды яшчэ цяжарная? Каму-ж гэта ахвота слухаць піск дзіцяці, а яно будзе ў яе месяцы праз трычатыры? Не быць ёй у школе — і людзі кажуць так.

У кухні адбываецца вялікая пакута чалавечай душы, але хто ведае аб ёй? І каму ведаць цікава? Людзі могуць толькі паспагадаць, памагчы гараваць, але ўзяць на сябе частку людскога гора ніхто не хоча. Ніхто не хоча пусціць Ганну да сябе ў хату, а свайго прыпынку ў яе няма. Праўда, у Ганны ёсць муж, п'яніца-жабрак. Але ўжо некалькі гадоў, як кінула яго, бо ён злы, нягодны. Біў яе без усякай прычыны, можа таму, што на свеце жыць не лёгка. У школе асталявалася была Ганна, і жылося ёй не кепска. Але ізноў-жа гэтае няшчасце... Ганна ўспамінае Мітрафана Васільевіча, таго настаўніка, што быў перад гэтым. Ну, што яна магла зрабіць? Баялася працівіцца, каб месца не страціць, бо хто заступіцца за яе? Ды лепей было-б страціць месца тады з адным дзіцём, чым траціць яго цяпер. І Ганна боязна прыслухваецца да кожнага руху, да кожнага кроку настаўніка ў яго пакоях. У яе ёсць маленькая надзея на старшыню, на пісара, на бацюшку, бо да іх звярталася яна, каб закінулі за яе хоць адно слоўка перад настаўнікам. Але ні старшыня, ні пісар, ні бацюшка нічога аб ёй не казалі Лабановічу,

а поп яшчэ і не бачыўся з ім. Старанна прыбрала яна кухню, змяла, выцерла кожную пылінку. Два разы перамыла падлогу ў пакоях настаўніка, пасыпала жоўтага пясочку каля кухні. Усё, што толькі можна было зрабіць, каб чыста было, яна зрабіла і цяпер са страхам чакала вырашэння свайго лёсу.

Лабановіч заходзіць у кухню. Яму цікава паглядзець на сваю старожку, чыя асоба звязвалася раманічнаю гісторыяй з асобаю яго папярэдніка, гэтага самага Мітрафана Васільевіча.

Пужліва стаіць Ганна, і сэрца яе калоціцца.

Лабановіч першы раз бачыць такую брыдкую, няўдалую жанчыну. Мешкаватая постаць яе, фігура няскладная, тапорная. Маленькія піўныя вочкі глыбока ў лоб заходзяць. Але гэта ўсё нічога, — нос, вось дзе ўсё няшчасце беднай жанчыны. Носа, можна сказаць, і няма. Пярэдняя часць яго правалілася. Тырчыць каля вачэй агрызак носа. Нос, ці праўдзівей, бязносе робіць твар яе страшэнна брыдкім, пачварным, а голас гугнівым. Радзілася яна такою. Як нейкі праклён, носіць на сабе грэх бацькоў сваіх. Юста сядзіць ваўчком на тапчаніку каля печы і паглядае, бы той звярок, на настаўніка. І яна баіцца яго: ад маткі чула, што гэты незнаёмы чужы чалавек можа прагнаць яе з гэтага тапчаніка, дзе яна спіць з маткаю.

Настаўнік здароўкаецца са старожкаю, азірае кухню, мяркуючы, як разгаварыцца тут.

— Даўно вы тут жывеце? — пытае Ганну.

— Другі год, панычку, — гугніць тая.

— Умееце вымесці школу?

Ганна ніяк не чакала такога пустога запытання, і ёй робіцца смешна.

— Ото дзіва, што ўмею! І памыць мажу.

— Ну, а вот абед зварыць вы можаце ці не?

Ганне робіцца трохі лягчэй.

— Мажу, панычку, абы толькі было з чаго! — весялей адказвае Ганна.

— О, гэта добра, — заўважае настаўнік. А потым ён заклікае яе да сябе, каб пагаварыць з вока-на-вока.

— Вось табе пенсія, дзевяць рублёў за тры летнія месяцы, што належаць сторажу з воласці. Ты сабе

заставайся тут, даглядай школу і рабі ўсё, што трэба сторажу рабіць. Раніцою да заняткаў і вечарам пасля заняткаў школу трэба чыста вымесці, нанасіць вады дзецям, а зімою і печ выпаліць.

— Ды ўжо-ж буду, панычку, стараціся! — гаворыць шчаслівая ў гэты момант старожка.

Лабановіч трохі замяўся, хацеў запытаць пра свайго папярэдніка, як гэта ўсё магло здарыцца, але палічыў, што гаварыць аб гэтым нялоўка, і ён толькі сказаў:

— А далей вось што. Калі надыйдзе час радзіць, то ты загадзя падшукай сабе іншы прыпынак на тыдзень ці на два, бо ў школе гэта нядобра, а потым сабе вернешся і будзеш тут жыць. А я за гэты час з грошай тваіх нічога не буду вылічаць. Наймі на сваё месца каго, а заплачу я сам.

Ганна слухае, спусціўшы галаву.

— Добра, панычку. Я-ж ведаю гэта і сама. — І пачала выціраць хвартухом і вочы і свой няўдалы нос.

— Ну, вось і ўсё, што меў я сказаць.

Ганна выходзіць у кухню. Яна сядзіць там некаторы час і плача. Плача ад радасці і гора. Той цяжар, што так даўно насіла яна ў сабе, цяпер зняты з яе, але-ж наперадзе цэлае жыццё, горкае і цёмнае, жыццё з малымі дзяцьмі, з якіх адно яшчэ не нарадзілася, жыццё па чужых кутках, сярод чужых людзей. Чуваць, як усхліпвае яна і хрыпіць сваім няўдалым носам.

Покі не пачалася работа ў школе, вольнага часу многа. Цэлымі гадзінамі капаецца Лабановіч у школьных кнігах, паперах, прыводзіць у парадак школьную маёмасць, прачытвае ўвагі інспектароў народных вучылішч. Па гэтай перапісцы знаёміцца з гісторыяй свае школы, з яе настаўнікамі і настаўніцамі, што былі да яго, вялі тут работу. Дзе яны цяпер? Напэўна, каго-небудзь з іх і на свеце няма, бо даўно ўжо былі яны тут. І мімаволі нейк робіцца журботна. Сляды гэтых невядомых яму людзей засталіся ў паперах, а дзе яны самі? І яго застанецца такі-ж след, а самога тут не будзе. Яму ўспамінаецца Цельшына. Вось цяпер яго там няма, а гэты папяровы след яго застаўся там. І зноў цэлы рад вобразаў выплывае ў яго памяці паміма яго волі, і сэрца яго шчыміць нейкім болем утраты. Гэтая старая перапіска

невядомых людзей і гэтыя старыя кнігі, прадукт мыслі даўно памёршых аўтараў, як магільныя цені, кладуцца на сэрца маладога настаўніка, і яму робіцца яшчэ больш маркотна, і ён адчувае сваю адзіноту на свеце.

Пераглядаючы спіскі вучняў, ён заўважае, што паміж іх не сустракаецца дзяўчатак. Відаць, няма тут моды, каб пасылаць іх у школу. Трэба будзе, зазначае сабе настаўнік, пагаварыць аб гэтым з сялянамі на сходзе, давесці ім, што і жанчыне навука патрэбна, яшчэ можа больш, чым мужчыне. І яго думкі ідуць у новым кірунку.

Лабановіч ужо з практыкі ведае, што покі ёсць работа дзецям дома, покі не наступіць позняя восень, сабраць іх у школе трудна. Неакуратны-ж і неадначасны іх збор перашкаджае нармальнаму ходу заняткаў у школе. Дык лепш наўперад сабраць адных навікоў, падагнаць іх трохі, а ўжо ў другі тэрмін, крыху пазней, сабраць рэшту вучняў. Дваццатае верасня назначае ён днём збору навікоў, гэта значыць цераз два дні. У Цельшыне работа пачалася ў школе значна пазней. Значыцца, цяпер у яго будзе болей часу, і ён больш зробіць. Яшчэ адзін клопат трэба было збыць настаўніку — зайсці з візітам да суседзяў і ў першую чаргу — да а. Мікалая, як да самай важнай у сяле асобы, а потым да ляснічага, да пападзянак і да дзяка Бацяноўскага, з якім ужо ён пазнаёміўся. Не падабалася настаўніку такая місія, але пайсці трэба было — так вымагаў звычай. Не пойдзеш — нажывеш сабе ворагаў.

Вечарам таго-ж самага дня, калі Лабановіч асталяваўся ў школе, пайшоў ён да а. Мікалая.

А. Мікалай жыве ў новым доме недалёка ад цэрквы.

У вялікую заслугу ён ставіць сабе пабудаванне гэтага дома, а калі гаворыць аб ім, — а гаворыць ён кожнаму,— то паказвае свае рукі, дзе яшчэ да гэтага часу засталіся сляды мазалёў. І пры гэтым не забывае прывесці тэкст з святога пісьма — у поце ліца твайго будзеш ты есці хлеб твой. Месца, дзе цяпер стаіць новы дом і ўсе гаспадарскія будынкі, вельмі спадабалася а. Мікалаю, і ён надумаўся заснаваць тут сядзібу. Але самы пляц гэты ніяк не надаваўся для будоўлі: няроўны, пакаты, запушчаны, і толькі энергія, упартая воля да змагання з прыродаю памаглі а. Мікалаю адолець усе перашкоды, што

стаялі на яго дарозе. Ён сваімі ўласнымі рукамі раўняў тут зямлю, зразаў цэлыя горы, як ён казаў, і калі можна з чым параўнаць гэтыя труднасці, то толькі з пераходам Суворава цераз Альпійскія горы. А колькі было клопату!.. А. Мікалай толькі махне тут рукою і пераводзіць свае вочы кудысь у неазначаныя прасторы, і твар яго робіцца тужлівым. Але гэта робіцца толькі на момант, бо яго журбота, яго, можна сказаць, пакута шчодра акупілася вынікам яго нечалавечых намаганняў. У такіх выпадках а. Мікалай не ўтойвае нават таго факту, як ён вясною гэтага года сустракаў з прамоваю ў цэркве архірэя і трохі памыліўся.

У сваёй прамове казаў ён і аб труднасцях сваіх, з якімі прыходзілася яму «воздвигать», выконваючы запаведзь божую, гэты свой новы Ерусалім. Адносна-ж згрызот сваіх ён сказаў:

— Я перанёс, перацярпеў, як Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. — А архірэй тут-жа заўважыў:

— Ойча! няўжо-ж ты не ведаеш прыкладаў пакуты і цярпення з жыцця святых угоднікаў божых, што спасылаешся на свецкага пісьменніка?

Ну, памыліўся. А. Мікалай і сам смяецца цяпер з гэтага.

А. Мікалай сустрэў настаўніка досыць ветла. Здавалася, як-бы ён рады быў пабачыць яго. І пасля некалькіх кароткіх слоў а. Мікалай заўважыў:

— Вы па ісціне паступілі па-хрысціянску.

Лабановіч недаўменна глядзіць у вочы а. Мікалаю.

— Вы, знаеце, зрабілі найлепшае ўражанне на сялян, — гаворыць далей а. Мікалай.

— Чым-жа гэта? — пытае Лабановіч.

А. Мікалай па-сяброўску стукае настаўніка па плячы, а сам смяецца дробным смяшком, прычым гэты смех нейкі працяглы, выходзіць знізу, як-бы там нешта надушвае жывот.

— Быццам-бы не ведаеце? — гаворыць а. Мікалай: — вы прыхілілі бяздомнага чалавека. Нават пенсію за ўсе летнія месяцы аддалі. — А. Мікалай крута мяняе тон і раптам кажа: — І як гэта Мітрафан Васільевіч пагнаўся на яе? Вы-ж бачылі, які гэта вырадак... Яна працi-

ла мяне закінуць перад вамі слова, але я не адважыўся. Па сумленні я вам скажу: я сам не пакінуў-бы яе.

— Шкада-ж выкідаць чалавека. Ну, дзе-ж ёй падзецца? І не яна вінавата ў тым, што яна — вырадак, што над ёю, праўду сказаць, зроблены здзек.

— Так, так, — згаджаецца а. Мікалай, і твар яго робіцца засмучаны, а вочы глядзяць у неазначаныя прасторы.

— І ўсё-ж такі вы — гуманны чалавек. Вы гэтым заваявалі сімпатыі сялян.

А потым а. Мікалай паказвае настаўніку свой дом, сляды мазалёў на руках ад цяжкае працы. Расказвае аб прамове сваёй, аб Фёдару Міхайлавічу Дастаеўскім, і яго калыша прадоўжны смех.

Аглядаючы апартаменты а. Мікалая, Лабановіч мімавольна адчувае тут нешта спецыфічна папоўскае. Яму прыходзіць на памяць а. Кірыл, тое самае адчувалася і там — нешта затхлае, мёртвае, трупяное. І нейкая новая думка закідаецца ў яго душу, але ён не можа прадумаць яе тут, бо трохі чопарная маленькая матушка заклікае на шклянку чаю.

## XVI

Эх, і пагодка-ж стаіць на Палессі!

Толькі старыя людзі памятаюць такія прыгожыя дні. Цяплынь, цішыня, яснасць. У сіняй смузе песцяцца далі. Залатая чырвань лістоў нерухліва звісае на купчастых галінах высокіх вязаў. Цёмныя ночы тояць нейкі ўрачысты спакой, і неба ніжэй нахіляецца да зямлі, каб падслухаць яе адвечную скаргу. А квяцістыя зоры, бы дыяменты інею, усыпаюць усё неба, дрыжаць, пераліваюцца колерамі вясёлкі, аб чымся бязмежна вялікім гамоняць тваёй душы, клічуць шырэй разняць крылле і ляцець у гэты сусвет, каб пабачыць яго веліч і пачуць сваю нязначнасць, рассунуць цесныя граніцы гэтага жыцця-клопату на зямлі і пазнаць яшчэ нязведаную радасць. Эх, пагодка, пагодка!

Пачынаюць другі раз зацвітаць сады... Старыя людзі кажуць, што гэта — на цяжкі год...

Ажыла Выганаўская школа. Звіняць дзіцячыя галасы. А на прасторным пляцы каля школы ім так слаўна пагуляць у часе перапынкаў. Каля дваццаці навікоў запісалася ў першы-ж дзень прыёму. Але сярод іх няма ніводнай дзяўчынкі, хоць настаўнік зрабіў усё, што можна зрабіць, каб прывабіць іх да навукі. Сяляне знаходзілі, што дзяўчатам навука непатрэбна: і так з бабамі трудна зладзіць, а што з іх будзе, калі яны яшчэ вучонымі стануць. Хлопцы і тыя не ўсе ходзяць у школу. Дык няхай дзяўчаты сядзяць дома ды кудзелю прадуць.

Гутарачы з сялянамі па гэтай справе, даведаўся Лабановіч ад аднае маладзіцы, чаму мацеркі не пускаюць дачок у школу. Гадоў пяць таму назад хадзіла ў школу адна дзяўчынка, адна на ўсю школу. Ібралася яна добра. Ды захварэла дзяўчынка нейк зімою і памерла. Напэўна, з навукі ёй хвор прыключылася. Так думалі мацеркі, і ніхто з іх пасля гэтага не адважваецца паслаць сваю дачку ў школу.

Цяпер у Лабановіча ўжо трохі ёсць настаўніцкая практыка. Покі што ён больш гуляе з дзецьмі, чым вучыць іх, — няхай прывыкаюць да школы, асвойваюцца з сваім вучнёўствам, паволі ўцягваюцца ў сваё новае жыццё. І ён займаецца з імі толькі да абеда. А сярод малышоў ёсць такія слаўныя хлапчышкі, і асабліва з іх грамадкі выдзяляецца Алесік Грылюк. Алесік страшна закіданы і адзеты бядней за ўсіх. Кашулька яго рваная, нямытая, заношаная.

— Чаму-ж ты такі замурзаны? — пытае яго настаўнік.

Алесік маўчыць. За яго адказваюць малышы.

— Ён — сірата, у яго маці памерла.

Алесік журботна схіляе галоўку і лёгенька перабірае пальцамі па лаўцы.

Шкада хлопчыка.

Лабановіч маўчыць, пазірае на яго, потым падыходзіць і лагодна кажа:

— А ўсё-ж, браток, ты ўжо сам вымыцца можаш.

Заводзіцца гутарка аб чыстаце, бо ўсе хлапчукі не святыя ў гэтым. Валасы ў іх доўгія, нячэсаныя. Прыгледзішся — вошы поўзаюць. Рукі — хоць рэпу сей.

У школе ёсць машынка стрыгчыся.

На школьным двары ў часе перапынку стрыжэ настаў-

нік сваіх маленькіх вучняў. Тут-жа стаіць сподачак з газаю і вата. Астрыжэ — памочыць вату ў газу і выцірае вашывыя галовы. Вошы адразу пруцянеюць. Дзецям вельмі цікава пазіраць, як зразаюцца роўнымі радамі пасмы валасоў, і тыкаюць пальцамі ў галаву, паказваюць на бруд. Потым пад даглядам настаўніка мыюць астрыжаныя галовы, твар і вушы.

З гэтаю работаю ў школе мацней урастае Лабановіч у сваё новае месца. Глыбей адчуваецца паўната жыцця. Пакуль не ўсе вучні сабраліся ў школу, у яго застаецца вольны час. Гэтым часам карыстаецца ён для большага азнаямлення з сваім месцам. За некалькі дзён абхадзіў усе ваколіцы, агледзеў дарогі і новыя мясціны, бо ў гэтым знаёмстве ёсць заўсёды нешта свежае і цікавае. А нядаўна ездзіў і ў Пінск. Зносіны з Пінскам простыя і лёгкія— тры разы на тыдзень пасылае воласць фурманку на пошту. У Пінску-ж ён і краму сабе аблюбаваў, дзе можна браць сеё-тое напавер, бо грошы не заўсёды бываюць у кішэні. Для Алесіка ён купіў мультановую кашульку і паясок, бо нейк шкада было закіданага хлопчыка і хацелася чым-небудзь скрасіць яго жыццё.

У вольныя часіны заходзіў настаўнік у воласць, дзе ў яго былі ўжо знаёмыя і дзе можна было завесці новае знаёмства. А на сяле часамі напаткаеш вясёлую і смешную праяву сялянскага жыцця.

Недалёка ад воласці ёсць піўнушка. Трымае яе Максім Гулейка. Апошнімі днямі каля піўнушкі замецен рух. Часцей заходзіць туды і старшыня, Захар Лемеш. Сам старшыня цвёрда на нагах трымаецца. Відаць, шануецца, справу нейкую робіць. Старшынёй кіруе пэўная ідэя. З сялянамі ён лагодны, паддабраецца да іх і шчодра частуе. Лабановіч не ў курсе справы, застаецца толькі звычайным гледачом таго, што робіцца каля піўнушкі. А каля піўнушкі людзі снуюць. Туды ідуць сур'ёзныя, і нават сляды надзённага клопату адбіваюцца на іх тварах. Назад-жа выходзяць пачырванеўшы, і ногі іх уразброд ступаюць. Тут ужо і песню пачуеш, і самую шчырую гутарку, і самую ласкавую лаянку, без прымешкі нават і ценю злосці. Проста людзям весела і добра, як вось кульгаваму дзядзьку Есыпу.

Дзядзька Есып ужо стараваты чалавек. Барада яго

збілася ў лямец, а на самым канцы хвосцікам закруцілася, як у невадзе матня. Краі чорнай світкі разышліся па баках з-пад шырокага даматканага пояса. Белая доўгая кашуля расшпілена. Шырокі прарэх адкрывае грудзіну і жывот да самага пупа. Старая шапка збілася з свайго звычайнага месца на галаве і брылем убок павернута. Усё гэта робіць фігуру і ўсю постаць дзядзькі Есыпа надзвычайна пацешнымі. Выраза-ж яго твару найлагаднейшая і найдабрэйшая. Выступае дзядзька Есып подскакам. У гэтым вінавата яго кульгавая нага, а піва толькі злёгку водзіць яго па баках.

На сярэдзіне валаснога двара дзядзька Есып спыняецца, круціць галавою направа і налева. Бачыць настаўніка.

Падыходзіць, падае руку.

— Здаровенькі булы, пане настаўніку. Ось трохі выпілы, — расказвае дзядзька Есып: — ты сваю справу ведаеш, а мы — сваю. І ўсім нам добра! — памацняючы голас, кажа ён. А потым раптам мяняе тон, як-бы ахамянаецца. — Ты вучы, вучы нас і дзетак нашых, бо мы дурныя. Ой, якія-ж мы дурныя!.. Вучэце, вучэце, — паніжае голас дзядзька Есып, — я вам не кампанія... Выбачайце мне!

Дзядзька Есып бярэцца за шапку, каб зняць яе, але ніяк не намацае брыля і памаленьку адыходзіць і кланяецца, а потым рашуча накіроўваецца ў вароты. Выходзіць, пакульгваючы, на вуліцу і зноў прыпыняецца, разглядаецца. У вочы кідаецца яму цэрква. Дзядзька Есып матае сам сабе галавою і заводзіць:

І-і-і-жэ хе-е-еру-вы-ы-мы.
Хе-е-е-е-ру-вы-ы-мы.
Тай-на да та-а-йна абрызу-у-юшчэ

Паспяваў трохі і кінуў, а можа яму Шугай Міхалка перашкодзіў, ідучы насустрач.

— Міхалка! — запыняе яго дзядзька Есып. — Ведаеш, браток, што?

— А што? — пытае Міхалка.

— Набі ты мяне! набі, браток!

Міхалка глядзіць на дзядзьку Есыпа і смяецца.

— Ты не смейся, а набі мяне.

— Дык як-жа, дзядзька, я буду біць вас? За што?

— Не пытай за што, а вазьмі і набі мяне, — стаіць на сваім дзядзька Есып.

— Ну, як я буду біць вас. Вы-ж такі — стары чалавек.

— Го, пытае, як будзе біць? Дай па мордзе і ўсё.

— У мяне-ж і злосці на вас няма.

— А ты зазлуй, браток, і пляснí.

— Няма за што біць дзядзьку.

— Брэшаш, Міхалка: ёсць за што! Не патурай ты мне. Прашу — набі мяне. Бо калі ты мяне не наб'еш, то я пайду і буду біць сваю старую.

— Не трэба, дзядзька, біцца, лепш у згодзе жыць.

— Дык не хочаш біць мяне?

— Не, не хачу.

— Ну, то чорт-жа цябе бяры. Знойдзецца і без цябе добры чалавек.

Дзядзька Есып зрушвае з месца і кульгае далей па вуліцы.

Ён адчувае сябе ў чымся вінаватым. Яму хочацца, каб яго пакаралі, набілі. А можа гэта — толькі дзівацтва падвыпіўшага чалавека. Ён штось бармоча сам сабе, шворыцца рукою каля шапкі, намацвае брыль і верне шапку брылем на патыліцу. Спатыкаючы дзяўчат або маладзіц, ён кліча іх да сябе і просіць, каб пацалаваліся з ім. Маладзіцы ўцякаюць, хто моўчкі, а хто пацвельваючыся з яго. Мінуўшы сярэдзіну сяла, сустракае Цімоха Жыгу. Яшчэ здалёк дзядзька Есып расстаўляе рукі, ідзе напярэймы Цімоху.

— Стой! — крычыць.

Цімох спыняецца, глядзіць на Есыпа.

— Куды ідзеш, сабачы сын?

— Ідзі, ідзі! — адзываецца Цімох.

— Я іду і пайду, вось яно што! — Цімох, хочаш быць чалавекам — дай мне ў морду.

Здзіўлены Цімох акідае паглядам дзядзьку Есыпа. Нейкая ўсмешка бліснула на яго твары, і не паспеў дзядзька Есып вымавіць слова, як Цімох Жыга — трах яму поўху. І дзядзька Есып — гоп вобземлю, грабянуўшы ў паветры кульгаваю нагою.

— Ой, трасца-ж тваёй матары, Цімох. Як-жа спрытна ты б'ешся. Да і моцна-ж даў.

— А ты-ж прасіў.

— Прасіў, то прасіў, але нашто было так моцна біць... Ось, злодзей. Ось, арыштант.

Цімох, пасміхаючыся, ідзе далей, а дзядзька Есып падымаецца, клянучы Цімоха. Людзі навокал смяюцца, а дзядзька Есып толькі гаворыць:

— Добра даў, гад. Хіба дагнаць яго ды выпіць з ім.

Ад памочніка пісара дазнаецца Лабановіч аб прычынах незвычайнага руху каля піўнушкі. Усяго некалькі дзён застаецца да выбараў старшыні, бо Захар Лемеш дажывае апошнія моманты свайго старшынскага трохлецця. Захар Лемеш ходзіць аб тое, каб застацца старшынёю яшчэ на тры гады. На гэта ў яго ёсць многа сваіх меркаванняў. Па-першае, ад гэтага выйграе яго гонар, бо старшыня — першая, можна сказаць, урадавая асоба ў воласці. Па-другое, само старшынства мае ў сабе многа павабнага і прыгожага. Па-трэцяе, у Захара Лемеша ёсць патайная думка адстаршыніць адразу, без перапынку, тры старшынскія раты. Калі-б гэта яму ўдалося, то тады ён выслужыць пачэсны каптан. У Пінскім павеце, здаецца, і ёсць адзін толькі старшыня, заслужыўшы пачэсны каптан, і гэты старшыня — цесць нашага старшыні, Захара Лемеша. І цесць і жыццёвая практыка вучаць, якім спосабам дасягаюцца тыя ці іншыя мэты. З земскім начальнікам Захар Лемеш у добрых адносінах. З земскім начальнікам, вядома, выпіваць яму не прышлося, але сёе-тое перайшло ў яго кішэню з кішэні Захара Лемеша. Цяпер-жа Захар Лемеш падгатаўляе грунт сабе ў межах воласці, шчодра заліваючы горлы прагавітых на выпіўку сваіх выбаршчыкаў.

Воласць прыбрана, падмыта, падскрэбена з незвычайнаю пільнасцю і стараннасцю. Дзед Піліп, на хаду таўкануўшы ў нос табакі, разрываецца на кавалкі: і тое і гэтае трэба падправіць, туды і сюды пабегчы, зрабіць тое і другое. Захар Лемеш трохі нервуецца. Стан душы ў яго цяпер такі-ж самы, які ў самага добрага хрысціяніна перад споведдзю. Неспакойны трохі і пісар. Сяды-тады яны пераглядаюцца з старшынёю, ківаюць адзін аднаму і падміргваюць. А зборная гудзе, дрыжыць ад людского шуму.

І раптам усё сціхае. Старшыня і пісар разам бялеюць. Старшыня згінаецца, робіцца адразу процантаў на сорак мізарнейшым. Народ расступаецца, а паміж сцен людскога карыдору ідзе земскі начальнік, ідзе чоткаю, быстраю паходкаю вайсковага чалавека, прысадзісты, карэнкаваты, смуглы. Усе яго рухі выкрываюць у ім вайсковага чалавека.

— Здрастуйце! — звонка кідае земскі начальнік.

— Здрам-жалам, ваша сіяцельства! — гудзе сход. Земскі начальнік — граф з французскім прозвішчам, быўшы кавалерыйскі афіцэр.

Дзядзька Есып не паспеў паздароўкацца разам з людзьмі і ён адзін ужо, калі ўсё сціхла, выкідае непаслушным языком адказныя словы на прывітанне:

— Здравя жжы-лаю, ваша прыяцельства!

Земскі начальнік адразу-ж прыступае да справы.

— Каго хочаце мець старшынёю?

— Захара Лемеша! — гудуць галасы.

— Лемеша, Лемеша!

— Ладна! — згаджаецца земскі.

Захар Лемеш улучае добрую мінуту, моргае пісару, паказаўшы кончык языка.

Земскі садзіцца і піша.

І раптам дзверы расчыняюцца з шумам, у канцылярыю, як бура, урываецца Цімох Жыга. Вочы яго варочаюцца дзіка, валасы ўскалмачаны.

— Грамада! — крычыць Цімох, — ужо выбралі? Захара Лемеша? Каго-ж вы выбралы? Яшчэ мала выпіў з вас крыві?

Усё гэта адбылося зусім нечакана. Цімох Жыга адзін цяпер уладар у воласці.

Не даючы апамятацца, ён налятае на Захара Лемеша.

— Старшыня! Старшынька ты?.. Га-а! Сто рублёў прапіў? Земскаму падсунуў!.. А цяпер будзеш кроў нашу піць?

— Старшыня! — крычыць земскі начальнік, — пасадзіць яго ў халодную!

— Дзесяцкія! — камандуе старшыня, і сам, як драпежны звер, кідаецца на Цімоха Жыгу. Жыга не даецца, варочае шырокімі плячамі, раскідае дзесяцкіх. Тут хватае яго старшыня ззаду за плечы. Дзед Піліп расчыняе

дзверы халоднай, і Цімоха ўпіхаюць у чорную дзірку халоднай.

У канцылярыі ціха і нялоўка.

Палешукі пераглядаюцца, чухаюць галовы. А Цімох крычыць, бушуе, лаецца, не шануючы ні старшыні, ні земскага.

## XVII

— Ведаеце, пане настаўніку: уся мая бяда ў тым, што я не ўмею запісаць таго, што я думаю. А ў мяне такія добрыя думкі бываюць. Вось напішуць у воласці паперу — ну прашэнне там ці жальбу якую. Чытаюць табе яе, — не, чую, што не так трэба напісаць. І многа напішуць і слоў усялякіх накруцяць, а таго, што трэба, няма. Каля праўды ходзяць, але праўду з'ядаюць: няма яе, або шчыльна ў лушпайку загорнута. А каб я сам умеў пісаць, то я многа каму нос уцёр-бы.

Аксён Каль — селянін з Высокага. Ён прышоў да Лабановіча, каб пагаварыць з ім. Настаўнік сам запрашаў яго, калі пазнаёміўся з ім у воласці, бо ў Аксёна ёсць свае мыслі, над якімі ён многа думае.

Лабановіч слухае, углядаецца ў твар Аксёну. Аксён яшчэ малады чалавек, гадоў за трыццаць. Рысы яго твару строгія, нават халодныя. Вочы ўдумлівыя, і ўся яго постаць выкрывае ў ім чалавека выдатнага. Фігура яго сухашчавая і моцная. Кароткія чорныя вусы шчыльна туляцца каля самых губ упартымі завіткамі і робяць твар яго прыгожым і энергічным.

«Кім-бы ён мог быць, каб яго натура ва ўсю разгарнулася?» — думае настаўнік. І аксёнава постаць вынікае перад ім то строгім пракурорам за грамадскія справы, то ўдалым атаманам разбойніцкай шайкі, бязлітасным помснікам за сялянскую крыўду.

Аксён Каль верыць у праўду, у тую адвечную праўду, якую так прагна чакае народ і якая за сямю замкамі хаваецца ад яго. Ён не можа спакойна глядзець на несправядлівасці, што чыняцца над людзьмі, і дабіваецца праўды. Яго ведае воласць, ведае і земскі начальнік, як чалавека неспакойнага і небяспечнага. А старшыня мае загад

не спускаць яго з вока. Аб гэтым ведае і сам Аксён Каль і пасміхаецца ў чорны вус: не вам, дурням, зашчаміць мяне.

Не дае Аксён задрамаць сялянам у іх заціснутым жыцці. Катурхае, будзіць іх грамадскую думку, кідае новыя мыслі, падымае на змаганне з няпраўдай, бо сялян ашукалі, абышлі ўсякія кручкатворы-чыноўнікі, панскія прыслужнікі. Іначай як магло стацца, што пан Скірмунт з Альбрэхтава залез у іх хату, прыбраў у свае рукі з-пад іх носу затокі на рэчцы, дзе так многа рыбы, і здае гэтыя ўжыткоўнасці ім-жа ў арэнду? Гэтыя затокі — балючае сялянскае месца. Дванаццаць гадоў цягнуўся суд з панам Скірмунтам. Аксён Каль выступаў ад грамады, як даверанаая асоба. Хадзіў па судах, пачынаючы з акружнога, і давёў справу да сената, дзе яна і захлынулася, бо ўсюды пан цягне за пана. Так і засталіся затокі за панам Скірмунтам. А цяпер іх арандуюць пяць заможных гаспадароў з Высокага: старшыня Захар Лемеш, царкоўны стараста Грыгор Крэшчык і яшчэ тры гаспадары. Ім гэта выгодна, і яны радуюцца, што Аксён Каль прайграў сялянскую справу. Яны-ж аб ім і ўсялякія чуткі распускаюць, як аб авантурніку, якому трэба толькі грамадскія грошы, бо хто ідзе супроць закону? Вось чаму Аксён так не любіць іх — не любіць, як здраднікаў сялянскіх інтарэсаў і сваіх асабістых ворагаў. Не любіць таксама паноў і чыноўнікаў, бо, па яго думцы, ад іх усё зло на свеце.

Хоць і сенат не прызнаў сялянскага права, але Аксён не хоча супакоіцца на гэтым. У яго ёсць яшчэ думка — падаць прашэнне цару.

— Як вы думаеце? — пытае Аксён Лабановіча наконт прашэння цару.

Лабановіч апускае вочы, як-бы штось мяркуючы.

— Я сказаў-бы вам, ды толькі не ведаю, як прымеце вы тое, што я скажу, — ціха адзываецца ён. І, момант счакаўшы, дадае: — Я думаю, што з гэтага нічога не будзе.

Настаўнік ледзь стрымліваецца, каб не падзяліцца з Аксёнам тым, што ўжо некалькі дзён як урвалася ў яго душу і перавярнула там усё дагары нагамі, захапіўшы

цалкам яго мыслі. Але засцярога і голас самазахавання бяруць над ім верх, і ён кажа:

— Ведаеце, Аксён, мы аб гэтым пагаворым як-небудзь другім разам, пагаворым так, каб ніхто і не ведаў. А цяпер я хачу сказаць вам вось што. Вот вы жалкуеце, што не можаце запісаць сваіх мыслей... А давайце папрабуем павучыцца?

Аксён у сваю чаргу апускае вочы, а потым усміхаецца.

— Ведаеце, галава ўжо на другое скіравана, не тымі мыслямі занята... Добра вучыцца змоладу, а цяпер і часу бракуе.

І па тону гутаркі і па выразе яго твару відаць, што Аксён не пярэчыць супроць вучэння.

— Кіньце! часіну заўсёды можна знайсці, была-б толькі ахвота. Прыходзьце да мяне вечарамі, калі вам час будзе. На вялікую навуку разганяцца не будзем, а навучыцца чытаць і трошкі пісаць, я думаю, патрапім.

— Яно-б чаму-ж? Хоць-бы з большага чытаць ды распісацца, і гэта добра.

— Давайце спрабуем зараз!

Лабановіч зрываецца з месца, бярэ паперу і прылады пісьма ды падсядае да Аксёна.

— Чалавек вы дарослы, і я з вамі буду займацца не так, як з малымі. Пачнем адразу з пісання і ў першую чаргу — з вашага прозвішча.

Настаўнік піша «Аксён Каль», старанна выводзячы кожную літару.

— Вось я напісаў ваша імя і прозвішча. Завецеся вы — Аксён. Вось вам гэты самы «Аксён», слова «Аксён», бо наша гутарка складаецца з слоў, а кожнае слова можна запісаць. А вось і прозвішча ваша «Каль». На ваша шчасце і імя і прозвішча ў вас кароткія. Паўглядайцеся ў іх, а я зараз друкаваныя літары дастану.

Настаўнік ідзе да школьнай шафы, бярэ скрыначку з літарамі, а Аксён сядзіць, не зводзіць вачэй з гэтых напісаных настаўнікам двух слоў. Уся яго ўвага скіравана на гэтыя словы, але нічога не кажуць яны яму. Ён бачыць цэлы рад дзіўных значкоў-фігурак з палачак, кружкоў і кручкоў, зусім чужых і незнаёмых для яго вока. Лабановіч адгадвае мыслі яго і кажа:

— На першых часах, вядома, гэтыя напісаныя словы нічога не гавораць вам. Да іх трэба прывыкнуць, прыгледзецца, як прыглядаецца гаспадар да сваіх гусей у стадзе і адразу пазнае іх.

У настаўніка ўзнікае сумненне ў тым, ці правільна выбраў ён метад навучання, бо ў школе быў іншы метад, які ён добра ведаў і якім карыстаўся. Такі-ж метады быў не ў модзе, і Лабановіч яго нават і не ведаў. Але ён выходзіў тут з псіхалагічнага меркавання: уласны подпіс павінен быў лепш зацікавіць яго вучня.

— Вы разглядаеце напісаныя словы, а цяпер я пакажу гэтыя словы так, як яны друкуюцца ў кнізе. Вось глядзіце: гэтыя значкі называюцца літарамі. Нам трэба зложыць слова «Аксён». Слухайце, як можна сказаць «Аксён».

Настаўнік гаворыць слова па частках:

— А-к-ссьё-н.

І, па некалькі разоў называючы літару, паказвае Аксёну і выкладае іх у адзін рад.

Напісаныя словы і словы, зложаныя з друкаваных літар, Лабановіч кладзе перад сваім выпадковым вучнем, сам захапляецца і нарэшце расварушвае Аксёна. Аксён пачынае з большаю цікавасцю пазіраць на словы, на склады і на асобныя значкі-літары. А калі дайшлі да мяккага знаку ў слове «Каль» і выяснілася яго значэнне, то аксёнава прозвішча нечакана для настаўніка і для вучня выявілася ў зусім іншай істоце і выклікала наўперад нялоўкасць, а потым і смех.

Аксён з гэтага поваду нават заўважыў:

— Трыццаць шэсць гадоў жыву, а не ведаў, што можа быць з майго прозвішча! Вось што значыць навука, згінь яго маты.

Навучыўшыся адрозніваць значкі адзін ад другога і злажыўшы некалькі разоў імя і прозвішча, Аксён прыступіў да пісання. Загрубелыя і няспрытныя пальцы яго з вялікім трудом трымалі асадку, сціскаючы яе, як абцугамі. Часамі ён прыходзіў да пераканання, што нічога з гэтага не будзе, што не адолее прамудрасці трымаць, як след, ручку, але кожны раз яму на дапамогу прыходзіў настаўнік, разганяў яго страхі і падмацоўваў ве-

раю, што гэта толькі на першых часах, а потым пойдзе гладчэй.

Першае навучэнне скончылася, настаўнік даў Аксёну карандаш і паперу, каб ён сяды-тады практыкаваўся дома.

— Вечарком, у вольную часіну, прыходзьце да мяне: патрошку, незаметна вы навучыцеся і чытаць і пісаць.

Аксён моцна пацiснуў руку настаўніка і пайшоў дадому, даўшы абяцанне вучыцца.

Праводзячы Аксёна з кватэры, Лабановіч вышаў на двор. Было ўжо гадзін дзесяць вечара. Аксён пасунуўся ў цёмную вуліцу і скора знік у мроку, а Лабановіч стаяў на ганку, прыслухоўваючыся да цішыні халоднага асенняга вечара. У канцы дашчанай агарожы, дзе стаіць клён, шурхнула пад чыімісь нагамі сухое лісце, і нейчая фігура, таючыся, асцярожна пасунулася ў бок рэчкі. Як відаць, нехта стаяў пад акном і напэўна пазіраў у яго кватэру.

Часамі ў вокны заглядалі вясковыя хлопцы або і маладзіцы, праходзячы каля школы, — проста цікава было паглядзець на кватэру настаўніка, калі там гарыць яркая лямпа пад светлым абажурам, а можа і на самога настаўніка. І Лабановіч не звяртаў на гэта ўвагі.

Цяпер-жа адчуванне нейкага неспакою шаволіцца ў яго душы. І тыя ўстрывожаныя мыслі, што цалкам захапілі яго, вынікаюць ізноў перад ім разам з тою крыніцаю, адкуль і выплылі яны. Два дні таму назад знайшоў Лабановіч на ганачку свае школы дзіўную знаходку. Загорнутая ў газетную паперу, на лаўцы каля сцяны ляжала маленькая кніжачка. Лабановіч пачаў разглядаць яе.

Увайшоў у кватэру і стаў чытаць тэкст. Словы і літары замітусіліся, заскакалі ў яго вачах, як-бы ў нейкім танцы, і ён спачатку не мог сачыць за мыслямі аўтара, хоць яны былі надта простыя і ясныя: да таго незвычайны быў змест гэтай кніжачкі.

Усе тыя ўяўленні аб цару, як аб памазаніку божым, як аб персоне справядлівай, бесстаронняй, для якой і інтарэсы самага апошняга бедака і інтарэсы вяльможы — зусім аднакія, — словам увесь той злотаблеск, якім агортвалася асоба цара, і тое ўвасабленне ўсяго найлеп-

шага, што толькі можа быць у чалавеку,— усё гэта развейвалася тут самым бязлітасным чынам, развейвалася ў прах. Аўтар метка біў у гэты казённы шчыт царскае асобы і рашаціў яго, сцягваючы з яе далікатныя покрывы і паказваючы ў сапраўдным, непадмалёваным, грубым выглядзе чалавека-павука, найбольшага крывасоса на целе народа.

Усе мыслі аўтара накіраваны былі на адно і білі ў адну цэль: разбурыць веру ў цара, паказаць яго ў сапраўднай істоце. У кніжачцы даваліся факты так званых царскіх рэформ у зусім новым асвятленні іх прыроды. Тут-жа высмейваліся царскія загады і мерапрыемствы, накіраваныя быццам-бы на дабро народу, як устанаўленне інстытуту земскіх начальнікаў і іншае. На справе-ж аказвалася зусім не тое і даводзілася гэта ўсё на простых прыкладах. А поплеч з гэтым раскрывалася сапраўдная роля тых палітычных арганізацый, на чыіх сцягах было напісана бязлітаснае змаганне з царызмам за вызваленне народа з-пад ярма самадзяржаўя, тых арганізацый, якія змушаны былі туляцца ў патаемных кутках і якія шальмаваліся і кляйміліся страшнымі словамі — вырадкі, злачынцы, крамольнікі. «Памятай, Мікола Крывавы: цяпер табе масленіца, але прыдуць і посныя дні». Так канчалася брашурка.

Першае, што адчуў Лабановіч, прачытаўшы кніжачку, быў страх, страх пустаты, як-бы пад яго нагамі захістаўся грунт і перад ім расчынялася нейкае бяздонне. Гэтая бяздонніца і палохала і цягнула да сябе з такою сілаю, што ад яе нельга было адыйсціся. Першы страх, як спадарожнік крушэння пэўнага ладу ўнутранага жыцця, яшчэ не зусім аформленага і ўгрунтованага, у сваю чаргу выклікаў другі страх: а што, калі-б гэтую кніжачку знайшлі ў яго і данеслі па начальству?.. Чаму яе падкінулі яму? Хто падкінуў? Якая мысль кіравала тым, што падкідаў яму гэтую небяспечную кніжачку?

Мыслі нейк блуталіся, перабівалі адна другую, і адно адчуванне змянялася другім, параджаючы ў душы непакой і суматоху. А разам з гэтым постаць цара вынікала ў яго выабражэнні ў сваёй страшнай дваістасці: цар лагодны, партрэтны цар, і цар, паказаны ў кніжачцы, драпежны цар-ашуканец з злосна вышчаранымі зубамі, гатовымі грызці людское цела. І гэтая дваістасць лезла

ў мыслі, вымагала сталага прызнання чаго-небудзь аднаго з гэтых двух воблікаў царскага вобразу.

Цэлы рад жыццёвых фактаў, што прывялося наглядаць Лабановічу, і тое, як адносіліся да простага чалавека ўсе, хто стаяў ад яго вышэй, і ўвесь гэты грамадскі ўклад, — усё гэта разам давала нагляднае падцвярджэнне тым думкам, што выказваліся ў кніжачцы. Але няўжо людзі не заўважаюць гэтага? Няўжо ўсе гэтыя чыноўнікі, усе настаўнікі вышэйшай адукацыі, што выхоўваюць людзей новага пакалення, няўжо яны ўсе — свядомыя лгуны і прахвосты? Як магло здарыцца, што людзі розуму, людзі высокай адукацыі ўхваляюць гэты палітычны лад, знаходзяць яго найлепшаю формаю грамадскага жыцця, якой трэба служыць, ахоўваць, дапамагаць?

Гэтая маленькая кніжачка зрабіла цэлую рэвалюцыю ў мыслях Лабановіча, паказала стан рэчаў у зусім іншым асвятленні. Кніжачку насіў ён з сабою, а вечарам, кладучыся спаць, на ўсякі выпадак хаваў яе далей.

Пастаяўшы на ганку, Лабановіч ідзе ў кватэру, адзяецца, бярэ палку і выходзіць на выган. Яго зацікавіла, хто-б гэта мог быць пад вокнамі. Асцярожна праходзіць у бок рэчкі, прыглядаецца, бачыць, — адтуль нехта сунецца. Падходзіць бліжэй — стары дзяк Бацяноўскі.

Няўжо гэта ён падглядаў у вокны? Не падабаецца ён чамусь настаўніку. З гэтай прычыны і з візітам да яго не сабраўся да гэтага часу. Дзяк памалу пляцецца ў свой двор, а Лабановіч ідзе ў бок чыгункі, каб пабыць аднаму з сваімі думкамі.

## XVIII

Дзяк Бацяноўскі тоіць у сабе крыўду на свайго суседа Лабановіча: хто ён за такі, што не хоча зайсці да яго, старога, паважанага чалавека, дваццаць дзевяць гадоў праслужыўшага каля святога алтара? Яшчэ не было тут ніводнага настаўніка і настаўніцы, хто-б выказаў яму такую знявагу, абмінуўшы яго дом. Нават Іван Пракопавіч Бяляўскі, казённы ляснічы — хіба-ж можна параўнаць з гэтым настаўнікам? — зайшоў да

яго з візітам, калі прыехаў сюды пяць гадоў таму назад, і цяпер заходзіць, як заходзіць да ляснічага і сам ён, дзяк Бацяноўскі. А які адукаваны, разумны чалавек і якую пенсію бярэ! Да і з кім наогул не знаецца дзяк Бацяноўскі! Людзі, можна сказаць, з прозвішчамі на ўсе двунадзесятыя святы — складаюць круг яго знаёмства: Спаскі, Успенскі, Благавешчанскі, Уздзвіжанскі, Увядзенскі, Богаяўленскі, Срэценскі і іншыя. Гэта калі ўзяць па духоўнай лініі, а калі далучыць сюды людзей свецкіх! Не злічыш!

І наогул падазроным здаецца яму яго сусед. То адзін цягнецца, тоіцца па завуголлю, то шушукаецца з людзьмі небяспечнымі, як гэты Аксён Каль, і поначы соваецца, як злодзей, па пустых дарогах. Нешта-ж ёсць такі на яго думках. І дзяк пачаў трохі прыглядацца да свайго суседа. Сяды-тады праходзіць ён каля школы, заглядаючы ў вокны. Часамі прыпыніцца і вуха прыложыць, каб улавіць хоць колькі слоў і па гэтых словах разгадаць сэнс тае гутаркі, што вядзецца там, за акном. Іншы раз ён ціхенька адчыніць веснічкі і ўвойдзе ў двор школы, зазірне ў пакойчык сумежны з кухняю, і ў самую кухню, бо ў дзяка Бацяноўскага розныя бываюць падазрэнні і дагадкі. Але такім спосабам дабіцца яму чаго-небудзь пэўнага ніяк не ўдаецца, і яго сусед застаецца для яго некатораю загадкаю. Але дзяк Бацяноўскі ад свайго не адступаецца. У яго ёсць і іншыя спосабы дазнацца таго, што яго цікавіць. Ён толькі не хоча спяшацца з гэтым: нідзе ён дзенецца, і ў святым пісьме напісана — «нічога няма патаемнага, што не стане яўным».

Старожка Ганна часамі заходзіць да пападзянак для сякіх-такіх паслуг, і яе наогул сустрэць нятрудна, каб можна было пагаманіць з ёю.

— Ну, здарова, Ганна! — запыняе раз яе дзяк.

— Здаровенькі булы! — адказвае старожка, трохі здзіўленая дзякоўскаю ўвагаю, і хоча далей ісці.

— Ці скора-ж ты мяне на радзіны заклічаш? — здалёк пачынае гутарыць дыпламатычны дзяк. Ён наогул пагаманіць з жанчынамі любіць, хоць ён чалавек і стары. Дзячыхі-ж у яго няма — памерла.

Ганна ўсміхаецца, — што сказаць на гэта?

— Не ведаю, — адказвае.

— Як-жа ты не ведаеш? Добры гаспадар ведае, калі яго карова ацеліцца. А ты свае прыгоды не ведаеш? Хіба ўжо справа такая заблутаная, або айцоў многа?

— Бацька то адзін, але і таго няхай халера задушыць,— гугніць Ганна.

— А гэты-ж да цябе не падкочваецца?

— А нашто вам усё ведаць?

Ганна бачыць усю нікчэмнасць дзякоўскай плевузготы, і ёй зусім не хочацца весці з ім такую гутарку. Яна борздa заварачваецца і ідзе ў школу, а дзяк усміхаецца, праводзіць яе вачамі. Ён трохі нездаволен вынікам размовы, бо яму нічога не ўдалося дазнацца. Наадварот, цяпер ён яшчэ болей збіты з тропу, і збіў яго адказ яе:

— А нашто вам усё ведаць?

Але трохі раздумаўшыся, дзяк матае і гэты адказ сабе на вус і галавою трасе. Ох, гэтыя ціхія маладыя людзі! Іх сапраўдную існасць даўно вызначыла народная мудрасць: у ціхай букце чэрці водзяцца.

Гэтае меркаванне да некаторай ступені задавольвае дзяка, але поўнага заспакаення не дае, і ён не адводзіць вока ад свайго суседа.

І многа чаго ў яго суседзе паказваецца яму дзіўным. Вось хоць-бы і са старожкаю гэтаю: няўжо не мог-бы знайсці сабе стоража або нават і маладзіцу, ну няхай-бы сабе і не толькі для старажоўскіх абавязкаў? Але нашто трымаць гэтую бязносую? Якая тут прычына хаваецца? Нячыстая тут справа. Далей — купляе падарункі сваім вучням. Ніхто гэтага не робіць. Які дурань будзе выкідаць так сабе грошы? Напэўна-ж тут павінна быць нейкае сваё меркаванне. А таксама і з сялянамі штось дужа знаёмства заводзіць. Глядзіш — то той, то другі, то па некалькі разам на яго кватэру ходзяць. І хто ходзіць? Людзі, што ў сяле ніякага значэння не маюць, а калі і маюць, то ў дрэнны бок, як гэты Аксён Каль.

Сама сабою напрашваецца думка — дэмакрат і смуццян!

Сям-там пры здарэнні з кім-небудзь аб суседзе загаворыць; цікава ведаць, як людзі пазіраюць на гэта?

Калі гэтыя ўсе факты былі выложаны а. Мікалаю, то а. Мікалай наўперад махнуў рукою і засмяяўся сваім працяглым смехам, потым, падумаўшы, перавёў вочы ў неазначаныя прасторы і нарэшце кіўнуў галавою направа і налева і сказаў:

— Усё можа быць.

Такому заключэнню можна было знайсці падмацаванне ў газеце «Свет», якую выпісвае а. Мікалай.

Іван Пракопавіч, казённы ляснічы, лысы чалавек, гадоў пад сорак, бліснуўшы сваімі быстрымі і вострымі вачамі, зазначыў.

— Пустое! Семінарскі ідэалізм яшчэ не зусім выветрыўся.

А пісар вывеў такое заключэнне.

— Папулярнасць сабе шукае.

Хоць у гэтых поглядах розных асоб на аднаго чалавека і не было згоды, тым не меней дзяк не толькі не адступіўся ад свайго погляду, але, наадварот, яшчэ больш умацаваўся ў ім, бо ўсё-ж такі паводзіны яго суседа не зусім людскія. Людзям з боку гэтага не так у вочы кідаецца, але старога дзяка не ашукаеш. Не, да настаўніка трэба прыглядацца! І трэба быць асцярожным, бо яго сусед, відаць, таксама асцярожны. Не дарма-ж ён тады, правёўшы з кватэры Аксёна, хадзіў каля рэчкі, каб дазнацца, хто быў пад акном, і спаткаў яго, дзяка. Пазнаў яго ці не?

Каб не даць суседу прычын думаць благое аб сабе, дзяк надумаўся сам зайсці да Лабановіча як-небудзь вечаркам. І быў такі «вечарок».

Дзяк зайшоў з двара і пастукаў у кухню. Ганна адчыніла яму дзверы.

— Добры вечар, Ганна! — громка здароўкаецца дзяк, — дома настаўнік?

Лабановіч сам адчыніў яму дзверы ў сваю кватэру.

— Не заходзіце вы да мяне, дык я сам зайшоў па суседству да вас.

— І добра зрабілі. Сядайце, калі ласка. А вы мяне выбачайце, што да гэтага часу не зайшоў да вас. Нават і сёння да вас збіраўся, — салгаў настаўнік.

— Ой, ці-ж праўда? — пытае дзяк і хітра прыжмураным вокам глядзіць на суседа.

— Ну, нялоўка мне і апраўдвацца, бо я вінаваты перад вамі.

— Пахвальна, што хоць віну сваю прызнаеце.

— Я заўсёды паважаю старэйшых ад сябе.

— А як у святым пісьме напісана на гэты выпадак? — пытае дзяк.

— «Прад ліцэм седага восстані і пачці ліцэ старча» [1]) — па-вучнёўску адказвае Лабановіч.

— Святое пісьмо ведаеце, але па святому пісьму не паступаеце.

У голасе дзяка чуваць дакор.

— А хто жыве па святому пісьму? Святое пісьмо забараняе мець крыўду на каго-б там ні было, а вы на мяне крыўдуеце.

— Хавай божа! Ніякай крыўды не маю на вас. Кожын волен жыць, як знаходзіць лепей, — гаворыць дзяк і аглядае пакойчык. — А нічога сабе кватэрка ў вас.

Дзяку трэба што-небудзь сказаць.

— А нічога кватэрка.

Наступае кароткая маўчанка.

Настаўнік хоча загаварыць, але гутарка не клеіцца. Яго выручае дзяк.

— Не маркотна вам аднаму?

Лабановіч ажыўляецца, хапаецца за гэтую думку і кажа, што яму зусім не маркотна, што ў яго ёсць работа ў школе, а вечарам ён то чытае, то рыхтуецца да наступнага школьнага дня.

— А я да вас хацеў нейк зайсці, але ў вас хтось быў, і я не хацеў замінаць тут вам.

— Вы мне ніколькі не замінalі-б, калі ласка, заходзьце, — гаворыць настаўнік і тут-жа думае: «А лепш было-б, каб ты не заходзіў».

І гутарка зноў прыпыняецца.

— Ну, а як у вас хор? — нарэшце пераходзіць дзяк на дзелавы грунт.

— Ніяк.

---

[1]) Перад тварам сівога ўстань і ўшануй асобу старога.

— Мітрафан Васільевіч быў арганізаваў хор і нічога сабе спявалі ў цэркве. Вам-бы толькі падтрымаць яго. Ведаеце, «благочыніе» царкоўнае ад гэтага многа залежыць.

— О, Мітрафан Васільевіч дасціпны быў настаўнік, і памяць аб ім не памрэ ў Выганаўскай школе.

Пачынаюць хваліць Мітрафана Васільевіча, хваліць няшчыра і фальшыва.

— А цяпер яму падвышэнне далі, — кажа дзяк: — назначылі ў горад у прыходскае вучылішча. А там, ведаеце, настаўнікі ўжо і форму сваю маюць з бліскучымі гузікамі і шапкі з цэшкамі носяць, як чыноўнікі.

— Мітрафан Васільевіч гэта заслужыў у поўнай меры! — скрозь прытоенае насміханне атэстуе свайго папярэдніка Лабановіч.

— Умеў чалавек паставіць сябе, — заўважае дзяк.

— Так, гэта не ўсім удаецца.

— Не закапаў сваіх талентаў у зямлю.

Нудная, нікчэмная гутарка перарываецца кароткімі перапынкамі, цячэ, як гнойная вада па бруднаму раўчаку.

Дзяк сядзіць ужо з добрую гадзіну і не збіраецца дамоў. Дый што яму дома рабіць? Не ведае дзяк, куды дзець свой час. Гаспадарка яго не вялікая — Даша адна спраўляецца з ёю.

Даша — маўклівая, сур'ёзная, замкнутая ў сабе дзяўчына. Аб чым яна думае, хто яе ведае. Аб тым, што ў яе на сэрцы, яна ні з кім не гаворыць і нават бацьку не адкрываецца. Праўда, бацька не надта і стараецца зірнуць у яе сэрца. Ён ведае, што ёй даўно пара замуж, але дзе ты возьмеш цяпер таго жаніха? а Даша сама зацялася на маладых людзей, бо што-ж ёй застаецца рабіць?

Дзяк сядзіць, часамі пазірае на свае вывернутыя пальцы, штось думае, і хітраватая ўсмешка прабягае ў прыжмураных вачах.

Нецікава сядзець з старым дзяком. Сухі і нішчымны, як абмалочаны сноп. Нейкі старэцкі скептыцызм прабіваецца ў яго словах, затхласцю мінуўшчыны аддае яго размова і сам ён, прапахлы царкоўнымі канонамі, выпет-

ранымі і бяздушнымі, лампадным алеем і воскам царкоўных свечак, здаецца нейкім прыкрым архаізмам, варожым да ўсяго, што свежа і молада.

Сяды-тады, украдкам, кідае настаўнік погляд на дзяка. «І быў-жа калісь чалавек малады... Якім быў ён юнаком? — снуюцца думкі ў галаве настаўніка. — Напэўна-ж былі ў яго тады нейкія імкненні, чагось чакаў ад жыцця чалавек. І як стаўся ён такім заскарузлым, сухім і чэрствым?»

І гэты дзяк пачынае карцець яму, назаляць, замінаць. А той сядзіць сабе, пакурвае суседавы папяросы, разглядае свае кратовыя лапы-рукі. Лабановіч не знаходзіць аб чым гаварыць з ім, не ведае, як падтрымаць гутарку. Разам з дзякам і ён пераводзіць вочы на яго рукі, запыняе на іх увагу. Нарэшце, не вытрымлівае і пытае:

— Ад чаго гэта ў вас такія рукі, Амос Адамавіч?

Амос Адамавіч — так завецца дзяк — глядзіць на свае дзіўныя лапы, растапырыўшы пальцы, усміхаецца і кажа:

— Ад старасці і ад раматусу. Старэе чалавек, мяняюцца і формы яго цела. Не красіць, мілы мой, старасць чалавека... А вы ведаеце, чым лячуся я ад раматусу?

— Чым?

— Крапіваю. І вельмі памагае.

— Як-жа вы лечыцеся крапіваю?

— А вот рву крапіву і б'ю ёю па руках. Насячэш іх, і адразу лягчэй робіцца. А дактары не ведаюць лякарства ад раматусу. Крапіва — найлепшае лякарства.

— А зімою як вы лечыцеся крапіваю?

— Зімою горш: не расце зімою крапіва. Гэта добра свежанькаю.

І расказвае дзяк аб вялікай вартасці крапівы. А каб здаровым быць, то часамі не шкодзіць наогул пасеч сябе крапіваю.

Ад крапівы пераходзіць ён у мінулае. Тады людзі ніякіх дактароў не ведалі і былі здаровыя. Наогул даўней жылося лепей. Прадукты былі танныя. На тры капейкі чорт ведае чаго можна было купіць. І людзі былі лепшыя.

Вядзе гутарку Амос Адамавіч нецікавую, усім вядо-

мую, многа разоў чутую. Прыплятае сюды нейкага спраўніка, як ён з смятаны маслёнку рабіў.

Бедны настаўнік глядзіць на гадзіннік, а дзяк не зважае. Здаецца, ніколі не выйдзе ён адгэтуль.

Так праходзіць увесь вечар.

— Вы, мусібыць, позна спаць кладзецеся? — пытае настаўнік.

— Як калі, — адказвае дзяк ды ізноў сядзіць, пазірае на свае вывернутыя пальцы.

«Ах, што-б ты лёг ды не прачнуўся больш», — думае Лабановіч і не можа дачакацца, калі госць яго пойдзе дамоў.

## XIX

Пачатак лістапада.

Вечар.

Лабановіч сядзіць у сваім аблюбаваным пакойчыку. На стале гарыць лямпа пад светлым абажурам. У вокны глядзіць густы мрок. Сівыя хмары звісаюць нізка, сеючы дробны дождж. Ціха і глуха. Толькі з кухні даносіцца юсцін галасок — спявае песеньку, ды зрэдку аброніць слова Ганна да свае дачкі.

Настаўнік разглядае паперы, прысланыя сёння з пошты праз воласць, з поштаю прышоў і журнал «Гражданін». Рэдактар гэтага журнала — князь Мяшчэрскі. Агідны чорнасоценны журнальчык, звышпатрыятычнага зместу. Высылаецца ў школы дарма: выдаецца на казённую субсідыю для пашырэння манархічных ідэй. У журнале даюцца і адпаведныя рысункі. У гэтым №-ры журнала таксама ёсць рысунак. На рысунку паказан цар Мікалай Другі. Цар сядзіць за сталом сярод кніг і папер з пяром у руках. Міна яго поўна задумленасці і заклапочанасці. А дзесь, на заднім плане, мітусіцца народ, заняты сваімі справамі. Пад рысункам подпіс: «Народ весяліцца, а цар працуе».

Лабановіч пазірае на рысунак, і па губах прабягае іранічная ўсмешка. А потым хватае гэты журнальчык і шпурляе кудысь у куток.

— Паскудства! — гаворыць сам сабе.

На школьным ганку з боку выгана чуюцца нейчыя крокі, а потым — асцярожны стук у дзверы.

«Хто-ж гэта яшчэ прэцца?» — думае ён ды ідзе адчыняць, падняўшы на ўсякі выпадак «Гражданіна» князя Мяшчэрскага.

— Хто? — пытае.

— Вучыцельніца, — чуецца з-за дзвярэй малады дзявочы голас.

Гэты візіт незнаёмай настаўніцы ды яшчэ ў позні час яго моцна дзівіць. Ён адчыняе наўперад дзверы ў сваю кватэру, каб відней было, бо ў перадпакойчыку цёмна, і ўпускае настаўніцу.

— Заходзьце, будзьце ласкавы.

Настаўніца заходзіць у цемнаваты пакойчык і спыняецца.

— Праходзьце далей — там святлей і цяплей.

— Раней-жа трэба хоць пазнаёміцца: Вольга Андросава... Не напалохала я вас? — пытае настаўніца і смяецца.

— Калі ўжо палохацца настаўніцы, то лепш пайсці ды ўтапіцца ў Піне.

— Вы мяне выбачайце. Еду ў сваю школу, у Купячічы, і па дарозе да вас заехала.

— І вельмі добра зрабілі. Раздзеньцеся трохі ды пасядзеце. У мяне якраз і самавар зараз будзе гатоў.

Вольга Андросава — яшчэ зусім маладая дзяўчына. Год, як скончыла гімназію. Смуглая, круглатварая, жывая і быстрая. Фігурка яе мерная і складная. Цёмныя валасы падстрыжаны. Вочы бойкія і смелыя.

— Вы яшчэ не былі ў сваёй школе?

— Не, не была. І не ведаю, якая яна там. А вы ўжо даўно тут?

— А ўжо зараз два месяцы будзе.

— І работу распачалі ў школе?

— Пачаў. Другі месяц, як заняткі пачаліся.

— Ох-ці мне! Як-жа я адстала ад вас!

— А чаму так позна вас назначылі?

— Назначылі мяне з першага кастрычніка. Ну, пакі прышло назначэнне — а жыву я ў Смаленшчыне — да пакі заехала сюды, да ў Пінску трохі ў знаёмых пабыла, вось і апазнілася.

— Ну, што-ж? Лепей позна, чым ніколі.

Андросава — бойкая, гаваркая дзяўчына. Не прайшло і пяць мінут, як яны разгаварыліся, як-бы даўно ўжо былі знаёмыя. А калі Ганна прынесла самавар, то настаўніца ўзяла ад яе рушнік і стала выціраць шклянкі, папрасіўшы дазволу на гэта, і сама наліла чаю гаспадару і сабе. Яна піла чай і гаварыла. Загаварыўшыся, курыла і, відаць, адчувала сябе тут вельмі добра.

Але ў самы разгар піцця чаю і гутаркі ў акно пастукаў фурман. Аб ім тут і забыліся. Фурман гэты — селянін з Купяціч. Яму абрыдла стаяць каля школы, і ён забарабаніў у акно.

— Скора будзем ехаць?

Вольга Віктараўна паглядзела на Лабановіча.

— А я і забылася, што мне ехаць трэба. Што-ж, буду збірацца.

— Вольга Віктараўна! адпраўляйце вы сваю фурманку дамоў, а самі начуйце тут. Дзе-ж там у школе прынецеся? Ужо ноч, а покі заедзеце, яшчэ пройдзе гадзіна. А там напэўна холадна і можа нікога няма. Кажу вам, адкіньце ўсякія цырымоніі і заставайцеся начаваць. А заўтра пойдзеце ў воласць, — а ў воласці вам быць усёроўна трэба, — возьмеце фурманку і паедзеце.

Настаўніца пазірае на Лабановіча.

— А ведаеце, — гаворыць яна, — вы падаеце мне геніяльную мысль.

Лабановіч выходзіць на двор.

— Едзьце вы сабе дамоў, настаўніца тут застанецца.

— Тут, дык тут. Але чаго-ж я бітую гадзіну стаяў?

Фурман заварочвае каня, бубніць штось сам сабе і ад'язджае.

Лабановіч ідзе ў кватэру, а Вольга Віктараўна па нейкай аналогіі ўспамінае адно здарэнне з свайго жыцця і расказвае аб ім.

— Раз у Смаленску запыняе мяне абарваны чалавек інтэлігенцкага аблічча.

— Дайце мне, барышня, на выпіўку.

— А колькі-ж вам даць? — пытаюся. Абарваны чалавек прыстаўляе палец да ілба і застывае ў глыбокадум'і.

— Прадстаўце сабе, барышня: першы раз у сваім жыцці натыкаюся на такое пытанне!.. Ну, дайце, каб можна было чарвяка заліць.

— Разуменне «заліць чарвяка» — рэч неазначаная і расцяжная: аднаму і кручка на гэта даволі, а для другога кручок — капля ў моры, — заўважваю яму.

— Зусім справядліва. Я іменна з катэгорыі тых, для каго кручок — капля ў моры.

Потым Вольга Віктараўна як-бы ахамянаецца і кажа:

— Можа я вам, калега, замінаць тут буду? Бесталковая я!

— Ніколечкі! — заспакойвае яе Лабановіч: — кватэра мая прасторная. І канапа мяккая нават ёсць.

— Да вы, калега — буржуй! — смяецца Вольга Віктараўна.

— Я толькі карыстаюся, можна сказаць, з вашага брата.

— Як, так?

— Тут была калісь настаўніца, якой сімпатызаваў інспектар. Гэта ён для яе набыў такую буржуйскую роскаш. Так што вы на яе маеце большае права, чым я.

— Ну, ладна! — згаджаецца Вольга Віктараўна: — будзем лічыць гэтае пытанне вычарпаным да дна. А цяпер хацела-б я вас прасіць, калега, каб вы ўвялі мяне ў курс школьнае справы, бо я ў ёй ні чорта не разумею. Не ведаю нават як і прыступіць да яе.

— Ну, што-ж? Раскажу вам, як і што, толькі вы мне за гэта павінны будзеце зафундзіць, бо дарма, кажуць, і каза не скача, — пачынае жартам Лабановіч.

— За гэтым справа не стане. Прыязджайце да мяне, пачастую, — смяецца настаўніца.

— Ну, калі так, дык слухайце. Перш за ўсё вам трэба сабраць вучняў. Звычайна гэта робіцца так: вы назначаеце дзень збору дзяцей, а стараста (можна і праз папа) апавяшчае бацькоў, каб пасылалі ў школу дзяцей. Збяруцца дзеці, вы іх запішаце ў асобны журнал... Вось гэта ўсё я пакажу вам на журналах.

Лабановіч прыносіць журналы і раскладвае іх перад настаўніцаю, паказвае, у якім журнале і што трэба запісаць.

— Як бачыце, журнал сам падказвае, як і што запісваць. Але гэта глупства. Самае паганае ў нашай настаўніцкай практыцы тое, што аднаму чалавеку прыходзіцца весці работу з чатырма групамі. А ў вас яшчэ і школа многалюдная — каля ста дзяцей набярэцца.

— Што вы кажаце! Каля ста чалавек?! І чатыры групы! Ды гэта-ж свінства! Што-ж я буду рабіць?.. Охці, галованька мая!

Страх і недаўменне адбіваюцца на твары Вольгі Віктараўны.

Лабановіч глядзіць на яе, а потым рагоча.

— Ды гэта-ж звычайная з'ява ў нашых школах, — зазначае ён.

— Але-ж я не магу сабе ўявіць, як можна весці работу пры такіх умовах. І ўсе чатыры групы ў адным класе?

— А як-жа інакш?.. Страшнага тут нічога няма. Трэба наўперад напісаць расклад сваёй работы, напісаць такім парадкам, каб у вас на кожную гадзіну была такая група, дзе вы будзеце весці асноўную работу, а другія групы ў гэты час займаюцца самі пад вашым кантролем. Групы вы мяняеце, чаргуеце, але ні аднае не спускаеце з вока, інакш у вас будзе гармідар.

— Невясёлыя рэчы расказваеце вы мне, Андрэй Міхайлавіч. Ведала-б і не заязджала-б да вас... Міленькі Андрэй Міхайлавіч, навучыце-ж мяне, як-жа размеркаваць работу так, каб можна было па праўдзе весці яе?

— Вы так хораша папрасілі мяне, што я павінен навучыць вас.

Лабановіч прыносіць свой расклад работы ў школе. Садзяцца радам. Настаўнік паказвае ёй расклад і тлумачыць. Вольга Віктараўна прыглядаецца, пачынае разбірацца і зусім весялее.

— Ну, я спішу ваш расклад, здзяру яго да літары... Дайце мне, калі ласка, паперы... Ах, як слаўна, што я да вас заехала і як разумна зрабілі вы, што не пусцілі мяне!

Яна ізноў уся ажыўляецца, парывіста хапаецца за работу.

Праз чвэрць гадзіны яны ўдваіх скончылі перапісванне.

— Ну, цяпер мяне не возьмеш за руб дваццаць, — гаворыць настаўніца, хаваючы расклад.

Гутарка яе развязная, бойкая. З Лабановічам тры-

маецца па-таварыску. Лабановіч прыглядаецца да яе, мяркуе, да якой катэгорыі жанчын аднесці яе. Яна нагадвае яму тургенеўскую нігілістку.

— Ну, як вы наогул глядзіце на сваю настаўніцкую місію? — пытае яе.

— Ох, скажу вам — нудная гэта справа! Ды я-ж яе і не ведаю. А вы так напалохалі мяне. Проста былі такія мыслі, — завярнуцца адгэтуль ды даць драпака. Я толькі цешу сябе тым, што, на шчасце, вы—мой сусед і спадзяюся, што вы мне паможаце, калі я часамі ўткнуся ілбом у сцяну.

— Бачыце, Вольга Віктараўна, справа ў тым, каб палюбіць сваю работу. Калі вы яе палюбіце і захапіцеся ёю, то вы знойдзеце спосаб ухіліць і перамагчы перашкоды, калі яны напаткаюцца.

— Каб палюбіць сваю справу, трэба яшчэ і вера ў сэнс яе, — заўважае Вольга Віктараўна.

Яна апускае вочы, як-бы веры ў яе якраз і бракуе, толькі сказаць таго не адважваецца.

— Але-ж вы напэўна гэтую веру маеце, калі выбралі сабе настаўніцкую дарогу.

— А вы думаеце, што ўсе настаўнікі так захоплены сваёю справаю, што цалкам аддаюцца ёй? — пытаннем адказвае Вольга Віктараўна. Відаць ухіляецца ад простага адказу. Потым падымае вочы на Лабановіча.

— Андрэй Міхайлавіч, скажыце, калі ласка: дабро вы робіце народу ці зло, забіваючы розум дзяцей і іх чыстыя душы ўсякаю казённаю трухляцінаю?

«Ах, унь ты якая», — думае сабе Лабановіч і адчувае, як балюча ўкалола яго гэтая дзіўная дзяўчына.

— Хто ведае, што ён свядома начыняе дзіцячыя мазгі гэтаю, як вы называеце, казённаю трухляцінаю, той ёсць нягоднік, або проста няшчасны, бязвольны чалавек ці проста рамеснік, гатовы за грошы рабіць усё, што хочаш. Але хто замінае адкінуць гэтую трухляціну і накіраваць увагу дзяцей у другі бок?

— А як-жа гэта зрабіць? — пытае Вольга Віктараўна.

— Вось гэта і трэба ўсё абмеркаваць. Я ведаю, што такая работа патаемнаю не застанецца.

Далейшая размова зблізкае іх, рассейвае тое недавер'е і тую асцярожнасць, што замінаюць выяўленню

шчырасці і адкрытасці паміж людзьмі, асабліва мала знаёмымі. Вольга Віктараўна расказвае, як летам жыла яна сярод студэнтаў і настаўнікаў, якія гутаркі вяліся паміж імі, як варожа настроены яны супроць гэтай «казённай трухляціны». У яе ёсць цікавыя кнігі, якімі яна ахвотна падзеліцца з сваім суседам.

Іх гутарка вядзецца за поўнач, покі Лабановіч як гаспадар не ўспамінае, што настаўніца з дарогі, што ёй трэба адпачыць.

А з двара на іх пазірае не адна толькі гэтая чорная, маўклівая ноч: дзяк Бацяноўскі стаіць на граніцы святла, што падае праз акно настаўніцкай кватэры, і густа злеглай над зямлёю цьмы. Ён пільна ўглядаецца ў гэтую маладую пару, ён ловіць кожны рух іх мыслі на твары. У яго мазгаўні таўкуцца розныя думкі, дагадкі. А калі ён дазнаецца, што гэта чарнявая стрыжаная дзяўчына застаецца тут начаваць, то яго здзіўленню і абурэнню дзякаўскай душы няма граніц.

## XX

Вольга Віктараўна ўзяла слова ад свайго калегі, што ён у бліжэйшы святы дзень даведаецца да яе. На гэтым яны і развіталіся.

А тым часам дзяк Бацяноўскі не мог стрымаць сябе, каб не расказаць сваім суседкам-пападзянкам, а. Мікалаю і ляснічаму аб познім візіце настаўніцы да яго суседа і — што яшчэ болей цікава — аб яе начаванні ў яго кватэры. Дзяк пры гэтым не пашкадаваў фарбаў, каб спісаць усё падробна: як яны пілі чай, як яна выцірала шклянкі, як ён падсаджваўся да яе, і як яна гарнулася да яго. І гэта ўсё дзяк бачыў выпадкам, праходзячы каля школы.

— Падумайце, што пачало тварыцца на свеце! Чаму-ж яны навучаць дзяцей? — асвятляў дзяк гэты факт.

Цнатлівыя пападзянкі выслухалі з вялікаю цікавасцю дзякава паведамленне. Слухаючы, яны пераглядаліся, а на іх тварах прабягалі іранічныя ўсмешкі.

— А якая яна — прыгожая? — запытала малодшая пападзянка, Антаніна, болей жывая і яхідная.

— Стрыжаная! — адказвае дзяк, прычым гэтае значэнне гучыць у яго роўназначна слову «прапашчая». — А якая яна далей, аднаму вельзевулу, князю цьмы вядома. Блудніца садомская!

— На прыгоства цяпер не глядзяць, — са скрухаю душы заўважае старшая, Глафіра, бо яна лічыць сябе прыгожаю, — а прыклад таму — бязносая Ганна і Мітрафан Васільевіч.

І яна ўздыхае.

Застаўшыся ўдваіх, яны доўга разбіраюць гэтае здарэнне і выліваюць усю гарчэчу свайго застарэлага дзявоцтва. А Ганну паставілі пад дапрос, бо цікава-ж было даведацца чаго-небудзь яшчэ новага.

— І доўга яны сядзелі? — пытае Антаніна.

— Не ведаю, паненачка: я ўжо лягла спаць, а яны яшчэ сядзелі.

— І яна сама выцірала шклянкі?

— А хто яе ведае! Узяла ад мяне рушнік.

Ганна баіцца сказаць чаго-небудзь лішняга, бо настаўніка яна шануе і нічога благога ў ім не бачыць.

— А дзе яна спала?

Цяпер пытанне ставіць ужо Глафіра.

— На канапе.

— А ён дзе спіць?

— А ён у гэтым пакойчыку, што пры кухні.

— А ўночы не ўставаў ён? Не чула?

— Не, не чула. Паныч яшчэ з вечара, кладучыся спаць, аддаў той паненцы ключ, каб яна замкнулася.

— Ключ аддаў? нашто? — цікавіцца Антаніна.

— А мабыць, каб яна замкнулася і спакайней спала.

— І яна ўзяла ключ?

Ганна выказвае нецярпенне і неахвоту адказваць на такія пытанні.

І а. Мікалай слухаў дзяка ўважна. Наўперад ён зрабіў здзіўленыя вочы, а потым засмяяўся прадоўжным смехам і, нарэшце, запытаў:

— А як яна сабою, нічога дзяўчына?

А. Мікалай — чалавек малады, і яго не-не ды часамі бухторыць д'ябал і прымушае заглядацца на прыгожых маладзіц.

Дзяк гэта ведае.

— Нічога дзяўчына, сакаўная і фігурыстая.

А. Мікалай коўтае сліну.

— Што-ж? І ты, Амос Адамавіч, быў малады. А можа і цяпер злы дух спакушаў цябе, калі запыніў каля акна?

Працяглы смех зноў трасе жывот а. Мікалая, а дзяк апускае вочы.

— Спета песня мая, а. Мікалай, — адзываецца ён і ўздыхае журботна.

— Ці так гэта, Амос Адамавіч? — пытае а. Мікалай і стукае дзяка па плячы: — Аўрааму было сто гадоў, калі радзіўся ў яго Ісаак, а табе да ста, глядзі, гадоў сорак засталося?

Дзяк выпроствае згорбленую спіну.

— Да яно, калі-б на тое пайшло, а. Мікалай, — стары вол баразны не псуе.

— Ось бачыш!.. Так-то, Амос Адамавіч, — дадае а. Мікалай, — мы бачым сучок у воку брата свайго, а бервяна ў сваім не заўважаем.

А. Мікалай трохі расчараваў дзяка. Праўду сказаць, у глыбіні сваіх мыслей ён сам не бачыў тут нічога надзвычайнага, але ў ім было нешта такое, што настройвала яго супроць суседа. Скарэй за ўсё ў яго была тут проста глухая зайздрасць да свайго суседа, зайздрасць немачнай старасці перад моладасцю. Але гэтаму пачуццю ён стараўся даць іншае афармленне. Як-ні-як — настаўнік павінен прыкладам быць, а не шашнямі займацца.

І дзяк не можа супакоіцца. Ідзе да ляснічага. Заводзіць гутарку аб настаўніку.

— А ён, відаць, сур'ёзны хлопец, — адзываецца ляснічы, — і работнік добры.

— Гроб паваплены! — зазначае дзяк і расказвае пра візіт да яго настаўніцы.

Ляснічы слухае ўважна. Увесь час на яго губах пакалыхваецца ўсмешка. Сам ляснічы далёка не святы ў гэтым сэнсе чалавек.

Выслухаўшы дзяка, ён кажа:

— На лаўца і звер бяжыць, калі толькі ён сам не дурань.

А потым яшчэ больш расхаладжвае дзяка.

— Гэта — глупства. Я ведаю здарэнні, калі студэнт і

студэнтка начуюць у адным пакойчыку, на адной пасцелі і нічога паміж імі не бывае.

Такім парадкам сярод мужчын дзяк не сустрэў таго эфекту, якога ён спадзяваўся. Затое жанчынам ён даў багаты матэрыял, якога ім хапіла на доўгі час.

Скора пасля гэтага ў школу заходзіць дзяк. На гэты раз ён прышоў сюды як настаўнік. А. Мікалай, з-за гаспадарскіх ці іншых спраў, не меў часу з'явіцца на закон божы і папрасіў дзяка падмяніць яго ў школе.

— Ты ўжо, Амос Адамавіч, жывеш там блізка. Займіся, зрабі ласку, чым-колечы з вучнямі.

— Можна, а. Мікалай! — дае дзяк сваю згоду.

У справе выкладання ён не меў практыкі. Але яна яму і не патрэбна. Ён сам калісь вывучаў закон божы, памятае, як вучылі ў яго часы. Праўда, ён шмат чаго перазабыў, але сёе-тое ў яго памяці яшчэ засталося. Вось аб гэтым, што захавала яму памяць, ён і будзе казаць.

Вучні былі вельмі здзіўлены, убачыўшы дзяка ў школе. Шмат хто з вучняў меў справу з дзякам, забягаючы летам у яго сад і агарод. А ён ганяўся за імі і лаяў іх.

Дзяк приступіў да справы павольна.

Наўперад паведаміў, што а. Мікалай даручыў сёння яму заняцца з імі законам божым. Усю школу злучыў ён у адну групу і загадаў дзецям сядзець ціха, слухаць уважна. А потым ужо приступае да справы.

— Ну, ты! — пальцам тыча дзяк на аднаго хлапчука.

Падымаецца некалькі хлапчукоў, бо гэты вывернуты дзякоўскі палец накіроўваецца на некалькіх вучняў.

— Чаго вы ўсе паўставалі? — крычыць на іх дзяк.

Дзеці пачынаюць хіхікаць.

— Я вам пасмяюся, лайдакі вы! — грозіць ён ім.

— Ну, вось ты, чарнявы з краю!

Падымаецца «чарнявы з краю».

— Як цябе зваць?

— Міхалка.

— Прозвішча тваё пытаю, дурань!

— Мажэйка.

— Гэта які Мажэйка, што каля кузні?

— Эгэ, — адказвае вучань.

— А як цябе дражняць?

Міхалка маўчыць, а з усіх куткоў, наўперад ціха, а потым мацней гучаць галасы:

— Латак, Латак!

— Многа нарабіў ты ў агародзе дзірак? — пытае дзяк.

— Не, нямнога.

— Ну, колькі?

— Можа з дзесятак морквачак і вырваў.

— Ах ты, гіцаль! Ну, садзіся.

Пад дружны рогат дзяцей Міхалка садзіцца, а дзяк тупае нагамі і рукамі махае, каб заспакоіць іх.

— Хоць вы і вучыцеся, але нічога вы не ведаеце, — пачынае дзяк цэлую прамову, прычым гаворыць паляшуцкаю моваю, якою ён валодае лепей, чым расійскаю.

— Пачнем з канца або з самага пачатку, бо вы — дурні і нічога не ведаеце... Дык, вось, так. Нічога наўперад не было: ні неба, ні зямлі, ні нашых пінскіх балот, ні чароту на іх.

— А чым тады ў печы палілі? — пытае хтось ззаду.

— І пячэй не было, і хат не было, — адказвае дзяк.— Нічога не было. Быў адзін толькі бог... А дзе жыве бог?— перапыняе сам сябе дзяк і раптам пытае вучняў.

— На небе! — гудуць дзеці.

— Так, на небе. Сёе-тое вы ведаеце. Ну, а вот як неба не было, тады дзе жыў бог?

— На ўсякім месцы.

— О, шэльмы, і гэта ведаеце. Ну, што-б у вас запытаць, чаго вы не ведалі-б... Ага. Скажэце, колькі асоб у бога?

— Тры: бог айцец, бог сын і бог дух святы!

— Вось арыштанты! І гэта вы ведаеце. Ну, буду казаць далей. Дык нічога не было. Толькі дух божы насіўся над бяздонніцаю. І замысліў сабе бог стварыць свет. Адзяліў бог святло ад цьмы і назваў святло — дзень, а цьму — ноч. Паглядзеў бог і кажа: «Добра вышла». Назаўтра бог устаў рана і пачаў майстраваць неба. Зрабіў, падзівіўся — добра. Калі ёсць неба, дык трэба, каб і зямля была. Зрабіў бог і зямлю. Але зямля была пустая і неўпарадкаваная, перамешаная з вадою. Ды ўжо было позна. «Заўтра зраблю», — думае бог. Назаўтра ён устаў яшчэ раней, бо работы было процьма. Трэба было нарабіць рэчак, азёр, мораў, ну, і балота таксама трэба ча-

лавеку. Вось гэта ўсё і зрабіў бог на чацверты дзень. А каб яшчэ было харашэй, дык ён і цацак нарабіў на небе: сонца, месяц і зоры. У пятніцу, гэта значыць, у пяты дзень, нарабіў бог рыбы ў вадзе і птушак у паветры. Весела зрабілася на зямлі: тут табе і трава і дрэвы растуць, вецер гэтак шуміць у лісцях, птушкі спяваюць, проста і ў хату не хочацца ісці. Нехватала яшчэ звяроў і чалавека. У шосты дзень нарабіў бог звяроў.

— І чалавека! — падказваюць дзяку.

— Не, стой: наперад не забягайце. Перад тым, як стварыць чалавека, была нарада паміж богам айцом, духам і сынам. Бог кажа: «Трэба стварыць чалавека, па вобразу і па падабенству да нас». Узяў бог гліны, зляпіў чалавека і хукнуў. Як хукнуў, чалавек зараз і ажыў. Пайшоў ён хадзіць, разглядацца. Ды падобнага да сябе нікога не бачыць. Маркотна стала Адаму — першы чалавек называўся Адамам. Нідзе не прыткнецца бедны. Ходзіць, як после добрай выпіўкі, шукаючы, каб чым апахмяліцца. Пазіраў на яго бог, пазіраў ды кажа: «Нядобра чалавеку быць аднаму — трэба ажаніць яго». Дзяўчат-жа на свеце не было, у сваты яго не пазавеш. Трэба іншую раду даваць. Натупаўся Адам, ходзячы па зямлі, і моцна заснуў. Вось тады бог узяў з яго рабро і з рабра выштукаваў кабету і назваў кабету Ева. Прачнуўся Адам ды як глянуў на яе, дык увесь і прасвятлеўся. А бог пазірае ды цешыцца. «Бяры, кажа, яе: няхай яна будзе табе за жонку. Жывеце, кажа, у згодзе, у добрым ладзе, не сварыцеся, не біцеся. А ты, Ева, даглядай свайго мужа. Вось гэта ўсё, што вы бачыце, гэта ўсё ваша. Будзьце-ж гаспадарамі над усім, што на зямлі. Не забывайце бога, у цэркву хадзіце. На папа і на дзяка таксама не забывайцеся, бо яны за вас моляць».

Расказаў далей дзяк, як жылі ў раі Адам з Еваю, як ім было добра, якія былі там сады і дрэвы і якую запаведзь даў ім бог. Але найболей цікава расказаў дзяк, як людзі саграшылі і як бог караў іх за гэта.

— Паслухаў Адам сваю жонку, з'еў яблык з забароненага дрэва. А як з'еў, дык адразу пазнаў, што зрабіў брыдка... Нядобра яму зрабілася і першы раз аблаяў Еву як мае быць. А тая маўчыць — ну, што ты возьмеш з бабы? Кінуў Адам Еву і пайшоў у дубы. Лёг пад дубам і ля-

жыць. Аж чуе — бог па раі ходзіць. Сорамна Адаму богу ў вочы зірнуць. Ляжыць, не ўстае. Чуе — з Еваю гамоніць.

— А дзе твой Адам?

Апусціла вочы Ева, маўчыць.

— Чаго-ж ты маўчыш? Дзе, кажу, Адам?

— Не ведаю.

— Як «не ведаю?» А хто-ж павінен ведаць?—Глядзіць на яе бог строга. — Гэта, кажа, мая мілая, з цябе свет гарыць! Я ўсё бачу і ведаю. Пачакай, кажа, я з табою яшчэ пагавару! Пайду толькі таго лайдака пашукаю. Як мяне — дык не хачу слухаць, а жонку нябось паслухаў! — Чуе ўсё гэта Адам. Страшна яму. Стаіўся за дубам і ані чхне. Прайшоў бог так і гэтак, глядзіць — няма Адама. Дзе-ж ён, кажа, падзеўся? Давай яго клікаць.

— Адам!

А той Адам — ані гу-гу.

— Адам! — яшчэ мацней гукае бог.

А той Адам і галаву прыгнуў. Бог-то ведае, дзе Адам, але хоча, каб ён хоць трохі пакаяўся і сам папрасіў, каб дараваць яму грэх.

— Адам, дзе ты?

Не падае Адам голасу.

Тут дзяк уваходзіць у ролю ўгневанага бога і прыпісвае яму свае ўласцівасці.

— Угневаўся бог, ды як крыкне: «Адам, трасца тваёй галаве, дзе ты, гад?!».

Бачыць Адам, што нідзе тут дзенешся — вылазіць з-пад дуба.

— Нашто ты еў тое, што я табе не дазволіў?

Замест таго, каб пакаяцца, Адам пачаў апраўдвацца:

— Жонка, якую ты мне ўсватаў, дала мне, і я еў.

Паклікаў бог Еву.

— Нашто ты давала Адаму забароненыя плады?

— Мяне спакусіў д'ябал, угаварыў мяне.

Паглядзеў на іх бог, патрос галавою.

— Будзь-жа ты пракляты, д'ябал. Поўзай на сваім чрэве, а некалі Евін патомак раздушыць табе галаву. Ты, Ева, будзеш у болях радзіць дзяцей, а муж твой будзе гаспадар над табою. А ты, Адам, не забывай, што зроблены ты з зямлі і ў зямлю зноў пойдзеш. Праклята

зямля з-за цябе. Будзеш ты працаваць многа, а карысці мець мала, бо ты не паслухаў бога.

І павыганяў іх бог вон з раю.

— Дык вось бачыце, шэльмы вы, які грэх не слухаць бога! Рабіце тое, што вам кажуць старэйшыя. І па садах лазіць не трэба.

## XXI

Мыслі, закінутыя ў душу Лабановіча нелегальнаю брашуркаю, невядома кім падкінутаю, не давалі яму спакою. Старыя пазіцыі светаразумення аказваліся хісткімі, пабудаванымі на пяску. Яны не вытрымлівалі напору крытычнай мыслі і рассыпаліся, паказваючы сваю нястатнасць і нікчэмства.

Здавалася, ужо само паветра было насычана новымі павевамі свежай мыслі, хоць ахоўнікі ўсталяванага вякамі палітычнага ладу цвёрда стаялі на сваёй варце і забівалі самыя маленькія шчылінкі, праз якія маглі-б прабіцца новыя ідэі. Але там, дзесь у патаемных глыбях, нешта бурліла, кіпела, узнімалася, рвалася наверх. Газеты паведамлялі аб забастоўках, успыхваўшых там-сям па вялікіх гарадах. Глуха далятала з розных месц грознае водгулле людскога абурэння. З заціснутых нізін выбіваліся крыніцы новага жыцця.

Цяпер усе гэтыя падзеі пераломліваліся ў свядомасці Лабановіча пад іншым пунктам разумення. Ён адчуваў радасць пазнання новай праўды, той праўды, што ў няяснай постаці вякамі жыве ў мужыцкім сэрцы, бунтуючы дух і падымаючы яго на паўстанні, той праўды, за якую лепшыя дзеці народа марнелі па астрогах, гібелі і чэзлі ў ссылках на катарзе або ў росквіце жыцця складалі галовы па цёмных сутарэннях. І ўсе гэтыя мучанікі за праўду выклікалі здзіўленне і глыбокае спачуванне і з непераможнаю сілаю хілілі на тую цярністую пуціну пакуты, па якой ішлі яны.

Але разам з гэтым ясней выяўлялася і дваістасць таго стану, у якім ён цяпер апынуўся. З аднаго боку ён — вясковы настаўнік — павінен праводзіць у жыццё пэўныя ідэі. Сэнс іх — замацаванне таго парадку рэчаў, у спра-

вядлівасць якога ён не верыць. Над ім ёсць вока, і гэтае вока не дрэмле. І не адно, а многа такіх вачэй. З другога-ж боку, выконваючы сваю ролю, ён свядома пераходзіць у рады ворагаў народа. Ён станецца лгаром і проста нячэсным чалавекам, калі будзе ўбіваць праз школу ў дзіцячыя галовы гэтыя казённыя ідэі.

Прабаваў ён у сваіх разважаннях спыніцца на пэўных уступках — абыходзіць моўчкі ўсё тое, што спрые развіццю гэтых казённых прынцыпаў, накіроўваць думкі дзяцей на несправядлівасць соцыяльных парадкаў, абуджаць у іх грамадскую свядомасць, закідаць у іх душы зерне сумнення ў тым, ці добра ўсё тое, што прынята лічыць справядлівым.

Ён успамінае свае даўнейшыя разважанні аб ролі настаўніка, калі быў яшчэ ў Цельшыне. Падобныя мыслі прыходзілі яму і тады, розніца толькі ў тым, што тады не бачыў ён таго, што ведае цяпер, а толькі адчуваў гэта сваім соцыяльным чуццём. Але гэтыя кампромісы не заспакойваюць яго. Усе такія мыслі выходзяць ад таго згодніка, што жыве ў істоце чалавека.

Заспакоіцца і пагадзіцца на гэтым не можна. Трэба рабіць нешта іншае, трэба заспакоіць сваё грамадскае сумленне і выйсці з фальшывага палажэння ашуканага чалавека, таго палажэння, у якім знаходзяцца мільёны адурачаных людзей. І такі выхад ён знаходзіць у Аксёну Калю.

Аксён Каль заходзіць да яго вечарамі. Іх навука хоць марудна, але пасоўваецца наперад. Аксён ужо нават можа і распісацца, што яго вельмі цешыць, але гэта яшчэ не сведчыць аб яго пісьменнасці. Чытае ён з друкаванага слаба, а з рукапіснага яшчэ горш. Распісацца-ж ён можа, бо распісанне складае найболей часты від яго практыкавання ў пісьме. Дома практыкавацца яму няма калі, дый нязручна. Прыходзіцца здавольвацца тым, што набудзе тут. Але без практыкі гэты набытак нетрывалы, і Аксён часамі выказвае думку, што можа навукі з яго і хопіць. Настаўнік-жа ўпарта насядае на яго, заахвочвае ісці далей. І яны патрошку ідуць.

Але не гэтая навука складае галоўны змест іх вечароў — першае месца адводзіцца гутаркам іх на тэмы палітычнага характару. Аксён Каль аказваецца такім чала-

векам, з якім гаварыць можна смела. Ён толькі трохі здзівіўся, пачуўшы ад настаўніка, што самы большы вораг народа ёсць цар, бо Аксён падзяляў агульную веру ў цара, як у асобу, што стаіць па-за межамі людскіх інтарэсаў, для якой аднакава блізкія інтарэсы ўсіх станаў насельніцтва, а калі на свеце і робяцца здзекі і несправядлівасці над бедным чалавекам, то ў гэтым вінаваты царскія дарадчыкі і ўсе гэтыя басякі: міністры, губернатары, земскія начальнікі, спраўнікі і ўсялякія іншыя чыны, якіх нават і не злічыш. Для Аксёна Каля цяпер якраз і невыгодна было страціць веру ў цара, невыгодна з чыста практычнага боку: яго не пакідала надзея адваяваць затокі ад пана Скірмунта, а для гэтага заставаўся адзін толькі спосаб — падаць прашэнне на імя цара.

— Але падаюць-жа людзі просьбу цару і гэтыя просьбы ён не пакідае, — прабуе супярэчыць Аксён.

— Ну, вядома-ж, каб гэтых просьб ён не прымаў, то іх і не падавалі-б. Але якія просьбы здавольвае цар? Калі ў каго брыдкае прозвішча, і ён хоча змяніць яго, то ён падае прашэнне цару — такую просьбу цар уважыць. Калі засудзяць каго, таксама цар можа зменшыць кару і можа нават зусім скасаваць яе. У такіх дробных выпадках, чаму-ж? Цар памагае, бо трэба-ж, каб людзі мелі веру ў цара. Але там, дзе закранаюцца інтарэсы дваран, памешчыкаў, то цар ніколі не стане на бок сялян. І ў такіх разох кажуць: «міністры не паказалі прашэння цару». Выходзіць так, што гаспадар добры, а вінаваты слугі. Глупства ўсё гэта, Аксён, і мана: цар ніколі не пойдзе супроць памешчыкаў, бо сам ён перш за ўсё ёсць памешчык. Цар Мікалай Першы так і сказаў на сабранні дваран і памешчыкаў: «Не забывайце, панове, што я ёсць першы сярод вас памешчык». Я вам, Аксён, і болей скажу. Вы ведаеце здарэнні, калі цар здавольвае просьбы. Але ці ведаеце вы такія здарэнні, калі цары высылалі хадакоў ад сялян у Сібір? А такія здарэнні былі.

Аксёна ў гэты момант найболей займаюць тоні.

— Дык выходзіць, што тоней ад пана Скірмунта не вырвеш? — пытае ён.

— Не вырвеш, — пацвярджае Лабановіч.

— І прашэнне, кажаце, не паможа?

— Не, не паможа, — упэўнена адказвае настаўнік.

— Ох, згінь-жа яго маты!

Злосць забірае Аксёна. Перад яго вачамі ўстаюць суды і доўгая цяганіна з панам Скірмунтам і гэты пройгрыш справы па ўсіх інстанцыях.

— Застаецца адно, — кажа Аксён, і вочы яго пабліскваюць злосцю: — прыдушыць, згінь яго доля!

— І гэта не паможа: у пана знойдуцца наследнікі, а таго, хто яго прыдушыць, згнояць у астрозе.

Аксён хмурыць свой лоб. Відаць, як блізка прымае ён гэта ўсё да сэрца. Мыслі яго шукаюць выхаду і гэтага выхаду не бачаць, а ў сэрцы ўзнімаецца помста і злосць.

— І няўжо-ж вечна будзе іх сіла і іх права? — Як-бы да самога сябе гаворыць Аксён.

— Гэтага не павінна быць і не будзе, але само нічога не зробіцца.

— А хто зробіць?

— Павінны зрабіць самі пакрыўджаныя.

— А як яны зробяць?

— Вось над гэтым і трэба падумаць. Перш за ўсё трэба перастаць верыць у цара і рассейваць гэтую пустую веру і ў другіх. Трэба ўсвядоміць, што ўвесь дзяржаўны цяжар нясуць на сабе гаротныя сялянскія спіны і мазолістыя рукі рабочых, што на іх гарбах багацеюць і ад'ядаюцца ў гарадах розныя купцы і фабрыканты, а на зямлі — дармаеды-памешчыкі. Трэба ведаць, што намі камандуе нязначная кучка дваранства і багатых гандляроў на чале з царом. Трэба зразумець усю гэтую музыку, гэтую хітрую машыну, каб зваліць яе з сваіх плячэй. Але аднаго толькі ведання мала, трэба закладаць свае саюзы і арганізацыі. Чым большыя будуць такія арганізацыі, тым лягчэй будзе вясці змаганне за сваё права і за сваё вызваленне.

Аксён слухае, згаджаецца, часамі трасе галавою.

— Ой, трудна зрабіць гэта з нашым народам! — кажа ён і робіць увагі, што народ у розныя бакі глядзіць, а іншаму дурню гэта ніяк і ў галаву не ўваб'еш.

— Адразу, у адзін дзень, пэўна, не зробіш гэтага. Добра ўжо будзе, калі цяпер на сяле знойдзецца некалькі чалавек, што будуць падзяляць гэтыя думкі і другім аб іх казаць... Толькі-ж, Аксён, у гэтай справе павінна быць вялікая асцярога!

— Ну, гэта-ж вядома.

Такія гутаркі вяліся з Аксёнам вечарамі на кватэры настаўніка. Потым да Аксёна далучыліся яшчэ двое, бацька і сын. Гэта былі суседзі Лабановіча. Старому Бязручку было гадоў пяцьдзесят, а сыну яго Якіму ў гэтым годзе трэба было на прызыў ісці. Стары Бязручка называў сябе казаком — яго продкі былі казакамі на Украіне, а потым перабраліся на Палессе. Стары Бязручка болей маўчыць. У яго зубах увесь час люлька тырчыць. Можа гэтая люлька і ёсць прычына таму, што стары Бязручка бярэ малую часць у прамовах. Затое-ж твар яго вельмі выразна адбівае ўсе рухі яго мыслей і пачуццяў. Часамі ён вымае з рота люльку, сплёўвае і робіць кароценькую ўвагу. Звычайна-ж больш гаворыць рукамі. Асабліва многазначна махае ён рукою, калі гаворка заходзіць аб цару. Тады ён падыме вочы на царскі партрэт, не вымаючы з зубоў люлькі, і махне на яго рукою, і гэты мах гаворыць вось што:

— Карысці, брат, з цябе столькі-ж, як з дзіркі, што ў мосце.

Абодва Бязручкі — людзі шчуплыя і белабрысыя. Калі стары Бязручка скупы на словы, то сын гаворыць і за сябе і за бацьку. У той час, калі гаворыць Якім, бацька ўважна слухае, але не глядзіць на сына. І трудна наогул сказаць, куды ён глядзіць. Здаецца, ён абмяркоўвае ўвесь час нейкую надзвычай складаную жыццёвую задачу, але ён усё чуе, не прапускае нічога.

Гаварылася тут многа чаго: аб цяжкім стане народа, аб прывольным жыцці паноў і начальства, аб ашуканстве і здзеках над простымі людзьмі, аб тых прычынах, што выклікаюць такі парадак на свеце, што трэба рабіць, каб адваяваць сваё права на свеце, што гэта за людзі ўсе тыя, каго называюць соцыялістамі, чаго яны хочуць, за што пакутуюць, чаму іх караюць стражэй, чым забойцаў і канакрадаў.

— Але чаму нам бацюшка аб гэтым ніколі нічога не скажа? — пытае Якім.

— Як-жа табе ён казаціме, калі ён з нашай цемры хлеб мае. Хто-ж гэта пойдзе сам супроць сябе, — адказ-

вае Аксён: — поп, земскі начальнік, прыстаў, праўнік, — гэта, брат, усё адна шайка.

Часамі-ж тэмаю такіх гутарак былі і пракламацыі. Тым ці іншым спосабам траплялі яны і ў сялянскія рукі. Быў такі час, калі гэтыя пракламацыі таемнымі рукамі засоўваліся ў сялянскія вазы. Прыедуць, бывала, сяляне з рынку, пачнуць выбіраць з воза свае пакункі і знойдуць вузенькія, доўгенькія лісточкі. Няграматны селянін паглядзіць на іх ды схавае ў кішэню, каб пры здарэнні паказаць іх чалавеку граматнаму. Паднясуць іх часам а. Мікалаю, дзяку ці ляснічаму.

Ляснічы паглядзіць, паглядзіць і — шась. Рве пракламацыю на дробныя шматкі, а потым вылаецца моцнымі словамі і кажа:

— Гэта ўсё жыдоўскія махінацыі. Ідзі і рукі памый. А калі зловіш гэтага сукінага сына, што падсоўвае такую скверн асць, дык цягні ў паліцыю. У паліцыю, і ніякіх.

— А чорт-жа яго бацьку ведае, што яно тут пішацца, — адказвае селянін і вельмі шкадуе, што не ўдалося даведацца, аб чым пішацца ў гэтых лістках.

Калі пракламацыя пападзе ў рукі папа, то ён злосна бліснe вачыма і запытае:

— Дзе ты яе ўзяў?

— У саломе на возе знайшоў.

— Гэта ёсць богамерзкае пісанне, і пячаць антыхрыста прыбіта на ім. Такія рэчы трэба аддаваць у паліцыю. А яшчэ лепш, калі спаліць яго на месцы.

— А што-ж тут, бацюшка, пішацца? — пытае праз меру зацікаўлены паляшук, а бацюшка запальвае свечку, каб спаліць пракламацыю.

— Калі злы дух намерваецца спакусіць чалавека, то ён абяцае яму залатыя горы. Вось і тут ён робіць тое самае. Ад гэтых прахвостаў, што пішуць такія лісткі, адступіўся бог, і ў вар'яцтве сваім кажуць яны: «Няма бога, і не трэба цара». Святое-ж пісьмо нас вучыць: «Усякая душа няхай слухае начальства, бо начальства пастаўлена ад бога».

І а. Мікалай падпальвае пракламацыю.

А калі такая праклямацыя трапіцца да дзяка, то ён забірае яе, хавае ў кішэню.

— Я аддам яе старшыні, а старшыня перадасць па начальству.

А ў кватэры настаўніка гэтыя праклямацыі давалі багаты матэрыял для гутарак. Гутарка вялася і па зместу праклямацыі і аб тых людзях, што складаюць іх.

Старога Бязручку дзівіць спрыт гэтых невядомых людзей, што так лоўка падкідаюць праклямацыі.

— Ну і лаўкачы, згінь іх маты: так падсунуць, што і не пачуеш!

## XXII

Некалькі дзён падрад ліў дождж.

Гразь непралазная, клейкая гразь затапляе дарогі. Каляіны заліты вадою. Па нізінах, як азёры, стаяць шырокія лужыны. Ні прайсці, ні абмінуць іх. Холадна, золка, пуста і глуха. Спустошаныя, знясіленыя, як-бы памерлі гэтыя прасторы Пінскага Палесся. Толькі шэрыя плямы людскіх паселішч журботна туляцца да гэтай азызлай мокрай зямлі, ды нейкімі прыкрымі шкілетамі выглядаюць аголеныя дрэвы.

Лабановіч досыць далёка адышоўся ад свайго сяла, мінуў два ветракі ў полі і спыняецца перад вялізнаю лужынаю — не пяройдзеш тут. Глядзіць па баках — не абыйдзеш яе: далёка па разорах, як тыя праменні, ад гэтае лужыны разыходзіцца побач вада. Цяпер ён бачыць сваю памылку, яму трэба было адразу накіравацца на чыгунку. Ісці назад далёка: пройдзеш амаль палавіну дарогі. Яшчэ поўвярсты — і пераезд, а за пераездам — грэбля. Там не будзе такой гразі. Стаіць, разглядаецца, мяркуе. Няўжо-ж спыніць яго няшчасная гэта лужына? Ужо некалькі разоў важыўся ён у гэтую дарогу, не раз успамінаў Вольгу Віктараўну і свае слова — пабыць у яе.

Выходзіць на больш сухое месца, прыгінаецца, знімае хадакі, падкасваецца: «Ліха яго бяры: лёду няма, а вось ногі не паадвальваюцца, а на пераездзе абуюся», — думае.



Якуб Колас, Янка Купала, Пятрусь Броўка і Змітрок Бядуля. 1939 г.

Раз і два. Ногі ўлазяць у халодную, як лёд, калатушку. Пякучы холад, здаецца, даходзіць да сэрца, але ён храбра цярэбіцца па гразі. Успамінаецца, як некалі малым бегаў босы коўзацца на лёдзе. Месцамі гразь і вада займае па калені. Нарэшце лужына канчаецца, і ён выходзіць на сушэйшае месца і тут пускаецца бегчы, адчуваючы незвычайную лёгкасць і ахвоту імчацца, як мага шпарчэй. Бяжыць, а ў вушах гучыць украінская песня: «Ой, не ходы Грыцю, тай на вечэрныцю». Покі дабег да пераезду, ногі зрабіліся чырвоныя, як у бусла. Затое-ж калі абуўся, то адразу пачуў, як добра яго нагам.

Не даходзячы да сяла, ён зварочвае з дарогі і ідзе пустымі агародамі па пратоптанай сцежцы. Школа відаць здалёк — яе адразу можна пазнаць па белых акяніцах і наогул па ўсёй постаці яе.

Пералезшы плот, Лабановіч ідзе школьным агародам, дзе тырчаць яшчэ цыбуры сланечнікаў, і заходзіць у кухню. Старожка Малання, у белай вышытай кашулі, чыстая і акуратная маладзіца, увіхаецца каля печы.

— Дома настаўніца?

— Дома, дома! — бойка адказвае Малання, агледаючы настаўніка жывымі, вясёлымі вачамі.

Вольга Віктараўна, відаць, пачула голас і па голасу пазнала свайго суседа па школе, бо зараз-жа адтуль пачуліся яе борздыя, цвёрдыя крокі. Момант, і яна сама паказалася на парозе. Твар яе вясёлы, у вачах свецяцца іскры радасці.

— Андрэй Міхайлавіч! Вось маладзец! А я ўжо і веру страціла на тое, што ўбачу вас тут. Ну, міласці-ж прашу.

— Калі я памру, то перад смерцю напішу: «У маёй смерці вінавата Вольга Віктараўна».

— Чаго-ж гэта вы ўміраць збіраецеся ды яшчэ мяне ў прычыну свае смерці ставіць думаеце? Ніколі-ж мне ў галаву не прыходзіла, што з-за мяне можа чалавек памерці.

Лабановіч расказвае пра страшную лужыну, што стала на дарозе да Вольгі Віктараўны.

— Але жаданне пабачыць вас у мяне было такое моцнае, што я разуўся і ў брод перайшоў.

— Што вы кажаце? — на твары Вольгі Віктараўны адбіваецца вялікае здзіўленне. — Так і сапраўды не штука захварэць і да Абрама на піва трапіць. Ох, Андрэй Міхайлавіч, біць вас няма каму!.. Трэба-ж хоць падлячыць вас.

Яна бяжыць у кухню, загадвае Маланні падагрэць самавар, а потым, як круцёлка, завярцелася каля шафкі. Лабановіч глядзіць ды пасміхаецца: «Няўжо ў яе гарэлка ёсць». Аказалася-ж нешта лепшае — поўбутэлькі нечапанага добрага кан'яку.

— Я вельмі рада, што маю чым падлячыць вас.

І налівае ёмкую чарку.

— Піце, Андрэй Міхайлавіч: гэта першы спосаб, каб захавацца ад прастуды.

— А вы пачніце самі.

— О, не! я-ж босая не хадзіла, — смяецца яна, — і наогул не п'ю чыстага кан'яку.

— Ну, дык будзьце-ж здаровы.

Хацеў ужо выпіць, але спыняецца і кажа:

— Няхай-жа ніколі не абяднее рука, што налівае чаркі, і няхай стаяць на дарогах лужыны!

І пасля ўжо такой прымоўкі спрытна куляе чарку. Пасмакаваў, паглядзеў на настаўніцу.

— Ведаеце, Вольга Віктараўна, што?

— Ну?

— Другі раз я прыду к вам босы.

Настаўніца смяецца.

— А можа яшчэ адну?

— Не, і ўся тая лужына не варта гэтага божага дару.

— Ну, то мы вып'ем яго з чаем. А цяпер закусіце.

Лабановіч чуе, як прыемная цеплыня разыходзіцца па целе, і яму зусім добра тут.

Кватэрка Вольгі Віктараўны старая і цемнаватая. Даўно пабеленая столь уся зрысована рудымі зацёкамі. Падлога падгніла, і дошкі хістаюцца пад нагамі. Настаўніца жыве ў адным толькі пакойчыку, акуратна і чысценька прыбраным, як гэта ўмее прыбраць дзявочая рука.

— Ну, пахваліцеся-ж, Вольга Віктараўна, як жывецца вам тут?

— І не пытайцеся, Андрэй Міхайлавіч. Кідаюся, хватаюся, а ўсё нейк... не тое. Няма... Ну, як вам сказаць, ну, гэтай радасці работы.

— Вы яшчэ напэўна знаходзіцеся ў стане наладжвання работы, а на гэтай ступені заўсёды многа клопату і непрыемнасці, — прабуе супакоіць і падвесяліць яе Лабановіч.

Яна як-бы трошкі задумваецца над яго словамі і адмоўна трасе галавою.

— Не, мяне проста работа не здавальвае, і ўся абстаноўка яе нейкая нялюдская. Вы бачылі мой класны пакой?

— Не, не бачыў.

— Хочаце паглядзець?

— А давайце паглядзім.

Вольга Віктараўна вядзе яго ў школу.

— Вот, любуйцеся,—гаворыць яна, адчыніўшы дзверы.

Школьны клас меў вельмі запушчаны і пануры выгляд. Атынкаваныя сцены былі збруджаныя, абшарпаныя, абабітыя. Усюды чарнелі сляды вучнёўскай пісаніны, бо доўгія гады сцены гэтыя выконвалі ролю прамакальнай паперы. На падлозе — цэлы пласт гразі. У многіх мясцінах яна прагніла і пакасілася. І дух у ёй цяжкі, нездаровы.

Лабановіч аглядае школу.

— Так, Вольга Віктараўна, пахваліцца сваёю школаю вы не можаце.

— Вы ведаеце, Андрэй Міхайлавіч, пабудзеш у такой атмасферы некалькі гадзін і выходзіш адгэтуль, як атручаная. Проста, хоць і на свеце не жыві.

— Паршывая школа, гэта праўда, — згаджаецца Лабановіч, — спачуваю вам, Вольга Віктараўна!

Гэты агляд школы прыніжае яго добры гумор. Яму нейк шкада робіцца Вольгі Віктараўны. Хоча сказаць ёй што-небудзь добрае, вясёлае, каб падняць яе дух, але слоў такіх не знаходзіцца.

— Ну, што-ж? — нарэшце кажа ён: — застаецца толькі цешыць сябе тым, што скора будуць канікулы, можна будзе адпачыць, а там патрохі і зіма кончыцца, прыдзе вясна... Эх, Вольга Віктараўна! Люблю я вясну і асабліва той час, калі на бярозах пачнуць распускацца лісточкі.

Вясною ў мяне абуджаецца дух вандроўніцтва. Вось такбы, здаецца, ішоў і ішоў-бы ў гэтыя прасторы зямлі.

Лабановіч захапляецца мыслямі аб вясне і аб вандроўніцтве. Ён забывае душную, гнілую школу Вольгі Віктараўны і гаворыць аб сваім жаданні наладзіць вандроўніцтва ў вольны час летніх канікулаў.

— Ведаеце, Вольга Віктараўна, што ёсць добрага ў жыцці вясковага настаўніка?

— Па-мойму, нічога няма добрага, — скептычна адказвае Вольга Віктараўна.

— Няпраўда, Вольга Віктараўна, — ёсць!

— Ну, што, напрыклад?

— Вольнае лета. Кончыў работу ў школе — і ідзі куды хочаш, рабі, што зажадалася.

— Так, з гэтага боку вы, бадай, і маеце рацыю, — згаджаецца Вольга Віктараўна.

— А што? Вось бачыце. Ніякая іншая служба не дае такога прыволля. І ведаеце, якія ў мяне ёсць мыслі?

— Да хто-ж можа ведаць вашы мыслі?

— Той хто пацікавіцца ведаць іх.

— Ну, то раскажыце.

— А вось якія мае мыслі: я хачу навучыцца рабіць фатаграфічныя знімкі, хачу купіць апарат і вясною падбяру сабе кампанію вольных вандроўнікаў... У дэталях я яшчэ не прадумаў свайго плану, а ў асноўных рысах ён такі — абыйсці пехатою цэлы раён, апісаць яго, сабраць народныя песні, легенды і іншы элемент народнай творчасці, багата ілюстраваць сваё падарожжа фатаграфіямі... Хачу сабраць цэлую галерэю ведзьмароў, вядзьмарак, шаптух і шаптуноў, бо гэты тып вымірае, і захаваць яго такім чынам для навучання патомкаў.

— А ваш план мне падабаецца, — ажыўляецца Вольга Віктараўна: — і сапраўды, у ім ёсць, калі хочаце, паэзія і сваё хараство.

— Паэзіі тут і не абярэшся! — падхватвае Лабановіч: — новыя мясціны, новыя людзі, негаданыя прыгоды падарожжа, начлег дзе-небудзь на ўлонні прыроды, касцёр, цёмнае неба і ясныя зоры і на полі ўсяе гэтае абстаноўкі вы будзеце слухаць апавяданне якога-небудзь баеч-

ніка-дзеда аб падзеях мінулага, дзе праўда і фантазія пераплятаюцца ў дзіўных злучэннях.

— Вы так цікава расказваеце, Андрэй Міхайлавіч, што мне ўжо хочацца пусціцца з вамі ў дарогу, калі вы мяне прыміце ў сваю кампанію.

— Аб цікавых рэчах нельга расказваць нецікава, — заўважае Лабановіч, — а супроць таго, каб мець вас у сваёй кампаніі, я абсалютна нічога не маю. Нават больш вам скажу: такою кампаніяй я зусім задаволюся і калі каго прыму, то толькі не свайго брата мужчыну.

Пры гэтым Лабановіч зазірае ў вочы Вользе Віктараўне з хітраватаю ўсмешкаю, каб сказаць гэтым поглядам тое, чаго не даказаў словамі.

Вольга Віктараўна з прыкідлівым дакорам глядзіць на суседа і ківае галавою.

— І ўсе-ж вы, мужчыны, на адзін капыл пароблены! — дадае яна.

Маланне прынесла самавар.

— Ну, будзем чай піць і за чаем пагутарым аб вашым вандроўніцтве.

Вольга Віктараўна прыбірае стол, зрэдку перакідаючыся з суседам кароткімі сказамі.

— Ведаеце, Вольга Віктараўна, — гаворыць Лабановіч, седзячы за сталом, — апроч жартаў, я сур'ёзна думаю над сваім вандроўніцтвам. Але я бачу ў ім і не толькі адну паэзію — тут можа быць і нецікавая проза. Ды справа не ў гэтым. Я хачу бліжэй прыгледзецца, як людзі жывуць, чым жывуць і што яны думаюць. Такое жаданне з'явілася ў мяне нядаўна... Вы ведаеце, што раблю я цішком? — ціха пытае Лабановіч.

Вольга Віктараўна глядзіць на яго.

— Напэўна прапаганду вядзеце?

— Іменна. Крамольныя ідэі прапаведую.

— Ну?!

Настаўніца яшчэ больш ажыўляецца, і ў вачах яе іскрачкі пабліскваюць.

— Што вы на гэта скажаце? — пытае яе.

— Маладзец вы, Андрэй Міхайлавіч! Ад душы поспеху жадаю вам. Цікава-ж, як вы гэта робіце?

— Покі што ў мяне ёсць тры асобы, сяляне, і адзін з іх чалавек вельмі сур'ёзны. На яго можна палажыцца, як на каменную сцяну. Вечарамі сяды-тады ён заходзіць да мяне, і я вучу яго, бо ён непісьменны, а побач з гэтым вяду гутаркі на розныя «крамольныя» тэмы. Да мяне прыходзяць яшчэ двое, бацька з сынам. Цікавыя тыпы!

— А як-жа вы натрапілі на іх, сабралі? — пытае Вольга Віктараўна.

— Да проста прыглядаюся да людзей, прыслухваюся да іх слоў, выпрабоўваю іх патрошку.

— І яны нябось слухаюць?

— Вельмі ўважна. Наогул работу з імі можна рабіць. Адно толькі шкодзіць — няма адпаведнай літаратуры.

Лабановіч расказвае сваю гісторыю з нелегальнаю кніжачкаю.

— Сёе-тое і ў мяне знойдзецца, — кажа настаўніца.

— Калі ласка, ужычце мне, — просіць яе Лабановіч.

Вольга Віктараўна зараз-жа ўстае, капаецца ў сваіх патайных сховах і вымае некалькі тоненькіх брашурак.

— Вазьміце і скарыстайце іх, да толькі вярніце іх мне.

Лабановіч бегла знаёміцца з кніжачкамі і хавае іх.

— Як вы думаеце, Вольга Віктараўна, якім парадкам магла трапіць да мяне на ганак кніжачка Івана Вольнага?

— У Пінску-ж напэўна ёсць рэвалюцыйная арганізацыя. І нехта разумны дагадаўся падкінуць вам гэтага Івана Вольнага.

— Напэўна так яно і ёсць, — згаджаецца Лабановіч. — Я гэтымі днямі збіраюся ў Пінск. У мяне там ёсць знаёмыя. Праз іх можна звязацца з арганізацыяй. Тады літаратуры будзе даволі... Вот гэту работу я разумею!

Вольга Віктараўна зусім ажыўляецца. Яна толькі шкадуе, што ў яе няма покі што такіх людзей, з якімі-б можна было таксама заняцца чытаннем нелегальных кніг, але яна цешыць сябе тым, што ўвойдзе ў арганізацыю, і арганізацыя ёй дапаможа.

Яны доўга сядзяць і гавораць. Вольга Віктараўна паказала тоўсты рукапісны сшытак, дзе было многа розных рэвалюцыйных песень і вершаў.

Калі Лабановіч ішоў дадому, то ён думаў аб сваёй

нелегальнай рабоце і аб Вользе Віктараўне. У яе асобе ён бачыў першую такую дзяўчыну і прасякся да яе вялікаю павагаю.

## XXIII

Сякія-такія змены адбыліся ў Высокім за гэты час. Прыехаў новы пісар Мацей Дулеба, бо чарнявага Раманчыка, ранейшага пісара, забралі ў салдаты.

Калі гэта сталася фактам, то старшыня Захар Лемеш упаў у стан жальбы і адчаяння. Колькі жалю і спачування было выказана тут Раманчыку!

— Эх, Хведзя, Хведзя, друг ты мой любы! Не думаў я і не чаяў разлучыцца з табою.

Тут старшыня апускае вочы і журботна звешвае галаву, як тая ўдава, пахаваўшы мужа. І тады ўжо пісар выступае ў ролі суцяшальніка.

— Нічога, Захарка! Прыедзе другі пісар, і будзеце жыць і работу рабіць.

Пры гэтым Раманчык стукае старшыню па шырокаму плячы. Самому-ж яму здаецца, што другі пісар ніколі не будзе такі дзялок, якім быў ён. Ён хоча пачуць гэта ад старшыні. І старшыня яму кажа:

— Не, брат Раманчык, не, Хведзя, не нажыву я другога такога пісара, як ты.

На некаторы час яны змаўкаюць, апускаюць голавы, супольна аддаюцца журботным пачуццям.

— Э! ёсць чаго смуткаваць! — адзываецца першы Раманчык і заліхвацка махае рукою: — знойдуцца людзі, а мой тут і след загіне і памяць аба мне памрэ.

Каб Раманчык быў паэт, то ён цяпер злажыў-бы самую жаласную элегію самому сабе, але ён толькі — проста адукаваны чалавек, здольны глыбока адчуваць. З яго даволі будзе, калі ён трапна прыложыць адпаведныя чужыя словы. І ён прыводзіць іх з святога пісьма.

— Чалавек — яко трава: дні яго, як цвет палявы, тако адцвітуць.

Не ведае старшыня, што адказаць на гэта, а адказаць

нешта трэба. Ён перш цмакае, а потым гаворыць, і горкае нездавальненне чуваць у голасе яго:

— Адцвітуць, адцвітуць! Рунда яны адцвітуць!

Гэтае спачуванне канчаецца тым, што пісар пасылае дзеда Піліпа па тузін піва.

Прытарабаніўшы цэлы кош піва, дзед Піліп гаворыць:

— Не нажыць нам такога паныча, няхай дае вам бог здароўе.

І на яго долю перападае не адна шклянка піва.

І тым не меней Раманчык саступае месца другому пісару, яго словы з святога пісьма спраўдзіліся: памяць аб ім аказваецца не такою трывалаю, як гэта можна было-б думаць, прыняўшы пад увагу смутак старшыні. Захар Лемеш дружна жыве і з новым пісарам, бо і прыказка такая ёсць: «пісар з старшынёю, як муж з жаною». А памяць аб Раманчыку так і заглухла, і толькі я цяпер успамінаю яго, але за гэты ўспамін ён можа і дзякуй не скажа мне. І мала таго, што заглухла: Захар Лемеш выяўляе да некаторай ступені і здрадніцтва ў адносінах да Раманчыка, бо не прайшло і тыдня, як наехаў сюды Мацей Дулеба, а старшыня ўжо гаворыць:

— О, гэты, брат, яшчэ мудрэйшы за таго!

Мацей Дулеба наўперад быў настаўнікам. Але захацелася яму закаштаваць хлеба валаснога пісара, як болей смачнага і прыбытнага. З Лабановічам яго звязвала нядаўняя настаўніцкая прафесія, і ён прызнаўся яму, якім спосабам дабіўся ён пісарскай пасады:

— Кацьку, брат, падсунуў графу.

На мове сучаснасці гэта значыць — даў графу, земскаму начальніку, сто рублёў, бо на царскай сторублёўцы быў партрэт царыцы Кацярыны.

Будучы пісарам, Дулеба не забывае і некаторых былых сваіх настаўніцкіх рыс. Так, з часоў настаўніцтва захоўваецца ў ім ахвота і здольнасць чытаць у цэркве «апостала».

— Вось вы паслухайце, як добрыя людзі чытаюць апостала!

Царкоўны стараста Грыгор Крэшчык, пачуўшы такую навіну з вуснаў самога пісара, пранікаецца да яго незвычайнаю пашанаю. Круглы буйны яго твар свеціцца,

як сонца. Угодлівы смех коціцца гарохам. Ён не можа стрымацца, каб не раззваніць аб здольнасцях пісара Дулебы. Ён старанна падрыхтоўвае грунт для славы новага пісара, як незвычайнага мастака чытаць «апостала».

У першы-ж дзень набажэнства прыходзіць пісар у цэркву, займае месца на кліросе побач з дзякам Бацяноўскім. Да іх далучаецца Кандрат Крэшчык, сын старасты, і кандратаў сын Пятрук, якога дзед, царкоўны стараста, хоча вывучыць на дзяка. І яшчэ пара сялян працiскаецца на клірас, бо і яны таксама спявалі і часамі як гукнуць «госпадзі памілуй», то не адна пара вачэй павернецца ў іх бок, а іншы раз скажа хто:

— О, здарава, згінь яго маты!

У некаторыя ўрачыстыя дні царкоўнага набажэнства складаецца саматужны хор. Ніхто ім не кіруе, спявае самапасам, як хто ўмее. Дзяк у справы кіравання хорам не ўмешваецца. Ён проста не ўмее, але ў такіх разох ён спасылаецца на словы святога пісьма: «Хвалеце бога на трубах, на арганах, на гуслях, на дудках, на цымбалах»... Ну, словам, як хто хоча, абы толькі бога хваліў. Такім парадкам у кожнага спевака выпрацоўваецца свая манера спяваць. У звычайныя-ж дні на кліросе стаіць адзін дзяк і спявае сам-адзін. Спявае ён, гледзячы як калі. Пачне як чалавек, а кончыць чорт ведае як — дзікаю піскліваю фістулаю. А то проста на сярэдзіне спеваў спыніцца і высмаркае нос, калі гэтая прылада спеваў так ці іначай забастуе, неакуратна праводзіць насавыя ноты.

Не вельмі ўважны да набажэнства і а. Мікалай, асабліва на вячэрнях, калі народу ў цэркве мала. Вячэрня прапускаецца борзда. Поп толькі расчыніць губу, каб выгукнуць некалькі святых слоў, а дзяк падхватвае на ляту або перабівае і цягне сваё. А часамі а. Мікалай, адпраўляючы набажэнства, умудраецца перагаварыць з Крэшчыкам аб гаспадарскіх справах. Звычайна рабілася гэта так.

А. Мікалай заводзіць:

— «Благословенно царство всегда ныне и присно и во веки веков»...

А дзяк цягне: — «аминь».

Вось у гэты момант, калі яго змяняе дзяк, а. Мікалай і гаворыць:

— Прадай мне, Грыгор, сваю карову.

Пачуць ад Грыгора адказ зараз-жа не заўсёды ўдаецца, бо дзяк сваё скончвае. Тады а. Мікалай заводзіць новы выгалас, каб дзяк не заставаўся беспрацоўным. Дзяк спявае, а Грыгор у гэты час кажа:

— Купляй, бацюшка.

— Колькі-ж ты за яе хочаш?

Ізноў не ўпраўляецца пачуць адказу, бо дзяк чакае.

— «О изобилии плодов земных и временех мирных господу помолимся!»

Дзяк спявае «госпадзі памілуй», а Грыгор назначае цану каровы:

— Сорак пяць рублёў.

— А яна ў цябе не перадойка?..

— «О плавающих, путешествующих, страждущих, недугующих и пленённых и о спасении их господу помолимся». Дзяк зноў спявае, а Грыгор адказвае:

— Не! пабегала! Каля Міколы ацеліцца.

Такім парадкам правіцца набажэнства і таргуецца карова.

Цяпер-жа, калі на кліраса стаіць пісар Дулеба, адчуваецца некаторая напружанасць. Спевакі баяцца аскандаліцца перад новым чалавекам, ды яшчэ валасным пісарам, і трымаюць свае галасы ў граніцах пэўнай дысцыпліны. Сам пісар незаметна пераходзіць у ролю рэгента. І выгляд яго страшны. Хоць ён чалавек і малады, — яму толькі дваццаць восем гадоў, — але барада яго вырасла, як у добрага старавера. Ён нават і падобен да старавера. З першага погляду яго бараду можна было-б назваць рыжаю, але яна была не рыжая, а так сабе светлаватая. Гледзячы на бараду, растуць яго і бровы, грозна навісаючы над светласінімі, пранізлівымі, як у дзеда Піліпа, вачамі. Ад стыку брывей пачынаецца яго нос з усімі адзнакамі носа-волата. Каб галаву дзятла павялічыць разоў у дваццаць і адпаведна з гэтым дадаць яму светларусую бараду, то яго галава мела-б вельмі блізкае падабенства да галавы пісара Дулебы.

Стоячы на клірасе, пісар прыпускае часамі баса, але не на ўсю яго сілу: сіла голасу яго выявіцца ў часе чытання «апостала», які зараз і надыходзіць. Хор прыслухоўваецца і цягне за пісарам. У тых-жа выпадках, калі

чуецца выразны фальш або збіванне з тону, пісар трасе галавою, махае рукою, перахватваючы спевы і змушаючы хор падпарадкавацца яму.

Але набліжаецца момант чытання «апостала». Пісар знайшоў ужо і адпаведнае месца ў святой кнізе. Вось ён, спусціўшы вочы, выходзіць на сярэдзіну цэрквы, займае пазіцыю супроць царскіх дзвярэй. А. Мікалай падрыхтоўвае парафіян да слухання слоў святога апостала. Нарэшце, паміж ім і пісарам, чытальнікам апостала, адбываецца невялікая перамова, што патрабуецца рытуалам, пасля чаго ўжо Дулеба прыступае да чытання.

— Браціе! — расцяжна гудзе пісар, пачынаючы з самай нізкай басовай ноты, як шэршань у пустым асінавым дупле.

Пачаўшы так нізка, як ніжэй і не пачаць ужо, пісар чым далей, тым болей павышае тоны. Голас яго наўперад глуха шуміць, потым пераходзіць у гром, дрыжыць, звініць, вые, што раз мацнее, змяняецца злосным, адчайным крыкам, але поступ яго ўверх усё не спыняецца, а перад самым канцом чытання забіраецца ў такую вышыню, што людзям страшна робіцца за пісара: вось-вось, здаецца, ён не вытрымае, трэсне, рассыплецца, або разарвуцца ўсе яго жылы і пуп, або проста з ім зробіцца нешта такое, чаго ў цэркве не можна рабіць. Народ заціх. Адна маладзіца прыткнула вуха. Грыгор Крэшчык высунуў галаву з-за дзвярэй алтара, што збоку, на твары яго красуецца найшчаслівейшая ўсмешка. А Дулеба робіцца чырвоным, як бурак, нос-волат больш і больш задзіраецца ўгору, і апошняя нота вырываецца жудасным завываннем, не сарваўшыся, аднак, з агульнага тону. Зачараваны і здзіўлены стараста ў захапленні кажа:

— А-а-а! Во голас!

Пісарскі трыумф поўны, а вянец гэтага трыумфу — прасфора, якую і падносіць яму Крэшчык у канцы абедні на срэбранай талерцы па загаду а. Мікалая.

Такім парадкам, пісар Дулеба адразу здабывае сабе славу і ставіць яе на моцны грунт, бо ён і настаўнік, і пісар, і спявак, і вельмі добры выпівака. І з сялянамі ён умее ладзіць. Калі часамі, праходзячы па вуліцы ён пачуе, як хто-небудзь з сялян крычыць на скаціну і выказвае пажаданне, каб яе з'елі ваўкі, то пісар заўважыць:

— Нашто яе будуць есці ваўкі? Скажы лепей — няхай цябе пісар з'есць! — Часамі ён і праборку зробіць каму, але зробіць гэта ўмеючы, і на яго нельга пакрыўдзіцца. З людзьмі сходзіцца борзда і адразу ўваходзіць у ролю панібрата. З Лабановічам сышоўся ён яшчэ барджэй. Заходзіць да яго часамі, каб пагутарыць аб школьных справах, бо яны яму не чужыя, і настаўніцкую пасаду любіць. Пісарам-жа ён зрабіўся пад уплывам жонкі, жанчыны разумнай і практычнай.

— Ну, пасылай, брат, па піва, — нарэшце кажа ён, бо любіць такі выпіць. З-за выпіўкі ён страчвае не адну ноч, асабліва калі паедзе ў Пінск. Наогул, чалавек ён кампанейскі. Выпіўшы, трохі буяніць, за што пападае часамі ва ўчастак.

А тым часам у школе адбылася яшчэ адна падзея, сведкаю якой быў таксама і Дулеба.

Было гэта ў сярэдзіне зімы.

Заходзіць пісар у школу.

— Ну, Андрушка, пускай дзяцей ды паедзем у Пінск. Годзі табе ўжо марнавацца тут.

Паездка гэтая была якраз на руку настаўніку.

— Паабедаем і паедзем.

Заходзяць у кватэру.

— Ганна! — кліча Лабановіч старожку.

Ганна не адклікаецца. Настаўнік заходзіць у кухню. Юста ціхенька сядзіць каля печы.

— А дзе маці? — пытае настаўнік.

— У кладоўцы.

Кладоўка тут-жа, радам з кухняю. Выходзіць Ганна.

— Давай, Ганна, абед!

Ганна дастае з печы гаршчок, ставіць яго на стол, а сама зноў знікае.

Патраўка была нецікавая. Госць і гаспадар пабоўталі трохі лыжкамі і забракавалі яе.

— Кінь! — гаворыць пісар, — заедзем да Карамблюма, рыбкі з'ямо з піўком.

— Не, брат, стой, — можа другое будзе лепшае, — кажа Лабановіч, бо яму трохі нялоўка перад пісарам за няўдалую патраўку.

— Ганна! — гукае ён.

Ганны не чуваць.

Ізноў ідзе ў кухню.

— Куды дзелася маці?

— У кладоўцы, — адказвае Юста.

— Што-ж яна робіць там? — злуецца настаўнік.

Юста апускае вочкі. Можа яна ведае, а можа нічога не цяміць.

— Не ведаю, — чуецца яе адказ.

Толькі што нарыхтаваўся Лабановіч гукнуць Ганну і раптам спыняецца: з кладоўкі даносіцца «куга! куга!»

Усё гэта зрабілася нейк вельмі борзда і зусім неспадзявана для настаўніка, бо ён быў упэўнены, што Ганна сыйдзе на гэты час да каго-небудзь з сялян. На першых часах ён прыходзіць у замяшанне. На дварэ — зіма, у кладоўцы мала чым цяплей, як на дварэ.

Бяжыць у свой пакойчык, дзе яго чакае пісар.

— Ведаеш, брат Мацей, што?

— Ну?

— Ганна ў кладоўцы абрадзілася!

— Што ты кажаш? — і пісар пасміхаецца ў бараду.

— Трэба-ж нейкую раду даваць!

— Бадай яна спрахла, — гаворыць пісар: — колькі клопату нарабіла! Акалее, падла, там!

Удвух бягуць яны да фурмана Аўменя і клічуць яго на падмогу. Аўмень ідзе ў кладоўку, і праз мінуту на парозе паказваецца бязносая Ганна. Яна трымае на руках дзіця, а Аўмень вядзе яе пад руку. Юста рассцілае нейкія бэбахі на тапчане, куды і пераходзіць Ганна разам з народжаным сынам. Той-жа Аўмень бяжыць па бабку. Сяк-так справу ўладзілі. Пісар і настаўнік едуць у Пінск.

## XXIV

— Давай, Андрушка, устроім хор! — кажа раз пісар Лабановічу, — я табе памагу. Разумееш ты, зусім другі калянкор, калі ў цэркве спявае добры хор.

— І калі «апостала» чытае Мацей Дулеба, — у тон пісару дадае Лабановіч.

— А што-ж, па-твойму, я кепска прачытаў «апостала»? Вось ты не прачытаеш так, — крыўдзіцца трохі пісар: — і «апостала» прачытаць трэба ўмець.

— Ды я і не бяруся чытаць. І наогул не разумею, нашто гэта бушаванне ў цэркве? Хіба не можна прачытаць проста і натуральна? А то раве чалавек, як бугай на прадвесні, аж вочы на лоб лезуць. Хіба гэта ўжо так прыемна богу? Ці ён глухі?

Пісар яшчэ больш крыўдзіцца.

— Можна было-б сказаць гэта і больш далікатна, — заўважае ён: — ты-ж думаеш, што ты толькі адзін такі вольнадумец? І я, брат, быў вольнадумец, але глупства гэтае з часам прайшло, як пройдзе яно і ў цябе.

Лабановіч хацеў адказаць, што калі чалавек з настаўніцтва пераходзіць на пісарства, то аб вольнадумстве гаварыць тут не прыходзіцца, але сказаць так, значыць пасварыцца з чалавекам, і ён толькі пытае:

— А ў чым выявілася тваё вольнадумства?

— Было, брат! — адказвае пісар, — а я мушу сказаць табе, як старэйшаму, і ты мяне павінен паслухаць: хор устроіць табе трэба!

— А ну яго к чорту! — злуецца Лабановіч, бо ўпамінанне аб хоры яму нейк балюча абходзіць.

— Дык ты не прызнаеш значэнне хору? — У пісаравым тоне чутна строгасць. — Які-ж ты пасля гэтага настаўнік?

Пісаравы бровы навісаюць грозна, а вочы ўпіваюцца ў твар Лабановіча.

— А калі я не хачу гэтага твайго хору? — яшчэ з большаю злосцю пытае Лабановіч, — і нашто табе даўся гэты хор? Поп маўчыць, не лезе з гэтым хорам, дык табе трэба свае тры грошы ўткнуць.

Пісарава строгасць раптам сходзіць, і выраза яго твару адразу нейк дабрэе.

— Чаго-ж ты злуешся, дзівак ты? Я-ж хачу пагаварыць з табою, як з чалавекам, якога я люблю і паважаю. Ты-ж думаеш, калі а. Мікалай нічога не кажа табе пра хор, дык яму і ўсёроўна, ёсць хор ці не? Ён да цябе, брат, вельмі добра адносіцца і паважае, але яго трохі не задавольвае, што ты вечарамі нейкія гутаркі вядзеш з людзьмі, да царквы непрыхільнымі, а праз гэта і цябе самога можна залічыць у раскольнікі, разумееш ты?

Лабановіч зразу адчувае, што аб яго патайной рабоце ходзяць ужо чуткі. Ён трохі непакоіцца і чуе нават нейкі

страх, але стараецца не паказаць гэтага, хоць ад зоркага пісаравага вока не ўкрываецца ніводзін рух яго твару.

— Тфу, праклятае дзякоўска-папоўскае балота! — абурліва гаворыць Лабановіч, каб адвесці ўсякія сляды: — калі да цябе зойдзе ў вольную часіну чалавек, звычайны мужык, і калі ты ад яго не старонішся, як ад зачумленага, не сядзеш за бутэльку, а пагутарыш з ім проста, як з чалавекам, дык зараз-жа нейкаму чорту гэта пачынае ўжо карцець і наводзіць на ўсякае падазрэнне!

Праз пісараў нос-волат прабіваецца кароткі гук «хм», галава яго зрушваецца, і смех, хітры, многазначны смех, рассоўвае валасатыя губы. І смех гэты як-бы гаворыць: «Ага! унь ты як загаварыў! Але ведаю, брат, куды ты заносіш!»

Лабановіч заўважае, што яго абурлівая рэпліканіколечкі не пераконвае пісара. Прыступ нейкай вар'яцкай злосці захоплівае яго ўсяго. У яго цяпер з'яўляецца моцнае жаданне сказаць нешта рэзкае, абразлівае, хочацца плюнуць на ўсё тое, што становіць гэтую казённа-мяшчанскую святасць. І ён ледзь-ледзь стрымліваецца, чакае, што скажа пісар.

А пісар гладзіць бараду, усміхаецца яшчэ раз гэтым абразлівым смехам, як чалавек, што стаіць нязмерна вышэй таго, з кім ён гаворыць, і ведае шмат больш таго, як гэта можна думаць.

— Так... чалавек... звычайны мужык, — гаворыць пісар, націскаючы амаль не на кожнае слова, і раптам мяняе тон: — але-ж ён і не такі звычайны, як ты гэта хочаш паказаць! І гэтых вольных часін у яго нешта занадта многа. Пра гэтага «звычайнага» мужыка ходзіць не зусім звычайная слава. Аб ім нават і сякія-такія матэрыялы маюцца ў воласці...

— Ну, як не быць такім матэрыялам! — пераймае пісара Лабановіч, — ён-жа судзіўся з панам Скірмунтам, бухторыў сялян, падымаў іх на яўнае беззаконне. Як ён, мужыцкае рыла, асмеліўся выступіць супроць пана? Якое права мае мужык дапусціць мысль, што з ім паступаюць несправядліва, калі над ім з такім замілаваннем апякуюцца ўсе, пачынаючы з гарадавога?

Пісар слухае, спусціўшы вочы, і ў сваю чаргу перапыняе Лабановіча нечаканым зваротам:

— Андрушка! па дружбе кажу табе — кінь! Кінь ты гэтую цёмную работу! Любячы цябе, кажу — кінь!

— Якую цёмную работу? — нападае Лабановіч на Дулебу.

Ён ведае, навошта ківае пісар, але хоча збіць яго з тае ўпэўненасці, з якой гаворыць ён аб «цёмнай» рабоце, або пераканацца, на чым грунтуецца і ў якой меры гэтая ўпэўненасць.

— Каго ты хочаш у дурнях пакінуць? — зняважліва пытае пісар: — скажы мне, з кім ты знаёмы, і я табе скажу, хто ты, — прыводзіць ён вядомы афарызм.

— Я знаём з дзякам Бацяноўскім, з папом і не з адным, а многа іх ведаю, знаём з земскім начальнікам, з пісарам Дулебаю, — дык хто я такі?

— Гэта — не факт, — адказвае пісар, збіты з нагі такім запытаннем.

— А вось мая «цёмная» работа для цябе — факт, можа таму толькі, што навучыць грамаце цёмнага чалавека ёсць цёмная работа?

— А ты яго вучыш грамаце?

— Так, раблю гэтую «цёмную» работу... І скажы мне, Мацей, якое табе дзела да ўсяго гэтага?

Мацей як-бы не чуе запытання і кажа:

— І ты гэтага сукінага сына вучыш грамаце?! Для чаго-ж гэта робіцца такая ласка?

— Для таго, каб «гэтага сукінага сына» не крыўдзілі сотні сукіных сыноў.

— Ах, вось як! Хто-ж гэтыя «сотні сукіных сыноў»? Мусіць-жа і я ўваходжу туды?

— Не, ты — выключэнне.

— Ну што-ж? І за гэта дзякую!

Пісар адвешвае Лабановічу паклон, чуць не ўпіраючыся носам у стол, а Лабановіч, злосны, ходзіць па пакойчыку.

Некаторы час яны маўчаць.

— Паслухай ты мяне, Андрэй, — тонам згоды гаворыць нарэшце Дулеба, — злавацца тут няма чаго. Я можа чым і пакрыўдзіў цябе. Тады выбачай мне. Выбачай, браток! Але я табе кажу, як чалавеку, як свайму брату,

бо я ўсё-ж такі больш настаўнік, чым пісар, — пляваць я хачу на пісарства і плюну, — дык не мяшайся ты ў гэтую брудную справу!.. Стой, стой, стой! дай мне сказаць. Няўжо-ж ты думаеш, што ты адзін угледзеў праўду, а ўсе іншыя сляпыя, нічога не ведаюць, не знаюць і ў галаве іх салома? Няўжо-ж ты думаеш, што гэта праўда ў тых паскудных лістках, што пачалі пладзіцца і пападаць і ў сялянскія рукі? Хто-ж ім паверыць? Хто за імі пойдзе? Злодзей, гультай, лодыр і наогул усякі аматар лёгкага хлеба. А сталы чалавек за імі не пойдзе, не паверыць, толькі плюне на іх з агідаю. Чаму? А таму, што сталы чалавек, не гультай, знойдзе сабе спосаб, як жыць на свеце, і калі будзе дабівацца чаго, то свайго даб'ецца. І няўжо начальства не думае, не дбае аб народзе? Яно-ж само звязана з ім, залежыць ад яго. У інтарэсах самога начальства клапаціцца аб народзе, каб яму жылося добра.

— Каму каб жылося добра? — смяецца Лабановіч, — народу ці начальству?

— Народу!

— А я думаў, каб начальству добра жылося, бо ты трохі няясна казаў сваю думку. Ну, але ва ўсякім разе вельмі дзякую табе, што ты аднавіў у маёй памяці гэтую мудрасць, якою кармілі нас у семінарыі на працягу чатырох гадоў.

— А ты-ж думаеш, семінарыя благому вучыла?

— З чаго ты ўзяў, што я так думаю? Мяне толькі дзівіць, к чаму ты гэта ўсё гаворыш?

— Слухай, Андрэй! што ты крывіш нейкую нявіннасць? — на пісаравым твары адбіваецца пакута, і нос яго моршчыцца ад нездавальнення.

— Дык чаго ты ад мяне хочаш?

— Ну, годзе, не будзем аб гэтым гаварыць, — і пісар махае рукою.

— Не, брат: аб гэтым гаварыць ты будзеш. Як будзеш гаварыць, гэта другое дзела. Можа так, а можа і не так, але гаварыць будзеш. Не сёння, дык заўтра, не заўтра, дык налета.

— Кінь казаць глупства! І слухаць гэтага не хачу.

— А нашто-ж ты пачынаў?

— Я-ж пачаў не з гэтага.

— У тым-та, брат, і штука, што пачнеш з неба, а пяройдзеш на зямлю, бо зямля да нас бліжэй, чым неба.

— Ну, гэта як для каго.

— Ну, а для цябе, напрыклад? Думаю, што зямля больш мілая, чым неба, бо каб было наадварот, то ты пайшоў-бы не ў валасныя пісары, а ў манахі. Неба, брат Мацей, для дуракоў адводзяць разумныя людзі, каб самім было вальней жыць на зямлі. Але справа ў тым, што і дуракі пачалі шукаць шчасця на зямлі. А раз гэта так, то яны непрыменна зробяць на зямлі рэвізію.

— Гэта так у лістках напісана? — пытае пісар.

— Гэта так напісана ў ходзе людскога жыцця. І гора таму, хто гэтага ходу не разумее або не хоча зразумець.

— Не, брат Андрэй: гора таму, хто разумее жыццё навыварат і паддаецца на вудачку розных палітычных машэннікаў.

Вынікам гэтае спрэчкі было ўзаемнае нездавальненне. Пісар Дулеба вышаў з думкаю, што настаўнік стаўся ахвяраю «розных палітычных машэннікаў», а настаўнік думаў аб пісару, як аб чалавеку, які ўжо застыў у сваіх поглядах на рэчы. Кожны з іх пашкадаваў адзін другога, выходзячы з сваіх меркаванняў.

На развітанне пісар сказаў:

— Дык заходзь вольнаю часінаю. А што мы троху паспрачаліся, дык гэта можа і добра. Ва ўсякім разе я буду цешыць сябе думкаю, што мае словы пойдуць табе на карысць.

— А я буду спадзявацца, што і мае словы знойдуць прытулак у тваёй галаве.

— Не, брат, — круціць галавою пісар, — яйцо курыцы не вучыць.

— Але ўсё-ж такі курыца з яйца вышла.

— Але яйцо курыца знесла!.. Не, Андрэй, жарты на бок. Памятай, што я табе казаў. Са мною ты можаш гаварыць усё, што хочаш: гэта ўсё будзе паміж намі. А ліха можа прыйсці з другога боку. Ты яшчэ не ведаеш людзей: той, за каго ты распінаешся сёння, прадасць цябе заўтра. І грошы возьме і барыш вып'е. Вось тады і зразумееш ты ход жыцця. Але гэтага няхай не здарыцца.

Пасля жывой і троху ўзнятай спрэчкі ў пакойчыку Лабановіча стала нейк незвычайна ціха, і ў гэтай цішыні зусім у іншым значэнні пачынае выяўляцца сэнс рэчаў і нават самыя нежывыя рэчы, як сцены, печ і дзверы, нямыя сведкі гарачай спрэчкі, здавалася, выглядалі трохі па-іншаму.

Некаторы час Лабановіч прыслухоўваецца да гэтай цішыні, як-бы хоча зразумець затоены сэнс яе. Але ён чуе толькі шум і звон у сваіх уласных вушах. Пачынае прыслухоўвацца да самога сябе, як-бы ён першы раз сустрэўся з самім сабою, і глядзіць на сябе, як на нейкага староннягa чалавека. Ён заўважае, што ў яго ёсць сэрца, і чуе пульс яго. А будзе-ж час, калі гэты пульс замрэ. Нейк холадна і непрыемна робіцца ад гэтае думкі. І думаць аб гэтым прыкра.

Ён падыходзіць да акна. За акном, каля саменькае сцяны, дзе стаіць круглаверхі клён, цяпер халодны і аголены, густа-густа збіраецца мрок, нібы гэтая цёмная ноч паставіла тут свайго вартаўніка. Скрозь парадзелыя дрэвы папоўскага саду свеціцца акно ў кватэры пападзянак, свеціцца бледнаю зеленаватаю плямкаю. Яшчэ глыбей у двары відаць і дзякоўскае акенечка, як воўчае вока. І здаецца, далёка ад жыцця, у заняпалым кутку яго, мільгацяць гэтыя вокны. Нявесела там і журботна.

Ён адыходзіць ад акна і паволі шнуруе ад сцяны да сцяны па свайму пакойчыку. Кухня даўно супакоілася, і толькі цяпер кугакае дзіця. Гэта ганнін сын Кірыла, што нарадзіўся ў кладоўцы, заяўляе там аб нейкіх сваіх правах. Варушыцца Ганна, ціхенька супакойвае дзіцянё і штосьці ласкава-ласкава гугніць свайму маленькаму сыну. Нездаволеная паводзінамі брата, абуджаецца і Юста. Яна сярдзіта нешта гаворыць, відаць, злуецца на Кірылу, каб не перашкаджаў ёй спаць.

— Спі ты, згінь твая маты! — прыдушаным голасам, каб не трывожыць настаўніка, напускаецца яна на Юсту. І ў кухні зноў усё заспакойваецца.

Лабановіч успамінае тое здарэнне, калі нарадзіўся ў Ганны сын, і дзівіцца, як яна засталася жывою пасля гэтага. Тады ён прывёз ёй з Пінску поўпляшкі гарэлкі, каб было ёй чым пачаставаць бабку. А Мікалай, дачуў-

шыся аб гэтым, быў надзвычай задаволены паводзінамі настаўніка, і ў сваю чаргу, каб не адстаць ад яго ў дабраце, прыслаў Ганне вялізны каравай на радзіны.

Адзін толькі дзяк Бацяноўскі трохі па-другому тлумачыў сабе ўчынкі свайго суседа.

Было ўжо досыць позна. Лабановіч успамінае спрэчку з Мацеем Дулебаю. Ён верыць, што пісар і па-праўдзе ліха яму не зробіць, бо ён, хоць і думае іначай, чалавек добры і без хітрыкаў. Яго толькі дзівіць, што яго патайная работа выходзіць наверх, аб ёй ужо ходзяць чуткі. Ну, што-ж? трэба гэта прыняць пад увагу і падумаць над тым, як павесці работу больш асцярожна.

І, ужо лежачы ў пасцелі, ён абмяркоўвае спосабы, як наладзіць такую работу, а для таго, каб адвесці сляды, можа-б не пашкодзіла і сапраўды, як кажа пісар, наладзіць з яго дапамогаю невялічкі хорык?

## XXV

У студзені 1904 года пачалася вайна з Японіяй.

І сама гэтая Японія і тыя прычыны, што спарадзілі вайну, былі не вельмі вядомы шырокім пластам насельніцтва, асабліва вясковага. А толькі цяпер сялянская мова пабагацела на два словы: Апонія і апонцы, але за гэтымі словамі хаваўся вельмі цьмяны змест, як быў цьмяным і самы сэнс гэтай вайны.

Праўда, і па цёмных закутках неасяжнай Расіі знаходзіліся храбрыя і надта ўспанялыя палітыкі-ваякі, для якіх усё тут было проста і ясна. Усю іх мудрасць і празорлівасць можна выказаць у двух кароткіх пунктах: 1. Японцы — гэта макакі, або жоўтамордыя малпы. 2. Белы цар, цар-бацюшка, намне ім шыі так, як яны таго і не снілі, бо хто не адчуваў на сабе сілы рускага кулака? І пры гэтым храбры палітык-ваяка, седзячы ў цёплым пакоі і папіваючы гарбатку з кан'ячком, згортваў кулак і трос «макакам».

Цар Мікалай зараз-жа падпісаў маніфест, паведамляючы, што дзёрзкі вораг напаў ні з таго, ні з сяго на нашу эскадру ў Порт-Артуры, напаў спатайка, як зло-

дзей, не паведаміўшы, не абвясціўшы вайны, за што і трэба пакараць яго, заступіцца за гонар Андрэеўскага сцяга, а таму і абвяшчаецца японцам вайна. Цар не забыўся прыхваціць на свой бок і госпада бога, выказваючы надзею на сілу рускай зброі. Ён звярачаўся да вернага прастолу дваранства і вернападданых сялян, заклікаючы іх выканаць свае абавязкі і спадзеючыся ад іх усялякага геройства, якога ў нас ніколі не бракавала.

Следам за маніфестам пачалі выбухаць узрывы казённага патрыятызма, але ўражанне ад гэтых «узрываў» было вельмі нязначнае. Газеткі казённага складу, знаходзячыся на ўтрыманні казны, стараліся раздзьмуць патрыятызм і пасеяць нянавісць да японцаў, не шкадуючы фарбаў, каб паказаць усю іх азіяцкую некультурнасць і нікчэмства.

Герояў і геройства, якога чакаў цар, было не так многа. Сапраўдным героем аказаўся адзін толькі крэйсер «Вараг». Дзесь на моры каля Чамульпо ён сутыкнуўся з японскімі караблямі праз некалькі гадзін пасля таго, як напалі японцы на нашу эскадру ў Порт-Артуры і моцна пакалечылі браненосцы «Цэсарэвіч», «Рэтвізан» і крэйсер «Палада». Біўся «Вараг» з пераважнымі сіламі японскай эскадры. Каб не здавацца ў рукі ворагу, «Вараг» падарвалі, чым і падтрымалі славу рускага флота. Геройства «Варага» скаланула Расію. Замільгацелі імёны генералаў і адміралаў. Хоць яны геройства яшчэ і не зрабілі, але маглі зрабіць, а таму іх і разглядалі, як герояў. І іх было многа: Алексееў, намеснік цара на Далёкім Усходзе, Безабразаў (ён якраз і адпавядаў свайму прозвішчу), Стары, Вірэн, Стэсель, Фок, Засуліч, Зарубаеў, Самсонаў, Рэненкампф, Грыпенберг, Каульбарс, Бірдэрлінг (ён нават і героем аказаўся: скінуўся з каня і выбіў сабе плячо), Мішчанка (ён быў моцны кандыдат у герої, але з яго нічога не вышла). А зачынялі гэты доўгі ланцуг герояў такія сланы, як Курапаткін і Ліневіч.

Тэлеграмы з вайны на царскае імя нязменна пісалі, як нашы пасеклі то роту, то эскадрон японцаў і што дух нашага войска «превосходный», а калі часамі дзе троху і адступалі, то адступалі не іначай, як на «парадзе».

З гэтых тэлеграм выходзіла, што «япошкі» нідзе не

прасунуцца, куды-б яны ні паткнуліся, так іх там клалі і крышылі. У той час, калі ў японцаў былі цэлыя горы трупаў, нашы страты былі зусім нязначныя — адзін, другі афіцэр ды некалькі «ніжніх чыноў». Тым-жа часам арэна вайны ўвесь час мянялася, пасоўвалася з Карэі і Ляадунскай поўвыспы ў Манчжурыю, праходзячы такія этапы, як Ялу, дзе генерала Засуліча пабілі на горкае яблыка, Цюрынчэн, Порт-Артур, Ляаян і сотні другіх месц у палях Манчжурыі, дзе капаліся магілы для пахавання царскага самаўладства.

Горача стала ў Пецербурзе.

Замахалі папы кадзіламі, вымольваючы ў бога перамогі над «макакамі». Пасыпаліся, як лісце ўвосень, абразы на тэатр вайны — відаць на сілу зброі і на здольнасць нашых стратэгаў надзея была малая. У справу прышлося прыплесці Серафіма Сараўскага, якога незадоўга да гэтага высунулі кандыдатам у святыя. Хоць душа Серафіма Сараўскага была цяпер на небе, але гэта не шкодзіла яму прысніцца каму трэба, каб пацешыць цара, дэкларываўшы яму перамогу над японскім мікадам. Але, як вядома, святыя каля гармат не хадзілі, салдацкай лямкі не цягнулі, пораху не нюхалі, ваеннай тэхнікі не вывучалі, дык і карысці з іх было гэтулькі-ж, як і з дзірак у мосце. І горш усяго — Серафім Сараўскі прысніўся зусім недарэчы: якраз за некалькі нядзель перад Мукдэнскім боем, дзе руская армія была пабіта нашчэнт, а месяцы праз тры прад Цусімаю была пахавана і Балтыцкая эскадра пад камандаю адмірала Раждзественскага.

Прайшло некалькі месяцаў вайны. Наўперад глуха, потым галасней пайшлі хадзіць чуткі аб злачынствах, якія тварыліся рознымі сатрапамі на вайне, аб крадзежствах і на тэатры вайны і ў тылу, аб цяжкім матэрыяльным стане салдат, аб поўнай непадрыхтаванасці да вайны і аб усякіх іншых махінацыях. Пайшлі гуляць анекдоты і карыкатуры, больш напісаныя ў галаве, чым на старонках друку. Была карыкатура і на цара Мікалая. Стаіць наш цар без нагавіц, у адной кашулі. Японцы розгамі сякуць Мікалая, а Мікалай сам трымае кашулю. З боку стаіць нямецкі кайзер Вільгельм.

— Міколка! — гаворыць ён Мікалаю, — ды даў-бы ты

патрымаць сваю кашулю каму-небудзь з прыдворных. Нашто табе турбавацца самому?

— Ах, Віля! Ну, што ты гаворыш? Як магу даць дзяржаць кашулю другому? Я-ж самадзержац!

Надвячорак. Пачынае цямнець.

Лабановіч праводзіць апошнюю гадзіну работы ў школе. За работаю час праходзіць борзда. Не згледзіш, як прабяжыць тыдзень. Настаўніку нейк весела і радасна, не гледзячы на цэлы дзень работы ў душным класе. Як-ні-як, час хіліцца да вясны. Большая палавіна школьнага года засталася ззаду. І дзень пабольшыўся значна. Можна скончыць дзень у школе, не запальваючы лямпы. Каля акна, што выходзіць у бок чыгункі, ён запыняецца: па дарозе імчыцца параконны вазок. У вазку сядзіць пісар Дулеба. Гэта ён з Пінска едзе, вязе пошту.

Настаўнік думае, што яму трэба схадзіць у воласць — павінны быць сякія-такія пісьмы і карэспандэнцыя, свая і школьная.

Вазок зварочвае з дарогі ў бок школы.

Каля ганку Аўмень запыняе коні. Настаўнік пускае вучняў дадому, а сам выходзіць на ганак.

— Ну, я да цябе на адну мінуту, — гаворыць пісар, — ведаеш, брат, што?

— Ну? — чакае настаўнік нейкай важнай навіны.

— Адзявайся лепей ды паедзем да мяне.

Ад пісара трохі папахвае выпіўкаю.

— А што ты меўся сказаць мне?

— Важная, брат, навіна. Ведаеш? вайна пачалася!

— Вайна? З Японіяй? Не можа быць!

— Не «не можа быць», а ўжо ідзе вайна... Ну, паедзем.

Лабановіч адзяе паліто, і яны едуць у воласць.

— Вось прахвосты, сукіны сыны, — гаворыць абурліва Дулеба, — не спадзяюцца на сваю сілу, дык пусціліся на чыста азіяцкую подласць: не абвясціўшы вайны, напалі на нашы броненосцы. Ну, але-ж ім далі чосу! І яшчэ дадуць. Так дадуць, што толькі мокранькае астанецца ад іх. Каго яны чапаюць? На каго падымаюць руку? На Расію, якая адна супроць усяго свету можа выступіць!

— Але-ж, пане пісару, і яны ведаюць пра Расію і на

нешта спадзяюцца, калі не пабаяліся першымі зачапіць нас, — заўважае фурман Аўмень.

— Калі бог захоча пакараць каго, то першым чынам адбярэ ад яго розум, — строга кажа пісар.

Аўмень змаўкае і хавае нейкі, як-бы вінаваты, смех пад вусамі. Ні то ад таго, што пісар сказаў так трапна, ці так з якой прычыны.

Вестка аб вайне борзда абходзіць сялянскія хаты, а каля фурмана Аўменя і дзеда Піліпа на зборні збіраецца кучка палешукоў. Аўмень — асяродак увагі. Вочы ўсіх падняты на яго. Такая ўвага надае Аўменю важнасці і гонару. Ды калі сказаць праўду, то Аўмень вышэй тут стаіць за ўсіх, у яго ёсць знаёмыя чыноўнікі ў Пінску — на пошце і ў казначэйстве. Ад іх можна шмат чаго даведацца.

— Напалі на нашы караблі, — дзівіцца дзед Піліп, і вочы яго выкочваюцца, як у рака, наверх.

— І здорава пабілі! — важна сцвярджае Аўмень.

— Пабілі? — падхопліваюць слухачы. — Вось, згінь іх маты.

— І самыя лепшыя караблі. Там былі такія гарматы, што стралялі на дваццаць вёрст. Такія гарматы мае толькі адна Ангелька.

— І як яны пабілі, каб іх гром пабіў? — пытае дзед Піліп і стукае рукамі па сцёгнах.

Усе пазіраюць на Аўменя.

— Міны пусцілі, — кажа Аўмень.

— Го, каб яны кроўю пусцілі! — злуецца дзед Піліп. Яго вельмі дзівіць, што былі такія гарматы, з якіх можна страляць за дваццаць вёрст.

— Гэта-ж каб такія гарматы паставіць у Гарадышчы, дык яны-б і да Лунінца данеслі!

— І вось, скажы-ж ты, не паладзілі за неважта!

Дзядзьку Есыпу хочацца дазнацца прычын вайны.

Аўмень ведае і гэтыя прычыны. Але ён покі што маўчыць, бо ўсёроўна апошняе і самае важнае слова будзе яго, а цяпер няхай сабе пагавораць яны.

— Ды ўжо калі хто захоча пабіцца, то прычыну знойдзе. — Дзеда Піліпа прычыны вайны мала цікавяць. Яму

вельмі абходзяць гарматы, што страляюць на дваццаць вёрст.

Сярод палешукоў падымаецца шум. Кожнаму хочацца як-небудзь адклікнуцца, сказаць сваё меркаванне аб прычынах вайны, але нікому не ўдаецца сказаць трапна, каб усіх задаволіць. Аўмень слухае і хавае смех пад вусамі.

— Японцы вось чаго хочуць, — кажа ён, — яны запатрабавалі ад нашага цара не мяшацца ў справы Кітая. Мы і кітайцы, — кажуць яны, — свае людзі. А ў цябе і так зямлі свае многа. Рабі, кажуць, парадкі ў сваёй Расіі, а нашай Азіі не чапай.

— А гэта што-ж, палюбоўніца іх ці што? — пытае дзед Піліп.

— Якая табе палюбоўніца? Краіна іх так называецца, — тлумачыць Аўмень, а дзеда Піліпа падымаюць на смех.

— А чорт-жа іх бацьку там ведае, — апраўдваецца дзед Піліп, — і за бабу часамі б'юцца людзі.

— А наш цар, значыцца, не схацеў і дулю ім паказаў, — чуецца голас.

А Міхалка, якога дзядзька Есып прасіў, каб яго пабіць, увесь час маўчаў, пачухаў патыліцу і заўважыў:

— А ўсё-ж нашаму брату прыдзецца аддувацца сваімі бакамі.

І некалькі рук чухаюць патыліцу.

У кватэры пісара таксама ідзе гутарка аб вайне.

— От, згінь твая доля! — гаворыць старшыня, гаворыць ён так, як-бы ўвесь клопат і цяжар вайны ляглі на яго плечы, — вось не было яшчэ клопату!.. Гэта рунда, што яны там папсавалі трохі караблі. Але няхай ён вылезе на бераг!..

— Яму і дадуць вылезці на бераг, сумысля дадуць, каб потым патапіць іх усіх к чортавай матары!.. Гэта, брат, ім не хаханькі!

Пісар сказаў гэта так энергічна і так грозна ссунуў бровы, што старшыня зусім заспакойваецца за лёс вайны і за нашу перамогу.

— І далёка-ж жа, мусібыць, падла Апонія гэтая? — пытае старшыня.

— Далёка, брат, адгэтуль і не згледзіш,— жартуе пісар.

— Вось і нашага Раманчыка каб не пагналі на вайну,— успамінае Захар Лемеш аб нядаўнім сваім прыяцелю.

— Куды яго пагоняць! — адказвае зняважліва Дулеба: — там сваіх войск хопіць, сібіракоў.

— Так,— адзываецца Лабановіч як-бы на свае думкі,— даўно Расія не ваявала.

Гэтая вайна робіць на яго моцнае ўражанне і захапляе неспадзяванасцю сваіх падзей. Яму даводзілася многа чытаць ваеннай літаратуры, пераважна з гісторыі рускіх войнаў, запісак, раманаў. Яго захапляла апісанне баёў, як апісанне Барадзінскага бою ў рамане «Вайна і мір». З асаблівай цікавасцю накідаўся ён на тыя творы, што былі спецыяльна прысвечаны гэтым войнам. Пад уплывам тэндэнцыйнага і аднабочнага асвятлення іх, выпуклення гераічнай стараны і наўмыснага закрывання вачэй на яе цёмныя бакі ў ім зламжылася ўяўленне, у корані фальшывае, аб ваяцкіх здольнасцях царскай Расіі і аб яе неперакожнасці ў вайне. Вось чаму і цяпер ён падзяляў моцную ўпэўненасць у тым, што Японія ў гэтай вайне будзе пабіта, як падзялілі гэтую ўпэўненасць і дзесяткі тысяч адурачаных фальшывым аднабокім выхаваннем людзей.

Ён пільна сочыць за разгортваннем ваенных падзей на Далёкім Усходзе, знаёміцца больш падрабязна з Японіяй, з яе бытам і тэхнікаю, чытае газеты, не прапускае ні аднае заметкі аб вайне самага нікчэмнага ваеннага карэспандэнта.

У скорым часе ў яго школу прыязджае інспектар народных школ для рэвізіі. Інспектарская рэвізія — гэта свайго роду страшны суд для вясковага настаўніка. Інспектар можа зрабіць з настаўнікам усё, што захоча: пазбавіць пасады і наогул нарабіць усялякіх згрызот і непрыемнасцей. Адносіны да настаўніка афіцыяльныя, строга начальніцкія. Інспектар адчувае сваю сілу над настаўнікам, глядзіць на яго звысока, рэдка дарыць яго ўсмешкай. Ні на адну мінуту не дае забыць аб розніцы паміж ім і настаўнікам: ты — нішто, я — усё.

Голасна гаварыць, ступаць на ўсю ступу пры інспектару не палагаецца: кожны рух, кожнае слова павінны выказваць павагу і трэпет перад інспектарам. Калі ён уваходзіць у школу, то настаўнік павінен ісці за ім на два крокі ззаду, а ў школе зусім зацмяваецца. Калі вучань кепска адказвае на пытанне інспектара, інспектар кідае на настаўніка погляд, поўны грознага нездаволення.

Сяргей Пятровіч Булавін — новы інспектар, пануры, скупы на словы, асабліва з настаўнікамі. Лабановічавы вучні падрыхтаваны добра. Прычын для нездавальнення няма. Экзаменуецца вучань трэцяе групы Іван Занька. Занька з паказкаю стаіць каля карты.

— Пакажы мне Азію.

Занька абводзіць паказкаю карту. Кусочак Азіі на карце заходзіць у Амерыку. Занька не забывае і пра гэты кусочак.

— Добра, — хваліць яго інспектар.

— Пакажы мне Японію.

Занька паказвае.

— А што ты ведаеш пра Японію? У якіх адносінах знаходзіцца яна да нас?

— Ваюем з ёю.

— Ну, а скажы, хто каго звалое?

— Наш цар паб'е, — адказвае ўпэўнена Занька.

— А чаму ты думаеш, што мы яе паб'ем?

— У нашага цара войска болей.

— Так, мой мілы. Расія паб'е Японію. Па-першае, і войска ў нас болей, і войска наша лепшае, і справа наша справядлівая, і, па-другое, — мы павінны яе пабіць і паб'ем.

Іван Занька рэпутацыю школы падтрымаў, затое-ж Алесік Грылюк папсаваў усю справу. Ён увесь час не зводзіць з інспектара вачэй. Увага яго запыняецца на носе інспектара. А нос у інспектара быў здаравецкі. Нарэшце Алесік не можа стрымацца — так зацікавіўся носам.

— А чаму ў цябе такі вялікі нос? — сярод магільнай цішыні чуецца яго наіўнае дзіцячае запытанне.

— Табе няма дзела да майго носа.

Ну, што-ж было ўзяць з малога Алесіка?

Наогул-жа рэвізія сышла досыць добра.

## XXVI

Аблажыўшыся газетамі, сядзіць Лабановіч у сваім пакойчыку, чытае апошнія навіны з вайны. Ён так углыбляецца ў чытанне, што не чуе, як нехта стукае ў дзверы, і толькі тады адрывае вочы ад газеты, калі гэты стук пачуўся ў акно насупроць.

«Каго там чэрці нясуць?» — думае ён.

Навіны, відаць, яго не здавальняюць.

Ніхто ў акно яму не стукаў, і ён ад нечаканасці аж уздрыгнуў.

Выходзіць, адчыняе дзверы.

— Ну, і Андрэй Міхайлавіч! — чуе знаёмы пакрыўджаны голас, — не хоча ўжо і пускаць у сваю кватэру.

— Як не хачу? — радасна гаворыць ён, — з мілаю душою!

— Сур'ёзна?

— Больш чым сур'ёзна, Вольга Віктараўна, каб мне з гэтага месца не сыйсці!

— Ну, то добры вечар, калі так.

— Добры вечар! Ну, і малайчынка-ж вы! Вось як слаўна зрабілі, што даведаліся да мяне! Прышлі ці прыехалі?

— Дзе там у чорта прыехала! Пехадралам пру.

— Ну, гэта ўсёроўна, ці ішлі ці ехалі, абы сюды папалі.

Заходзяць у пакойчык.

— Газеты ўсё чытаеце?

— Чытаю, няхай яны спрахнуць.

— А што так? — пытае Вольга Віктараўна, і вочы яе вясёлаю насмешкаю іскрацца.

— Не ладзіцца ў нас.

— І гэта вас засмучае?

— Не толькі засмучае, а пачынае разбіраць злосць.

— На каго?

— А чорт яго ведае, на каго.
— Вам, як бачу я, хацелася-б заспяваць:

Гром победы раздавайся,
Веселися, храбрый Росс.

— Дык не дачакаецеся, Андрэй Міхайлавіч. Калі ў каго і былі надзеі на перамогу ў пачатку вайны, то цяпер яны развеяліся, як ранішні летні туман. Хіба-ж не ясна вам, што гнілая царская Расія няздольна ваяваць? Вайна даўно прайграна. І пачата вайна гэтая дзеля таго, каб адцягнуць увагу закабаленага насельніцтва ў другі бок, каб знізіць хвалю рэвалюцыі, якая ўсё нарастае і блізіцца. Не перамогі трэба жадаць Расіі, а поўнага паражэння!

— Што-ж выйграеце вы ад гэтага паражэння? — пытае Лабановіч. Ён чуе праўду ў яе словах. Яму нялоўка за сваё захапленне вайною, за сваю памылку ў поглядзе на вынікі вайны, за сваю веру ў перамогу Расіі. Ён адчувае фальшывасць свайго палажэння, але ён хоча паспрачацца з суседкаю.

— А я запытаю вас, што выйграеце вы ад перамогі Расіі на вайне? — пытаннем на пытанне адказвае Вольга Віктараўна.

— Па-першае, задаволіцца мая нацыянальная гордасць: я буду думаць аб сабе, як аб сыне таго народа, які перамог на вайне. Па-другое, паражэнне на вайне нанясе нам незлічоныя матэрыяльныя страты. Па-трэцяе, натуральнае імкненне Расіі, што выплывае з геаграфічнага палажэння яе, знайсці сабе вольны выхад на мора, будзе паралізавана, а гэта для нас нявыгадна. Ні Балтыйскае, ні Чорнае мора гэтага выхаду нам не даюць. Сібір застанецца занадта далёка, каб можна было належным спосабам карыстаць з яе багаццяў. І іншая справа, калі выхад у нас будзе на Далёкім Усходзе. І ўсёроўна, ці будзе ў нас цар ці прэзідэнт, а вольны выхад у мора мы павінны мець, бо без гэтага нам цесна будзе і на нашых неасяжных прасторах. Вось чаму я і не хачу, каб нас пабілі японцы, і вось чаму мне так балюча абходзяць нашы няўдачы на вайне.

— Мыслі, дастойныя самага заядлага патрыёта, —

гаворыць Вольга Віктараўна. У голасе яе чуваць насмешка. І раптам мяняе тон размовы.

— Ды вы проста смяецеся, жартуеце, Андрэй Міхайлавіч, і мне падабаюцца жарты вашы!

— А калі я кажу гэта сур'ёзна?

Вольга Віктараўна падымае на яго свае бойкія вочы.

— Сур'ёзна казаць так вы не можаце.

— Чаму?

— Калі-б вы гэта казалі сур'ёзна, то тады вы — або фальшывы чалавек, або вельмі кепскі рэвалюцыянер.

— Лепш быць кепскім рэвалюцыянерам, чым фальшывым чалавекам, бо фальшываму чалавеку стаць шчырым чалавекам шмат цяжэй, чым з кепскага рэвалюцыянера зрабіцца добрым рэвалюцыянерам.

— Гэта праўда, з гэтым я згодна, і вы мне падабаецеся вашаю шчырасцю.

— Няўжо я вам падабаюся? Першы раз гэта чую ад дзяўчыны!

— Ах, які няшчасненькі! Ну і апошні раз чуеце гэта — не трэба прыдзірацца да слоў!

Лабановіч напускае на сябе трагічнасць, нізка звешвае галаву і журботна трасе ёю.

— Няўжо гэта праўда? Няўжо ніколі не пачую я ад дзяўчыны, што я падабаюся ёй?.. Не пачую!..

— Не пачуеце, — сцвярджае Вольга Віктараўна.

У момант трагічнасць сходзіць з яго твара. Ён быстра ўскідае галаву.

— І напляваць! — кажа.

Такі борзды і неспадзяваны пераход ад трагічнасці да такой бесклапотнасці развясельвае настаўніцу і яна заліваецца вясёлым смехам.

— Лепшага ў вашым стане і не скажаш, — гаворыць яна, не перастаючы смяяцца. І нейкая новая думка адбіваецца ў яе выразлівых вачах.

— А скажыце, Андрэй Міхайлавіч, — змяніўшы тон, пытае Вольга Віктараўна, — ці любілі вы каго хоць раз?

Пры гэтым запытанні Лабановіч мімавольна апускае вочы, але борзда спраўляецца з замяшаннем і ў сваю чаргу пытае:

— А як вам здаецца?

Вольга Віктараўна ўглядаецца ў Лабановіча.

— Мне здаецца, што любілі і цяпер любіце.

— Каго? — зноў пытае Лабановіч.

— Ну, гэта ўжо вам лепей ведаць.

Лабановіч пераводзіць вочы кудысь у неазначанае месца і маўчыць.

— А вы мне ўсё-ж не адказалі на маё пытанне, — не адступаецца настаўніца.

— Калі хлопец пачынае расказваць дзяўчыне аб сваім каханні да другой дзяўчыны, то гэта значыць, што ён пераносіць сваё каханне на тую, якой расказвае.

На твары Вольгі Віктараўны прабягае нейкі парыў радасці.

— Праўда гэта? — пытае.

— Думаю, што праўда.

— Ну, але гэта тады, калі расказчыка не цягнуць за язык?

Лабановіч пamaўчаў.

— І гэта праўда.

Вольга Віктараўна апускае вочы ў сваю чаргу і сама задумваецца.

— І калі-б расказвала дзяўчына хлопцу аб сваім каханні да другога, то і тады-б была праўда?

— Праўда засталася-б праўдаю.

— І такі вывад робіце вы з уласнае практыкі? — дапытваецца настаўніца з хітраватаю ўсмешкай.

— Не, гэта толькі тэорыя, і яна, думаю, пацвярджаецца практыкаю.

— А што паслужыла прычынаю стварыць такую тэорыю?

— Жыццё. Маладое людское жыццё.

Вольга Віктараўна заліваецца смехам.

— Ах вы, псіхолаг-сэрцавед! — у гэтых словах яе чуваць скептыцызм.

Тады Лабановіч ёй кажа:

— У вас, Вольга Віктараўна, было такое здарэнне, калі адзін ваш знаёмы падзяліўся з вамі аб сваім каханні да другой, а вы пакахалі яго раней, чым ён расказаў вам гэта. І я не буду дапытвацца, было гэта ці не, бо я ведаю, што было.

Вольга Віктараўна прыходзіць у замяшанне і злёгку чырванее. Лабановіч робіць выгляд, што не зважае гэтага.

— Чорт ведае, што вы пляцеце! Годзі аб гэтым! — кажа яна, — не затым прышла я да вас, каб гаварыць аб каханні.

Яна, здаецца, узлавалася на сваю слабасць, бо ў яе ёсць нешта болей важнае.

— Ведаеце, калега, што я хацела вам сказаць?

— Не, не ведаю.

— Дык вось. Увайшла я ў адну рэвалюцыйную арганізацыю, маю там знаёмства. І вам беспрыменна трэба звязацца з ёю.

Лабановіч маўчыць, штось думае. Ён і сам ведае, што рана ці позна, а стаць шчыльней да якой-небудзь рэвалюцыйнай арганізацыі яму прыдзецца. Ён чуе, што трэба зрабіць нейкі новы крок у жыцці, крок важны і небяспечны. І цяпер якраз і надыходзіць гэты момант.

— Разумеецца, звязацца з арганізацыяй трэба, — нарэшце гаворыць ён.

— Беспрыменна трэба, — падхватвае Вольга Віктараўна: — усё, што ёсць здаровага, чэснага, павінна выступіць на змаганне з самадзяржаўем і весці яго арганізавана, бо рэальная сіла толькі і можа быць тады, калі будзе моцная арганізацыя і калі работа павядзецца па строга азначанаму плану. Арганізацыя паможа вам і літаратураю, і грашыма, і жывою сілаю. Арганізацыя падтрымае вас, за яе спіною вы будзеце чуць сябе цвярдзей і смялей. А цяпер якраз ідзе набіранне рэвалюцыйных сіл, гэтыя сілы растуць, набіраюць моцы, ідзе шырокая падрыхтоўка, і недалёка той час, калі выбухне рэвалюцыя. Захапляцца ў гэты час вайною, хныкаць над паражэннямі на вайне проста смяхотна. Чым болей гэтых паражэнняў, тым шырэй будзе расці нездаваленне, тым болей шансаў на рэвалюцыю, на яе перамогу.

— І вы верыце ў блізкую перамогу рэвалюцыі?

— Я ўпэўнена ў гэтым, — горача адказвае Вольга Віктараўна.

— Можа вы больш у курсе справы, калі ў вас ёсць такая глыбокая вера ў рэвалюцыю і ў яе перамогу. Я-ж,

прызнацца, не падзяляю цалкам гэтае веры, бо для мяне няясны дзве сілы ў дзяржаве, ад якіх і будзе залежаць усё: сялянства і войска. Мяне глыбока ўзрушыў адзін факт і закінуў сумненне ў маю душу. Летам давялося мне ехаць па Палескай чыгунцы. На адным невялічкім раз'ездзе я спыніўся, і мне прышлося застацца там дзён на два. Праходзіў царскі цягнік. На працягу ўсяе чыгункі стаяла ахова. Наўперадзе стаяў ланцуг войска, потым за ім цягнуўся шнур паліцэйскай аховы і трэці рад — ахова сялянская. Нікога і блізка не падпускалі да чыгункі. Запынілі ўсе іншыя цягнікі, царскіх цягнікоў было два. У адным з іх ехаў цар, але ў якім, ніхто не павінен быў гэтага ведаць. Уявіце-ж вы сабе, калі праходзіў царскі цягнік, то сяляне па свайму дабраволънаму пачыну высыпалі з вёсак і станавіліся на калені за гэтымі трыма лініямі аховы. І заўважце — такія выпадкі мелі месца не адзін раз і былі ў розных губернях.

— Андрэй Міхайлавіч! ці варта прыдаваць гэтаму значэнне? Пачнецца рэвалюцыя, і ўсё зменіцца раптоўна і стыхійна. І той, хто становіцца цяпер на калені перад царскім цягнікам, пойдзе тады з драколлем на самога цара. У часе рэвалюцыі настрой зменіцца борзда. А войска, вы думаеце, цалкам стаіць на баку цара?

— Гэтага я не ведаю.

— У тым-жа і штука, што вы многа чаго не ведаеце.

Панізіўшы голас, Вольга Віктараўна ціха дадае:

— Сярод войска вядзецца работа, і грунт для гэтае работы ёсць. Рэвалюцыя надыходзіць, і яна прыдзе так гучна і неспадзявана, што зямля задрыжыць і небу горача стане.

Лабановіч слухае і дзівіцца, як многа рэвалюцыйнага запалу ў гэтай смуглай дзяўчыны з астрыжаныміваласамі і як гараць яе вочы. Яму нялоўка перад ёю, бо дзесь там, на дне душы яго, шавеліцца нейкі страх і хістанне, чаго няма, як відаць, у яе.

— Так, — гаворыць ён, — ну, што-ж? У добры час!.. Дык вы, Вольга Віктараўна, дапамажэце мне, пазнаёмце мяне бліжэй з арганізацыяй, каб гэта можна было папасці на сход, сякія-такія знаёмствы завесці.

— З вялікаю ахвотаю! Я так і ведала, што вы гэта

зробіце, — гаворыць яна, і задаваленне адбіваецца на яе твары.

Позна вечарам Вольга Віктараўна ідзе ў сваю школу.

— Ну, я вас трохі правяду.

У той час, калі яны выбіраюцца ў дарогу, на выгане супроць акон кватэры настаўніка ціха прапаўзае цень і туліцца ў цёмных закутках, застаючыся непрыметным для іх.

Далёка за пераездам, каля самага сяла, настаўнік спыняецца.

— Ну, Вольга Віктараўна, цяпер вы, можна сказаць, і дома. Бывайце здаровы.

— Андрэй Міхайлавіч! а вы начуйце ў мяне. Чаго вам трапацца так позна?

— Не так ужо і позна. Пакі вы нарыхтуецеся класціся спаць, я буду дома.

— А чаму вы не хочаце начаваць?

— Я люблю хадзіць поначы — гэта раз.

— І баіцеся плётак — гэта два.

— Ну, няхай будзе два, — згаджаецца Лабановіч.

— Ну, як знаеце... Яно можа і праўда, што не варта даваць страву для плётак. Толькі-ж мне шкада, што вы будзеце з-за мяне трапацца яшчэ цэлую гадзіну.

— Э, Вольга Віктараўна! Усёроўна трапацца прыдзецца. Дык лепш пачынаць патроху цяпер.

Яны развіталіся.

Толькі цяпер, калі Лабановіч апынуўся адзін на грэблі, ён адчувае ўсю глыбіню, глуш і затоеную ціш асенняй ночы. Нізка да зямлі туляцца чорныя постаці кустоў побач грэблі. Іх контуры сцяты гэтым густым мрокам, і яны выглядаюць, як нейкія дзіўныя купіны. А далей нічога не відаць. Зямля завешана чорным-чорным полагам. На небе ні зорачкі. Сівыя хмары навісаюць нізка-нізка і яшчэ больш павялічваюць гэтую цемнату. Відаць, збіраецца дождж.

На пераездзе Лабановіч запыняецца. Чуваць далёкае грукатанне цягніка. Лабановічу робіцца весялей, і гэты грукат паказваецца яму блізкім і слаўным. Далёка-далёка выплываюць з мроку два агеньчыкі, як вочы добрага прыяцеля. Здаецца, яны стаяць на адным месцы, не

рухаюцца, але жалезныя колы ўсё выразней спяваюць сваю аднастайную песню-тухканне.

Гэтыя два агеньчыкі і гэтае тухканне ажыўляюць начную пустэлю, мімаволі напрошваецца на параўнанне з тым невядомым новым, прыход якога адчуваюць ужо чуткія вушы гэтых загнаных у цёмныя норы людзей.

## XXVII

З крутой звіліны сяла Высокага, дзе Піна падаецца ў бок зарэчных балот, вельмі добра відаць поўднёвая часць Пінска. Велізарны белы манастыр, збудаваны езуітамі ў шаснаццатым веку, і манастырскі будынак, дзе даўней жылі манахі, а цяпер змяшчаецца духоўнае вучылішча, як волаты, узнімаюцца над роўняддзю балот, становячы самы крайні поўднёвы рог Пінска.

Зацятаю грознасцю і панураю суровасцю вее ад гэтых старасвецкіх муроў, а сам манастыр мае выгляд непадкупнага вартаўніка на варце аджытых рэлігійных традыцый старасветчыны. Як непарушная скала над морам, стаіць над балотамі гэты маўклівы волат, аглядаючы неасяжныя разлогі Пінскага Палесся на далёкія дзесяткі вёрст. Халодная строгасць яго стылю і гордая моц узняцця ўгару робяць дужа вялікае ўражанне і прыкоўваюць да сябе ўвагу, кідаючыся ўсім у вочы. У ясныя вясеннія або летнія раніцы ці вечары, калі паветра, напоенае вільгаццю, бывае асабліва чыстым і празрыстым, гэты волат-манастыр выступае яшчэ больш пуката і выразна ў сваіх магутных абрысах. Тады ён здаецца зусім блізкім, хоць да яго адгэтуль будзе вёрст пяць. Яго парталы, як крыллі біблейнага ангела, паважна разгортваюцца на фоне ружова-яснага неба, і тады нельга на яго не заглядзецца.

Кожны раз, калі Лабановіч ідзе з воласці па-над Пінаю, яму кідаецца ў вочы гэты манастыр, і нейкае дзіўнае ўражанне робіць ён на настаўніка, будзячы ў памяці падзеі гістарычнага мінулага, змаганне двух веравызнанняў, з якіх ніводнае не зрабіла людзей шчаслівымі. Многа прайшло часу, многа людскіх пакаленняў

сышло з арэны жыцця, а гэтая махіна стаіць і стаіць, і доўга яшчэ будзе стаяць, каб быць сведкаю новага змагання за новы парадак жыцця, дзе на першым плане будуць стаяць рэальныя інтарэсы зямлі.

Лабановіч не спускае з памяці сваю апошнюю гутарку з Вольгаю Віктараўнаю. Яны ўмовіліся спаткацца вечарам у суботу каля гэтага манастыра на прыстані. Тут-жа недалёка ёсць патайнае месца, дзе зрэдку адбываецца патаемны сход. Вось гэты сход і займае цяпер мыслі настаўніка.

Сказаць праўду, яму трохі страшна. Страшна гэтага новага павароту ў жыцці, бо ён немінуча павінен пайсці па дарозе, дзе так многа небяспекі, дзе на кожным кроку цябе можа чакаць ліхая прыгода. У яго ўяўленні рысуюцца арышты, астрогі, ссылка. З таго часу, як пачаў ён весці сваю патайную работу, ён адчувае нейкі непакой і трывогу. Калі яму здаралася бачыць тут якога-небудзь паліцэйскага чына, то мімаволі думалася, ці не па яго справе з'яўляецца гэты прадстаўнік улады. Нервы яго ўвесь час былі троху ўзняты, і ён стаў падазрэнным і асцярожным, асабліва калі да яго пачалі даходзіць сякія-такія чуткі аб яго паводзінах. Але патрошку ён прывык да мыслі, што ён можа папасціся, што яго заарыштуюць, і перастаў гэтага баяцца. Наадварот, яму часамі арышт здаваўся прынадным, непазбаўленым своеасаблівай прыемнасці. Чаму-ж і не пацярпець за праўду? Чаму не спрабаваць лёсу «крамольніка»? Чаму не зазнаць астрожнага жыцця? Астрог таксама ёсць школа, дзе жыццё пазнаецца больш глыбока і востра. Апроч усяго гэтага, тут ёсць і пэўная рызыка, ёсць асалода змагання. Ты ведаеш, што калі ўсё выкрыецца, цябе будуць лавіць, будуць судзіць, што за кожным тваім крокам сочаць, але ты таксама можаш не паддавацца, выкручвацца, весці сапраўднае змаганне за сваё права жыць на волі.

Займае думкі яго і гэтае спатканне з людзьмі, да гэтага часу яму невядомымі. Ён толькі чытаў аб іх, чуў здалёк і пераважна з вуснаў таго, хто іх ненавідзеў, лічыў самымі вялікімі злачынцамі на свеце. Ён адчувае глыбокую павагу да іх, нават некаторы страх. Хто такія

яны, гэтыя людзі? Чым яны жывуць? Аб чым думаюць? У яго выбражэнні гэтыя людзі ўсе — героі, на якіх можна пазіраць толькі з вялікаю пашанаю.

У суботу надвячоркам, закончыўшы работу ў школе, ён збіраецца ў дарогу, прыхаваўшы ў патайнае месца ўсё, што магло-б яго высведчыць у выпадку якога-небудзь непажаданага здарэння, замыкае кватэру на ключ і ідзе выганам на дарогу. Асенні мрок насоўваецца борзда, звужваючы паземы і націскаючы на гэтыя занямелыя далі. У сялянскіх дварах снуюць людзі, пыняць свае гаспадарскія справы, канчаючы клопат кароткага дня.

Лабановіч мінае выганы, выходзіць у поле. Тут прастарней і як-бы вальней трохі, прынамсі нікога не відаць, бо Лабановічу не хацелася-б цяпер спаткаць каго-небудзь знаёмага, уступаць у гутаркі, выдумляць прычыны свайго позняга вандроўніцтва ў Пінск, хоць гэтых прычын можна лёгка прыдумаць не адзін дзесятак. Але па дарозе ціха і бязлюдна. Праходзіць і Альбрэхтова, дзе раскінуўся велізарны маёнтак пана Скірмунта, дзе маюцца яго фабрыкі — сукнавальная, гісэрня, бровар і яшчэ нешта. Каля маёнтка на полі, як копы сена, параскідаліся досыць высокія капцы, дзе закапана бульба на гарэлку. Недалёка ад дарогі пачынаецца велізарная клуня, крытая чаротам. Клуня цягнецца ад дарогі да самае Піны — сажон дзвесце напэўна яе даўжыня. За Альбрэхтовым, ужо каля самага горада, відаць Лешча, дзе ёсць цэркаўка і папоўская паседа. Ужо цёмна, але высачэзныя вязы і ліпы яшчэ вырысоўваюцца сваімі шырокімі вярхамі на шэрым небе.

Мінуўшы арыштны дом, прычым Лабановіч падарыў яго вельмі ўважлівым поглядам, ён ступіў на тэрыторыю Пінска і пайшоў па брукаванай Купецкай вуліцы. На вуліцы было досыць пуста і глуха. Калі-ні-калі затухкаюць па каменнаму мосціку ногі, скрыпнуць веснічкі, і зноў усё заспакойваецца, як-бы скоўваецца гэтым цёмным мрокам. Прайшоўшы некалькі вуліц і завулкаў, Лабановіч накіроўваецца на прыстань, абмінаючы болей жывыя і шумлівыя вуліцы. Па дарозе папалася яму некалькі будак, пунктаў паліцэйскай варты, каля якіх звы-

чайна стаялі або тупалі гарадавыя ў цыратовых плашчах.

«Што рабіў-бы ты, брат, каб ты ведаў, куды я іду?» — думаў Лабановіч, мінаючы сонных, марудлівых, прывычных да свае варты гарадавых. «Напэўна заварушыўся-б шпарчэй», — і чуць прыметная ўсмешка прабягае па яго губах.

Не даходзячы да цэнтра горада, Лабановіч ідзе глухім завулкам у бок прыстані. Прыглядаецца да тых фігур, што абганяюць яго. Мяркуе, ці не шпік гэта часамі, бо яму здаецца, што гэтыя людзі-сабакі чуюць нюхам яго крамольныя замахі. На прыстані ізноў адчуваецца вальней і прастарней.

А прыстань шырокая, доўгая, роўная, прасторная, акуратна вылажана гладкімі каменнымі плітамі і асфальтам, абсаджана двума радамі каштанаў. Таксама ў два рады пастаўлены тут лаўкі на роўнай адлегласці адна ад другой, каб было дзе пасядзець у добрае надвор'е людзям, калі прытомяцца шпацыруючы. Прыстань моцна сціскае левы бераг глыбокай і спакойнай Піны. Яе халодныя сталёвыя струмені ціха ўсхліпваюць, б'ючыся аб гладкі каменны бераг, і штосьць гутараць прыцішаным голасам з чаротамі, што на другім баку злёгку пакалыхваюць параходы і параходзікі, дубы і чайкі, што густа збіліся на ўсім працягу прыстані.

Павольна пасоўваецца Лабановіч у бок манастыра. Пануры і страшны цяпер гэты манастыр, атулены мрокам і мглою асенняга вечара. Яго сярэдзіна сям-там выступае з цемрадзі белымі плямамі, дзе падае святло ад вокан і ліхтароў, а парталы і вежы расплываюцца ў мроку.

Вольга Віктараўна трохі спазнілася.

З ёю быў незнаёмы высокі хлопец.

— Пазнаёмцеся, — кажа яна.

Лабановіч і незнаёмы хлопец моўчкі павіталіся.

— Вы даўно тут? — пытае калегу Вольга Віктараўна. Лабановічу здалося, што яна стараецца гаварыць ціха. Мусібыць гэта патрабуецца асцярогаю.

— Ды ўжо з поўгадзіны тупаю тут.

Ён хоча прыдаць вясёласць свайму голасу.

— А вы не замаркоціліся без мяне? — таксама весела гаворыць і Вольга Віктараўна.

— Ой, як замаркоціўся! хацеў ужо кідацца ў Піну, але пабаяўся, што будзе холадна.

Яна ціха шэпча на вуха яму:

— Мялеце ўсякую чапуху. Чым больш чапухі, тым лепей. Пачалі вы надта добра.

Іх абганяе чыясь постаць. Можа гэта быў так сабе чалавек, а можа і шпік. Хвілінак праз дзве зноў праслізнула чыясь фігура. Лабановічу здалося, што тая-ж самая, што іх абганяла.

— Пойдзем, гаспада, падзакусім у рэстаран! — громка гаворыць незнаёмы Лабановічу хлопец. Накіроўваюцца на людную вуліцу, дзе светла і шумна, і праходзяць адзін квартал, незнаёмы хлопец крута верне ў завулак. Ідуць доўга, мінаюць вуліцы і завулкі і выходзяць да манастыра з другога боку. Незнаёмы хлопец запыняецца, прапускае наперад Вольгу Віктараўну і кажа:

— Заходзьце!

Лабановіч з настаўніцаю ўваходзяць у дворык, дзе лепіцца некалькі заняпалых старасвецкіх хатак, заходзяць збоку і спыняюцца на ганачку. Вольга Віктараўна стукае.

— Хто? — пытае адтуль голас.

— Ад Барыса, — адказвае Вольга Віктараўна.

Дзверы адчыняюцца, заходзяць у пакойчык даволі прасторны, але абсталяваны бедна. Збітая, аблупленая канапка, голыя сцены, калі не лічыць гітары на адной з іх, некалькі крэсел, невялічкі столік, на каторым цьмяна гарэла просценькая лямпа, — вось і ўся абстаноўка.

Тут сядзела трое асоб.

Лабановіч следам за Вольгаю Віктараўнаю па чарзе павітаўся з імі, прычым ніхто сваіх прозвішчаў не называў. Толькі Вольга Віктараўна называла незнаёмых дзецюкоў па імёнах: тав. Глеб, Саламон, тав. Грыша. Усе яны былі яшчэ маладыя дзецюкі, і вызначыць іх прафесію было трудна — напэўна рабочыя. Самы сталы з іх быў Глеб, і аблічча яго выкрывала ў ім найбольш інтэлігентнага чалавека на гэтым сходзе. Ён быў у пенснэ. Меў невялічкую рыжаваценькую бародку, акуратна падстры-

жаную, і трымаў сябе найбольш незалежна і спакойна. Па ўсім відаць было, што ён — найбольш аўтарытэтная тут асоба.

Лабановіч абегла акінуў поглядам пакойчык з яго ўбогаю абстаноўкаю і запыніў усю сваю ўвагу на гэтых маладых, зусім незнаёмых яму хлопцах.

Прадстаўленне аб рэчаіснасці і сама рэчаіснасць — розныя рэчы. Вобраз «крамольнікаў»-рэвалюцыянераў зусім не так рысаваўся Лабановічу, як ён убачыў іх тут: перад ім былі звычайныя людзі, без рамантыкі і дэманізму, на від хірлявыя і слабыя, адзетыя яшчэ бядней, чым ён сам. Яму паказалася, што яго новыя знаёмыя чымся занепакоены... Няўжо яны баяцца? Было неяк нялоўка, цесна і як-бы душна і наогул непрыемна і залішне ўрачыста. Грыша падыходзіць да Глеба, аб чымся гутараць. Саламон падсядае да Лабановіча.

— Вам, таварыш, першы раз прыходзіцца быць на такіх сходах?

— Першы раз, — адказвае настаўнік.

— А вы ўжо многа займаецеся настаўніцкаю практыкаю.

— Трэці год.

— Ну, а скажыце, як настроена сялянства?

— Розныя ў іх бываюць настроі. Даць такую агульную характарыстыку іх досыць трудна.

Праз колькі хвілін з другога ходу паказваецца высокі малады хлопец, той самы, што вёў іх сюды. І ён пашаптаўся з Глебам.

Лабановіч тым часам крыху асвойтаўся з гэтаю незвычайнаю для яго абстаноўкаю і з цікавасцю прыглядаецца да гэтых новых для яго людзей, чакае, што будзе далей.

— Таварышы! — гаворыць Глеб. Голас яго звонкі, вочы вясёлыя і смелыя. Ён папраўляе па прывычцы пенснэ і кажа далей:

— Нам, думаю, цікава будзе пачуць невялікую інфармацыю з месца ад нашага новага таварыша.

Гэтыя словы адрасаваліся да Лабановіча. Пры гэтым ён адчуў тое самае, што адчувае вучань, калі яго неча-

кана выкліча настаўнік здаваць лекцыю, не зусім добра падрыхтаваную.

Чатыры пары вачэй падымаюцца на Лабановіча. Ён прыходзіць у некаторае замяшанне, але яго выручае Вольга Віктараўна. Яе жаночы такт выводзіць суседа з досыць непрыемнага для яго стану.

— Я думаю, — гаворыць яна, — майму калегу цікава было-б наўперад увайсці ў курс справы. Ці не лепей было-б, каб т. Глеб сам зрабіў інфармацыю другога парадку.

— Наш сённешні час, на жаль, абмежаваны, і гэта зрабіць цяпер якраз не выпадае. Нам трэба прыняць інструкцыі на момант дня, ну, на бліжэйшыя дні, — адказвае Глеб, а потым ён як-бы эканомячы час, стаў гаворыць сам.

— Нам вядома ваша работа, і я з прыемнасцю вітаю вас, таварыш, як нашага аднадумца, хоць афіцыяльна вы ў нас не лічыцеся.

У далейшым Глеб крануў трохі тую рэвалюцыйную дзейнасць, якую трэба выпаўняць цяпер, пахваліў Лабановіча і зрабіў высокую ацэнку яго работы. Гэта надало яму смеласці, і ён папрасіў слова, каб выказаць свой погляд на праграму далейшай работы.

Яго прамова была наўперад крыху блытаная, словы неяк не слухалі яго, і язык варочаўся не так, як належыць. Але потым ён паправіўся і нават ажывіўся, калі выказаў свой погляд на пашырэнне прапаганды сярод сялян праз вясковых настаўнікаў.

— Як мне думаецца, да гэтага часу вельмі мала звaрачаецца ўвагі на нашага брата з боку рэвалюцыйных арганізацый. А між тым вясковы настаўнік — адзіны чалавек сярод сялянства, што мог-бы весці «работу». А для гэтага трэба толькі разварушыць яго, згуртаваць у свае настаўніцкія арганізацыі параскіданых па трушчобах настаўнікаў. Тады толькі можна падрыхтаваць у належнай ступені народ да рэвалюцыі.

Яго погляд знаходзіць тут спачуванне, што надта ўзнімае яго дух. І Вольга Віктараўна радуецца за яго, бо гэта-ж яе кандыдат.

На развітанні яму даюць лісткі і брашуркі, адрасы кватэр і запрашаюць надалей трымаць з імі сувязь.

Вольга Віктараўна застаецца начаваць у сваіх знаёмых, а Лабановіч, шчодра наладаваны нелегальнаю літаратураю, пляцецца па апусцелых вуліцах і завулках, баязліва прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да гэтай зацятай цішыні, і калі мінае раён горада, то адчувае вялікую палёгку і ўздыхае вальней.

## XXVIII

Ясна відаць, што Іван Пракопавіч, казённы ляснічы, не ў гуморы. Не гадзіну, не дзень, нават і не тыдзень, а праз цэлыя месяцы хмурыцца яго крутая лабаціна, сярдзіта звісаюць доўгія вусы, а з быстрых вачэй іскры сыплюцца. Нават лаянка яго, звычайна прыяцельская, прыязная, вясёлая, цяпер звініць сапраўднаю злосцю, рассыпаецца круглымі, ядранымі словамі пад парасонамі высозных вязаў і ліп, што стаяць у яго парку.

Хоць ужо і холадна, але Лабановіч сумысля адчыняе фортку ў акне процiў парку казённага ляснічага, каб пачуць гэтую лаянку. Гэта нават і не лаянка, а дыскусія Івана Пракопавіча на соцыяльна-палітычныя тэмы. I тут не важна, ці пярэчыць яму хто ці не — важна толькі сама зачэпка для такой дыскусіі, бо ў ляснічага накіпела на сэрцы за гэтыя часы, і яму трэба выліць сваё абурлівае нездаваленне, накіраванае на няздольнасць вялікіх і малых чыноўнікаў, на гэтае нікчэмства, што пачынае дамагацца нейкіх сваіх правоў, выпаўзае, як гад з нары, на віднае месца. Ён не можа пагадзіцца з гэтым няшчасным фактам, што на Русі перавяліся «багатыры», або волаты, што няма каму ратаваць яе. Таксама не важна, як хто слухае яго, згаджаецца з ім ці не — яму проста трэба чалавек, сведка яго абурэння. А калі гэты сведка, які-небудзь паляшук з Выганаў ці з Высокага, ці хто іншы, нават з інтэлігенцыі, часамі, не дачакаўшы канца, памаленьку схаваецца, проста збяжыць, то ён яшчэ сакоча некаторы час. А калі заўважыць, што яго слухачы — вязы і ліпы, тады ён азірнецца быстра, як патрывожаны арол.

Часамі ён на гэтым і канчае. Усё залежыць ад таго, у якой меры выліта яго абурэнне. Калі-ж абурэнне яго надта вялікае, то ён ідзе шукаць жывога сведку-слухача, каб скончыць сваю дыскусію. Спружыніста зрываецца з месца, рашуча ідзе да плятня ў бок школы. Там ёсць пералаз. Іван Пракопавіч задзірае полы чорнага яраслаўскага кажуха, дынамічна закідае перш адну, потым другую нагу — гоп! — і ён на тэрыторыі школьнага агароду.

На сярэдзіне школьнага агароду ён трохі затрымліваецца — куды накіравацца. Ізноў такі далейшыя павадзіны яго залежаць ад ступені яго абурэння. Часамі ён мінае школу і ідзе далей, бо настаўнік заняты, хоць з ім пагаварыць яму найзручней. Па-першае, ён слухаць умее, уставіць слова, рэпліку падасць, ну, словам, дапамагае выказацца да дна; па-другое, ён такі чалавек, з якім прыемна было пагаманіць аб вайне: абодва яны былі ў курсе ваенных спраў, абодва мелі на канец вайны аднакія погляды, хоць яны тут здорава падашукаліся; па-трэцяе, настаўнік такі чалавек, з якога можа толк быць, калі яго належным парадкам накіраваць у патрэбны пункт. І ляснічы шмат папацеў, даючы суседу належны кірунак: засылаў яму «Новое время», Розанава, Лютастанскага, а з прыгожага пісьменства — Мельнікава-Пячэрскага, якога ляснічы ставіў на самае першае месца сярод рускіх пісьменнікаў, бо яго раманы «На горах» і «В лесах» на яго думку не маюць роўных сабе.

Абурэнне-ж Івана Пракопавіча на гэты раз такое вялікае, што ён ідзе ў школу. Наўперад заходзіць у кухню.

— Здарова, Ганна! — як з пісталета выпальвае Іван Пракопавіч словы прывітання.

— Здаровенькі булы! — кланяецца Ганна.

— Ну, як жывуць твае байструкі?

Ганна штось адказвае, але ён не слухае. Карыстаецца выпадкам, каб выліць часць свае злосці.

— Ну, не сукін гэта сын? Гэта чалавек? Гэта бацька? Хоць-бы капейку прыслаў на сына, прахвост! Ну, ён вырасце... — і паказвае пальцам на малога Кірылу. — Што-ж з яго будзе? Куды прыткнецца? Красці пойдзе або возьме новую моду: у рэвалюцыю пойдзе! Цяпер-жа

вот такія смаркачы, — палец лясніцага накіроўваецца на Юсту, — пачынаюць бунтавацца, вучыцца не хочуць, супроць дырэктара выступаюць... Больш іх розгамі дзяры! Не шкадуй дубцоў! Не дасі лазы, калі лаза па іх плача, сама ад іх плакаць будзеш!

Выпусціўшы такім парадкам частку пары свае злосці, лясніцы заходзіць у кватэру настаўніка. Покі не прыдзе на пераменку настаўнік, Іван Пракопавіч, як тыгра ў клетцы, ходзіць па пакойчыку, пазірае ўніз, залажыўшы рукі за спіну. Увесь час на яго твары адбіваюцца розныя эмоцыі — то яхідны смех, то злосць, то іронія, то сарказм. Сяды-тады з яго губ зрываецца кароткае бурчанне. Але як толькі ён згледзіць настаўніка, усе гэтыя эмоцыі раптам прападаюць, твар яго прыходзіць на кароткі момант у свой звычайны стан, на такі толькі час, каб павітацца з настаўнікам.

— Ну, што? — пытае Іван Пракопавіч, — школа ваша яшчэ не бастуе?

— А чаго ёй баставаць?

— А як-жа? Пайшлі забастоўкі сярод дзяцей. У Пінску, унь, рэальнае вучылішча забаставала — давай ім свабоду! Прыгатавішкі мітынгаваць пайшлі. «Далоў, — кажуць, — дырэктара і настаўнікаў!» Ходзяць і папяросы кураць... Ну, што вы скажаце?

Пасля кароценькай паузы, набраўшы духу і раптам змяніўшы твар, Іван Пракопавіч панёсся, як спуджаны конь, крышачы і калечачы ўсё на сваёй дарозе.

— А нашы гэтыя пянцюхі, адміністрацыя, начальства гэтае, з пазвалення сказаць, і губы адвесіла!..

Лясніцы таксама адвешвае губу, каб наглядна паказаць, які выгляд мае перапалоханае начальства.

Лабановіч не можа захаваць сур'ёзнасці і закочваецца смехам.

— Чаго вы смяецеся?

— Ну, вельмі-ж «карцінна» расказваеце, Іван Пракопавіч, — не перастаючы смяяцца, адказвае Лабановіч.

— Дык праўда-ж гэта! Галовы пагублялі! Стаіць збоку, адна калоша поўная, а другая, як завязаць. А гэты наш... паліцмейстар!.. Жаба разлезлая! Ліберал!.. Вы ведаеце? Пракламацый яму ў кішэню бахурчыкі на-

пхалі! I гэта — павятовы начальнік паліцыі! Сорам! Гнаць такіх у тры шыі, каб паветра не псавалі! Над бочкамі начальнікам паставіць!.. Тфу!.. Дубовыя галовы!

Іван Пракопавіч ледзь з скуры не вылазіць. І ўсё ў ім гаворыць: язык, губы, нос, бровы і лоб, вочы і вушы, рукі і ногі, як-бы ў нейкім дзікім вар'яцтве. Яго слухач не вытрымлівае і пачынае зноў смяяцца. Сярдзіта глядзіць на яго ляснічы.

— Ды тут і смешнага нічога няма, — кідае настаўніку.

— Ну, як-жа не смешна, Іван Пракопавіч: такая шышка паліцмейстар і раптам — начальнік над бочкамі!

— Сволачы, скажу вам! Скуры прадажныя! У той час, калі дзяржаве патрэбны цвёрдыя людзі, іх тады няма, яны ссыхаюць, нікнуць, туляюцца, прыкідваюцца, што нічога няма і нічога яны не бачаць. Хіба можна дапусціць, каб нейкая няшчасная саплівасць асмелілася дамагацца нейкіх там свабод, гаварыць пра абмежаванне ўлады манарха?

— Нічога не зробіш, Іван Пракопавіч: стыхійна выліваецца абурэнне заціснутага...

— Ерунда! — грыміць ляснічы, — якая стыхійнасць? Якое абурэнне? Хто заціснуты? У нас у Расіі большая свабода, чым у любой канстытуцыйнай ці рэспубліканскай дзяржаве. Вы акалпачаны прадажным жыдоўскім друкам. Хіба вы гэтага не ведаеце? Рускаму чалавеку цяпер не можна слова сказаць, яму заціскаюць рот, высмейваюць, рэтраградам называюць. Увесь друк у жыдоўскіх руках, ім трэба разбурыць праваслаўную царскую Русь, а рускіх людзей парабіць шабасгоямі.

Скіраваўшы гутарку ў гэты бок, Іван Пракопавіч разліваецца бясконцым патокам слоў. Пярэчыць яму — усёроўна, што ў сцяну гарохам страляць: ніякіх аргументаў ён знаць не знае і не слухае, наадварот, гэта толькі — падліванне масла ў агонь. Лабановіч цярпліва выслухоўвае ляснічага, хоць там дзеці дурэюць, як школы не развернуць.

Замкнуўшы круг сваіх аргументаў і выліўшы злосць на «жыдоў», у чыіх руках уся прэса, Іван Пракопавіч ізноў навальваецца на паліцмейстра. Ніяк яго забыць не можа.

— І гэтая аблезлая жаба, рапуха, гаворыць мне ўчора: «А вы там, Іван Пракопавіч, агітацыю вядзеце сярод сялян!» Гэта я вяду агітацыю? Ну, ці чулі вы?

— Ну, гэта ён толькі напэўна жартаваў, — заступаецца за паліцмейстра настаўнік.

— Ды хоць-бы і жартаваў! Як ён асмельваецца сказаць мне гэта публічна? Думаў даць у зубы, ды скандалу не хацеў рабіць. А варта было-б.

Ляснічы трохі супакойваецца. Відаць, яму стала цяпер лягчэй, бо ён сказаў усё, што наймацней карцела яму.

— Ну, выбачайце, — нарэшце гаворыць ён, — у вас там гэтыя шмокі шыі ломяць, а я вас затрымліваю.

Ляснічы падае руку і выходзіць, а настаўнік яшчэ доўга пасмейваецца, калі ўспомніць, што паліцмейстар абвінавацїў ляснічага ў агітацыі сярод сялян.

«Калі што, ляснічы закіне за мяне слова», — кажа сам сабе.

І не адзін Іван Пракопавіч выбіты цяпер з каляіны: дыханне рэвалюцыі і яе грозны размах адчуваецца ўсімі. Кожны-ж новы дзень прыносіць весткі, што рэвалюцыя расце і ўшыр і ўглыб. І важней за ўсё — бунты ў войсках і сялянскі рух.

Дзяк Бацяноўскі ходзіць ды прыслухоўваецца, але сам гаворыць мала. Ён толькі трасе галавою ды ўздыхае.

— Охо-хо! Да чаго дажыліся!

Часамі, сустрэўшы каго-небудзь з заняпалых гаспадароў, ён усміхаецца і пытае:

— Можа вам ужо і поп з дзяком не патрэбны?

А. Мікалай — чалавек дыпламатычны. Ён асцярожненька і ў заўтрашні дзень зазірае, а калі сустрэне чалавека, чыё спачуванне на баку рэвалюцыі, то ціхенька пашэпча з ім.

— Хочуць адабраць зямлю ад духоўных! Няхай бяруць! Няхай мне назначаць пенсію. Нашто мне зямля? Адзін толькі клопат і згрызоты з ёю, а карысці няма. А мужыку зямля патрэбна. Дык нашто гэтая лішняя зачапка для непрыязні? Вось вы глядзіце, — а. Мікалай паказвае рукі, — сам працую, мазалі панаціраў на гэтай зямлі... Няхай бяруць яе! Маюць рацыю.

Хітры чалавек а. Мікалай: дагаджае і богу і мамоне.

Найбольшы водгук на падзеі рэвалюцыі можна пачуць у валасці. Захар Лемеш рэвалюцыі не спачувае. Ён абураны ёю. У галаве яго не месціцца, як гэта можна пайсці супроць начальства? І дзе гэта бачылі, каб людзі маглі жыць без начальства?

— Добра! ну, вось, скажам, перасталі слухаць у валасці старшыню. Падатку не плацяць, нядоімак не нясуць і новабранцаў не даюць. Дык што-ж бы тады было? Рунда!

Глянуць на справу больш глыбока старшыня ніяк не можа. Ён толькі чуе, што добра ад рэвалюцыі яму не будзе. Вось пісар — той, падла, разбіраецца. І пагутарыць прыемна з ім, бо пісар у руку старшыні гаворыць.

— Ну, як ты глядзіш, пісар: паскідаюць нас, брат, з табою, — пачынае старшыня. Праўда, ён не верыць, што іх паскідаюць, але яму хочацца, каб пісар выказаў свой погляд на гэта.

Пісар насоўвае густыя бровы, вочы яго грозныя-грозныя, наскрозь, здаецца, праб'юць усякага, хто асмеліўся-б крануць іх.

— Хто скіне нас? — пытае пісар.

— Ну хто-ж? Забастоўшчыкі, дэмакраты!

— А халодная нашто? А нашто казакі? Прыслалі-ж у Пінск сотню казакаў. Так, брат, усыплюць, што тыдзень сваім крэслам не сядуць. Няхай толькі заварушыцца хто!

Старшыня ад задаволення ўсміхаецца.

— Казакі — народ спрытны. Майстры залівання даць, — згаджаецца ён.

А пісар прыходзіць у абурэнне.

— Ды я сам вазьму нож і пайду рэзаць гэтых дэмакратаў. Рэзаць буду направа і налева! Дай толькі мне нож.

Пісар сашчэмлівае зубы і згортвае кулакі, а твар старшыні свеціцца ад радасці.

— Герой наш пісар, яй-богу герой.

Пазіцыя старасты Бабіча не такая выразная, бо ён наогул больш маўчыць і слухае. Але заставацца зусім у цені ён лічыць нязручным, і калі яму прыходзіцца быць у кампаніі асоб афіцыяльных, то ён у некаторых момантах гутаркі трасе галавою, часамі з сур'ёзнасцю на твары,

а часамі аздобіўшы яго смехам, у залежнасці ад абставін. Наогул-жа стараста Бабіч і па службоваму і па соцыяльнаму свайму стану ёсць як-бы нейкая прамежная планета, што адчувае на сабе ўплыў суседніх планет.

На зборні гутаркі вядуцца трохі іншыя.

Заядлымі палітыкамі з'яўляюцца дзед Піліп і фурман Аўмень. Ізноў-жа такі і тут першая роля належыць Аўменю. Кожны раз, асабліва калі прыедзе з Пінску, Аўмень уражае сваіх слухачоў якою-небудзь неспадзяванаю навіною.

— Ну, скора будзе канец трыбухачам!

Пад «трыбухачамі» Аўмень разумее ўсіх паноў і шышак. Паясняць гэта сваёй аудыторыі не трэба — усе ведаюць, хто такія трыбухачы.

Дзед Піліп утаропліваe ў Аўменя свае пранізлівыя вочы. І вочы яго і нос, непамерна доўгі і чырвоны, пабіты на дзірачкі, як акораная чачоткавая бяроза, і ўся постаць дзеда Піліпа ператвараецца ў знак запытання.

— Ну? — дзівіцца ён.

— Канчаецца іх панаванне. Губернатары і тыя хвасты пападціскалі. Свабода, брат, пайшла! Каюк міністрам!

— І міністраў не будзе?..

— Усё будзе скасавана!

— Каму-ж тады падаткі плаціцьмем?

— І падаткаў не будзе. Самі будуць на сябе працаваць.

— А як-жа начальства? — пытаюць Аўменя.

— Начальства застаецца без падначальных, ніхто яго слухаць не хоча цяпер.

— Няўжо-ж такі начальства не будзе?

— Будзе, але другое. Тое начальства назначалася, а гэта выбірацца будзе.

— І земскага будуць выбіраць?

— Калі трэба будзе, то выберуць. Але іх не любяць нешта. Ці захоча хто і земскім быць?

— Чаму не захоча! — гаворыць дзед Піліп, — у начальства, нябось, кожны папрэцца... Ха! — ускідвае ён рукамі, — вось, ядры тваю качку, якія часы находзяць!

Калі на гэты час разважання праходзіць пісар або старшыня, то гутарка абрываецца, бо такіх размоў начальства не любіць.

## XXIX

Прыходзіць у школу Аксён Каль.

У руках у яго скрутак, загорнуты газетаю. І выгляд аксёнаў радасны і светлы. Такі выгляд бывае ў таго, хто доўга чагось шукае, не гледзячы ні на якія перашкоды і на безнадзейнасць, здавалася-б, гэтага шукання, і ўрэшце знаходзіць.

Ён разгортвае скрутак і паказвае настаўніку план. На плане зняты сялянскія землі і сумежныя ўладанні пана Скірмунта.

— Гэта такая праўда і справядлівасць на свеце!..

Аксёнавы вочы запальваюцца агнём помсты.

— Вы бачыце, каму належаць затокі па плану і хто імі карыстаецца?

Злошчасныя затокі, з-за якіх Аксён Каль так многа судзіўся, хадзіў, дабіваўся законнага права на іх, на плане значыліся на сялянскіх землях.

— Прывесці яго сюды, тыцкнуць носам у план, а потым утапіць прахвоста ў гэтых затоках!

— Нічога, Аксён: будзе свята і на нашай вуліцы. Надыходзіць час расплаты за здзекі над народам. Дымам і агнём паляцяць у неба панскія палацы, і ўжо ляцець пачалі.

— Спаліць! спаліць і зруйнаваць іх, а котлішчы пазаворваць.

З аднаго і з другога боку абурэнне было вялікае. Нарэшце Каль пераходзіць на практычны грунт, каб вырашыць пытанне, як і што рабіць далей.

— А сяляне ведаюць пра гэты план? — пытае настаўнік.

— Заўтра будуць ведаць усе.

— Збірайце тады сход. Вырашым сходам. Выступаць трэба згодна і ўсім разам.

На трэці дзень сабраўся сход.

Ніколі не бачылі школьныя сцены такога многалюд-

нага, бурлівага, неспакойнага сходу. Вякамі збіраная і тоеная крыўда, несправядлівасць і прыніжэнне цяпер усплываюць са дна сялянскай душы і злучаюць увесь натоўп у нешта адно злітнацэлае, многагаловае, многарукае, зніταванае адным жаданнем, адною воляю. Гэта той стан выяўлення людской псіхікі, калі людзі-адзінкі расплываюцца, каб зліцца ў чалавеку-натоўпе.

Сярод соцень светлых і цёмных галоў, валасатых і лысых, відаць і старастава галава. Стараста Бабіч, гэты ціхі, лагодны чалавек, які ўмее так добра слухаць, цяпер строгі і зацяты. Відаць ён чымся заклапочаны і як-бы непакойны. Ці выпадала яму прыходзіць на гэты сход, як асобе афіцыяльнай?.. Нядобра займаць такое прамежнае месца! Старшыні тут няма. О, не! старшыня сюды не пойдзе. І царкоўны стараста Крэшчык таксама не прышоў. Да і многа каго няма, але гэта ўсе людзі заможныя, каля начальства любяць пабыць, а тут якраз супроцьначальніцкая чыннасць мае мець месца.

Грозны вагар зямельных бунтаў пакаціўся па неасяжных прасторах царскай Расіі, скутай астрогамі і ланцугамі няволі, пакаціўся бляскам пажараў, клубамі дыму, афарбоўваючы ў крывавы колер халоднае асенняе неба. Адвечная сялянская прага да зямлі і гэтае, ніколі неўміручае, імкненне да волі цяпер выліваецца ў адным глухім, няўцямным ракатанні, гудзе і ідзе нястрыманым поступам, разбураючы ўсё на сваёй дарозе. Кідаюць паны свае маёнткі, як пацукі падпалены млын, уцякаюць у гарады, галосячы аб ратунку і расказваючы аб жудасцях, якія чыніць мужык-звер.

І вось цяпер адны з такіх «мужыкоў-звяроў» сабраліся ў школе. Паміж сабою дома яны не раз цішком разбіралі падзеі апошніх дзён, а цяпер, на сходзе, ім трэба гэта аформіць, каб усё было «па закону». А для гэтай законнасці яны і старасту Бабіча прыпрэглі сюды.

Гудзе сход, як цёмная пушча пад напорам буры. Асобных слоў не чуваць, адзін густы рокат поўніць школьную залу.

Настаўнік і Аксён Каль уваходзяць у школу.

Натоўп сціхае: пачынаецца акт вялікай грамадскай важнасці. Сотні вачэй узняты на гэтых двух асоб.

— Грамада! дык прыступім да справы.

Голас у Аксёна звонкі. Тоны ўрачыстасці чуваць у ім.

— А-ру-ду-ду-ду-д-ум! — коціцца невыразны гук з натоўпу, зрэдку пранізваючыся асобнымі словамі. Сход выказвае згоду прыступіць да справы.

— Мы прышлі не ў воласць, дзе робяцца сходы, а ў школу, бо настаўнік — наш чалавек, ён за нас, а за гэтую справу не возьмецца ні пісар, ні старшыня, ні хто іншы, бо яны нам не спачуваюць! — гаворыць Аксён.

— Басякі! Нажывацца толькі ўмеюць нашым потам! — чуецца голас.

— Мы будзем прасіць настаўніка дапамагчы нам, каб гэта ўсё аформіць і зрабіць, як трэба.

— Просім! просім! — гудзе сход.

У часе гэтага ўступу з натоўпу незаметна праціскаецца нізенькі, хірлявы паляшук сярэдніх лет, з бародкаю, падобнай да жмута моху, што расце на кары старой бярозы. Падыходзіць да настаўніка і ціха кажа:

— Вы-ж думаеце, мы не ведаем, хто наш вораг, а хто прыяцель?.. Вы майму Алесіку падаруначак зрабілі, купілі сіраце кашульку. А поп, пісар, земскі — гэта басякі, скуру гатовы драць з нас, але мы з імі расправімся!

Настаўніку няма калі гаварыць з ім: сход чакае пачуць яго слова.

Самая справа, па якой скліканы гэты сход, усім вядома: трэба нешта зрабіць з панам Скірмунтам, трэба так ці іначай парахавацца з ім.

Лабановіч адчувае ўсю незвычайнасць гэтае абстаноўкі, напружанасць моманту і настрой сходу. Ён адчувае таксама і сваю адказнасць, маральную адказнасць перад гэтым узбудараженым сходам, гатовым цяпер пайсці на ўсё: грабіць, паліць, рэзаць — прыклады такой чыннасці яму вядомы. У той-жа час яму трэба выпаўніць свой абавязак перад рэвалюцыяй. А парадзіцца ў гэтай справе няма з кім, тым больш, гэта патрэбна цяпер, калі прыціхшая паліцэйшчына пачынае падымаць галаву і робіць расправу з сялянствам, паўстаўшым супроць паноў.

Усхвалёваны і бледны, выступае перад сходам.

— Грамадзяне! усім ясны і зразумелы ваш гнеў і абурэнне. Сотні гадоў жылі мы пад панскім ціскам. Нас

не лічылі за людзей, над намі чынілі здзек і ўсякую крыўду. Селянін на зямлі, рабочы на фабрыцы працуюць на багатых. Паны і багатыры жывуць у роскашы, а вы — у цёмных і цесных халупах, капаецеся, як чэрві ў зямлі, і няма вам ні жыцця, ні долі. Справядліва гэта? Ці павінна гэтак і далей быць? Хто-ж за нас заступіцца? Хто дасць нам збавенне ў гэтай цяжкай нядолі? Калі мы самі не паможам сабе, то нам ніхто не паможа. Вы толькі падумайце: маленькая жменька дваран і багатыроў села вам на карак, захапіла лепшыя землі, жыве з вашае працы і вас-жа катуе, чыніць над вамі няпраўду, пазаганяла вас у норы, у шчыліны, парабіла вас нявольнікамі. Чаму? А таму, што ў іх руках улада, суды, войска. Яны чмуцяць вам галовы праз цэрквы і школы, што гэтак і павінна быць, палохаюць вас карамі на тым свеце, каб вы былі паслушнымі і пакорнымі, абяцаюць вам рай на тым свеце, каб самім вальней было жыць на гэтым. Трэба зразумець, хто намі кіруе і чаму, трэба голасна заявіць аб сваім праве і падтрымаць гэтае права сілаю. Што-ж для гэтага трэба? Трэба злучыцца ў адзін шчыльны саюз, у адну грамаду людзей і выступаць у згодзе, дружна, як адзін. Толькі тады вы будзеце непераможнымі, бо хто тады выступіць супроць вас? Войска? Але-ж яно складаецца з вашых сыноў, і не для таго патрэбна яно, каб біць сваіх бацькоў і братоў.

Гэтая трохі аб'ездная дарога-прамова пачынае, як заўважае прамоўца, таміць сход. Сходу трэба пачуць пра маёнтак пана Скірмунта.

Лабановіч бярэ план.

— Вось вам, грамадзяне, прыклад таго, як справядліва паступілі з вамі: на гэтым плане затокі і прырэчны сенакос належыць да вас, але чамусь яны апынуліся пад панам Скірмунтам. Вы за іх судзіліся, але нічога не высудзілі. Нават хацелі цару падаваць прашэнне, але і з гэтага нічога не выйшла-б, бо і цар за паноў стаіць, а не за вас.

— Галаву адкруціць трыбухатаму чорту!

— Спаліць яго маёнтак разам з ім і з усім яго насеннем! — гудуць злосныя галасы.

Сялянскае абурэнне расце. Яно можа выліцца ў дзі-

кую форму грабежства і гвалту. А ўсё гэта падасць начальству законнае права жорстка пакараць сялян, як грабежнікаў і гвалтаўнікоў.

— Грамадзяне! з вамі паступілі несправядліва, але не паддавайцеся парывам злосці і не рабіце таго, аб чым потым прыдзецца пашкадаваць. Трэба ўсё ўзважыць, абмеркаваць халоднаю развагаю. Перш за ўсё я запытаю вас: ці будзеце стойкімі і цвёрдымі, калі ў гэтай справе налучыць вас якое-небудзь ліха? Ці будзеце складаць з сябе віну на каго другога за свае ўчынкі!

Пытанне, кінутае ў натоўп так проста і неспадзявана, ахаладзіла пал сялянскай злосці.

— Вас мы не выдамо! — чуецца голас з натоўпу.

— Я за сябе не баюся, — адказвае прамоўца, уколаты гэтаю шчыраю заяваю з натоўпу: — я толькі хачу перасцерагчы і напомніць вам, каб наўперад спакойна абмеркаваць, а ўжо потым рабіць і рабіць арганізавана і дружна, каб вашы паступкі сапраўды былі рэвалюцыйныя і свядомыя.

Староста Бабіч глядзіць на настаўніка, ківае галавою: праўда ўсё гэта, трэба памеркаваць.

— Праўда, праўда, — уголас кажа ён.

— Дык давайце зробім так, каб было, як кажуць, і сярдзіта і каб нас не маглі падкалупіць лёгка і проста.

Сход уважна прыслухоўваецца да слоў настаўніка.

— Я думаю, — кажа ён далей, — наўперад паслаць Скірмунту наша патрабаванне. Яно ў мяне напісана, і я прачытаю вам яго.

Настаўнік бярэ заранeй напісаную паперу, петыцыю, што тады звычайна практыкавалася, і чытае:

«ГРАМАДЗЯНІНУ СКІРМУНТУ Ў АЛЬБРЭХТОВЕ

*Гр. с.с. Выганы і Высокае*

Петыцыя

Несправядлівасць, што чынілася вякамі над сялянствам панамі і чыноўнікамі, той цяжкі стан, у якім апынулася яно ў выніку гэтай несправядлівасці, змусіла сялян саміх узяцца за справу скасавання гэтай несправядлівасці. Усюды па Расіі ўзняўся рух сялян на грунце зя-

мельных адносін з памешчыкамі. Гэты рух, як вам напэўна вядома, часта прымае грозную, для вас непажаданую форму, бо давядзенае да крайнасці сялянства змушана ўжываць такія формы. Ухіляючыся ад ужывання такіх крайніх сродкаў, мы, гр. с. с. Выганы і Высокае, напамінаем вам, што затокі і сенакос на Піне, якія, згодна плану, зацверджанаму Межавою Камісіяй 18... года, значацца ў нашым уладанні. Між тым гэтымі нашымі ўжыткоўнасцямі незаконна карыстаецеся вы. У справе-ж нашых цяжбаў з вамі за гэтыя ўжыткоўнасці суд стаў на вашу старану. На падставе ўсяго вышэйпаданага мы патрабуем: 1. Адмовіцца ад незаконнага карыстання нашымі затокамі і сенакосам. 2. Як узнагароду за гэтае карыстанне, перадаць нам частку вашага маёнтка, што прымыкае з аднаго боку ад Піны да дарогі і з другога — да маёнтка Альбрэхтова. 3. Калі наша законнае дамаганне вамі не будзе прынята пад увагу, то мы змушаны будзем ужыць іншыя сродкі.»

З вялікаю ўвагаю слухалі сяляне гэтую петыцыю.

— Грамадзяне! згаджаецеся вы падаць такія патрабаванні Скірмунту?

— Згаджаемся.

— Падаць! падаць! — гудзе сход.

— Калі так, то падпісвайцеся.

Сяляне рушылі да стала і мазолістымі загрубелымі пальцамі выводзілі свае прозвішчы ці проста стаўлялі крыжыкі, а нарэшце папера была змацована пячаццю старастам Бабічам.

Выбралі трох дэлегатаў. Ім даручана перадаць петыцыю пану Скірмунту.

— Калі пан ужо верне нам затокі, то мы прынясем самай лепшай рыбы нашаму настаўніку за турбацыю, — гаворыць дзядзька Есып.

Скірмунт — чалавек важны і заможны пан. І ўся постаць яго выкрывае ў ім гэтую важнасць. Яго маёнтак адзін з найлепшых на Піншчыне. І сярод паноў і сярод начальства ён — паважаная асоба. Ён асабіста знаёмы з губернатарам. Выгладжаны і прылізаны, важна сядзіць ён у сваім пышным кабінеце за багатым сталом, курыць дарагія цыгары. На рэвалюцыю глядзіць звысака: ці

не замнога сабе ўзялі ў голаў гэтыя «хлопы»? Яго золата захована ў надзейных банках. Маёнтак, будынкі і маёмасць — усё застрахавана. Ён не баіцца. Сядзіць, праглядае рахункі, робіць праекты, як расшырыць сваё прадпрыемства, наогул «працуе». Праца сялян і праца рабочых — гэта праца скаціны. А ён працуе галавою. На яго гаспадарцы жывуць і кормяцца сотні людзей, ён дае ім хлеб, і яму павінны быць за гэта падзячны.

У яго пакой асцярожна і пачціва стукае чыясь рука.

— Проша! — раняе пан Скірмунт.

Уваходзіць галоўны аканом. У руках яго папера, а выгляд перапалоханы.

— Ясны пане! Якую агідную паперу падалі пану гэтыя хамы з Выганаў і з Высокага!

Пан Скірмунт бярэ петыцыю, ускідае вочы. На твары абразлівая ўсмешка.

— Гм! На роўную нагу са мною становяцца: грамадзяне пішуць да грамадзяніна!

Пан Скірмунт вышай падымае свае закручаныя пышныя вусы. Чытае. Увесь час іранічная ўсмешка не сходзіць з панскіх вуснаў. Чытаючы, ківае часамі галавою. Нарэшце ўсмешка сходзіць, вочы робяцца злымі. Аддае распараджэнне.

— Залажыць брычку і пару коні!

Як скончыў пан Скірмунт чытанне петыцыі, у яго з'явіўся план, як рабіць яму ў гэтым выпадку.

Пан Скірмунт у Пінск едзе. Трэба-ж пацешыць маршалка. Трэба падняць на ногі начальства.

І пан Скірмунт закруціў машыну.

## XXX

Вечарам, закончыўшы работу ў школе, Лабановіч выходзіў часамі прайсціся, каб пабыць на свежым паветры. Было ў яго адно такое абранае месца, куды ён звычайна і хадзіў, калі яму хацелася пабыць аднаму. Месца гэтае — дарога за Выганамі, што ідзе поруч чыгункі, дзе стаяць два ветракі. Тут зусім ціха, асабліва, калі сцямнее. І што спадабалася тут яму, дык гэта скоры цягнік, што ідзе з Лунінца на Пінск. Вёрст пяць адгэтуль, мінуўшы

Заазер'е, чыгунка робіць залом, і з гэтага залому вельмі добра відаць агні цягніка. У гэтых яркіх рухлівых агнях было для яго штосьці надзвычай павабнае і цікавае. Многа разоў бачыў ён гэтыя агні, і яны здаваліся яму нейкаю чароўнаю ўсмешкаю сярод зацята-маўклівай цемрадзі і заўсёды былі для яго прынадныя і любыя, як сімвалы вечнага жыцця.

На гэты раз ён вышаў сюды для таго, каб праверыць адну вельмі важную падзею: удзень пранеслася чутка, што пачалася вялікая агульная забастоўка, што рэвалюцыя дасягае найвышэйшага пункту напружання, што ўступкі, зробленыя царом паўстаўшаму народу, не задавальняюць яго.

Мімаволі нейкі страх ахоплівае душу перад веліччу змагання — чым-жа ўсё гэта кончыцца? Які будзе вынік гэтага змагання?

Лабановіч ведае, у які час праходзіць скоры цягнік. Гэты час набліжаецца. Ён пільна ўглядаецца ў тое месца залому,адкуль звычайна вынікаюць гэтыя агні. Але іх не відаць. Можа таму, што цемрадзь густая і шчыльна перавітая з імглою. У гэтай цемрадзі-імгле нікне зямля і неба, нікнуць агні. Ён пазірае на сяло, каб пераканацца, як відаць агні з вокан. Іх амаль не відаць, толькі светлавата-бледныя слупы-стрэлы ўзнімаюцца ўгору і знікаюць невысока над стрэхамі.

Ён зноў пазірае на чыгунку, на той залом і прыслухоўваецца. Навокала магільная цішыня, як-бы ўсё анямела або вымерла. Падыходзіць яшчэ бліжэй да чыгункі, зноў услухоўваецца — тая-ж цішыня. Глядзіць на гадзіннік, асвяціўшы запалкаю, — прайшло поўгадзіны часу з таго тэрміну, калі звычайна праходзіць скоры цягнік. Стала быць, праўда — забастоўка пачалася!

Было некалькі дзён напружанага чакання. Звычайнае людское жыццё выбілася з каляіны і спынілася, а калі дзе трохі і рухалася, то рухалася як павозка, у якой зламалася адно кола.

Старшыня Захар Лемеш цяпер нідзе не паказваецца, бо яго аўтарытэт, як начальніка, упаў на ўсе сто працантаў. І ён больш тупае каля свае гаспадаркі, чым у валасці. Ён апрануў сівую світку, падперазаўся горшым поясам і

ходзіць трохі прыгнуўшыся, каб меней кідацца людзям у вочы. Яго мыслі часамі ідуць у другім кірунку. Ён думае, што нічога трывалага на свеце няма і што нават яго старшынства мае свой пачатак і свой канец. Без канца канец. Тады ён кажа сам сабе, у сваіх думках:

— Э, мацць яго барабан!

Гэта «барабанная маці» і ёсць той мосцік, што кладзецца паміж старшынёй і звычайным чалавекам, які ў перспектыве і рысуецца Захару Лемешу.

Пісар Дулеба хоць трохі і прыціх, але ўсё яшчэ храбрыцца. І не пісарства дарага яму — пляваць ён хоча на яго і плюе, — яму абыходзіць самы прынцып: ну, што будзе, калі гэтыя соцыялісты возьмуць верх? Прападзе тады Расія! Ён не парушыўся ў сваіх перакананнях нават і тады, калі пабачыў бурлівы вір маніфестантаў па вуліцах Пінска і калі паліцыя баязліва пахавалася. А старшыні ён сказаў:

— Нічога, Захар: перамелецца — мука будзе.

— Або мука або му́ка, — уздыхае старшыня.

— Пачакай трохі: я чую — холад становіцца на ногі, дзьму-у-ухне ён, брат! Ды так дзьмухне, што ад тваіх забастоўшчыкаў і пер'я не застанецца.

— Што ты кажаш?! — радасць адбіваецца на старшынёвым твары.

— А вот пабачыш!

Не відаць таксама і Івана Пракопавіча і голасу яго не чутно. Нікуды не ходзіць, дома сядзіць, бо яму праціўна глядзець на ўсё гэтае «плюгаўства»: шуміць, крычыць, само не ведае чаго. «Перавяліся людзі на рускай зямлі. У лібералізм гуляць пачалі. Сволачы». І тут-жа ён першы раз аблаяў цара. «Ідыёт. Дый што з яго возьмеш, калі яму бог мазгоў пашкадаваў?»

У папоўскай асярэдзіне таксама шушукаюцца, зашыўшыся ў свае куткі.

У вялікае абурэнне прыводзіць усіх той факт, што ў горадзе служанкі забаставалі, і матушка, пападдзя сабарнага папа, змушана была сама мыць падлогу і хадзіць з кошыкам на рынак. Толькі дзяк Бацяноўскі не згубіў галавы і першы тут выказаў мысль, што гэта за грахі пасылае бог такую кару.

З прычыны таго, што цягнікі не хадзілі і газет не было, гэтыя людзі замянялі сабою газеты: па іх паводзінах і па іх тварах можна было судзіць, як праходзіць рэвалюцыя. І быў такі дзень, калі Лабановіч засмуціўся: ён пачуў вясёлы голас Івана Пракопавіча.

— Гэ, сукіныя сыны! Паўстанне паднялі! Ды што ты супроць войска зробіш?.. Не, брат, вышэй пупа не падскочыш!

І ўсе, хто быў прыдушаны і загнаны ў шчыліны рэвалюцыяй, цяпер акрыялі і высока паднялі галовы.

Надыходзіў момант, калі перамогшы царскі ўрад рыхтаваўся капаць магілу для рэвалюцыі, мабілізуючы для гэтага карныя часці войск і суды. Паліцыя і адпаведныя органы ўлады заварушыліся.

У той вечар, калі загрукалі па чыгунцы вагоны пасля дзесяцідзённага перапынку, заходзіць да Лабановіча Вольга Віктараўна.

— Невясёлыя навіны, Андрэй Міхайлавіч: забастоўка скончылася, паўстанне задушана, гарады заліты кроўю. Ідуць арышты.

Нейкі непакой і трывога ахоплівае Лабановіча.

— Ну, што-ж. Трэба лічыцца з фактамі... Але следу гэтае рэвалюцыі ніхто не затрэ ў гісторыі, — адказвае ён.

— О, не! — падхватвае Вольга Віктараўна, — і вешаць нос на квінту няма чаго.

Усе гэтыя весткі, відаць, балюча абходзяць ёй, але яна стараецца не паддавацца смутнаму настрою.

— І ў Пінску арышты пачаліся. Арыштаваны Глеб і Саламон, помніце іх?

— Арыштаваны? Шкада хлопцаў!

— Я ім зайздрошчу: няхай-бы і мяне арыштавалі.

— Ну, у гэтым радасці не надта многа.

— Ведаеце, а па Пінску чуткі ходзяць, што школа ваша вогнішча рэвалюцыі і быццам-бы вы збіраліся ці збіраецеся з сялянамі руйнаваць нейкага пана Скірмунта?

— Ну, там з мухі слана зрабілі!

І Лабановіч расказвае, як была справа.

Вольга Віктараўна слухае, вочы яе весялеюць.

— А ведаеце, — кажа яна, — калі што, дык у вас ёсць тут вялікі козыр: можна асвятліць справу так, што

вы затрымалі сялян, адхілілі разгром і праліццё крыві... І вам няма чаго баяцца.

— Я не баюся. Чаму? А вось чаму: я даўно падгатаваў сябе да благога канца, і калі са мною здарыцца, ну, тое, што здарылася з Глебам і Саламонам, то гэта для мяне не будзе нечаканасцю, і арышт мяне не палохае. Напляваць!

— Ну, аб арышце няма чаго думаць.

— Можа так, а можа і не. Усе мы пад паліцыяй і жандарамі ходзім.

— Гэта то праўда... А я ўсе гэтыя дні была ў Пінску, школу сваю закінула, ну яе к чорту. Усё маё навучанне ў апошнія дні складалася з таго, што я збірала дарослых і чытала ім усякую нелегальшчыну.

— Цяпер, Вольга Віктараўна, трэба трошкі вам устрымацца, а то і да вас дабяруцца.

— А чорт іх бяры!.. Ведаеце, мне шкада будзе, калі нам прыдзецца разлучыцца.

— Калі мяне забяруць, то я буду цешыць сябе, што мяне шкадуе такая слаўная дзяўчына, як вы.

— Ох, і злы-ж вы чалавек. Не хачу з вамі больш заставацца.

Падымаецца, збіраецца ісці.

— А я вас не пушчу. Пасядзіце яшчэ.

Яна мяняе тон, уздыхае.

— Ох, Андрэй Міхайлавіч! і не хочацца ісці, але трэба. Правядзіце мяне, калі не лянуецеся.

Яны выходзяць.

На чыгунцы развіталіся.

Вольга Віктараўна ідзе борзда, ні разу назад не аглянулася. Лабановіч стаіць, пазірае ёй услед. Хацеў дагнаць, яшчэ прайсціся з ёю.

На поле насоўваецца мрок, і постаць яе зліваецца з цемраддзю. Лабановіч ідзе назад. Ідзе, разважае аб апошніх падзеях.

У той вечар, калі загрукацеў першы цягнік, Захар Лемеш ішоў з воласці. Гумор яго быў значна падняты, бо ён чуў аб добрых навінах. Ён нават пасмейваецца сам сабе.

«Галава, гэты мой пісар! — думае старшыня аб пісару Дулебе, — выходзіць так, як ён і казаў!»

Калі-ж да яго вушэй данёсся грукат з чыгункі, і ён пачуў гудок, то запыніўся, паслухаў, а потым гаворыць, гаворыць громка, сваім ужо старшынёўскім голасам:

— Дуракі, дуракі! І як яны маглі асмеліцца пайсці супроць царскай улады?

Гэты прарыў глухой цішыні на чыгунцы быў як-бы дзіркаю, праз якую і палезлі розныя падзеі. Спадцішка яны падрыхтоўваліся і раней, але цяпер выяўленне іх пайшло болей шпарка.

Лабановіч не раз заўважаў нейкія таемныя цені пад вокнамі свае кватэры. Пачаў прыглядацца да іх. Ясна, што ён быў на падазрэнні, і за ім сачылі. Сачыла патрошкі і патаемна паліцыя, сачылі і з двара пана Скірмунта, прыглядаўся да яго і дзяк па сваёй добрай волі. Гэтае сачэнне пачалося з таго часу, калі пан Скірмунт перадаў тую петыцыю пану маршалку. З прычыны гэтае петыцыі была склікана цэлая нарада. Запрасілі паліцмейстара і казацкага афіцэра.

Маршалак, таўшчэразны, непаваротны чалавек, накшталт гіпапатама, прышоў у вялікае абурэнне.

— Цешцеся, гаспада! Пад самым носам у нас замышляюцца падзеі, падзеі рэвалюцыйнага парадку, праўдзівей сказаць, рэвалюцыйнай катэгорыі.

Чытае петыцыю.

— «Грамадзян»... Звярніце ўвагу—«грамадзян!» няма, бачыце, больш мужыка, а ёсць толькі «грамадзяне», якіх крыўдзіць, эксплаатуе... і... якая там яшчэ ў іх тэрміналогія? «грамадзянін» Скірмунт!.. Га? Як вам падабаецца?.. Такая нагласць!

— Бяспрыкладная нагласць!

— Прахвосты! — уторацць галасы.

— Устаноўлена, хто пісаў гэтае мілае пасланне? — пытае казацкі афіцэр.

— Прасвяціцель народа, ён-жа педагог, — іранізуе маршалак. — Сяргей Пятровіч! — зварачаецца ён да інспектара, — гэта ваш скарб.

Інспектар Булавін канфузіцца за свой «скарб».

— Я ад сябе даследую ступень яго ўдзелу ў гэтым беззаконні, — апраўдваецца ён.

— За гэта, разумеецца, мы яго па галоўцы не пагладзім, — гаворыць паліцмейстар. — Але згадзіцеся, гаспа-

да, што яго ўмяшанне мае і свой дадатны бок: гэтая петыцыя захавала ад разгрому пана Скірмунта. І мне так прадставіў справу Іван Пракопавіч. Ён проста сказаў мне: «Ды вы падзякуйце яму за гэтую петыцыю». — Абурэнне супроць аўтара петыцыі значна зніжаецца. Толькі адзін пракурор строга захоўвае ўласцівасць свае прафесіі.

— Хто-б ён ні быў і чым-бы ён ні кіраваўся, а ён чалавек небяспечны, крамольнік, гэта ясна, прайдоха, непазбаўлены юрыдычнага кручкатворства, праўда, наіўнага. Такія «хадатаі» ўраду не патрэбны.

Тым часам, не дачакаўшыся адказу на петыцыю, сяляне склікаюць другі сход. З прычыны таго, што «закон» споўнены, яны вынеслі новую пастанову — прыступіць да карыстання з затокаў, што па плану належаць да іх.

Чалавек дваццаць сялян, узваліўшы невад на сані, выходзяць на затокі. Павольна, не спяшаючыся, прыступаюць да справы. Прасякаюць палонкі, закідаюць невад. Работа ідзе весела, дружна. Выцягваюць першы невад, яшчэ весялей робіцца ім. Калі і далей будзе такі спор у рабоце, то сёння яны пажывяцца добра. Пасля поўдня ў іх было ўжо цаброў тры ўлову. А рыба, як на заказ: ліны ды шчупакі, ды ўсе ладныя. Проста ахвота бярэ да работы. Нарыхтаваліся закінуць невад у новую тоню, разматалі яго, цягнуць, каб закінуць. Дзядзька Есып апошнюю крыгу выкочвае, аж зірк — з-за сухіх высокіх чаротаў чалавек трыццаць казакаў на конях вылятае! І як падкраліся яны так спрытна, ліха іх ведае. Раз — і акружылі!

— Крамольнікі! Бунтаўшчыкі! Для вас ужо царскія законы — не законы?! Сваволіць? Бунтаваць?

Строгі быў казацкі афіцэр.

У дзядзькі Есыпа са сполаху выпала люлька з зубоў у палонку.

— Кладзі невад на сані! — камандуе рыбакам афіцэр.

Мокры невад і тры цабры ўлову паклалі на сані. Панурыя, засмучаныя, устрывожаныя і абураныя такою несправядлівасцю кандыбаюць сяляне пад казацкім кан-

воем. Іх вядуць берагам Піны каля Высокага, каб усе бачылі ганьбенне іх і пакаранне.

У гэты-ж час у школе гаспадарыць паліцыя. З парка Івана Пракопавіча наляцела сюды і акружыла школу. Вучняў пусцілі, настаўніка запрашаюць у яго-ж кватэру.

— Нічога не знойдзеце, — гаворыць приставу Лабановіч.

— Усё загадзя пахавалі? — пытае прыстаў і ўсміхаецца.

Пакапаліся трохі, а потым сказалі настаўніку апранацца.

— Так-бы і гаварылі адразу!

Лабановіч збіраецца. Зборы яго невялікія.

Арыштаваных сялян вывелі на выган. Тут збегліся людзі, забілі ўвесь выган.

— Расхадзісь! Расхадзісь! — камандуе паліцыя і распіхае натоўп.

Аксён Каль быў у клуні. Малаціў. З яго цапільна зрываецца біч. Падымае біч, выходзіць на двор, каб начапіць на цапільна. Пачуўшы на выгане такі незвычайны шум і крыкі, ён бяжыць туды з цапільнам і бічом. Падыходзіць да «лініі ачаплення». Казацкі афіцэр патокам разліваецца, гаворачы прамову-навучанне, перасыпаючы яе «сволаччу», «крамольнікамі» і іншымі страшнымі словамі.

— Каб вы так храбра японцаў бралі ў палон, то былі-б малайцы, — гаворыць Аксён да казакаў.

Афіцэр абарачвае злы твар у бок Аксёна.

Узлаваўся і Каль.

— Сказаў, што вас японцы білі і гналі, як сабак, а вы прыехалі сюды на бяззбройных мужыках адыгрывацца.

Момант — і афіцэр выхватвае шаблю. Высока ўзняты бліскучы клінок і... чвяк. Афіцэрская шабля далёка ў бок адлятае, выбітая з рук мужыцкім бічом. Яшчэ момант — гэты-ж біч гладка прыстае да далікатнай афіцэрскай фігуры. Зваліўся-б з каня, ды казакі падтрымалі, а рэшта ў натоўп з коньмі кідаецца.

— Бяры яго! Бі! — крычыць звар'яцелы ад злосці афіцэр.

Аксёна кідаюцца лавіць, але ён знікае, як нейкі злы дух. І ніхто не ведае, як гэта ўсё здарылася. А хто і ведае, то не гаворыць.

Натоўп разагналі. Некалькі чалавек падмялі коньмі, а арыштаваных сялян і настаўніка вядуць выганам, а потым паварачваюць налева, на дарогу ў Пінск.

Дзяк Бацяноўскі стаіць збоку. Праводзіць вачамі гэтую працэсію і кажа, зварачаючы свае словы да настаўніка.

— Так, суседзе, нічога няма патаемнага, што не сталася-б яўным. І ўсякую гардыню наказуе гасподзь.

Мінск, 1926 — 27 гг.

## ПРАДМОВА

Многа часу сплыло ад далёкіх дзён мае юнацкасці. Новыя шляхі, іншыя падзеі і з'явы накіравалі мае мыслі і дзейнасць да другіх задач і мэт, і першапачатковыя намеры напісаць трэцюю кнігу з цыклу палескіх аповесцей засталіся нявдзейсненымі. Тым-жа часам малюнкі і падзеі далёкіх дзён яшчэ жывуць у памяці і часта ўсплываюць у маім уяўленні. Дарога-ж героя палескіх аповесцей, Лабановіча, не скончана, і мне хочацца пахадзіць з ім нейкі час па яго дарогах, каб аповесці набылі пэўную мастацкую закончанасць.

Вось чаму я рашыў прыступіць да напісання трэцяй кнігі пад назваю «На ростанях».

I

## ВЕРХАНЬ

Цягнік зрушыўся з месца і пашыбаваў далей, набіраючы скорасць і пакідаючы за сабою густыя клубкі дыму. Лабановіч пастаяў з хвіліну, праводзячы вачамі цягнік, завёзшы яго ў гэты ціхі куток, дзе пачнецца новае жыццё. Прамільгнула думка, што, знікшы на павароце чыгункі, цягнік паклаў сабою рубеж паміж тым, што было раней, і тым, што будзе наперадзе.

Як толькі ён узяў свае два чамаданчыкі, каб ісці

з імі на станцыю, да яго зараз-жа падбег рухавы чалавек сярэдніх год у латанай сярмяжцы, з-пад якой выбіваўся такі-ж паношаны кажушок. Дапытлівыя шэрыя вочкі селяніна на момант запыніліся на Лабановічу. І выраз твару і ўся постаць селяніна сведчылі аб тым, што ён гатовы аказаць паслугу добраму чалавеку.

— Вам далёка? — запытаў ён Лабановіча.

— У Верхань, — адказаў Лабановіч.

— У Верхань? то пойдзем са мною: я жыва завязу вас! — узрадаваўся селянін і, не чакаючы згоды, рашуча ўзяў чамадан з рук настаўніка і наважыўся завалодаць і другім.

— Вазьміце адзін, а другі панясу я.

Лабановіч відочна быў задаволены, што не трэба доўга шукаць фурманкі, а гэта непакоіла яго ў дарозе.

Прайшлі станцыю, апынуліся на невялічкім дворыку, дзе стаяла некалькі фурманак. Селянін рухава патрусіў да сваіх саней, паставіў чамадан каля іх, узбіў салому ў санях, каб латвей было сядзець, паклаў чамаданы, а сам борздзенька падабраў сена з-пад каня, паправіў збрую, узяў лейцы, ускочыў у сані, выцягнуў з саломы пугу, махнуў ёю для рэзвасці і гукнуў:

— Но, арол!

Усё гэта ён зрабіў так быстра, што трудна было прасачыць за яго рухамі. Відаць, рабіў ён гэта так знарок, каб не даць свайму ездаку апамятавацца і не выпусціць яго з рук.

Конік не дужа стараўся апраўдваць свой пачэсны тытул «арла». Ён уздыхнуў па-конску і, павольна ступаючы, павалок на касагорчык сані з седаком, яго чамаданамі і са сваім гаспадаром.

— Зацугляй каня, а то, глядзі, разнясе! — крыкнуў удагонку селяніну другі фурманшчык, якому не ўдалося залучыць пасажыра. Селянін хітра азірнуўся.

— Зацугляй сваю цешчу — адказаў ён насмешніку.

Успаўзаючы то на адну, то на другую гурбіну і ныраючы ў іх, сані вышлі на роўную і болей уезджаную дарогу. Худы мышасты конік падбадзёрыўся, весела пырхнуў і сам пабег па сваёй ахвоце.

— І праўда: конік — арол, — пахваліў Лабановіч каня.

Настаўніку хацелася разгаварыцца са сваім фурманам. Селянін быстра павярнуў галаву да ездака. Вочы яго праясніліся, панурасць і заклапочанасць зніклі з твару.

Відаць, ён таксама ўзрадаваўся выпадку пагутарыць са сваім ездаком. Спадабалася, што яздок пахваліў каня і трапна выклікае на размову.

— Вы хто-ж будзеце? — лагодна запытаў селянін.

— Настаўнік, — адказаў Лабановіч.

— Настаўнік? — нібы здзівіўся селянін і яшчэ больш уважна паглядзеў на Лабановіча.

— Ведаеце, — сказаў ён, — я так і падумаў — напэўна гэта новы настаўнік.

— А чаму вы так падумалі? І чаму новы?

Селянін паглядзеў на настаўніка.

— Ды вось мне так у думках цюкнула. Едзеце ў Верхань, а з Верхані аднаго настаўніка, я чуў, забіраюць. Ну, думаю, напэўна вы на яго месца.

— А што, хіба ў Верхані некалькі настаўнікаў? — крыху здзівіўся Лабановіч.

— Два, два, пане настаўніку! школа вялікая, у двух будынках змяшчаецца ды ёсць яшчэ кватэра для вучняў, што прыходзяць з другіх вёсак.

— Вось як! Гэта для мяне навіна.

Лабановіч не ведаў, як успрыняць такую навіну. Можа добра, а можа і нядобра, што ў адной школе два настаўнікі.

Гутарка павялася далей. З гутаркі выявілася і колькі вёрст да Верхані — а іх аказалася восемнаццаць, і колькі дзядзька Нічыпар Кудрык — так назваў сябе селянін — возьме за фурманку. Дзядзька Нічыпар аказаўся чалавекам памяркоўным, настолькі памяркоўным, што Лабановіч ў мыслях рашыў накінуць яму яшчэ адзін рубель, хоць гэтых рублёў у яго было не так многа, — прыемна-ж зрабіць для чалавека нейкую хоць невялікую радасць.

Дарога то падымалася на ўзгорак, то спускалася ў лагчыны, разгортваючы ўсё новыя і новыя малюнкі зямлі. Мясцовасць тут мела зусім іншы выгляд і рэзка адрознівалася ад палескай роўнядзі, з якой звыклася вока маладога настаўніка за тры гады яго побыту на Палессі. Але кароткі зімні дзень быў хмурны. Неба, усцяж за-

сланае бялесымі аблокамі, пазірала непрыветна і холадна, нізка навісшы над прасторамі зямлі, надаючы ім пануры выгляд і накладаючы пячаць аднастайнай панылласці. Усё гэта пакідала свой адбітак на настрой настаўніка. Не вабілі вока блізкія і далёкія сялянскія сядзібы, параскіданыя па заснежаных прасторах палёў, то хутаркамі, то невялічкімі вёсачкамі. Нявела пазіралі стрэхі будынкаў, з цэлымі пластамі снегу, пачарнелыя сцены хат і вокны, шчыльна выбеленыя зімняю сцюжаю, і гэта сцюжа, здавалася, яшчэ ніжэй прыгінала да зямлі людскія сялібы. Над хатамі сямтам узнімаліся дрэвы. Агаленыя бязлістыя шатры іх, як шкілеты, яшчэ мацней падкрэслівалі панылласць усяго краявіду. Лабановіч адчуваў у сэрцы журботу аб Палессі, аб тых вобразах, што далёка засталіся ззаду. Ён успамінаў Выганаўскую школу, вучняў, знаёмых сялян, з якімі ён здружыўся і з якімі расстаўся так раптоўна і нават трагічна. Шчаслівая акалічнасць памагла яму выблутацца з той непрыемнай справы, якая пагражала яму астрогам або высылкаю. Начальства само не ведала, як паставіцца да Лабановіча за напісаную ім петыцыю. Можа сапраўды адвяла яна разгром панскага маёнтка. І настаўніка пусцілі на волю, прачытаўшы яму адпаведную натацыю, і абмежаваліся пераводам у другую школу на процілеглы бок краіны, сказаўшы: ідзі і болей не грашы. І вось у гэтую школу і едзе ён цяпер. А ўсё-ж такі цікава, што гэта за школа і якіх людзей сустрэне ён на новым месцы?

## II

Мінуўшы панскі двор са старасвецкім паркам, з будынінамі, пачарнелымі ўжо ад часу, дарога апошні раз спусцілася з горкі ў шырокую раўчавіну, зарослую дробным алешнікам, прабегла праз масток — тут цякла невялічкая рачулка — ды зноў пашыбавала ўгору на процілеглы бераг раўчавіны. Тут, на высокай і даволі абшырнай пляцоўцы, і знайшло сабе ціхі прыпынак сяло Верхань. Лабановіч уважна акінуў яго вокам. Сяло расцягнулася ў адну доўгую лінію кілометраў на паўтара,

На адным яго канцы, тут-жа непадалёку, узнімаліся дзве школьныя будыніны, а насупраць, праз вуліцу, яшчэ болей велічлівы дом валаснога праўлення. Крыху ў баку ад яго стаяла простая, але досыць стройная цэркаўка ў густым вянку высокіх белых бяроз.

«А тут, напэўна, вясною прыгожа»,— падумаў Лабановіч.

Дзядзька Нічыпар Кудрык павярнуў коніка ўлева і праз хвіліну ці дзве спыніўся перад высокім школьным ганкам.

Не вылазячы з саней, Лабановіч дастаў з кішэні чатыры рублі: тры па ўгавору і рубель, накінуты за стаpанне дзядзькі Нічыпара Кудрыка.

Дзядзька Нічыпар зняў шапку, падзякаваў настаўніку.

— Калі спатрэбіцца фурманка, дык накажыце мне. Жыву я на тым канцы сяла, першая хата за бацюшкавым домам.

На ганку перад дзвярыма школы яны развіталіся.

Дзверы ў школу былі незапёртымі. Невялічкі і даволі цёмны карыдорчык аддзяляў класны пакой ад кватэры настаўніка. Лабановіч крыху здзівіўся цішыні і бязлюддзю. Ён паставіў чамаданы, а сам асцярожненька адчыніў дзверы ў класны пакой. Клас быў пусты, халодны і таксама бязлюдны. Даўно нябеленыя сцены насілі на сабе сляды розных пашкоджанняў. Тынк з розных мясцінак быў абабіты. З-пад яго свяціліся пераплёты дранак, прыбітых да сцен. Геаграфічныя карты віселі дзе папала і як папала. Карта Еўропы, страціўшы роўнавагу, пахілілася адным сваім краем да самай падлогі. Сама-ж падлога нагадвала сабою твар чалавека, бязжаласна пабіты воспаю. На ёй ляжаў няроўны слой засохлай гразі, нанесенай сюды, як відаць, яшчэ з восені вучнёўскімі лапцямі.

Лабановіч моўчкі дакорліва паківаў галавой і вышаў з класа. Насупраць класных дзвярэй былі другія дзверы — у настаўніцкую кватэру. Яны таксама былі незамкнёны. Лабановіч адчыніў іх, унёс свае чамаданчыкі ў кватэру і спыніўся каля парога. Дашчаная перагародка раздзяляла кватэру на два досыць прасторныя пакойчыкі. На процілеглым канцы першага пакойчыка супраць дзвярэй стаяў стол без настольніка, такі-ж убогі і нецікавы,

як і сам гэты пакой. На стале і пад сталом валяліся крошкі, агрызкі селядцоў, скарынкі хлеба і коркі ад бутэлек. Дзве пустыя бутэлькі ад гарэлкі гаротна туліліся у куточку за сталом. Непафарбаваная, даўно нямытая падлога была ўся ў плямах і насіла на сябе сляды рознага бруду.

«Куды-ж я папаў?» — запытаў у думках самога сябе Лабановіч.

Ён падышоў да перагародкі і штурхануў дзверы. Дзверы з шумам расчыніліся. Лабановіч убачыў драўляны ложак. На ложку ляжаў чалавек, накрыты з галавою дзяругамі. Шумна расчыненыя дзверы патрывожылі сон ляжаўшага чалавека. Ён заварушыўся, сцягнуў з галавы дзяругу. З-пад дзяругі паказалася ўскудлачаная чарнявая галава. Лабановіч адразу пазнаў, каму належыць гэта галава: на ложку ляжаў тутэйшы настаўнік з громкім прозвішчам на дваранскі лад — Срэтун-Сурчык! Ён годам раней скончыў настаўніцкую семінарыю. Лабановічу і ў галаву не прыходзіла сустрэцца з ім тут і быць назначаным на яго месца. Срэтун-Сурчык расчыніў свае заспаныя вочы і са здзіўленнем паглядзеў на Лабановіча, пазнаў яго і вінавата пасміхнуўся.

— Ах ты, абібок! — весела крыкнуў Лабановіч, схапіў Срэтун-Сурчыка пад пахі, вывалак яго з бярлогу і паставіў на цыбатыя ногі. Срэтун-Сурчык не захацеў спасаваць перад сваім госцем, і яны схапіліся ўплечкі — Срэтун-Сурчык у адной бялізне, Лабановіч у зімовай вопратцы. Госць спрытна адарваў гаспадара ад падлогі, закруціўся з ім, потым падставіў «ножку» і бухнуў яго ў бярлог.

— Ты чаго-ж валяешся тут да гэтага часу? Пара ўставаць ды і школу пара аслабаняць, бо яна ўся гразёю зарасце, — прамовіў Лабановіч.

— Ці бачыш, які рэвізор знайшоўся! — азваўся Срэтун-Сурчык.

— Рэвізор не рэвізор, а настаўнік гэтай школы цяпер я!

— Ну, ты яшчэ пачакай, — запярэчыў Срэтун-Сурчык: — сход заяву паслаў у дырэкцыю, каб мяне пакінулі тут. . . . . . . .

Лабановіч паглядзеў на яго, засмяяўся.

— Чакай, цётка, Пятра — будзеш сыр есці. І запытаў: — За што пераводзяць? У крамольнікі папаў?

— Ну, не без гэтага! — горда пацвердзіў Срэтун-Сурчык.

— Ну, дык вось я табе што скажу: не цеш сябе, хлопча, марнымі надзеямі, а лепш паціхеньку бяры лахі пад пахі і выбірайся. Ці ты думаеш, мне міла твая школа? Каб гэта ад мяне залежала, дык я і цябе і тваю школу за дзесяць вёрст абышоў-бы. На жаль, яна зараз мая.

Срэтун-Сурчык пачуў праўду ў словах свайго намесніка.

— Ды ўжо, праўду сказаць, я і провады ўчора наладзіў. Але ўсё-ж з нагрэтым кутком шкада расставацца.

— У каго ён не быў, нагрэты куток? — сказаў Лабановіч. — Ну, што-ж? Будзем награваць новыя. Але скажы ты мне, чаму ў цябе школа такая запушчаная? Нешта не відаць, каб ты яе нагрэў.

— Рэволюцыя, брат, — сказаў Срэтун-Сурчык і махнуў рукою. Ён пачаў выбірацца з бярлогу і прыводзіць сябе ў парадак. Лабановіч пазіраў на яго і пасміхаўся сваім унутраным смяшком.

— Рэволюцыя, кажаш? — прамовіў ён: — праўда, рэволюцыя крышыць і ломіць усё на сваёй дарозе, але гэта не значыць, каб вакол нас была гразь і бруд.

Расчыніліся дзверы. У кватэру зайшоў малады чалавек. На яго губах, прыкрытых рыжаватымі вусікамі і крыху паднятых к носу, засвяцілася ўсмешка. Гэта — другі настаўнік Верханьскай школы. Малады чалавек назваў сябе Анцыпікам. Гаварыў ён трохі ў нос. Пры гутарцы язык яго як-бы чапляўся за нешта ў роце і часамі прышчоўкваў. Калі людзі прыдумалі, як запісаць на пісьме той гук, што выказвае чалавек, каб спыніць каня, і то не дакладна, то яшчэ цяжэй запісаць прышчоўкванне языка Івана Анцыпіка.

«Блізкімі сябрамі з ім не будзем», — падумалася Лабановічу з першага знаёмства з Анцыпікам. З гутаркі з ім Лабановіч даведаўся, што свае заняткі з двума малодшымі групамі Анцыпік пачаў у часе пасля зімовага перапынку. Сярод-жа вучняў старэйшай групы Срэтун-

Сурчыка склалася такое перакананне, што ў гэтым годзе ніхто з іх не будзе прадстаўлен да «экзамену». На другі дзень Срэтун-Сурчык выехаў у сваю новую школу.

### III

Лабановічу запалі ў памяць словы Анцыпіка пра тыя гутаркі, што хадзілі між вучняў аб экзаменах. Ён рашыў на трэці дзень прыступіць да школьных заняткаў. Яго сэрца трохі балела за вучняў, якіх абыходзіла справа аб сканчэнні школы. Ён іх не ведаў, і яму хацелася іх пабачыць. Але наўперад трэба было прывесці ў парадак школу, ачысціць яе ад бруду.

Старожка, нізенькая, сухенькая, рухавая бабка, пазнаёмілася з новым настаўнікам яшчэ ў першы дзень яго прыезду. Яна спярша ўкрадкам вельмі ўважліва разглядала яго з нейкаю сваёю зацікаўленасцю. Твар яе быў заклапочаны, і сама бабка выглядала невясёлаю. Відаць, яна шкадавала ранейшага настаўніка, да якога прывыкла за тры гады яго настаўніцтва. Бабка Параска не мела ні роду, ні племя. Была яна круглая бабылка. Не мела ні мужа, ні сям'і. Называла яна сябе «самасейкаю». Яна не ведала, хто яе бацька. А маці, радзіўшы без шлюбу Параску, пакінула яе сіратою, калі ёй было не больш як пяць гадоў. Усё сваё жыццё пражыла Параска ў чужых людзей, і жыццё яе не было радасным. Адно, што яна мела, гэта — цяжкая праца на чужых людзей. Працу яна любіла і працавала сумленна, бо іначай ёй нельга было жыць.

Як толькі выехаў Срэтун-Сурчык, бабка Параска ўзялася за работу. Наклала дроў у печ, падпаліла іх і завінулася з венікам каля хаты, старанна падмятаючы пакойчык.

— Як засядуць, дык на ўсю ноч. Гразі пананосяць, панакідаюць агрызкаў, а ты чакай, пакі не павыносіць іх з кватэры, — дакорліва бурчала бабка Параска. Відаць, яна хацела апраўдацца перад новым настаўнікам.

— А мы, бабка, не будзем такіх свіней у дом пускаць, — сказаў Лабановіч.

Бабка Параска спыніла работу, разагнулася. На яе

сухім круглым твары пазбягалі маршчынкі. Яна засмяялася.

— Не можна, панічок, так казаць, бо ўсё-ж гэта людзі высокія — паны, панічы, — заўважыла бабка Параска, але, відаць, і сама яна згаджалася, што гэта не людзі, а свінні.

Лабановіч адсунуў стол на падмеценае месца і сеў разглядаць школьны журнал — тыя раздзелы, дзе настаўнік робіць запісы, чым займаліся вучні ў кожную гадзіну вучэбнага дня. Уважна пазнаёміўся са спіскам вучняў, з іх прозвішчамі. Над некаторымі прозвішчамі ён спыняўся: яны проста цікавілі настаўніка сваім гучаннем, і яму хацелася паглядзець, што-ж гэта за чалавек, які носіць такое прозвішча. Усяго вучняў у двух старэйшых групах, з якімі належала весці заняткі Лабановічу, налічвалася каля пяцідзесяці. Амаль трэцяя частка вучняў былі дзяўчаткі. Гэта парадавала настаўніка, бо ў адной яго школе на Палессі не было ніводнай дзяўчынкі, а ў другой — не больш дзесятай часці вучняў. Знаёмства з класным журналам паказала, што школьныя праграмы не выпаўнены і на палавіну, тады як большая частка школьнага навучання ўжо засталася ззаду.

— Вы, панічок, пагрэйцеся каля агню, а я памыю падлогу, — сказала бабка Параска, ставячы каля печы крэселка. Лабановіч сеў супроць дзверцаў печы. Дровы ўгарэліся і весела патрэсквалі. Ад агню ішло лагоднае цяпло.

— А вось, бабка, як-бы нам у школе падлогу памыць?

— А вы скажыце Піліпу, няхай сходзіць да старасты, каб жанок выслаў. Гэта ўжо яго клопат.

— Што ні край, то свой абычай, — сказаў настаўнік і папрасіў бабку паклікаць стоража. Прышоў сторож Піліп, чалавек сярэдніх гадоў, шчуплы, вяртлявы. Гаварыў ён тоненькім галаском, часта рагатаў сухаватым смехам і пры кожным зручным выпадку зводзіў гутарку на «кватэрку» гарэлкі. Лабановічу кінулася ў вочы, што людзі, з якімі ён тут сустракаўся, былі дробныя, худыя, заморавыя. Як відаць, тутэйшы народ жыве надзвычай бедна.

— Ну, Піліп! Прысядзь, пагрэйся. Пагутарым.

Сторaж няёмка памяўся, а потым прысеў на калодачку, на якую станавілася бабка Параска, каб адлажыць або залажыць юшкі. «Недаростку трэба падмостку», — гаварыла яна ў такіх выпадках пры людзях.

— Даўно старажуеш тут? — запытаў Лабановіч Піліпа.

— Да ўжо мусіць чацверты год, — адказаў Піліп.

— А колькі плацяць?

— А! якая там плата, — махнуў рукою Піліп: — і на кватэрку гарэлкі не выкраіш.

— Ну, а якая твая работа?

— Работы, дык яно, сказаць, хапае: дроў насеч, вады нанасіць, печы выпаліць ды школу прыбраць.

— Але школа не відаць, каб была прыбрана.

— Ды і не прыбрана, — пацвердзіў Піліп і дадаў: — настаўніка забіралі, дык яно ўсё і спынілася. Ізноў-жа: прыбірай ці не прыбірай, а гразі пананосяць.

— А вось давай папрабуем прыбраць ды будзем глядзець, каб у школе было чыста. Можа якую раду і дамо. Як думаеш?

— Падумаўшы, можа што і прыдумаеш, — згадзіўся Піліп.

— Ну, дык вось, — першым чынам пазнімаць павуціну, бо ў ёй яшчэ леташнія мухі матляюцца. А потым вымыць клас. І зрабіць гэта сягоння. Чаму клас не памыты?

— Ды жанкі з чаргі збіліся і да згоды ніяк не прыдуць. Ось каб ім даць па кватэрцы, дык жыва заварушыліся-б.

—А ты, бачу, любіш кватэркі куляць? — пацікавіўся настаўнік.

— А хто іх не любіць? — пытаннем на пытанне адказаў Піліп і дадаў: — вось той паніч, што быў перад вамі: зойдзе, бывала, да яго хто, ён і кажа мне: «Схадзі, Піліп, у манапольку». Ну, раз кажуць, значыць трэба. А я чалавек увішны і паслушны. Прынясу гарэлкі. Выпіваюць і мяне не пакрыўдзяць. Пакліча той паніч мяне і кажа: «выпі, Піліп, чарку!..» Слаўны быў чалавек, дай яму божа здароўе! — дыпламатычна закончыў Піліп.

— Гэта вельмі добра, — сказаў Лабановіч, — што ты

чалавек увішны і паслушны. Дык давай за работу, а потым ужо будзем пра кватэркі гаварыць.

У сенцах Піліп паківаў сам сабе галавою і сказаў:

— Не, брат, з гэтым піва не зварыш!

Стораж Піліп уздыхнуў і пайшоў выконваць загад настаўніка. Пад вечар, калі пачынала ўжо цямнець, школа была прыбрана: падлога памыта, парты вычышчаны і выцерты, павуціна знята, і геаграфічныя карты занялі на сценах сваё адпаведнае месца і ў сваім адпаведным выглядзе. Лабановіч цішком паслаў бабку Параску ў манапольку. Бабка Параска прынесла кручок гарэлкі, або «мярзаўчыка», як яго тады называлі. Калі работа па ўпарадкаванню школы была скончана, настаўнік падзякаваў жанчынам, а стаража Піліпа заклікаў да сябе. Пераліўшы «мярзаўчыка» ў шклянку, ён паднёс яе Піліпу. Піліп кіўнуў настаўніку галавою, сказаўшы: «Будзьце-ж здаровенькі», і з асалодаю, не спяшаючыся, ачысціў шклянку. А калі «мярзаўчык» разышоўся па яго жылах, ён пераканана сказаў:

— А вы, панічок, мудрэй за таго настаўніка, яй-богу!

## IV

Пад вечар таго-ж дня, ужо на змярканні, стаў пашумліваць вецер. Пасыпаў дробненькі гусценькі сняжок. Бялявыя зімовыя хмары нізка навіслі над змяртвелаю зямлёю. Вецер крапчэў. І неба і зямля звіліся ў адным суцэльным віхры снежнага пылу і цемрадзі. Разгулялася завіруха. На ўсе галасы гудзела за вокнамі яе бязладная музыка. І трэба было моцна ўслухоўвацца, каб у гэтай дзікай сімфоніі адрозніць паасобныя гукі, з якіх яна складалася. Аголеныя дрэвы шумелі глуха, надрыўна. Як звар'яцелыя, біліся аб сцены акяніцы, сумотна скуголілі завескі, на якіх яны трымаліся. З царкоўнай вежы слаба даносіўся прыглушаны голас званоў: званар-вецер біў языкамі званоў аб іх край, і гэты звон, здавалася, падаваў весці пра нейкую бяду, пра нейкае вялікае гора. Бура налятала парывамі, як дзікі звер, які вырваўся на волю з свае жалезнае клеткі, усім цяжарам налягала на стрэхі будынін, з шумам ганяючы па іх патокі снегу. Пад

яе напорам скрыпелі кроквы і глуха стагналі сцены. А за вугламі хат, у цесных завулках стаяў суцэльны свіст і галёканне, нібы нехта магутны, страшны і няўмольны ішоў па зямлі і прыводзіў у рух усе яе струны. А якую жалосную, нескончаную песню выводзіў комін! У тон гэтай песні барабанілі юшкі, зрываючыся са свайго месца, а няшчыльна прыладжаныя дзверцы каля іх далучалі свае многагалосыя свісты. Было нешта жудаснае, жалобнае ў гэтай песні, як-бы то быў плач над дарагім нябожчыкам.

Хто-ж ён, гэты нябожчык? Можа гэта той усенародны выбух гневу і абурэння супроць царскага самаўладства, памешчыцкага гнёту, выбух, які заліваецца зараз кроўю народа шляхам карных экспедыцый, шыбеніц, расстрэлаў, узаконеных царом і «святою» цэрквою?

Гэтая балесная песня ў коміне клала свой адбітак на настрой Лабановіча, і думкі яго мімаволі зварачаліся на палітычнае становішча ў царскай Расіі. Вышэй і вышэй падымае галаву чорная рэакцыя. Жорсткая рука царскага самаўладства з кожным днём тужэй сціскае пятлю на шыі народа, каб выбіць з яго ніколі не пагасаючы дух свабоды, волю да барацьбы за свае чалавечыя правы. Ужо адзін той факт, сведкаю якога быў Лабановіч яшчэ на Палессі і які глыбока запаў яму ў памяць — паяўленне цягніка пасля доўгай забастоўкі чыгуначнікаў, — пахіснуў яго веру ў перамогу рэволюцыі. Цяпер-жа не падлягала сумненню, што ў барацьбе з народам брала верх царскае самаўладства. Варта было абегла зірнуць на хроніку, што змяшчалася на старонках тагочасных часопісаў, на царскія загады, на розныя цыркуляры, каб пераканацца ў гэтым. Усё, што хоць у нязначнай меры ішло ад свабоды і прагрэсу, бязлітасна нішчылася пятамі царскіх сатрапаў. А побач з гэтым выніклі чорнасоценныя манархічныя саюзы. На паверхню ўсплывалі такія імёны, як Дубровін, Булацаль, Грынгмут, Гамзей Гамзеіч, Пурышкевіч і іншыя людскія пацяробкі. Ім была дана поўная свабода ў іх чалавеканенавісніцкай агітацыі і дзейнасці—за цара, за прастол і «ісконныя ўстоі» царскага самаўладства.

А на двары яшчэ з большаю сілаю бушавала завіруха. «Не прыдуць заўтра вучні», — падумаў Лабановіч. Ён зірнуў у акно. На вуліцы было цёмна. Непранікальная

заслона снегу, дзе ўсё мітусілася, рухалася, хадзіла ходарам, бы ў нейкім тлумным дзікім танцы.

«А што, калі пайсці з візітам да пісара? — падумалася Лабановічу: — усё-ж роўна схадзіць трэба — такая ўжо завялася традыцыя. Час-жа прападае марна. Але ці варта ў такое кручанае надвор'е рабіць візіт свайму суседу? Ён, можа, зачыніўся так, што да яго і не дастукаешся. А хто вылазіць з дому ў такую завіруху?» І ўсё-ж настаўнік рашыў завітаць да пісара. Цікава зірнуць, што на двары робіцца, а заадно і клопат пазбыць.

Бабка Параска рукамі замахала.

— Куды-ж гэта вы, панічок, надумаліся ісці ў такое шалёнае надвор'е? Ці вам жыць на свеце надакучыла?

— А я проста хачу паглядзець на мяцеліцу, — адказаў настаўнік. Не паслухаў бабкі Парасці, пайшоў. Толькі ён адчыніў дзверы на ганак, як на іх налёг вецер з такою сілаю, што настаўнік мусіў уперціся і натужыцца, каб не выпусціць з рук клямкі дзвярэй і не паехаць разам з імі. Вецер насядаў на яго і на дзверы так напорна, што ён насілу зачыніў іх. Стаяць на ганку было трудна: вось-вось садзьме вецер у гурбу, якая ўжо асталявалася па другі бок ганку, дзе было зацішней. Падняўшы каўнер і прыгнуўшыся, Лабановіч спусціўся з ганку. На вуліцы снегу было мала: вецер гнаў яго, як па жолабе, шліфуючы вуліцу і робячы яе слізкай. На сярэдзіне вецер падхапіў настаўніка і пагнаў яго ўздоўж вуліцы. Лабановіч прысеў на кукішкі, падставіўшы ветру спіну, і некалькі крокаў праехаўся, як на санках. Кватэра пісара засталася трохі ззаду. Вецер загнаў Лабановіча ў снег, дзе ён знайшоў апору і спыніўся. Настаўнік папікнуў сябе за сваю лёгкадумнасць. Ён павярнуў назад насустрач ветру. Вецер забіваў яму дыханне, хвастаў яго, як венікам, снегам па твары. «А ўсё-ж такі дайду!» — сказаў Лабановіч сам сабе і накіраваўся ў бок пісаравай кватэры. Абсыпаны снегам, як мельнік мукою, барукаючыся з ветрам, часамі ўступаючы яму, часамі пераадольваючы яго, нарэшце ўзлез ён на ганак воласці. Ён доўга стукаў у дзверы, але ніхто не падыходзіў. «Або не чуюць, або думаюць, што ў дом прэцца нейкі бадзяга», — падумаў Лабановіч. Пастукаў яшчэ раз — ніякіх адзнакаў жыцця.

Лабановіч ужо хацеў ісці назад, аж раптам грукнула засаўка.

— Хто там? — пачуўся голас з сярэдзіны.

— Сусед ваш, настаўнік.

Стораж упусціў настаўніка ў дом, паказаў пісараву кватэру. Лабановіч зняў паліто, атрос снег.

Пісар Васількевіч сядзеў у сваім запаветным пакойчыку, дзе ён часта любіў заставацца ў самоце, праўда, не ў поўнай, бо з ім звычайна была бутэлька гарэлкі, якую ён сяды-тады падносіў да сваіх пісаравых губ.

— Рад, рад! — прамовіў пісар. Але выраз пісаравага твару не сведчыў аб яго радасці. Пісар быў чалавек сярэдніх год і меў прафесарскі выгляд — строгі, сур'ёзны і нават сярдзіты. Акуратна падстрыжаная бародкалапатка надавала яму выраз інтэлігента.

— Як-жа вы ў такое надвор'е? — запытаў пісар, не праяўляючы ніякай зацікаўленасці да асобы настаўніка.

— Для добрага суседа хіба можа быць перашкодаю дрэннае надвор'е? — падкрэслена ветліва і з прытоенаю насмешкаю запытаў Лабановіч. Але і гэта не кранула пісара. Ён сядзеў пануры і чымся незадаволены.

— А чаму вас прыслалі сюды? — нечакана запытаў пісар.

— Каго-ж небудзь ды трэба прысладь, каб у школе работа была.

— Работа, — паўтарыў пісар і дадаў: — гледзячы якая работа... Нешта нашы настаўнікі праз меру да народа горнуцца, збіваюць яго з правільнай дарогі, — строга сказаў пісар і падняў на настаўніка свае блакітныя, досыць прыгожыя вочы.

Лабановіч не ўправіўся даць адказ на словы пісара, бо пісар раптам паставіў пытанне рубам:

— А вы не з такіх?

Лабановіч паглядзеў на пісара. Злыя агеньчыкі заіскрыліся ў вачах настаўніка, але ён стрымаўся і з дабрадушнаю ўсмешкаю сказаў:

— Я быў арыштаваны за тое, што гарнуўся, як вы кажаце, да народа. Але начальства разабралася і выпусціла мяне.

Пісар апусціў вочы на стол, на якім яшчэ значыліся сляды разлітай гарэлкі. Пісар не паклікаў суседа на

шклянку чаю. І толькі потым даведаўся Лабановіч, што ў асобе кожнага маладога чалавека пісар бачыў свайго асабістага ворага: пісар Васількевіч не давяраў сваёй жонцы.

V

Завіруха бушавала ўсю ноч і ўвесь дзень. Здавалася, не будзе канца яе лютай сіле, яе злоснаму завыванню. На вуліцы, як і раней, мітусіўся снег. Яго белая заслона закрывала будынкі і дрэвы. Навокал усё гудзела, траслося, выла, скуголіла. У кватэры настаўніка было холадна. Вецер прабіваўся праз вокны і сцены і разгульваў па хаце, як у сваёй уласнай кватэры. Пад вечар завіруха ўгаманілася. Нізкія воблакі, шчодра пасыпаўшыя снегам зямлю, падняліся вышэй. На вуліцы пасвятлела, хоць ужо надыходзіў вечар. І толькі цяпер перад вачамі раскрываўся малюнак таго, што натварыла завіруха. На вуліцы, у дварах каля будынкаў і ўздоўж платоў ляжалі горы снегу з самымі вычварнымі паветкамі і карнізамі, якіх не патрапіць вылепіць сам здольны скульптар.

Стораж Піліп, не скупячыся, напаліў печы ў школе. Школа даўно не апальвалася, і ў ёй было холадна, асабліва пасля такой вятругі. Як толькі добра разднела, пачалі патроху збірацца вучні, але далёка не ўсе прышлі яны ў гэты дзень. Ніхто не прышоў з суседніх вёсак і хутароў: дарога пасля мяцеліцы была яшчэ не працёрта. Усё-ж Лабановіч адчуваў нейкую маральную палёгку: ён любіў сваю школьную справу, і яму надакучыў вымушаны адрыў ад яе. Хоць ён меў ужо даволі значную школьную практыку, тым не меней першая сустрэча з новымі для яго вучнямі ў новай школе яго і цікавіла і трохі хвалявала. Вучні сядзелі ціха, не бегалі, не падымалі таго гармідару, які ўласцівы школьнікам. Відаць, і іх цікавіла асоба новага настаўніка, яго характар і адносіны да іх.

Лабановіч увайшоў у клас з некаторым спазненнем, мяркуючы, што можа яшчэ падыйдуць вучні. Пры паяўленні настаўніка вучні пужліва ўсталі, не зводзячы з яго вачэй. Настаўнік паздароўкаўся з імі як мага прыветней і сказаў:

— Сядайце!

Звычайна школьны дзень пачынаўся малітваю перад вучэннем. На гэты раз настаўнік адступіўся ад заведзенага парадку.

— Ну, што-ж? перш за ўсё хачу пазнаёміцца з вамі, — сказаў ён, сеўшы за стол.

Самым прыдатным спосабам знаёмства з вучнямі быў класны журнал. У журнале меліся вучнёўскія спіскі на кожны месяц. Па гэтых спісках настаўнікі штодзённа правяралі наяўнасць вучняў і ступень акуратнасці іх наведвання школы.

Лабановіч па спіску чытаў прозвішчы вучняў трэцяй групы. Калі вучня не аказвалася, ставіў паметку «нб», што азначала «не быў». У гэты дзень такіх аказалася большасць. Калі-ж вучань быў у наяўнасці, то ён, пачуўшы сваё прозвішча, уставаў і казаў: «Я!» Настаўнік углядаўся ў яго, каб лепей запомніць, затым каротка распытваў яго, колькі яму гадоў, каторую зіму ходзіць у школу, колькі часу заставаўся ў той ці іншай групе, чым займаецца дома, што ён любіць найболей з навукі. Усе гэтыя пытанні мелі адну мэту — лепш пазнаць вучняў і трохі разварушыць іх, рассеяць іх нясмеласць і напружанасць. Сярод вучняў, з якімі знаёміўся Лабановіч, звярнуў на сябе ўвагу настаўніка Грышка Мініч. Калі настаўнік назваў яго прозвішча, ён нерашуча і сарамяжліва ўстаў, прыгнуўся, трымаючыся за парту. Гэта быў бялявы, худы, высокі і тонкі хлапчук. На яго твары блукала разгубленая ўсмешка. Мініч быў вучань з другой групы, але па свайму росту ён быў самы большы ў школе, і гэта, відаць, было яму непрыемна. Да таго-ж ён яшчэ меў недахоп у вымаўленні. Мініч шапялявіў. Было яму чатырнаццаць гадоў. Пасля кароткай гутаркі, адказаў на запытанні настаўніка, адказаў разумных і сталых, Мініч трохі памяўся і нясмела звярнуўся да настаўніка з просьбаю — перавесці яго ў трэцюю групу.

— А чаму-ж не перавёў цябе ранейшы настаўнік? — запытаў Лабановіч.

— Я неакуратна наведваў школу і шмат прапусціў заняткаў.

— А чаму прапусціў? Чаму неакуратна хадзіў у школу?

Мініч растлумачыў, што ён адзін работнік у доме. Бацькі ў яго няма. Маці доўгі час была хворая, і яму прыходзілася займацца рознымі хатнімі справамі. Цяпер-жа ў яго вольны час, і ён аддасць яго цалкам навучанню.

Лабановічу стала шкада гэтага нясмелага, сарамяжлівага і, відаць, здольнага хлопца. У самым тоне яго просьбы гучэў боль чалавечай душы.

— Ну, добра, Мініч: перавяду цябе ў трэці клас. Будзеш старацца, я памагу табе. А далей пабачым.

Шчаслівы Мініч сеў і ўважліва кінуў зірк на сваіх школьных таварышаў.

Настаўнік выкрасліў прозвішча Мініча з другой групы і запісаў у трэцюю.

Знаёмства з вучнямі і гутаркі з імі занялі добрую гадзіну часу, пасля чаго быў аб'яўлен перапынак.

Першы дзень заняткаў Лабановіч скончыў шмат раней звычайных школьных рабочых дзён. Гэты дзень паказаў, што наперадзе многа напружанай працы ў школе з вучнямі, бо яны шмат прапусцілі часу, а школьны курс засвоены імі слаба. Але гэтая труднасць не палохала настаўніка і не зніжала яго добрага настрою. Тая-ж акалічнасць, што ён будзе мець справу толькі з двума групамі, яшчэ болей умацоўвала яго веру ў поспех і падымала ў ім жаданне цалкам аддацца рабоце ў школе. За гэты нядоўгі час свайго побыту на новым месцы ён паспеў з большага агледзецца, і яно пачынала падабацца яму. Ён палюбіў і школу і вучняў. Цяпер і само сяло Верхань і яго ваколіцы выглядалі шмат весялей і ўтульней. Лабановіч вышаў на ганак школы. Каля будынка воласці стаяла некалькі фурманак. Часам праходзілі людзі, маючы нейкія свае патрэбы ў воласці. Лабановіч прыгадаў свой нядоўгі візіт да пісара Васількевіча і яго негасцінны прыём. Настаўніку захацелася павандраваць куды-небудзь у ваколіцы сяла. Але ўжо вечарэла, і было многа снегу. Сваю вандроўку ён адлажыў на болей зручны час. Увесь вечар гэтага дня ён сядзеў дома, закапаўшыся ў свае школьныя справы. Бабка Параска ставілася да свайго новага гаспадара з ласкаю роднае маткі. Некалькі разоў заходзіла яна да яго. Ёй прыемна было паведаміць

яго аб тым, як ставіліся да яго вучні, што яны гаварылі аб ім. А вечарам бабка надумалася пачаставаць настаўніка асабліваю вячэраю. Яна наскрэбла чыгунчык бульбы. Калі бульба зварылася, бабка патаўкла яе на кашу, дадала пшанічнай мукі ды ўбіла пару яечак. З кашы яна рабіла піражкі і падсмажвала іх на скавародцы. Такіх піражкоў настаўніку ніколі не даводзілася прабаваць, і ён еў іх з ахвотаю і хваліў кухарскія здольнасці бабкі Параскі. Бабка Параска ўся цвіла ад задаволення.

## VI

Сярод розных настаўніцкіх турбот у новых умовах не малое месца займала пытанне аб адносінах да тутэйшай вясковай так званай інтэлігенцыі. З практыкі мінулых гадоў, з непасрэднага сутыкання з інтэлігенцыяй Лабановіч уведаў цану ёй і не бачыў у ёй нічога такога, што хіліла-б яго ў яе бок. Карты, п'яныя вечарынкі, плёткі, гутаркі аб жаніцьбе і розныя патайныя замахі на халастога чалавека, каб абярнуць яго ў жанатага, — усё гэта вядомая і ўжо старая для Лабановіча гісторыя. Візіт да пісара Васількевіча яшчэ болей астудзіў у настаўніку жаданне да далейшых візітаў. Але без іх абыйсціся было трудна. Ламаць устаноўленыя традыцыі нельга было без рызыкі здабыць славу нейкага адшчапенца і чалавека падазронага, асабліва ў такі час, калі настаўнікі зарэкамендавалі сябе, як людзі з крамольніцкім складам мыслей.

У сяле самая відная фігура тады была — поп. Абмінаць папа ніяк не выпадала, тым болей, што настаўнік хадзіў ужо да пісара, што стала вядома папоўскай фаміліі, і сукосным чынам да Лабановіча даходзілі весткі аб нецярпенні ў папоўскім доме сустрэцца з новым настаўнікам. Вось чаму, хочаш не хочаш, а да папа з візітам заявіцца трэба.

У бліжэйшы суботні вечар пасля царкоўнай службы Лабановіч узяў курс на процілеглы бок сяла, дзе сярод прасторнага двара з агародам і садам стаяў вялікі і даволі прыгожы дом тутэйшага бацькі Уладзіміра Малевіча. Ад дома выступаў шырокі крыты ганак са скругленымі слупамі. Улева ад яго ішла веранда. Тут у цёплыя

дні вясны і лета спраўляў свае трапезы бацька Уладзімір. Уся яго гаспода нагадвала сабою сядзібу землеўласніка сярэдняй рукі. Разгледзець яе больш падрабязна і ацаніць так, як таго яна варта, зараз было трудна: заміналі вечаровы змрок і снег, што тоўстым пластом закрываў страху дома і стрэхі падсобных гаспадарскіх будынкаў. Праз шчыліны зачыненых акяніц прабівалася яркае асвятленне. Лабановіч узышоў на высокі ганак і пастукаў у дзверы. Крыху счакаўшы, пачуліся лёгкія крокі, а потым жаночы голас каля самых дзвярэй.

— Хто там?

— Новы настаўнік. Я з візітам да бацюшкі.

Дзверы адчыніліся. Маладая, высокая, ладная жанчына падалася ўбок, прапусціла настаўніка і, лагодна ўсміхнуўшыся, сказала:

— Заходзьце.

Лабановіч недаўменна зірнуў на маладую жанчыну — хто яна! Папова дачка ці служанка? Са столі пярэдняй звісала лямпа. Па баках былі прыладжаны вешалкі, а на іх поўна жаночай і мужчынскай адзежы, муфт і шапак.

— Я, здаецца, не ў час прышоў, — разгублена прамовіў Лабановіч.

— Нічога, нічога, — сказала жанчына: — знімайце паліто.

Яна ўзяла паліто і ўціснула яго між адзежы, ужо вісеўшай на вешалцы.

Маладая жанчына аказалася ахмістрыняю бацькі Уладзіміра і не толькі ахмістрыняю: бацька Уладзімір быў не ў ладах са старою, тоўстаю накшталт капы матушкаю, але ўсе яны жылі разам, размеркаваўшы між сабою дамашнія абавязкі і функцыі.

Покі Лабановіч прыводзіў сябе ў парадак, ахмістрыня паспела далажыць аб яго прыходзе. Настаўнік няспрытна пераступіў парог і спыніўся збянтэжаны: у сталовай за доўгім сталом сядзела чалавек з дваццаць незнаёмых людзей рознага полу і ўзросту. Але Лабановічу не далі часу разгледзецца. Прад яго вачамі прамільгнулі няясна толькі дзве постаці: дзябёлая барадатая постаць бацькі Уладзіміра і постаць пісара Васількевіча. Далей разгублены візітант нічога не ўбачыў: да яго бурна пад-

бег старшы сын бацькі Уладзіміра, Віктар, нізкаваты, карэнкаваты хлопец гадоў дваццаці. Як самага лепшага свайго друга, якога ён не бачыў доўгія гады, Віктар крэпка абняў за шыю новага госця і стаў яго цалаваць. А ў гэты час каля іх ужо стала перарослая дзявочы век віктарава сястра Глафіра. Яна адапхнула Віктара і таксама бурна выказала свае пачуцці, а потым узяла настаўніка пад руку і павяла знаёміць з гасцямі, пры гэтым яна гаварыла:

— У нас па-простаму, па-прыяцельску.

— Сюды, сюды вядзі яго! — скамандаваў бацька Уладзімір. Лабановіч падышоў да яго. І не паспеў сказаць слова, бо бацька Уладзімір, пахіснуўшыся, шырока развёў рукі, абняў госця, прыліп да яго мяккімі валасатымі губамі і пацалаваўся з ім, як на вялікдзень. Ад бацькі Уладзіміра несла гарэлкаю, як з віннага пограба. Абыходзіць гасцей бацька Уладзімір не пусціў Лабановіча.

— Садзіся тут, — паказаў ён Лабановічу месца каля сябе і дадаў, зварачаючыся да гасцей:

— Панюхаецеся з ім потым.

У бацькі Уладзіміра быў свой лексікон. Ён часта ўжываў такія словы, якія ішлі наперакор не толькі статуту святой царквы, але і самай элементарнай цэнзуры. Набажэнствы ў царкве ён заўсёды правіў пад «мухаю».

— П'еш гарэлку? — запытаў ён Лабановіча.

— З духоўнымі асобамі гарэлка п'ецца смачна. Не ведаю толькі, які філосаф сказаў гэта, — прамовіў Лабановіч.

— Маладзец! — засмяяўся бацька Уладзімір. — Духоўныя асобы маху па гэтай часці не даюць.

У пацвярджэнне сваіх слоў ён завёў басам:

Отец наш благочинный
Пропил тулуп овчинный
И ножик перочинный —
Омерзительно!

Праспяваўшы гэты куплет, поп нечакана звярнуўся да суседа:

— Пакажы мне свае вочы!

Паглядзеўшы настаўніку ў вочы, бацька Уладзімір устанавіў:

— Вочы, як вочы. А вось пісар кажа, што ў тваіх вачах рэвалюцыя гарыць.

Пісар заварушыўся ў крэсле і злосна зірнуў на бацьку Уладзіміра.

— Не прыстала бацюшку плёткамі займацца, — заўважыў пісар.

Бацюшка толькі пусціў смех у густую бараду і ціха прамовіў да Лабановіча.

— Калі ў цябе ёсць нелегальная літаратура, нясі яе мне: схаваю пад прастол — ніякі чорт не дабярэцца да яе.

Бацька Уладзімір ужо быў парадкам п'яны. Ён раптам змоўк, спахмурнеў і зараз-жа падняўся з месца. Не сказаўшы болей ні слова, ён, пахістваючыся, накіраваўся ў сваю спачывальню. Яго шырокая спіна пакалыхвалася, як у мядзведзя. Праводзіць яго пайшла ахмістрыня. На яго выхад ніхто не звярнуў увагі — так рабіў ён не першы раз. Госці нават уздыхнулі лягчэй. Толькі пісар заставаўся надзьмуты і пануры. Насупраць за сталом сядзела яго жонка, Ганна Пятроўна, баючыся падняць вочы на каго-небудзь з маладых людзей. Яна была прыгожая жанчына і трохі нагадвала сабою чырвовую даму. Увесь час пісар не спускаў яе з вока, і ніводзін рух яе не заставаўся ім незаўважаным. Хутка і ён падняўся з-за стала, з сім-тым развітаўся, забраў сваю жонку, як ні ўпрашвала яго Глафіра пакінуць яе тут, і пайшоў з ёю дахаты. За пісарам паўставалі і іншыя пажылыя госці. Гэта былі дробныя навакольныя землеўласнікі, з якімі Лабановічу не давялося ні пазнаёміцца, ні сустрэцца потым. Нязручна і няёмка пачуваў ён сябе тут. Сабраўся ісці дамоў, але белабрысая, куртатая Глафіра, вылітая маці-пападдзя, катэгарычна запратэставала. Да яе далучыўся Віктар, Саўка, яго малодшы брат, цыбаты, доўганосы хлопец, непадобны ні да папа, ні да пападдзі, і сама пападдзя.

— Куды вам спяшацца? — казала матушка: — дзеці плачуць у вас дома, ці што? Пагуляйце, павесяліцеся. Унь колькі дзяўчат, як маку на градзе.

На кавалкі разрывалася Глафіра, каб стварыць атмасферу весялосці і ўцягнуць у яе мала знаёмага тут но-

вага настаўніка. На вечары засталася адна толькі моладзь. Сярод яе была нават адна графіня з занепалага графскага роду, Вера Іжыцкая, захаваўшая ў сябе адну толькі графскую пароду, але і сама па сабе яна была прывабная дзяўчына. Лабановіч употайку наглядаў за ёю. Яна сядзела ціха, стрымана. Уважліва прыглядалася да ўсяго, што тут адбывалася. Крыху прыжмураныя цёмнашэрыя вочы яе пазіралі кудысь задумліва, як-бы яна штось успаміналa і ў мыслях перабіралася ў іншае асяроддзе. «Якім чынам апынулася тут графіня?» — думаў Лабановіч. Ён прыгадаў аднаго слуцкага рамізніка, які меў княжацкі тытул і ў крытычных выпадках казыраў ім. Глафіра заводзіла хрыпаты грамафон, потым мабілізавала Віктара на спевы. У Віктара быў някепскі голас. Як мага прачула, праспяваў ён надрыўны раманс: «Отойди, не гляди, скройся с глаз ты моих». Словы раманса і яго выкананне рабілі цяжкае ўражанне, і толькі потым асэнсіў яго Лабановіч: і словы мелодыі сведчылі аб распадзе жыцця тагочаснай грамады, дзе не заставалася ніякіх перспектыў на будучыню, што падкрэслівалася словамі раманса: «А тебя с красотой продадут, продадут!» Моладзь, асабліва дзяўчаты і ў тым ліку графіня, уважліва слухалі і часамі цяжка ўздыхалі.

Лабановіч сядзеў, як звязаны, і не адчуваў ніякага задавалення. Яго замкнёнасць і скованасць звярачалі на сябе ўвагу і былі не на карысць яму ў вачах моладзі.

Вечар скончыўся гульнямі. Селі гуляць у «фанты». Па дагавору было дамоўлена, што той, хто праштрафіцца, павінен па свайму выбару пацалаваць каго-небудзь з прысутных. Калі праштрафіцца хлопец, ён павінен выбраць дзяўчыну і наадварот. Самым цікавым у гэтай гульні і быў такі момант. Аматараў праштрафіцца было не мала. Праштрафілася і графіня. З хітраватаю ўсмешкаю вышла яна ў круг. Крадучыся, як кошка, яна абвяла поглядам хлопцаў і падышла да Лабановіча. Бедны настаўнік прышоў у замяшанне, чым і выклікаў дружны смех і воплескі. «Лепш было-б пацалавацца адзін-на-адзін», — падумаў Лабановіч, — але сказаць гэтага не асмеліўся.

Лягчэй уздыхнуў ён тады, калі, нарэшце, выбраўся за парог дома бацькі Уладзіміра. Графіню Іжыцкую ўспамінаў ён часта, але болей сустрэцца яму з ёю не давялося.

## VII

Работа ў школе наладзілася, увайшла ў сваю каляіну.

Пасля школ з чатырма групамі заняткі з двума паказаліся Лабановічу надзвычай лёгкімі. Удвая болей увагі ён мог зараз аддаваць кожнай групе. Тыдні праз два ён вылучыў са старэйшай групы чатырнаццаць вучняў для прадстаўлення іх да экзаменаў. У лік чатырнаццаці ўваходзіла дзевяць хлопчыкаў і пяць дзяўчатак. Сярод хлопцаў прадстаўленым да экзаменаў аказаўся і Мініч. Якая гэта была для яго радасць і гордасць. У яго былі выдатныя здольнасці і незвычайная стараннасць. Аднойчы на занятках Лабановіч заўважыў, як Мініч не-не ды заплюшчыць вочы і клюне носам у лаўку. Неадольны сон прычапіўся да хлопца. Нарэшце Мініч заснуў. Настаўнік падышоў і крануўся да яго пляча.

— Што гэта ты, Мініч, спіш на занятках?

Мініч спалохана прахапіўся. Вінаватая ўсмешка заблукала на яго губах. Вучні зарагаталі.

— Я не спаў усю ноч, — прашапялявіў Мініч.

— Чаму-ж ты не спаў? — пацікавіўся настаўнік.

— Я вывучаў гісторыю Ветхага завета, — адказаў Мініч.

— І многа-ж ты вывучыў за ноч?

— Усю прайшоў.

— І цяпер ты яе ведаеш, — дапытваўся настаўнік.

— Ведаю, — упэўнена пацвердзіў Мініч.

Лабановіч здзівіўся, калі на цэлы рад яго запытанняў Мініч даваў дакладныя і грунтоўныя адказы.

— Маладзец! — пахваліў яго настаўнік.

Мініч стаяў задаволены і горды. Вучням стала няёмка за іх пусты і неабгрунтаваны смех з свайго таварыша.

— Цяпер ты можаш пасмяяцца з іх, — сказаў Лабановіч Мінічу і дадаў: — Пасля абеду ты можаш не прыходзіць у школу, адаспіся.

— Мне ўжо не хочацца спаць, — прамовіў шчаслівы Мініч.

Цэлыя дні з ранку да вечара аддаваў Лабановіч школе. Ён адчуваў вялікае маральнае задаваленне: яго вучні

займаліся дружна, старанна і рабілі значныя поспехі. Асабліва шмат увагі адводзіў ён чатырнаццаці вучням, падрыхтоўваючы іх да экзаменаў. Калі дні значна пабольшыліся і пасвятлела, ён склікаў іх пасля класных заняткаў і займаўся з імі асобна. Гэта былі самыя лепшыя часіны школьнага навучання і для настаўніка і для яго вучняў. Тут ужо не захоўваўся той строгі рэгламент, які быў абавязковым для школьнага парадку, калі ўсе вучні былі ў поўным зборы. Тут Лабановіч выходзіў часта за рамкі праграмы. Яму хацелася як мага болей абудзіць дапытлівы розум сваіх выхаванцаў, шырэй расчыніць ім вочы на свет і навучыць іх крытычна ставіцца да жыцця, да сваіх абавязкаў у адносінах да людзей. Абыклыя задачы, дыктоўкі, граматыка з яе галаваломнаю літарай «яць» часта замяняліся чытаннем мастацкіх твораў рускай класічнай літаратуры, знаёмствам з біяграфіямі выдатных людзей, разборам тых ці іншых твораў. Настаўнік імкнуўся заўсёды трымаць сваіх вучняў у стане зацікаўленасці да таго, аб чым ён гаварыў або чытаў ім. Калі сярод хлопцаў вылучаўся сваімі здольнасцямі Мініч, то між дзяўчатак такою была Ліда Мураўская. Бацька яе быў тэлеграфістам, а маці хрышчоная яўрэйка. Ліда і яе меншы брат Коля, таксама прадстаўленыя да экзаменаў, жылі пры матцы на хутары кіламетраў за шэсць ад школы. Іх бацька памёр гады тры таму назад, калі Колю было дзевяць гадоў, а Лідзе адзінаццаць. Ліда і Коля жылі дружна. Сястра не спускала брата з вока і не давала яму разыходзіцца ў школе, і Коля слухаў яе. Наогул Ліда карысталася павагаю не толькі з боку яе таварышак, але і з боку хлопцаў. У яе быў прыроджаны такт і ўменне трымаць сябе сярод школьнікаў. Яе аўтарытэту ў значнай меры спрыялі яе здольнасці да навукі, а таксама і яе прыгожы твар, яе характар і ўвесь яе воблік. Большыя хлопцы пачыналі заглядацца на Ліду, а адзін з іх, Думітрашка, кахаў яе першым, для яго самога яшчэ неакрэсленым каханнем. Лабановічу збоку было відней гэтае кволае абуджэнне хлапцоўскага пачуцця. Адзін раз ён нават заўважыў яму:

— Думітрашка! Ты болей глядзі ў кнігу, чым на Ліду.

Злоўлены Думітрашка засаромеўся. Вучні засмяяліся, а некаторыя з іх таксама апусцілі вочы. Ліда пачырванела. Потым Лабановіч разважыў у сваіх думках, ці правільна паступіў ён, зрабіўшы Думітрашку такую заўвагу. Яму здавалася, што памылкі ён тут не дапусціў. У той-жа час яго брала і сумленне, бо і сам ён не ставіўся абыякава да Ліды Мураўскай.

Наладжаную плынь школьных заняткаў нечаканым чынам парушыў Іван Анцыпік. Устрывожаны, неспакойны, прышоў ён раз да Лабановіча. Настаўнікі звычайна сходзіліся рэдка. У кожнага было сваё жыццё і свой круг інтарэсаў. Іван Анцыпік амаль ніколі не заставаўся дома пасля школьных заняткаў. За логам, дзе рос алешнік і цякла рачулка, на горцы раскінуўся маёнтак пана Вансоўскага. У маёнтку жыла ахмістрыня. У яе была дачка, Ганна Карлаўна. Да Ганны Карлаўны і ўчашчаў Іван Анцыпік. Сягоння Анцыпік быў настолькі ўзрушаны, што ад хвалявання язык яго шчоўкаў шмат часцей, чым звычайна, і словы зрываліся з яго з вялікаю натугаю.

— Што здарылася, Іване? — спагадна запытаў яго Лабановіч.

Анцыпік трохі заспакоіўся, язык яго прышоў у свой звычайны стан пашчоўквання.

— «Віхры варожыя веюць над намі», — трагічна адказаў Анцыпік.

З далейшай гутаркі выяснілася, што Ганну Карлаўну мае на воку і прыстаў тутэйшага станавога стану. Прыставу не падабаецца, што Анцыпік учашчае за Ганнаю Карлаўнаю, і ён хоча прышыць Анцыпіку некаторую долю крамолы. Усё гэта ён даведаўся ад Ганны Карлаўны і яе маці. Прыстаўская пагроза легла цяжкім каменем на плечы Анцыпіка. Адзіны спосаб выратавацца з бяды — Анцыпіку трэба на некаторы час знікнуць адгэтуль. Але як і куды знікнуць? Як знайсці прычыну знікнення? А самае важнае, як пакінуць школу?

— А можа ўсё гэта плёткі? — заспакойвае Лабановіч калегу. Язык у Анцыпіка зноў зашчоўкаў. Ён так пераконаны ў той бядзе, якую падстройвае яму прыстаў, што і слухаць не хоча Лабановіча. Лабановіч паглядзеў на Анцыпіка — можа і праўда, усё можа быць. Яму стала шкада яго.

— Дык вось што, — кажа тады Лабановіч: — дай тым ці іншым спосабам тэлеграму сабе самому такога зместу: «Неадкладна прыязджай, бацька цяжка хворы». Вось табе і будзе падстава выехаць адгэтуль. А сваіх вучняў перадай мне: пазаймаюся з імі да твайго звароту.

Анцыпікаў твар праясніўся. Парада і дапамога калегі прышліся яму па сэрцы. На трэці дзень ён ізноў прыходзіць да Лабановіча. Лабановіч зірнуў на Анцыпіка і затрывожыўся: Анцыпік стаяў пануры, спахмурнелы. Ён меў выгляд чалавека, якога напаткала няшчасце.

— Вось прышла тэлеграма, — упаўшым голасам прамовіў Анцыпік і падаў тэлеграму Лабановічу. Лабановіч прачытаў: — «Прыязджай хутчэй бацька цяжка хворы».

— То чаго-ж ты засмуціўся? — спытаў ён Анцыпіка.

Анцыпікаў язык чаўкнуў.

— Як-жа не смуціцца, калі бацька-такі хворы?

— Ды мы-ж самі гэту тэлеграму прыдумалі, дзівак ты!

Анцыпік, як і раней, заставаўся смутны і разгублены.

— А можа і сапраўды бацька пры смерці,— адказаў ён.

Для Лабановіча так і засталося няясным: ці то Анцыпік разыгрываў камедыю, ці ён сапраўды спалохаўся свае тэлеграмы.

У той-жа дзень Анцыпік паехаў да бацькі, а яго вучні з партамі перабраліся ў клас Лабановіча. Людна і цесна стала ў школе. У перапоўненым класе было спёртае, цяжкое паветра. Прыходзілася насцеж расчыняць дзверы. На двары ўжо стаяла прадвесне. У адчыненыя дзверы з двара заляцела аднойчы ў клас нейкая маленькая пташынка. Яна пераляцела клас і села на падаконніку. Дзеці кінуліся лавіць яе. Лабановіч прыкрыкнуў на іх і спыніў іх. Калі ён падышоў да акна, пташынка раптам звяла і бачком лягла на падаконнік. Лабановіч узяў самлелую пташынку і вынес яе на свежае паветра. Праз хвіліну яна ачнулася, акрыяла, разгарнула крыльцы і фуркнула з рукі настаўніка ў свежае веснавое паветра.

## VIII

Напрадвесні 1906 г. па ўсёй царскай Расіі ішла падрыхтоўка да выбараў у першую дзяржаўную думу. Праўда, гэта была не першая, бо першая, булыгінская, на свет не радзілася: уся яе бюракратычна-чорнасоценная аснова была здзьмута вятрамі рэвалюцыі 1905 г. На змену ёй прышла дзяржаўная дума, змайстраваная па рацэпту Вітэ. Яна і была першай думай, той думай, якая ўсё-ж такі была выбрана. Царскі ўрад і ўся яго самаўладна-паліцэйская сістэма былі прыведзены ў рух. Пісаліся і рассылаліся царскія «повеления», сенацкія растлумачэнні і розныя прадпісанні губернатараў і генерал-губернатараў. Усе яны мелі на мэце адно: выбраць паслушную думу, каб яна сваёю дзейнасцю падмацавала пахіснуты рэвалюцыяй царскі лад. Усё, што было жывога і прагрэсіўнага ў краіне, ліквідавалася, заганялася ў падполле, высылалася ў далёкую халодную Сібір. У хранікальных нататках тагочасных газет і часопісаў з дня ў дзень падаваліся жудасныя весткі аб рэпрэсіях царскага самаўладства: ваенна-палявыя суды, расстрэлы, арышты, ссылкі на катаржныя работы, закрыццё газет і часопісаў. З поваду ўсіх гэтых рэпрэсій у той час бытаваў такі верш:

Наказана ты, Русь, всесильным роком,
Как некогда священный Валаам:
Заграждены уста твоим пророкам,
И слово вольное дано твоим ослам.

Але тая-ж хроніка таксама адзначала, што сілы рэвалюцыйнага руху не складалі зброі: то там, то сям адбываліся бунты, нават у вайсковых часцях, не спыняліся забастоўкі. То ў адным, то ў другім горадзе забівалі прадстаўнікоў царскай улады, пачынаючы з губернатараў і канчаючы акалодачнымі і гарадавымі. Учыняліся экспрапрыяцыі банкаў і поштаў. Але рэвалюцыя тым не меней ішла на спад. Верх брала чорная рэакцыя. Пры такіх умовах адбываліся выбары ў дзяржаўную думу.

Якая-ж будзе дума? Чаго можна спадзявацца ад яе? Такія пытанні шмат каго цікавілі. Ход выбараў паказ-

ваў, што верх бярэ ў іх так званая канстытуцыйна-дэмакратычная, або кадэцкая, партыя, памяркоўна-апазіцыйная партыя памешчыкаў і ліберальнай буржуазіі. Большэвікі ўдзелу ў выбарах не прымалі — яны аб'явілі байкот дзяржаўнай думе.

Умелі кадэты пусціць пыл у вочы. Людзі, не спакушаныя ў палітыцы, спачувалі ім, лічылі іх вялікімі апазіцыянерамі і шмат надзей пакладалі на іх. Гэтаму ў значнай меры спрыяла і тая акалічнасць, што цар і яго акружэнне скрыва пазіралі на кадэтаў, не ведаючы з убоства свайго розуму, што вялікага ліха кадэты прычыніць ім не хацелі, а ўмацаваць іхнія пазіцыі маглі-б. Не разумеў гэтага і верханьскі пісар, Васіль Васількевіч. У рэдкія і не дужа доўгія хвіліны цвярозага прасвятлення чытаў ён лісткі чорнасоценнага князя Мяшчэрскага. Князь Мяшчэрскі ў сваіх лістках граміў кадэтаў, як ворагаў цара і Расіі. Пісар чытаў і разам з князем абураўся супроць кадэтаў, сурова хмурыўся і сярдзіта ківаў галавою. Звычайна пісар выходзіў у такія хвіліны на ганак, садзіўся на лавачку з газетаю ў руках. Вясна-ж у той год была ранняя і лагодная. Пісару было прыемна адчуваць, што людзі, праходзячы па вуліцы, кланяліся яму і, напэўна, думалі, які вучоны чалавек іх валасны пісар. І тады Васількевіч надаваў свайму твару самы сур'ёзны выраз. Ён не заўважаў, што яго сусед Лабановіч, прытаіўшыся ў сваім пакойчыку, пільна прыглядаўся да пісара, сачыў за кожным яго рухам, за кожнай зменай яго міны і ціха пасмейваўся. Лабановіч ведаў чорнасоценную душу пісара Васількевіча, ведаў, як не любіў ён кадэтаў, не гаворачы ўжо аб соцыял-дэмакратах і эсэрах. Аднаго пасіўнага наглядання за пісарам Лабановічу было мала: яму хацелася пагутарыць з пісарам і падражніць яго кадэтамі. Ён ціхенька выходзіў на двор праз кухню, каб пісар не дагадаўся, што за ім назіралі, здалёку заходзіў на вуліцу і тады ўжо накіроўваўся ў бок пісара. А пісар сядзеў усё ў той-жа постаці надзвычай сур'ёзнага чалавека, нібы ён рашаў першаступенныя пытанні часу. Не даходзячы да ганка, Лабановіч замарудзіў тэмп хады, прыпыніўся, нібы ён выпадкам напаткаў тут пісара. Як мага болей жычліва прывітаў яго:

— Добры вечар, Васіль Міронавіч!

Пісар адвёў вочы ад князя Мяшчэрскага, зірнуў на Лабановіча. У пісаравым поглядзе не адбілася ні ветлівага здзіўлення, ні робленай радасці: пісар глядзеў на свайго суседа, як на блазна, з якім яму, пісару, кампанаваць не да твару. Тым-жа часам Лабановіч быў ужо на ганку і працягваў руку пісару.

— Што добрага чуваць, Васіль Міронавіч?

— Ды што-ж тут чуваць? Самі-ж газеты чытаеце.

— Што газеты? — адказаў Лабановіч. — Кожны піша на свой лад. А вось як глядзіце вы на тое, што кадэты верх бяруць на выбарах?

У пісаравых вачах заіскрыліся злыя агеньчыкі. Зірнуў уніз на ганак, а потым на Лабановіча і сярдзіта сказаў:

— Бяруць верх? Пачакайце, будзе час, сядуць верхам і на кадэтаў ды пагоняць іх у Сібір на пашу.

— А за што гнаць іх? — спытаў Лабановіч. — Яны-ж супраць самадзяржаўнага ладу ў Расіі не ідуць, прызнаюць манархію, святую цэркву. Патрабуюць, праўда, некаторых рэформ. Але хто цяпер не стаіць за рэформы? Міністры за рэформы, акцябрысты за рэформы. Князь Мяшчэрскі таксама дабіваецца рэформ. А якіх рэформ дабіваюцца кадэты? Надзяліць беззямельных і малазямельных сялян зямлёю, ды і то за грошы, каб памешчыкаў не пакрыўдзіць; адмяніць пакаранне смерцю, амнісціраваць высланых і асуджаных за палітыку...

— Праступнікі, забойцы будуць грабіць, забіваць чэсных, адданых гасудару людзей, і іх амнісціраваць, для іх адмяніць пакаранне смерцю?! — ускіпеў пісар і аж падскочыў. — Ды гэтых вашых кадэтаў вешаць трэба! У Сібір іх усіх! — скончыў сваю рэпліку пісар Васількевіч.

«Наступіў на мазоль пісару», — весела падумаў сам сабе Лабановіч, а ўголас сказаў:

— Адкуль вы ўзялі, Васіль Міронавіч, што кадэты «мае»? — У голасе настаўніка чулася сур'ёзнасць і нават крыўда. — Социял-дэмакраты і социялісты-рэвалюцыянеры, — казаў настаўнік далей, — таксама не любяць ка-

дэтаў, так што вы, Васіль Міронавіч, у даным выпадку стаіце на адным з імі грунце.

Пісар з нянавісцю зірнуў на Лабановіча: жартуе ён, ці смяецца з яго, ці гаворыць сур'ёзна?

— Нічога агульнага няма ў мяне з гэтымі адшчапенцамі, раскольнікамі, слугамі сатаны! І я прашу вас не гаварыць мне такога блюзнерства! — закрычаў пісар ды ізноў ускочыў з лаўкі.

Лабановіч надаў сабе выгляд збянтэжанага чалавека, якому вельмі балюча, што давёў суседа да такога стану душы.

— Даруйце мне, Васіль Міронавіч, што прычыніў вам прыкрасць. Ды з-за чаго тут абурацца, псаваць сабе нервы. Вы-ж, Васіль Міронавіч, калі гаварыць праўду, яй-богу, нават з выгляду падобны да кадэта: такое-ж інтэлігентнае аблічча, такая-ж бародка. Ну, дапраўды можна падумаць, што вы брат кадэта Шынгарова!

Пісар болей не мог слухаць, рэзка сарваўся з месца, парывіста расчыніў дзверы, злосна стукнуў імі і знік дзесь у сваіх апартаментах. Лабановіч момант пасядзеў. «Ці не перабраў я меры?» — спытаў самога сябе і павольна накіраваўся ў бок лесу, што пачынаўся зараз-жа за могілкамі.

## IX

Ачысцілася ад снегу зямля, прашумелі ручаі і рэкі ды ізноў увайшлі ў свае берагі. Новай, пахучай траўкаю зазелянелі дарогі і сцежкі ў полі. Памаладзелі гаі і лясы. Тысячы рознагалосых птушак напоўнілі паветра свістам, шчэбетам і цэлымі мелодыямі. Вакол гаманіла адноўленае, маладое жыццё. Новае і кожны раз няяснае і чароўнае пачуццё прастору і волі калыхала людзям сэрца. Хацелася цалкам зліцца з гэтым адноўленым жыццём і поўнымі грудзьмі піць яго асалоду.

Зусім іншы выгляд мелі цяпер верханьскія ваколіцы. Яны пасвятлелі, павесялелі і, здавалася, рассунулі свае граніцы. Між будынкамі валаснога праўлення і школы пралягала шырокая дарога. Мінуўшы справа цэркву ў зялёным вянку купчастых бяроз, дарога ішла

міма верханьскіх могілак і зараз-жа хавалася ў густым лесе. Гэта дарога, могілкі і лес ужо не адзін раз прыцягвалі ўвагу настаўніка і вабілі яго да сябе. І вось аднойчы, у вольную хвіліну, сабраўся ён у вандроўку, спецыяльна для таго, каб агледзець навакольную мясціну. Ён узяў кірунак у бок лесу, маўклівага і мудрага ў сваёй замкнёнасці. Апошнія будынкі і ўбогія агарожы каля іх засталіся ззаду. Ціхая сельская ваколіца і прасторы неба і зямлі жычліва прынялі настаўніка на сваё ўлонне, атулілі яго цішынёй і спакоем. Прайшоўшы яшчэ колькі крокаў, ён прыпыніўся, акінуў вокам убогія верханьскія хаты. На фоне адноўленай і памаладзеўшай зямлі яны выглядалі яшчэ болей убогімі і запушчанымі. Саламяныя стрэхі, крытыя шмат гадоў назад, асунуліся, паразлазіліся, паправальваліся і паказвалі свае збуцвелыя рэбры і цёмныя правалы. Пачуццё жаласці і крыўды за сялянства абурыла маладога настаўніка. Для яго было ясна, чаму такія гіблыя і чэзлыя сялянскія будынкі, чаму такія вузкія і заняпалыя палоскі зямлі і чаму такім мізэрным выглядае тутэйшы народ. У валасным праўленні ён пацікавіўся, колькі ўсяго лічыцца зямлі па Верханьскай воласці і як размяркована яна паміж яе насельніцтвам. На долю сялянскіх надзелаў прыпадала 5 740 дзесяцін, а ў памешчыкаў і ў дробных маёнтках яе было 27 350 дзесяцін. Гэтыя лічбы шмат аб чым гаварылі Лабановічу. Настаўнік рушыў далей, параўняўся з могілкамі, прайшоў яшчэ некалькі дзесяткаў крокаў. Цьмяная, ледзь прыкметная дарожка вяла на могілкі з той шырокай, уезджанай дарогі, што накіроўвалася ў лес. Лабановіч пайшоў на могілкі. Невялікая роўная пляцоўка, заросшая кустамі, устаўленая драўлянымі крыжамі, дзе новымі, а дзе зусім струхлелымі ад часу, была ціхая, сумотная. Журботныя думкі навявалі гэтыя могілкі сваёю закінутасцю і адзіноцтвам. Толькі неўгамонныя птушкі парушалі змяненне і цішыню гэтага апошняга прыпынку вечна клапатлівых і неспакойных людзей. Замест агарожы вакол могілак былі калісь выведзены акопы з даволі высокім валам. Цяпер гэты вал асунуўся, зарос травою, зеллем, кустамі лазы і каліны. Але якая тут цішыня! Здавалася, самі могілкі, гэтыя размытыя

вадою горбікі зямлі, гэтыя каменныя, груба абчэсаныя пліты з выцвіўшымі напісамі і гаротна пахіленыя крыжы і крыжыкі ахоўвалі спакой тых, каго пахавалі тут. Лабановіч хадзіў па могілках, спыняўся над магіламі, дзе яшчэ можна было прачытаць незамысловатыя напісы з паказаннем прозвішч нябожчыкаў, калі радзіўся і памёр, або проста колькі пражыў на свеце пахаваны ці пахаваная. Сярод нябожчыкаў былі знаёмыя настаўніку прозвішчы, як Думітрашка, Мініч, Баравы, Казеніч і іншыя. Не трэба ім цяпер ні зямлі, ні хлеба, ні дзяржаўнай думы, на якую прастадушныя людзі ўскладаюць надзеі — ці не прынясе яна ім якой-небудзь палёгкі. Жаласлівыя мыслі да нябожчыкаў і да тых, што засталіся жыць да часу на зямлі, і ў тым ліку да сябе самога, агарнулі настаўніка. Ён прыгадаў прачытаны дзесь у папоўскай газеце верш аб могілках і аб смерці, што ўсіх ураўноўвае. У вершы былі прыблізна такія радкі:

Сошлась здесь знатность с простотою,
Смешались рубища с парчою...

«Мана ўсё гэта», — падумаў Лабановіч: «знатность» і пасля смерці стараецца адмежавацца ад «прастаты» і замест звычайных могілак будуе сабе фамільныя склепы. Нават калі памрэ поп, дык і яго хаваюць на цвінтары каля царквы або дзе-небудзь асобна, абы толькі не змяшацца з «прастатою».

Павольна праходзячы паміж магіл, настаўнік падыходзіў да канца магільнай пляцоўкі, дзе пышна разрасталіся нікім не саджаныя кусты і буяла маладая трава. Тут было яшчэ глушэй і зацішней.

«Тут толькі і можна схавацца ад сумятні ды паразважаць аб жыцці, аб усіх яго праўдах і няпраўдах», — думаў Лабановіч і накіраваўся ў гэтую ціш і глухмень. Раптам да яго вуха даляцела сцішаная гамонка з глыбіні кустоў. Лабановіч мімаволі прыпыніўся і стаў прыслухоўвацца. Асобныя словы разабраць было трудна. Невыразная патайная гамонка часам перарывалася кароткім, адрывістым, маладым жаночым смехам і не дужа рашучымі пратэстамі. У мужчынскім голасе, таксама адрывістым, чулася хваляванне, просьба і настойлівасць.

— Я-ж цябе люблю, люблю! — з глыбокім запалам гаварыў здушаны мужчынскі голас.

— Усе вы любіце, покі не даб'яцеся свайго, — сур'ёзна адказаў жаночы голас.

Праз момант гамонка прыціхла. Пара закаханых абнімалася і цалавалася, да вушэй настаўніка даносіліся толькі глыбокія ўздохі і пацалункі, доўгія і хмельныя, як моцнае віно. Лабановіч не ведаў, як павесціся далей. Лепш за ўсё, як здалося яму ў першую хвіліну, трэба ціхенька адыйсціся адгэтуль і нічым не падаць знаку, што іхняй мілосці ёсць сведка. Упусціць-жа так лёгка і проста гэтакую хвіліну ў настаўніка нехапіла волі і сілы. Хто-ж яны такія? Хто ён і хто яна!.. А навошта трэба ведаць гэта? Навошта станавіцца ўпоперак дарогі жыццю, маладосці? Настаўніку прыгадаліся заключныя радкі пушкінскай элегіі «Брожу ли я вдоль улиц шумных»:

И пусть у гробового входа
Младая будет жизнь играть,
И равнодушная природа
Красою вечною сиять.

Здавалася, нічога лепшага і прыдумаць нельга, што так адпавядала-б усёй гэтай жыццёвай сітуацыі на могілках.

Лабановіч ужо хацеў паціхеньку адступіць, непрыкметна падацца назад, каб не замінаць маладым закаханым людзям. Але ў самы патэтычны момант палкіх прызнанняў у каханні Лабановіч, ці то з зайздрасці, ці то з нічым неапраўданага блазнерства, ні з таго, ні з сяго голасна заспяваў два словы з песні, якую спяваюць у царкве пры вянчанні — «Ісаія лікуй!», Чаму Ісаія павінен тут лікаваць, настаўнік і сам не ведаў, але маладых закаханых — а можа яны былі і не маладыя — разгледзець яму не ўдалося — ён моцна перапалохаў іх. Лабановіч толькі на адзін кароткі момант згледзеў постаць жанчыны. Яна закрыла галаву шарфам, борздзенька шмыгнула ў кусты і знікла з вачэй. Гэтак-жа шпарка зрабіў і кавалер, падаўшыся ў другі бок.

# X

У скорым часе пасля вялікадня, на велікодным тыдні, атрымаў Лабановіч ад інспектара народных вучылішч прадпісанне — прадставіць яму пасведчанне ад святчэнніка мясцовай цэрквы аб тым, што настаўнік спавядаўся і прычашчаўся «святых тайн». Само па сабе такое прадпісанне было абразлівым: каму якое дзела да таго, грэшны ты ці святы? На чорта яна, гэта начальніцкая апека над табою? Начальства, як відаць, не верыць табе, сочыць за табою. Але горш было тое, што Лабановіч у споведзь не хадзіў і «святых тайн» не прымаў. Што-ж напісаць інспектару? Спаслацца на тое, што такога прадпісання ён не атрымліваў, каб інспектару нічога не пісаць, нельга: інспектарскае прадпісанне занесена воласцю ў журнал «исходящих». Аб гэтым паклапаціўся пісар Васількевіч. Значыць, адрабіцца маўчанкаю не выпадае. Як-жа быць? Сезон спавяданняў прайшоў. У памяці Лабановіча засталася апошняя споведзь у айца Мікалая. Гэта была проста фармальнасць. На споведзі няёмка адчуваў сябе і поп і настаўнік, бо яны добра ведалі адзін аднаго. Айцец Мікалай накрыў Лабановіча эпітрахіллю, папоўскім фартушком. На аналойчыку ляжаў пазалочаны крыж. Некалькі хвілін поп маўчаў, відаць, толькі для таго, каб прадоўжыць працэс споведзі.

— Грэшан? — яшчэ трошкі счакаўшы, запытаўся поп.

— Грэшан, а. Мікалай, — уздыхнуўшы, адказаў Лабановіч.

— Усе мы грэшныя, адзін толькі бог без граха, — заўважыў а. Мікалай і дадаў: — Але пакаянне знімае грэх... Каешся ў грахах?

— Каюся.

Бацька Мікалай яшчэ трошкі памаўчаў.

— Прашчаю і разрашаю... Цалуй крыж!

На гэтым і скончылася споведзь.

Як-жа выкруціцца з цяперашняга становішча? І чаму раптам інспектар затрэбаваў пасведчанне якраз у той час, калі настаўнік у споведзі не быў?.. Эгэ! Да гэта пісар Васількевіч падлажыў яму такую свінню! Гэту дагадку Лабановіч прыняў за сапраўдны факт, хоць пацверджання такога факта не было. Свет не перавярнуўся і

рэвалюцыі не адбылося ад таго, што ён, Лабановіч, у споведзь не пайшоў, а клопату нажыў. Аказваецца, не выпадае ўхіляцца ад боскіх і людскіх абавязкаў, з лёгкаю насмешкаю над самім сабою казаў у мыслях Лабановіч. Застаецца адно: звярнуцца да бацькі Уладзіміра — іншага шляху няма. Прыхапіўшы прадпісанне інспектара, Лабановіч накіраваўся на другі канец сяла, дзе была сядзіба айца Уладзіміра.

Бацька Уладзімір, ахмістрыня, Віктар і Саўка сядзелі за сталом на верандзе. Яны толькі што паабедалі. Ахмістрыня зараз-жа ўзялася прыбіраць пустыя талеркі. На стале засталася адна толькі даволі ёмкая чарка з нявыпітаю гарэлкаю.

— Позна ходзіш, — заўважыў бацька Уладзімір і ветліва прывітаўся. Ён ужо трошкі быў пад мухаю.

— Да вас я, айцец Уладзімір, як грэшнік, якому пакаянне не дае спакою, — з тонам урачыстасці прамовіў настаўнік. Бацька Уладзімір часамі паважаў такія ўрачыстасці.

— А калі грэшнік, дык выпі гэту чарку! — адказаў бацька Уладзімір і паднёс настаўніку чарку. У паводзінах бацькі, у яго настроі Лабановіч адчуў добры знак. Ён узяў чарку.

— За ваша здароўе, айцец Уладзімір! — адказаў ён і тут-жа кульнуў чарку да дна. На момант ён аслупянеў. Яму захапіла дыханне, і ледзь не на лоб палезлі вочы: у чарцы быў чысты спірытус.

— Охо-хо! — нарэшце аддыхаўся настаўнік, а бацька Уладзімір весела пасмейваўся. Ад смеху злёгку пакалыхваўся яго жывот пад чорнаю расаю.

— Ой, а. Уладзімір, траха на той свет не выправілі мяне без пакаяння, — сказаў Лабановіч, выціраючы вочы.

— А ў чым табе каяцца? — запытаўся бацька.

Замест адказу настаўнік выняў з кішэні прадпісанне ад інспектара і перадаў яго бацьку Уладзіміру. Бацця моўчкі і сур'ёзна стаў чытаць інспектарскае прадпісанне аб прысылцы пасведчання ў тым, што настаўнік спавядаўся і прычашчаўся. Лабановіч не без трывогі сачыў за выразам твару бацькі Уладзіміра. Прачытаўшы папе-

ру, бацька Уладзімір з неакрэсленай усмешкаю зірнуў на Лабановіча.

— Дурак! — прамовіў ён.

Па тону голасу і па абразлівай міне бацькі настаўнік зразумеў, што «дурака» бацька Уладзімір адрасуе інспектару.

— Бач ты яго — больш за мяне турбуецца аб спасенні тваё душы! — прамовіў ён. На верандзе цяпер апроч настаўніка і бацькі Уладзіміра нікога болей не было.

— Пабудзь тут, а я зараз, — сказаў баця і рашуча накіраваўся ў глыб сваіх апартаментаў. Праз пару хвілін ён вярнуўся з ёмкаю кнігаю, нагадваўшай з выгляду евангелле, з лістом паперы, з чарнільніцаю і ручкаю і з царкоўнай пячаткаю. Усё гэта ён моўчкі палажыў і паставіў на стол. Настаўнік недаўменна пазіраў на бацьку, а бацька некаторы час ухіляўся зірнуць на настаўніка. Нарэшце. бацька Уладзімір падняў на яго вочы. Вясёлая і хітрая ўхмылка прабегла па мяккіх губах бацi. Ён моўчкі падсунуў бліжэй кнігу з залатым цісненнем, так падобную да евангелля.

— Вось, глядзі, — сказаў а. Уладзімір, — напэўна ты падумаў, што гэта евангелле? Тым-жа часам гэта — том пушкінскіх твораў!

Баця хвіліну памаўчаў. У вачах яго блукаў вясёлы смех. Настаўнік пазіраў на яго і ніяк не мог дагадацца, куды гне баця.

— У 1894 годзе, — пачаў а. Уладзімір, — прыводзілі народ да прысягі новаму цару, «ныне» не зусім шчасліва царствуючаму Мікалаю другому. Некалькі мужычкоў з майго прыходу засталіся без прысягі. Вось і прыходзяць яны да мяне на кватэру. Так і так, не ўправіліся, бачыце, прысягнуць гасудару. Па царкоўнаму чыну да прысягі можна прыводзіць і дома — на крыжы і на евангеллі. Крыж у папа заўсёды ў наяўнасці, а вось евангелля на той час дома не аказалася. Трэба было ісці ў царкву, а царква на другім канцы сяла. Як тут быць? Выручыў мяне вось гэты том Пушкіна. Палажыў на яго крыж і прывёў сваіх мужычкоў да прысягі!.. Што, здорава?

Айцец Уладзімір зарагатаў, а потым дадаў:

— Усё гэта — адна фармальнасць.

Ён сеў за стол, узяў ліст паперы, палажыў яго на «Рускае слова» і напісаў настаўніку пасведчанне, якога дабіваўся ад яго інспектар, падпісаўся, а подпіс падмацаваў царкоўнай пячаткаю.

— Ну, вот і ўсё гатова! — пасылай свайму апекуну і заспакой яго сумленне.

— Добры вы і разумны чалавек, а. Уладзімір! Дай божа болей такіх.

Задаволены і радасны, як чалавек, пазбыўшы непрыемны клопат і згрызоты, ішоў Лабановіч у школу. Параўняўшыся з будынкам валаснога праўлення, ён зняважліва зірнуў на вокны пісаравай кватэры і сказаў у думках па адрасу пісара:

— Эх ты, чорнасоценная жыла!

## XI

У хуткім часе прыйшло паведамленне ад дырэкцыі народных школ Мінскай губерні прыбыць настаўніку з вучнямі ў Грабёнскую школу на экзамены. Экзамінатарам і старшынёю экзаменацыйнай камісіі быў назначаны адзін з выкладчыкаў суседняга гарадскога вучылішча. Лабановіч з задаваленнем прыняў вестку аб экзаменах: чым хутчэй вызваліцца ад работы ў школе, тым лепей. Асабліва задавольвала яго тая акалічнасць, што экзамінатарам назначаўся не інспектар народных вучылішч, сухі і бяздушны чынуша, а настаўнік гарадскога вучылішча, які ў свой час быў таксама настаўнікам пачатковай школы.

Ранічкаю таго самага дня, калі былі назначаны экзамены, параконная фурманка пад'ехала к Верханьскай школе. Каламажка была прасторная, шчодра высланая саломаю. Частка вучняў, настаўнікі — Анцыпік і Лабановіч — умасціліся на фурманцы. Да іх далучыўся і сын бацькі Уладзіміра, Віктар, якому захацелася пабыць на экзаменах, пачуць і пабачыць, як падрыхтаваны да экзаменаў вучні. Лабановіч адчуваў, што экзаменуюцца не толькі яго вучні, а і ён сам. За сваіх вучняў ён не баяўся: яны былі падрыхтаваны болей, чым добра.

Да Грабёнкі было вёрст дванаццаць. Дарога спачатку ішла полем, а потым пашыбавала на масток праз рэчку

Усу, а далей пачынаўся старасвецкі лес. Увесь час амаль да самай Грабёнкі дарога ішла лесам.

Раніца была ціхая, ясная, цёплая. Не даязджаючы да мастка, ездакі пазлазілі з фурманкі, каб запыніцца на мастку, палюбавацца двухпавярховым млыном і рэчкаю, якая падала ўніз з запруды на вышыні некалькіх сажняў. Пад мастком быў зроблены шлюз, праз які час-ад-часу прапускалі плыты. Лабановіч потым часта хадзіў сюды на пагулянку. Цікава было паглядзець, як па шлюзу прапускалі плыты. Плытнік, стоячы ў галаве плыта, загаў у калоду бусак і моцна трымаўся, налёгшы на яго ўсім целам. Калі галава плыта спаўзала са шлюза, яна тарчма спускалася ў букту, выбітую падзеннем вады, і тады плытнік па самыя грудзі пагружаўся ў ваду. Быстрая плынь борздзенька выкідала галаву плыта разам з плытнікам на роўную і спакойную плынь рэчкі.

— Можна было-б пабыць тут і болей, каб не экзамены, — сказаў Лабановіч. — Гайда, хлопцы, у дарогу!

І ўвесь гурт падарожнікаў пашыбаваў далей. Фурманка стаяла за мастком і чакала іх.

Дарогу праз лес праехалі непрыкметна. Настрой у вучняў быў узняты. Хваляваўся трохі і сам настаўнік, але не паказваў гэтага і стараўся падтрымаць бадзёрасць сваіх вучняў. Самым спакойным сярод іх і самым разважлівым быў Мініч. Цяпер ён не зварочваў увагі на тое, што ён на цэлую галаву большы за сваіх таварышаў, ішоў вясёлы, жартаваў і пасмейваўся. Вучні ішлі, як папала. Дзяўчаткі трымаліся свае кампаніі, а хлопцы — свае. Калі хто з іх трохі прыставаў, тых садзілі на фурманку.

Густы старадаўні лес двума магутнымі сценамі абступаў дарогу. Прахлада і лёгкі змрок атульвалі нашых падарожнікаў. Гадзіны праз дзве дарога вышла з лесу на светлую палянку, па краях якой таксама стаяў густы лес. І палянка, і само сяло Грабёнка нагадвалі Лабановічу палескае мястэчка Хатовічы, куды ён ездзіў першы раз з свайго глухога Цельшына. Грабёнская школа таксама стаяла ў канцы сяла. Сюды і накіравалася фурманка з усёю працэсіяй верханьскіх вучняў і настаўнікаў. Іх сустрэла ўжо немаладая настаўніца Грабёнскай школы, даволі сухая і не дужа ветлівая жанчына, «замыта-

рэўшая во днех своіх», як гаварылі тады аб стараватых незамужніх жанчынах. Ёй не спадабалася незалежнасць настаўніка Верханьскай школы і яго адносіны да сваіх вучняў, бо ў іх не было той строгасці, якая ставіць мяжу паміж вучнямі і настаўнікам. Яшчэ болей не ўзлюбіла яна Лабановіча, калі яе вучні данеслі ёй, што верханьскі настаўнік скруціў у трубку нямую геаграфічную карту і засунуў яе кудысь за кніжную шафу, адкуль дастаць карту было не так-та лёгка. На такі незаконны ўчынак навёў Лабановіча Мініч. Вучняў Верханьскай школы напалохала нямая геаграфічная карта. Такой карты ў Верханьскай школе не было. Ад імя верханьскіх вучняў і выступіў Мініч, сказаўшы, што нямая карта для іх незнаёма, і яна можа пашкодзіць ім, калі іх будуць экзаменаваць па геаграфіі. Настаўнікі другіх школ адобрылі учынак Лабановіча. На гэтым канфлікт з нямою картаю і скончыўся, настаўніца-ж Грабёнскай школы на ўсё жыццё затаіла ў сэрцы непрыязнь да свайго суседа з Верханьскай школы. Гэта непрыязнь павялічылася, калі прышла чарга экзаменавацца вучням Верханьскай школы. Настаўніца была ўпэўнена, што на вусных экзаменах гэтая школа аскандаліцца разам з яе настаўнікам і вучнямі. Яна загадзя выбрала сабе найболей зручную пазіцыю, з якой можна было-б сачыць за экзаменамі. Яе вучні адэкзаменаваліся. Нельга сказаць, каб іх падрыхтоўка стаяла на належнай вышыні. Памяркоўны старшыня экзаменацыйнай камісіі, жывы і вясёлы Шчарбачэвіч, зрэдку пакручваў галавою, пасміхаўся і, нарэшце, ставіў здавальняючую адзнаку. Калі-ж прышла чарга экзаменавацца вучням Верханьскай школы, Лабановіч заняў месца ў камісіі. Шчарбачэвіч паставіў некалькі запытанняў, на якія даваліся правільныя і дакладныя адказы вучняў. Пасля гэтага экзаменаваў Лабановіч. Ведаючы добра сваіх вучняў і ступень іх ведаў, настаўнік закідаў іх пытаннямі, прычым гэтыя пытанні далёка выходзілі за рамкі праграмы пачатковай школы. Экзамены праходзілі жыва і цікава. Вучні адказвалі бойка і ўпэўнена. Старшыня камісіі з цікавасцю сачыў і за пытаннямі члена экзаменацыйнай камісіі і за адказамі вучняў. На яго твары ўвесь час свяцілася ўсмешка задаволення. Калі

ўсе вучні Верханьскай школы адэкзаменаваліся, Шчарбачэвіч пры ўсіх пацiснуў руку Лабановічу і сказаў:

— У маю экзаменацыйную практыку я ўпершыню прысутнічаю пры такой дасканалай падрыхтоўцы вучняў. Дзякую вам!

Настаўніца Грабёнскай школы злосна шыкала, слухаючы, як экзаменаваў Лабановіч сваіх вучняў і сіпела: «Вось як выстаўляецца! Хоча паказацца!» Але факт заставаўся фактам. Позна вечарам з трыумфам варочалася з экзаменаў Верханьская школа. Найболей выдатна вытрымалі экзамены Мініч і Ліда Мураўская. Цяпер яна спала на фурманцы, а сон яе ахоўваў Іван Анцыпік.

## XII

Прышло пісьмо ад Турсевіча.

Турсевіч жыў і працаваў у сваёй ранейшай школе. У яго таксама скончыліся заняткі ў школе і адбыліся экзамены. Рэшта вясны, усё лета і частка восені заставаліся вольныя. Гэта былі школьныя настаўніцкія канікулы, калі настаўнікі маглі рабіць усё, што ім зажадаецца: заставацца ў школе, ехаць да сваіх родных, да прыяцеляў або запісацца куды-небудзь на курсы. Наяўнасць такога вольнага часу складала вялікі плюс у жыцці вясковых настаўнікаў. Была поўная магчымасць заняцца самаадукацыяй, калі ў каго была на гэта ахвота, або адправіцца пехатой ці паехаць па чыгунцы ў вандроўку, калі настаўнік ухітраўся прыхаваць капейку. Турсевіч пісаў, што ён надумаўся паступіць у настаўніцкі інстытут, і калі Лабановіч будзе праводзіць лета ў сваёй школе, то Турсевіч ахвотна прыехаў-бы да яго на лета з тым, каб рыхтавацца ў інстытут. Апроч таго, яму, Турсевічу, цікава сустрэцца са сваім старым сябрам і паглядзець на «крамольніка». Турсевіч ведаў, за што перавялі Лабановіча з Палесся ў Верханьскую школу. У той-жа дзень Лабановіч напісаў адказ Турсевічу на яго пісьмо.

«Я не ведаю, — пісаў паміж іншым Лабановіч, — як паставіцца да твайго намеру паступаць у настаўніцкі інстытут. Мяне асабіста ён не дужа вабіць: тая-ж заскарузлая схаластыка, тая-ж казёншчына, што і ў настаў-

ніцкай семінарыі. Розніца хіба толькі ў тым, што ў інстытуце большы маштаб для замацавання казённага патрыятызму. За часы інстытуцкага навучання цябе так замарынуюць, што нічога не застаецца ад жывога чалавека. Іншая справа — падрыхтавацца і здаць экзамены на атэстат сталасці для паступлення ва універсітэт. Там непараўнана болей шырокае поле для ўсебаковага развіцця... А ўрэшце кожны плача па свайму бацьку, як умее. Не буду навязваць табе сваіх думак і адносін да настаўніцкага інстытута, бо можа я памыляюся, а знайсці праўду і намацаць верны шлях у жыцці не так лёгка і проста. Адно здаецца мне верным і ў чым я не сумняваюся — не адрывацца ад народа, жыць яго інтарэсамі і дапамагаць яму вызваліцца ад таго зла і несправядлівасці, якія акаляюць яго. Ва ўсякім разе буду рад бачыць цябе сваім дарагім госцем у маёй школе. Дарэчы, я рашыў астацца тут на ўсё лета. Хочацца падгатаваць некалькі вучняў для далейшай іх адукацыі. Прыязджай дружышча. Мая бабка Параска пачастуе цябе бульбянымі піражкамі. Напішы, калі прыедзеш — сустрэну.

Твой А. Л.»

Лабановіч быў дужа рад сустрэцца са сваім даўнім прыяцелем, але ў яго жаданні паступіць у настаўніцкі інстытут Лабановіч адчуў, што іхнія дарогі разыходзяцца: Турсевіча вабіць шлях чыноўнікаў ад асветы, якімі ў пераважнай большасці рабіліся вясковыя настаўнікі па сканчэнні настаўніцкага інстытута.

Закончыўшы работу ў школе і апынуўшыся на вольнай волі, без абавязкаў і пэўнай справы, Лабановіч адчуў як-бы нейкую лёгкую страту чагось блізкага, абыклага, з чым ён ужо звыкся. Каб развеяць гэты сумотны настрой і паразважаць з самім сабой, Лабановіч сабраўся паблукаць па верханьскіх ваколіцах, тым болей, што не ўсе яны даследаваны ім. У такім вандроўніцтве заўсёды было для яго нешта новае, хвалюючае і вабячае кудысь у неакрэсленыя далі. Прыемна было хадзіць па новых мясцінах, углядацца ў малюнкі, што трапляюцца ў падарожжы, і разважаць з самім сабою аб розных падзеях і праявах на свеце. На гэты раз Лабановіч пайшоў у другі бок сяла. Шырокая бітая дарога падымалася ўгору,

а потым пайшла па роўным і прасторным узвышшы, адкуль расчынялася шырокая панарама на Верхань, на далёкія палеткі, гайкі і кудзеркі дрэваў, ледзь праглядаўшыя з сіняватай тонкай смугі. Часамі адзінокі вандроўнік прыпыняўся, каб палюбавацца далёкімі купкамі бяроз, хвоямі сярод поля і людскімі сядзібамі. Як хораша выглядалі яны здалёку! А побач з любаваннем новымі малюнкамі снаваліся і розныя думкі, лёгкія і лагодныя, якіх часамі нават не заўважаеш. Але нейкім чынам прыгадалася пісьмо Турсевіча. Цяпер яно выклікала новыя думкі ў галаве Лабановіча. Турсевіч, як відаць, многа думаў перш, чым рашыцца на паступленне ў настаўніцкі інстытут. Ва ўсякім разе ён не застаўся на адным месцы. Правільна ён робіць ці няправільна, а факт той, што чалавек рухаецца далей. А куды ідзе ён, Лабановіч? Гэтае пытанне раптам устрывожыла яго і павалакло за сабою цэлую чараду з'яў і падзей, што ўжо засталіся ззаду, і рад людскіх вобразаў, да якіх ён, Лабановіч, меў тое ці іншае дачыненне. А як жыць далей і на што наважыцца? Не век-жа векаваць у Верхані. Трэба штось прадпрыймаць і нешта рабіць, а што? На гэтыя запытанні ў Лабановіча адказу не было, і ад гэтага на душы ў яго стала неспакойна. Але заставацца доўгі час у стане зніжанага настрою і няпэўнасці было не ў характары Лабановіча, і ён, як мог, стараўся адагнаць прыкрыя думкі і верыць у лепшае на свеце. Для яго было ясна адно: не саступаць з пазіцый барацьбы з царскім ладам. Праўда, за сваю бытнасць у Верханьскай школе ён нічога рэальнага не зрабіў у гэтай барацьбе. Змяніліся абставіны, павінны змяніцца і спосабы барацьбы. Вось аб іх і трэба падумаць. І Лабановіч думаў аб іх. Само жыццё падказвала, што ісці далей па шляху барацьбы адзіночкай-саматужнікам не гадзіцца. Патрэбна згодная, выпрацаваная па плану, работа тысяч людзей, якая біла-б у адзін пункт, а для гэтага трэба арганізацыя, у даным выпадку настаўніцкая арганізацыя.

Думкі Лабановіча пайшлі па іншаму шляху. Яму здавалася, што ён зараз стаіць на вернай дарозе: стварыць настаўніцкую рэвалюцыйную арганізацыю і весці барацьбу па пэўнай праграме.

Узышоўшы на самы высокі пункт мясціны, Лабановіч спыніўся, каб вокам акінуць ваколіцы. І зрок яго раптам загарэўся: перад яго вачамі цьмяна вырысоўваліся з тонкай сінечы контуры прыгожага, велічлівага замка! Здалёку ён нагадваў сабою нясвіжскі замак князя Радзівіла. Які-ж гэта замак? Чый? Лабановіч стаяў, зачараваны і здзіўлены, любуючыся невядомым замкам. Ён рушыў наперад і не прайшоў і дзесятка сажняў, як замак стаў раскідацца, траціць сваю дзівосную форму: замест вежы аказалася шатрыстая ёлка. А рэшта «замка» складалася з купкі дрэваў, узгорка, якія стаялі на далёкай адлегласці адны ад другіх... «Які даскаиалы мастак — далеч!» — думаў Лабановіч. Ён некалькі разоў прыходзіў сюды, станавіўся на той самы пункт, з якога быў відзен «замак», і ілюзія замка кожны раз паўставала.

## XIII

Сабралася і адчынілася першая дзяржаўная дума. Было гэта ў канцы красавіка 1906 г. Лабановіч прагна накінуўся на газеты, у якіх паведамлялася аб адчыненні думы. Цікава было ведаць, што яна скажа, як пачне сваю работу і чаго можна ад яе спадзявацца. Пераважную большасць членаў думы складалі кадэты. Яны ледзь не захлыналіся сваім трыумфам і думалі аб сабе, як аб збавіцелях Расіі.

Старшынёю думы быў выбраны кадэцкі прафесар Мурамцаў. Першыя яго словы, адрасаваныя царскім чыноўнікам, быўшым на адчыненні думы, многа дзён з гордасцю паўтараліся кадэцкімі часопісамі. Вось, бач, як гавораць народныя абраннікі з прадстаўнікамі царскага самаўладства! А Мурамцаў на першым паседжанні думы распарадзіўся выдаліць з залы думы паліцыю. Ён сказаў: «Улада выканаўчая няхай падпарадкуецца ўладзе заканадаўчай!» З першых дзён работы думы азначыліся яе нелады з царызмам. Непрыязнь паміж думай і ўрадам яшчэ больш узрасла пасля таго, калі міністр унутраных спраў Макараў заявіў у думе з повадү расстрэлу палітычных дэманстрацый і забастовак: «Так было, так і будзе!»

З левых лавак у адказ на словы міністра пачуліся абураныя галасы: «Вон, забойца!» Міністр толькі пабляднеў, але прыкінуўся, што нічога не чуў. Вышаў ён з думы, як абліты памыямі, абясслаўлены на ўсю Расію. «Вось гэта добра!» — казаў сам сабе Лабановіч. Часамі яму здавалася, што нават і ў такой дзяржаўнай думе ёсць свае дадатныя бакі, што калі-ні-калі з яе выходзіла вольная думка і трапнае слова. Большэвіцкі байкот выбараў зрабіў сваю справу. Насельніцтва пачало ўсё больш і больш пераконвацца, што гэтая дума з'яўляецца новай змовай буржуазіі і самаўладства. Большэвікі гаварылі проста: прэч старую ўладу, толькі пры гэтай умове можна дасягнуць свабоды.

Кадэты відавочна цягнулі за цара, але, не зважаючы на гэта, адносіны паміж самаўладствам і думаю пагоршваліся. Урад трапіў у няёмкае становішча: яму даводзілася ўжываць рэпрэсіі да той самай думы, якую ён сам скліках. Гэта было навочнай агітацыяй супроць самаўладства. «Падражніць-бы пісара», — падумаў Лабановіч. Але падражніць пісара Васількевіча Лабановічу не давялося: пісар у гэтыя дні піў запоем і бушаваў начамі. Цяжкія часы перажывала яго жонка. У пісара Васількевіча былі тры памочнікі: стараваты Хрыпач, яшчэ горшы п'яніца, чым пісар, і двое маладых — Іваш і Лісіцкі. Пісару здалося, што яго жонка тайком сустракаецца з прыгожым Івашом. Аднойчы, позна вечарам, настаўнік пачуў шум і крык у валасным праўленні. Ён вышаў на ганак. У пісаравай кватэры і ў праўленні было цёмна, а грукат, крык і шум не спыняліся. Дзікі, прарэзлівы голас, поўны роспачы, выгукваў:

— Адчыні! Адамкніся!

І следам за гэтым хтось глуха, як у бубен, барабаніў у дзверы. На вуліцы нікога не было. Што-ж бы гэта значыла? — затрывожыўся Лабановіч. Ён збег з ганка, перасек вуліцу і апынуўся на ганку воласці.

— Адчыніся, лярва! — лемантаваў той-жа голас.

— Што там у вас? Хто крычыць? — громка крыкнуў Лабановіч і крэпка затрос дзверы. На адзін момант усё сціхла, і зараз-жа пачуўся плаксівы голас моцна пакрыўджанага чалавека.

— Гэта я, Васількевіч, — заходзь, братка: сведкаю будзеш.

Дзверы расчыніліся. На парозе стаяў пісар у адной ніжняй бялізне. Невялікая двухкапеечная царкоўная свечачка цьмяна асвятляла прыхожую.

— Што тут робіцца? — недаўменна запытаў Лабановіч. Пісар узяў настаўніка за руку і падвёў да дзвярэй пакойчыка.

— Вось тут! — сказаў ён ціха і тут-жа раптам ізноў забарабаніў у дзверы і загаласіў: — Выходзь, сцерва!

— Васіль Міронавіч, ці ў сваім вы розуме? Што з вамі?

— Братка, з Івашом зачынілася! — лемантаваў пісар, а потым дадаў, зварачаючыся да настаўніка: — Папільнуй, братка, іх, каб не паўцякалі, а я пайду па тапор: буду дзверы ламаць!

Пісар зрабіў рух, каб ісці па тапор, але захістаўся, страціў роўнавагу і ўпаў. Цяпер ён забыўся, што думаў рабіць і куды ісці: ён быў зусім п'яны. Лабановіч памог яму ўстаць. Ён быў не рад, што ўвязаўся ў гэту сямейную гісторыю.

— Напіўся ты, выбачай, як свіння, — груба сказаў Лабановіч, падымаючы пісара. — Спаць ідзі! — дадаў ён, сціскаючы пісару плечы.

Пісар заплакаў.

— І ты за іх! — з дакорам сказаў ён Лабановічу. За замкнёнымі дзвярамі пачуўся голас Ганны Грыгор'еўны. «Няўжо-ж пісар не выдумляе?» — падумаў Лабановіч і пачуў такія словы з-за дзвярэй:

— Божа мой, божа! За што мне такая кара! Лепш-бы я малою памерла, чым жыць з такім ірадам, з такою п'яніцаю. Божачка мілы, чым я цябе прагнявіла? Пашлі ты мне смертухну ці яго забі маланкаю, громам-перуном. За што ён катуе мяне?!

Пісар, хоць быў і п'яны, але і да яго даляцелі жончыны праклёны. А пісарыха, пачуўшы, што яна не адна ў доме, трохі асмялела і пачала жаліцца і праклінаць пісара. Лабановіч упэўніўся, што ніякага Іваша няма і не было там. Ён таксама лёгенька пастукаў у дзверы і сказаў:

— Ганна Грыгор'еўна, адамкніце дзверы і выходзьце, — не век-жа сядзець вам там.

— Ды ён-жа будзе біць мяне і мучыць, тыран гэты.

— Не бойцеся: ён вам нічога не зробіць.

Пісар не адыходзіў ад дзвярэй, стаяў і слухаў. Лабановіч стаяў паміж ім і дзвярамі і яшчэ раз сказаў:

— Выходзьце!

Ключ у замку заскрыгікаў, раз і другі. Дзверы адчыніліся. Ганна Грыгор'еўна не адразу вышла з свае засады, і мела рацыю: пісар мабілізаваўся — стаў у такую позу, каб зручней было кінуцца на жонку. Ён прыгнуўся, як кот, збіраючыся скокнуць на мыш. Лабановіч схапіў яго за рукі і завярнуў іх пісару на спіну.

— Не смей, а то выкіну на вуліцу! — прыгразіў ён пісару.

Пісарыха шмыгнула ў цемру карыдора і знікла.

— Ну, пісар, хадзем шукаць Іваша!

Лабановіч пацягнуў пісара ў пакой, дзе вытрымала асаду Ганна Грыгор'еўна.

Ніякіх слядоў прабывання ў пакоі Іваша не было. Іваш у гэты дзень ездзіў па воласці з старшынёю збіраць нядоімкі.

## XIV

Вясна ўваходзіла ў поўную сілу. Як прыгожа былі раніцы да ўсходу і на ўсходзе сонца! Яснае неба распрасцірала над адноўленаю зямлёю свой бяздонны купал, абапёршы яго берагі па акружыне краявіда. Чыстае, прахладнае ранішняе паветра разносіла па сваіх невідомых струнах песні жаваранкаў, шчэбет сумятлівых вераб'ёў, гагатанне гусей і гарластае ку-ка-рэ-ку верханьскіх пеўняў.

Смачна спаў пад раніцу стомлены хмелем пісар Васількевіч. Пасля здарэння перад замкнёнымі дзвярамі пісар крыху апамятаваўся. Ён зразумеў недарэчнасць сваіх паводзін і сваю віну перад жонкаю. Некалькі дзён ён нават не піў. Жонка з яго згоды паехала да сваіх бацькоў, жыўшых дзесь на далёкім хутары. Пісар у хуткім часе замаркоціўся адзін і пачаў ізноў прыкладацца да бутэлькі,

зачыніўшыся ў сваім пакоі. Ён то сядзеў нерухліва, то хадзіў па пакоі і час-ад-часу куляў патроху чарку за чаркаю. Далёка за поўнач ён лажыўся ў пасцель, а засынаў толькі пад раніцу, калі ўжо людзі пакідалі свае пасцелі і вёска патроху пачынала абуджацца, напаўняючы ціхае паветра align рознастайнымі гукамі. Сярод гэтых гукаў вылучаўся адзін. Належаў ён верханьскаму пастуху Лукашу Леўчанку. Лукаш Леўчанка, дваранін па паходжанню, прыблукаў сюды з Украіны і асталяваўся ў Верхані ў якасці грамадскага пастуха. Пастаяннай аселасці ў яго не было. Па чарзе кожны дзень ён пераходзіў з хаты ў хату. Там ён начаваў, там яго кармілі, а назаўтра, калі ён выходзіў збіраць стада па адной, па дзве каровы з двара, яму давалі ў торбу правізіі. Кожная сялянка старалася не адстаць ад другіх жанчын, каб не асудзіў яе Лукаш за скупасць. А вечарам, прыгнаўшы стада, ён падаваўся ў другую хату. Калі такім чынам Лукаш абыходзіў усе хаты ў сяле, праходзіла месяцы паўтара часу. Тады ён зачынаў новы круг свайго вандроўніцтва з хаты ў хату. У падмогу яму сяло давала двух падпаскаў. Лукаша ў сяле любілі. Ён быў добры пастух і вясёлы па натуры чалавек. Насіў ён доўгую суконную світку, парыжэлую ад сонца і старанна залатаную. Ранічкаю чуць свет Лукаш выступаў у паход, апранаў світку, вешаў цераз плячо торбу з правізіяй, браў адмысловую пугу на кароткім ёмкім пужальне, пугу сажні ў тры даўжынёю. Прымацаваная да пужальна жалезным кальцом, з сырамяццю, гэта пуга пачыналася з таўшчэзнай, як вужышча, вяроўкі, спецыяльна звітай. Паступова вяроўка танчэла і заканчвалася тоненькім пяньковым хвосцікам з дзесяткамі вузельчыкаў. Лукаш Леўчанка дасканала валодаў гэтай своеасаблівай зброяй. Ён так па-мастацку ляскаў сваёю пугаю, што здалёк здавалася, быццам-бы хто страляе з пісталета. Пры дапамозе гэтай зброі Лукаш трымаў у паслушэнстве сваю «рагатую парафію», — як называў ён стада. Сабраўшыся такім чынам, Лукаш падыходзіў да сялянскага дворыка, адкуль і пачынаў збіраць стада. Ён раскручваў пугу, займаў такую пазіцыю, з якой зручней было ляснуць ёю, і станавіўся ў позу, каб ямчэй гукнуць, набіраў паветра ў грудзі і громка, працягла гукаў:

— Выганя-я-я-яй!

Гэта быў не проста гук або звычайны крык, не — гэта была свайго роду мелодыя, музыка, якая перш за ўсё цешыла і весяліла, як артыста, самога Лукаша. І ніхто так, як Лукаш Леўчанка, не мог вывесці «выганя-я-я-яй», хоць шмат хто стараўся пераняць яго. Пачуўшы лукашова «выганяй», гаспадыні борздзенька выбягалі з хат на двор, расчынялі хлеў і выпускалі кароў. Лукаш адчыняў весніцы, карова выходзіла на вуліцу. А каб яна не забывалася, што над ёю ёсць нядрэмнае вока, Лукаш ляскаў пугаю. Карова, калі яна была маладая і рэзвая, весела падбрыквала і бегала па вуліцы, а там да яе далучаліся другія каровы, бычкі і цялушачкі, і мінут праз дзесяць уся лукашова «рагатая парафія» збіралася ў шумнае гаманлівае стада, павольна і паважна вандравала па вуліцы ў поле. Пакі Лукаш не выходзіў са стадам з сяла, ён не пераставаў для ўсмірэння стада ляскаць пугаю і час-ад-часу пагукваць «выганя-я-я-яй», хоць патрэбы ў тым ужо не было — проста Лукашу падабалася музыка выгуку ў яго, лукашовым, выкананні.

У адну з такіх раніц, сабраўшы ў стада «рагатую парафію», Лукаш праходзіў з ёю міма школы і воласці. І тут Лукашу захацелася яшчэ раз на развітанне з сялом гукнуць «выганяй!» Ён прыпыніўся пасярэдзіне вуліцы між воласцю і школаю, закінуў галаву і гаркнуў натхнёна, працягла, з музыкальнымі пералівамі «выганя-я-яй!» Перад гэтым-жа, калі Лукаш быў далекавата ад школы і воласці, яго зычны голас перабіў пісару салодкі ранішні сон.

— Вось гарланіць, гад! — сказаў сам сабе абуджаны пісар. — Ну, і горла! Бадай яно табе запухла.

Але зараз-жа ўсё сціхла. Пісара зноў пачаў марыць сон. І вось у гэты самы момант Лукаш і гаркнуў сваё багатырскае «выганяй», стоячы на сярэдзіне вуліцы. Пісар аж падскочыў на сваім ложы, як-бы яго кальнулі шылам: такая нагласць — так гарланіць пад вокнамі пісаравай кватэры! Не разважаючы, што будзе далей, ён сарваўся з пасцелі, босы, у адной сарочцы. Накінуўшы на плечы белую капу, пісар, як тыгр, выскачыў на ганак.

— Што дзярэш тут горла! — грозна накінуўся пісар,

на Лукаша, — крычы ў полі, а не пад вокнамі валаснога праўлення, няхай табе пуп трэсне, сволач ты!

Покі пісар выбягаў на ганак, Лукаш адышоўся крокаў на дзесяць, рухаючыся за стадам. Пабачыўшы пісара на ганку без нагавіц, прыкрытага капаю, Лукаш толькі ухмыльнуўся, задаволены тым эфектам, які прывёў пісара ў гэтакую ярасць, — вось што такое лукашова «выганяй!». На пісараву лаянку ён дабрадушна азваўся:

— Дай божа пану пісару такі крэпкі сон, як мой пуп. А што да сволачы, дык сволач — цару памач.

Пісар кінуў на Лукаша іскраметны позірк і павярнуў у сваю спальню, не скідаючы з плячэй капы. Падпаскі зірнулі на Лукаша, пераглянуліся і зарагаталі. Лукаш падміргнуў ім і пераможна ляснуў пугаю.

Лабановіч абудзіўся яшчэ тады, калі Лукаш быў на другім канцы сяла. Ён услухоўваўся ў голас пастуха-дваравіна. На яго шляху трапіўся яшчэ адзін дваранін, займаўшы такую мізэрную пасаду. А «дваранін» паволі набліжаўся са стадам, пакрыкваючы «выганяй» і паляскваючы пугаю. Калі пачуўся глухі тукат быдлячых капытоў, настаўнік падняўся з пасцелі і падышоў да акна, каб паглядзець на вясёлага Лукаша. Лабановіч аднойчы сустракаўся з ім і ўпадабаў яго за бестурботнасць, вясёласць, лагоднасць. Лукаш любіў выпіць, і за чарку гарэлкі гатоў быў служыць вераю і праўдаю. Ён не бачыў настаўніка і ў той час, калі ён выгукнуў апошняе «выганяй», не дагадваўся, што за ім сочыць Лабановіч, які быў сведкаю пісаравай злосці і ярасці. Як толькі пісар схаваўся ў будынку, Лабановіч адчыніў акно і паклікаў Лукаша. Лукаш падбег. На яго твары блукала хітрая ўсмешка.

— Ну, брат Лукаш, і голас-жа ў цябе: як труба ерыхонская! Нават пісара з пасцелі падняў.

— Не ўпадабаў пісар майго голасу, — адказаў Лукаш і засмяяўся.

— А ты наплюй на гэта. Вось табе дваццаць капеек на чарку, а заўтра ранічкаю ты ізноў тут пагукай. За тваё адно «выганяй» буду даваць па дваццаць капеек.

— Будзе зроблена! — весела адказаў Лукаш, беручы саракоўку.

Назаўтра ранічкою Лукаш зноў стаў на сярэдзіне вуліцы, на гэты раз бліжэй да кватэры настаўніка, і ва ўсю моц загукаў:

— Выганя-я-яй!.. Паніч — выганя-я-я-яй! — І некалькі разоў ляснуў, як з пісталета, пугаю. Лабановіч падбег да акна і даў Лукашу абяцаныя дваццаць капеек. Так паўтаралася некалькі раніц падрад.

Пісар, як відаць, дагадаўся аб змове і на ганак болей не выбягаў.

Раз у год Лукаш меў адну прывілегію: у дзень святога апостала Пятра і Паўла Лукаш мог рабіць усё, што ён хоча. Мог выганяць скаціну, а мог і не выганяць. Такі быў звычай у Верхані. Але калі Лукаш у гэты дзень выходзіў на работу, кожны двор адараў яго хлебам, скварамам, яйцамі, а хто даваў пры гэтым яшчэ трохі і медзякоў. Лукаш, разумеецца, праходзіўся па дварах, збіраў скаціну ў стада і браў добраахвотныя падаткі. Выгнаўшы з сяла жывёлу і сабраўшы даніну, Лукаш даручаў стада падпаскам, а сам прадаваў сваё дабро і ўвесь дзень частаваўся гарэлкаю, частаваў і людзей, хадзіў па сяле і спяваў песні. І людзі саступалі яму дарогу. У гэты дзень Лукаш быў недатыкальнаю асобаю.

## XV

Лабановіч хоць і не дужа часта, але ўсё-ж сустракаўся з сваім калегам Іванам Анцыпікам. Ніколі не было ў іх такога выпадку, калі-б яны адкрыта і па-прыяцельску пагаманілі адзін з другім. Анцыпік быў чалавек празаічны, практычнага складу характару. Уся яго жыццёвая філасофія і мудрасць заключаліся ў тым, каб жыць спакойна, ціха і сытна. Спецыяльнай настаўніцкай асветы у яго не было. Скончыў ён нейкую малавядомую сельскагаспадарчую школу, але гэта не перашкаджала яму высока несці свой настаўніцкі гонар і сваю адукацыю. Па сутнасці-ж чалавек ён быў не шкодны. У жыцці кіраваўся ён адным асноўным правілам: не чапай ты мяне, і я цябе не зачаплю. Лабановічу хацелася бліжэй пазнаць свайго калегу і зазірнуць у таямніцы яго душы. Але

не надаралася зручнага выпадку. Анцыпік як-бы прадчуваў замах свайго калегі і стараўся ўхіліцца ад усякіх адкрытых і інтымных гутарак. У дзень яго амаль ніколі не было дома, а дамоў варочаўся позна. Але аднойчы вечаркам Анцыпік зайшоў да Лабановіча. Нейкім чынам даведаўся ён, што маці Ліды Мураўскай збіраецца заехаць да настаўнікаў і запрасіць іх у госці да сябе — з поваду таго, што яе Ліда і Коля скончылі школу.

— Ну, што-ж? пакліча, дык паедзем, — азваўся Лабановіч. Прызнацца, яму самому хацелася наведацца да маці такіх слаўных дзяцей, як Лідачка і Коля. Анцыпік, трохі памаўчаўшы, чаўкнуў языком і дадаў:

— Трэба і нам пачаставаць Антаніну Міхайлаўну.

— Калі трэба, то трэба, — згадзіўся Лабановіч, — не ведаю толькі чым і як частаваць нашу госцю, і наогул не ведаю, што яна за жанчына.

Анцыпік заварушыўся. Язык яго на момант нібы заграз, але зараз-жа шчоўкнуў і выкінуў такія словы:

— Антаніна Міхайлаўна — удава і яшчэ не старая, гэта адно. Другое, яна — маці Лідачкі, да якой, па маіх назіраннях, калега мой не абыякавы.

Тут Анцыпік хітра і многазначна падміргнуў Лабановічу, як-бы для яго, Анцыпіка, былі зусім ясныя мыслі і сэрца Лабановіча. Лабановіч апусціў вочы ўніз і заразжа сказаў:

— Вось не думаў, што ты такі назіральны... А можа і васпан да яе не абыякавы?

Анцыпік прапусціў міма вушэй словы калегі і казаў далей:

— Па-трэцяе, яна — выхрыстка і, па-чацвертае, любіць чарку.

— Характарыстыка поўная, партрэт напісан грунтоўна. Відаць, сядзеў ты з ёю за чаркаю не раз, — пажартаваў Лабановіч.

— Сядзеў і яшчэ пасяджу, праўдзівей, пасядзімо: пачастунак зробім у складчыну, — азваўся Анцыпік.

— Ну, што-ж? згодзен: так яшчэ лепей. Пытанне можна лічыць вырашаным, — скончыў Лабановіч і зірнуў на Анцыпіка ўважным поглядам.

— Скажы, Іване, як гадаеш правесці лета і што мяр-

куеш рабіць далей: ці на век прысягнуў пачатковай школе, ці ёсць якія-небудзь іншыя планы?

Анцыпік заморгаў вачыма ў прадчуванні нейкай сур'ёзнай гутаркі. Сур'ёзных гутарак ён не любіў, бо яны могуць збіць чалавека з тропу.

— А я аб гэтым і не думаю, — адказаў Анцыпік. — Ды і што думаць? Надакучыць сядзець тут, паеду да бацькоў, там пажыву, папрацую на лузе, на полі. А прыесца і гэта, буду думаць нешта другое. А так без патрэбы навошта мазоліць мазгі і псаваць нервы? Маё правіла такое: ціха, дык не рыпайся, а стануць прыціскаць, збярыся ціхенька ды бяжы ў другое месца.

— А за што-ж і хто будзе прыціскаць, калі ты будзеш ціха сядзець? — спытаў Лабановіч.

— Ды яно і гэта праўда, — чаўкнуў Анцыпік. — Але бываюць розныя людзі, што без дай прычыны прывяжуцца да цябе. І ўсё-ж самае лепшае правіла: не чапай нічога і не бойся нікога.

— А вось-жа ты сядзеў ціха, нікога не чапаў, а прystава збаяўся і задаў уцекача, — укалоў калегу Лабановіч. Анцыпік утупіўся, хацеў штось чаўкнуць, але Лабановіч дадаў:

— Урэшце ўсё-такі твая праўда: ты не датрымаў свайго правіла, бо зачапіў Ганну Карлаўну, якую меў ці мае на воку грозны станавы прыстаў.

Для Анцыпіка гэты выпадак быў непрыемны, як непрыемны быў і напамінак аб ім.

— Усё бывае на свеце між людзьмі, — нотка пакорнасці чуваць была ў голасе і ў словах Анцыпіка.

— І ты павінен маўчаць, мірыцца з усёю недарэчнасцю і несправядлівасцю такога ладу?

— А што з таго, што я буду крычаць? Хто мяне пачуе? Вось ты папрабаваў крыкнуць, і цябе перамясцілі. Не, брат: вышай пупа не падскочыш! — з тонам пераможцы заключыў Анцыпік.

Для Лабановіча стала відочна, што з Анцыпікам кашы не зварыш, а весці з ім гутарку аб ролі настаўніка ў грамадскім жыцці, каб абудзіць свядомасць, не толькі марная трата часу, але і небяспечная рэч: дзе парука, што Анцыпік не прагаворыцца — вольна ці нявольна?

Лабановіч не рабіў болей спробы зазіраць у душу свайго калегі. Яна была для яго ясная і не цікавая, як сцёрты мядзяк. Ён толькі сказаў:

— Так, твая праўда.

Праз пару дзён у школу сапраўды прыехала Антаніна Міхайлаўна. Лабановіч сустрэў яе на ганку.

— Напэўна вы маці Ліды і Колі, Антаніна Міхайлаўна? — запытаў гаспадар.

Антаніна Міхайлаўна ўсміхнулася, і Лабановіч убачыў шчарбаты рот з працярэбленымі гнілымі зубамі.

— Я, я! — прамовіла госця. З твару яна была даволі прыгожая жанчына, чорнабровая, цёмнавокая. Праўда, вочы яе трохі выцвілі, парыжэлі... «Няўжо-ж у яе гады і Ліда будзе такая?» — сам сабе падумаў Лабановіч і павёў госцю ў пакой. Покі яна прыводзіла сябе ў парадак, як гэта ўласціва жанчынам, Лабановіч, папрасіўшы прабачэння, збегаў у кухню і паслаў бабку Параску па Анцыпіка, але патрэбы ў гэтым не было, бо Анцыпік зараз-жа паказаўся і сам. Анцыпік быў болей спрытны кавалер, чым гаспадар, запрасіў госцю прысесці, затупаў каля яе, зачаўкаў на ўсе галасы. Лабановіч пазіраў на яго і проста цешыўся яго здольнасці ў справе абыходжання з жанчынамі. «Вось каб ты быў такім і ў грамадскай дзейнасці!» — думаў сабе Лабановіч.

Покуль Антаніна Міхайлаўна забаўлялася з дасціпным Анцыпікам, Лабановіч з бабкай Параскай рыхтавалі закуску. Знайшоўся кавалак сыру, крыху масла, каўбаса, кіслая капуста. Бабка Параска нарэзала сала — і для закускі і для яечні. Сторож Пілiп урачыста выцягнуў з-за пазухі пляшку гарэлкі.

— Можа і ў твой гарляк, Піліпе, перападзе кропля, — сказаў ён, ні да каго не звярачаючыся.

Бабка Параска дзеля такога ўрачыстага выпадку дастала свой чысты настольнік і заслала стол. Паставіла талеркі, нажы і відэльцы, відаць дзесь пазычыла. Яна не хацела, каб яе гаспадар «свяціў» вачамі перад госцяю. Калі ўсё было гатова, селі шчыльней за стол. Стол атрымаўся даволі багаты к вялікаму задаваленню бабкі Параскі. Лабановіч, як гаспадар, наліў чаркі і падняў тост за госцю.

Выпілі, выпіла і госця. Пасля кожнай выпітай чаркі Антаніна Міхайлаўна брала хлеб і, перш чым адкусіць, падносіла яго к носу і нюхала, а потым ужо клала ў рот і закусвала.

Сядзелі доўга. Некалькі разоў бабка Параска дабаўляла закускі. Сторож Піліп двойчы хадзіў па гарэлку, прычым і ў яго «гарляк» перападала «кропля». Лабановіч пачуў, што ў галаве яго шуміць. Яму хацелася, каб гэты пачастунак скончыўся, а госця сядзела, як ні ў чым не бывала, піла чарку ў чарку з настаўнікамі, нюхала хлеб і закусвала. Анцыпік чаўкаў шмат болей сваёй нормы. Улучыўшы момант, ён падміргнуў Лабановічу і даў яму зразумець, што ён, Анцыпік, «накачае» госцю. Ён паклікаў Піліпа і паслаў яшчэ па гарэлку. Лабановіч ціхенька падаўся ў сваю бакавушку. Не раздзеючыся, прылёг на пасцель. Спачатку да яго вушэй даносіліся словы і стук чарак, чаўканне Анцыпіка і безтурботны смех Антаніны Міхайлаўны. Ён прачнуўся тады, калі пастух Лукаш ляскаў сваёю заліхвацкаю пугаю і выгукваў сваё знамянітае «выганяй!».

Лабановіч падняўся з пасцелі, увайшоў у сталовую. За сталом спакойна сядзела Антаніна Міхайлаўна. Здавалася, што яна гарэлкі і ў рот не брала. Анцыпік ляжаў каля стала на падлозе ў самай маляўнічай позе зусім п'янага чалавека. Ляжаў ён на спіне, задраўшы ўгору нос, і задаваў п'янага храпака. Антаніна Міхайлаўна весела засмяялася і, паказваючы на Анцыпіка, сказала:

— Хацеў спаіць мяне. Я-ж бачыла, як ён ківаў вам і разгадала яго намер. Пілі мы чарку ў чарку... Не, не яму спаіць мяне. Колькі-б я не піла, я п'янаю не бываю.

Антаніна Міхайлаўна расказала, як яна выручала ў выпіўцы свайго нябожчыка мужа, як піла з самымі заядлымі выпівакамі і п'янаю ніколі не была.

«Можа ты таму не п'янееш, што нюхаеш хлеб, выпіўшы чарку гарэлкі», — падумаў Лабановіч. Ён рашыў пры зручным выпадку праверыць гэты спосаб на практыцы.

## XVI

У ясны веснавы дзянёк Анцыпік і Лабановіч ехалі ў сялянскай каламажцы на хутар з трох ці чатырох двароў. Адзін з гэтых дворыкаў належаў Антаніне Міхайлаўне, перайшоўшы пасля смерці яе мужа ёй і дзецям. Да Антаніны Міхайлаўны ў госці і ехалі верханьскія настаўнікі. Ад Верханя да хутароў было вёрст шэсць. Увесь час дарога ішла полем, часамі паміж бярозавых прысад. Па баках маляўніча раскідаліся невысокія пагоркі, невялікія ляскі і гаі, вузенькія зялёныя далінкі, утульныя і прывабныя. У цяньку нізкіх альховых кустоў сям-там туліўся пакручасты ручаёк, зрэдку выбягаючы на чыстае месца і блішчучы, як срэбра, на сонцы. Багата і шчодра ўпрыгожыла вясна зямлю, адзеўшы яе зелянінаю, ярыною і жытамі, што пачыналі ўжо выпускаць угору маладзенечкія каласкі, рассыпала па ёй мільёны рознакаляровых кветак. Трудна было адвесці вочы ад хараства адноўленага жыцця на зямлі, ад яе пышнага ўбрання. І толькі тады, калі фурманка павярнула з шырокай дарогі на вузкую і мала наезджаную хутарскую дарожку, Лабановіч успомніў Антаніну Міхайлаўну, яе дабрадушную ўсмешку і шчарбаты рот. І ўсё-ж яна была жанчына неблагая, а калі прыгадаць, як улажыла яна Анцыпіка, то яе да некаторай ступені можна лічыць выдатнаю кабетаю.

Аб сваім правале Анцыпік стараўся не ўспамінаць, а Лабановіч таксама не прыгадваў яму гэты выпадак, каб не зніжаць гонар калегі.

Фурманка павярнула ў дворык хутарка. З запушчанай сялянскай хаты з парыжэлай саламянай страхою выбег Коля, а за ім і Ліда, крыху сціскаючыся і сарамечыся.

Коля шырока расчыніў весніцы ў невялічкі, але чысценькі дворык. Хлопец не так быў рады прыезду настаўнікаў, як з'яўленню каня на іх двары. Ён больш за ўсё на свеце любіў коней. Як толькі фурманка спынілася, Коля зараз-жа падбег да каня і хапіўся распрагаць яго, рассупоньваць. Дзядзька Купрэй бачыў колін спрыт і ўменне хадзіць каля коней. Ён не замінаў хлопцу і толькі

пахвальваў яго. А Коля, хоць ён і маленькі, як вузел, спрытна рассупоніў каня і выняў з рота цуглі: ён лічыў, што хамут і цуглі найболей дакучлівыя для каня рэчы. Выпрагшы каня, ён падвёў яго да плоту, сеў вярхом.

— Вы сабе, дзядзька, гуляйце тут, а каня я папасу і пакармлю і напаю.

— Вот маладзец! — сказаў дзядзька Купрэй.

Больш Коля амаль не з'яўляўся тут, а ўсё хадзіў каля каня, збіраў яму смачную траву. Такія коліны захады каню спадабаліся. Згледзеўшы сакаўную траву ў руках свайго шэфа, конь адвешваў губу і дабрадушна адклікаўся — го-го-го. А для Колі гэта была вялікая радасць.

Ліда паздароўкалася з настаўнікамі і, як гаспадыня, ветліва запрасіла іх у хату. Яна была і задаволена і трохі саромелася яшчэ нязвыклай для яе ролі гаспадыні. Яе шчокі паружавелі ад хвалявання, і гэта прыдавала ёй асаблівую прываблівасць.

Амаль адначасова з дзецьмі на нізенькім ганачку паказалася і Антаніна Міхайлаўна. Яна здалёку павіталася з гасцямі, як ужо старая і добра знаёмая іх.

— Заходзьце-ж, заходзьце ў хату! Ліда, вядзі сваіх настаўнікаў, прасі іх.

Антаніна Міхайлаўна, вымаўляючы слова «Ліда», гаварыла «Лідэ».

Не дужа павабны выгляд мела хата Антаніны Міхайлаўны. Няўмольныя часы палажылі на яе адбітак старасці і разбурэння. Бярвенні ў сценах сям-там павытыркалі і выступалі з агульнага ладу колісь старанна ўкладзеных і гладка дагнаных вянкоў. Самі сцены знадворку і ў сярэдзіне пачарнелі, пазакурваліся, былі патачаны шашалем. Невялікія падслепаватыя вокны скупа прапускалі святло з двара, хоць на дварэ ва ўсю свяціла веснавое сонца. Хата нічым не адрознівалася ад старасвецкіх сялянскіх хат з іх нізкімі столямі і вялізнымі печамі, займаўшымі чвэрць хатняе плошчы. Даволі прасторныя сенцы аддзялялі хату ад каморы, у якой стаяў сталярскі варштат з геблікамі і рубанкам, габлёваныя дошкі і ляжалі пахучыя хваёвыя стружкі. Хто-небудзь з суседзяў, а яны ўсе былі сваякамі Антаніны Міхайлаўны па мужу, прыходзілі сюды і займаліся майстэрствам у меру патрэбы ў ім.

Лабановіч з цікавасцю разглядаў хату. Антаніна Міхайлаўна, як-бы пераймаючы яго мыслі, заўважыла:

— Занепадае мая хата. Усё ладжуся паднавіць яе сям-там, ды трудна мне адной. Сваякі абяцаюць дапамагчы, але, як кажуць, цацанкі-абяцанкі, а дурному радасць.

— Ды жыць яшчэ можна, — азваўся Анцыпік: — чыста, цёпла, утульна. А калі яшчэ Лідачка засвеціць вочкамі, дык у хаце зусім стане светла.

Ліда засаромелася. Яе маці таксама апусціла вочы, а Анцыпік меў такі выгляд, як-бы ён сказаў штось дужа трапнае і дасціпнае.

Тым часам Антаніна Міхайлаўна затупала каля печы, а потым і каля стала.

— Рашайце, госці, самі, — раптам сказала яна: — ці тут мы сядзем за стол, ці можа лепей пойдзем у садок пад грушку?

Пастанавілі, што ў садку пад грушкай будзе і вальней і прастарней.

І сапраўды, лепшага месца, як пад гэтай грушкай, трудна было знайсці: зацішак, сонца, чыстае паветра і блізка ад хаты. Пад грушаю стаяў просты стол на слупках, укопаных у зямлю. Па даўжыні стала з аднаго і другога боку стаялі лаўкі, таксама на слупках, стаялі трывала.

— Ну, вось лепшае дачы балай што і на свеце няма, — Лабановічу дужа спадабалася гэтае месца.

За сталом часу марна не трацілі. Антаніна Міхайлаўна аказалася дасканалаю гаспадыняю. Рознай закускі, пераважна сялянскага паходжання, на стале было багата, і ўсё было згатавана з густам.

Прайшла гадзіна і другая ў вясёлай бяседзе. Лабановіч канчаткова дагаварыўся з гаспадыняю, што ён будзе праз дзень прыходзіць сюды і займацца з Лідаю, каб падрыхтаваць яе для паступлення ў якую-небудзь вучэбную ўстанову, дзе рыхтуюць настаўніц, прычым займацца ён будзе бясплатна. Анцыпік усё гэта слухаў і пасвойму наматваў на вус. Цяпер ён асцерагаўся піць з гаспадыняй чарка ў чарку. Затое не пасцярогся Лабановіч. Ён ужо адчуў, што ў галаве яго пашумлівае. Як на ліха, Антаніна Міхайлаўна зрабіла яму заўвагу, што

ён не дапівае чаркі. Яе падтрымаў Анцыпік. На гэтым грунце яны ўдваіх населі на Лабановіча.

— Вы, сябры, проста прыдзіраецеся да мяне або смеяцеся, што я занадта шчыра асушаю чарку, — бараніўся Лабановіч. — Ну, скажы ты, Лідачка, праўду я кажу ці не?

Ліда засмяялася, нічога не адказала і так заківала галавою, што ківок той можна было лічыць і так і гэтак.

— Ну, вось і Ліда кажа, што вы не дапіваеце, — выкарыстала, смеючыся, Антаніна Міхайлаўна неакрэслены ківок дачкі.

— А калі так, то дайце мне шклянку!

Антаніна Міхайлаўна не паскупілася і падала шклянку.

— Прашу наліць!

Анцыпік са здзіўленнем паглядзеў на Лабановіча. Лабановіч наліў поўную шклянку гарэлкі і, не адрываючыся ад яе, выпіў да дна.

— Налівайце другую, — сказаў ён, я пакажу, як не дапіваю чарак!

Антаніна Міхайлаўна прабавала спыніць яго, але ён з упартасцю п'янага сам наліў другую шклянку і залпам асушыў яе.

І з гэтага моманту для Лабановіча наступіла цёмная ноч і поўны правал памяці. Прачнуўся ён у поўнач. На пахучых стружках была яго пасцель. Галава яго была ясная, адчуваў ён сябе добра, як ніколі. Усё, што было да двух шклянак гарэлкі, ён помніў выразна. А вось, як апынуўся ён у каморы на стружках, гэта была для яго загадка. Лабановіч ляжаў і разважаў. На другой палавіне будынка стаяў шум і тупат. Даносіўся гоман бубна і піліканне скрыпкі. Відаць, госці перайшлі з двара ў хату і там наладзілі вечарынку. Лабановічу стала прыкра і брыдка за свой учынак. І не век-жа яму ляжаць на стружках. На яго шчасце ў камору ўвайшла Антаніна Міхайлаўна са свечкаю ў руках. Лабановіч узрадаваўся і пажартаваў:

— Антаніна Міхайлаўна, я зусім ачуняў і паміраць не збіраюся. Свечкі мне не трэба.

— Ну, то і добра, а то я непакоілася.

Лабановіч папрасіў яе перадаць Анцыпіку і фурману, каб збіраліся дамоў.

Праз поўгадзіны ён сядзеў у каламажцы і падтрымліваў Анцыпіка, каб ён не выкінуўся з каламажкі. Пад'ехаўшы да двара, дзе жыла Ганна Карлаўна, Анцыпік раптам забушаваў і памыкаўся вылезці з каламажкі. Лабановіч трымаў яго і не пускаў. А Іван Анцыпік крычаў на ўсё горла:

— Пусці мяне к Ганне!

Дзядзька Купрэй пагнаў каня. Ад'ехаўшыся ад двара, Анцыпік супакоіўся, а праспаўшыся, прышоў да калегі і падзякаваў яго, што не пусціў да Ганны Карлаўны.

— Ну, Іване, квіты, абодва мы біты.

## XVII

Дзве шклянкі гарэлкі, як стрэмка, уеліся ў свядомасць Лабановіча. На што ён зрабіў так? Што ён гэтым давёў. І чым-жа ён лепшы за п'яніцу Хрыпача і пісара Васількевіча? Проста ён стаў агідным сабе самому. Але адных дакораў яму было мала: адчувалася патрэба паспавядацца перад кім-небудзь, прызнацца ў сваім бязволлі і блазнярстве.

У час яго згрызот і каяння ўвайшла бабка Параска.

— Можа будзеце снедаць, панічок? — лагодна запыталася бабка. Яна прывыкла да новага настаўніка і палюбіла яго, як сына, і часта называла яго «манашкам».

— Не варта, бабка Параска, даваць мне снедаць.

— Чаму-ж гэта не варта?

Бабка занепакоілася і паглядзела на настаўніка.

— Нікуды нягодны я чалавек, бабка Параска, няма ў мяне пачуцця меры: напіўся ўчора ў гасцях, як Хрыпач.

— Дык на тое-ж і госці, каб выпіць і пагуляць. Якія-ж гэта госці, калі чалавек не дасць сабе трохі волі?.. І праўда — манашак вы! — лагодна заключыла бабка Параска.

— Ты, бабка, не ведаеш, як я піў.

Лабановіч расказаў, нічога не ўтойваючы, як выпіў ён засаб дзве шклянкі гарэлкі і што было з ім пасля гэтага. Бабка Параска слухала ўважна. Локаць адной ру-

кі яна паставіла на другую руку, падперла галаву і сядзела нерухліва. Лабановічу здалося, што бабка засмуцілася. А калі ён скончыў сваю аповесць, бабка Параска павесялела.

— Ну, і што-ж? Ачнуліся, праспаліся, галава свежая, дык і дзякуй богу! — весела азвалася яна і дадала: — Вось калі часта рабіць так, то гэта кепска, і так рабіць не трэба, — нотка дакору і строгасці пачулася ў бабчыным голасе.

— Слаўная ты кабетка, бабка Параска!—у захапленні прамовіў настаўнік. — І сэрца тваё добрае і розум твой разумны! — скаламбурыў ён.

Бабка Параска хітра паківала галавою.

— Вось сядзіць-сядзіць мой манашак ды нешта і выдумае: розум разумны!

Момант памаўчаўшы, іншым тонам дадала:

— А можа яно і праўда, бо кажуць-жа і «дурны розум!»

— Ну, ці-ж не мая праўда? Ды ты, бабка, — філосаф!

Бабка Параска зарагатала.

— Божа мой, чаго ён не прыдумае! І не чула ніколі слова такога: піласап! Яно больш падыходзіць да Піліпа.

Гутарка з бабкаю Параскаю развесяліла настаўніка, і да яго вярнуўся ранейшы гумор. Дзве шклянкі гарэлкі патроху страчвалі сваю вастрыню і адыходзілі ў прошласць, хоць яны і засталіся ў памяці на ўсё жыццё.

На другі дзень зранння, памятаючы свой угавор з Антанінай Міхайлаўнаю наконт Ліды, ён узяў палку і пашыбаваў на хутар ужо знаёмаю дарогаю.

Добра быць аднаму ў дарозе, асабліва тады, калі пагода спрыяе табе, а на сэрцы спакойна, і нішто не ацяжарвае тваё душы, нішто не замінае думаць, аб чым хочаш, або даць поўную волю самым вычварным і далёкім ад рэальнасці марам. Ідзеш сабе адзін і радуешся таму, што ты жывеш на свеце, радуешся, што ў цябе ёсць вочы, каб аглядаць прасторы і малюнкі зямлі, і вушы, каб слухаць рознастайныя гукі, несціханую музыку жыцця. Радуешся небу і сонцу, кучаравым хмарам, лагоднаму ветру і людзям, што сустракаюцца ў дарозе. Многа дарог, нікім не злічаных, снуецца па зямлі. Многа дарог у жыцці, па якіх блукаюць людзі, каб знайсці тое, што лічаць

яны сваім шчасцем. Ды не для ўсіх расчынены гэтыя дарогі; іх трэба заваяваць — для сябе і для гарапашнага люду.

Ізноў прыгадаліся Лабановічу мыслі, усё часцей і часцей наведваўшыя яго, мыслі аб настаўніцкай арганізацыі, каб грамадой і па аднаму плану весці рэвалюцыйна-асветную работу ў народзе. У памяці Лабановіча ўсплылі малюнкі не так далёкага мінулага. Прыгадаўся Пінск, Вольга Андросава, першы патайны сход, дзе ён, Лабановіч, гаварыў аб арганізацыі вясковых настаўнікаў. Успомніў ён і Алеся Садовіча і Янку Тукалу. Ці не аб гэтым-жа самым думалі і гаварылі яны, калі заводзілі гутарку аб трыумвірацe, аб пастаянных зносінах паміж сабою. У сілу непрадбачаных прычын і падзей падыйсці ўсутыч да ажыццяўлення патайной настаўніцкай арганізацыі не ўдалася. Але такая думка жыве не ў адной толькі галаве Лабановіча, яна жыве ў тысячах настаўніцкіх галоў — не ўсе-ж яны Анцыпікі і Турсевічы, якія ўхіляюцца ад рэвалюцыйнай барацьбы і лічаць лепшым жыць спакойна і сытна.

«Напісаць пісьмо Садовічу», — рашыў Лабановіч. І ён стаў абдумваць змест пісьма, каб да яго ніхто не мог прычапіцца і каб яно было зразумелым для Садовіча. Самае лепшае — не пасылаць пісьма праз воласць, а проста апусціць яго ў скрынку паштовага вагона. А гэтым летам абавязкова пакласці пачатак рэвалюцыйнай настаўніцкай арганізацыі. Яе ў Беларусі няма, яна павінна быць. З такімі думкамі ішоў Лабановіч на хутар. І раптам адчуў ён у сабе нейкі непакой. Якаясь няўлоўная і неўсвядомленая думка стала карцець яму, разганяць яго добры настрой. І толькі тады для яго стала ясна, калі ён павярнуў з вялікай дарогі на мала наезджаную, што вяла на хутар: прычынаю яго непакою была Ліда. Ці не паспяшаўся ён, беручыся падгатаваць яе для паступлення ў гарадскую школу? Нашто ўзяў ён такі абавязак і звязаў сябе? Хто прасіў яго быць настаўнікам Ліды пасля таго, калі яна скончыла пачатковую школу?

А на гэта былі дзве прычыны: Лабановічу падабалася прыгожанькая, крыху сарамяжлівая, чорнавокая Лідачка, хоць у гэтым ён не хацеў прызнавацца сабе самому, не толькі людзям. Другая прычына — лішняя чарка, вы-

пітая пад спакусліваю грушкаю. Усё паэтычнае асяроддзе наладжанага на скорую руку сялянскага банкета, прыемны шолах у галаве ўзнялі яго настрой, атулілі сэрца празмернаю дабратою, і ён, не ўзважыўшы цвяроза свайго парывання, патарапіўся ўзяць на сябе адказны абавязак. А цяпер, калі ён зірнуў на ўсе гэтыя праявы другімі вачамі, настаўнік адчуў, што выпадковае, мімалётнае захапленне скіравала яго з правільнай дарогі. І сапраўды: што такое для яго Ліда? Якое мае ён права ўрывацца ў яе жыццё? І што кіруе ім у яго адносінах да яе? Бесстароннае жаданне дапамагчы ёй? Вывесці яе ў людзі? Не, няма чаго хітрыць з самім сабою. Напэўна, калі-б Ліда была такая шчарбатая, як і яе маці, то наўрад ці з'явіліся-б у яго такія высокія бескарысныя парыванні.

Лабановіч перанёсся думкамі на шмат гадоў наперад, каб уявіць сабе Ліду, калі яна будзе равесніцаю свае маці. Але сягоннешняя Ліда выбегла ў гэты час з свайго двара на спатканне Лабановічу. Жывая, вясёлая і радасная, яна змяшала ўсе яго мыслі. Лабановіч убачыў мілую дзяўчынку-падростка і ўспрыймаў яе такою, як яна ёсць — маладзенькая, гатовая расцвісці ў поўнай сваёй красе. Думка параўнаць яе з Антанінай Міхайлаўнай вылецела з яго галавы.

Ліда сустрэла настаўніка, паздароўкалася з ім, абняла яго руку, прытулілася да яе, як даверлівае дзіця.

— Я вас учора чакала, — сказала яна.

Лабановіч зірнуў ёй у вочы. Замест адказу ён сам запытаўся ў яе:

— Лідачка, ты не смяешся і не кпіш з мяне за мой учынак?

Ліда засаромелася. Ёй стала няёмка: як гэта яна будзе смяяцца з настаўніка? І ніколі не чула яна такіх запытанняў ад яго.

— Як гэта я буду кпіць з вас і смяяцца?

— Напіўся я пазаўчора да бяспамяцця і з-за гэтага не прышоў учора: брыдка было паказацца ў вашым доме.

— Дык ніхто-ж гэтага не бачыў, — адказала Ліда.

Настаўнік засмяяўся.

— Ты, Лідачка, гаворыш таксама, як і мая бабка

Параска. І за гэта я вас люблю — цябе і бабку Параску. Ну, дык пойдзем і сядзем за работу.

І яны накіраваліся ў двор, а потым у хату Антаніны Міхайлаўны.

## XVIII

Набліжалася лета.

Ніякіх значных змен не адбылося ў жыцці Лабановіча. У Верханьскай школе цяпер ён застаўся адзін. Анцыпік цішком знік. Куды ён падаўся, Лабановіч не ведаў. І яму таксама трэба было-б адлучыцца на кароткі час. Ён паслаў пісьмо Садовічу. Пісьмо было напісана ў жартлівым тоне, у няясных сказах і намёках. Ужыты былі такія словы, сэнс якіх быў вядомы Садовічу і блізкім сябрам. Адказ на пісьмо прышоў даволі борзда. Садовіч пісаў, што яго школа стала прыпынішчам настаўнікаў, што з ім жыве Янка Тукала, Алесь Лушкевіч з-пад Шчорсаў і яшчэ збіраецца прыехаць да яго некалькі настаўнікаў. «У пачатку ліпеня, не пазней чысла пятага, — пісаў Садовіч, — павінен быць і ты, — непрыменна, абавязкова. Наладжваецца гуртовая маёўка. Трэба-ж, чорт вазьмі, гульнуць хоць раз у год». Лабановіч зразумеў навошта намякае яго зямляк і блізкі сябар Садовіч. Паціхеньку і потайкам рыхтаваўся ён да важнай падзеі ў настаўніцкім жыцці. Лабановіч быў упэўнены, што ён ступае на новы рубеж свайго настаўніцкага жыцця. Для «маёўкі», аб якой пісаў Садовіч, Лабановіч задумаў напісаць даклад на тэму аб асвеце ў пачатковых школах. У сваім дакладзе меркаваў ён выказаць думку аб тым, якія задачы ставяць царскія чыноўнікі настаўнікам пачатковых школ, і наогул, куды скіравана бюракратычна-паліцэйская навука царскай Расіі, і што трэба супроцьпаставіць ёй.

Тым-жа часам праз дзень, а калі праз два, хадзіў Лабановіч на хутар Антаніны Міхайлаўны на заняткі з Лідаю. Асаблівай стараннасці ў навучанні Ліда не выяўляла. Затое чым далей, тым прыметней абуджалася ў ёй дарослая дзяўчына.

Часамі пазірала яна на свайго настаўніка не так, як

належыць вучнёўцы. Настаўнік тлумачыць ёй правілы складання дробаў. Ліда слухае, а дробы кудысь адлятаюць ад яе, ніяк не трымаюцца ў галаве. А слухае, здаецца, яна вельмі ўважна і не зводзіць вачэй з настаўніка. У цёмных авалах яе вачэй паяўляецца асаблівы блеск. На губах раптам заблукае ўсмешка. Яна ловіць сама сябе на гэтай усмешцы, засаромеецца і борздзенька хіліць галаву на стол. Кучаравыя цёмнакаштанавыя валасы падаюць ёй на рукі і рассыпаюцца па стале. Настаўнік спыняе сваё тлумачэнне — галава ў яе забалела ці што?

— Што з табою, Ліда? — пытае настаўнік.

Ліда падымае галаву, адкідае з ілба цёмныя локаны. Блеск вачэй яе гасне, на губах блукае вінаватая ўсмешка.

— Сон мяне змарыў, — няўпэўнена адказвае Ліда.

Настаўнік глядзіць на яе з дакорам. Лідзе робіцца непрыемна. Цень засмучэння кладзецца ёй на твар. Яна апускае вочы, замыкаецца ў сабе.

— Гэта значыць, я так цікава тлумачу правілы складання дробаў, што навёў на цябе сон, — з ноткаю крыўды заўважае Лабановіч.

Ліда маўчыць і яшчэ ніжэй апускае галаву. Яна думае нейкія свае думкі, але якія, сказаць трудна. Некаторы час маўчыць і Лабановіч. Для яго зусім невядома прычына такіх паводзін Ліды.

— Можа табе нездаровіцца, Ліда? — пасля кароткага маўчання пытае Лабановіч. Ліда нічога не адказвае. Настаўнік у недаўменні глядзіць на яе.

— Чаго-ж маўчыш, Лідачка? — спагадна дапытваецца настаўнік.

Ліда нічога не гаворыць. А потым зрываецца з-за стала і бяжыць у свой куток, адгароджаны палатнянаю занавескай.

«Што-ж гэта яшчэ за капрызы?» — пытае самога сябе ў мыслях Лабановіч. І не ведае, што рабіць яму далей: ці кінуць гэтыя заняткі наогул і ісці дамоў, ці ўсё-ж такі высніць прычыну такой няроўнасці ў паводзінах яго вучнёўкі? У хаце, апроч яго і Ліды, нікога не было. Антаніна Міхайлаўна кудысь пайшла з двара. У часы заняткаў яна звычайна выходзіла з хаты, каб нічым не перашкаджаць «лекцыям». А Ліда, зашыўшыся ў свой

берлажок за палатнянаю перагародкаю, не падавала ніякіх адзнак свайго існавання.

— Ліда! — аклікнуў яе голасам настаўнік.

Ліда не адазвалася.

«Можа яна самлела там!» — затрывожыўся Лабановіч. Ён устаў з-за стала і асцярожна накіраваўся да перагародкі. Момант пастаяў каля яе і асцярожненька прыўзняў занавеску. За перагародкаю было даволі цёмна. Ліда ляжала на пасцелі, уткнуўшыся тварам у падушку і прыкрыўшыся да пояса лёгкаю дзяружкаю.

Лабановіч нахіліўся над ёю, прыслухаўся да яе дыхання. Ліда ляжала ціха і нерухома, як нежывая.

— Ліда! — яшчэ раз аклікнуў яе настаўнік.

Ліда не паварушылася і голасу не падала. Настаўнік палажыў руку на лідзіну галоўку, пагладзіў яе локаны.

— Лідачка, што з табою? Чаго маўчыш? Жывая ты ці не?

І на гэты раз Ліда не азвалася. Тады настаўнік лёгенька падсунуў руку пад чарнявую галаву свае капрызнае вучнёўкі, прыўзняў яе. Галава была цёплая, значыць Ліда жывая. Настаўнік нахіліўся яшчэ ніжэй, а яе галаву падняў вышэй і пацалаваў у шчочку, а потым і ў губы. Толькі тады Ліда зусім ажыла, зірнула на настаўніка, засмяялася, засаромелася, а потым строга сказала:

— Ідзіце адгэтуль!

«Вось табе і дробы!» — заўважыў сам сабе настаўнік, выходзячы з-за перагародкі.

Ён сеў за стол на сваё звычайнае месца і з такім выглядам, як-бы нічога асабліва і не здарылася. Адразу-ж ён не мог разабрацца ў сваім учынку і ў пачуццях. Але нашто было так рабіць? І як адчуваў-бы ён сябе, калі-б Антаніна Міхайлаўна застала яго за палатнянаю перагародкаю, дзе была Ліда? Што-б магла падумаць маці?

Цэлы рой думак замітусіўся ў яго галаве, а ў вачах спакуслівa паўставала Ліда. І ўсё-ж адно яшчэ не зусім акрэсленае адчуванне грамчэй за ўсё давала аб сабе знаць: рабіць так, як зрабіў ён, нядобра. Ні да якіх пэўных заключэнняў настаўнік прыйсці не паспеў: з-за перагародкі вышла Ліда. Ёй было сорамна. Яна старалася не глядзець на настаўніка, каб іх вочы не сустрэ-

ліся. Яна села на сваё месца. Таксама і настаўнік апусціў вочы, але зараз-жа ўзяў сябе ў рукі.

— Слухай, Ліда, — суха сказаў ён, каб згладзіць непрадбачаны выпадак за палатнянаю перагародкаю. — Хочаш вучыцца, дык вучыся, а свае капрызы трэба схаваць. А калі не хочаш вучыцца, дык так і скажы: я болей хадзіць сюды не буду.

Ліда сумелася. Яна не чакала такіх суровых слоў. Засмучэнне і боль адбіліся на яе твары. Нізка апусціла галаву і маўчала. Лабановічу стала шкада яе, але ён не адразу з'ехаў з сухога настаўніцкага тону.

— Ну, ты падумай, Ліда, да чаго даводзяць твае капрызы! — настаўнік сам заўважыў, што ён пляце глупства, але пачатую гутарку павёў далей: — Што сказала-б маці, калі-б яна застала мяне з табою за перагародкаю?

«Зусім глупа», — сам сабе зазначыў Лабановіч.

Яшчэ ніжэй унурылася Ліда і нічога не адказала. Напэўна, яна думала, што яе настаўнік зараз не варты такой назвы. Замаўчаў і настаўнік.

— Дык як гадаеш, Лідачка, — ласкавей загаварыў настаўнік: — будзем займацца далей, ці скончым нашы заняткі?

Не падымаючы галавы, Ліда ціха прамовіла:

— Я хачу вучыцца далей.

— Ну, вось гэта іншая справа, — настаўнік быў задаволены, што да Ліды вярнуўся голас, і яна загаварыла. Гэтым самым як-бы клаўся рубеж між тым, што здарылася і іх цяперашнім становішчам.

— Калі вучыцца, дык вучыцца, Лідачка. Больш капрызіць не будзеш?

— Не буду, — адказала Ліда і зірнула на Лабановіча.

— Ну, значыць усё ў парадку. Сённешнія заняткі скончым. Ідзі пагуляй, перадумай усё і на мяне не гневайся. Усё, што я тлумачыў пра складанне дробаў, ты пастарайся сама разабрацца па падручніку.

Яны развіталіся.

Настаўнік накіраваўся ў свой бок.

І ўсё-ж такі добрая справа — дарога. Чаго толькі не перадумаеш у дарозе! Вярсты дзве дарогі прайшлі ў думках аб здарэнні на хутары. Абмеркаваўшы тое здарэнне з усіх бакоў, настаўнік не асудзіў сябе дужа строга, але

перасцярог сам сябе, прыгадаўшы словы свяшчэннага пісання:

«Блюдите, како опасно ходите».

І ён весялей пасоўваўся наперад, трымаючы кірунак на Верхань.

## XIX

Вандроўкі на хутар не дужа вабілі Лабановіча. Гэта быў непрыемны для яго абавязак. Уся бяда ў тым, што вінаваты ён сам: хто прасіў яго хадзіць на гэтыя заняткі? Ды ўжо адступаць позна. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Але былі і дадатныя бакі ў гэтых вандроўках: у дарозе добра было абмяркоўваць даклад. Думкі плылі лёгка і гладка. Многа трапных сказаў складалася ў галаве. Часамі настаўнік нават прыпыняўся, даставаў з кішэні запісную кніжку, азіраўся, каб не было лішніх сведак, бо людзі маглі-б чорт ведае, што падумаць, і запісваў дасціпныя выразы. Тады яму здавалася, што варта сесці за стол, і ўсё пацячэ на паперы так-жа гладка і вольна, як цяклі яго мыслі ў дарозе. На справе-ж выходзіла не так. Запісаныя дасканалыя сказы не маглі аднавіць той поўны і шырокі малюнак, што рысаваўся ў яго галаве, а самі сказы, вырваныя з цэльнага малюнка, выглядалі бездапаможна, як абшчыпаныя вераб'і.

Мімаволі прыгадваўся той чароўны замак, які напаткаўся аднойчы Лабановічу ў часе яго вандровак па ваколіцах Верханя: варта было саступіць на некалькі крокаў з той пазіцыі, адкуль рысаваўся замак, каб ён распаўся, раскідаўся, як нейкі міраж. Траплялiся ў дарозе і іншыя прыемнасці. У канцы чэрвеня прайшлі шчодрыя летнія дажджы, а потым ізноў наладзілася надвор'е. Праходзячы ў цяньку пад бярозавымі прысадамі, насунуўся Лабановіч на ладнага баравіка, узрадаваўся яму, як другу свайго дзяцінства, прыпыніўся каля баравіка і падрэзаў яму карэньчык каля самай зямлі. Стаў разглядацца — паблізу сядзелі яшчэ два баравікі, маладыя, здаровыя. Акуратненька ачысціў іх ад пяску, палажыў у хустачку і з гэтымі трафеямі пайшоў далей. Уперадзе каля самай дарогі стаяў лясок, пераважна бярозавы. Зрэдку прыкідаліся і хвойкі, траплялiся ёлкі і нават кусты ядлоўца.

Параўняўшыся з лесам, Лабановіч звярнуў з дарогі і пайшоў аглядаць лес. «Мясціна для баравікоў падхадзяшчая», — падумаў ён і з захапленнем заўзятага грыбніка стаў аглядаць найболей зручныя для баравікоў лясныя сховы. Не прайшоў ён і поўсотні крокаў, як раптам спыніўся, бы ўкопаны. Яму рэдка калі траплялася бачыць такое мноства баравікоў на такой невялічкай лапінцы. Баравікі сядзелі дзе па адным, дзе парамі, а дзе і цэлымі гуртамі. А самае цікавае было тое, што гэта былі не бярозавікі, жоўценькія, як яечня, а чорнагаловыя, самыя лепшыя баравікі, што растуць толькі ў сасонніках.

Налюбаваўшыся баравікамі, не спяшаючы, прыступіў Лабановіч да іх збору. Ён прысядаў каля кожнага баравіка, падразаў ножыкам карэньчык, саскрабаў пясок і рознае смецце, прыліпшае да кораня. Грыбы-ж былі маладыя, крэпкія, важкія, шапкі зверху чорныя, а з-падпізу белыя, бы кужаль. Ну, як не цешыцца з іх? Паднятыя і ачышчаныя баравікі шчаслівы грыбнік клаў на чыстае месца ў кучу. У кучцы іх набралася каля сотні штук. На гэтай лапінцы іх болей не было і па суседніх мясцінах не трапілася ні аднаго. Каша ў настаўніка не было. Ён выразаў некалькі бярозавых пруткоў, звязаў іх тонкімі канцамі і нанізаў на іх грыбы. Нанізаў цэлыя тры маністы. З гэтым здабыткам і пайшоў на хутар.

Сустрэчныя хутаране з цікавасцю глядзелі на вянкі грыбоў, а часамі хто-небудзь і не ўмоўчыць: выкажа ўголас сваё здзіўленне.

— А! ото-ж грыбкі! І так рана з'явіліся! І дзе вы назбіралі іх?

Настаўнік адказваў, нічога не ўтойваючы. Покі ён дайшоў да Антаніны Міхайлаўны, некалькі хутаран пайшлі аглядаць грыбныя мясціны. Здзівілася таксама і Антаніна Міхайлаўна.

— Што-ж вы будзеце рабіць з імі? — пацікавілася яна.

— Аддаю іх вам. Што хочаце, тое і рабіце з імі, Антаніна Міхайлаўна.

— Ну, дык у нас сягоння будзе фрыштык.

Антаніна Міхайлаўна забрала грыбы і стала перабіраць, каб прыгатаваць іх сваім спосабам. Адна толькі Ліда не праявіла ніякага захаплення здабыткамі свайго настаўніка, і гэта трошкі пакрыўдзіла яго.

— Ліда, ты любіш збіраць грыбы? — спытаў ён яе. Ліда вінавата ўсміхнулася.

— Я ніколі не збірала іх. Суніцы я люблю збіраць.

— Эх, Ліда, Ліда, — з дакорам сказаў настаўнік, і вочы яго загарэліся. Ён прыгадаў сваё дзяцінства і свае грыбныя паходы. Рознакаляровы ланцужок малюнкаў, вобразаў усплыў перад яго вачамі. Ён не мог стрымацца, каб хоць у самых агульных рысах не сказаць пра іх.

— Няма для мяне нічога лепшага на свеце, як хадзіць аднаму па грыбных мясцінах і збіраць баравікі. Люблю я іх. Яны нібы мае сябры, толькі гаварыць не ўмеюць. Устанеш бывала раненька, пойдзеш у лес, захапіўшы кошык, на аблюбаваныя раней грыбныя баравіны. У лесе яшчэ цёмна, чакаеш, пакі добра развідніцца, каб першаму агледзець грыбныя мясціны. А там так ціха, так добра, ну, проста хочацца спяваць песні! Ты разумееш гэта, Ліда?

Ліда не разумела гэтага. Яна слухала, а думала пра штось другое. Запытанне настаўніка налучыла яе знянацку. Усміхнулася вінаватаю ўсмешкаю, апусціла галаву і ціха прамовіла:

— Так рана я ніколі не ўставала, а хадзіць у лес адна баюся.

Яе адказ ахаладзіў жар настаўніцкіх успамінаў. Цяпер ённіколечкі не пакрыўдзіўся на Ліду: чаго было ўпадаць яму ў такі цялячы экстаз? На момант Лабановіч прымоўк.

— Вось у тым-та і справа, Ліда, што ты рана не ўстаеш і не была ў лесе да ўсходу сонца... Ну, ды ладна, — перапыніў самога сябе настаўнік, — будзем займацца, раз мая экскурсія ў лес не ўдалася, — іранічна закончыў ён.

Дзве добрыя гадзіны сядзелі за сталом, хоць сядзець у хаце за надакучыўшымі падручнікамі ды адмахвацца ад мух, калі за акном светла, зелена, прасторна, — не дужа вялікая прыемнасць. Ды трэба было займацца, паўтарыць усё пройдзенае. Настаўнік збіраўся ў недалёкім часе паехаць у Мікуцічы да сваіх сяброў, і ён стараўся як мага болей падвучыць Ліду. Паўтаралі граматыку, сінтакс, рабілі граматычны разбор, пісалі дыктоўкі, рашалі задачы. Там, дзе ў лідзінай падрыхтоўцы

не ўсё было гладка, настаўнік не адступаўся, покі Ліда поўнасцю не засвойвала таго ці іншага пытання. Часамі яна ў такіх выпадках упадала ў роспач.

— Нічога з майго паступлення не будзе, — казала Ліда. Незадаваленне і безнадзейнасць чуліся ў тоне яе голасу.

— Аб гэтым, Ліда, ты не думай, бо калі будзеш гэта забіраць сабе ў галаву, дык тады і сапраўды нічога не будзе. Весялей пазірай на рэчы.

Настаўнік цярпліва тлумачыў ёй тое, што ёю засвоена не зусім цвёрда і ясна, і калі яна нарэшце даходзіла да поўнага разумення, яна весялела.

— Ну, вось бачыш. Не трэба складаць рукі перад труднасцямі, — падвясельваў яе настаўнік.

Наогул-жа цяпер Ліда пасталела і трымалася ў адносінах да настаўніка стрымана і нават як-бы трохі холадна. Пасля вядомага здарэння за палатнянай перагародкай яна не выходзіла на спатканне настаўніку і не праводзіла яго, калі ён з іх хутара ішоў у Верхань.

— Ну, зробім перапынак, — сказаў Лабановіч і вышаў з-за стала.

Ліда засталася сядзець за сталом. Яна думала аб паездцы Лабановіча ў Мікуцічы. Чамусьці ёй не хацелася, каб ён туды паехаў. Сказаць-жа пра гэта настаўніку не адважвалася.

— Чаго задумалася, Ліда? — спытаў ён.

Ліда яшчэ ніжэй нагнула галаву.

— А так, нічога.

Потым падняла вочы на настаўніка і ціха сказала:

— Не трэба вам ехаць у Мікуцічы.

Настаўнік здзівіўся.

— Чаму? — запытаў ён.

— Так, — адказала Ліда, — не ведаю, але не ездзіце.

Настаўнік болей нічога не дабіўся ад Ліды. Яна ўстала з-за стала і выбегла з хаты.

Тым часам Антаніна Міхайлаўна засмажыла грыбы, шчодра заправіла іх смятанай.

— Давайце крыху перакусім. Закаштуйце майго смажэння і скажыце, ці гаджуся я ў кухаркі.

Яна заслала стол белым настольнікам, прынесла та-

леркі, закуску сялянскага вырабу, паставіла графінчык наліўкі і грыбы.

Лабановіч мусіў прызнацца, што такіх смачных грыбоў ён не еў ніколі. Ліда таксама хваліла грыбы і ела іх з прыемнасцю. А потым сказала:

— Пайду паклічу Колю, няхай і ён закаштуе грыбкоў.

Калі яна вышла з хаты, Антаніна Міхайлаўна, крыху памаўчаўшы, сказала:

— Закружылі вы галаву маёй Лідзе...

У гэтых словах настаўнік адчуў і другія, невыказаныя словы: «А калі гэта так, дык ты-ж і не кідай яе».

Настаўнік адчуваў сябе няёмка, але ўсё-ж здолеў выціснуць словы:

— Дзіця яна яшчэ. Усё гэта пройдзе ў яе.

Ідучы ў Верхань, настаўнік шмат аб чым думаў. І думкі свае скончыў ён украінскаю песняю:

Ой, не ходы, Грыцю,
Тай на вечэрныцю.

## XX

На школьным ганку Лабановіча сустрэла бабка Параска. Па яе заклапочаным твары і па той хітраватай усмешцы, што свяцілася на ім, настаўнік дагадаўся, што бабка мае для яго нейкую навіну. Але бабка не спяшалася казаць аб ёй, бо не ведала, як будзе ўспрынята навіна.

— Ты, бабка, нешта тоіш ад мяне, — заўважыў настаўнік.

— Гэтага, панічок, не ўтоіш, — адказала бабка і, панізіўшы голас, ціха вымавіла: — Госць да вас прыехаў!

— Госць? Які госць? — запытаў Лабановіч.

— Не сказаў, хто такі — не назваўся.

— А дзе ён?

— Там, — паказала бабка на дзверы, што вялі ў пакоі настаўніка.

Покі вялася гэта гутарка, невядомы госць падкраўся

да дзвярэй і замкнуў іх на ключ. Лабановіч заўважыў гэта толькі тады, калі пастукаў у дзверы, а потым і штурхнуў іх. Але дзверы не адчыніліся, і ніхто не азваўся.

«Заснуў там ці што? і хто гэта такі?» — недаўмяваў Лабановіч, стоячы каля дзвярэй свае кватэры. Ён пастукаў мацней. Невядомы госць забарабаніў з сярэдзіны пальцам у дзверы, выстукваючы цэлую мелодыю: тра-та-та! тра-та-та! тратата! «Нехта з блізкіх сяброў, — падумаў Лабановіч, — але хто?» Ён прыдаў басавітасці свайму голасу, пастукаў яшчэ раз і запытаў:

— Церам-церамок! Хто ў цераме жыве?

Пісклівы голас з-за дзвярэй, таксама зменены, адказаў:

— Я мышка-норушка! А ты хто?

— Я мядзведзь, — адказаў Лабановіч, — і магу выламаць дзверы.

— Цельшынскі? — спытаў тым-жа пісклівым голасам госць.

І тут нейкім чынам у памяці Лабановіча прамільгнуў малюнак спаткання з Турсевічам на Палессі. Лабановіч тады таксама пажартаваў з прыяцеля, як цяпер жартуе госць з яго.

— А-а-а! — выгукнуў Лабановіч, — загадка разгадана: — Адчыняй, Алесь, дзверы!

У замку скрыгатнуў ключ. Дзверы расчыніліся. Сапраўды гэта быў Турсевіч. Адступіўшы на крок назад, Турсевіч прыгнуўся, адною рукою ўпёрся ў калена, а другою паказваў на Лабановіча і рагатаў.

— Не чакаў мяне? — спытаў ён.

Замест адказу Лабановіч кінуўся да прыяцеля — моцна абняў яго.

— Чакаць то я чакаў, ды толькі не сягоння. Чаму-ж не напісаў мне, калі прыедзеш? Я-ж сустрэў-бы цябе.

— А я рашыў паднесці табе сюрпрыз, застаць цябе знянацку, — адказаў Турсевіч, а потым запытаў: — Ты дзе-ж гэта вандруеш?

— Дзе я быў, там цяпер мяне няма.

— Бач, ты які канспіратар! Ну, пакажыся, што ты за чалавек.

Турсевіч узяў прыяцеля за плечы, павярнуў яго направа, налева, паглядзеў у твар.

— Нічога, можна смела прыймаць у салдаты, — заключыў Турсевіч свой агляд прыяцеля.

— Лепей, брат, быць арыштантам, чым слугою цара, — жартам адказаў Лабановіч.

— Ну, гэта як на чый густ, — заўважыў Турсевіч, — а што да мяне, дык я не хацеў-бы быць ні тым, ні другім.

— А калі-б прад табой паставілі такую дылему: салдат, ці арыштант? Што выбраў-бы?

Турсевіч палічыў гэта запытанне такім, што не адпавядала рэчаіснасці, і адказу на яго не даў.

— Ні салдатам, ні арыштантам не хочаш быць, — заўважыў Лабановіч: — а я, брат, жыву па прыказцы: ад торбы і ад турмы не адракайся. Ну, ды ладна, — перапыніў ён самога сябе. — Рад, што ты прыехаў... Скажы мне: як знаходзіш ты маё новае месца?

Турсевіч задаволена ўскінуў галаву, сказаў «гм!» і дадаў:

— Добрая мясціна, ей-ей! Не тое, што наша былое Цельшына: прастору многа, свет відаць.

— А я з прыемнасцю ўспамінаю Цельшына, і калі я думаю аб ім, а думаю часта, дык мяне агортвае нейкі жаль, як-бы я страціў нешта дарагое для мяне — можа таму, што там пакінута некаторая частачка душы, — з ноткаю засмучэння прамовіў Лабановіч.

— Ведаю я, што ты страціў, — праўдзівей, каго страціў: Ядвісю, — пажартаваў Турсевіч, уважна зірнуўшы на прыяцеля. Лабановіч трохі замяшаўся. Само слова «Ядвіся» балюча адгукнулася ў яго сэрцы, і назіральны Турсевіч гэта заўважыў.

— Што, не праўду сказаў? — не збіваючыся з жартлівага тону, са смехам выгукнуў Турсевіч, але адчуўшы, што ён закрануў нейкую рану ў сэрцы Лабановіча, ужо сур'ёзна дадаў: — Ты, Андрэйка, не гневайся і не сярдуй на мяне. Даруй, калі закрануў тваю балючую струнку. Ядвіся-ж варта таго, каб аб ёй часамі і ўздыхнуць.

Лабановічу хацелася сказаць: «Покі я буду жыць, я буду памятаць яе. Ды знікла яна з майго неба і сляды

замяла за сабою». Турсевічу-ж ён сказаў, таксама пераходзячы на жарт:

— Бачу, што ты па ёй уздыхаеш.

— Ну, дзе ўжо мне спаганяць тое, што з возу ўпала, — махнуў рукою Турсевіч. — Хачу яшчэ павучыцца, а потым жаніцца.

— Ладна, ладна, браток! Успаміны на потым, — замітусіўся Лабановіч. — І быў-бы я дурань, калі-б запытаў цябе: есці хочаш?

Не даючы прыяцелю апамятавацца, Лабановіч гукнуў:

— Бабка Параска!

Увайшла бабка Параска, акінула зрокам маладых настаўнікаў. Яна ўбачыла, што яны рады адзін аднаму, і ёй стала лёгка на душы.

— Вось што, бабуленька, — звярнуўся да яе Лабановіч, — напячы нам бульбяных піражкоў: Аляксандр Юстынавіч, — Лабановіч паказаў рукою на Турсевіча, — ніколі ў жыцці не толькі не еў, але і не бачыў такіх піражкоў.

Бабка Параска так і заззяла, а Лабановіч казаў ёй далей:

— Вось, бабка, тры рублі. Пашлі Піліпа ў манапольку, няхай возьме поўкварты. Да нас прыехаў госць. Трэба пачаставаць яго так, каб ні нам, ні людзям брыдка не было.

Бабка Параска прыязна ўсміхнулася і вышла з пакоя.

— Залатая бабка, — сказаў Турсевічу Лабановіч. А Турсевіч развmember разважліва азваўся:

— Навошта такія захады?.. Андрэй, не дурэй!

— Не кожны-ж дзень так бывае. Прыгадай, колькі часу мы не бачыліся. Дык як не адзначыць такую падзею?

— Ну, гэта я так сабе сказаў, для прыліку, — засмяяўся Турсевіч і патрос Лабановіча за плечы.

Покі бабка Параска ўвіхалася ў кухні, гаспадар і госць вырашылі пытанне аб тым, як латвей устроіцца.

— Наперадзе ўсё лета, — казаў Лабановіч, — табе-ж трэба заняцца зубрысцікаю, дык давай уладжвацца, як лепей і зручней для цябе. Вось адзін пакой, а вось

другі. Ёсць канапка і койка — выбірай, што хочаш. Стол агульны.

Турсевіч смешна развёў рукі, нібы дзівячыся такому багаццю ў кватэры сябра.

— Такая раскоша, такое багацце! Не ведаеш, на што пазіраць і што выбіраць, — смяяўся ён. З поваду гэтага прыгадаў ён адзін выпадак. Нейкі бедны чалавек сустрэў настаўніка і звярнуўся да яго з просьбаю аказаць грашовую дапамогу.

— І рад-бы я вам дапамагчы, ды адкуль грошы ў беднага вясковага настаўніка?

— Вы сельскі настаўнік? — здзівіўся бедны чалавек. — Даруйце мне, я гэтага не ведаў.

Палез у кішэню, дастаў траячку і працягнуў яе настаўніку.

— Ці смяяцца тут ці плакаць? — азваўся Лабановіч і дадаў: — Лепей пасмяяцца. Затое-ж у настаўніка сумленне чыстае: — гэта не абдзірала-ўраднік, не прыстаў і не валасны пісар. Па-маему — вясковы настаўнік самы чысты і самы святы чалавек у царскай Расіі.

— Прыемна слухаць такія водзывы аб нашым браце, — уставіў слова Турсевіч. — Ды яно, можа, і праўда. Але не трэба забываць адной акалічнасці: пасадзі ты нашага брата каля смачнага і тлустага каравая, дык ці не скапыціцца і наш брат, як ты думаеш?

У прыяцельскай гутарцы, ва ўспамінах аб мінулых днях, аб знаёмых час ішоў незаметна. А за гэты час бабка Параска падрыхтавала перакуску, накрыла стол белым, як снег, настольнікам, паставіла талеркі, нажы і відэльцы, ёмкую скавараду з пахучымі скваркамі і яечняй. Потым з'явіліся і знамянітыя бабчыны бульбяныя піражкі.

— Ну, што ты скажаш пра бабку Параску? — спытаў Лабановіч.

— Маладзец — твая бабка! — пахваліў яе Турсевіч.

— І легенда аб настаўніцкай беднасці не зусім адпавядае рэчаіснасці, — сказаў Лабановіч, паказваючы на скавараду са скваркамі, на поўпляшку гарэлкі і на бульбяныя піражкі. — Ну, дык давай прапусцім па чарцы:

за наша спатканне, за нашу настаўніцкую беднасць, за чыстасць і святасць!

— Прыймаю! Амін! — пацвердзіў Турсевіч, беручыся за чарку.

## XXI

Старыя сябры і прыяцелі, Турсевіч і Лабановіч, размясціліся ў настаўніцкай кватэры найлепшым чынам. Усё падзялілі, размежавалі, і ніводзін ні ў чым не замінаў другому. Можа быць, гэтаму спрыяла настаўніцкая беднасць, аб якой расказваў Турсевіч, і настаўніцкая «святасць і чыстасць», за якія падымаў чарку Лабановіч. Кожны з іх у меру сваіх душэўных сіл, сваіх асаблівасцей характару прыносіў даніну на «алтар» дружбы і прыяцельства, калі гаварыць «высокім стылем». У пэўныя часіны яны разыходзіліся — у кожнага была свая дарога. Турсевіч браў падручнік, ішоў куды-небудзь у зацішны куток і старанна займаўся падрыхтоўкай у інстытут. Па сэрцу прышліся яму верханьскія могілкі — асабліва пасля таго, як Лабановіч расказаў яму пра невядомую пару закаханых людзей, знайшоўшых сабе прыпынак і схоў на могілках. Сам гаспадар таксама меў свае абходы. Рабіў экскурсіі ў лес за пошукам грыбоў, хоць трапіць на такі «неруш» і на такое мноства баравікоў, як давялося яму нядаўна, не здаралася. У пэўныя часіны прыяцелі сядзелі разам, гутарылі, спрачаліся, не згаджаліся адзін з другім, але ўсё гэта ніколі не выходзіла за межы дружбы. Гэтаму таксама спрыяла і тая акалічнасць, што сябры жылі пад адною страхою не дужа вялікі час. Яны лічылі, што ведаюць адзін аднаго да самых што ні ёсць маленькіх дробязей. Ды ў народзе бытуе простая мудрасць: каб пазнаць чалавека, дык трэба з'есці з ім пуд солі. Нашы сябры не з'елі яшчэ і аднаго фунта солі, а паміж іх пачыналі ўзнікаць спрэчкі, якія чым далей, тым болей раз'ядноўвалі іх і праводзілі між імі такую мяжу, якую пераступіць не так-то лёгка. Повадам для такіх спрэчак звычайна была дзяржаўная дума, вярней сказаць — палітычныя пытанні. Турсевіч у сваёй палітыч-

най накіраванасці не ішоў далей кадэцкай партыі. Яна была для яго палітычным ідэалам.

— О, каб толькі ў Расіі дабіліся таго, што ставіць сваёю палітычнаю праграмаю канстытуцыйна-дэмакратычная партыя! — казаў Турсевіч. — Ужо адно тое, што ў кадэцкай партыі сабраны лепшы цвет рускай інтэлігенцыі — прафесары, адвакаты, дактары, інжынеры — шмат аб чым гаворыць і выгодна рэкамендуе самую партыю «народнай свабоды».

— Прыпусцім, што кадэты ажыццявілі сваю праграму, — уставіў слова Лабановіч. — Чаго дабіўся-б тады народ?

— Па-першае, беззямельнае і малазямельнае сялянства атрымала-б зямлю. Другое, самадзяржаўны лад быў-бы абмяжованы, а да гэтага імкнецца пераважная большасць народа. Міністры і губернатары адказвалі-б перад дзяржаўнай думай. І мы, вясковыя настаўнікі, былі-б пастаўлены ў непараўнальна лепшыя ўмовы. І ўсё насельніцтва мела-б шырокія палітычныя правы. Ты ведаеш, — казаў далей у захапленні Турсевіч, — як азначала задачы дзяржаўнай думы кадэцкая газета «Русь»? Вось што пісала яна: «Галоўнае прызначэнне думы, якая цяпер выбіраецца, — пісалася ў часе выбараў, — і партыі «народнай свабоды» ў ёй: быць бічом народнага гневу. Выгнаўшы і аддаўшы пад суд злачынных членаў урада, ёй прыдзецца займацца толькі неадкладнымі мерамі, а затым склікаць сапраўдную думу — на болей шырокіх асновах». Хіба гэта ў нашых умовах малая праграма?— з выглядам пераможцы спытаў Турсевіч і дадаў: — Паможы толькі ім, божа, дабіцца яе ажыццяўлення.

— Але покі што, — заўважыў Лабановіч, — ніводнага царскага сатрапа дума пад суд не аддала. А хіба іх няма за што судзіць? Выходзіць наадварот: сатрапы самі пачынаюць сыкаць на думу. Счакаўшы, яны не толькі будуць сыкаць, але і тупаць нагамі, а можа і па шапцы ёй дадуць. Вось ты спасылаўся на кадэцкую газету «Русь». Я табе прывяду словы другой кадэцкай газеты. Яна пісала аб тым, што поспех кадэтаў на выбарах звярнуў на сябе ўвагу «сфераў» і нават занепакоіў гэтыя «сферы», г. зн. сатрапаў. Але потым «сферы» ачухаліся, разгледзеліся,

прыслухаліся і прышлі да заключэння, што поспех кадэтаў на выбарах і сама кадэцкая дума проста выгадна для царскіх бюракратаў... А кадэты няхай сабе пашумяць, памахаюць кулакамі — біцца-ж яны не палезуць, — няхай пакрытыкуюць урад і нават пагрозяць якому-небудзь міністру. Ніякага страху ў гэтым няма, бо ні кадэцкая і ніякая іншая дума міністраў не назначае. Мне здаецца, што гэта кадэцкая газета, а называецца яна «Наша жыццё», стаіць шмат бліжэй да праўды, чым твая «Русь».

— Дык па-твоему самы факт існавання дзяржаўнай думы не мае ніякага значэння? — нахмурыўшыся, спытаў Турсевіч.

Лабановіч апусціў вочы ў дол. У першы момант ён не знаходзіў сталага адказу. Трэба было выгадаць некаторы час, каб адказаць памудрэй, і ён сказаў, зайшоўшы здалёку:

— Адна добра знаёмая мне настаўніца — не ведаю, дзе яна і што з ёю — расказвала пра басяка. Басяк прасіў у яе грошай на выпіўку, а калі настаўніца запыталася, колькі-ж яму трэба грошай, каб выпіць, басяк глыбокадумна прыставіў палец да ілба і сказаў: «Першы раз натыкаюся на такое філасофскае пытанне!» Дык вось і мне застаецца паўтарыць словы таго басяка ў сувязі з тваім запытаннем.

Турсевіч зняважліва махнуў рукою:

— Дзяржаўная дума ёсць рэчаіснасць, значыць яе бытаванне ёсць з'ява разумная.

— Залез ты, брат, у такія філасофскія нетры, адкуль і не выбрацца. «Усё рэчаіснае разумна», — іранічна падкрэсліў Лабановіч. — Самадзяржаўны лад — таксама рэчаіснасць і значыць разумны? Навошта-ж тады змагацца з ім? Ты пачынаеш кідацца ў сафістыку. Жыццё і прырода і ўсе з'явы жыцця не знаходзяцца ў стане спакою і нерухомасці. Яшчэ старадаўні грэчаскі філосаф сказаў: «Усё цячэ, усё рухаецца і ўсё мяняецца», прычым усё гэта не абыходзіцца без барацьбы. А ўсё, што мае пачатак, тое мае і канец. Вось чаму я так упэўнены ў тым, што і самадзяржаўю з прыдуркаватым Міколкаю прыдзе канец не сам сабою, а ў выніку рэвалюцыйнага

паўстання ўсяго народа. Але не кадэцкая дзяржаўная дума прыложыць у гэтым сваю руку: кадэцкая дума — тормаз народнага паўстання супраць каранованага чучала на троне. А таму кожнаму, хто любіць народ, ідзе з народам, трэба стаць на шлях бязлітаснай, разумнай барацьбы, барацьбы па аднаму плану, у імя звяржэння ідала на троне і яго памагатараў, паслугачоў і падбрэхічаў. Думаю, што гэта мая ацэнка дзяржаўнай думы для цябе ясная.

Турсевіч, здзіўлены, недаўменна развёў рукі, уважліва зірнуўшы на свайго былога вучня, а сённешняга друга.

— Ого-го! — выгукнуў ён. — Не спадзяваўся я пачуць ад цябе такую... ну, як табе сказаць? канцэпцыю... Далёка-ж ты махнуў!.. Давай будзем шчырымі: скажы, да якой партыі ты належыш?

— Калі быць шчырым, як ты падкрэсліваеш, дык скажу табе: ні да якой партыі я не належу.

— Чаму-ж гэта так? — спытаў Турсевіч.

— А вось чаму: часамі мне здавалася, што праўду нясуць кадэты: ну, ведаеш: «лепшы цвет рускай інтэлігенцыі», як рэкамендуеш іх ты. А потым, прыслухаўшыся да соцыялістаў-рэвалюцыянераў, я падумаў, што праўда на іх баку, і я гатоў быў стаць на іхнія пазіцыі. Але давялося і даводзіцца мне, як і кожнаму з нас, хто шукае праўды, паслухаць і соцыял-дэмакратаў. Важка, грунтоўна, правільна гавораць яны. Ёсць адно агульнае і для эсэраў і для эсдэкаў: імкненне звергнуць самадзяржаўны лад. А на чыім баку праўда, я не ведаю дакладна. Але я мыслю сабе, што жыццё і далейшая барацьба за народаўладнасць пакажа, хто стаіць на верным шляху, а хто памыляецца. Тады я далучуся да тых, хто гаворыць праўду.

Турсевіч дакорліва паківаў галавою.

— Эх, Андрэй, Андрэй! — з ноткаю скрухі ў голасе адгукнуўся ён. — Табе ўжо было папярэджанне ў рэвалюцыі і даволі грознае. Пагуляў і будзе, бо ты гуляеш з агнём. А ёсць прыказка: каля вады намочышся, каля агню апячэшся. Я стаю за эвалюцыю. Усякай праяве на свеце свой час. Дзіця не робіцца адразу дарослым чалавекам. Нашто ўрывацца жывасілам і ўмешвацца ў ход

падзей, якія ад цябе і не залежаць? Вось дабрадзеі чалавецтва падбухторылі народ на забастоўкі, на паўстанні, на разгромы памешчыкаў. І што атрымалася? Ты ведаеш апавяданне са школьнай хрэстаматыі, як хлопчык раскрываў пупышкі, бутоны кветак, каб яны хутчэй зацвілі на клумбе. Раскрыў іх не ў пору, і кветкі загінулі.

— А я табе прывяду другі расказ, як бацька навучаў сыноў, каб яны жылі ў дружбе і згодзе. Помніш пра венік? Покі венік быў звязаны ў адным пуку, сыны зламаць яго не маглі, а развязалі, — па розачцы паламалі лёгка. Дык вось, калі народ усвядоміць свае інтарэсы і сваю сілу і будзе шчыльна злучаны, тады ён лёгка вымеце бруд з свае хаты — цара, князёў, графаў і ўсякую іншую поскудзь. За гэта я і буду змагацца. Закон эвалюцыі адно, але ёсць і закон рэвалюцыі. Адно без другога не абыходзіцца. І ведаеш, мой дарагі: у настаўніцкім інстытуце нічога табе пра гэта не скажуць.

## XXII

Пасля такіх спрэчак сябры адчулі, што іх сяброўства дало вялікую расколіну, што іхнія дарогі скіраваны ў розныя бакі, і ніякія спрэчкі не злучаць іх у адну дарогу. Турсевіч шчыра шкадаваў свайго сябра, як чалавека, відавочна ступіўшага на небяспечны шлях, як чалавека, свядома выбраўшага пакуту, астрог і няволю. Чаго-ж іншага можна спадзявацца на такім шляху? Чаму ён так робіць? — у самоце пытаў самога сябе Турсевіч. І хіба гэта верны шлях? Яго, Турсевічаў, абавязак перасцерагчы маладзейшага і меней дасведчанага ў жыцці друга ад той небяспекі, па краі якой ён ходзіць.

І Турсевіч цвёрда паставіў сабе пагаварыць з Лабановічам аб гэтым, толькі не зараз, калі жар спрэчак яшчэ не астыў.

У сваю чаргу Лабановіч спачуваў Турсевічу, як добраму другу яго дзіцячых і юнацкіх дзён. Перад яго вачамі паўстала Палессе, вандроўка ў Любашава, куды перабраўся Турсевіч з Цельшынскай школы, іх гутаркі і спрэчкі. Тады спрэчкі не разлучалі, а, наадварот, яшчэ болей умацоўвалі іх дружбу. Шкада было Турсевіча, як

чалавека, якога заела мяшчанскае імкненне да спакойнага і сытнага куска хлеба і мірнага, бестурботнага жыцця. У гэтым імкненні было падабенства між Анцыпікам і Турсевічам. Але ні Лабановіч, ні Турсевіч нічым не выяўлялі гэтых прытоеных пачуццяў адзін да аднаго, стараліся проста не гаварыць ні аб іх, ні аб тых пазіцыях, на якіх цяпер стаяць яны, як-бы нічога асаблівага паміж імі не здарылася.

Турсевіч яшчэ болей углыбіўся ў падрыхтоўку да паступлення ў настаўніцкі інстытут. Лабановіч вандраваў па верханьскіх ваколіцах. Яшчэ раз наведаў і тую пляцоўку, з якой можна было бачыць зданнёвы замак.

Тым часам набліжаўся дзень паездкі ў Мікуцічы, дзе нелегальна збяруцца вясковыя настаўнікі. Там будзе абмяркована праграма іх палітычнай дзейнасці. У краіне-ж наспявалі не дужа радасныя падзеі. Усё болей наглелі сатрапы Мікалая другога і вышэй падымалі галаву. Не так ужо многага дамагалася дума ў асобе яе кадэцкай большасці, але і самыя мізэрныя яе патрабаванні тармазіліся і не выконваліся. У той-жа час з усіх канцоў Расіі сяляне слалі ў думу наказы аб зямлі, пасылалі ў Пецербург сваіх хадакоў, патрабуючы неадкладна вырашыць пытанне аб надзяленні зямлёю беззямельных і малазямельных. Частка думскіх дэпутатаў, пераважна сялянскіх, прапанавала звярнуцца з думскай трыбуны да ўсіх сялян з заклікам аказаць дапамогу думе ў барацьбе з царызмам. Кадэцкая большасць на гэта не пайшла ды і як магла яна пайсці, калі самі кадэты былі тыя-ж памешчыкі і прадстаўнікі буржуазнай інтэлігенцыі? Яны рабілі «запросы» міністрам, шумелі. Міністры-ж або зусім не адказвалі, або, з свайго боку, пагражалі, і іхняя пагроза была больш дзейсная. Упарта насіліся чуткі аб роспуску думы. К гэтаму часу быў назначаны новы міністр унутраных спраў, Гарамыкін. Яшчэ не паспеў ён увайсці ў сваю ролю, а ўжо з'явіўся верш з поваду назначэння міністра:

Милый друг, не верь надежде,
Говорю тебе, не верь:
Горе мыкали мы прежде,
Горе мыкаем теперь.

Покі ў дзяржаўнай думе важыліся напісаць зварот да народа, да сялян царскай Расіі, свой зварот напісаў да іх ніхто іншы, як сам Гарамыкін.

Калі ў сялян і былі яшчэ надзеі атрымаць праз думу зямлю, дык гарамыкінскі зварот — а зварачаўся ён ад імя ўраду — развеяў іх надзеі ў прах. У сваім звароце Гарамыкін перасцерагаў сялянства ад празмернай прагі да зямлі, ад паспешнага імкнення авалодаць ёю ў самы кароткі час, бо сяляне, бач, як дзеці, часта не разумеюць таго, чаго яны хочуць. Гарамыкін напамінаў народу, што цар і яго слугі заўсёды клапаціліся і будуць надалей клапаціцца аб народзе, бо не забываюць яго інтарэсаў. Развязаць-жа з аднаго маху такое пытанне, як зямельнае, нельга, бо яно вельмі і вельмі складанае. І не трэба верыць тым крыкунам, што абяцаюць народу залатыя горы. Усё прыдзе ў свой час.

«Вось гэта рэальная і знаёмая палітыка, — думаў Лабановіч, чытаючы гарамыкінскі зварот. — Але як народ успрыме яго?» Рэштка веры ў дзяржаўную думу, якая яшчэ тлела ў свядомасці Лабановіча, цяпер была разбіта. Ён яшчэ болей пераканаўся ў тым, што ў спрэчцы з Турсевічам праўда была на яго баку, на баку Лабановіча. І тут ён — ужо каторы раз — мімаволі прыгадаў тую пляцоўку, з якой так прыгожа вырысоўваўся са смужнай далечыні зданнёвы замак. Ці не была і сама надзея на дзяржаўную думу такая-ж ілюзія, як і той неіснуючы замак?

Гарамыкінскі зварот да народа зрабіў нядобрае ўражанне на Лабановіча. Асабліва непрыемна тое, што ўсё гэта адбываецца амаль на пярэдадні паездкі ў Мікуцічы. Чорная рэакцыя налягае ўсё мацней. Як адаб'ецца яна на сходзе вясковых настаўнікаў, на іх настроі? Ці не нагоніць страху і ці не астудзіць яна гарачых парываў неспакушаных у барацьбе настаўнікаў. Была вялікая патрэба перакінуцца жывым словам, падзяліцца думкамі з блізкім чалавекам.

Больш блізкага чалавека, як Турсевіч, у Лабановіча тут не было. Праўда, яны паспрачаліся і зусім не сышліся ў сваіх поглядах на дзяржаўную думу і на палітычную барацьбу. Але-ж спрэчка — не сварка, і дружбы іх не

разбіла, хоць і зрабіла ў ёй шчыліну. У пэўныя часіны дня сябры сходзіліся на кватэры. Гэта былі часіны снедання, абеду, вячэры і познія летнія вечары.

— Можа ты маеш ахвоту прагуляцца са мною па дарозе на Шабуні? — неўзабаве запытаў Лабановіч Турсевіча. Запытанне і прапанову прагуляцца Турсевіч зразумеў, як захады з боку сябра вярнуць згоду і ранейшую дружбу паміж імі, што як-ні-як былі парушаны спрэчкамі аб дзяржаўнай думе.

— А што гэта за дарога такая ды яшчэ на Шабуні? — запытаў Турсевіч. Было відавочна, што ён нічога не мае супраць пагулянкі.

У сувязі з запытаннем сябра па нейкай дзіўнай асацыяцыі Лабановічу прыгадаўся адзін біблейскі эпізод, і на запытанне Турсевіча ён жартліва адказаў:

— Перад тым, як ісці на пропаведзь, Хрыстос пасціў сорак дзён і сорак начэй. Пасля гэтага ён пайшоў у пустэлю памаліцца. Там сустрэў яго д'ябал. Д'ябал пачаў спакушаць Хрыста. Ён узвёў яго на высокую гару, паказаў усе царствы на зямлі і ўсе іх багацці.

«Усё гэта я аддам табе, — сказаў д'ябал, — калі ты паклонішся мне». — Што адказаў Хрыстос д'ябалу, ты ведаеш: кланяцца можна толькі богу, і адагнаў спакусніка прэч. Я, вядома, не д'ябал, а ты не Хрыстос і нічога табе не абяцаю, апроч аднаго: я пакажу табе цуд прыроды.

Турсевіч насцярожыўся. У нязвыклым адказе прыяцеля ён пачуў намёк на нейкую прытоеную справу, што насіў у сэрцы Лабановіч.

— Прычым-жа тут д'ябал і Хрыстос, пропаведзь і спакуса? — пацікавіўся Турсевіч.

— Ну, ведаеш, — аналогія, праўда, вельмі далёкая: д'ябал узвёў Хрыста на высокую гару, а я цябе хачу павесці на ўзвышак, адкуль усё далёка відаць, і паказаць нешта падобнае да міража.

— Ну, ладна, давай пойдзем, пабачым, што там за міраж, цуд прыроды, — згадзіўся Турсевіч.

Турсевічу захацелася прайсціся па верханьскай вуліцы і паглядзець на самы Верхань, якога ён яшчэ толкам не бачыў.

Не паспелі яны адыйсціся і ста крокаў ад школы, як ім напаткаўся памочнік пісара Хрыпач. Хрыпача таксама, як і саву, рэдка здаралася бачыць удзень. Ён амаль ніколі не бываў цвярозы. Заўсёды быў або моцна п'яны, або добра падвыпіўшы. Цяпер ён быў проста падвыпіўшы. Не даходзячы трох крокаў, Хрыпач зняў кепку і галантна пакланіўся настаўнікам. Гэта быў ужо стараваты чалавек невысокага росту, сінявата-шэрыя вочкі яго бегалі, як у злодзея. Пасівелая бародка, акуратна падстрыжаная, надавала яму выгляд местачковага адваката, кім ён па сутнасці і быў. Апроч сваёй работы на пасадзе памочніка пісара, Хрыпач пісаў розныя прашэнні, скаргі, што складала значны прыбытак у бюджэце валаснога прапойцы. Таксама папісваў і ў мясцовых чорнасоценных лістках, стоячы на пазіцыі «ісцінна-рускага» чалавека.

— Прасвяціцелям народа маё ніжэйшае! — сказаў Хрыпач, падаючы руку Лабановічу, а затым і Турсевічу. — Хрыпач маё прозвішча, — сказаў ён пры гэтым і гаварыў далей: — Ну, дык што? Крамольная дума дажывае свае апошнія дзянёчкі, — верце мне! Чыталі зварот да народа міністра Гарамыкіна? Галава, светлая галава! Праўда?

— А па-мойму, у вас, Мікодым Палуектавіч, галава святлейшая, чым у Гарамыкіна, — азваўся Лабановіч. Хрыпач абодвума рукамі пацікнуў руку Лабановіча.

— Што вы, што вы! Я — бледны цень яго. Хіба можна раўняць мяне з такім высокапастаўленым чалавекам!

Настаўнікі пайшлі далей, Хрыпач падаўся ў бок валасці. Ішоў і ўпоўголаса спяваў:

Эх ты, Русь, ты, Русь, святая!

— Вось такая паскудзь, такія паразіты і ёсць апора царскага трону! — казаў Лабановіч. — А нюх у яго ёсць: думу разгоняць.

— Цябе-ж гэта не павінна балюча абыходзіць, — заўважыў Турсевіч, — ніякага значэння яе ты не прызнаеш.

— Справа не ў думе, а ў тым, што царскія каты забіраюць сілу. Ды я прыгадваю адзін верш, які я дужа люблю:

Как, февраль, ни злися,
Как ты, март, ни хмурься,
Будь хоть снег, хоть дождик, —
Всё весною пахнет.

У гутарцы на тэмы дня падышлі яны да таго пункту на ўзвышшы, адкуль вырысоўваўся замак. Лабановіч спыніўся, сказаўшы «стой!» і зірнуў у супроцьлеглы бок. Ці то ён спыніўся не на тым пункце, ці то была іншая празрыстасць паветра, ці можа і хваляванне самога Лабановіча было таму прычынаю, ды толькі на гэты раз паасобныя часткі «замка» не зліваліся ў адно цэлае і не давалі ўяўлення замка. Збянтэжаны, Лабановіч азірнуўся па баках, ступіў крокі два наперад, потым падаўся назад, не зводзячы вачэй з той далечы, дзе выступаў «замак».

— Што з табою? — запытаў Турсевіч. — Ці ты надумаўся кадрыль танцаваць?

Лабановіч, здавалася, не чуў запытання сябра і ўсё тупаў, то падаючыся наперад, то адступаючы назад.

— Во-во! з гэтага месца! — узрадавана сказаў Лабановіч. — Ідзі-тка зірні! — Ён добра бачыў контуры «замка», вежы і купалы на адной з іх. Турсевіч падышоў і стаў углядацца ў тое месца, што паказваў Лабановіч.

— Нічога не бачу, — адказаў Турсевіч.

— Ды ты прыгледзься: унь там, там! Бачыш — вежы!

— Жартаўнік ты, — засмяяўся Турсевіч, — ну, бачу. Стаяць дрэвы на рознай адлегласці, узгорачкі паміж імі... Ці то вочы твае падгулялі, ці занадта развітае ўвабражэнне?

— Стала быць здольнасць успрыймання ў нас розная, — расчаравана сказаў Лабановіч. — А я хацеў сказаць табе: вось ён, ілюзорны замак! Ці не ёсць такая-ж ілюзія і дзяржаўная дума? Не вышлася, эфекту не атрымалася. Прашу прабачыць... І як гэта не бачыш ты таго, што так ясна стаіць у маіх вачах?

## XXIII

Турсевіч доўга не выпускаў рукі Лабановіча са сваёй.

— Ты-ж, Андрэйка, не затрымлівайся там. А то, ведаеш, аднаму ў чужой школе — як табе сказаць? — не па сабе.

Гаворачы так, Турсевіч уважна ўглядаўся ў твар, у вочы Лабановіча, як-бы хочучы прачытаць мыслі і настрой прыяцеля. Турсевіч дагадваўся, што настаўніцкая моладзь, захапляючыся рэвалюцыйнаю плынню, збіраецца тайком для нейкай недазволенай справы. Проста гаварыць аб гэтым ён не адважваўся: баяўся, каб яго прыяцель не падумаў аб ім, як аб рэакцыянеры, як аб чалавеку, які не спачувае рэволюцыі. Лабановіч, захоўваючы канспірацыю, нават Турсевічу, такому блізкаму чалавеку, не гаварыў, чаго ён едзе ў Мікуцічы, — яму проста хочацца даведацца, як жывуць яго родныя — маці, браты і сёстры, і пабачыцца з сябрамі.

— Ты на мяне пазіраеш так, нібы я, схаваўшы пад пільчаком сякеру, іду на разбой або выпраўляюся ехаць у Амерыку.

— А што табе верыць? — жартам адказаў Турсевіч. — Ці мала якія мыслі маглі цябе апанаваць у палескай глухмені! — Ён яшчэ раз моцна паціснуў руку Лабановічу і сур'ёзна сказаў: — Ты ўсё-ж такі будзь асцярожны... Андрэйка! Я цябе люблю, ну, і паважаю — доўга не заседжвайся, бо мне аднаму без цябе маркотна.

Бабка Параска, стаіўшыся за дзвярамі, прыслухоўвалася да гутаркі госця з гаспадаром. А калі пачула, што Лабановіч выходзіць з пакоя, яна шуснула ў сваю каморку і адтуль праз прыадчыненыя дзверы пазірала на карыдор, каб пабачыць свайго «манашка». Лабановіч зайшоў у бабчыну каморку.

— Ну, бабка, іду на станцыю. Паеду не больш як на два-тры дні. А ты ўжо даглядай госця. Усяго добрага, бабка Параска!

Ён падаў ёй руку. Бабка так расчулілася, што слёзы пакаціліся па яе сухіх маршчыністых шчоках.

— Ну, дай-жа вам, божа, шчаслівага падарожжа ды здаровенькім вярнуцца.

Яна вышла на ганак і з мацярынскім засмучэннем пазірала на Лабановіча, покі ён не павярнуў направа і не знік за будынкамі, дзе дарога спускалася ў лагчыну. Бабка пайшла ў сваю каморку, каб яшчэ раз пабачыць «манашка», калі ён будзе падымацца з лагчыны на ўзгорак. З акенца бабчынай каморкі быў добра відаць узго-

рак і панскі двор, міма якога праходзіла дарога. Постаць Лабановіча выплыла з лагчынкі і паказалася на ўзгорку. Падарожнік на момант прыпыніўся і азірнуўся назад. Гэта вельмі ўсцешыла бабку Параску, бо яна загадала: калі ён азірнецца, дык з ім нічога благога не здарыцца ў дарозе, і ён шчасліва вернецца назад. Бабка з палёгкаю ўздыхнула, перахрысціла настаўніка і пайшла ўходжвацца каля кухні, успомніўшы госця.

Дарога — вялікая яна ці малая — кожны раз хвалявала Лабановіча і настройвала яго мыслі і пачуцці на салодка-журботны лад. Месца, якое ён пакідаў і з якім ужо звыкся, цяпер паўставала перад ім у іншым святле і афарбоўцы, і тое, чаго ён раней як-бы не заўважаў, станавілася для яго дарагім і блізкім, і шкада было з ім разлучацца. Вось так і зараз прыгадаліся верханьскія могілкі, вузенькая дарожка-сцежка між зелені збажыны, што вяла ў Тумель, дзе працякала Уса і стаяў млын. Успомніўся і той узвышак, куды настаўнік хадзіў некалькі разоў і адкуль выплываў з далечы прывідны замак. Хоць апошняя вандроўка на ўзвышак з Турсевічам і не дала чаканага эфекту, але ўсё-ж Лабановіч адчуваў прыемнасць, прыгадваючы паветраны замак і пляцоўку, на якой выплываў ён са смужнай далечыні.

З такімі думкамі і пачуццямі падыходзіў ён да хутара Антаніны Міхайлаўны. Вось і дарога на хутар, і сам ён не больш поўвярсты ад дарогі. Зайсці ці не? Заходзіць на хутар Лабановіч, выпраўляючыся ў дарогу, не думаў. Ды і чаго? Усё, што трэба было сказаць Лідзе, як вучнёўцы, ён сказаў. Але ў яго было шмат часу. Чым сядзець на станцыі і чакаць цягніка, дык ці не лепей збочыць з дарогі і яшчэ раз сказаць Лідзе, што яна павінна рабіць у яго адсутнасць? З другога боку, хоць ён едзе і не на доўгі час, ды ўсё можа здарыцца ў дарозе. Перад яго вачамі паўстаў вобраз Лідачкі. Што благога ў тым, калі ён па дарозе зойдзе да яе і яшчэ раз напомніць, што павінна зрабіць яна, покі ён вернецца. І тут-жа прыгадаліся словы Антаніны Міхайлаўны, што Ліда не абыякава да свайго настаўніка. Дык, бадай што, і не варта заходзіць. Покі ён такім чынам вагаўся ў сваім намеры наведаць хутар, ногі яго самі накіраваліся туды.

На дворыку Антаніны Міхайлаўны нікога не было відаць. Падышоўшы к самаму дому, Лабановіч заўважыў ёмкі замок на дзвярах. Гэты замок для яго быў роўназначны такім словам, якія былі напісаны спецыяльна для яго: «Просім да нас не заходзіць».

«І нашто я заходзіў сюды?» — спытаў самога сябе Лабановіч і задворкамі, каб не кідацца людзям у вочы, як злодзей, накіраваўся на дарогу ў бок станцыі. Сам па сабе гэты малазначны выпадак папсаваў настаўніку добры настрой. І чамусь павешаны замок на дзвярах ён успрыняў, як нядобры знак. Але, адышоўшы некалькі вёрст ад хутара, ён перастаў думаць аб ім.

Дзень быў лагодны, ціхі. Сонца ўжо даўно мінула поўдзень. Прыпарвала. На далёкім захадзе, з-за зубчастых пералескаў выплывалі, як мядзяныя горы, клубястыя хмары, пафарбаваныя сонцам у чырванаваты колер. Як прыгожа і велічна выступалі яны над краем зямлі, уздымаючыся ўсё вышай і вышай! У іх звілістых клубках, у вычварных і невыразных абрысах таілася магутная сіла зямлі і сонца, гатовая абрушыць на мірныя нівы, лясы і даліны патокі маланак і рэкі дажджу. Зрэдку павяваўшы ветрык зусім заспакоіўся. Настала вялікая цішыня. Быў нават нейкі неакрэслены страх у гэтай нязвыклай цішыні. Лабановіч не мог адвесці вачэй ад купчастых грамадзін хмар і ўвесь аддаўся чарам зямлі і неба. Калі ў дарозе пападаўся зручны пункт, адкуль расчыняўся шырокі краявід, ён прыпыняўся і некалькі хвілін любаваўся малюнкамі, што паўставалі перад яго вачамі.

За бліжэйшым узгоркам, праз які ішла дарога, тулілася малапрыметная, закінутая чыгуначная станцыя. Некалькі шатрыстых ліп і клёнаў з аднаго канца станцыі і пара заняпалых таварных вагонаў з другога віднеліся здалёк. Мінуўшы ўзгорак, Лабановіч апынуўся амаль на самой станцыі. Такая-ж яна ціхая і бязлюдная, як і тыя станцыі на Палессі, дзе ён садзіўся некалі на цягнікі... Як шпарка праходзіць час! Ці даўно ён, Лабановіч, прыехаў сюды ўпершыню, каб дастравіцца да невядомага яму Верханя? І вось ён зараз ізноў на гэтай станцыі. Тады была зіма, а зараз лета. Тады ён не ведаў, што такое Верхань, і не ведаў, што праз шэсць месяцаў ізноў да-

вядзецца быць на гэтай-жа станцыі, каб пачынаць нейкую новую для яго дарогу. Усе гэтыя думкі і пачуцці прамільгнулі ў свядомасці Лабановіча ў самы кароткі час.

На станцыі ён даведаўся, калі прыходзіць пасажырскі цягнік на Мінск, калі адчыніцца білетная каса. Да прыходу цягніка заставалася ўжо і не так многа. Лабановіч заняў самую зручную пазіцыю на станцыі, адкуль можна было здалёку згледзець цягнік, каб паспець купіць білет, а ў крайнім выпадку сесці і без білета — з кандуктарам можна было лёгка дагаварыцца ў вагоне і сёе-тое нават зэканоміць на білеце. Самае-ж важнае было тое, што з гэтай пазіцыі былі добра відаць хмары надыходзячай навальніцы. А навальніца насоўвалася павольна, ды станоўча і настырна. Заход хмурнеў. Чорная сцяна хмар рабілася ўсё болей і болей шчыльнай. У нядоўгі час усё навокал змянілася. Сонца патускнела і ўсё глыбей уплывала ў хмары. Цемра насоўвалася на зямлю. Далёкі глухі гром раз-по-раз чуўся мацней, бліжай і магутней. І раптам ад цёмнай, суцэльнай заслоны хмар аддзяліўся доўгі сіваваты вал, выгнуўшыся дугою і займаючы ўвесь краявід, які шпарка каціўся наперад. Сярэдзіна дугі якраз насоўвалася на станцыю, гонячы перад сабою сціснуты ком навальнічнага воблака. Бліснула маланка, нібы нейкая велічэзная агністая птушка разняла свае крыллі і асвяціла ўсю хмару. Дзесь зусім блізка грукнуў удар грому. Дыхнуў свежы вецер. Пасыпаліся буйныя кроплі дажджу, упала некалькі галак граду, як-бы нейкі жартаўнік сыпнуў жменю белых каменьчыкаў. А следам за гэтым паліў дождж, як з вядра. Пакі Лабановіч дабег да станцыі, яго парадкам пакрапіў дождж. Білетная каса была ўжо адчынена. Купіўшы білет, настаўнік падышоў да акна, любуючыся бушаваннем навальніцы. Якраз прыбыў і цягнік, выплыўшы нібы з туману, з густой сеткі дажджу. Лабановіч выбег на платформу і ўскочыў у першы пасажырскі вагон. Хоць ён зараз вымак, як мае быць, але быў вясёлы і задаволены. Яму нават прыгадалася народная прыкмета: калі выпраўляешся ў дарогу і цябе намочыць дождж, дык гэта к прыбытку, к дабру.

У вагоне пасажыраў было мала. Пападаліся нават

зусім пустыя купэ. Лабановіч асталяваўся ў адным з такіх купэ. Некалькі станцый ён прастаяў на нагах каля акон цягніка, любуючыся малюнкамі зямлі, міма якіх прабягаў цягнік. Заводзіць знаёмства з пасажырамі і пускацца з імі ў гутаркі Лабановіч не хацеў. Шмат цікавейшымі для яго былі малюнкі, якія можна было разглядзець з акна цягніка. Грымотная дажджавая хмара паплыла далей, расквечваючы на яркім сонцы свае велічэзныя пабялелыя, нібы памытыя дажджом, клубястыя горы. Лабановіч апусціў уніз акно і ўдыхаў празрыстае паветра, ачышчанае навальніцаю.

Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш!

## XXIV

Сонца зайшло. Лёгкі вечаровы змрок засцілаў нізіны шаравата-цьмяным покрывам, калі цягнік замарудзіў свой ход перад апошняй станцыяй, куды ехаў Лабановіч. Яшчэ задоўга да спынення цягніка пачуцці і мыслі Лабановіча мімаволі скіраваліся да гэтай станцыі. Як-жа яно будзе? Збяруцца ці не збяруцца хлопцы? Правядуць яны свой першы патайны з'езд ці не правядуць? Сустрэне яго хто-небудзь ці не сустрэне? Садовічу ён пісаў, што вечарам 8 ліпеня будзе на станцыі С.

Як-жа здзівіўся і як узрадаваўся мой нястомны вандроўнік, вышаўшы з вагона і згледзеўшы цэлы гурт маладых, бадай што ўсіх знаёмых настаўнікаў! Шумным натоўпам акружылі яны Лабановіча. З некаторымі з іх Лабановіч горача абнімаўся, другім па-прыяцельску паціскаў рукі. Голасна гаманілі, смяяліся дружным смехам шчаслівай маладосці, напаўняючы платформу гоманам, выгукам, чым звярачалі на сябе ўвагу пасажыраў і начальства станцыі. У маладым настаўніцкім натоўпе быў Садовіч, як лідар; быў смяшлівы, рухавы Янка Тукала, які ўмеў сказаць трапнае слова і пацешыць сяброў. З настаўніцкай грамады вылучаўся Аляксей Алешка, магутны, статны, вышэйшы на цэлую галаву сваіх калег. Яшчэ ў настаўніцкай семінарыі Лабановіч даў яму мянушку «Дзед Хрушч». Алешка быў на адзін курс старэйшы за Лабановіча, але гэта не замінала іхняй дружбе. Ужо ў

семінарыі Алешка запусціў сабе вусікі. Яны былі рыжаватыя. Закручаныя ўгору кончыкі вусаў рабілі іх падобнымі да вусікаў хрушча. Гэта і дало повад Лабановічу ахрысціць прыяцеля «Дзедам Хрушчом». Алешка не крыўдзіўся сваёю мянушкаю. Яго так і звалі — «Дзед Хрушч». «Дзед Хрушч» яшчэ не сустракаў у сваім жыцці — праўда, жыў ён не многа — такога чалавека, які мог-бы зваліць яго з ног.

— Адкуль ты такі ўдаўся? — запыталі аднойчы Алешку.

Ці то жартам, ці то ўсур'ёз «Дзед Хрушч» расказаў, што яго продкам быў нейкі невядомы драгун. А здарылася гэта так. У той мясцовасці, дзе жылі родзічы Алешкі, знаходзіўся маёнтак графа Буцянёва-Храбтовіча. Было гэта яшчэ за паншчынаю. Народ у маёнтку Буцянёва-Храбтовіча быў дробны, нядошлы. Вось адзін з графаў надумаўся завесці новае, моцнае племя людзей. Усіх сваіх мужыкоў ён перавёў кудысь далёка і на доўгі час. Засталіся адны толькі жанчыны. Буцянёў-Храбтовіч звярнуўся з просьбаю да губернатара прысланы на пастой у яго маёнтак эскадрон драгун. Хтось з гэтых драгун і быў заснавальнікам роду Алешкі.

Так было гэта ці не так, ніхто не ведаў ды і скуль ведаць такія інтымна-сакрэтныя справы? Адно толькі можна сказаць, што «Дзед Хрушч» быў дастойны патомак свайго невядомага продка-драгуна і хібы не даваў. А што да мікуцішанскіх мужчын, дык яны нават заахвочвалі залёты «Дзеда Хрушча» і казалі: такі гвардзеец! Не шкада і не крыўдна, калі ён тут пакіне па сабе сякуютакую памяць, бо і ў Мікуцічах народ таксама пачынае драбнець.

Цягнік пашыбаваў далей. Вясёлы, радасны, узбуджаны Лабановіч злучыўся з натоўпам маладых, разудалых настаўнікаў і загубіўся ў ім. Шумнаю, гаманліваю грамадою — а было іх чалавек пятнаццаць — накіраваліся яны ў бок возера, на дарогу, што вяла ў Мікуцічы. Добрыя вярсты дзве не спыняліся іх нястрыманыя жарты, таўканіна, сумятня. Яны цяпер самі былі падобны да сваіх школьнікаў, чыю дураслівасць ім прыходзілася стрымліваць у часе заняткаў. Летнім часам, калі настаўнікі

з'язджаліся на канікулы, тутэйшым людзям не раз траплялася сустракаць іх, але такога іхняга наплыву не здаралася бачыць. Ды настаўнікі, хмельныя ад свае маладосці, здароўя і сілы, не зварачалі на гэта ўвагі. Хоць яны і не выпілі, але зараз ім здавалася мора па калена.

— Эй вы, слухайце! — крыкнуў Янка Тукала, зварачаючыся да сяброў і стараючыся іх перакрычаць. — Што вы гагочаце, як жарабцы? Давайце заспяваем песню, — ведаеце, як тыя местачковыя бунтары: «Урадніка няма? стражнікаў ніто?» — Даведаўшыся, што нікога няма, яны і грымнулі:

Як у нас на троне
Чучала ў кароне!
Ай да цар, ай да цар,
Праваслаўны гасудар!

Янка Тукала, як рэгент, махаў рукамі і ва ўсё горла спяваў куплет песні, перадражніваючы местачковых бунтароў-рэвалюцыянераў. Настаўнікі былі ў такім прыўзнятым настроі, што пацяшаліся словамі песні і крыўляннем Янкі Тукалы.

— Давайце, хлопцы, цішэй, — перасцярог Садовіч. — А ты, Янка, волі горлу не давай, бо і ў гэтым ялоўцавым хмызняку могуць быць вушы.

З аднаго боку дарогі стаяў рэдкі хвойнік, з другога — кусты ялоўца, а далей — алешнік. На разумнае папярэджанне Садовіча ніхто не звярнуў увагі. Толькі Янка Тукала, якога галоўным чынам датыкалася заўвага Садовіча, азваўся:

— Што праўда, то праўда. Яшчэ адзін з герояў Ібсена сказаў: «Калі ідзеш у рэвалюцыю, дык не надзявай новых портак».

Настаўнікі дружна зарагаталі. Смяяўся і сам Садовіч, пры гэтым ён штурхануў у карак Янку Тукалу, сказаўшы:

— А няхай ты згары!

А ноч гусцей насоўвалася на зямлю. Нават неба на захадзе, святлеючы доўгі час пасля заходу сонца, стала тускнець і агортвацца ў лёгкую летнюю цемру. На небе сям-там замігацелі, як іскаркі, далёкія зоркі. Колькі разоў кожны з нас наглядаў гэтыя малюнкі кароткай лет-

няй ночы! З лугу, дзе струменіўся Нёман, злёгку патыхала свежаю вільгаццю. Цішыня, спакой, сон панавалі навокал. Лабановіч мімаволі прыгадаў, як многа разоў хадзіў ён па гэтай дарозе. Ці даўно было, калі яны, сустрэўшыся на станцыі з Садовічам, хадзілі ў Панямонь, гралі ў карты! Але зараз у гаманлівым настаўніцкім тлуме трудна аддацца ўспамінам, каб з паасобных з'яў мінулага можна было скласці цэльны малюнак. Хацелася пагаварыць з Садовічам і аб той справе, дзеля якой пазбіраліся настаўнікі. Ды абстаноўка цяпер была зусім не дзелавая. Справа-ж не мядзведзь, у лес не ўцячэ, і гаварыць аб ёй на хаду не зусім і зручна. Да таго-ж яшчэ і «Дзед Хрушч», не даходзячы да шляхецкага пасёлка, дзе было таксама і лясніцтва князя Радзівіла, гучным басам зацягнуў песню:

Смело, товарищи, в ногу...

Хоць Садовіч і зрабіў заўвагу захоўваць асцярогу, але не мог стрымацца, каб не далучыць свайго баса да баса Алешкі. Калісь у семінарыі ён стаяў на клірасе разам з «Дзедам Хрушчом» і не хацеў уступаць яму ў басавітасці. Песню падхапілі ўсе настаўнікі. Пераважная большасць з іх былі добрымі харыстамі з добрымі галасамі. З першых-жа гукаў песня наладзілася, палілася дружным ручаём маладых, сакавітых галасоў. Песня захапляла саміх спевакоў, узнімала яшчэ вышэй і без таго прыўзняты іхні настрой. Яна прыдавала сілы і гарту ў барацьбе супраць зла і сацыяльнай несправядлівасці.

Вышли мы все из народа,
Дети семьи трудовой.
Равенство, братство, свобода —
Вот наш девиз боевой!

Натхнёна, дружна спявалі настаўнікі. І ці-ж гэта не праўда, што яны выйшлі з народа, што яны дзеці занядбанай, прыгнечанай працоўнай сям'і?

Разам з настаўнікамі набліжалася песня да сядзібы лясніцтва магната пана Радзівіла. Адгэтуль направа і налева і далёка ўглыб пачынаюцца бясконцыя абшары лясоў, велічэзныя лавы так званай скарбовай зямлі. І ўсім

гэтым неабсяжным прасторам зямель і лясоў валодае адзін старадаўні род польскага магната князя Радзівіла. Ці не занадта доўга засядзеўся ён у сваім нясвіжскім княжацкім гняздзе? Вось чаму, параўняўшыся з брамаю ў парк лясніцтва, баявая песня зазвінела яшчэ галасней і суровей. Шмат каму з настаўнікаў, у тым ліку і Лабановічу, здавалася, што і належным чынам зложаная песня пракладае дарогу перамозе народа над крывавым царом, над яго сатрапамі і магнатамі і над усёю хэўраю абдзіралаў і гвалтаўнікоў.

Увесь рэпертуар рэвалюцыйных тагочасных песень праспявалі настаўнікі зладжаным хорам, праходзячы міма лясніцтва і праз шляхецкі засценак, а потым і праз лес. Тым часам дарога падыходзіла да балоціны, праз якую была пралажана грэбля. Абапал балота густою сцяною стаяў лес. Калі, бывала, ціхаю летняю ноччу спынішся каля грэблі і гукнеш, дык рэха доўга бегла ўскрай балоціны, адбіваючыся ад сцяны лесу, а потым ізноў варочалася назад ужо ў некалькі змененым адценні.

Сымон Чэчык, Садовіч, Янка Тукала і ўсе хлопцы з Мікуціч ведалі такую асаблівасць гэтай мясціны.

— Стойце, хлопцы! — спыніўся Янка Тукала. — Пагукаем тут, паслухаем, што нам будзе адказваць рэха!

Настаўнікі спыніліся. Чэчык, Садовіч і Тукала набралі ў грудзі паветра і разам выгукнулі:

— У вас міністры бы-ы-лі?

Голас пабег ускрай балота, павярнуў назад, і ўсе пачулі:

— Бі-і-лі!

— Хлеба вам дава-а-лі?

— Дра-а-лі!

Некалькі хвілін забаўляліся настаўнікі, слухаючы пераклічку сваіх сяброў з балотам і лесам.

Позна ўначы прышлі яны ў школу Садовіча.

## XXV

Не гледзячы на позні час, у кватэры Садовіча пры школе гарэла лямпа. Тут былі і жывыя людзі: блізкі прыяцель Лабановіча Мікола Райскі і мала вядомы Лаба-

новічу Іван Тадорык — ён скончыў другую семінарыю. Райскі застаўся за гаспадара, каб прыгатаваць вячэру. Гэта быў высокі, рухавы юнак і па характару добры, сардэчны хлопец, такі-ж танклявы, як і Садовіч. Ён горача абняў Лабановіча і пацалаваўся з ім. Тадорык тупаў па пакоі босы, бо так вальней нагам, казаў ён, і амаль не звярачаў увагі на шумны настаўніцкі натоўп, запоўніўшы ўсю кватэру Садовіча. Зрэдку перакідаючыся з тым ці з другім закавырыстымі рэплікамі, ён зняў са сцяны скрыпку, прысеў на жорсткую канапку з абдзёртаю абіўкаю і выігрываў нейкія мелодыі. Манера трымаць скрыпку і смык і сама ігра сведчылі аб тым, што Іван Тадорык быў добрым скрыпачом. Лабановіч з прыемнасцю слухаў музыку, углядаўся ў твар скрыпача, крыху пануры і злёгку васпаваты, з насупленымі бровамі, са шчыльна сціснутымі губамі. Лоб і авал твару з вастраватым падбародкам казалі за тое, што Іван Тадорык, як відаць, чалавек з выдатнымі здольнасцямі. Лабановіч углядаўся ў рысы твару скрыпача. Яны нагадвалі яму нешта знаёмае. Дзесьці ён бачыў такі твар, але дзе? Нарэшце ўспомніў: Іван Тадорык меў штосьці агульнае з нямецкім філосафам-песімістам Шопенгауэрам, толькі той быў стары, а Тадорык — равеснік Лабановіча.

Пры школе на кватэры Садовіча асталяваліся — Райскі, Янка Тукала і Іван Тадорык. Янка Тукала жыў не так далёка ад Мікуціч — за Нёмнам вярсты тры. Там жылі яго бацькі, а яго школа была вёрст за пятнаццаць ад Мікуціч. Але ўжо была такая натура ў Янкі Тукалы: поўнацэнным чалавекам ён быў толькі тады, калі знаходзіўся ў коле сваіх сяброў, калі чуў іх плячо, на якое можна абаперціся, калі бачыў іх руку, за якую можна было ўзяцца і ісці наперад, не збіваючыся з дарогі.

Быў ужо даволі позні час. Садовіч, як гаспадар школы і як лідар, прыняўшы кіраўніцтва сходам, хоць яго ў лідары ніхто не выбіраў, выступіў з прамоваю. Пры гэтым ён стаў у належную позу, падаў наперад грудзіну і прыняў сур'ёзны выгляд.

— Таварышы! — пачаў ён з баса. — Мы сышліся і з'ехаліся для важнай справы. Усе чэсныя перадавыя

людзі Расіі выступаюць на арганізаванае змаганне са злом і несправядлівасцю...

— А называюцца яны царскім самадзяржаўем,— падказаў Іван Тадорык і збіў прамоўцу з панталыку.

— Не лезь у пекла раней бацькі! — жартліва і ў той-жа час досыць строга заўважыў Садовіч. — Што трэба сказаць, я скажу сам. Не забывайся, Іван, што не для камедыі сабраліся мы тут.

— Я і не кажу пра камедыю, — не сунімаўся Тадорык. Садовіч не звярнуў увагі на другую рэпліку.

— Не трэба, хлопцы, забывацца і на тое, што мы павінны быць вельмі і вельмі асцярожнымі. І гэта не ёсць страх перад паліцэйскімі шнурамі, — гэтага вымагаюць інтарэсы справы. На ўсякі выпадак я паставіў варту. Таварышы, справа наша дужа пачэсная і вельмі важная. Падробна аб ёй мы сягоння гаварыць не будзем: мы вырашым яе заўтра і не ў сценах школы, дзе можа і шашаль падслухаць нас, а ў адкрытым полі. Заўтра а дванаццатай гадзіне ўсе мы збярэмся на Прыстаньцы, непадалёку ад Лядзін. Сходзіцца туды невялічкімі гурткамі, каб не кідацца ў вочы, каб не выклікаць падазронасці.

— Праўду кажаш, Бас! — падтрымаў Садовіча Уладзік Сальвэсяў. Уладзік меў загану ў вымаўленні літары «р», а таму слова «праўду» ён вымаўляў «прлаўду».

— Дык так, хлопцы: заўтра! — гаварыў далей Садовіч. — А зараз разыходзьцеся па каморках ды па адрынках. Не забараняецца і з дзяўчатамі пагуляць.

Сказаўшы так, Садовіч зірнуў на «Дзеда Хрушча». «Дзед Хрушч» толькі пасміхнуўся і хітра кіўнуў Садовічу — ведаем, які ты манах ёсць сам.

— У школе застануцца беспрытульныя гарапашнікі: Андрэй, Мікола Райскі, Іван і Янка — па сутнасці адно і тое, што Янка, што Іван, — зазначыў з некаторым гумарам Алесь Садовіч.

— Божа наш, якую прамудрасць сказаў ты, Алесь! — не ўтрываў Тадорык, каб не кінуць рэплікі.

Садовіч паглядзеў на Тадорыка, паківаў галавою і сказаў:

— Ішоў Тодар з Тадораю, знайшоў лапаць з абораю.

— Ну, і што-ж? — запытаў Тадорык.

Як відаць, ён быў настроены на ваяўнічы лад.

— Ну, то да заўтра! — казалі настаўнікі і патроху распоўзваліся са школы, хто куды. У школе засталіся гаспадар і яго «беспрытульныя» госці: Лабановіч, Райскі, Тадорык і Тукала.

— Што-ж, хлопцы? Сядайце за стол. На вялікі пачастунак прабачайце, — прамовіў гаспадар.

— А ўсё-ж сёе-тое ды ёсць, — сказаў Райскі і гукнуў: — Акуля!

Шырокая, прысадзістая, румяная Акуля паказалася ў пакоі, выплыўшы з кухні.

— Падавай, Акуля, што ёсць, — загадаў ёй Райскі.

Акуля так-жа моўчкі, як і ўвайшла, схавалася за дзвярамі пакоіка. Іван Тадорык зла́жыў губы трубкаю, вырачыў вочы і, зварачаючыся да Райскага, выгукнуў з робленым здзіўленнем:

— О-о-о! паглядзім, што гэта за сёе-тое!

Зараз-жа ізноў увайшла дзябёлая Акуля — яна была старожкаю пры школе і разам гаспадыняю кухні — прынесла пяць рознакаліберных талерак, столькі-ж зборных відэльцаў ды пару нажоў-інвалідаў. Усё гэта яна расставіла і разлажыла на старасвецкім стале, не заслаўшы яго настольнікам. У Садовіча настольніка не было — ён лічыў яго непатрэбнаю буржуйскаю раскошаю. Затым на стале паявілася яшчэ адна талерка з накроенымі кавалачкамі сала, затым дзярвяная саматужнага вырабу міска з хлебам, скаварада з яечняю і вялізная гліняная міска з рэдзькаю, пакрышанаю на скрылікі і запраўленаю кіслым малаком. У місцы было рэдзькі з добрага поўвядра. Тадорык не мог стрымацца.

— Памры, Мікола, і болей не кухар, бо лепшага нічога не зробіш, — сказаў ён Райскаму. А Райскі, нічога не кажучы, падышоў да кніжнай шафы і вывалак з-за школьных папак кварту гарэлкі і ўрачыста паставіў яе на стол.

— Гэта дар ад маіх мізэрных здабыткаў, — прамовіў ён. — Вып'ем, як казаў Тарас Бульба, за тое, каб храбра ваявалі!

Настаўнікі так ажывіліся, так загаманілі, што іх га-

ласы зліваліся ў тлум, дзе трудна было разабраць па-асобныя выгукі.

— Вось гэта «сёе-тое»! — весела сказаў Тадорык.

— Слава Райскаму, добраму сыну Бахуса!

— Дай табе, божа, шчасце і долю і кашулю на пуп!

— Жыві, жыві, Райскі, аж покі не скажаш «годзе!»

Як хто ўмеў і як мог, хваліў Райскага за рэдзьку, а галоўным чынам за кварту гарэлкі. Калі-ж выпілі па чарцы за здароўе Райскага, ён сказаў:

— Ну, то ежце, хлопцы, так, каб нічога не засталася, бо пасля вас і свінні есці не будуць.

— Здорава! — засмяяўся Тадорык, а Янка Тукала запэўніў:

— Не турбуйся, Міколка, усё змяцём, і ад твае рэдзькі застануцца адны толькі ўспаміны.

Вячэра зацягнулася далёка за поўнач. Шмат было маладога смеху, жартаў, весялосці. Потым гутарка скіравалася на тую справу, дзеля якой пазбіраліся настаўнікі з розных канцоў краіны. На запытанне Лабановіча Садовіч паведаміў, што ўсяго сабралася восемнаццаць вясковых настаўнікаў і што заўтра, праўдзівей ужо сягоння, прыедуць яшчэ тры настаўнікі з-пад Койданава. Можна спадзявацца, што з Панямоні прыбудуць Тарас Іванавіч Шырокі і Базыль Трайчанскі. Але на апошніх двух пакладаць надзей не варта. Яны людзі сямейныя. Хоць на словах і спачуваюць рэволюцыі, але прыняць у ёй удзел наўрад ці згодзяцца.

— Ва ўсякім разе, хлопцы, — казаў Садовіч, — заўтра мы паложым пачатак арганізацыі народных настаўнікаў у Беларусі. Мы будзем піонерамі рэволюцыйнага арганізаванага руху ў барацьбе супроць праклятага царызма, — крыху рытарычна, але натхнёна скончыў Садовіч.

Ужо даўно развіднелася. Пачало абуджацца абыклае жыццё вёскі.

— Хіба-ж мы будзем класціся спаць? — запытаў Лабановіч і ўнёс прапанову адправіцца на Нёман, «каб змыць грахі мінулага і адзецца ў адзенне новага Адама», — як гавораць папы.

Так і не спалі ў гэтую ноч. І запомнілася яна Лабановічу на ўсё жыццё.

## XXVI

Акуля на скорую руку прыгатавала для настаўнікаў снеданне, праўда, не такое багатае, як вячэра. Якраз у гэты час дзверы ў пакойчык, дзе снедалі настаўнікі, расчыніліся. Парог пераступіў Нічыпар Янкавец, а за ім Пятрусь Ґулік і Сымон Лапаткевіч. Яны толькі што прытрапалі са станцыі.

— Смачнага апетыту! — громка, урачыста прывітаў Янкавец гаспадара і яго гасцей.

Садовіч, а за ім і «беспрытульныя» госці паўставалі з-за стала, шумна прывіталіся з прыбыўшымі, а потым пасадзілі іх за стол.

Сярод настаўніцкай галыцьбы самым багатым быў Нічыпар Янкавец. У японскую вайну ён дабравольцам паехаў на Далёкі Усход і замацаваўся ў інтэнданцтве. Яму давялося быць сведкаю самага расцугленага хабарніцтва, якое тварылася вакол. Інтэнданцкія кампанейскія чыноўнікі прапанавалі і яму долю ў хабарніцтве, але Янкавец лічыў неэтычным абкрадаць сваё войска, і толькі пад самы канец вайны, калі ўсё распаўзалася па ўсіх нітках, узяў ён каля трох тысяч «на дарогу». «Дурак я, прызнаваўся ён потым; а мог-бы нахватаць шмат дзесяткаў тысяч». Наогул-жа Нічыпар быў хлопец разудалы, жывы, бойкі. Любіў часамі і гульнуць. Вось чаму і зараз, сеўшы за стол і акінуўшы яго вокам, ён закамандаваў Садовічу паклікаць Акулю. Акуля ўвайшла. Нічыпар даў ёй рубля.

— Прынясі поўкварты ды закусіць — хоць хвост ад тарана. Ды на аднойназе! Ну, дык як, патрасацелі самадзяржаўя! — звярнуўся ён да настаўніка.

— Страсянём! — грозна пакруціў кучараваю галавою Тадорык.

— А сам, Нічыпар, не збіраешся страсянуць яго? — пацікавіўся Лабановіч.

— Пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не аглядайся! — рашуча заявіў Нічыпар.

Толькі ціхі і палахлівы Сымон Лапаткевіч нясмела азваўся:

— Самадзяржаўе не груша. Глядзіце, каб нас не

страсянулі, — сказаўшы гэта, Лапаткевіч паправіў на носе пенснэ, а яно надавала яму досыць паважны выгляд.

— А ты-ж думаў, цітулярнага саветніка дадуць табе за тое, што супраць самадзяржаўя пойдзеш? — падсек Лапаткевіча Янка Тукала.

Настаўнікі дружна зарагаталі. Яны часта спявалі прывезеную Нічыпарам песню пра цітулярнага саветніка:

Он был титулярный советник,
Она — генеральская дочь.
Он томно в любви объяснялся,
Она прогнала его прочь.

— Ну, што-ж, хлопцы, — сказаў па сняданні Садовіч, — будзем памаленьку рухацца.

— Давайце пойдзем! — падхапіў Тадорык. — На вольным паветры латвей.

— Ты-ж развітаўся з бацькамі? — запытаў Лапаткевіча Янка Тукала. Усім кідалася ў вочы, што Лапаткевіч і Гулік хваляваліся і, відаць, каяліся ў тым, што прынялі ўдзел у нелегальным зборы вясковых настаўнікаў, ды адступаць не было куды, а прызнавацца ў сваёй баязні не хацелася.

Настаўнікі раздзяліліся на дзве групы. На чале адной стаў Садовіч, другую павёў Лабановіч. Яны добра ведалі мясцовасць і ўсе самыя малапрыметныя сцежачкі, па якіх можна выйсці на дарогу, што вяла на Прыстаньку. Пайшлі рознымі дарогамі. Садовіч накіраваўся на бераг Нёмна, каб мінуць сяло, а потым павярнуць улева і далей у лес. Улетку настаўнікі часта гулялі па беразе Нёмна, і ніхто на гэта не зварачаў увагі. Лабановіч са сваёю групаю зразу павярнуў у поле, каб межамі дайсці да лесу. З ім пайшлі Тукала, Гулік і Лапаткевіч.

— Цягаемся нямаведама дзе і чаго,—скуголіў, спатыкаючыся па межах, Сымон Лапаткевіч. — І наогул уся гэта выдумка дабром не скончыцца.

— Цярпі, Грышка, карчма блізка, — развясельваў яго Тукала. — І не люблю я ў такі вясёлы, радасны дзень, каб чалавек стагнаў, нібы ў яго нясцерпна баліць зуб. Не падабаецца, дык злазь з даху і не псуй гонт!

— Праўда, Янка! — падтрымаў Тукалу Лабановіч і

потым сур'ёзна сказаў: — Мы не цягаемся, а ідзём да пэўнай мэты, каб рабіць сухоты цару, разумееш?

— Покі мы зробім сухоты цару, дык ён згноіць нас у Сібіры, — азваўся Пятрусь Гулік.

— Тады вось што, хлопцы, — сказаў Лабановіч і спыніўся, — раз так, дык давайце вяртаць аглоблі. Сілаю вас ніхто не прымушае на гэта. Унь там Мікуцічы, а вось дарога на станцыю. Ідзіце, адкуль прышлі. Будзьце «ісцінна-рускімі» людзьмі, спявайце «Боже, царя храни», віншуйце валаснога пісара і прыстава з імянінамі, чытайце ў царкве «апостала», цалуйце папу руку, вазьмеце замуж пападзянак...

— Ну, ну! ты ўжо занадта разышоўся, — загаварыў Пятрусь Гулік. — Мы проста выпрабоўваем вас — ну, нашых... правадыроў... Ведаеш, браток Андрэй: ёсць прыказка — сем разоў прымер і адзін раз адрэж. Дык чаму-ж мы не можам прымяраць? І няўжо ты думаеш, што мы ні аб чым не развfamiliarаем, што нам нічога не абыходзіць? Але-ж усё-такі, каб не блутацца, каб не рабіць глупства, трэба ўсё належным чынам абмеркаваць.

— Вось гэта голас чалавечы! — выклікнуў Лабановіч. — Друг мой дарагі! Для гэтага мы і збіраемся. Нам трэба праверыць: што мы і хто мы? Ці мы — балотная вада, для якой няма ходу, ці мы — жывы струмень крынічнай вады, жывы, свежы, той струмень, што пакідае ў баку гнілую балотную ваду і ўсё імкнецца наперад і наперад па чысценькаму жоўтаму пясочку?

У гутарках, у спрэчках прышлі яны на Прыстаньку. На беразе Нёмна ўжо мітусіліся настаўнікі, прышоўшыя зараз цэлаю грамадою. Яны голасна прывіталі групу Лабановіча. Зараз-жа паказаўся з лесу і Садовіч са сваімі сябрамі. Усе настаўнікі сышліся на высокім і маляўнічым беразе Нёмна, дзе можна было прысесці ці проста пакачацца на зялёнай траўцы. Усяго тут сабралася дваццаць адзін чалавек. Гэта былі маладыя хлопцы ад дваццаці двух да дваццаці пяці гадоў. Аднаму толькі Нічыпару Янкаўцу было гадоў пад трыццаць. У некаторых толькі ледзь-ледзь высядалі вусікі, затое-ж сярод іх трапіўся і адзін барадач. Гэта быў Мілеўскі Адам. Ён запусціў доўгую, рыжую, па сярэдзіне вы-

стрыжаную бараду. Такія бароды насілі міністры пры цару Александру другім. Барада Мілеўскага была прадметам жартаў і насмешак з боку настаўнікаў, але Мілеўскі не звярачаў на гэта ўвагі, сам смяяўся і тлумачыў, што бараду ён носіць для «фацэціі». Адзеты настаўнікі былі хоць і не дужа багата, але ўсё-ж такі на «панскі» лад, а некаторыя нават і фарсіста. На іх былі шапкі, чорныя і белыя летнія, з шырокімі круглымі вярхамі, з машастовымі аколышкамі. Былі, праўда, і без шапак, без пільчакоў, у адных толькі верхніх кашулях.

Калі гутарка і шум трохі сціхлі, Садовіч звярнуўся да настаўнікаў:

— Таварышы! Давайце прыступім да справы, дзеля якой, уласна кажучы, мы і сабраліся тут.

— Паколькі мы сабраліся для таго, каб назаўсёды скінуць з сябе адзежу «ветхага Адама», — азваўся Іван Тадорык, — дык давайце наўперад пакупаемся ў Нёмне, а наш сход не мядзведзь, у лес не ўцячэ. Прыступім да важнай справы з чыстым сумленнем і з чыстым целам.

— Вось ты мне заўсёды псуеш абедню! — напусціўся на Тадорыка Садовіч. — Правядзем сход — а ён будзе нядоўгі — і тады змыеш твайго «ветхага Адама». Як народ мяркуе? — звярнуўся ён да настаўнікаў.

— Наўперад сход, купацца потым! — загудзелі настаўнікі, у тым ліку і Лапаткевіч і Гулік. Ім хацелася хутчэй развязацца з гэтым незаконным сходам, а там будзе відней.

— Калі так, то прыступім да справы, — сказаў урачыста Садовіч.

— Таварышы! — казаў ён далей. — Як водзіцца ўсюды на свеце ў такіх выпадках, нам трэба выбраць старшыню схода і сакратара. Каго выберам за старшыню? Я раю выбраць старшынёю Нічыпара Янкаўца.

— Хто палку ўзяў, той і капрал, — адгукнуўся Нічыпар. — Будзь ты старшынёю... Хлопцы! Я прапаную выбраць Садовіча: ён у такіх справах мастак.

Настаўнікі зашумелі. Адны называлі Нічыпара, другія — Садовіча. Старшынёю схода быў выбран Садовіч, а сакратаром Райскі.

Стаўшы старшынёю схода, Садовіч адразу пе-

рамяніўся. Рысы яго твару зрабіліся строгімі, вочы — грознымі, грудзі яшчэ болей падаліся ўперад, і голас зазвінеў па-новаму.

— Таварышы! Наш сягоннешні сход — важнейшая падзея ў нашым настаўніцкім жыцці, — пачаў ён. — Мы жывём у такі час, калі ўсе лепшыя людзі ў Расіі аддаюць сваю волю і энергію на барацьбу з царызмам, за поўнапраўе і свабоду народа. Ніякія кары царскіх прыслужнікаў не могуць спыніць барацьбу. Царскі трон захістаўся...

— Але цар з трону не скінуўся, — заўважыў Тадорык.

— Вось мы і павінны скінуць яго! — грозна сказаў прамоўца. — Наш святы абавязак — развязаць вочы народу. Наш настаўніцкі доўг перад народам — арганізавацца ў рэвалюцыйны настаўніцкі саюз, далучыцца да ўсерасійскага настаўніцкага саюза і агульнымі намаганнямі, па адной праграме павесці барацьбу за вызваленне народа з ярма царскага самаўладства, за зямлю і за волю.

Гаварыў Садовіч даволі доўга і даволі складна, не адзін з слухачоў, у тым ліку і Лабановіч, падумаў: «а добра гаворыць Бас!» І ўпотайку пазайздросціў яго красамоўству.

— Наш доўг, — скончыў сваю прамову Садовіч, — арганізаваць сягоння-ж настаўніцкі саюз барацьбы з царызмам. Дык абмяркуем гэта. Хто хоча сказаць?

— А што тут абмяркоўваць і што казаць? — страсянуў доўгімі валасамі Нічыпар Янкавец. — Справа ясная — такая арганізацыя патрэбна! — скончыў ён сваю прамову і рашуча махнуў рукою.

— Вядома патрэбна! — падхапілі настаўнікі. Нават Гулік і Лапаткевіч праявілі тут сваю рэвалюцыйную ваяўнічасць.

— Я гэтак думаў, і ўсе мы так думаем, — сказаў у заключэнне Садовіч. — Нам, сябры, трэба аформіць нашу пастанову.

— А якая пастанова? — запытаў Лапаткевіч.

— Такая, — адказаў Садовіч: — 9-га ліпеня 1906 г., г. зн. сягоння, мы, ніжэйпадпісаныя, пастанавілі: 1. Арганізаваць настаўніцкі саюз. 2. Паставіць сабе задачу —

змагацца з самадзяржаўным ладам... Больш падробна мы абмяркуем дома і запішам, бо ў нас тут ні паперы, ні чарніла няма, — перапыніў сам сябе Садовіч.

— Валяй! — махнуў рукой Лапаткевіч.

На гэтым настаўніцкі сход на Прыстаньцы быў скончаны, і яго ўдзельнікі, паскідаўшы з сябе ўсё, пайшлі ў Нёман — змываць «ветхага Адама».

## XXVII

Лабановіч крыху інакш уяўляў сабе настаўніцкі сход. Ён спадзяваўся большай урачыстасці і паважнасці ў гэтай справе. А вышла шмат прасцей. Не давялося яму нават выступіць з дакладам, над якім нямала памазоліліся мазгі. Карацей сказаць — не было належнай сур'ёзнасці. А гэта тлумачылася тым, што сярод настаўнікаў не было асоб, прайшоўшых рэвалюцыйную школу на практыцы.

Вярнуўшыся з Прыстанькі з усімі асцярогамі, настаўнікі параспаўзаліся хто куды, з тым, аднак, каб вечарам сыйсціся ў школе для абмеркавання пастановы і падпісаць яе. Садовічу, Райскаму і Тукалу было даручана напісаць пратакол настаўніцкага схода і адрэдагаваць яго пастанову.

У пастанове былі запісаны чатыры пункты:

1. Арганізаваць саюз настаўнікаў на падставе пастановы схода ад 9-га ліпеня 1906 г.

2. Саюз ставіць сабе асноўнай мэтай — весці барацьбу з самадзяржаўным ладам шляхам прапаганды ідэй рэвалюцыі сярод насельніцтва і распаўсюджання рэвалюцыйнай літаратуры. Кожнаму члену арганізаванага настаўніцкага саюза ставіцца ў абавязак — стварэнне на месцах рэвалюцыйных ячэек з мэтай прыцягнення найбольшай колькасці членаў у саюз настаўнікаў.

3. Арганізаванаму настаўніцкаму саюзу далучыцца да ўсерасійскага саюза настаўнікаў і ўвайсці з ім у цесныя зносіны.

4. Для вядзення спраў саюза выбіраецца бюро ў складзе 3-х асоб: Садовіча, Райскага і Тукалы.

Вечарам, на змярканні, у школе сышліся настаўнікі для зацверджання пратакола, пры гэтым пільнасць з

боку Садовіча была павышана: на вуліцы і ў канцы сяла стаяла варта, хоць ўсё было ціха і лагодна. Пратакол быў прыняты з папраўкай Івана Тадорыка да першага пункта пастановы: замест «з самадзяржаўным ладам» было прынята «з самадзяржаўным рэжымам», што, па думцы Тадорыка, зніжала ступень адказнасці ў выпадку, калі пратакол «засыплецца».

— Ну, браткі, віншую! — сказаў усхваляваны Садовіч. Ён вельмі блізка прыймаў да сэрца гэты акт настаўніцкай рэвалюцыйнасці, за што высока падымаў яго ў мыслях Лабановіч.

— Дазвольце мне, як старшыні схода і нашага бюро, падпісацца першаму, — дадаў ён.

І Садовіч першым падпісаўся пад пратаколам. Янка Тукала не мог стрымацца, каб не пажартаваць.

— Брава, Бас! — пахваліў ён Садовіча. — Гэта — добры знак, што раней «бацькі» ў пекла ніхто не палез... Ну, — звярнуўся ён да настаўнікаў, — каму абрыдла настаўніцтва і хто хоча казённай кашы, — падпісвайся!

Жарт спадабаўся настаўнікам. Гэта быў і не жарт, а хутчэй выклік, перад якім ніхто не хацеў спасаваць. Каля стала, дзе ляжаў пратакол, зрабілася завозна: кожнаму хацелася паказаць, што «казённай кашы» ён не баіцца. Нежавала толькі трох подпісаў: не падпісаліся Гулік, Лапаткевіч і «Дзед Хрушч». Іх на гэты час не было тут, ды на гэта ніхто і ўвагі не звярнуў — прыдуць, падпішуцца.

З поваду такой важнай падзеі настаўнікі наладзілі прыяцельскі банкет: выпілі гарэлкі і закусілі традыцыйнай рэдзькаю, запраўленаю кіслым малаком. Праспявалі некалькі песень, як «Царь испугался, издал манифест — мертвым свободу, живых под арест» і «Цітулярнага саветніка».

Толькі пад поўнач паразыходзіліся настаўнікі. На кватэры ў Садовіча засталіся — сам Садовіч, Райскі, Тадорык, Янкавец, Лабановіч і Тукала. У пакоі значна пацішэла. Райскі, як сакратар, палажыў на стол пратакол схода, пераглядзеў яго, прачытаў подпісы, рабіў сякія-такія нататкі на асобным лістку паперы. Тукала, скінуўшы хадакі, тупаў каля кніжнай шафы, час-ад-часу

перакідваючыся жартамі то з тым, то з другім. Садовіч і Янкавец шпацыравалі па пакоі і ціха аб чымсьці гутарылі. Тадорык, прысеўшы каля адчыненага акна, іграў на скрыпцы нейкія свае музычныя імправізацыі, цалкам аддаючыся ім. Лабановіч сядзеў на абадранай канапцы насупраць Райскага, слухаў, як гаманіла скрыпка ў здольных руках Івана Тадорыка. Яе гукі плылі кудысь у прасторы не дужа цёмнай летняй ночы. Слухаў і думаў. Яму здавалася, што ўжо даўно-даўно было тое, калі ён выпраўляўся ў дарогу з Верханя. Страцілася адчуванне часу, бо сцерліся абыклыя межы, якімі аддзяляецца адзін момант ад другога. Не так даўно ішоў ён з Верханя, заходзіў на хутар... Ніхто яго там не сустрэў, і нашто было заходзіць?.. І толькі цяпер усведаміў ён, што ўжо другую ноч не клаўся спаць. Успомніў, што ў кішэні ляжыць даклад, нескарыстаны на гэтым сходзе. Можна прачытаць яго зараз хлопцам, што засталіся на кватэры Садовіча?.. Не — час для яго прайшоў! Чаму-ж ён прайшоў?.. Эх, і колькі-ж марна траціць чалавек сваіх намаганняў, энергіі!

І раптам здарылася нешта зусім нечаканае: дзверы ў пакой расчыніліся з незвычайнай сілаю і грукнулі ў сцяну так, што пасыпаўся тынк. Сухі, высачэзны сівабароды панямонскі ўраднік Кабяк, як бог саваоф з цёмнай хмары, уварваўся ў пакой. Крыкнуўшы «ні з месца!», маланкай рынуўся на стол. Адно імгненне — і пратакол апынуўся ў руках кашчэя-ўрадніка! У гэты-ж момант з расчыненых дзвярэй важна, як ваявода-пераможца, увайшоў станавы прыстаў, а за ім паліцэйскія стражнікі. Усё гэта здарылася так нечакана, што настаўнікі аслупянелі, як прышыбленыя громам. Тадорык апусціў скрыпку і смык, стаяў бледны, як палатно. Райскі ўскочыў з месца і застыў: паехаў пратакол у паганыя рукі! Тукала прыпёрся спіною да шафы. Лабановіч, як сядзеў на канапцы, так і застаўся сядзець — праваліліся, засыпаліся, і так глупа! Садовіч праз кухню кінуўся ў акно. Пад акном стаяў паліцэйскі стражнік і ложаю стрэльбы павярнуў Садовіча назад. Садовіч, узбуджаны, сярдзіты, накінуўся на прыстава:

— Чаму вы дазваляеце сваім стражнікам біцца?

Прыстаў спакойна, нават лагодна адказаў таксама запытаннем:

— А хто вам казаў кідацца ў акно?

Болей за ўсіх вытрыманым і спакойным аказаўся Нічыпар Янкавец. Ён звярнуўся да прыстава:

— Скажыце, вас напэўна падвысяць па службе?

Прыстаў, яшчэ малады і даволі просты чалавек, пацінуў плячамі.

— Магчыма, — сказаў ён і загадаў ураднiку: — Зрабіць вобыск!

Ураднік і два стражнікі падышлі да шафы са школьнымі кнігамі і рознымі паперамі. Садовіч не дужа быў акуратны ў дачыненні да справаводства, і гэта ўскладняла работу ўрадніка і стражнікаў, рабіўшых вобыск. Лабановіч сядзеў на той-жа канапцы. Яго займала адна думка, як знішчыць даклад, каб не папаў ён у рукі паліцыі? Гэты даклад — небяспечны сведка не толькі супроць Лабановіча, але і для ўсіх удзельнікаў настаўніцкага схода. Тым часам першыя хвіліны страху і аслуплення прайшлі, і настаўнікі ажылі. Тадорык узяўся за скрыпку і за смык і стаў выігрываць матыў гімна — «Коль славен наш господь в Сионе». Янка Тукала, адышоўшыся ад шафы, дзе капаліся ўраднік і стражнікі, заспяваў песню, зложаную невядомым песняром пра вобыскі:

У курсистки под подушкой
Нашли пудры с пол-осьмушки.
У студента под конторкой
Пузырек нашли с касторкой —
Динамит, не динамит,
А при случае палит.

Нічыпар Янкавец, рашучы і нахмураны, хадзіў па пакоі. Садовіч прысеў на канапку побач з Лабановічам. Прыстаў стаяў каля дзвярэй і чытаў пратакол настаўніцкага схода. Каля прыстава былі два паліцэйскія стражнікі. Улучыўшы момант, Лабановіч употайку выняў, як злодзей, даклад з кішэні, палажыў яго на канапу за спіну і паціхеньку лісток за лістком скуб яго на дробненькія кавалачкі.

Не прайшло і пяці хвілін пасля налёту паліцыі на школу, як пачалі збірацца сяляне. Сабралася іх ужо некалькі соцень, а натоўп усё рос. У гэты час у пакой, як бура, уварваўся «Дзед Хрушч». Акінуўшы поглядам усіх прысутных, паліцыю і сваіх сябраў, ён гучна выкрыкнуў:

— Што за шум, а дракі няма!

Потым, глянуўшы на прystава і ўбачыўшы ў яго руках пратакол, сказаў:

— Дайце мне пратакол!

Прыстаў збянтэжыўся, а потым запытаў:

— А на што вам пратакол?

«Дзед Хрушч» брава заявіў:

— Я яшчэ не распісаўся!

Прыстаў даў пратакол. «Дзед Хрушч» прысеў за стол, узяў ручку, памачыў у чарнільніцы пяро і выразна, хоць і выкрунтасіста вывеў сваё прозвішча, пасля чаго па-рыцарску вярнуў пратакол прыставу. Прыстаў схаваў пратакол у партфель, раскланяўся з настаўнікамі, паднёсшы руку пад казырок, і разам зураднікам і са стражнікамі пакінуў школу. Хтосьці з натоўпу сялян сказаў ім услед:

— Закінулі невадок?

Крыху счакаўшы, прышлі Лапаткевіч з Гулікам. Яны вельмі «шкадавалі», што спазніліся падпісаць пратакол.

## XXVIII

Натоўп сялян і іхні варожы настрой да паліцыі былі прычынаю таго, што прыстаў паспяшаўся змыцца, не закончыўшы вобыску і нікога не арыштаваўшы.

— Няхай-бы паспрабавалі арыштаваць — мы паказалі-б ім арышт! — ваяўніча заяўлялі сяляне. І толькі, калі пачало развідняцца, разышліся яны па хатах.

У настаўнікаў-жа настрой быў зніжаны, асабліва ў тых, што заставаліся на кватэры Садовіча і ў самога Садовіча. І як далі яны такога пудла! Варту знялі тады, калі яна была найболей патрэбна. Дапусціліся да таго, што пратакол папаў у рукі паліцыі. Дасталося Райскаму і Лабановічу: чаму яны не парвалі пратакол, калі на яго налятаў урднік? І яшчэ болей было напаадак на «Дзеда

Хрушча». Ну, што яму значыла, залучыўшы ад прystава пратакол, парваць гэты важны дакумент на кавалачкі!

— Шкада, што нас не было! — абурліва сказаў Лапаткевіч.

Нічыпар Янкавец сярдзіта глянуў на яго і на Гуліка. Ён адчуваў некаторую няёмкасць за тое, што прывёз з сабою такіх храбрацоў, што ўмудрыліся не распісацца ў пратаколе, а цяпер яшчэ задаюцца. Нічыпар прыгразіў ім:

— Напішу прыставу, каб далучыў да пратакола і вашы подпісы! — страсянуўшы чупрынаю, прамовіў: — Эх ты, чорт! Чаму я не дагадаўся даць рублёў дваццаць пяць прыставу! Вярнуў-бы пратакол, ну, знішчыў-бы. А напісаць новы не такая ўжо трудная справа.

На ўсе нападкі і на ўсе запозненыя разважанні Лабановіч заўважыў:

— Ёсць у яўрэяў такая прыказка: «дай, божа, майму дзіцяці той розум наўперад, што к мужыку прыходзіць потым».

Кінуўшы погляд на пакойчык, дзе зараз усё было параскідана, засмечана, на расчыненую шафу і груды кніг і папер каля яе, на батарэю пустых пляшак ад гарэлкі і на шматкі свайго даклада пад сталом і пад канапкай, Лабановіч прыгадаў адзін сказ, што пісаў калісь пад дыктоўку ў гэтай-жа школе, і ў голас вымавіў яго:

— «Где стол был яств, там гроб стоит»... Эх, хлопцы, хлопцы! — у засмучэнні гаварыў далей Лабановіч. — Лягчэй за ўсё шукаць вінаватых. Ды якая ў тым карысць? Ты-ж, Алесь. — звярнуўся ён да Садовіча, — не згрызайся! У каня чатыры нагі, і той спатыкаецца. Памятаеш, як у Гогаля сказана? «Зачапіў, пацягнуў — сарвалася...» Ну, што-ж? Слязамі бядзе не паможаш, а справу рабіць трэба. Жыццё ўсё наперадзе, хлопцы! Нават біты на вайне Мікалай другі выбіў медаль для сваіх салдат і напісаў на медалі (праўда, не ён — другія напісалі): «Няхай узнясе вас бог у свой час». А мы, давайце, выражам медаль і напішам на ім: «Узнясёмся і мы ў свой час!» Ды так, хлопцы: вешаць галавы не трэба. Будзем глядзець на рэчы цвяроза — павыганяюць нас са школ, як крамольнікаў. Ды не ў школах свет клінам сышоўся. Засудзяць, ну і што-ж?

— Правільна, Стары, — падтрымаў Лабановіча Уладзік Сальвэсяў і зараз-жа зацягнуў песню:

Вихри враждебные веют над нами...

Настаўнікі дружна падхапілі песню. Спявалі з пачуццём, натхнёна. Апаўшы настрой іх падняўся ізноў. І сапраўды: што гэта было-б за жыццё, калі-б яно плыло павольна, размерана, без усякіх крутых паваротаў?

Настала раніца новага дня. Надыходзіў час развітацца з Мікуціцкаю школаю. Але нельга было ўстаяць перад спакусаю — пакупацца ў Нёмне. Адчувалася патрэба асвяжыцца, падтрымаць абяссілеўшае за бяссонную ноч стомленае цела, прамыць пачырванеўшыя ад бяссоння вочы.

Лабановіч, Нічыпар, Гулік і Лапаткевіч накіраваліся на станцыю, каб ехаць у сваю аселасць. Садовіч, Тадорык, Тукала, Райскі, Уладзік Сальвэсяў і «Дзед Хрушч» праводзілі іх.

Ужо сонца праглядвала праз вершаліны хвояў, і пачынала адчувацца дзённая гарачыня летняга дня, калі настаўнікі падышлі да балота, дзе ўначы так выразна і голасна разыходзіцца рэха. Бяссонная ноч і прыкрая праява, што напаткала настаўнікаў, паклалі на іх свой адбітак. Нявесела было на душы. Прыгнятала іх і вестка, якую пачулі яны сягоння, аб разгоне дзяржаўнай думы. Неспакойна было на сэрцы. На дне душы варушыўся і патайны страх, што паліцыя адумаецца і прымецца за арышты ўдзельнікаў крамольнага схода. Вось чаму не так гучна і весела ішлі настаўнікі на станцыю, як ішлі яны пазаўчора са станцыі ў Мікуцічы. Заставалася шмат часу да адыходу цягнікоў, а станцыя была не так далёка. Замест таго, каб шалацца па станцыі, што было нават і небяспечна, настаўнікі прыпыніліся ў лесе на высокім узгорку над балотам, каб трохі адпачыць ды хоць злёгку абмеркаваць сваё становішча. Нічыпар Янкавец увесь час маўчаў, думаў нейкую сваю думку, але не лічыў патрэбным падзяліцца ёю са сваімі сябрамі.

— Як вы думаеце, хлопцы, што будзе з намі далей? — запытаў Уладзік Сальвэсяў. Гэта пытанне займала ўсіх. «Дзед Хрушч» прылёг на зялёны машок у цяньку і зараз-жа моцна заснуў.

— Гэта вядома аднаму толькі начальству, — адказаў Райскі.

— А можа нас у лепшыя школы перавядуць, каб не бунтаваліся, — пажартаваў Янка Тукала.

— Калі разважаць цвяроза і глядзець смела праўдзе ў вочы, — сказаў Лабановіч, — то перш за ўсё, сябры мае мілыя, праз тыдзень або праз некалькі дзён усіх, падпісаўшых пратакол, пазвальняюць з настаўніцкіх пасад і напэўна аддадуць пад суд. Паліцыя і ўсё начальства на чале з губернатарам да нашага схода паставяцца сярдзіта і сурова. Як так, каб на Беларусі, на ўскрайку царскай імперыі, адбываліся такія справы! Пакараць так, каб другім было ў навуку.

— Аракул, не гавары так злавесна! — перапыніў Лабановіча Тадорык.

— А ён кажа праўду, — згадзіўся з Лабановічам Садовіч, — нам-жа, мне, Міколу і Янку, як «членам бюро», не мінуць пакарання напэўна, тым болей мне, бо сход адбываўся ў маёй школе. Паліцыя-ж даўно паглядае на мяне неласкавым вокам.

— Калі нас будуць судзіць, дык будуць і дапытваць, — заўважыў практычны Уладзік. — А таму нам трэба дагаварыцца загадзя, як трымацца на допыце, што казаць, а пра што маўчаць або адмаўляць зусім, каб не было супярэчлівых паказанняў.

— Табе трэба адвакатам быць, — пахваліў Уладзіка Янка Тукала і дадаў: — На мой дурны розум нам трэба напіраць вось на што: ні на якую крамолу-забастоўку мы не важыліся. Сабраліся для таго, каб справіць маёўку, а на маёўцы падпілі. Аб гэтым сведчаць пяць кварт пустых бутэлек. А падпіўшым людзям і мора па калена. Вось і рашылі, аддаючы падатак часу, арганізаваць настаўніцкі саюз.

— Складна гаворыш, — сказаў Іван Тадорык. — А можа да гэтага і не дойдзе, а калі дойдзе, дык сапраўды гэта не благая думка. І ведаеце, хлопцы, што? Мы вельмі зрабілі добра, што папраўлі «змагацца з царскім ладам» на «змагацца з царскім рэжымам».

— А! — махнуў рукою Нічыпар, — ёсць прыказка: «ці памёр Гаўрыла, ці яго скула задавіла». Тое самае і тут — «лад», «рэжым» — адзін і той-жа чорт.

— Ну, не, брат, выбачай! — запярэчыў Тадорык. — «Лад» — адно, «рэжым» — другое. «Лад» — гэта сістэма, палітычная накіраванасць, нешта агульнае, а «рэжым» — толькі часць агульнага, прыватнае.

— Я талмудзістам ніколі не быў і ў такія тонкасці не ўдаюся. І следчы не будзе праводзіць мяжы паміж выразамі «царскі лад» і «царскі рэжым», — адказаў Нічыпар.

— Усё-такі «рэжым» у некаторай ступені змякчае першы і самы небяспечны для нас пункт пастановы, запісаны у пратаколе, — падтрымаў Тадорыка Лабановіч. — Але ў цэлым ён рэкамендуе нас як «крамольнікаў». Ну, ды ладна!.. Вось што, хлопцы, — перавёў Лабановіч гутарку на іншае, — усім гуртам ісці на станцыю не варта. Давайце лепей распаўзёмся паціхеньку. Мой цягнік адыходзіць на поўгадзіны раней за ваш, — звярнуўся ён да Янкаўца, Лапаткевіча і Гуліка, — вось я адзін і падыбаю, вазьму білет і паеду, а потым вы. Праўда, Лапаткевічу і Гуліку баяцца няма чаго, бо яны нявінныя, як божыя ягняткі: іх подпісы не стаяць пад пратаколам.

«Божым ягняткам» не зусім прыемна было слухаць гэта, але ў думках сваіх яны былі рады, што сухімі выйшлі з завірухі.

Настаўнікі згадзіліся з Лабановічам. Пабудзіўшы «Дзеда Хрушча», яны прайшліся са сваім сябрам пад самае возера, адкуль ужо была блізка станцыя, і развіталіся з ім. Нічыпар на станцыю зусім не пайшоў. Ён узяў пад руку Садовіча і сказаў яму:

— Ведаеш, Бас: давай пройдземся ў Панямонь.

У Нічыпара Янкаўца злажыўся ў дарозе свой план. Калі яны засталіся адны, Нічыпар сказаў:

— Дабром уся гэта квэстыя не скончыцца. Табе-ж прыдзецца горш, як іншым: ты даўно на падазрэнні ў паліцыі, і начальства глядзіць на цябе, як мачыха. Паліцыя ведае і пра лісткі, што вы раскідалі ў ваколіцы Мікуціч. А тое, што нас накрылі ў тваёй школе, яшчэ болей узмоцніць тваю адказнасць. Дык вось што я надумаўся: давай махнём у Амерыку. Грошы ў мяне трохі ёсць, рахманага агента мы знойдзем. Раздабудзе нам пашпарты, і мы рушым за добрую пагоду, узяўшы ўсю віну за настаўніцкі з'езд на сябе, аб чым і паведамім паліцыі.

Садовіч быў хлопец гарачы. Аднак ён трохі пахістаўся.

— Чорт яго, брат, ведае. Ніколі аб гэтым не думаў, — прызнаўся ён.

— А ты падумай. Лепш ветру ў чыстым полі, чым за высокімі агарожамі.

Садовіч крыху памаўчаў, падумаў, а потым рашуча і з захапленнем вымавіў:

— Згодзен! Чым чорт не араў, тым і сеяць не стаў. Хоць свету пабачым.

Сваю змову яны трымалі ў строгім сакрэце. І толькі месяцы праз два, ужо з-за граніцы, прыслалі яны бліжэйшым сябрам вестку аб сваёй эміграцыі.

## XXIX

Лабановіч застаўся адзін. У першыя хвіліны яго ахапіла жаласць да сваіх сяброў, з якімі ён нядаўна развітаўся. Асабліва шкада было Янку Тукалу і Алеся Садовіча. Чатыры гады прабылі яны ў настаўніцкай семінарыі, як землякі і найлепшыя дружкі. Многа малюнкаў і нічым нязганьбеных перажыванняў засталося ў мінулым. Аб іх зараз можна толькі з прыемнасцю ўспамінаць.

Янка Тукала правёў Лабановіча да самой чыгункі. Тут яны спыніліся. Янка надумаўся пайсці ў сваю школу, пераглядзець на ўсякі выпадак кнігі і брашуры. А потым ён ізноў вернецца ў Мікуцічы да Садовіча або да сваіх бацькоў.

— Ну, Андрэйка, — прамовіў урачыста Янка, трымаючы руку сябра ў сваёй: — няхай будзе над табою благаславенне святой гары!

— Бывай, Янка! Не смуткуй, браток, і не падстаўляй спіны ветру, калі ён падзьме на цябе, а ідзі насустрач яму, — так гаворыць табе верханьскі Заратустра. Пішы мне, а я цябе пісьмамі не пакрыўджу.

Білетная каса была ўжо адчынена. Народу на станцыі было мала. Лабановіч узяў білет, акінуў вокам станцыю. Нічога небяспечнага ні тут, ні на пероне ён не заўважыў. Але прыказка гаворыць: хто ўкраў парася, у таго ў вушах пішчыць. Часу да прыходу цягніка заставалася хвілін дваццаць. Лабановіч падышоў да буфета. Узяў бу-

тэльку піва і закускі. Выбраўшы зацішны куток, прысеў за столік. Выпіў адну шклянку і другую. Дзве бяссонныя ночы стамілі яго. За ўвесь гэты час ён ні разу нават не прылёг. Выпітая бутэлька піва зашаламіла галаву. Салодка-журботны настрой авалодаў ім. Ён успомніў сваю маці, братоў, сясцёр, дзядзьку Марціна. Меўся праведаць іх пасля заканчэння настаўніцкага схода. Але сход скончыўся так, што паказвацца ў сваім родным кутку было цяжка, бо што скажа ён дома? Там-жа напэўна і зараз ужо вядома, што іх Андрэй быў у Мікуцічах, вядома, чым скончыўся настаўніцкі сход. Яго зразумеюць і хоць можа трохі пакрыўдзяцца, але злавацца не будуць.

Ужо садзячыся ў вагон, Лабановіч успомніў і Янку Тукалу, як апошнюю нітку, што звязвала яго з тутэйшымі дарогамі і сябрамі. Дзе цяпер Янка? Сунецца дзесь адзін у сваю Ячонку і напэўна адчувае сваё адзіноцтва, страх і трывогу перад невядомымі праявамі наступных дзён... Як хацелася яшчэ раз паглядзець на свайго разважлівага друга, пацісну́ць руку і сказаць:

— Янка, трымайся! Не апускай галавы! Ідзі смела насустрач заўтрашняму дню!

Без малога ў поўдзень прыбыў Лабановіч на сваю станцыю. Здаралася і фурманка, але настаўнік пашкадаваў рубля, бо невядома, што будзе далей, і патрапаў пехатою ў свой Верхань. Ён выбраў другую дарогу, што значна спрошчвала адлегласць да Верханя і пакідала ў баку хутар Антаніны Міхайлаўны. Хацелася хутчэй дайсці да свае школы ды адпачыць, бо ўжо трэцюю пару не спаў, застаючыся ўвесь час на нагах. Адчувалася такая стомленасць, што нават трудна было сабраць мыслі, каб абмеркаваць усё, што здарылася за апошнія тры дні.

Нарэшце дарога скончылася. Вось і школа і воласць насупроць яе. Як узрадуецца пісар Васількевіч, калі даведаецца аб правале свайго нязноснага суседа!

— Вярнуўся мой вандроўнічак! — радасна сустрэла бабка Параска настаўніка: — Ну, як-жа вам ездзілася?

— І ездзілася, і хадзілася, і вось вярнуўся.

— Ну, і дзякуй богу!

Бабка Параска пайшла ў кухню збіраць абед. Турсевіч быў дома, сядзеў за сталом, аблажыўшыся падруч-

нікамі. Ён парывіста выскачыў з-за стала, шумна сустрэў прыяцеля, моцна патрос яму руку.

— Явілся есі? — на царкоўна-славянскі лад запытаў вандроўніка і, паглядзеўшы на яго, дадаў:

— Ды нешта-ж ты, брат, зблажэў.

— Эх, друг ты мой сардэчны, таракан запечны! Дай божа ніколі не з'яўляцца табе дадому, як я!

Уся прыўзнятасць Турсевіча раптам апала. Ён яшчэ раз акінуў поглядам Лабановіча, нібы хочучы ўгледзець яго прытоеныя мыслі, і ўжо іншым голасам запытаў:

— А што здарылася?

Лабановіч без усякіх выкрутаў проста і праўдзіва расказаў аб усім, што адбылося ў Мікуцічах.

Спахмурнелы Турсевіч сядзеў і слухаў. Цяжка было ў яго на душы. Не хваліў ён у мыслях маладых настаўнікаў, але нічога пра гэта не казаў. Калі Лабановіч скончыў невясёлае апавяданне, Турсевіч журботна паківаў галавою

— Та-ак! — працягла прамовіў ён: — справа, брат... гм! не таго!

Увайшла бабка Параска, хуценька прыбрала стол. Пры яе паяўленні настаўнікі змоўклі, але яна зразу заўважыла, што яе «манашак» прыехаў з нядобрымі навінамі, ды распытвацца зараз пры госцю лічыла нязручным. Бабка вышла з пакоя і зараз-жа вярнулася і паставіла на стол хлеб і халаднік: яна ведала, чым дагадзіць свайму настаўніку.

— Вось дзякую, бабка, за халаднік! — сказаў Лабановіч, падсаджваючыся да стравы.

Бабка Параска зірнула на яго, уздыхнула.

— Ну, то ежце на здароўе! — І вышла з пакоіка.

Турсевіч паабедаў ужо. Ён сядзеў, маўчаў і штосьці думаў.

— Ну, што-ж, брат, — сказаў папалуднаваўшы Лабановіч: — пайду спаць. Вось як вышаў тады, дык і не клаўся. Адпачну, а заўтра відней будзе.

Ён зірнуў на Турсевіча і дадаў:

— Пагуляў казак на волі, трэба і адпачыць.

Турсевіч цмокнуў, журботна паківаў галавою.

— Гуляў і дагуляўся!.. Эх, Андрэй!.. Ну, ды нічога не паробіш.

Лабановіч спыніўся ў дзвярах бакавушкі і сказаў:

— Перамелецца, мука будзе.

— Можа мука, можа і му́ка, — заўважыў Турсевіч.

— А што такое му́ка? — запытаў Лабановіч і сам адказаў: — Му́ка — гэта ўсё тое, што прычыняе нам боль і непрыемнасць. Вось нас павыганяюць са школы з воўчым білетам, аддадуць пад суд, пасадзяць можа і ў астрог або вышлюць, і мы будзем мучыцца. А хіба такіх мала? А хіба мільёны простых людзей не мучацца пад пятою царскіх сатрапаў, памешчыкаў і тысяч іншых абдзіралаў?.. Ды для мяне зараз даражэй за ўсё на свеце — сон.

Лабановіч прысеў на пасцелі, зняў хадакі, пільчак, палажыў галаву на падушку і зараз-жа заснуў.

Турсевіч застаўся адзін сядзець за сталом. Спакой яго быў парушаны. Яму шкада было прыяцеля. А горш за ўсё дык гэта тое, што сам чалавек вінаваты ў сваім няшчасці. Як дапаможаш яму, і што ён гэтым давёў? Было ўжо раз папярэджанне, дык не: нічому яно не навучыла яго. А яшчэ і казырыцца, нібы ён учыніў вялікі подзвіг... Эх, брат, жыццё пражыць — не поле перайсці!

Некалькі разоў Турсевіч ціхенька прайшоўся па пакоіку. Асцярожна зазірнуў у бакавушку. Лабановіч ляжаў спакойна на правым баку, падпёршы плячом падушку. Сон авалодаў ім так моцна, што нават трудна было заўважыць дыханне. Турсевіч нахіліўся над сябрам. «Вось цяпер ты шчаслівы, бо нічога не думаеш», — падумаў ён адыходзячы.

Новая думка мільгнула ў свядомасці Турсевіча і адагнала ўсе іншыя думкі: а ці добра заставацца цяпер у школе небяспечнага ў палітычным сэнсе настаўніка? Ці не пашкодзіць гэта акалічнасць яму, Турсевічу? І, нібы ў падмацаванне праўдзівасці такога становішча, на памяць прышлі выразы: «З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Скажы, з кім ты сябруеш, я скажу, хто ты».

Яшчэ большы непакой агарнуў Турсевіча. Цяпер Лабановіч у яго думках адышоў на задні план. Прыхапіўшы з сабою падручнік, Турсевіч вышаў з кватэры, каб на вольным паветры абмеркаваць усё і прыняць нейкае пэўнае рашэнне.

Сказаць праўду, разважаў Турсевіч, усё, што палажана праграмаю для паступлення ў настаўніцкі інстытут, ён даўно праштудзіраваў, бо не сягоння-ж прышла яму думка паступаць у інстытут. А часу засталося не так ужо і многа. Покі заедзе ў сваю школу ды прывядзе ў парадак хатнія і школьныя справы, дык не за гарамі і той час, калі трэба падавацца ў Вільню для паступлення ў інстытут. І зноў-жа — прыехаць туды трэба таксама загадзя.

Думкі Турсевіча пайшлі па той лініі, якая казала, што заставацца тут лоўга няма ніякай патрэбы. Такое было прынята і рашэнне.

Пад вечар Турсевіч вярнуўся з пагулянкі. Ён меркаваў, што прыяцель, якога ён збіраўся так трусліва пакінуць, ужо абудзіўся, і яны па-шчырасці пагавораць аб сваіх справах. Але Лабановіч не абуджаўся, ляжаў у той-жа паставе. Не прачнуўся ён і ўночы і назаўтра раніцою. Толькі каля поўдня, к таму часу, калі ён лёг спаць, Лабановіч расплюшчыў вочы.

— А я, брат, думаў, ці не летаргічным сном ужо заснуў ты, — сказаў Турсевіч.

— Затое-ж выспаўся, як ніколі ў жыцці, — адказаў Лабановіч. Трошкі памаўчаўшы, заўважыў:

— Можа яно і не кепска было-б, каб заснуць на нейкі год і не прачынацца.

Турсевіч паглядзеў на яго і сказаў, цяжка ўздыхнуўшы:

— На адзін год можа і малавата.

## XXX

Кожная новая абстаноўка, ці яна добрая, ці благая, выводзіць чалавека з яго абыклай роўнавагі. Яго агортваюць новыя пачуцці, новыя мыслі і разважанні — у залежнасці ад таго, на які шлях у сілу тых ці іншых акалічнасцей ступае чалавек. Так здарылася зараз і з Лабановічам. Праўда, у яго цяпер не было ніякага акрэсленага шляху, ён проста апынуўся на ростанях, выбіты з каляіны так ці іначай усталёванага жыцця. Такое становішча яго не дужа засмучала. Наадварот, у гэтай неакрэслена-

сці была і нейкая свая прываблівасць: цікава-ж ведаць, чым яно ўсё скончыцца. Выдаленне з настаўніцкай пасады не палохала, бо ён ужо звыкся з такою думкаю, і яно не будзе для яго нечаканасцю. А вось як будзе жыць ён далей, што станецца з ім у далейшыя дні, як паставяцца да яго ўсе знаёмыя і прыяцелі, калі ён будзе без службы, у гэтым і заключаецца цікавасць. Ды покі служаць рукі і ногі, сіла і здароўе, ён не згіне. Ніякай працы ён не баіцца, бо змалку прызвычаіўся да яе... Наогул-жа многа ўперадзе такіх падзей, аб якіх зараз і не згадаеш. Важна адно — быць жывому, жыць і змагацца.

На другі дзень пасля таго, як прачнуўся Лабановіч, каля школьнага ганку ўжо стаяла фурманка дзядзькі Нічыпара Кудрыка, таго самага, што першы раз прывозіў яго ў Верхань. Лабановіч дагадваўся аб прычыне такога паспешнага ад'езду яго прыяцеля і госця, але маўчаў пра гэта: навошта прычыняць чалавеку прыкрасць? Турсевіч-жа з свайго боку стараўся не выявіць сапраўднае прычыны ад'езду, паводзіў сябе так, як-бы яму вельмі і вельмі хацелася пабыць яшчэ ў Верхані, ды нічога не паробіш: трэба ехаць! Ён даволі шчодра расплаціўся з бабкаю Параскаю за яе паслугі. А бабка Параска была спахмурнелая і невясёлая. Яна ўжо ведала пра «нейкія» непрыемнасці свайго «манашка», і ёй было шкада, што яго пакідаюць і ён застаецца адзін.

— Ну, мой дарагі Андрэй, — Турсевіч ціснуў руку Лабановіча і абдымаў яго: — заставайся здаровы, шчаслівы! Можа ўсё яшчэ абыйдзецца... Не прымай блізка да сэрца гэты непрыемны выпадак, трымайся! А калі што, дык і я цябе не забуду.

— Дзякуй, дружа, за добрае слова. Няхай-жа будзе светлая твая дарога. Жадаю поўнай удачы!

Сябры абняліся, пацалаваліся. У Турсевіча на вачах нават паказаліся слёзы. Лабановіч правёў яго да фурманкі. Турсевіч усеўся ў каламажцы, зняў шапку, памахаў прыяцелю. Фурманка рушыла з месца. На паваротцы яна знікла, пашыбаваўшы ў лагчыну. Пісар Васількевіч, адсунуўшы край фіранкі, потайкам пазіраў з свайго пакоя на развітанне сяброў. Пра здарэнне з суседам яму не было яшчэ вядома. Але пісар быў і таму рады, што не-

навісная для яго дзяржаўная дума скончыла сваё існаванне, што, напэўна, не дужа радавала яго суседа Лабановіча.

Пастаяўшы на ганку, покі фурманка не знікла на павароце, Лабановіч вярнуўся ў свой пакойчык. Дык так: ён ізноў адзін, быць можа, як ніколі. На сэрцы было сумна. Ад'езд Турсевіча яшчэ болей паглыбляў гэту сумоту. Няскора сустрэнуцца яны, а калі і сустрэнуцца, то ўжо не будзе той радасці, што звычайна ўзнікала пры іх спатканні. Разыходзяцца іхнія дарогі ў розныя бакі — і ў простым і ў пераносным сэнсе.

— Ізноў мой манашак адзін, — паспачувала бабка Параска, увайшоўшы ў пакой, і абарвала мыслі Лабановіча.

— Дарма, бабка Параска! — адны мы прыходзім у свет, у адзіноце і пакідаем яго.

— Ну, вось ужо сказаў: пакідаем свет! Няхай пакідаюць яго ліхія людзі, а вам жыць яшчэ ды жыць і не аднаму, а з прыгожаю жонкаю!

І пры гэтым бабка Параска хітра паглядзела на Лабановіча.

— Якраз і добра, што няма жонкі: лішні быў-бы клопат.

— Чаму-ж гэта так? — не паверыла бабка Параска, але засмуцілася, а потым запытала: — Скажыце, панічок, што з вамі здарылася? Нешта я не ўцямлю. Той паніч, што паехаў, казаў: нядобры выпадак налучыў твайго паніча. Ды і вы так гаворыце, што я і сама гэта бачу.

— Нічога страшнага не здарылася. Пачакаем трошкі, і ўсё стане ясна, — адказаў Лабановіч: — вось таго настаўніка, што быў тут перада мною, перавялі ў другую школу. Дык могуць перавесці і мяне. Могуць нават і зусім выдаліць.

На дробны маршчыністы твар бабкі Параскі легла засмучэнне.

— І нікуды не перавядуць і не выдаляць, — запратэставала яна. — І не трэба так гаварыць!

— Трэба меркаваць, бабка Параска, і так і гэтак ды болей гадаць і пра ліхі канец, каб гэта ліха не было для нас нечаканым.

— Ай! гаворыць нямаведама што. Вось пайду ды на картах паваражу: яны скажуць мне ўсю праўду.

Яна пайшла ў сваю каморку, выняла з-пад сенніка калоду старых і паношаных, як і сама яна, карт, прысела на табурэцік каля невялічкага століка, што стаяў пры бабчынай пасцелі, патасавала сваім манерам і пачала спаважна раскладваць іх на восем кучак, па тры карты ў кожнай. Калі такім чынам карты былі разложаны, а ляжалі яны тварам уніз, бабка Параска пераварочвала кучкі ў тым-жа парадку, у якім раскладала іх. Прычым кожная тройка карт мела сваё прызначэнне: «для дому», «для лёсу», «для шчасця», «для дружбы» і г. д. Перавярнуўшы адну карту, бабка Параска пільна ўглядалася У першай кучцы пасярэдзіне аказаўся вінны туз, а з краю званковая дзевятка, з другога—хрэстовы ніжнік, гэта значыць Лабановіч. Бабка незадаволена паківала галавою: такое спалучэнне карт было не ў руку настаўніку, бо яно азначала невясёлыя думкі, згрызоты і цяжкі клопат. Нічога добрага для настаўніка не было і ў другой, і ў трэцяй, і ў наступных кучках карт. То замешваўся нейкі злы і хітры мужчына, недруг, то непрыязная жанчына, то сумная дарога. Бабка зусім засмуцілася. Яна змяшала карты, ператасавала, як мае быць, ды ізноў пачала новую раскладку. Але і на гэты раз нічога добрага для Лабановіча не варажылі карты. А бабка не хацела мірыцца з гэтым. Шмат разоў раскідала яна карты, і толькі тады заспакоілася, калі яны змянілі характар варажбы ў лепшы бок.

Павесялеўшая бабка Параска паказалася на парозе настаўнікавай кватэры.

— Ну, што я вам казала: усё будзе добра! — прамовіла яна: — Вось ідзіце ды гляньце, што кажуць карты.

— Але-ж ты, бабка, нешта вельмі доўга варажыла, — заўважыў Лабановіч.

Бабка хітра ўсміхнулася.

— Бо я хацела як найлепей вываражыць для вас.

Лабановіч здагадаўся, чаму так доўга варажыла бабка, але не сказаў ёй гэтага: яна-ж так хацела, каб усё скончылася шчасліва для настаўніка!

— А што-ж там вываражылася? — запытаў ён, каб не пакрыўдзіць такой жычлівай да яго бабкі Парасцы.

— А вось зайдзіце ды пацікаўцеся.
— Ды я-ж нічога не разумею на картах.
— А я вам раскажу, што карты паказваюць.

Восем кучак карт бабка размясціла ў тры радкі: у двух радках па тры тройкі, а ў трэцім — дзве.

— Вось зараз усё відно, як на далоні, — прыступіла бабка да тлумачэння і сказала, паказаўшы на першую тройку:

— Ад высокага начальніка да вас прыдуць дужа прыемныя весткі, якіх вы і не чакаеце.

— Гэта вось ён — высокі начальнік? — запытаў Лабановіч, ткнуўшы пальцам у званковага караля, што быў у першай кучцы карт. Бабка Параска дакорліва пaглядзела на настаўніка.

— Так паказваюць карты, — заўважыла яна: — і не смейцеся, бо можаце спалохаць сваё ўласнае шчасце.

— Ды я, бабка, не смяюся, хоць мне і смешна, што такі бамбіза, як званковы кароль, — высокае начальства!

— А чаму-ж не высокае? Кожны можа быць высокім, калі яму пашанцуе і бог дапаможа... Гледзячы, хто і што яго высока падыме.

— Ды ты, бабка, проста мудрэц! Твая праўда: каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе. Шкада толькі, што верыш у карты.

Бабка Параска хацела перш пакрыўдзіцца, бо ёй здалося, што настаўнік насміхаецца з яе. Але яна стрымалася і толькі з дакорам прамовіла:

— Ну, калі вы не верыце картам, то нашто і варажыць?

— Мілая бабка Параска, — горача сказаў настаўнік: — веру я ці не веру, гэта адно. А самае важнае дык гэта тое, што і мне самому цікава паслухаць гаданне і асабліва тады, калі сама варажбітка такая слаўная і разумная, як ты, бабка Параска.

Бабка Параска была зусім абяззброена, а Лабановіч яшчэ дадаў:

— А тое, што я пасмяяўся са званковага караля, дык ты махні рукою — рыжы вярзіла змрочнага выгляду! Я толькі падумаў: хто-ж з высокага начальства ўвасобіўся ў вобразе званковага караля? І сам сабе адказаў: гэта наш дырэктар народных школ, стацкі саветнік,

барадаты Акаронка. І сапраўды, у яго і падабенства ёсць са званковым каралём: абодва барадатыя, абодва гарбаносыя, абодва панурыя. А ўсё разам — абодва дурні.

Бабка Параска не магла стрымацца супроць такой жартаўлівасці і весялосці свайго настаўніка і сама разрагаталася. А потым, крута спыніўшы свой вясёлы настрой, сур'ёзна сказала:

— Вось тое, што вы смеяцёся і мяне рассмяшылі, і ёсць той добры знак, што з вамі нічога прыкрага не здарыцца.

І як-бы ў пацверджанне слоў і гадання бабкі Параскі на другі дзень Лабановічу прынеслі пакет з воласці. Пакет быў даволі ёмкі. Лабановіч разгарнуў яго і выняў з канверта паперу. На ёй была напісана за подпісам дырэктара народных школ Мінскай губерні Акаронка падзяка настаўніку Верханьскай школы Лабановічу за ўзорную падрыхтоўку вучняў Верханьскай школы да экзаменаў.

## XXXI

Вярнуўшыся з Мікуціч, Лабановіч не адзін раз прыгадваў хутар Антаніны Міхайлаўны, самую Антаніну Міхайлаўну і сваю вучнёўку Лідачку — трэба-ж усё-такі зайсці да іх і так ці іначай давесці справу да канца. Абставіны-ж зараз зусім іншыя: не сягоння-заўтра яго, Лабановіча, са школы зволяняць. У гэтым ён ніколечкі не сумняваўся. Не паможа яму і падзяка дырэкцыі народных школ за дасканалую падрыхтоўку вучняў да экзамену. Паведамленне паліцыі аб нелегальным сходзе настаўнікаў у Мікуцічах, як відаць, яшчэ не дайшло да «высокага» начальства. Гэта «высокае» начальства кожны раз, калі аб ім думаў Лабановіч, нагадвала гаданне бабкі Параскі, а званковы кароль выклікаў сваім панурым аблічам вобраз дырэктара народных школ Акаронкі. Цікава, як паставяцца да настаўніка маці з дачкою, калі яны даведаюцца, што ён без службы?

На трэці дзень пасля звароту з Мікуціч Лабановіч накіраваўся на хутар так добра знаёмай дарогай. Параўняўшыся з тым ляском, дзе калісь натрапіліся баравікі, настаўнік збочыў з дарогі, патупаў па лесе, а потым

прысеў на гладка спілаваны дубовы пень. У лесе было так добра і так ціха, што нават прыкрая прыгода адышла на задні план. Ды з ёю Лабановіч ужо звыкся — яна зараз у мінулым. А жыць трэба сягоннешнім і заўтрашнім. А што-ж будзе далей? Ну, зволяць са школы. Куды-ж падацца і што рабіць? Розныя думкі снаваліся ў галаве. Лабановіч вышаў з ляска. Што ім сказаць і як сказаць? — пытаў самога сябе Лабановіч.

Вось і паваротка з бітай дарогі на хутар Антаніны Міхайлаўны. Паваротка ляжала між палёў, засеяных жытамі і ярынай. Па баках нешырокай і мала наезджанай дарожкі, сярод розных траў і кветак, багата рос і ўжо выспяваў пахучы кмен, закраса шмат якой ежы сялянскага ўжытку. І сама вузенькая дарожка, і прыдарожныя травы, і кветкі, і гэты духмяны кмен прыгадалі Лабановічу, зараз ужо досыць далёкае, дзяцінства, калі ён хадзіў па такіх-жа дарожках з маткаю ці адзін і не меў у сэрцы ніякага клопату... Эх, шчаслівыя і незваротныя часы!

Лідачка была чамусь упэўнена, што сягоння да іх прыдзе настаўнік. І той сон, што прысніўся ёй у гэту ноч, як тлумачылі вясковыя жанчыны, азначаў госця. А снілася ёй, што нейкі пачварны жук біўся аб шкло акна, каб заляцець у хату і ўкусіць Лідачку. Калі гэты сон пра жука сапраўды азначае Лабановіча, дык Лідачка на жука зусім не злуецца, бо хто-ж для яе можа быць госцем, калі не настаўнік? Усіх іншых яна і за гасцей не лічыць. У гэтыя дні, седзячы адна над падручнікамі, Ліда многа думала аб сваім настаўніку. Яна і сама не магла-б сказаць, як і што яна думала аб ім. Ён проста стаяў у яе вачах, то лагодны і добры, то сур'ёзны і як-бы трохі сярдзіты. Не знікаў у думках і той выпадак, як ён асцярожна, крадучыся, падыходзіў да яе за палатняную перагародку, стаяў, нахіліўшыся над сваёю вучнёўкаю, стаяў і гадаў, ці жывая яна ці памерла.

Некалькі разоў выбягала Ліда на двор, выбірала такую мясцінку, адкуль была добра відна паваротка на іхні хутар, і глядзела, ці не ідзе настаўнік. І не таму, што дужа хацела бачыць яго, — разважала яна сама з сабою, — а проста так: мусіць-жа, нарэшце, ён прыйсці. Тым не меней, пазіраючы на дарогу, Ліда азіралася: ёй усё здавалася, што людзі здагадваюцца, чаго яна глядзіць

туды, каго выглядае. А калі і сапраўды яна ўбачыла знаёмую постаць настаўніка, сэрца забілася мацней. Хацелася, як і раней, пабегчы насустрач. Але не: гэтага яна не зробіць, бо што падумае маці і што скажуць людзі? Як маладая козачка, шмыгнула яна ў хату. Добра, што ў хаце не было маткі — іначай яна заўважыла-б хваляванне. Самае лепшае — сесці за стол, паглыбіцца ў падручнікі і ні на кога не звярачаць увагі. Яна выняла з шуфлядкі падручнікі, разгарнула адзін і стала чытаць — аднымі толькі вачамі. Калі-б хто запытаў, што яна чытае, дык не адказала-б. Яна проста не бачыла літар, бо думала зусім пра другое. На шчасце, яна сама гэта заўважыла і толькі цяпер убачыла, што разгарнула падручнік па геаграфіі. Ну, усёроўна — геаграфія таксама для Ліды патрэбная рэч. Пазіраючы ў геаграфію, яна думала, дзе зараз павінен быць настаўнік... Нешта-ж яго доўга няма.. Ну, што-ж? Няма, няхай і зусім яго тут не будзе.

Аднак яна пачула, як грукнулі дзверы з двара ў сені, а затым мерны тупат ног у сенях. Яшчэ адзін момант, і парог хаты пераступіў той, каго чакала Ліда.

— О, якая малайчына, мая Лідачка! — сказаў Лабановіч, спыніўшыся каля парога: — Падручнікаў з рук не выпускае. Ну, дзень добры, Лідачка!

Настаўнік падышоў да стала і павітаўся з Лідаю за руку.

— А я вот і ведала, што вы сягоння прыдзеце, — сказала Ліда. Ёй хацелася расказаць пра жука, што прысніўся ў гэту ноч, але стрымалася, бо ставіць у адзін рад жука і настаўніка нязручна: настаўнік можа пакрыўдзіцца.

— А скуль-жа і як ты магла ведаць, што я прыду сягоння?

Ліда засаромелася, апусціла вочкі ўніз, а потым зірнула на настаўніка.

— Вось ведала — і ўсё, — адказала яна, не ўдаючыся ў далейшыя тлумачэнні.

— Ну, а ўчора ты думала, што я прыду? — дапытваўся Лабановіч. «Нашто я дапытваю яе»? — прамільгнула ў яго думка.

Ліда ізноў апусціла вочы.

— Думаць думала, а чакаць не чакала, — прызналася яна і зірнула настаўніку ў вочы.

«А ўсё такі яна слаўная», — падумаў сам сабе Лабановіч.

У хату ўвайшла Антаніна Міхайлаўна. Лагодная ўсмешка, заіграўшая на яе губах і расчыніўшая бяззубы рот, сведчыла аб тым, што Антаніна Міхайлаўна рада бачыць настаўніка, якога ўжо з тыдзень тут не было. Яна ветла паціснула яму руку. Яе цёмныя вочы засвяціліся прыязным агеньчыкам. У гэту хвіліну яна была нават прыгожаю. Антаніна Міхайлаўна прысела на зэдлік каля стала.

— А мы ўжо і засумавалі тут без вас, — пачала гутарку Антаніна Міхайлаўна.

Ліда крыху сумелася і апусціла галоўку. Відаць, яна баялася, каб маці не сказала чаго аб іх інтымных гутарках.

— Ну, як-жа вам ездзілася? — запытала Антаніна Міхайлаўна.

Пытанне было зусім простае, але не так лёгка было адказаць на яго, бо за ім стаяла шмат падзей, цэлы кавалак жыцця.

— У тым-та і ўся сіла, як ездзілася, — крыху памаўчаўшы, азваўся Лабановіч. Яму трэба было выйграць некаторы час. Хоць ён, ідучы сюды, і абдумаў сваю гутарку з Антанінаю Міхайлаўнаю і Лідаю, але ў іх прысутнасці яна была забракована. У словах настаўніка Антаніна Міхайлаўна адчула ноткі нейкай непрыемнасці, што здарылася з ім у дарозе.

— Ды ўжо-ж расказвайце ўсё, — занепакоілася Антаніна Міхайлаўна. Ліда таксама чакала яснага адказу.

— З'ездзіў я так, што напэўна праездзіў і сваю Верханьскую школу і сваю настаўніцкую службу, — сказаў Лабановіч.

Антаніна Міхайлаўна і Ліда адразу прымоўклі.

— Як-жа вас разумець? — у недаўменні запытала Антаніна Міхайлаўна: — Ці вы проста жартуеце? Як-жа так можна праездзіць і школу і настаўніцкую службу?

— А вось так здарылася, — адказаў Лабановіч. Хацелася сказаць усю праўду, але ён стрымаўся: у такіх справах засцярога ніколі не пашкодзіць. — Мы, маладыя на-

стаўнікі, — казаў далей настаўнік: — даўно збіраліся з'ехацца, каб паталкаваць аб нашых справах, аб тым, што мы павінны рабіць... Ну, і проста, каб пабачыцца і павесяліцца.

— А хіба да гэтага часу вы не ведалі, што павінны рабіць настаўнікі? — іранічна запытала Антаніна Міхайлаўна.

— Ведалі, але не ўсе.

— Нічога не разумею, — пацiснула плячамі Антаніна Міхайлаўна: — ну, расказвайце далей.

— А далей мала чаго засталося расказваць. Нехта, відаць, данёс у паліцыю, што ў сяле Мікуцічы сабралося многа настаўнікаў, а для чаго? Усім-жа цяпер вярзецца крамола. Вось уночы і завітаў да нас станавы прыстаў зураднікам і паліцэйскімі стражнікамі. Перапісалі нас. Ды, праўду сказаць, у гэтым і патрэбы не было, бо самі мы пападпісваліся... Па-сапраўднаму нас павінны былі арыштаваць. Можа паліцыя гэта і зрабіла-б, калі-б не збегся народ.—Лабановіч падумаў, ці не сказаў ён такога, чаго-б не варта казаць. — Ну, вось і ўсё, — скончыў ён сваё кароткае апавяданне. Антаніна Міхайлаўна выяўна спахмурнела. Ліда сядзела панурыўшыся. Маці і дачка некаторы час маўчалі. Маўчаў і іхні госць.

— І што-ж цяпер будзе з вамі? — спытала Антаніна Міхайлаўна.

Лабановіч пацiснуў плячамі.

— Усё можа быць: са службы зволяць, могуць арыштаваць і пад суд аддаць.

Антаніна Міхайлаўна дакорліва паківала галавою.

— І навошта-ж было шукаць сабе ліха? — прамовіла яна.

— А я вам і казала, каб не ездзілі, — ціха заўважыла Ліда, не падымаючы галавы.

— Эх, — уздыхнуў Лабановіч: — каб ведаў, дзе павалішся, там саломкі падаслаў-бы... Жывым-жа ў зямлю не палезу. І нічога страшнага я тут не бачу. Ці мала народу сядзіць па астрогах і высылках! Ды можа яшчэ нічога не будзе.

Каб даць другі кірунак гутарцы, ён выняў і паказаў паперу ад дырэкцыі народных школ — падзяку за добрую падрыхтоўку вучняў да экзамену.

— Было-б добра, каб добра скончылася, — недаверліва прамовіла Антаніна Міхайлаўна і цяжка ўздыхнула.

— Заўсёды трэба спадзявацца на лепшае, ды разам з тым не трэба быць і занадта бестурботным, — заўважыў Лабановіч.

## XXXII

Лабановіч лягчэй уздыхнуў, апынуўшыся за межамі хутарка. Але было такое адчуванне, нібы ён нешта страціў, і яму чагось бракуе. Праўду сказаць, не дужа прыемна было гаварыць пра няўдалую паездку ў Мікуцічы. Прыходзілася выкручвацца, лаўчыцца, каб расказаць усё і ў той-жа час сёе-тое і замаўчаць. Інстынкт самазахавання штурхаў яго на такі шлях, бо настаўнік быў упэўнены ў тым, што так ці іначай яму прыдзецца мець дачыненне з начальствам і даваць тлумачэнне па сутнасці захопленага прыставам пратакола, а можа адказваць і на запытанні следчага. Гэтага не трэба забываць, да гэтага загадзя трэба рыхтавацца. У сувязі з усім тым прыгадвалася размова з Антанінаю Міхайлаўнаю і Лідаю, іхні настрой, навеяны тою гутаркаю. Ясна, што асаблівай радасці выказваць яны не будуць, пабачыўшы настаўніка ў сваёй хаце. А калі яго выдаляць са школы, то можа на дзвярах іхняй хаты будзе вісець замок. Але як-бы там ні было, Лабановіч цвёрда наважыўся давесці да канца справу з падрыхтоўкаю Ліды, хіба толькі яго ногі не будуць вольна хадзіць па зямлі.

Тым часам канчалася лета. Адгрымелі ліпеньскія і жнівеньскія начныя навальніцы, гучна адспяваўшы песні лету. Дзень за днём пусцелі палі. Людзі ўжо збіралі позпія пасевы ярыны. Паспявала грэчка. Прасторы зямлі нібы звужваліся ў сваіх межах і таілі ў сабе нейкую неакрэсленую і невыказную сумоту. Сціхлі рознастайныя птушыныя песні. Адны толькі дружныя, вясёлыя шпакі, павыводзіўшы дзяцей, зляталіся ў велічэзныя гурты, лыталі над палямі, то збіваючыся ў густыя чорныя кучы, то рассыпаючыся ў паветры празрыстымі сеткамі. Старыя шпакі, відавочна, практыкавалі маладых у лятанні, каб умацаваць іх крыллі перад дарогай у вырай. Тое самае

рабілі і буслы. Яны то збіраліся па грудах на лузе ў цэлыя чароды і доўга павольна пахаджалі або стаялі нерухома, нібы трымаючы нейкую нараду, то падымаліся высока ў неба і доўга-доўга кружыліся пад аблокамі, выпрабоўваючы сілу сваіх крылляў... Эх, вольныя птушкі, як не пазайздросціць вашым лёгкім і быстрым крыллям!.. Канчалася лета, замірала прырода, затухалі яркія агні ясных праменняў сонца. Лёгкаю, цёплаю смугою, нібы сумам, засцілаліся ціхія далечы з іх лясамі і сіняватымі кудзеркамі далёкіх гаёў і пералескаў.

Заспакойваліся і ваколіцы Верханя. Нават пісар Васількевіч, як заўважыў Лабановіч, угамаваўся і паспакойнеў. Да яго вярнулася жонка. Пісар спецыяльна ездзіў да яе і ўпрашаў вярнуцца. Ён перастаў піць гарэлку і бушаваць. Быць можа змене ў паводзінах пісара спрыяла рэвізія валаснога праўлення, аб якой даведаўся пісар ад сваіх людзей з канцылярыі земскага начальніка. Рэвізія мелася адбыцца неўзабаве. Як-бы там ні было, але пісар стаўся зусім іншым чалавекам, калі да яго зайшоў Лабановіч. Лабановічу пераказалі з воласці зайсці атрымаць пад распіску пакет на яго імя. Пісар важна сядзеў у канцылярыі за доўгім сталом, засланым сінім сукном і заваленым рознымі справамі ў папках. Васіль Міронавіч нібы крыху змізарнеў у твары — з яго сышла тая азызласць, што бывае ў людзей пасля працяглага і шчырага прыпадання да бога Бахуса. Угледзеўшы настаўніка на парозе канцылярыі, пісар прыўзняўся ў крэсле, працягнуў суседу руку, як добры знаёмы, як прыяцель. Паказаўшы рукою крэсла каля стала супроць свае асобы, пісар ветла прамовіў:

— Прашу садзіцца.

— Дзякую, Васіль Міронавіч! — кіўнуў Лабановіч галавою ў бок пісара.

— Ну, як жывяце? што добранькага ў вас? — жычліва распытваў пісар.

«Які-ж гэта лось у лесе паваліўся, што ты рассыпаешся такім дробным макам? Ці можа мне пашчасціла?» — сам сабе падумаў Лабановіч і навастрыў вуха.

— Дык так сабе, нічога, Васіль Міронавіч. Дзякую за ўвагу, — адказаў Лабановіч.

— Можа ваша школа мае якія-небудзь прэтэнзіі да

валаснога праўлення? — у тым-жа тоне спрыяння распытваў далей пісар. Лабановіч ускінуў плечы, як-бы кажучы гэтым, што ніякіх такіх прэтэнзій школа не мае — ні да пісара ні да воласці.

— Што належыць школе ад воласці, тое выпаўняецца, — адказаў настаўнік.

— Ну, то і добра, дужа рады, што і вы і ваша школа не ў крыўдзе на воласць, — сказаў пісар. На гэтым ён і скончыў свае папярэднія цырымоніі і перайшоў да справы.

— Прабачайце, Андрэй Пятровіч, што я патурбаваў вас: я павінен уручыць вам пакет, бо мне прадпісана аддаць яго пад распіску. Вось ён. Прашу распісацца ў атрыманні.

Пісар палажыў на стол пакет. Лабановіч распісаўся ў кнізе «входящих».

Як відаць пісара забірала цікавасць, што-ж гэта за пакет, што яго трэба аддаваць пад распіску. А можа ён і ведаў, што там напісана і толькі прыкідваўся, што нічога не ведае, каб паздзеквацца з настаўніка.

— Напэўна, дырэкцыя прадстаўляе вас да ўзнагароды? — не ўцерпеў пісар. У гэтым запытанні настаўніку пачулася насмешка.

— А за што мяне ўзнагароджваць? Мікаду я ўзяў у палон ці што?

— Як за што? — спакойна сказаў пісар: — Была-ж вам падзяка за дасканалую падрыхтоўку вучняў да экзамену.

— Ну, мала там што: то быў адзін час, а цяпер іншы. Была, скажам, дзяржаўная дума, а зараз яе няма. У сувязі з гэтым і ў начальства могуць быць іншыя настроі... А ўрэшце, каб не хадзіць вакруг ды навокал, паглядзім у пакет.

Не спяшаючыся, Лабановіч ускрыў пакет, прабег вачамі па напісанаму на машынцы. Тэкст быў невялічкі, некалькі радкоў.

«Настаўніку Верханьскай школы такому-та.
Педагагічны совет дырэкцыі народных вучылішчаў Мінскай губерні пастанавіў — зволіць вас з настаўніцкай пасады ў Верханьскім народным вучылішчы з 1-га верасня гэтага 1906 г.»

Пад паведамленнем стаяў уласнаручны подпіс дырэктара, стацкага саветніка Акаронкі і выкрунталісты роспіс дзелавода Давідзіка. Покі настаўнік чытаў, пісар пільна сачыў за выразам яго твару. Але ніводзін мускул на твары настаўніка не зварухнуўся. Лабановіч яшчэ раз акінуў вачамі бланк. Усё было на сваім месцы: тры літары М. Н. П. — міністэрства народнага прасвяшчэння, подпісы Акаронкі і Давідзіка і пячаць ніжэй подпісаў. Лабановіч перадаў паперу пісару.

— Пацікаўцеся.

Пісар прачытаў яе, здзіўлена зірнуў на настаўніка і доўга моўчкі пазіраў яму ў вочы.

— Вас звальняюць з настаўніцкай пасады? — ціха і працягла запытаў ён і яшчэ раз прачытаў паперу.

— Ну, вось вам і прадставілі да ўзнагароды, — з адценнем крыўды прамовіў настаўнік.

— Ды паслухайце-ж, за што?

Быць можа, у пісара былі свае грахі перад сваім начальствам, і яго так уразіла вестка аб тым, што настаўнік звальняецца са школы, ва ўсякім разе фальшу і здзеку з суседа ў голасе пісара не было, і для яго гэта вестка была нечаканасцю.

— Якая-ж прычына? — дапытваўся пісар: — Прычына тут не ўказана.

— Відаць, прыгадалі мне мае ранейшыя грахі, — адказаў Лабановіч. Расказаць пра настаўніцкі з'езд ён лічыў непатрэбным.

Развітаўшыся з пісарам, Лабановіч накіраваўся ў школу, якая цяпер была ўжо не для яго.

## XXXIII

Яшчэ раз, ужо дома ў сваім пакоіку, прачытаў Лабановіч невясёлае паведамленне дырэкцыі аб звальненні з настаўніцкай пасады. Цяпер ён пераканаўся, што ўяўляць сабе няўхільную падзею — адно, а сама гэта падзея, калі яна становіцца адбытым фактам, нешта зусім іншае... Дык так: ён без службы, ён беспрацоўны. І ніякіх ілюзій болей няма! Праведзен нейкі рубеж, які аддзяляе ад таго, што было, і якога не пяройдзеш.

Настаўнік азірнуўся навокал. Вось яго кватэра, праўдзівей, яго былая кватэра, сталовая і разам кабінет з трыма вокнамі і спальня за перагародкаю з адным аконцам. Ужо болей як поўгода Лабановіч жыў у ёй і не заўважаў яе, а зараз яна ўстала перад ім у іншым асвятленні і ва ўсёй сваёй убогай, але дарагой паўнаце. Цэлы рой думак і вобразаў замітусіўся ў галаве настаўніка. Чамусь прыгадаўся той дзень, калі ён першы раз апынуўся тут і пабачыў запушчаную брудную школу, Срэтун-Сурчыка ў пасцелі, спатканне з ім. Прыгадалася і дарога, і фурман дзядзька Кудрык, і шалёная завея, калі вецер злосна біў акяніцамі ў сцены. Здаецца, было гэта даўно-даўно, як далёкі сон, паспеўшы выліняць у памяці. У некалькі кароткіх хвілінак прамільгнула ў мыслях усё, што было звязана з настаўніцкаю работаю, і ўсе тыя этапы, што былі пройдзены за чатыры гады: Цельшына, Выганы. Усё гэта засталося ззаду, уплыло ў далечыню.

Бабка Параска ціхенька адчыніла дзверы. Убачыўшы Лабановіча ў глыбокай задумлёнасці, яна спынілася, не пераступаючы парог, а потым ціхенька падалася назад, каб не перашкаджаць настаўніку думаць. А ён нават і не заўважыў, як бабка прыходзіла і знікла за дзвярамі.

Увайшла яна ізноў, трохі счакаўшы, калі пачула крокі па падлозе пакоіка. Убачыўшы бабку Параску, настаўнік ветла сустрэў яе, сагнаўшы з твару адбітак засмучэння.

— Заходзь, бабка Параска. Даўно ўжо мы не гутарылі і на картах не гадалі. Сядай, бабка: большага друга, як ты, у мяне тут нікога няма.

Бабка Параска цяжка ўздыхнула і прысела на дзярвяную канапку каля стала.

— Што ты, бабка, зажурылася?

— Калі вам нявесела, дык і мне нявесела, — адказала бабка.

— А чаму ты думаеш, што мне нявесела?

— Па вас бачу, галубок. Ведаю, што вам цяжка на душы, але вы пра гэта не гаворыце. Не такі вы былі раней, — уздыхала бабка: — Цяпер вы і жартуеце і смеяцеся, а сэрца ваша не смяецца і не жартуе. Ці-ж я не бачу?

— Эх, бабка, ты шмат чаго бачыш, але шмат чаго не ведаеш.

Бабка, здавалася, не слухала, што гаварыў настаўнік. Яна сядзела, нізка апусціўшы галаву, паглыбіўшыся ў свае думкі. А потым ускінула вочы на настаўніка і паставіла пытанне рубам:

— Скажыце, панічок, праўду: якая бяда напаткала вас?

Для настаўніка гэта запытанне было нечаканым. Ён паўглядаўся ў засмучаны дробны твар бабкі Параскі, спаласаваны маршчынамі.

— Добрае ў цябе сэрца, бабка Параска. Бачу, што ты мяне шкадуеш, як родная маці. А шкадаваць мяне няма чаго. Уся-ж мая бяда, як ты кажаш, змешчана вось у гэтай невялічкай пісульцы. — Лабановіч паказаў паперку ад дырэкцыі народных школ. — Разлучае мяне з табою і з гэтаю школаю «высокае начальства», бабка Параска. Памятаеш, як ты гадала мне на картах? «Высокае начальства» спачатку прыслала мне падзяку, што добра вучыў дзяцей у школе, цяпер кажа мне: «Выбірайся вон!»

Бабка ў зняменні пазірала на настаўніка. Здавалася, што сэнс настаўнікавых слоў не даходзіў да яе свядомасці. Але яна адчула ў іх горкую праўду.

— Як-жа гэта так? — узрушылася бабка: — За што такая няласка, такое пакаранне? Што благога вы зрабілі?

— Вось у тым-та, бабка, і ўся сіла, што гэтае «благое» розныя людзі разумеюць па-рознаму. Адны, дармаеды, «благім» лічаць тое, з чым простыя, бедныя людзі, прыдушаныя падаткамі, голадам, бяспраўем, не хочуць мірыцца і дабіваюцца праўды, гатовыя бунтавацца супроць несправядлівага ладу.

— Ох, панічок! не яны заводзілі гэты лад, і не ім разбурыць яго, — тонам безнадзейнасці азвалася бабка: — Ды не мне вучыць вас, панічок. Пэўна-ж вы болей ведаеце за мяне, але вось вы пайшлі супроць несправядлівага ладу, а вам узялі ды ад службы адмовілі. — Яна апусціла нізка галаву і стала хвартухом выціраць слёзы.

Лабановіч падышоў да бабкі Параскі і лёгенька пастукаў яе па плячы.

— Не плач і не гаруй, бабка. Пабачым яшчэ, на чым

баку верх будзе. Мы яшчэ паваюем. А ты-ж, бабка, як жыла, дык і будзеш жыць.

Бабка выцерла хвартухом заплаканыя вочы і нос ды моўчкі пасунулася ў бакавушку, каб там паплакаць па сваім «манашку». А можа яна хацела ў самоце пагадаць на картах, каб дазнацца аб далейшым лёсе настаўніка. Лабановіч у гэты час наважыўся схадзіць да папа.

Айцец Уладзімір сядзеў у садзе, у альтанцы. З ім быў Віктар і незнаёмы малады чалавек, смуглявы, мускулісты, нібы высечаны з каменя. Каля альтанкі стаяў круглы стол, а каля яго шырокія лаўкі. Лабановіч акінуў іх вокам. Яму прышла ў галаву дураслівая думка пераскочыць цераз стол і лаўкі. «Спрабую», — сказаў ён сам сабе і, ні з кім не павітаўшыся, разагнаўся і перамахнуў.

— Глядзіце, што з яго выходзіць! — пахвальна адгукнуўся айцец Уладзімір і дадаў: — Ды ў цябе бес гадарынскі ўсяліўся!

— Брава, брава настаўнік! Больш за сажань у паветры ляцеў, — азваўся і Віктар.

Смуглявы малады чалавек толькі ўсміхнуўся і акліннуўся адным словам:

— Здорава!

Лабановіч пазнаёміўся з ім. Яго прозвішча было Дзячэнка. Прыехаў ён да Віктара, як да свайго прыяцеля, пагасцяваць. Была тут і іншая прычына. Дзячэнка быў начальнікам баявой эсэраўскай дружыны ў адным з украінскіх гарадоў на Дняпры. Паліцыя напала на след і шукала яго. Каб збіць паліцыю з толку, Дзячэнка ў змове са сваімі сябрамі разыграў камедыю самагубства. У адной тагочаснай газеце з'явілася пісьмо, прыблізна такога зместу:

«На дняпроўскай кручы ў раёне г. К. знойдзена запіска невядомага чалавека, які назваў сябе Аўгені Дзячэнка. У запісцы значылася: «Усё абрыдла. Не бачу ніякага сэнсу цягнуць далей лямку, якая завецца жыццём. У маёй смерці нікога не вінавачу. Прымі-ж, родны Дняпро, у сваё прадонне незадачлівага твайго сына».

Напісаўшы такую запіску, Дзячэнка прыехаў у Верхань да Віктара і жывіўся ад дароў айца Уладзіміра.

Айцец Уладзімір быў у меры выпіўшы і ў добрым гуморы.

— Ты што-ж гэта так расскакаўся. Скуль у цябе гэты цялячы экстаз? — запытаў ён Лабановіча.

— Эх, бацька Уладзімір! скачуць не толькі з радасці, але і з гора, — заўважыў настаўнік.

— Чуў, чуў, дружа... Эх вы: мала сабе пад ногі глядзіце, вось і спатыкаецеся, — пажурыў баця Лабановіча, а ў яго асобе і ўсіх неасцярожных маладых людзей. Потым запытаў:

— Што-ж цяпер рабіць будзеш?

— Падумаю, разгледжуся.

— Не прападзе! — упэўнена буркнуў Дзячэнка.

— Ведаеш, што я табе скажу, — казаў далей баця і не то сур'ёзна, не то жартліва: — падавайся ў папы. Вось тут у маім прыходзе і заставайся. Будзем удвох бога хваліць і капейку заганяць, і ніякі нам чорт не брат.

— Кепскі з мяне божы служка, — жартам адказаў Лабановіч.

— Вельмі добрым і не трэба быць. Не дужа ўдавайся ў святасць, бо лішняга і свінні не ядуць, але і лайдаком празмерным не трэба быць, а так сабе: сярэдзінка на палавінку. А, урэшце, як сабе хочаш, — заключыў баця, махнуў рукою, падняўся і пасунуўся ў папоўскія харомы.

— А вам трэба звязацца з партыяй сапраўдных рэвалюцыянераў, — сказаў Лабановічу Дзячэнка: — і стаць членам партыі. Партыя паможа вам у многім. У яе ёсць сувязі, праз яе можна і работу знайсці.

— А ў якую партыю вы мне раіце пайсці? — спытаў Лабановіч.

— У партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Яна як ніякая іншая партыя выражае інтарэсы сялянства.

Лабановіч усміхнуўся.

— Кепскі быў-бы той сват, які не пахваліў-бы сваю маладую. Ну, што-ж? паглядзім, ды паслухаем, як яно што. А за добрыя словы дзякую.

## XXXIV

Лабановіч ужо звыкся з думкаю, што ён — адрэзаная скіба ад хлебнага поля, што хлеб трэба здабываць нейкім іншым спосабам. Ды галавы ён не вешаў. Няўжо-ж у

гэтым вялікім і шырокім свеце не знойдзецца прытулку для адзінокага чалавека, покі ён вольны і нічым не звязаны? Абнадзеіў яго і Дзячэнка, калі раіў шчыльней звязацца з партыяй рэвалюцыянераў, дзе можна мець падтрыманне. Справа толькі ў тым, якую выбраць партыю, каб яна цалкам задаволіла ўсе твае запатрабаванні. А з гэтага выходзіла, што перш, чым звязаць сябе з той ці іншай партыяй, трэба наўперад уважліва прыглядзецца да іх, каб правільна выбраць сабе дарогу. А покі што важна адно: не застойвацца на месцы, ні ў якім разе не апускацца ўніз, а ісці наперад, насустрач жыццю і не загубіцца ў ім. У жыцці-ж прыгодаў многа, яно багатае рознымі падзеямі, за якімі расчыняецца нязведаны і нябачаны свет. У гэтай няпэўнасці і неакрэсленасці была нават свая прывабнасць і паэзія. У гэты час Лабановічу падабалася бадзянне без рэальнай мэты. Гэтае пачуццё падагрэў яго прыяцель Янка Тукала. Сягоння Лабановіч атрымаў ад яго пісьмо. Янку таксама звалілі з настаўніцтва, але і ён не сумаваў і бадзёра пазіраў наперад. У пісьме ён прыслаў такі верш:

Глупец! где посох твой дорожный?
Бери его, пускайся в путь!
Пойдешь ли ты через пустыни
Иль в город пышный и большой,
Не оскверняй ничьей святыни,
Нигде приют себе не строй.

Верш гэты адпавядаў настроям маладых настаўнікаў і захапляў іх сваёю рамантычнаю туманнасцю.

Тым часам надыходзіла восень. Не за гарамі быў і верасень, калі настаўнікі зляталіся пасля канікул у свае школы, як птушкі з выраю. Толькі яму, Лабановічу, зачынены дарогі ў гэты вырай. Час падумаць аб здачы школы воласці або непасрэдна свайму заступніку, які мог паявіцца тут кожны дзень, а самому выбірацца за добрае надвор'е.

Вярнуўшыся аднойчы са сваіх нядоўгіх вандровак па ваколіцах Верханя, Лабановіч сустрэўся з Іванам Анцыпікам. Ён за лета паружавеў, загарэў і нагуляў сабе трохі жырку. Рыжаватыя невялікія яго вусікі падраслі, і ён

часта разгладжваў іх пальцамі. Гэтая аздоба ў вачах Лабановіча рабіла Анцыпіка падобным да гогалеўскага вінакура: вусы былі такія, што здавалася, нібы ўладар іх трымаў у зубах мыш. Анцыпік меў выгляд чалавека, задаволенага сабою, сваім жыццём і сваімі далейшымі планамі. Ён ужо ведаў, якое ліха напаткала яго калегу. «Вось як дарэчы прыехаў: не будзе клопату са здачаю школы!» — узрадаваўся Лабановіч. У засмучэнні, як і належыць у такім выпадку, і ў тоне спачування Анцыпік сказаў:

— Сумныя навіны, нядобрыя справы, Андрэй.

Анцыпік меў на ўвазе звальненне Лабановіча.

— А што здарылася, Іване? — прыкінуўся Лабановіч.

— Са мною нічога не здарылася, — зачаўкаў Анцыпік: — наадварот, я атрымаў назначэнне ў лепшую школу, у Клінкі. А вось ты... падгуляў ты, брат. А-я-яй! — з дакорам і са спачуваннем паківаў галавою Анцыпік. — Чыя-ж праўда? — з выглядам пераможцы запытаў ён і дадаў: — Лезці на ражон нікому не рэкамендуецца. Не чапай нічога, не бойся нікога. Сядзі ціха, не чапай ліха.

— Ведаеш, Іване, расчараваў ты мяне ўшчэнт: я-ж думаў, што ты застаешся тут, і я здам табе школу, каб не вазіцца з рознымі людзьмі... Ну, але раз так, дык так. Пажадаю табе не ўступаць у канфлікты на новым месцы са станавым прыставам. А што да праўды, дык наўперад выведзем куранят, а палічым іх у восень.

Анцыпік чмыхнуў у нос, чаўкнуў.

— Не ведаю, што ты будзеш лічыць, — з насмешкаю сказаў ён. Самазадаволены Анцыпік выяўна адчуваў зараз сваю перавагу над выгнаным са школы Лабановічам.

Яны разышліся. І ніколі больш нічога не чуў аб ім Лабановіч у далейшым.

Покі школа не была яшчэ здана, Лабановіч адчуваў пад нагамі нейкі юрыдычны грунт: была законная падстава заставацца там. А здай школу, і гэтай падставы, няхай сабе ілюзорнай, не будзе. Вось чаму здачу ён адкладаў да апошняга часу. Трохі затрымлівала яго тут і Ліда, бо трэба-ж было давесці да канца яе справу з паступленнем у новую школу. Не хацелася таксама і разлучацца з Лідаю, да якой ён прывык, а можа быць і болей, чым прывык, хоць у гэтым ён сам сабе не хацеў

прызнацца. Апроч таго, ён не ашукваў самога сябе і не цешыў ніякімі ілюзіямі ў дачыненні да Ліды, бо ведаў, што, калі ён выедзе, то болей з ёю не сустрэнецца. Ды і нашто? Яна яшчэ толькі-толькі распускаецца ў прыгожую кветку, з мілага нявіннага падлетка пераараджаецца ў маладую дзяўчыну, якая потым на яго, бяздомніка, можа і глядзець не захоча. Не дужа прыемна было думаць аб гэтым. Ды Ліда ўсё-ж такі стаяла ў яго вачах.

Прайшло ўжо некалькі дзён, як не хадзіў ён да свае вучнёўкі. А яны там яшчэ не ведаюць, што ён ужо не настаўнік Верханьскай школы і наогул не настаўнік. Але гэтага не ўтоіш. І які сэнс таіцца? Настаўнік, узяўшы кій, сябра свайго вандравання, накіраваўся на хутар Антаніны Міхайлаўны. Быць можа, гэта апошняя вандроўка туды

Вясёлая, бестурботная Ліда гуляла на сваім дворыку, ганялася за кацяняткам, лавіла яго, туліла да шчакі, штось ласкавае гаварыла яму і цалавала. Маленькі каток, як толькі Ліда пускала яго на дол, задзіраў хвосцік і кідаўся бегчы. Тады Ліда ізноў гналася за ім. Каток хаваўся пад жэрдачкаю плоту і перабягаў за плот. Лёгка, як дзікая козачка, Ліда пераскоквала праз плот, каб злавіць хітрага катка. Лабановіч стаіўся ў сукромным куточку, адкуль яго не відаць было, і цешыўся гульнёю Ліды з дураслівым катком. Ніколі не бачыў ён яе такой жвавай, такой вясёлай, лёгкай і спрытнай і па-дзіцячы бестурботнай, і ніколі не здавалася яна яму такой мілай і чароўнай. Некалькі хвілін любаваўся ён Лідачкаю, стаяў, не варушачыся, каб не заўважыла яна, што на яе глядзяць і цешацца гледзячы. Катку, як відаць, надакучыла гульня, і ён, выгнуўшы спіну дужкаю і задраўшы хвосцік, стралою паімчаўся да хаты і схаваўся пад ганкам. І Ліда таксама палічыла, што хопіць гэтай забаўкі, бо ёсць у яе болей важныя справы. Уся бестурботнасць і дураслівасць сышлі з яе твару. Яна адразу змянілася, пасталела, як дарослая жанчына, у якой ёсць куды болей важныя інтарэсы, чым забаўка з кацяняткам. Адкінуўшы з ілба назад цёмнакаштанавыя пасмы густых хвалістых валасоў, яна азірнулася ў бок хутарской дарогі, што ішла сюды з бальшака — наезджанай дарогі на станцыю, на іхні хутар. Гэтаю дарогаю звычайна хадзіў сюды Лаба-

новіч. Лідзе прыходзілася глядзець супроць сонца, каб акінуць зрокам дарогу на хутар, і яна зрабіла сабе шчыток рукою, каб засланіць вочы. І гэты лідачкін паварот у бок хутарской дарогі вельмі ўзрушыў Лабановіча: ці не яго выглядае Ліда? Але Лабановіча не было на дарозе: ён стаяў тут непадалёку і ўсё гэта бачыў, сам застаючыся нябачаным.

Ліда, як сталая жанчына, павольна накіравалася таксама да хаты на ганак, пад якім схаваўся каток. Лабановіч пастаяў яшчэ некалькі хвілін, абышоў будыніну, каля якой туляўся, і, не спяшаючыся, пайшоў у двор Антаніны Міхайлаўны.

Антаніна Міхайлаўна і Ліда былі ў хаце. Яны ветла і гасцінна сустрэлі настаўніка.

— Расказвайце, што добрага чуваць, — звярнулася Антаніна Міхайлаўна.

— Як вам сказаць? Добрага нічога, — адказаў ён: — ды гэта ўсё глупства — не было-б толькі горшага.

— Дык расказвайце ўсё, — не адступалася Антаніна Міхайлаўна.

— Многа і расказваць няма чаго: выгналі мяне з школы, вось і ўсё. І цяпер я магу сказаць: «чист кругом я, лёгок и никому не нужен» — дадаў ён, прыгадаўшы сказ, калісь прадыктаваны ў пачатковай школе яго былым настаўнікам.

— Вас звольнілі з настаўніцтва? — са здзіўленнем перапытала Антаніна Міхайлаўна. У яе голасе нават чулася нотка суму і спачування. — Ну, і што-ж з вамі будзе?

— А што будзе? вазьму лахі пад пахі — маёмасць мая невялікая — ды пайду шукаць шчасця па свеце. Дзе-небудзь прыпынюся. Ёсць такая прыказка: адна галава не бядна, а калі і бядна, дык адна, — бойка адказаў настаўнік. Некалькі хвілін у хаце было ціха, нібы яна была пустая. Што адчувала Ліда, Лабановіч не ведаў. Здавалася, што ўсё гэта яе мала кратала. Цішыню парушыла Антаніна Міхайлаўна.

— Ну, а як-жа будзе з маёю Лідаю? — запытала Антаніна Міхайлаўна і дадала: — Збілі вы яе з тропу.

Словы Антаніны Міхайлаўны балюча адгукнуліся ў сэрцы Лабановіча: чым-жа ён збіў Лідачку з тропу?

Няўжо тым, што хацеў вывесці яе ў людзі? Не зводзіў яе, залатых гор не абяцаў.

— З Лідаю вось што будзе, — сказаў Лабановіч: — сягоння напішам прашэнне начальніцы Мінскай гарадской школы. Праз тыдні два там пачнуцца экзамены. Ліда паедзе і будзе экзаменавацца. Для гэтай школы яна падрыхтавана болей, чым трэба.

— Не паеду я трымаць экзамены, — забунтавала Ліда.

— Чаму? — запытаў Лабановіч.

Ліда адказала:

— Не хачу паступаць туды. Я буду лепей тэлеграфісткай.

Як відаць, яна гутарыла аб гэтым з маткаю, а можа маці і навяла яе на такія думкі. Але прашэнне Ліда ўсё-ж такі напісала.

На развітанні, пакідаючы дом і хутар Антаніны Міхайлаўны, Лабановіч запытаў Ліду:

— Мілая Лідачка, калі я напішу табе пісьмо, дык ці будзеш ты пісаць мне?

Ліда апусціла вочкі.

— Можа і напішу, — ціха прамовіла яна, а потым у сваю чаргу запытала: — А што я буду пісаць? Ды і нашто гэта?

Развіталіся даволі суха.

«Не быў-бы я зволены, яна так не сказала-б мне», — падумаў Лабановіч, ідучы ў Верхань, а потым сказаў сам сабе: «Сягоння-ж здам пісару школу. Няма больш ніякай патрэбы заставацца тут».

## XXXV

«Ну, што-ж? — сказаў у мыслях сам сабе Лабановіч, — апошнія мае часіны тут. Школу здаў, і зараз я чужы ў ёй. Рубеж праведзены. Цяпер я — вольны казак, покі яшчэ не падрэзаны крыллі». На памяць прышлі радкі верша Мельшына (Якубовіча):

В колосьях желтеющих нив урожая,
По узкой меже сквозь редеющий мрак,
В убогой сермяге, кряхтя и вздыхая,
Проходит свободный батрак...

Такім «свабодным» батраком уяўляўся сам сабе адстаўны настаўнік Верханьскай школы. Усе гэтыя дні бабка Параска хадзіла невясёлая і часта плакала. Калі-ж яна даведалася аб здачы школы, жалю яе не было канца, бо ўжо болей не заставалася ніякай надзеі, што настаўнік быць можа яшчэ застанецца

— Ты, бабка, так плачаш па мне, нібы я — нябожчык, а я жывы і жывучы.

— Ох, галубок мой! — бабка Параска выцерла слёзы: — шкада-ж мне вас. Здаецца, і роднага сына не было-б так шкада, як вас.

— Добрая ты, слаўная ты, бабка Параска, і я буду памятаць цябе, як сын. Развясельcя-ж і не плач па жывым чалавеку.

Але бабка заплакала яшчэ мацней і, выціраючы слёзы, запытала:

— Калі-ж думаеце пакідаць нас?

— Доўга заставацца тут мне цяпер ужо не выпадае. Той-жа пісар, якому я здаў школу, можа сказаць мне: са школы зволены, школу здаў, дык будзь ласкаў выбірацца. Значыцца, трэба збірацца і падавацца ў свет. А свет вялікі і прастору ў ім многа.

Бабка Параска цяжка ўздыхнула і вышла з пакоіка. Не сядзелася ў ім і Лабановічу. Перад тым, як пакінуць сваё трэцяе і апошняе настаўніцкае месца, Лабановічу захацелася яшчэ раз абыйсці ўсе тыя дарогі і сцежкі, дзе не адзін раз вандраваў ён у вольныя хвіліны. Такія вандроўкі шмат прыносілі яму радасці і задаваленні, і многія мясцінкі ў ваколіцах Верханя сталіся блізкімі і дарагімі. Не раз паўставалі і не раз паўстануць яны ў вачах Лабановіча, вабячы да сябе, як самыя прыязныя сябры. Дык як-жа не развітацца з імі?

Лабановіч узяў кій, вышаў на высокі ганак. Без усякага разважання і пэўнага плану накіраваўся ён улева, на шырокую дарогу, што ішла міма воласці і цэрквы ў зялёным вянку бяроз, і ў ціхім задуменні падаўся ў бок лесу. Калі-б хто запытаў у гэту хвіліну, аб чым ён думае, то ён напэўна не даў-бы адказу. Апамятаўся ён толькі тады, калі апынуўся на могілках. Выходзячы з дому, каб развітацца з верханьскімі ваколіцамі, ён зусім не думаў заходзіць туды.

— Як-жа я папаў сюды і чаму? — здзівіўся Лабановіч. Якая прычына прывяла яго на могілкі? Могілкі — сімвал канца чалавечага існавання. Канец! простае слова, а заключае ў сабе багаты змест: часамі чалавек рады яму, а часамі «канец» набывае характар трагізму. Вось і для яго, Лабановіча, настаў канец настаўніцтва і прабывання ў Верхані. Але ён прыгадаў адно здарэнне на могілках — спатканне пары незнаёмых людзей, мужчыны з жанчынаю. Як высветлілася потым, гэта былі — памочнік пісара Лапіцкі і пісарава швагерка, якая хутка пасля таго здарэння выехала з Верханя.

На могілках было ціха, глуха і маркотна. Лабановіч павольна пасунуўся знаёмаю дарожкаю да самага яе канца. Упіралася яна ў насыпаны вал зямлі, які служыў замест агарожы могілак. Вал асеў і асунуўся. Па баках яго раслі густыя кусты і здзічэлая трава. Цяпер гэтыя кусты, запаўшыя ў памяць настаўніка, страцілі сакаўную зяляніну, красу свае маладосці. Сям-там калыхалася на іх пажоўклае лісце, і ў паблеклай траве валялася яго нямала. Прадвосеньскі час накладаў свой адбітак засмучэння на ўсё, куды ні глянеш. Нават неспакойны вецер і той гаманіў на сумны лад, прынікаючы да зямлі — нібы для таго, каб падслухаць яе нямоўчныя песні. Эх, песні, адвечныя песні зямлі! Калі заспяваюць вас на вясёлы, радасны тон!

Лабановіч спыніўся і акінуў вачамі могілкі — як-бы для таго, каб запамятаваць іх назаўсёды. Струхлелыя дзярвяныя крыжы, пахіленыя над зямлёю, сівыя купінкі моху на іх, надмагільныя пліты, уросшыя ў дол, — як усё тут закінута, забыта і запушчана, як усё гэта ўбога і журботна! Настаўніку зрабілася так нявесела і сумна, што заставацца тут далей было цяжка. Ён накіраваўся назад на дарогу, яшчэ раз азірнуўся. «Напэўна не пабачу вас болей ніколі. Ну, бывайце!» — сказаў у думках на развітанне.

З могілак ён падаўся ў бок лесу. Ускрайкам, не спяшаючыся, накіраваўся на Тумель, дзе быў ставок і старасвецкі двухпавярховы млын. Гэты млын, ставок і рэчка былі ўлюбёным месцам, куды часта хадзіў Лабановіч у вольныя хвіліны на пагулянку. Прышоўшы сюды, ён запыніўся. Цэлая чарада ўспамінаў паўстала прад

ім. Прыгадаўся той дзень, калі ранічкаю ехаў ён праз грэбельку каля млына з сваімі вучнямі на экзамены. Дарога зараз-жа, мінуўшы грэблю, уваходзіла ў лес. З краю на лясных прагалах стаялі маладыя бярозкі, толькі-толькі выпускаючы маладзенькія пахучыя лісточкі і прыдаючы лесу асаблівую чароўнасць. Здавалася тады, што стары, пануры лес наўмысня развесіў тонкую, празрыстую пакрыўку, сатканую сонцам і зямлёю з тысячы тысяч маладых, кволых бледназялёных лісточкаў бярэзін і кустоў, росшых на ўскрайку лесу, каб упрыгожыць сябе гэтымі дарамі вясны і прыкрыць сваю панурасць. Іншыя мыслі і іншы настрой былі тады і ў настаўніка, што зараз прышоў сюды ўжо на парозе восені, каб апошні раз азірнуць усе гэтыя мясціны, так глыбока асеўшыя ў памяці, і таксама сказаць ім «бывайце!»

Старасвецкі двухпавярховы млын стаяў нерухома. Не было каля яго ні людзей, ні фурманак. Не рухалася і велічэзнае, многаступянёвае кола, ажыўляўшае млын і ўвесь яго нескладаны механізм. Толькі дзесь каля яго з непрыметнай шчылінкі прабіваўся струменьчык вады і аднастайным цурчаннем парушаў спакой анямеўшага млына. З-пад гаці спакойна цякла перагароджаная грэбляю рэчка, несучы далей тую порцыю вады, якую прызначылі ёй будаўнікі. Зараз-жа за млыном яна апісвала прыгожую дужку, падаючыся наўперад управа, а потым забіраючы ў бок поля, і хавалася пад навіссю старых вербаў, што схіліліся над вадою, і затым зусім знікала з вачэй. І рэчка і крывыя вербы над ёю яшчэ болей падкрэслівалі спакой і цішыню закінутых і мала вядомых утульных куткоў старажытнай Беларусі.

Лабановіч доўга пазіраў на рэчку. У памяці ўсплывалі падобныя-ж блізкія і дарагія сэрцу малюнкі, якія даводзілася яму сустракаць не адзін раз. А колькі малюнкаў, яшчэ не бачаных ні разу! І колькі ў іх прывабнага, заспакойваючага душу хараства! Дык наперад, брат, наперад! Пракладай сабе дарогу ў жыцці, не зважаючы ні на якія нягоды, дарогу прасторную, ясную з бясконцымі краявідамі і далячынямі і склікай народ на гэту прасторную дарогу.

Увесь панылы настрой, пад уплывам якога быў нядаў-

на Лабановіч, развеяўся, як ранішні туман перад гарачым летнім днём. Ён адчуў прыліў бадзёрасці, новай сілы, жаданне змагацца за сваё месца ў жыцці і за ўсіх добрых людзей, пакрыўджаных жыццём і рознаю злыбедаю, што загараджвае ім дарогі. Чаго-ж сумаваць? На каго спадзявацца?.. Заставайцеся-ж тут шчаслівыя, мае мілыя вербачкі, і ты, неўгамонная рэчка! У другім месцы сустрэнуся з такімі-ж дарагімі, як і вы.

Апошні раз акінуў Лабановіч вачамі ўсе ваколіцы. Зірнуў і на той узвышак, адкуль першы раз уявілася яму здань замка, на сяло, што выцягнулася ў адну доўгую стракатую істужку з убогімі загарадкамі каля запушчаных будынкаў, на двор айца Уладзіміра і на цэркву з процілеглага боку, а непадалёку ад яе на будынкі валаснога праўлення і школы. Вось ён, увесь Верхань, перад ім усе яго ваколіцы...

Той самы дзядзька Нічыпар Кудрык, што зімою прывозіў Лабановіча ў Верханьскую школу, цяпер вёз яго на станцыю з двума невялікімі чамаданамі, дзе быў зложан увесь незамыславаты скарб настаўніка. У вачах Лабановіча яшчэ стаяў заплаканы твар бабкі Параскі і ўся яна, такая жычлівая і добрая, нізенькая, сухенькая, маршчыністая. Мімаволі прыгадаўся Лабановічу яго выезд з Цельшына, Ядвіся, з-за якой ён і пакідаў сваё першае настаўніцкае месца, шырокаплечы дзядзька Сцяпан і яго апавяданне аб Яшуковай гары.

«Адзін раздзел кнігі прачытан і загортваецца», — думаў Лабановіч, пакідаючы Цельшына. А зараз прачытан і другі раздзел яшчэ далёка недачытанай да канца кнігі.

*Канец I-й часткі*

Трылогія Якуба Коласа — «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» і «На ростанях» — з'яўляецца першым буйным творам беларускай мастацкай прозы.

Падзеі, апісаныя ў трылогіі, адносяцца да пачатку XX стагоддзя, да перыяду нарастання і ўздыму першай рускай рэвалюцыі. У творы паказан працэс выспявання рэвалюцыйнага пратэсту шырокіх сялянскіх мас супроць самадзяржаўна-памешчыцкага ладу, намалявана шырокая карціна жыцця сельскай інтэлігенцыі. «Выхаваная пры чыста казармавых абставінах, узгадаваная па катэхізісу Філарэта і нашпігаваная начынкаю ў духу «веры, царя и отечества», гэтая інтэлігенцыя, — пісаў Колас у прадмове да першай часткі трылогіі «У палескай глушы», — штучна адарваная ад жывых крыніц жыцця, часткаю заставалася вернаю казённым прынцыпам, часткаю, не бачачы прасветліны, апускалася на дно і зацягвалася балотам. Болей-жа дзейная і жывая частка яе імкнулася зліцца з гэтымі крыніцамі і вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць «корань рэчаў»».

Думкі і імкненні перадавой часткі інтэлігенцыі, арганічна звязанай з народам, увасоблены ў вобразе вясковага настаўніка Андрэя Лабановіча. У трылогіі паказан паступовы, але няўхільны ідэйна-палітычны рост героя пад уздзеяннем грамадска-палітычнай абстаноўкі, нарастаючых рэвалюцыйных падзей у краіне. Спачатку, у сілу няспеласці свайго светапогляду, малады настаўнік захапляецца асветніцкай дзейнасцю, імкнецца абудзіць крытычную думку сялян, палепшыць іх дабрабыт ва ўмовах існуючага грамадскага ладу. Але жыццё няшчадна разбівае гэтыя ілюзіі Лабановіча. Ён пераконваецца ў памылковасці сваіх поглядаў. Пад уплывам масавага пралетарскага руху і дзейнасці рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі

Лабановіч звязваецца з рэволюцыйным падполлем, прымае актыўны ўдзел у аграрных выступленнях сялянства, цвёрда становіцца на шлях рэволюцыйнай барацьбы.

Шырокі ахоп жыццёвага матэрыялу, праўдзівы паказ адносін розных социяльных груп беларускай вёскі да буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, адлюстраванне духоўнага росту беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі, яе сувязі з народам і рэволюцыяй, следаванне горкаўскім традыцыям у раскрыцці праблемы інтэлігенцыі і народа, высокае паэтычнае майстэрства — усё гэта робіць трылогію Якуба Коласа этапным творам беларускай мастацкай прозы.

Над першай кнігай трылогіі пад назвай «У палескай глушы» Якуб Колас працаваў на працягу 1921—1922 гг.

Да з'яўлення ў друку асобным выданнем першыя 17 раздзелаў аповесці «У палескай глушы» друкаваліся ў часопісе «Адраджэнне», 1922 г., сшытак № 1.

Асобным выданнем аповесць «У палескай глушы» ўпершыню вышла ў свет у 1923 годзе ў Вільні.

Другая кніга трылогіі пад назвай «У глыбі Палесся» была напісана ў 1926—1927 гг.

Да выхаду ў свет асобным выданнем у часопісе «Асвета» (1926 г., № 1) былі надрукаваны чатыры ўрыўкі з аповесці «У глыбі Палесся»: «Рэдактар», «Панямонскія ведамасці», «Па мястэчку» і «Трохі фантастыкі»; у часопісе «Узвышша» № 2 за 1927 год — XIII, XIV, XV, XVI, XVII, XVIII, XIX, XX раздзелы пад агульнай назвай «На новым месцы». У наступным нумары гэтага-ж часопіса за 1927 год друкаваліся раздзелы: XXI, XXII, XXIII, XXIV; у часопісе «Полымя» за 1927 г. № 4 — раздзелы: XVI, XVIII, XIX, XX. Некалькі раздзелаў было надрукавана ў часопісе «Маладняк» №№ 5, 7—8 за 1927 год.

Упершыню асобным выданнем аповесць «У глыбі Палесся» вышла ў свет у 1928 годзе ў Мінску.

У 1929 годзе аповесць была перакладзена на рускую мову і выдадзена ў Маскве.

У 1948 годзе дзве першыя кнігі трылогіі («У палескай глушы» і «У глыбі Палесся») былі выдадзены асобна пад назвай «Аповесці». У гэтым-жа годзе Дзяржаўнае выдавецтва мастацкай літаратуры (Масква) выпусціла ў свет у перакладзе на рускую мову першыя дзве часткі трылогіі і аповесць «Дрыгва» асобнай кніжкай пад назвай «В глуши Полесья».

Над трэцяй кнігай трылогіі — «На ростанях» Якуб Колас пачаў працаваць у 1949 годзе. Першыя трыццаць пяць раздзелаў былі надрукаваны ў часопісе «Полымя» (№№ 2 і 11 за 1949 г., №№ 4 і 8 за 1950 г. і № 6 за 1951 г.). Трэцяя кніга трылогіі не скончана.

* * *

Стар. 9. **Чмучэнне** — дурман, цемната.

Стар. 11. **Падлоўчы** — старшы аб'ездчык.

Стар. 18. **Бортнік** — чалавек, які займаецца бортавым (лясным) пчалярствам.

Стар. 22. **Урадпік** — паліцэйскі чын у часы царызма.

Стар. 22. **Псаломшчык** — дзяк.

Стар. 22. **«...Кесарава кесараві...»** — царава цару.

Стар. 24. **«...адгароджаны балясамі...»** — круглымі, точанымі слупкамі.

Стар. 28. **Лабатрас** — гультай, абібок.

Стар. 43. **Літоўскія калдуны** — пельмені.

Стар. 50. **Сахор** — вілы для накідання гною.

Стар. 58. **Фуз** — бруд, смецце, адкіды.

Стар. 63. **Сельма Лагерлёф** — (нарадз. 1858 г.) — вядомая шведская пісьменніца, прадстаўніца «неарамантызма».

Стар. 72. **Кудзеснік** — вяшчун, вядзьмар, чараўнік.

Стар. 74. **Фрыдрых Ніцшэ** (1844—1900) — рэакцыйны нямецкі філосаф, яры вораг соцыялізма. Вучэнне Ніцшэ, якое адкрыта прапаведуе расізм, грабежніцтва і вайну, стала ідэйнай зброяй фашызма і агалцелага амерыканскага імперыялізма.

Стар. 78. **«Ерась»** — тут у значэнні глупства, бязглуздзіца, недарэчнасць.

Стар. 80. **Каўтун** — хвароба валасоў.

Стар. 97. **Земскі** (земскі начальнік) — у дарэволюцыйны час — службовая асоба, якая аб'ядноўвала ў сваіх руках адміністрацыйную і судовую ўладу над мясцовым сялянствам.

Стар. 104. **Буч** — прылада для лоўлі рыбы, нерат з пруцікаў лазы.

Стар. 104. **Парафіяне** — веруючыя, якія належалі да той ці іншай парафіі, царкоўнага прыходу.

Стар. 105. **Іардань** — рака Палесціны і Трансіарданіі, з якой звязаны розныя біблейска-рэлігійныя паданні.

Стар. 128. **Сядзелец** — прыказчык казённай крамы (манапалькі) па продажу гарэлкі.

Стар. 134. **Фарысей** — тут у значэнні крывадушнік, ханжа.

Стар. 134. **Максім Грэк** (нарадз. каля 1475 — памёр у 1556 г.) — пісьменнік і публіцыст, перакладчык грэчаскіх царкоўна-служэбных кніг на славянскую мову.

Стар. 138. **Сарна** — дзікая каза.

Стар. 140. **Вахлак** — неахайны, нявыхаваны, грубаваты чалавек.

Стар. 151. **Вербніца** — назва царкоўна-хрысціянскага свята; апошняя нядзеля перад вялікаднем.

Стар. 151. **Благавешчанне** — назва царкоўна-хрысціянскага свята, якое адзначалася 25 сакавіка.

Стар. 152. **Цвінтар** (цвінтарык) — абгароджанае месца вакол цэрквы; царкоўны двор.

Стар. 152. **Сёмуха** — царкоўна-хрысціянскае свята, якое прыпадае на сёмую нядзелю пасля вялікадня.

Стар. 152. **Пятра** — царкоўна-хрысціянскае свята, якое прыпадае на 29 чэрвеня.

Стар. 152. **Трэбнік** — богаслужэбная кніга.

Стар. 153. **Паства** — веруючыя, якія належалі да таго ці іншага царкоўнага прыходу.

Стар. 155. **Аблюманы** — запэцканы, заплюханы.

Стар. 155. **Абрынданы** — запэцканы, заплюханы.

Стар. 155. **Амбон** — узвышэнне ў цэркве перад так званымі царскімі варотамі.

Стар. 155. **Прасфара** — невялічкая круглая булачка, кавалачак якой даецца ў час прычашчэння.

Стар. 157. **Навой** — драўляны вал у кроснах, на які навіваецца аснова (пража).

Стар. 157. **Губіца** — мера нітак асновы палатна пэўнай даўжыні.

Стар. 159. **Дыямент** — каштоўны самацвет, бясколерны і празрысты, які адзначаецца вялікай цвёрдасцю.

Стар. 167. **Каберац** — тут дыван, кілім.

Стар. 168. **Нігілізм** — голае адмаўленне ўсяго, лагічна не апраўданы скептыцызм.

Стар. 168. **Дрэпер Джон Уільям** (1811—1882) — амерыканскі буржуазны даследчык прыроды і гісторык культуры.

Стар. 168. **Бокль Генры Томас** (1821—1862) — англійскі ліберальна-буржуазны гісторык і соцыёлаг-пазітывіст, аўтар кнігі «Гісторыя цывілізацыі ў Англіі».

Стар. 172. **Грот Якаў Карлавіч** (1812—1893) — вядомы рускі гісторык літаратуры і філолаг.

Стар. 178. **Літанне** — маленне.

Стар. 202. **Рыцына** — касторавае масла.

Стар. 207. **Бальзам** — поўвадкая пахучая смала з прымессю эфірных масел; тут у значэнні — цалебны сродак.

Стар. 207. **Амброзія** — у грэчаскай міфалогіі — страва багоў; пахучасць, духмянасць, водар.

Стар. 211. **Рондаль** — каструля.

Стар. 224. **Ієгова** — імя галоўнага бога яўрэйскай рэлігіі.

Стар. 228. **Шворан** — жалезны шпень, які ўстаўляецца ў вось перадка калёс.

Стар. 228. **Мілітарызм** — рэакцыйная палітыка ўзбраенняў і падрыхтоўкі да вайны, якая праводзіцца імперыялістычнымі дзяржавамі з мэтаю заваявання новых зямель, калоній, новых рынкаў, заняволення народаў; палітычнае панаванне ваеншчыны і падпарадкаванне ўсёй гаспадаркі краіны мэтам захопніцкай вайны; тут ужыта ў іранічным сэнсе.

Стар. 229. **«Тэфталь»** — назва карцёжнай гульні.

Стар. 240. **Прыс** — шост, жэрдка.

Стар. 243. **Стаўбур** — стоўб, слуп.

Стар. 246. **Адрына** (адрынка) — будынак для складвання сена і саломы.

Стар. 247. **Філарэт** — мітрапаліт маскоўскі (1782—1867), царкоўны адміністратар і вучоны багаслоў, прадстаўнік найбольш рэакцыйных колаў духавенства. Быў шырока вядомы як аўтар схаластычнага «катэхізіса праваслаўнай веры», які абавязкова вывучаўся ў школах.

Стар. 247. **Дарвін Чарлз** (1809—1882) — выдатны англійскі даследчык прыроды. Вучэнне Дарвіна аб развіцці жывой прыроды, аб паходжанні відаў раслін і жывёл выкладзена ім у яго працы «Паходжанне відаў шляхам натуральнага адбору» (1859 г.).

Стар. 248. **Саракоўка** — сорак грошай, 20 капеек.

Стар. 250. **Рэпарацыя** — аднаўленне.

Стар. 253. **Оберлін Іаган Фрыдрых** (1740—1826) — французскі пастар, філантроп, жыў у вёсцы, працаваў разам з сялянамі, асушаў балоты, заснаваў сельскагаспадарчае таварыства, таварыства ўзаемадапамогі і першы дзіцячы прытулак; арганізаваў бібліятэку, школы.

Стар. 255. **Прыстаў** — начальнік паліцыі невялікай адміністрацыйнай адзінкі ў царскай Расіі.

Стар. 257. **Валаам** — тут маецца на ўвазе Валаамскі манастыр на востраве Валаам, які знаходзіцца ў поўночна-заходняй частцы Ладажскага возера.

Стар. 257. **Вельзевул** — біблейскае імя «князя злых духаў», цьмы.

Стар. 258. **«Задаць феферу»** — задаць дыхту.

Стар. 260. **Трыумвірат** — тут — тры асобы, якія аб'ядналіся для сумеснай дзейнасці.

Стар. 263. **Галуны** — нашыўкі на форменнай вопратцы швейцара.

Стар. 265. **Клуня** — пуня пры гумне для сена.

Стар. 267. **«Іжа херувімы»** — назва малітвы.

Стар. 267. **Зборня** — вялікі пакой пры валасным упраўленні, канцылярыі воласці.

Стар. 268. **Корх** — старая мера на шырыню далоні.

Стар. 268. **Грыўня** — грашовая манета коштам 10 капеек.

Стар. 269. **Патрактаваць** — пачаставаць.

Стар. 271. **Расянка** — назва расліны.

Стар. 271. **Дуб** — у даным выпадку — баржа.

Стар. 272. **Кантракт** — пісьмовы дагавор з узаемнымі абавязкамі бакоў.

Стар. 273. **Паліцмейстар** — начальнік паліцыі ў буйных гарадах царскай Расіі.

Стар. 274. **Фрыштык** (ням.) — снеданне.

Стар. 277. **Тапчан** (тапчанік) — шырокая лава.

Стар. 280. **Архірэй** — назва вышэйшых чыноў духавенства.

Стар. 280. **Ерусалім** — галоўны горад Палесціны.

Стар. 281. **Апартамент** — вялікі, раскошны пакой, раскошная кватэра.

Стар. 285. **Пацвельвацца** — насміхацца, кпіць.

Стар. 286. **«Выслужыць пачэсны каптан»** — за доўгую і беззаганную службу старшыням воласці ў часы царызма давалі ў якасці ўзнагароды каптан.

Стар. 287. **Дзесяцкі** — выбарная асоба ад сялян, якая выконвала паліцэйскія абавязкі.

Стар. 289. **Скірмунт Р. А.** — буйны памешчык, рэакцыянер, член Дзяржаўнага совета, дэпутат першай дзяржаўнай думы ад Мінскай губерні.

Стар. 289. **Сенат** — вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова ў царскай Расіі.

Стар. 291. **Асадка** — ручка для пяра.

Стар. 294. **Алтар** — галоўная частка цэрквы; тут у пераносным сэнсе — цэрква, рэлігія.

Стар. 299. **Канон** — правіла; тут — царкоўнае правіла, устанаўленне.

Стар. 301. **Спраўнік** — начальнік павятовай паліцыі ў царскай Расіі.

Стар. 301. **Субсідыя** — грашовая, фінансавая дапамога.

Стар. 306. **Нігіліст** — слова, шырока ўведзенае ў літаратуру І. С. Тургеневым. Нігіліст — прадстаўнік разначыннай інтэлігенцыі 60-х гадоў XIX ст., які рэзка адмаўляў усе прынцыпы і традыцыі дваранскай культуры. Нігілістамі ворагі рэвалюцыйнай дэмакратыі ў той час часта называлі наогул усіх рэвалюцыйна настроеных людзей.

Стар. 309. **Аўраам, Ісаак** — біблейскія імёны.

Стар. 316. **Губернатар** — начальнік губерні ў царскай Расіі.

Стар. 316. **Тоні** — месца, дзе закідваюцца невады, сеткі для лоўлі рыбы.

Стар. 328. **«Апостал»** — назва царкоўнай кнігі.

Стар. 329. **Кліраc** — месца ў цэркве для пеўчых.

Стар. 329. **Арган** — музыкальны касцельны інструмент, механізм якога складаецца з сістэмы духавых труб, паветраных насосаў, клавіятур — рэгістравых ручак.

Стар. 329. **Фістула** — тое самае, што фальцэт. У спевах — гук асабліва высокага (так званага галаўнога) рэгістра мужчынскіх галасоў.

Стар. 330. **Рэгент** — тут — дырыжор царкоўнага хора.

Стар. 331. **Рытуал** — тут — сукупнасць абрадаў, якімі суправаджаецца царкоўная служба.

Стар. 332. **Карамблюм** — прозвішча гаспадара гасцініцы.

Стар. 335. **Гарадавы** — у часы царызма — ніжэйшы чын паліцэйскай аховы ў горадзе; паставы паліцэйскі.

Стар. 336. **Афарызм** — выслоўе, якое выражае якую-небудзь абагуленую думку.

Стар. 338. **Барыш** — частаванне пры заключэнні здзелкі, пагаднення.

Стар. 341. **Андрэеўскі сцяг** — сцяг баявых караблёў рускага ваенна-марскога флота, устаноўлены ў 1699 годзе Петром І пасля заснавання ордэна Андрэя Первазванага.

Стар. 341. **Чамульпо** — партовы горад на заходнім узбярэжжы Карэйскага паўвострава.

Стар. 341. **Алексееў Е. І.** — рускі адмірал, генерал-ад'ютант, у 1903—1905 гг. царскі намеснік на Далёкім Усходзе. З пачатку руска-японскай вайны быў прызначаны галоўнакамандуючым усімі сухапутнымі і марскімі сіламі Расіі на Далёкім Усходзе.

Стар. 341. **Безабразаў А. М.** — статс-сакратар Нікалая II, узначальваў групу авантурыстаў — прыхільнікаў агрэсіўнай палітыкі на Далёкім Усходзе, фактычна вызначаў знешнюю палітыку на Далёкім Усходзе.

Стар. 341. **Стары** — клічка царскага генерала, удзельніка руска-японскай вайны; сапраўднае яго прозвішча Старк.

Стар. 341. **Вірэн** — адмірал рускага ваенна-марскога флота, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Стэсель** — царскі генерал, камендант Порт-Артурскай крэпасці ў час руска-японскай вайны; у выніку здрадніцтва Стэселя крэпасць была здадзена японцам.

Стар. 341. **Фок** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Засуліч М. І.** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Зарубаеў Н. П.** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны; камандзір чацвертага Сібірскага корпуса.

Стар. 341. **Самсонаў А. В.** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Рэненкампф П. К.** — адзін з найбольш рэакцыйных і бяздарных генералаў царскай арміі, кат рэволюцыі 1905 года.

Стар. 341. **Грыпенберг Оскар-Фердынандт Казіміравіч** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Каульбарс** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Бірдэрлінг** — царскі генерал, удзельнік руска-японскай вайны.

Стар. 341. **Мішчанка П. І.** — царскі генерал, у час руска-японскай вайны камандаваў асобнай забайкальскай казацкай брыгадай.

Стар. 341. **Курапаткін А. Н.** — бяздарны рускі генерал, у час руска-японскай вайны галоўнакамандуючы рускімі арміямі ў Манчжурыі; пасля паражэння пад Мукдэнам быў зволен з гэтай пасады.

Стар. 341. **Ліневіч Н. П.** — генерал царскай арміі. У час руска-японскай вайны камандаваў першай манчжурскай арміяй; пасля звальнення Курапаткіна з пасады галоўнакамандуючага рускімі арміямі ў Манчжурыі быў прызначан на яго месца.

Стар. 342. **Ялу** — рэчка ў Карэі.

Стар. 342. **Цюрынчэн** — горад у Манчжурыі.

Стар. 342. **Ляаян** — горад у Манчжурыі.

Стар. 342. **Серафім Сараўскі** — манах, якога лічылі святым.

Стар. 342. **Раждзественскі З. П.** — адмірал царскага флота. У час руска-японскай вайны 1904 — 1905 гг. камандаваў 2-й Ціхаакіянскай эскадрай, якая была паслана царскім урадам з Балтыйскага мора

на Далёкі Усход для дапамогі асаджанаму японцамі Порт-Артуру. Бяздарнае кіраўніцтва Раждзественскага з'явілася адной з прычын гібелі рускай эскадры ў баі з японскім флотам ля Цусімы.

Стар. 342. **Кайзер** — цар, назва нямецкіх імператараў.

Стар. 353. **Драколле** — дубіны, палкі, калы, якія ўжываліся ў якасці зброі.

Стар. 355. **Езуіт** — манах, член ваяўнічага каталіцкага духоўнага ордэна, мэтай якога з'яўляецца прапаганда клерыкалізма.

Стар. 355. **Партал** — галоўны ўваход вялікага архітэктурнага збудавання.

Стар. 356. **Крамольнік** — рэвалюцыянер, мяцежнік.

Стар. 357. **Гісэрня** — ліцейня.

Стар. 357. **Весніцы** (веснічкі) — простыя вясковыя вароты.

Стар. 360. **Дэманізм** — вера ў злых духоў (дэманаў); тут ужыта ў пераносным сэнсе.

Стар. 363. **«Новое время»** — газета, выходзіла ў Пецербургу з 1868 г. па кастрычнік 1917 года. У пачатку памяркоўна-ліберальная, з 1876 года яна ператварылася ў орган рэакцыйных дваранскіх і чыноўна-бюракратычных кругоў. Газета вяла барацьбу не толькі супроць рэвалюцыйнага, але і супроць ліберальна-буржуазнага руху. З 1905 года — адзін з органаў чорнасоценцаў. Ленін называў «Новое время» ўзорам прадажных газет.

Стар. 363. **Розанаў** — філосаф, публіцыст і крытык (містык).

Стар. 363. **Лютастанскі** — адзін з чорнасоценцаў, арганізатар яўрэйскіх пагромаў.

Стар. 363. **Мельнікаў-Пячэрскі П. І.** (1819—1883) — вядомы рускі пісьменнік.

Стар. 364. **Прыгатавішкі** — вучні падрыхтоўчых класаў.

Стар. 365. **Рэтраград** — праціўнік прагрэса, чалавек з адсталымі поглядамі, цемрашал, рэакцыянер.

Стар. 365. **Шабасгой** — платны прыслужнік яўрэйскага культа; работнік, які працаваў па суботах у багацейшых яўрэйскіх сем'ях.

Стар. 366. **Шмокі** — блазнюкі.

Стар. 366. **Мамона** — бог багацця, грошай у старажытных сірыйцаў; тут у пераносным значэнні — багацце, прагнасць, карысталюбства.

Стар. 370. **Вагар** — хваля, вал.

Стар. 375. **Аканом** — упраўляючы маёнтка.

Стар. 375. **Маршалак** — прадвадзіцель дваранства.

Стар. 378. **«...вешаць нос на квінту...»** — падаць духам.

Стар. 379. **Жандар** — паліцэйскі чын, які знаходзіўся на службе ў жандармерыі, паліцэйскім войску.

Стар. 380. **Гіпапатам** — жывёла з пароды бегемотаў.

Стар. 396. **Манаполька** — казённая крама, якая мела манапольнае права на гандаль гарэлкаю.

Стар. 398. **Дубровін А. І.** — правадыр чорнасоценцаў, натхніцель і арганізатар пагромаў, заснавальнік і кіраўнік «Союза русского народа», рэдактар органа саюза «Русское знамя».

Стар. 398. **Булацаль П. Ф.** — адзін з лідэраў чорнасоценцаў, буйны памешчык і адвакат, адзін з кіраўнікоў «Союза русского народа» і рэдактар яго органа «Русское знамя».

Стар. 398. **Грынгмут В. А.** — рэакцыйны публіцыст, ідэолаг чорнасоценна-пагромнага руху ў 1905 годзе, адзін з арганізатараў «Русской монархической партии».

Стар. 398. **Гамзей Гамзеіч** — чорнасоценец.

Стар. 398. **Пурышкевіч В. М.** — буйны памешчык, рэакцыянер-чорнасоценец, арганізатар пагромнага «Союза русского народа» і «Союза Михаила Архангела».

Стар. 405. **Ахмістрыня** — эканомка, ключніца.

Стар. 409. **Ветхі завет** — старажытная, дахрысціянская частка бібліі.

Стар. 413. **Булыгінская дума** — дарадчая «прадстаўнічая ўстанова», якую царскі ўрад меў намер склікаць у 1905 годзе. Праект закона аб устанаўленні дарадчай дзяржаўнай думы і палажэнне аб выбарах у думу былі распрацаваны камісіяй пад старшынствам міністра ўнутраных спраў Булыгіна і апублікаваны разам з царскім маніфестам 6 (19) жніўня 1905 года. Бальшэвікі аб'явілі актыўны байкот булыгінскай думы. Ураду не ўдалося склікаць думу, яна была змецена сілай рэвалюцыі.

Стар. 413. **Вітэ Ю. С.** (1849—1915) — міністр шляхоў зносін, фінансаў, а затым прэм'ер-міністр царскай Расіі. Праводзіў палітыку буйнай фінансавай буржуазіі. У час рэвалюцыі 1905 года, дамогшыся кампрамісу паміж манархіяй і ліберальнай буржуазіяй, склаў праект канстытуцыі, спрабаваў прыкінуцца абаронцам інтарэсаў працоўных і ў той-жа час праводзіў самую рэакцыйную палітыку. У 1905 годзе быў прадстаўніком ад царскага ўрада па заключэнню мірнага дагавору з Японіяй (так званы Портсмуцкі мір).

Стар. 413. **Валаам** — месапатамскі вяшчун, прадракальнік, імя якога сустракаецца ў біблейскай гісторыі.

Стар. 413. **Акалодачны** — паліцэйскі чын, які наглядаў за акалодкам — падраздзяленнем паліцэйскага гарадскога ўчастка.

Стар. 414. **Эсэры** — дробнабуржуазная партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, узнікла ў Расіі ў 1901 годзе ў выніку аб'еднання розных народніцкіх груп, затымператварылася ў банду забойцаў, шпіёнаў і дыверсантаў, якія вялі барацьбу з савецкай уладай па заданню іншаземных разведак. Эсэраўскае ахвосце ў сваёй барацьбе супроць савецкага народа дзейнічала разам з трацкісцка-бухарынскімі здраднікамі, шпіёнамі і забойцамі.

Стар. 415. **Акцябрысты** — «Саюз 17 акцябра», або «акцябрысты» — контррэвалюцыйная партыя буйнай гандлёва-прамысловай буржуазіі і буйных памешчыкаў, утварылася ў лістападзе 1905 года. Акцябрысты поўнасцю падтрымлівалі сталыпінскі рэжым, унутраную і знешнюю палітыку царызма.

Стар. 418. **Парча** — тканіна з шаўковаю асновай, затканая залатымі або срэбранымі ніткамі.

Стар. 420. **Аналой** (аналойчык) — высокі столік з пакатым верхам, на які ў царкве кладуць іконы або кнігі.

Стар. 421. **Ра́са** — верхняя адзежа з шырокімі рукавамі ў праваслаўнага духавенства.

Стар. 422. **«Русское слово»** — штодзённая буржуазная газета, якая выдавалася ў Маскве з 1897 па 1917 год.

Стар. 424. **Бусак** — шост з насаджаным на яго металічным астрыём з крукам.

Стар. 435. **Ерыхонская труба** — у сэнсе надзвычай моцнага голасу.

Стар. 437. **Выхрыстка** — жанчына яўрэйскай нацыянальнасці, якая перайшла ў хрысціянскую веру.

Стар. 453. **Міраж** — аптычная з'ява ў яснай спакойнай атмасферы пры рознай нагрэтасці асобных яе слаёў, якая заключаецца ў тым, што нябачныя рэчы, якія знаходзяцца за гарызонтам, адбіваюцца ў паветры; у пераносным сэнсе — падманны прывід.

Стар. 462. **Неруш** — нярушанае грыбное месца.

Стар. 463. **Сатрап** — жорсткі начальнік-самадур, дэспат.

Стар. 463. **Кадэты** — канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (кадэты) — галоўная буржуазная партыя ў Расіі, партыя ліберальна-манархічнай буржуазіі; афармілася ў кастрычніку 1905 года. Кадэты імкнуліся захаваць царызм у форме канстытуцыйнай манархіі. У далейшым гэтая партыя ператварылася ў партыю імперыялістычнай буржуазіі. Пасля перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі кадэты арганізоўвалі контррэвалюцыйныя змовы і паўстанні супроць Савецкай рэспублікі.

Стар. 475. **Настырна** — настойліва, напорна.

Стар. 477. **Драгун** — салдат асобага кавалерыйскага (драгунскага) палка ў царскай Расіі.

Стар. 484. **Бахус** — у міфалогіі — бог віна і весялосці.

Стар. 485. **Інтэнданцтва** — установа ваеннага ведамства, якая займаецца забеспячэннем войск.

Стар. 486. **Цітулярны саветнік** — у дарэвалюцыйнай Расіі ў табелі аб рангах — грамадзянскі чын дзевятага класа.

Стар. 488. **Капрал** — у рускай арміі з часоў Петра І першы пасля радавога чын, заменены пазней званнем аддзялёнага унтэрафіцэра.

Стар. 492. **Саваоф** — адна з назваў бога.

Стар. 497. **Аракул** — тут у пераносным значэнні — вяшчун, прадракальнік будучага.

Стар. 498. **Квэстыя** — акалічнасць, справа.

Стар. 507. **Стацкі саветнік** — у дарэвалюцыйнай Расіі ў табелі аб рангах — грамадзянскі чын пятага класа.

Стар. 515. **Мікадо** — тытул японскага імператара.

Стар. 519. **Альтанка** — крытая лёгкая пабудова ў садзе для адпачынку.

Стар. 519. **Бес гадарынскі** (евангельскі выраз) — нячысты дух.

Стар. 527. **Ставок** — сажалка, запруда.

*Заўвагі склалі: кандыдаты філалагічных навук:*
*В. В. ІВАШЫН, А. А. СЕМЯНОВІЧ.*

## ЗМЕСТ

Рэдактар *М. Лынькоў*
Мастак *Л. Прагін*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *Р. Каплан*

*

АТ 75116. Падп. да друку 1/IV 1952 г. Тыр. 10000 экз
Пап. 84×108/32. Пап. арк. 8,57. Друк. арк.
28,09 + 0,51 уклейкі.
Цана 10 руб. Зак. 449

*

Друкарня імя Сталіна,
Мінск, Пушкіна, 55.

